УДК 811.161.3'0
ББК 81.411.3-02
З-30

*Друкуецца па рашэнні
Рэдакцыйна-выдавецкага савета
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*

Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук *А. М. Булыка*;
кандыдат філалагічных навук *Г. А. Арцямёнак*

**Запрудскі, С. М.**
З-30 Беларускае мовазнаўства і развіццё беларускай літаратурнай мовы: 1920–1930-я гады / С. М. Запрудскі. – Мінск : БДУ, 2013. – 367 с.
ISBN 978-985-518-937-5.

Даследуецца развіццё беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гг. у яго сувязях з развіццём прэскрыптыўнага адгалінавання беларускай лінгвістыкі. З выкарыстаннем матэрыялаў перыядычнага друку і архіваў аналізуюцца акалічнасці фарміравання беларускага мовазнаўства, асэнсоўваюцца літаратурная мова як «рукатворная» з'ява і асаблівасці вывучэння яе гісторыі. Аглядаецца літаратура па гісторыі беларускай лінгвістыкі і літаратурнай мовы міжваеннага перыяду. Даследуецца моўнае ўжыванне 1920–1930-х гг. з асаблівай увагай да зменаў у моўным развіцці. Асэнсоўваецца рэформа беларускай мовы 1933 г. як паваротны пункт у беларускім мовазнаўстве і беларускай літаратурнай мове. Вывучаецца гісторыя шэрагу слоў з мэтай выяўлення зрухаў у рамках сінанімічных радоў і ўзнікнення новых, сучасных стылістычных іерархій.

**УДК 811.161.3'0
ББК 81.411.3-02**


**ISBN 978-985-518-937-5**

# УВОДЗІНЫ

Пры тым, што ў XIX – пачатку XX ст. вядома вялікая колькасць выдатных навуковых прац па беларускай мове, інстытуцыялізаванае даследаванне нацыянальнай мовы беларускага народа пачалося толькі на пераломе 1910–1920-х гг. У 1918 г. у Вільні было заснавана Беларускае навуковае таварыства, якое зрабіла першыя крокі ў асэнсаванні некаторых беларусістычных пытанняў. У 1919–1920 гг. на працягу кароткага часу ў Мінску дзейнічалі тэрміналагічная камісія мінскіх настаўнікаў, а таксама тэрміналагічная камісія, створаная ў Мінскім беларускім педагагічным інстытуце. У 1921 г. у Мінску была заснавана Навукова-тэрміналагічная камісія, якую ў 1922 г. рэарганізавалі ў Інстытут беларускай культуры[1]. Выдатным дасягненнем беларускай лінгвістыкі было фармальна здзейсненае як прыватная ініцыятыва выданне ў 1918 г. у Вільні «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча. Усе гэтыя падзеі былі звязаны з тагачаснымі грамадска-палітычнымі зменамі ў жыцці беларускага народа: увядзеннем выкладання на беларускай мове ў сістэму школьнай адукацыі, пашырэннем функцый беларускай мовы ўвогуле і звязаным з ім узрослым грамадскім запытам на яе, станаўленнем беларускай дзяржаўнасці.

На адрозненне ад лінгвістыкі папярэдняга часу беларускае мовазнаўства другой паловы 1910-х – першай паловы 1920-х гг. было выразна арыентаваным на практыку, хоць такой арыентацыяй не абмяжоўвалася. «Уласна навуковы», не звязаны з практыкай ракурс беларускага мовазнаўства найбольш добра назіраўся пасля правядзення ў Мінску ў 1926 г. Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі [126, с. 52], падтрыманы стварэннем публікатарскіх магчымасцей у выглядзе заснаванага ў 1928 г. перыядычнага выдання «Запіскі аддзела гуманітарных навук», якое мела спецыяльную філалагічную серыю. Гісторыя распарадзілася так, што навуковы аспект беларускага мовазнаўства ў 1930-я гг. належным чынам не разгарнуўся. Што ж да практычнага кампанента беларускай лінгвістыкі, то ў 1930-я гг. ён быў не толькі арыентаваны на патрэбы адукацыйнай, навуковай, справаводчай, журналісцкай, кнігавыдавецкай і іншай дзейнасці ў плане магчымасці іх правядзення на беларускай мове (такія магчымасці былі пацверджаны ўжо ў 1920-я гг.), але і падпарадкоўваўся задачам пераарыентацыі ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, яе насычэння важным для тагачаснай улады ідэалагічным зместам.

Важныя працэсы працякалі ў 1920–1930-я гг. і ў беларускай літаратурнай мове. Прагрэс у яе знешняй дынаміцы (набыццё функцыі сродку агульнанацыянальнай камунікацыі, увядзенне ў сістэму адукацыі ў якасці мовы выкладан-

[1] І. Шаўчук сцвярджае, што Навукова-тэрміналагічная камісія не была непасрэднай базай для стварэння Інстытута беларускай культуры [396, с. 736].

ня, імклівы рост беларускай мастацкай літаратуры, радыкальнае павелічэнне колькасці разнастайных выданняў, выкарыстанне ў справаводстве і навуцы, павелічэнне колькасці носьбітаў літаратурнай формы і інш.) абумовіў і яе бурнае ўнутранае развіццё: укараненне ў літаратурным ужытку шматлікіх народных слоў, тэрмінаў і выразаў для абазначэння рэалій гарадскога жыцця і разнастайных паняццяў інтэлектуальнага дыскурсу, замацаванне сінтаксічных формаў, якія раней не выкарыстоўваліся або выкарыстоўваліся рэдка. З мовы, прызначанай пераважна для ўжывання сялянскай супольнасцю, практычна з ідыёма са статусам сацыяльнага дыялекту[2] к пачатку 1930-х гг. беларуская мова фактычна пераўтварылася ў паўнацэнную стандартную мову, здольную задавальняць галоўныя камунікатыўныя патрэбы грамадства[3].

Падобна да перыядызацыі гісторыі беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг. гісторыя беларускай літаратурнай мовы гэтага часу выразна падзяляецца на дзве асобныя часткі, раздзяляльную вяху паміж якімі складае пастанова СНК БССР 1933 г. «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» [389, с. 18–19]. З пункту гледжання развіцця беларускай мовы 1930-я гг. у многім наследавалі практыцы 1920-х гг., тым не менш такі падзел, безумоўна, абгрунтаваны: у гісторыі беларускай літаратурнай мовы 1930-я гг. адносна папярэдніх 1920-х гг. выглядаюць у пэўнай меры як «рэвізіяніцкія», накіраваныя на адыход, своеасаблівую «адмену» ранейшых падыходаў і тэндэнцый. Такі ж падзел праводзіцца і ў гісторыі ўкраінскай літаратурнай мовы [203; 143; 309], што сведчыць пра пэўнае падабенства ў развіцці гэтых моў на канкрэтным этапе і пра вялікае значэнне пры перыядызацыі мовы знешніх у дачыненні да мовы фактараў (як і ў Беларусі, ва Украіне ў 1933 г. таксама была праведзена моўная рэформа)[4].

Прыблізна моўныя сродкі 1930-х гг. могуць быць суаднесены з сучаснымі моўнымі рэсурсамі – і, значыць, могуць лічыцца ў пэўнай ступені асэнсаванымі сучаснай, арыентаванай пераважна на сінхронныя даследаванні, беларускай лінгвістыкай. Інтэрпрэтацыя моўнага матэрыялу 1920-х гг. у ранейшай літаратуры часам была нездавальняючай; як паказвае практыка, кваліфікацыя пісьмовага маўлення 1920-х гг. з пэўнымі цяжкасцямі сутыкаецца і цяпер. Па

[2] К. Гутшміт і Г. А. Арцямёнак пішуць, што стваральнікі новай беларускай літаратуры ў XIX ст. лічылі беларускую мову своеасаблівым сацыяльным дыялектам, «сялянскай мовай» [463, с. 507; 14, с. 17]. Вядома, да пачатку 1920-х гг. беларуская мова паспяхова авалодала некаторымі сферамі, якія не з'яўляліся выключна сялянскімі, тым не менш галоўным яе носьбітам і ў пачатку 1920-х гг. было сялянства. У пастанове лютаўскай сесіі ЦВК ССРБ 1921 г. беларуская мова кваліфікавалася як «мова пераважнай большасці працоўнага сялянства» [22, с. 32]. Паводле В. Кнорына, у 1928 г. усё яшчэ захоўвалася становішча, калі вёска гаварыла на адной мове, а горад – на другой [639, с. 236].

[3] Згодна з традыцыяй у кнізе прыняты тэрмін «літаратурная мова». Аднак у некаторых выпадках, асабліва ў сувязі з разглядам некаторых замежных прац, як эквівалентны выкарыстоўваецца таксама тэрмін «стандартная мова».

[4] На беларуска-ўкраінскае падабенства, якое ўключала не толькі працэсы ўнутранага моўнага развіцця, але і ўвогуле акалічнасці «моўнага будаўніцтва» 1920–1930-х гг., звяртаюць увагу многія аўтары, напрыклад, К. Вулхайзер [515, с. 299–300].

гэтых прычынах, звяртаючыся да моўных матэрыялаў 1920 і 1930-х гг., аўтар імкнуўся аддаваць перавагу найперш зыходным з пункту гледжання ўсяго разгляданага ў працы перыяду матэрыялам 1920-х гг.

Вывучэнне лінгвістычнай і моўнай практыкі 1920–1930-х гг. на іх «нізавым» узроўні, канкрэтныя праявы якіх не абавязкова захаваліся на наступных этапах развіцця беларускай «акадэмічнай» лінгвістыкі і беларускай нарматыўнай мовы як агульнапрынятыя падыходы ці феномены, мае сэнс таму, што многія дыскусіі пазнейшых 1940–1960-х гг. аб тых або іншых з’явах беларускай літаратурнай мовы так ці іначай маглі мець у сваёй аснове моўную практыку або дыскурс аб мове 1920–1930-х гг. Такімі былі, напрыклад, меркаванні У. Юрэвіча, М. Бадзюкова і П. Сцяцко аб націску ў словах *пасяджэнне, пагоршанне, працэнт*; непрыманне У. Юрэвічам «даўно ўжо адкінутай народам “іншакраіншчыны” ў вымаўленні запазычаных слоў» тыпу *мэтад, габінэт, Амэрыка, колега, прафэсар, трагэдыя, газэта, партвэйн*; крытыка М. Лобанам дзеяслоўных і назоўнікавых формаў тыпу *крычэць, блішчэць; дварох, палёх*; заўвагі шматлікіх аўтараў наконт неадпаведнага ўжывання дзеяслова *вытвараць*; меркаванні Л. Падгайскага аб неабходнасці стварэння спецыяльнай літары для абазначэння афрыкаты [дж] (са спасылкай на «Працы акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» і артыкул У. Дубоўкі ў часопісе «Узвышша») і інш.[5]

Даследаванне беларускай лінгвістыкі і беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гг. можа лічыцца асабліва плённым у сучаснай сітуацыі, калі не дзейнічаюць шматлікія ідэалагічныя забароны ранейшых часоў, калі істотна змяніліся ў лепшы бок даследчыцкія магчымасці. Многія з раней недаступных або маладаступных матэрыялаў цяпер сталі ўжывальнымі[6]. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў надрукаваны зборы мовазнаўчых прац Я. Лёсіка, С. Некрашэвіча і Я. Станкевіча (апошняга – тройчы), абаронены шэраг дысертацый, апублікавана вялікая колькасць артыкулаў розных аўтараў, у тым ліку заснаваных на ўведзеных ва ўжытак новых архіўных матэрыялах [93; 316; 198; 48; 384; 253; 303; 304; 308; 380; 376, с. 299–321]. На працягу апошняга часу надрукаваны новыя зборы твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, у якія ўпершыню ўключаны некаторыя працы класікаў, важныя для гісторыі беларускага мовазнаўства. Спецыфічную сітуацыю ў вывучэнні абмяркоўванага ў кнізе кола гістарычных праблем на дадзеным этапе стварае тая акалічнасць, што ў апошні час у беларускай лінгвістыцы адбываецца змена пакаленняў, у выніку чаго да даследавання далучаюцца маладыя навукоўцы, часта выхаваныя найперш на традыцыях сінхраністычнай школы.

[5] Усе прыклады ўзяты з кандыдацкай дысертацыі Г. В. Чараповіч [379]. На паходжанне з 1920-х гг. многіх сучасных украінскіх праблем нармалізацыі і кадыфікацыі ўказвае Г. М. Яворська [422].

[6] Аб (не)даступнасці некаторых крыніц 1920-х гг. могуць сведчыць, напрыклад, тыя акалічнасці, што працы лінгвіста гэтага часу І. В. Ваўка-Левановіча былі дазволены для выкарыстання ў бібліятэках толькі ў 1959 г., слоўнікі М. Байкова і С. Некрашэвіча – у 1970 г., працы М. Шатэрніка – у 1973 г. Наяўныя ў бібліятэках дублетныя экзэмпляры кніг Я. Лёсіка падлягалі спаленню яшчэ ў 1971 г. [98, с. 41, 45, 50].

Мэта гэтай кнігі – прапанаваць у значнай ступені новы і больш дэталёвы погляд на фарміраванне прэскрыптыўнага адгалінавання беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг., у аснове існавання якога ляжалі важныя сацыяльныя зрухі таго часу, а таксама асэнсаваць станаўленне нарматыўнага мовазнаўства ў суадносінах і ў сувязях з фактамі развіцця тагачаснай беларускай літаратурнай мовы.

У першым раздзеле разглядаюцца акалічнасці фарміравання беларускага прэскрыптыўнага мовазнаўства ў 1920–1930-я гг., літаратурная мова як пэўная «рукатворная» з’ява і асаблівасці вывучэння яе гісторыі, у тым ліку феномен беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. як аб’ект гістарычнага даследавання.

Другі раздзел прысвечаны агляду літаратуры па гісторыі беларускага мовазнаўства і гісторыі беларускай літаратурнай мовы міжваеннага перыяду.

У трэцім раздзеле працягваецца асэнсаванне некаторых агульных і прыватных рыс беларускай лінгвістыкі 1920-х гг. Вызначаецца спецыфіка перакладных слоўнікаў з пункту гледжання іх укладу ў навуковую і прыкладную распрацоўку беларускай мовы. Падрабязна разглядаецца абмеркаванне правапіснай праблематыкі, устанаўліваюцца агульныя і прыватныя падыходы пры выпрацоўцы тэрміналогіі і канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы.

Аб’ектам даследавання ў чацвёртым раздзеле стала моўнае ўжыванне 1920-х гг., разглядаюцца асобныя правапісныя, марфалагічныя, словаўтваральныя, акцэнталагічныя з’явы. Таксама спецыяльная ўвага прысвечана некаторым лексічным разрадам: вандроўным запазычанням-калькам і паланізмам.

Пяты раздзел прысвечаны рэформе беларускай мовы 1933 г. як паваротнаму пункту ў гісторыі беларускага мовазнаўства і беларускай літаратурнай мовы савецкага перыяду. Асаблівая ўвага звяртаецца на сітуацыйныя, асяроддзевыя і іншыя фактары выпрацоўкі правапісных нормаў у 1933-м і ў папярэднія гады, а таксама на навуковыя і палітычныя аспекты пастановы СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу».

У шостым раздзеле на прыкладзе падрыхтоўкі руска-беларускага перакладнога слоўніка і ідэалагічнай кампаніі, скіраванай на сцвярджэнне «культуры мовы», разглядаецца лінгвістыка 1930-х гг.

Аб’ектам даследавання ў сёмым раздзеле сталі назіраныя пераважна на прыкладзе рэдактарскай практыкі змены ва ўжыванні 1930-х гг. у параўнанні з практыкай 1920-х гг. Раздзел завяршае гісторыя некаторых слоў з пункту гледжання зрухаў у рамках сінанімічных радоў, што прыводзіла да стылістычных перабудоў і ўзнікнення новых іерархій.

Пры асэнсаванні умоў развіцця беларускай лінгвістыкі вялікае значэнне мелі матэрыялы перыядычнага друку. Асабліва старанна былі вывучаны газеты 1930–1933 гг., у якіх зафіксаваны шматлікія (у тым ліку не ўлічаныя ў існуючых бібліяграфіях) водгукі на моўныя дыскусіі ці ацэнкі дзейнасці канкрэтных лінгвістаў і/або іх прадукцыі. З той жа мэтай была праведзена пошука-

вая архіўная работа. У працэсе збору матэрыялу аўтар апублікаваў два зборнікі лінгвістычных крыніц (адзін, двухчасткавы, – у суаўтарстве) аналізаванага ў манаграфіі перыяду [592; 683].

Паколькі ў існуючых працах па гісторыі беларускай літаратурнай мовы разгляданага перыяду прыярытэт нярэдка аддаецца мастацкаму стылю, а матэрыялы публіцыстычнай, навукова-папулярнай і навуковай літаратуры выкарыстоўваюцца менш сістэматычна або зусім не бяруцца пад увагу (у частцы даследаванняў крыніцамі матэрыялу выступаюць слоўнікі), сярод кола крыніц, выкарыстаных аўтарам, немастацкай літаратуры была аддадзена асаблівая ўвага.

# Раздзел 1
# САЦЫЯЛЬНАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ НА РАЗВІЦЦЁ МОВЫ ПРЫМЯНЯЛЬНА ДА ЯЕ ЛІТАРАТУРНАЙ ІПАСТАСІ

## 1.1. З ГІСТОРЫІ ВЫВУЧЭННЯ ПЫТАННЯ

Пытанне пра тое, ці ўплываюць на развіццё мовы сацыяльныя фактары, мае ў лінгвістыцы працяглую гісторыю. З аднаго боку, асэнсаванне гэтай праблемы звязана з агульным станаўленнем і развіццём мовазнаўства на працягу двух апошніх стагоддзяў. У XIX ст., калі рабіліся шматлікія лінгвістычныя адкрыцці і ўстанаўліваліся многія моўныя законы, лічылася, што прычыны моўнай эвалюцыі замыкаюцца адзіна ў рамках мовы; адпаведна знешні кампанент моўнага развіцця не вылучаўся. У XX ст. па меры ўцягнення ў сферу лінгвістыкі пытанняў узнікнення і фарміравання літаратурных моў з іх зацікаўленнем праблемамі кантакту паміж мовамі, праблемай запазычвання і, асабліва, з узнікненнем сацыялінгвістыкі сітуацыя змянілася. Сучасны аўтар заўважае, што думка аб сувязі развіцця мовы з развіццём грамадства «даўно стала ў лінгвістыцы агульным месцам, пэўнага роду аксіёмай» [182, с. 116], аднак для засваення гэтай аксіёмы сучаснай навуцы спатрэбілася пераадолець шматлікія перашкоды і патраціць многа часу. І раней, і сёння ў лінгвістыцы існавалі і існуюць важныя і ўплывовыя навуковыя напрамкі (напрыклад, структуралізм), у рамках якіх сувязь паміж мовай і грамадствам выключаецца, не мае ніякага значэння. Голас прадстаўнікоў гэтых напрамкаў мог уплываць і ўплывае на агульнае асэнсаванне праблемы суадносін мовы і грамадства.

Тым не менш магчымасць знешняга ўплыву на развіццё мовы і адпаведна магчымасць ці патрэба засваення такога аспекту ў якасці аб'екта лінгвістычных штудый паступова знаходзілі ўсё больш прыхільнікаў. Я. Бадуэн дэ Куртэнэ пастуляваў адрозненне паміж знешняй і ўнутранай гісторыяй мовы; у працах Ф. дэ Сасюра быў сцверджаны падыход, згодна з якім у функцыянаванні мовы адрозніваюцца ўнутраныя (інтралінгвістычныя) і знешнія (экстралінгвістычныя) фактары. Урэшце многімі аўтарамі паказана, што знешняя гісторыя мовы не можа быць паспяхова даследавана без уліку гісторыі народа, які карыстаецца гэтай мовай.

Існуе значная розніца ў тым, наколькі паспяхова ў другой палове XX ст. у СССР і ў Беларусі як яго частцы вывучаліся ўнутраныя і знешнія фактары

развіцця мовы. Першаступенная ўвага ў тагачаснай лінгвістыцы была скіравана на асэнсаванне ўнутраных фактараў, цесна звязаных з разуменнем мовы як сістэмы. Уласна адстойванне наяўнасці ўнутраных моўных законаў, у рамках якіх развіваецца мова, імкненне спасцігнуць моўную сістэму было адной з найважнейшых передумоў агульнага аздараўлення лінгвістычнага жыцця, якое адбылося ў Савецкім Саюзе пасля вядомай дыскусіі 1950 г. і публікацыі брашуры «Марксізм і пытанні мовазнаўства» І. Сталіна, у якой было зазначана, што кожная мова развіваецца не адвольным парадкам, а паводле ўнутраных законаў свайго развіцця. Згодна з пасланнем дзяржаўнага лідара савецкія лінгвісты павінны былі вывучаць менавіта ўнутраныя законы развіцця мовы. Звярнуўшыся да беларускіх рэалій, мы выявім, што першай агульнатэарэтычнай задачай беларускіх лінгвістаў, якія працавалі тады ў адноўленым у 1952 г. Інстытуце мовазнаўства, было акурат «вывучэнне ўнутраных законаў развіцця беларускай мовы» [354, с. 15].

Першай брашурай у серыі выданняў па «асноўных пытаннях мовазнаўства», што стала друкавацца ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце з 1954 г., стала праца У. А. Звягінцава «Унутраныя законы развіцця мовы» [134][7]. Перабольшаная ўвага савецкіх лінгвістаў да ўнутраных фактараў развіцця мовы ў 1950-я гг. часткова была, несумненна, рэакцыяй на дэфармацыі гэтай праблематыкі ў папярэдні працяглы мараўскі перыяд, калі параўнальна-гістарычнае мовазнаўства адмаўлялася, а развіццё розных моў, згодна з трактоўкай М. Мара, адбывалася пад уплывам «скрыжавання» на розных глотагенетычных стадыях. Хоць М. Мар памёр у 1934 г., марызм пасля яго смерці заставаўся ў поўнай сіле, яго вучань І. Мешчанінаў з 1934 па 1950 г. узначальваў Інстытут мовы і мыслення АН СССР, а ў 1939–1950 гг., увогуле, кіраваў усёй савецкай філалагічнай навукай.

Інтэнсіўнаму вывучэнню ў другой палове мінулага стагоддзя ўнутраных законаў развіцця розных моў спрыялі таксама ўзрастанне міжнароднага аўтарытэту Пражскай школы, прадстаўнікі якой лічылі мову «сістэмай сістэм» [433, с. 7], развіццё ў савецкай лінгвістыцы даследаванняў структуралістычнага характару і інш.[8] Пастунова выпрацаваўся падыход, паводле якога лічыцца,

[7] У напісаных у 1980 г. успамінах У. А. Звягінцаў іранічна пракаменціраваў вылучэнне ў якасці пытанняў першаступеннай важнасці праблем асноўнага слоўнікавага фонду і ўнутраных законаў развіцця мовы – гэтым тэмам у свой час, паводле яго слоў, было прысвечана безліч («уйма») прац і канферэнцый. Згодна з У. А. Звягінцавым, сітуацыя прынцыпова не змянілася і пасля развянчання культу Сталіна, ніякіх карэнных пераўтварэнняў у савецкай навуцы аб мове ў той час не адбылося [355, с. 489, 490].

[8] У літаратуры стаўленне прадстаўнікоў Пражскага лінгвістычнага гуртка да праблемы ўмяшання грамадства ў моўныя працэсы ацэньваецца трохі амбівалентна. З аднаго боку, сцвярджаецца, што члены Пражскага лінгвістычнага гуртка змагаліся з пропаведдзю бяздзеяння, указваючы, што грамадства можа паспяхова ўмешвацца ў моўнае развіццё [173, с. 128–129], што некаторым прадстаўнікам Пражскага лінгвістычнага гуртка, напрыклад Б. Гаўранку, была ўласціва цікавасць да знешняй гісторыі мовы [478, с. 13]. З другога боку, указваецца, што ў цэлым прадстаўнікі гэтай школы адносна мала цікавіліся грамадскімі ўмовамі функцыянавання літаратурнай мовы [171, с. 13–14].

што, напрыклад, развіццё лексікі «ў значнай ступені вызначаецца ўнутранымі фактарамі, звязанымі з сістэмным характарам мовы». Разам з тым гэта абумоўленасць унутранымі фактарамі парадаксальным чынам абумоўлівае і «больш глыбіннае, чым звычайна здаецца, дзеянне на лексіку пазамоўных фактараў. Для таго, каб асобныя часткі моўнага механізму прыйшлі ў рух, патрэбен знешні штуршок, але сам характар гэтага руху ў значнай ступені абумоўлены асаблівасцямі самога механізма» [311, с. 51]. Як відаць з прыведзеных цытат, бадай, няма магчымасці ўстанавіць строгую іерархію адных або другіх фактараў, і нават пішучы пра прыярытэт унутраных фактараў, даследчыкі звычайна адначасова ўказваюць на яго адносны характар, робячы агаворкі ў выглядзе формулы «ў значнай ступені». У цэлым усё ж на палажэнне аб знешнім уплыве накладаліся большыя абмежаванні, сцвярджалася, напрыклад, што ўздзеянне сацыяльнай рэчаіснасці не можа разбураць моўную сістэму [311, с. 35].

Засяроджаная ўвага савецкіх лінгвістаў на ўнутраных законах развіцця мовы і нарошчванне адпаведных даследаванняў (часам празмерна тэарэтызаваных, з элементамі схаластыкі), безумоўная іерархія каштоўнасцей, згодна з якой развагі пра ўнутраныя законы маглі лічыцца «безумоўна навуковымі», а пра знешнія фактары – не, сярод іншага не толькі адпавядалі прыярытэтам навуковых даследаванняў, але і сфарміравалі пэўныя перабольшанні значэння ўнутраных законаў і пэўныя шаблоны выказвання, як толькі закраналіся адпаведныя тэмы. Калі толькі заходзіла размова аб знешніх прычынах развіцця мовы, звычайнай практыкай было абавязкова згадваць важнасць і ўнутраных фактараў развіцця мовы – часам незалежна ад таго, ці былі для гэтага падставы. У сярэдзіне 1950-х гг. С. І. Ожагаў пісаў, што раскрыццё ўнутраных законаў развіцця мовы з’яўляецца першачарговай задачай мовазнаўцаў, паколькі «толькі веданне гэтых законаў можа служыць трывалым фундаментам для ўстанаўлення навуковых прынцыпаў нармалізацыі літаратурнай мовы і яе стылістычнага спарадкавання» [262, с. 259]. Спаслаўшыся ў сваім дапаможніку па стылістыцы на ролю экстралінгвістычных стылеўтваральных фактараў, А. А. Каўрус услед адразу папярэдзіў, што адначасова не павінна змяншацца значэнне ўнутрымоўных прычын: «структурных, семантычных, стылістычных асаблівасцей моўных сродкаў <...> у кожным канкрэтным выказванні словы спалучаюцца, размяшчаюцца адпаведна заканамернасцям іх лексічнай і стылістычнай спалучальнасці» [160, с. 7–8]. У працытаваных фрагментах, бадай, не ўлічана тая акалічнасць, што стылістычныя асаблівасці моўных сродкаў фарміруюцца не ў рамках самой мовы, а цесна звязаны з ужываннем мовы ў грамадстве, г. зн. са знешнімі ў адносінах да мовы прычынамі. У літаратуры адзначана, што само існаванне некаторых раздзелаў мовазнаўства – напрыклад, функцыянальнай стылістыкі – немагчыма ўявіць без выхаду за межы «чыстага» мовазнаўства і прыцягнення да аналізу значнай колькасці «няўласна» лінгвістычнай матэрыі [110, с. 113].

У некаторых выпадках гіпертрафіраваная ўвага да ўнутраных законаў развіцця мовы давала вынікам знікненне з гарызонту навукі некаторых важных тэм. Так, у 1965 г. Р. А. Будагаў адзначаў, што на працягу апошняга часу ў навуцы амаль зусім знікла паняцце ступені развіцця мовы [44, с. 55]. Тады ж В. Жырмунскі сцвярджаў, што ў тагачаснай савецкай лінгвістыцы існавалі працы аб фарміраванні літаратурных моў [61], у якіх у рэчышчы вызвалення ад мараўскай спадчыны пытанні сацыяльнай барацьбы ў мове старанна абміналіся. У іншых працах, паводле таго ж аўтара, на страту ўліку сацыяльных нормаў пісьмовай мовы вялося інтэнсіўнае абмеркаванне адрозненняў і ўзаемадзеяння тэрытарыяльных нормаў [111, с. 105].

Нягледзячы на тое што і ў пачатку 1950-х гг. некаторыя савецкія аўтары (напрыклад, Б. В. Горнунг) звярталі ўвагу на абумоўленасць узнікнення разнастайных моўных формаў не ўнутранымі законамі развіцця мовы, а знешнімі фактарамі [179, с. 91], вывучэнне апошніх у 1950–1960-я гг. у Савецкім Саюзе сутыкалася з вялікімі цяжкасцямі.

Стараннямі М. Мара і яго эпігонаў сацыялагічнае вывучэнне моў у гэты час было ў значнай ступені дыскрэдытавана. Не ратавала сітуацыю тое, што ў рамках сацыялагічнага напрамку ў 1920-я гг. у савецкай лінгвістыцы, акрамя вучняў М. Мара, працавалі і вельмі таленавітыя навукоўцы, напрыклад, Я. Паліванаў, Л. Якубінскі. Цалкам зразумела, што іх спадчына не пазбаўлена супярэчнасцей. У працах гэтых вучоных не толькі рэалізоўваліся арыгінальныя навуковыя канцэпцыі, але і непазбежна засталіся прыкметы сваёй эпохі, выкарыстоўвалася адпаведная тэрміналогія, прасочвалася жаданне «патрапіць у тон» ідэалагічным канонам свайго часу, што, натуральна, не магло станоўча ацэньвацца вызваленай ад мараўскіх аковаў «новай» лінгвістыкай. Што да пазнейшых прац мараўскага перыяду, то, на думку В. У. Вінаградава, у іх «сацыялагічныя погляды на развіццё моўных з'яў часцей за ўсё развіваліся ў вульгарна-сацыялагічным аспекце» [59, с. 276; цыт. паводле: 111, с. 105]. У тым ліку ў сувязі з наяўнасцю гэтай супярэчлівай лінгвістычнай спадчыны сацыялагічнага напрамку, на якую нельга было непасрэдна абаперціся, станаўленне савецкай сацыялінгвістыкі ў 1960–1970-я гг. было няпростым.

Па-другое, у гэты і пазнейшы час у значнай ступені акурат у сувязі са знешнімі фактарамі (напрыклад, абвешчанымі мэтамі пабудовы камуністычнага грамадства) у Савецкім Саюзе не без навуковага забеспячэння з боку лінгвістаў [104; 370] адбывалася не столькі развіццё, колькі эрозія, заняпад розных моў. Працы сацыялагічнага характару маглі выявіць непажаданыя для палітычнай улады з'явы, у выніку чаго разгортванне такіх даследаванняў стрымлівалася.

Спатрэбілася нямала часу і намаганняў для таго, каб знешнія фактары развіцця мовы сталі займаць належнае месца ў працах моваведаў, у тым ліку беларускіх. Напрыклад, у 1993 г. у рамках змешчанага ў навучальным дапаможніку «Общее языкознание. Сущность и история языка» невялікага

раздзела «О возможности сознательного воздействия общества на развитие языка» прадметна разважала на гэтую тэму Н. Б. Мячкоўская. Былі выдзелены сферы, якія асабліва прыдатныя для прыкладання да мовы намаганняў грамадства (графічна-арфаграфічныя рэформы, стварэнне тэрміналогій, кадыфікацыя літаратурнай нормы), было адзначана, што найбольш паўнацэнна гэтыя дзеянні рэалізуюцца ў перыяд складвання нацыянальна-літаратурных моў [236, с. 112–121].

У сувязі з дыферэнцыяцыяй Ф. дэ Сасюра або незалежна ад яе ў сучаснай навуцы сцвердзіўся погляд, што паняцце «развіццё мовы» можа раскрывацца ва ўнутрыструктурным і знешнім, сацыялагічным вымярэнні [44; 146; 114; 440]. Уплыў сацыяльных фактараў на развіццё мовы атрымлівае ўсё большае адлюстраванне ў навуковай літаратуры [261; 431; 53; 434; 259; 438; 87; 29; 120; 463; 447; 7; 479; 256; 451; 257; 341; 452; 114; 494; 475; 349; 60; 364; 454; 455; 486; 514; 484; 498; 106; 457; 393; 476; 429; 401; 109; 496; 402; 437; 459; 375; 423; 461; 150; 317; 473; 381; 477; 515; 456; 233; 483; 27; 234; 376; 377; 378]. Для ўкраінскай лінгвістыкі асаблівае значэнне мае праца Ю. Шавялёва [398]. Цікавым прадпрыемствам з'яўляецца публікацыя ў Кіеве зборніка дакументаў і матэрыялаў, у якім спецыяльная ўвага звяртаецца ў тым ліку на перыпетыі існавання ўкраінскага мовазнаўства ў 1930-я гг. [365]; зрэшты, гэта выданне атрымала і неадназначныя водгукі [453]. У сувязі з тым, што даследаванне сацыяльных фактараў у развіцці мовы вылучылася ў самастойны напрамак, паўстала важная тэарэтычная праблема: якія, унутраныя ці знешнія, фактары з'яўляюцца галоўнымі рухаючымі сіламі ў працэсе развіцця мовы? Калі адны навукоўцы па традыцыі аддаюць перавагу меркаванню аб унутраных стымулах развіцця мовы, іншыя імкнуцца прадставіць больш збалансаваны погляд [277; 278; 177; 364].

Пытанне перавагі адных або другіх фактараў (часам нават самой іх ідэнтыфікацыі) неадназначнае і складанае, можа па-рознаму рэалізоўвацца ў дачыненні да розных моўных узроўняў, адпаведна не ва ўсіх выпадках можна прыняць пад увагу ўсе нюансы і дакладна ідэнтыфікаваць пазіцыю канкрэтнага аўтара. Напрыклад, І. Баярова, бадай, сцвярджае «кампрамісны» падыход: апелюючы ў тым ліку да аўтарытэту А. Марцінэ, яна мяркуе, што ў спрэчцы паміж прыхільнікамі прыярытэту адных або другіх фактараў ісціну трэба шукаць пасярэдзіне. Разам з тым яна лічыць, што скіраваную на знешні ракурс інтэрпрэтацыю дыктуюць моўныя рэаліі; адначасова даследчыца падкрэслівае, што прысвечаны гэтай праблематыцы свой артыкул яна напісала з мэтай нагадаць аб прыярытэце ўнутранага развіцця. Увогуле, у параўнанні з арыентаванай на знешні ракурс інтэрпрэтацыяй даследаванне развіцця мовы паводле канонаў унутраных фактараў можа бачыцца як «адносна аднастайны працэс, бо ён мае выразны напрамак руху і залежыць ад нешматлікіх прычын» [440, с. 49–51]. Працуючы з канкрэтным фанетычным матэрыялам, М. Паноў схільны гаварыць аб прыярытэце ўнутраных законаў мовы [278, с. 88]; у ін-

шай, больш агульнай, сітуацыі ён звяртае ўвагу на баланс паміж унутранымі і знешнімі залежнасцямі ў развіцці мовы [277].

Ёсць, аднак, аўтары, якія недвухсэнсоўна ўказваюць на перавагу ў моўным развіцці знешніх фактараў. Да іх ліку належаў В. М. Жырмунскі, які крытычна ацэньваў нават сам падзел на ўнутраныя і знешнія фактары. На думку даследчыка, «мова наскрозь пранізана сацыяльным, і менавіта сацыяльнае вызначае яе ўнутраную структуру і ўнутраныя супярэчнасці гэтай структуры» [111, с. 112]. Разглядаючы праблему нармавання агульнанацыянальнай мовы падчас савецкага моўнага будаўніцтва міжваенных гадоў, В. М. Жырмунскі вылучаў «так наглядна бачны» сацыяльна-палітычны аспект, які, паводле яго сцвярджэння, ігнараваўся прадстаўнікамі старога, «акадэмічнага» мовазнаўства [112, с. 20].

Разважаючы пра сацыяльны аспект моўнага развіцця, Г. Хабургаеў адзначаў, што тэзіс аб незалежнасці мовы ад волі, свядомасці і творчых ініцыятыў асобных людзей, таксама як і ад ідэалагічных і палітычных пераўтварэнняў у грамадстве, будзе справядлівым у дачыненні мовы, якая гучыць («звучащего языка»), мовы як сродку штодзённых зносін. Што ж датычыць літаратурнай мовы, то сітуацыя тут іншая. Змест яе гісторыі ўключае ў сябе змены ў сістэме агульнанацыянальных нормаў, якія адбываюцца не ў выніку назапашвання ў самой мове элементаў новай якасці, а «ў выніку рэформы (або кадыфікацыі), якая ўчыняецца па ініцыятыве носьбітаў дадзенай літаратурнай мовы» [368, с. 69].

Даволі тыповым для савецкай лінгвістыкі 1950–1960-х гг. можна прызнаць выказанае пасля дыскусіі 1950 г. меркаванне С. І. Ожагава, згодна з якім законы развіцця мовы існуюць незалежна ад волі людзей і адлюстроўваюць аб'ектыўныя працэсы. Аднак, сцвярджаў аўтар, «пазнаўшы гэтыя законы і адкрыўшы моўныя нормы, грамадства можа мэтазгодна выкарыстоўваць і прымяняць іх, г. зн. зыходзячы з тэндэнцый развіцця мовы, нармалізаваць тыя або іншыя яе бакі ў адпаведнасці з патрэбамі зносінаў і абмену думкамі ў тую або іншую гістарычную эпоху» [262, с. 259]. Пры такім, знешне выключна карэктным, падыходзе з поля зроку выпадалі пытанні пра тое, ці ва ўсіх выпадках аб'ектыўныя тэндэнцыі развіцця мовы разумеліся адэкватна, пры дапамозе якіх сацыяльных інстытутаў, механізмаў і інструментаў грамадства выкарыстоўвала і прымяняла моўныя законы, ці было такое выкарыстанне бесстароннім і да т. п. Такі знешне аб'ектыўны падыход пакідаў месца для магчымасці ўмешвацца ў развіццё мовы пад выглядам яе «мэтазгоднага» выкарыстання[9].

[9] Аб праблеме суадносін унутраных і знешніх фактараў у развіцці літаратурных моў гл. 1.3.3.

# 1.2. СПЕЦЫФІКА РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА Ў 1920–1930-я гг.

## 1.2.1. ПРЭСКРЫПТЫЎНА-НАРМАЛІЗАЦЫЙНЫ ХАРАКТАР БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫКІ

Нягледзячы на тое што існуе вялікая колькасць добрых прац па гісторыі беларускага мовазнаўства 1920-х гг., тым не менш бытуюць і некаторыя памылковыя стэрэатыпныя меркаванні, якія, часта ўзнаўляючыся, часам сталі своеасаблівым калянавуковым фальклорам. З такімі поглядамі часам сустракаемся нават у тых выпадках, калі некаторыя аўтары падкрэсліваюць, што яны маюць намер асвятляць колішнія падзеі ў беларускай лінгвістыцы цалкам аб'ектыўна. Напрыклад, у адным з артыкулаў пра С. Некрашэвіча ў якасці аднаго з прыдуманых тэрмінаў 1920-х гг. пададзена неіснуючае слова *растапырнік* 'парасон' [145, с. 61], але складана ўявіць, да якой тэрмінасістэмы такі «тэрмін» мог належаць. У падрыхтаваным з удзелам С. Некрашэвіча РБС-28 рус. *зонтик* прыведзены беларускія эквіваленты *парасон, парасоль*. Вывучэнне гісторыі беларускай лінгвістыкі патрабуе асаблівай акуратнасці ў ацэнках.

Спецыфіка беларускага мовазнаўства міжваенных гадоў палягае ў значнай ступені ў яго прэскрыптыўным, арыентаваным на нармалізацыю характары. Акурат прэскрыптыўнае (нарматыўнае) мовазнаўства мае на мэце ўсталяванне прынцыпаў фарміравання мовы і ўздзеяння на яе развіццё [450, с. 11]. Прэскрыптыўны падыход арыентаваны на стварэнне прадпісанняў адносна ўжывання мовы і пашыраецца як на рэгуляванне ўжывання мовы ў пэўных сферах, так і на выкарыстанне канкрэтных моўных формаў, уключаючы, такім чынам, праблематыку нармалізацыі і кадыфікацыі літаратурных моў і пытанні моўнай нормы [423, с. 16–17].

Паводле Э. Хаўгена, да XIX ст. нарматыўнай была ўся лінгвістыка. Аднак у XIX ст. паступова набіраў сілу погляд, згодна з якім мовазнаўства мае іншыя задачы. Сярод іншага Э. Хаўген спасылаўся на меркаванне 1874 г. шведскага мовазнаўца Э. Тэгнера, згодна з якім задачай мовазнаўцаў было «не прадпісваць мове законы, а апісваць іх». Адначасова Э. Хаўген зазначаў, што мяжа паміж прэскрыптыўнай і дэскрыптыўнай лінгвістыкай цяжкаўлоўная [369, с. 442].

Апошнім часам праблема прэскрыптыўнага *resp.* дэскрыптыўнага падыходу абмяркоўвалася ў славацкай лінгвістыцы [490; 469]. Спецыяльную манаграфію прысвяціла гэтай праблеме ўкраінская даследчыца Г. М. Яворська [423].

У сучасным мовазнаўстве ў дачыненні да моцных моў дэскрыптыўны падыход яўна пераважае над прэскрыптыўным. П. Сгал сцвярджае, што дэскрыптыўны падыход рэалізуецца «ў большасці развітых краін» [497, с. 56].

У сучаснай беларускай лінгвістыцы ў розных сваіх публікацыях А. І. Жураўскі спасылаўся на вядомае меркаванне расійскага вучонага А. Шахматава, які выказваў недаўменне з нагоды таго, што навуковыя ўстановы замест таго, каб паказваць, як гавораць, «асмельваліся вызначаць, як трэба гаварыць» [123, с. 14]. Гэтая спасылка, аднак, была хутчэй рытарычным прыёмам, чым перакананнем аўтара, яна не перашкаджала самому А. І. Жураўскаму ў ягоных працах апошніх гадоў настойліва вызначаць, як менавіта трэба пісаць і гаварыць. Пагарду да думкі А. Шахматава можна бачыць і ў тым, што ў адной са сваіх публікацый А. І. Жураўскі ўхвальна паклікаўся на меркаванне, выказанае на пачатку 1970-х гг. на старонках часопіса «Вопросы языкознания», паводле якога асноўнае прызначэнне дзейнасці лінгвістаў і мовазнаўчых устаноў палягае ў тым, каб «падтрымліваць стабілізацыю літаратурнай мовы» [123, с. 15]. Але ж падтрымліваць стабілізацыю літаратурнай мовы, бадай, немагчыма без таго, калі навуковая ўстанова не будзе вызначаць, як трэба пісаць і гаварыць.

Прэскрыптыўнасць у працах 1920–1930-х гг. утрымлівалася не толькі ў падручніках, непасрэдна арыентаваных на ўкараненне і сацыялізацыю некаторых моўных нормаў, але і ў пэўнай ступені ў публікацыях няўласна навуковага або педагагічнага жанру – артыкулах і рэцэнзіях, надрукаваных у часопісах. Несфарміраваная ў поўнай меры літаратурная мова ў гэты час была адкрытай для прыняцця рэкамендацый і заўваг, і некаторыя прапановы, пададзеныя «збоку», прымаліся кадыфікатарамі, станавіліся плоццю і крывёй літаратурнай мовы. У гэты час развіваліся і не звязаныя або мала звязаныя з арыентацыяй на практыку мовазнаўчыя напрамкі (дыялекталогія і лінгвагеаграфія, гісторыя беларускай мовы, этымалогія, славістыка), аднак дасягненні прэскрыптыўнай лінгвістыкі гэтага часу з'яўляюцца найбольш відавочнымі[10]. На працягу 1920-х гг. у Беларусі быў падрыхтаваны і выдадзены комплекс навучальнай літаратуры (правапісаў і граматык), а таксама практычных слоўнікаў, якія засведчылі і замацавалі факт існавання беларускай літаратурнай мовы. У гэтым можна назіраць вядомую заканамернасць, згодна з якой пытанні экзістэнцыі мовы для нарматыўнага мовазнаўства з'яўляюцца аднымі з самых важных [450, с. 8].

У 1918–1929 гг. у Вільні пяць разоў была выдадзена «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча (чацвёртае выданне 1921 г. было мінска-віленска-берлінскім). З 1921 па 1929 г. восем разоў выходзілі граматычныя дапаможнікі Я. Лёсіка, з 1924 па 1929 г. таксама восем разоў былі надрукаваны падрыхтаваныя ім падручнікі па правапісе. У 1924–1926 гг. выйшлі два выданні руска-беларускага слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага, у 1926 г. – «Расійска-беларускі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча і ў 1928 г. іх жа «Расійска-беларускі слоўнік». У 1930-х гг. інтэнсіўнасць падрыхтоўкі і выдання правапісаў, граматык і слоўнікаў моцна знізілася, тым не менш у 1934 г. быў

[10] Часам пэўнае значэнне для быцця мовы могуць мець працы, якія ствараюцца без выразнай арыентацыі на прэскрыптыўнасць і, больш за тое, напісаны замежнымі аўтарамі. У адной сучаснай публікацыі абмяркоўваецца значэнне для сцвярджэння македонскай мовы кароткай англамоўнай граматыкі, падрыхтаванай Г. Г. Лантам [348].

выдадзены «Правапіс беларускай мовы», у 1935–1936 гг. – дзве граматыкі, у 1937 г. – «Руска-беларускі слоўнік», у 1939 г. – дапаможнік па сінтаксісе. На аснове ўказанай граматычнай літаратуры былі падрыхтаваны іншыя навучальныя дапаможнікі па беларускай мове для выкарыстання ў школах, рабфаках, на курсах селькораў і рэдактараў – «рабочыя кнігі» па беларускай мове, граматыкі і навукова-метадычныя распрацоўкі з удзелам І. І. Пратасевіча, І. К. Самковіча, А. С. Саломеніка, Н. І. Шэўчыка, Ю. А. Шакаля [81, с. 71–74, 111–113, 168–172, 193, 240; 424; 425]. Усе пералічаныя кнігі (за выключэннем хіба слоўніка 1937 г.) шырока выкарыстоўваліся ў навучальнай, журналісцкай і кнігавыдавецкай практыцы, служачы як крыніцамі вывучэння беларускай мовы, так і інструментамі замацавання яе літаратурных нормаў[11].

Усведамленне і ўлік гэтых акалічнасцей даюць падставы розным аўтарам разглядаць гэтыя працы як нарматыўныя, арыентаваныя на выпрацоўку і замацаванне нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Такая ацэнка часам пашыраецца не толькі на працы 1930-х гг., нармалізацыйная сутнасць якіх асабліва відавочная, але і на слоўнікі (аднак не на граматыкі) папярэдняга дзесяцігоддзя. Перакладныя слоўнікі 1920-х гг. могуць абазначацца нейтральна як «першыя найбольш поўныя» [374, с. 106], але можа таксама падкрэслівацца іх нарматыўны характар. На думку некаторых аўтараў, гэтыя слоўнікі: «фактычна з'яўляліся для беларускай літаратурнай мовы нарматыўнымі» [215, с. 122], перакладныя часткі руска-беларускіх слоўнікаў «даюць найбольш поўнае ў рамках беларускай лексікаграфіі ўяўленне пра лексічную норму і яе змены на працягу ўсёй гісторыі новай беларускай літаратурнай мовы» [214, с. 34; 224]. Разглядаючы двухмоўныя слоўнікі 1918–1928 гг. у кантэксце «перыяду моўнай нармалізацыі», І. І. Савіцкая падкрэслівае іх «высокую н а р м а л і з а ц ы й н у ю (разрадка аўтара. – *С. З.*) каштоўнасць» [318, с. 352].

З пункту гледжання ўвасаблення прынцыпу прэскрыптыўнасці граматычная літаратура і слоўнікі 1920-х гг., тым не менш, выразна адрозніваюцца ад прац наступнага дзесяцігоддзя. Прэскрыптыўнасць арыентаванай на задавальненне практычных патрэб мовазнаўчай прадукцыі 1920-х гг. не павінна разумецца як яе поўная падпарадкаванасць задачам пабудовы нарматыўнай літаратурнай мовы ў яе сучасным разуменні. У лінгвістычных працах гэтага часу змяшчаўся не толькі нарматыўны кампанент; увогуле, калі гаворка ідзе, напрыклад, пра граматычныя апісанні, то лічыцца, што ўсе працы такога характару з'яўляюцца часткова апісальнымі, а часткова нарматыўнымі [450, с. 9]. Мовазнаўчай прадукцыі 1920-х гг. уласціва значная ліберальнасць у вызначэнні таго, штó мае лічыцца нормай, а штó – не. Напрыклад, граматыка Б. Тарашкевіча з сучаснага пункту гледжання дазваляла вельмі значную марфалагічную вары-

[11] Прэскрыптыўная традыцыя была ўласціва не толькі міжваеннаму перыяду беларускага мовазнаўства. Як сцвярджаецца, даследаванне беларускай мовы было актуальнай задачай у сувязі з «неадкладным патрабаваннем моўнай практыкі» і пазней [265, с. 3]. Можам, аднак, разумець, што на пазнейшых этапах развіцця лінгвістыкі і беларускай мовы даследчыкі-кадыфікатары знаходзіліся ў іншай сітуацыі ў параўнанні з кадыфікатарамі 1920–1930-х гг.

янтнасць[12]. Несумненна, не прэтэндавалі на нарматыўнасць першыя слоўнікі, падрыхтаваныя з удзелам М. Гарэцкага. Сучасная даследчыца сцвярджае, што ў «Маскоўска-беларускім слоўніку» 1918 г. братоў М. і Г. Гарэцкіх падобна да «Расійска-беларускага слоўніка» 1928 г. у параўнанні з іншымі слоўнікамі XX ст. прадстаўлена самая вялікая колькасць уласнабеларускіх слоў [214, с. 35] – і гэта, напэўна, можна лічыць безумоўнай вартасцю гэтых слоўнікаў. Разам з тым, згодна з тым жа аўтарам, у гэтых самых слоўніках трохі парадаксальным чынам змяшчаецца і самая вялікая колькасць «даўніх» запазычанняў з рускай мовы (што ў кантэксце 1920-х гг. разглядалася б як яўны недахоп); у гэтым плане яны хутчэй збліжаюцца з руска-беларускімі слоўнікамі 1930–1980-х гг., чым са слоўнікам В. Ластоўскага і з ПРБС-26. У РБС-28 рускім лесемам часта прапаноўваліся па два і больш беларускіх адпаведнікаў, у выніку чаго некаторыя карыстальнікі слоўніка часам губляліся ў вызначэнні таго, пры дапамозе якіх беларускіх слоў трэба перакладаць тое або іншае рускае слова. З пункту гледжання прэскрыптыўнасці многія марфалагічныя формы і словы ў названых працах былі «лішнімі», збыткоўнымі. У крайніх выпадках, калі ў РБС-28 рускім словам прапаноўвалася асабліва многа адпаведнікаў, прытым часам з выхадам за семантычныя рамкі рускага слова, фактычна неэквівалентаў, можна гаварыць, што норма ў такіх выпадках была «размыта», нават адсутнічала.

Аднак заснаваныя на сучасным разуменні кваліфікацыі слоўнікаў і граматычнай літаратуры міжваенных гадоў былі б празмерна рыгарыстычнымі. Тут недастаткова бярэцца пад увагу шматфункцыянальнасць слоўнікаў гэтага часу, абумоўленая ў тым ліку тагачаснымі патрэбамі беларускай лінгвістыкі.

Пра поліфункцыянальнасць лексікаграфічных прац 1920-х гг. піша І. І. Савіцкая, якая, абапіраючыся на сфармуляваныя ў сучаснай навуцы вызначэнні, вылучае інфармацыйную, камунікацыйную, нарматыўную функцыі, а таксама функцыю навуковага вывучэння. Нарматыўная функцыя лексікаграфіі, паводле аўтара, рэалізуецца пры дапамозе стылістычных памет, якія стабілізуюць лексічныя і іншыя нормы і гэтым спрыяюць удасканаленню літаратурнай мовы. У сувязі з нарматыўнай функцыяй І. І. Савіцкая спасылаецца на прывядзенне ў слоўніках М. Гарэцкага шэрагу заўваг тыпу «иронически» (пра слова *гаршкалёп*), «ругат. слово» (пра слова *быдля*), «несерьезно» (у сувязі са словам *грыбы* ‘губы’), «говорится с насмешкой» (у сувязі са словам *наўда*). Рэалізацыя функцыі навуковага вывучэння пацвярджаецца спасылкай на прывядзенне ў перакладных слоўніках М. Гарэцкага тлумачэнняў семантыкі і этымалогіі слоў, аднак у цэлым гэта функцыя прыпісваецца найперш этымалагічным, гістарычным і тлумачальным слоўнікам [318, с. 353–355].

Апора на разуменне функцыі нарматыўнасці, рэалізаванай у першую чаргу праз стылістычныя паметы, робіць прызнанне слоўнікаў 1920-х гг.

[12] А. Абрэмбска-Яблоньска зазначала, што дадзеныя ў граматыцы Б. Тарашкевіча марфалагічныя дублеты не сведчылі аб жаданні аўтара кіравацца строгай прэскрыптыўнасцю; на думку даследчыцы, за іх вылучэннем стаялі хутчэй прапановы, чым катэгарычнае навязванне адной абавязковай нормы [488, с. 103].

нарматыўнымі праблематычным. Такія паметы ў лексікаграфічных працах 1920-х гг. былі хутчэй выключэннем, чым правілам, і яны датычыліся пераважна толькі найбольш відавочных выпадкаў, пакідаючы значныя пласты лексікону па-за абсягам стылістычнай кваліфікацыі.

Пры ацэнцы практычных слоўнікаў 1920-х гг. недастаткова ўлічваецца іх скіраванасць на апісанне беларускай мовы, яе навуковае вывучэнне. Наяўнасць у руска-беларускіх слоўніках гэтага часу шматлікіх «збыткоўных», недарэчных і недакладных з сучаснага пункту гледжання беларускіх слоў тлумачыцца імкненнем аўтараў сабраць як мага паўней беларускую лексіку, зафіксаваць яе ў лексікаграфічных крыніцах. Як вядома, задача поўнага прадстаўлення беларускай лексікі ў руска-беларускіх слоўніках была пастаўлена ў Інбелкульце яшчэ ў 1922 г. і пазней ніколі не здымалася з парадку дня [126, с. 39–44]. Як сцвярджаюць аўтары калектыўнай манаграфіі па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, на першай стадыі працэс нармалізацыі натуральным чынам быў звязаны са зборам, выяўленнем усяго лексічнага багацця беларускай мовы, і таму, напрыклад, «неабмежаванае» выкарыстанне дыялектызмаў у творах беларускіх пісьменнікаў 1920-х гг. разглядаецца як натуральная з'ява [175, с. 241][13]. Увогуле, на першай фазе развіцця літаратурнай мовы звычайна адбываецца яе інтэграцыя [89, с. 213]. Недастатковай распрацаванасцю беларускай мовы 1920-х гг. і адноснай рэдкасцю слоўнікаў тлумачылася частае ўключэнне ў гэты час у тэрміналагічныя слоўнікі лексікі, якая не мела прамога дачынення да тэрміналогіі: несумненна, аўтары дапускалі такія «парушэнні» не таму, што яны не маглі адрозніць тэрміны ад нятэрмінаў. Што датычыць саміх тэрміналагічных слоўнікаў 1920-х гг., то ў літаратуры звяртаецца ўвага на тое, што яны мелі не толькі практычнае значэнне, але і пэўнае навуковае, паколькі праца па іх стварэнні стымулявала распрацоўку многіх тэарэтычных пытанняў [212, с. 7–8]. Поўнае адлюстраванне разнастайнай лексікі і яе фіксацыя (часта з «перавышэннем») у слоўніках 1920-х гг. стварала перадумовы для яе наступнага вывучэння і, значыць, таксама нармалізацыі[14]. Як заўважана, зыходным пунктам для любых нарматыўных разваг мае быць апісанне моўных з'яў [450, с. 10].

Прыкметы такой нармалізацыі можна назіраць у другім выданні «Практычнага расійска-беларускага слоўніка» 1926 г. М. Байкова і М. Гарэцкага. Як заўважана ў літаратуры, у гэтым выданні сінанімічнасць і дублетнасць перакладных эквівалентаў у параўнанні з першым выданнем была скарача-

[13] Недыферэнцыяваны падыход да ўключэння ў слоўнікі разнароднай лексікі ўласцівы развіццю лексікаграфічнай практыкі розных моў на пачатковых этапах іх станаўлення. Напрыклад, за ўключэнне ў «Слоўнік Расійскай акадэміі» разнароднай лексікі крытыкаваў гэту працу Ё. Добраўскі [206, с. 81]. Фактар як мага паўнейшай дакументацыі моўных фактаў, зрэшты, дзейнічае не толькі на пачатковых этапах станаўлення мовы, параўн.: [450, с. 10].

[14] У апошнія гады розныя беларускія мовазнаўцы [ напрыклад, 3, с. 78] неаднаразова выказваліся пра неабходнасць рэалізацыі менш селектыўнага падыходу пры фарміраванні рэестра слоўнікаў сучаснай беларускай мовы, прадстаўлення яе лексічных рэсурсаў у больш поўным выглядзе. Гэта «непаўната» сучасных слоўнікаў тым больш заўважная на фоне багатых на адсутныя ў сучасных лексікаграфічных выданнях лексемы слоўнікаў 1920-х гг.

на. Калі ў першым выданні для рус. *башмак* прапаноўвалася пяць беларускіх адпаведнікаў (*чаравік, камаш, бацінак, боцік, барлёч*), то ў другім выданні іх захавалася толькі два (*чаравік* і *камаш*). Калі для рус. *хлебопашец* у першым выданні былі дадзены эквіваленты *хлебароб, ральнік, ратай*, то ў другім выданні застаўся толькі першы адпаведнік. Колькасць беларускіх адпаведнікаў таксама была скарочана пры словах *аист, дрянь, оружие, потомок, ругань, усадьба* [78, с. 103–104].

Здаецца, перадумовы для такой нармалізацыі існавалі найперш у тых выпадках, калі нейкія працы, як названы слоўнік М. Байкова і М. Гарэцкага, на працягу пэўнага часу выдаваліся не адзін раз. Сярод руска-беларускіх слоўнікаў неаднаразова выдадзенымі былі слоўнікі з удзелам М. Гарэцкага (выдаваліся некалькі разоў у 1918–1926 гг.) і М. Байкова (выдаваліся двойчы ў 1924–1928 гг.). Відаць, акурат адносная рэгулярнасць выданняў слоўнікаў з удзелам М. Гарэцкага стварыла спрыяльную сітуацыю для таго, каб укладальнікі падумалі не толькі пра прадстаўленасць у слоўніку багацця беларускага лексікону, але і пра яго спарадкаванне.

Аднак у працэсе падрыхтоўкі слоўнікаў 1920-х гг. тэндэнцыя да скарачэння сінанімічных радоў дзейнічала непаслядоўна. Так, у параўнанні з ПРБС-26 у «Расійска-беларускім слоўніку» 1928 г. (у абодвух слоўніках адным з укладальнікаў быў М. Байкоў) рэалізаваная ў слоўніку 1926 г. тэндэнцыя да скарачэння і нармалізацыі беларускай лексікі была падтрымана толькі часткова. Напрыклад, ПРБС-26 і РБС-28 супадаюць у тым, што ў іх няма вялікай колькасці адпаведнікаў для слоў *башмак* і *оружие*. У гэтых слоўніках за кошт слова *ўнук* скарочана колькасць эквівалентаў для слова *потомок*. Аднак яны адрозніваюцца колькасцю эквівалентаў для рус. *аист*: у РБС-28 (як і ў ПРБС-24) іх два. У параўнанні з ПРБС-26 у РБС-28 для слова *потомок* узноўлены эквівалент *нашчадак*, які фігураваў у ПРБС-24. Нягледзячы на тое што для слоў *дрянь* і *усадьба* ў ПРБС-26 колькасць эквівалентаў была скарочана з трох да аднаго, у РБС-28 гэтым словам дадзена па пяць беларускіх эквівалентаў. Гэта акалічнасць сведчыць пра розніцу ў поглядах наконт таго, наколькі шырока ў беларускіх частках руска-беларускіх слоўнікаў павінна была прадстаўляцца разнастайная беларуская лексіка і ці прыйшоў час для адсейвання раней зафіксаваных слоў. Пошук (у тым ліку і ў пэўнай меры эксперыментальны) лепшых і дакладных адпаведнікаў рускім словам у працэсе падрыхтоўкі слоўнікаў працягваўся і ў другой палове 1920-х гг.

Відавочна, існуе значная колькасць прыкладаў неаднолькавага стаўлення да розных лексем з боку розных кадыфікатараў. Напрыклад, у падборцы граматычнай тэрміналогіі 1921 г. Я. Лёсіка ў якасці эквіваленту рус. *букварь* было пададзена слова *лемантар* і адсутнічала слова *буквар*. У сваёй апублікаванай у 1924 г. рэцэнзіі Я. Лёсік карыстаўся словам *лемантар* [682, с. 110]. У 1927 г. ён палічыў магчымым дадаць да яго ў якасці варыянтнага ўжывання слова *буквар* у апублікаваным 15-м выпуску серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія»,

што не прайшло міма ўвагі рэцэнзента гэтага слоўніка М. Байкова [542, с. 144]. Слова *буквар*, аднак, няма ў рэестры БРС-26 і ў беларускай частцы РБС-28. Плюралізм меркаваннняў можна бачыць у тым, што надрукаваны ў 1926 г. «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча ў 1927 г. быў выключна крытычна адрэцэнзаваны Я. Лёсікам [682, с. 271–282]. У сваю чаргу, 15-ты тэрміналагічны выпуск атрымаў даволі крытычную ацэнку М. Байкова [542] і І. Бялькевіча [569]. Слоўнік В. Ластоўскага зазнаў моцную крытыку з боку лексікографа С. Некрашэвіча [709] і г. д., і да т. п.

Адкрытасць да разнастайных крыніц фарміравання беларускай лексікі і арыентацыя на як мага больш поўнае яе прадстаўленне ў слоўніках 1920-х гг. павінны ацэньвацца станоўча. Поруч з неаднолькавасцю поглядаў на розныя аспекты нармалізацыі, уласцівых розным кадыфікатарам, гэтыя акалічнасці складаюць выразную спецыфіку беларускай прэскрыптыўнай лексікаграфіі 1920-х гг.

Разам з тым трэба прызнаць, што ў некаторых сваіх фрагментах беларускае мовазнаўства 1920-х гг. нават у асобе сваіх найлепшых прадстаўнікоў аперыравала часткова ўстарэлымі катэгорыямі і паняццямі. Параўн. у гэтым плане, напрыклад, заняткі В. Ластоўскага «аднасловамі» [683, с. 386–389] у духу такой жа практыкі ў Расіі ў XIX і нават у XVIII стст. [52]. Само слова *аднасловы* В. Ластоўскі, магчыма, запазычыў са слоўніка У. Даля.

### 1.2.2. АДНОСІНЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫКІ 1920-х гг. З УЛАДАЙ

Важным аспектам характарыстыкі беларускага мовазнаўства міжваенных гадоў з'яўляецца ўстанаўленне ступені яго аўтаномнасці ў якасці сфарміраванай навуковай дысцыпліны, яго незалежнасці ад палітычных структур і ідэалагічных канцэпцый свайго часу. Такога тыпу ракурс у апошнія гады ўсё часцей выкарыстоўваецца, калі гаворка ідзе пра бытаванне лінгвістыкі ў рамках аўтарытарных або таталітарных соцыумаў[15]. Несумненна, гэта праблема магла б быць тэмай асобнага даследавання, і ў дадзенай працы могуць быць прадстаўлены пераважна толькі самыя агульныя падыходы.

Пры тым, што моўная стандартызацыя ўяўляе сабой пэўны «сацыяльна-палітычны працэс» [470, с. 123], «з а ў с ё д ы (разрадка аўтара. – *С. З.*) адбываецца на пэўнай ідэйнай аснове» [254, с. 250], а прэскрыптыўныя выказванні служаць інтарэсам вышэйшага і сярэдняга класаў, адлюстроўваючы іх ідэалогію ў вызначэнні такіх паняццяў, як «густ», «дыскрымінацыя» і «культура» [483, с. 475], наяўнае ў працэсе моўнай стандартызацыі ўстанаўленне іерархіі і гегемоніі часта не выстаўляецца напаказ. Працэс моўнай стандартызацыі можа падавацца такім чынам, нібы ён быў наступствам пэўнага «натуральнага адбо-

[15] З апублікаваных у Беларусі прац параўн., напрыклад, заўвагі пра «адносную ідэалагічную нейтральнасць» берлінскай славістыкі ў 1933–1945 гг., адсутнасць уступак пануючым палітычным устаноўкам, пачуццё віны або сораму ў навукоўцаў [428, с. 32].

ру». Такое разуменне моўнай стандартызацыі як натуральнага працэсу, які не падлягае кантролю з боку чалавека, апраўдвае існаванне такіх гегеманічных грамадскіх інстытутаў, як адукацыя, сродкі масавай інфармацыі і «нават акадэмічная лінгвістыка». У такім выпадку падразумяваецца, што яны існуюць не столькі для стварэння і ўвядзення ва ўжытак стандартнай мовы, колькі проста выступаюць відавочнымі перадатчыкамі (transmitters) «натуральнага» ходу моўнага развіцця [470, с. 123][16].

Зыходзячы з такога разумення мы павінны прызнаць, што любая нацыянальная лінгвістыка ў тым або іншым выглядзе абслугоўвае (прынамсі, абслугоўвала) пэўныя вышэйшыя сацыяльныя слаі дзяржавы, у рамках якой яна развіваецца. Дзейнасць беларускай савецкай лінгвістыкі, якая найперш разглядаецца ў гэтай працы, разгортвалася пад апекай Народнага камісарыята асветы БССР (далей таксама – наркамат асветы, наркамасветы). Будучы ўключаным у арганізацыйную структуру беларускай савецкай дзяржавы, беларускае мовазнаўства *volens-nolens* выконвала пэўныя функцыі ў гэтым утварэнні. Адзін з вядучых лінгвістаў 1920-х гг. С. Некрашэвіч займаў розныя кіруючыя пасады ў Народным камісарыяце асветы, узначальваў Інстытут беларускай культуры, быў старшынёй аддзела гуманітарных навук, уваходзіў ва ўрадавую камісію, якая займалася рэарганізацыяй Інбелкульта ў Акадэмію навук, кіраваў аддзелам навукі пры наркамаце асветы, быў дырэктарам Інстытута мовазнаўства і віцэ-прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук [81, с. 54–56]. Поруч з іншымі вядомымі навукоўцамі, літаратарамі і дзеячамі мастацтва ў якасці аднаго з сумяшчальнікаў С. Некрашэвіч уваходзіў у склад першай калегіі Галоўлітбела, працаваў як палітычны рэдактар у Дзяржаўным выдавецтве Беларусі [99, с. 11, 59] і інш. У якасці дзяржаўнага функцыянера С. Некрашэвіч, натуральна, праводзіў вызначаную дзяржавай палітыку ў сферы адукацыі, навукі і культуры. У літаратуры паказана, што ў працэсе «моўнага будаўніцтва» ў БССР 1920-х гг. некаторыя беларускія мовазнаўцы спрабавалі дастасаваць працэс распрацоўкі і кадыфікацыі беларускай мовы да рэалізацыі больш шырокай савецкай мадэлі, што пакінула след у іх публікацыях [515]. Праўдападобна, у 1920-я гг. найперш заўважаецца імкненне супрацоўнічаць з уладай (заўважнае ў тым ліку ў выкарыстанні спецыфічнай палітычнай тэрміналогіі) з боку Я. Лёсіка.

Аднак не выпадае гаварыць пра несвабоду навуковага мыслення ў сферы лінгвістыкі і беспраблемныя адносіны паміж беларускімі мовазнаўцамі і ўладай. Прымяняльна да навукоўцаў-папулярызатараў навуковых ведаў у СССР да 1928 г. іх адносіны з палітычнай уладай кваліфікуюцца як «вялікія трэнні і супрацоўніцтва» [430, с. 4]. Абодва гэтыя кампаненты – супрацоўніцтва і трэнні – былі ў наяўнасці і ў выпадку ўдзелу ў навуковым і культурным будаўніцтве БССР многіх мовазнаўцаў, найперш такіх фігур, як С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, В. Ластоўскі: раней яны (В. Ластоўскі да 1926 г.), згодна з кваліфікацыяй уладаў, займаліся антысавецкай дзейнасцю. У 1920-я гг. ся-

[16] Падрабязней аб працэсе моўнай стандартызацыі гл. 1.3.2.

род беларускіх мовазнаўцаў не было камуністаў. Яшчэ ў 1933 г. канстатавалася, што сярод выкладчыкаў мовазнаўства ва ўсіх ВНУ Беларусі быў толькі адзін член партыі [697]. Больш спрыяльная сітуацыя ў гэтых адносінах была ў расійскай лінгвістыцы, дзе акадэмік М. Мар быў блізкай да ўлады асобай яшчэ ў сярэдзіне 1920-х гг. [363, с. 136; 10].

Хоць у слоўнікі 1920-х гг. рана ці позна траплялі словы тыпу *класс, классовый, коммуна, коммунизм, коммунистический, пролетариат* [298, с. 23], абмяжоўвалася прадстаўленне рэлігійнай тэрміналогіі [511,], не існуе моцнай залежнасці лінгвістычных поглядаў, выказваных у 1920-я гг. большасцю беларускіх мовазнаўцаў, ад падыходаў і ідэй дзяржаўных функцыянераў, палітыкаў і ідэолагаў.

У пачатку сваёй дзейнасці ў БССР са спецыфічнымі праблемамі сутыкнуўся найперш выкладчык БДУ, член Інстытута беларускай культуры з дня яго заснавання Я. Лёсік.

У верасні 1922 г. другое выданне яго падручніка «Практычная граматыка» зазнала рэзкую крытыку на старонках газеты «Звезда» з боку члена цэнтральнага бюро (далей – ЦБ) КП(б)Б Р. Пікеля і будучага першага старшыні Галоўнага ўпраўлення ў справах літаратуры і выдавецтваў БССР Р. Шукевіча-Траццякова (зацверджаны на гэтай пасадзе 9 лістапада 1922 г.). Р. Пікель палічыў падручнік Я. Лёсіка непатрэбным для партыйнай работы і зрабіў вывад, што ў дадзеным выпадку пад шыльдай выдавецтва вялася «контррэвалюцыйная прапаганда» [720]. Р. Шукевіч-Траццякоў сцвердзіў, што ў сваіх нядаўна апублікаваных артыкулах Я. Лёсік заклікаў да абароны «буржуазна-дэмакратычных» заваёў, пры гэтым перабольшваў значэнне беларускай мовы [771]. Верагодна, гэтыя публікацыі былі водгукам на пастанову ЦБ КП(б)Б «Аб высылцы прафесараў і грамадскіх работнікаў за межы Беларусі» ад 7 верасня 1922 г., у якой сярод іншага прадугледжвалася «падняць у прэсе кампанію супраць антысавецкіх беларусаў – грамадскіх работнікаў з такім разлікам, каб праз месяц выселіць гр. Лёсіка». Пытанне аб «Беларускай граматыцы» Я. Лёсіка 6 кастрычніка 1922 г. разглядалася на пасяджэнні прэзідыума ЦБ КП(б) Б, дзе было пастаноўлена выдаць яго, усклаўшы адказнасць за канчатковую рэдакцыю на намесніка наркома асветы А. В. Баліцкага. У рамках серыі акцый органаў ДПУ Беларусі ў пачатку лістапада 1922 г. Я. Лёсік быў арыштаваны, але ў сярэдзіне снежня быў вызвалены [283]. Калі Лёсік знаходзіўся пад арыштам, 9 лістапада 1922 г., згодна з пастановай калегіі Галоўлітбела, яго «Граматыка» была дазволена да друку, аднак выдавецтва было абавязана зазначыць у прадмове і пасляслоўі, што яно «прынцыпова не згодна з ідэямі, што праводзіць аўтар» [99, с. 17].

Калі такога тыпу рэкамендацыю можна разглядаць як ліберальную, то пазнейшай дзейнасці цэнзурнага ведамства былі больш уласцівы дыктат і забароны. Падрыхтаваная Лёсікам у 1921 г. чытанка «Наша крыніца» ў лютым 1923 г. трапіла ў спіс недазволенай літаратуры як «рэлігійна-шавіністычная».

У рукапісе падручніка «Беларуская мова. Правапіс» у ліпені 1923 г. было зроблена больш за 60 цэнзурных правак; другое выданне было дазволена пасля таго, як было зроблена яшчэ 140 правак. У лістападзе 1924 г. за «контррэвалюцыйныя ідэі» шкодным быў прызнаны напісаны ў 1923 г. артыкул Я. Лёсіка «Асноўны матыў у творчасці М. Багдановіча». Рукапіс падручніка па сінтаксісе быў падпісаны да друку пасля ўчынення ў ім 80 правак [99, с. 17].

Верагодна, кантроль з боку Галоўлітбела за падручнікамі Я. Лёсіка пашыраўся найперш на ўключаныя ў іх моўныя ілюстрацыі, прынамсі, так было з рукапісам яго кнігі па правапісе 1929 г.: пасля яго абмеркавання на калегіі Галоўлітбела ў ім былі скасаваны шэраг моўных прыкладаў. Некаторыя непажаданыя сказы былі забракаваны цэнзурай у 1925 г. у кнізе для чытання «Наша сіла – ніва ды машына», падрыхтаванай М. Байковым і С. Некрашэвічам [99, с. 18]. У гэты момант няма магчымасці вызначыць, ці сягалі прэтэнзіі цэнзараў сфармуляваных у названых кнігах тэарэтычных мовазнаўчых падыходаў і канкрэтных моўных правіл.

З утварэннем СССР праблема «моўнага будаўніцтва» ў Беларусі стала часткай больш шырокага праекта пабудовы сацыялістычнай дзяржавы [515]. Аднак наркамату асветы была дадзена выразная свабода дзеянняў у фармуляванні і рэалізацыі адукацыйнай і моўнай палітыкі. Такая свабода і практычныя дзеянні адукацыйнага органа не мелі адзінадушнай падтрымкі сярод прававерных камуністаў. На 12-й Усебеларускай партыйнай канферэнцыі (сакавік 1923 г.) некаторыя дэлегаты крытыкавалі наркамасветы за празмерную ўвагу да беларускай мовы на шкоду «марксісцкаму, пралетарскаму, класаваму сэнсу культуры». Паводле гэтых крытыкаў, беларуская мова складалася «штучна» і ў такім выглядзе ўкаранялася ў школы і сродкі масавай інфармацыі. Замест гэтага прапаноўвалася пашыраць «пралетарскую культуру» на рускай мове [515, с. 304, 313]. Сама палітыка наркамата на ўмацаванне беларускай мовы магла кваліфікавацца як «шкодны ўхіл на культурным фронце, які можна і трэба спыніць» [22, с. 48].

Пункты, якія мелі дачыненне да ацэнкі тагачаснага стану беларускага мовазнаўства і літаратурнай мовы, а таксама падыходаў да яе фарміравання, у студзені 1925 г. фіксаваліся ў рэзалюцыі «Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы» пленума ЦК КП(б)Б. У прыватнасці, канстатавалася «стракатасць» і «незавершанасць літаратурнай мовы і папулярна-літаратурнай». У рэзалюцыі прызнавалася, што работа над літаратурнай беларускай мовай у асноўным праведзена, аднак, сцвярджалася, «надзвычайна адстала работа па палітычнай, навуковай, юрыдычнай і марксісцкай тэрміналогіі» і, «што асабліва недапушчальна, амаль нічога не зроблена для выпрацоўкі, на аснове вывучэння народнай мовы, уніфікаванай і папулярнай беларускай мовы. Пры гэтым нельга процістаўляць беларускую літаратурную мову папулярнай, якая па меры культурнага росту вёскі будзе абагачацца, ачышчацца, набліжацца да літаратурнай беларускай мовы» [628, с. 161].

Што датычыць ацэнкі адставання дзейнасці ў галіне грамадазнаўчай тэрміналогіі, то, з аднаго боку, яна адлюстроўвала тагачасную зацікаўленасць улад у стварэнні беларускай тэрміналогіі ўвогуле. З другога боку, гэты акцэнт у рэзалюцыі, магчыма, неяк паўплываў на паскарэнне здзейсненых у 1926 г. у серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» выданняў юрыдычнага і грамадазнаўчага слоўнікаў (БНТ-10, БНТ-11).

Што датычыць выпрацоўкі літаратурнай мовы, блізкай да народнай, то гэта важнае ва ўмовах беларусізацыі для эфектыўнасці агітацыйнай і партыйнай работы палажэнне не было арыгінальнай ідэяй, вынашанай у беларускіх партыйных колах у сярэдзіне 1920-х гг. Яно адпавядала падыходам цэнтральных (маскоўскіх) партыйных органаў адносна неабходнасці карыстацца ў практычнай рабоце з насельніцтвам простай, даступнай мовай і, між іншага, супадала з практыкай ранейшых беларускіх партыйных дзеячаў сацыял-дэмакратычнага напрамку. Супадала яно і з меркаваннямі на гэты конт кадыфікатараў беларускай літаратурнай мовы, якія (меркаванні) сфарміраваліся намнога раней (падрабязней гл. 3.4.1).

Мовазнаўчыя пытанні абмяркоўваліся таксама ў рамках дыскусіі аб нацыянальнай палітыцы на кастрычніцкім (1925 г.) пленуме ЦК КП(б)Б. У прыватнасці, было паўторна канстатавана, што ў палітычнай, навуковай і прававой сферах пытанні беларускай мовы знаходзіліся яшчэ толькі ў пачатковай стадыі развіцця. Пленум адзначыў «незасваенне і маруднасць» выканання дырэктывы папярэдняга пленума аб папулярнай беларускай мове, нагадаў аб неабходнасці карыстацца ў газетах простай мовай і паскорыць тэрміналагічную работу. «Непераадолены» погляд на беларускую мову як на выдуманую і штучную кваліфікаваўся ў рэзалюцыі як шавіністычны. У пастанове была таксама зафіксавана неабходнасць дабівацца, каб работа па выпрацоўцы тэрміналогіі «ў максімальнай ступені абапіралася на жывую размоўную мову беларускай вёскі» [628, с. 181]. Меркавальна гэтыя пастановы партыйных пленумаў у частцы спосабу фарміравання беларускай літаратурнай мовы маглі мець толькі дарадчае значэнне для лінгвістаў. Тагачасныя мовазнаўцы мелі ўласныя погляды на фарміраванне беларускай літаратурнай мовы незалежна ад пастаноў партыйных органаў; у лінгвістычных працах гэтага часу не сустракаюцца спасылкі на такога тыпу пастановы.

Інтарэсы палітыкаў і лінгвістаў непасрэдна перасекліся таксама ў сярэдзіне 1926 г., калі першым трэба было нейтралізаваць скліканне за мяжой Усебеларускага з’езда з удзелам В. Ластоўскага, а другім – абмеркаваць праблемы правапіснага і графічнага рэфармавання беларускай мовы. Падрабязна на гэты конт гл. 3.2.1.

Прымяняльна да другога этапу культурнай палітыкі савецкай улады ў БССР, які працягваўся па 1928 г., у літаратуры гаворыцца пра «пошук новых падыходаў да творчасці», адкрыццё музеяў, правядзенне выставак. У гэты час наладжваліся механізмы кіравання асобнымі галінамі, а ў сферы ідэалогіі

назіралася «ліберальная і спарадкаваная лінія паводзінаў з боку самой партыі» [208, с. 3], што, аднак, не выключала кантролю (уключна з сачэннем) за прадстаўнікамі навуковай інтэлігенцыі з боку ўлад, паступовы перагляд партыйных пазіцый у дачыненні да інтэлігенцыі, увогуле, і сутыкненні на гэтай глебе [279, с. 116–185; 158, с. 73–75][17].

З 1928 г. стала канчаткова афармляцца сістэма кіравання культурай, якая прадугледжвала ў тым ліку прамое ўмяшанне партыйных і дзяржаўных улад у творчыя працэсы. Вялікі ўплыў на ўзнікненне некаторых навуковых структур аказалі палітычныя фактары, вялікае значэнне для розных навук мелі ідэалагічныя кампаніі, якія разгортваліся літаральна ў кожнай навуковай галіне [255, с. 47]. У літаратуры выказваюцца меркаванні, што тэрміны фарміравання некаторых арганізацый тыпу ВАРНІТСО – «Усесаюзнай асацыяцыі работнікаў навукі і тэхнікі для садзеяння сацыялістычнаму будаўніцтву ў СССР» (яе статут быў зацверджаны ў лютым 1928 г.) каардынаваліся з палітычнымі працэсамі тыпу «Шахцінскай справы» [363, с. 131, 142–143]. У БССР паварот у культурнай палітыцы замацаваў XII з’езд КП(б)Б 1929 г. і кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б 1930 г. [252; 289; 208]. Гэтыя зрухі адлюстроўваліся на ўмовах працы, дзейнасці і лёсах беларускіх лінгвістаў. Першымі ад новай палітыкі пацярпелі С. Некрашэвіч, В. Ластоўскі, М. Байкоў, Л. Цвяткоў, М. Дурнаво, І. Воўк-Левановіч.

11 верасня 1929 г. на сходзе актыву Мінскай гарадской партыйнай арганізацыі сакратар партыйнай ячэйкі газеты «Звязда» Я. П. Чалядзінскі гаварыў пра выяўленне ў апублікаваных пяці кнігах «Запісак аддзела гуманітарных навук» (выдаваліся пад агульнай рэдакцыяй С. Некрашэвіча) «буржуазнай скарынінскай тэорыі, і крыжоў, і малітоўнікаў». «Савецкасць» С. Некрашэвіча ў гэтым выступленні была ахарактарызавана як «амаль не марксісцкая», кіраўніку акадэмічнай лінгвістыкі ставілася ў віну публікацыя ў «Запісках» уласнага артыкула «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты “О уставах манастирских”», у выніку чаго былі патрачаны «цэлыя лісты на твор аб святым айцы рымскім XVII веку». Прамоўца не разумеў, для якіх мэт праца С. Некрашэвіча была выпушчана «ў сэнсе марксізму». Крытыцы ў выступленні быў паддадзены таксама намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Лёсік, які, «уво-

[17] Вядома, насуперак агульнай падтрымцы навуковай і культурнай сфер ужо на другім этапе культурнай палітыкі савецкай улады ў БССР многія культурніцкія і навуковыя дзеячы не мелі поўнага даверу з боку партыйна-дзяржаўнай іерархіі, а некаторыя сутыкнуліся з непрыманнем. У красавіку 1926 г. гісторыку М. В. Доўнар-Запольскаму было прадпісана выехаць за межы БССР. У матэрыялах 1926 г. створанай на аснове пастановы сакавіцкага (1926 г.) пленума ЦК КП(б)Б камісіі па інтэлігенцыі, якая займалася праверкай работнікаў навуковых устаноў, вышэйшых навуковых устаноў, тэхнікумаў, асветніцкіх арганізацый, Я. Лёсік быў ахарактарызаваны як «нацыянал-дэмакрат», сакратар секцыі мовы і літаратуры У. Чаржынскі – як «нацыянал-дэмакрат», І. Бялькевіч – як «беларускі эсэр», Ф. Імшэнік – «як эсэрствуючы», рускі паводле нацыянальнасці Л. Цвяткоў – як чалавек з «беларускім нацыянал-дэмакратычным ухілам», члены правапісна-тэрміналагічнай камісіі, класікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас – як асобы адпаведна з «леванародніцкім» і «нацыянал-дэмакратычным» ухіламі [279, с. 167, 180–181].

дзячы паланафільскія, польскія словы, усюды стараецца перавесці, каб не было расійскіх слоў, а былі паланафільскія і славянафільскія» [252, с. 129–132].

27 верасня 1929 г. у маскоўскай «Сельскохозяйственной газете» і ў «Комсомольской правде» быў надрукаваны артыкул аб правапартуністычных і нацыяналістычных скажэннях у дзейнасці наркамасветы БССР, перадрукаваны 29 верасня мінскай газетай «Рабочий». Акрамя таго, што ў гэтым артыкуле крытыкавалася дзейнасць нядаўна звольненага наркома асветы БССР А. В. Баліцкага, значная ўвага ў публікацыі была ўдзелена колішнім лідарам беларускага нацыянальнага руху, якія ступілі на шлях супрацоўніцтва з савецкай уладай і займалі пэўныя пасады ў навуковай, культурнай ці адміністрацыйнай сферах. Так, кіраўнік Галоўнавукі С. Некрашэвіч у гэтым артыкуле быў названы «сябрам Луцкевіча, Астроўскага і іншых агентаў Пілсудскага ў Заходняй Беларусі» (А. Луцкевіч у гэты час у савецкім друку характарызаваўся выключна як «фашыст»). Сярод людзей, якія займалі кіраўнічыя пасады ў Акадэміі навук, Навукова-даследчым інстытуце, Сельскагаспадарчым інстытуце, былі названы: «нацыянал-дэмакрат» М. Гарэцкі, «сталыпінец» І. Кіслякоў, «былы памешчык» А. Ясінскі, «нацыянал-дэмакрат, паланізатар беларускай мовы» Я. Лёсік, В. Ластоўскі, М. Байкоў і інш. Схаваны за крыптанімам «А. И.» аўтар артыкула сцвярджаў, што названыя «чужыя і варожыя» асобы не маюць нічога агульнага з пралетарыятам і «пакуль прынеслі Савецкай Беларусі толькі шкоду» [252, с. 144–145]. А. Баліцкі і С. Некрашэвіч адрэагавалі на гэту публікацыю (С. Некрашэвіч напісаў ліст рэдактару газеты). 1 кастрычніка газета «Рабочий» надрукавала нататку, у якой адраклася ад свайго перадруку і назвала яго памылковым.

20 кастрычніка 1929 г. была абнародавана пастанова СНК БССР, згодна з якой за публікацыю ў адным з тамоў «Запісак аддзела гуманітарных навук» артыкула «Дыспалаталізацыя *l* у беларускай мове» заходнебеларускага мовазнаўца і культурніцкага дзеяча Я. Станкевіча рэдактар тома С. Некрашэвіч быў вызвалены з пасады віцэ-прэзідэнта БАН, а В. Ластоўскі – з пасады неадменнага сакратара [145, с. 73].

У лістападзе 1929 г. з працы ў Акадэміі навук былі звольнены член камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы М. Байкоў – «як скампраметаваны ў друку і як чужы па свайму сацыяльнаму паходжанню» [394, с. 141–142; 80, с. 44] – і сакратар Інстытута навуковай мовы Л. Цвяткоў[18]. Апошні падаваў апеляцыю ў прэзідыум Акадэміі навук; вядома, што яго справа разглядалася на пасяджэнні фракцыі КП(б)Б Цэнтральнага бюро секцыі навуковых работнікаў БССР 20 снежня 1929 г. Удзельнікі пасяджэння вырашылі «пастанову мясцкома і агульнага сходу БАН аб выключэнні з членаў Саюза працасветы лічыць правільнай», паколькі дзейнасць Л. Цвяткова пры савецкай уладзе «не насіла характару адмаўлення ад сваіх ранейшых поглядаў» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 14. Спр. 10. Л. 152].

[18] У І. К. Германовіча часам звальнення М. Байкова з акадэміі пазначана сярэдзіна 1930 г. І. І. Шаўчук фіксуе, што М. Байкоў быў звольнены ў кастрычніку 1929 г.

Імёны С. Некрашэвіча і В. Ластоўскага 10 снежня 1929 г. прафігуравалі ў матэрыяле газеты «Звязда», апублікаваным пад трохузроўневым загалоўкам «Навуковая праца Акадэміі пад абстрэлам самакрытыкі. Буржуазнарэакцыйным ідэолагам даць рашучы адпор. Узнімем на належную вышыню працу кафедры марксізму-ленінізму». С. Некрашэвіч крытычна згадваўся ў гэтай публікацыі як аўтар артыкула «Мова кнігі Касьяна Рымляніна Ераміты...», В. Ластоўскі – як чалавек, які змясціў у этнаграфічным зборніку духоўныя вершы. Таксама ў артыкуле ў крытычным святле ўпаміналася публікацыя ў выданнях акадэміі працы «аб евангеллі XIX в.» [770], на ўвазе, відаць, меўся артыкул «Кароткія ўвагі на некаторыя помнікі беларускай мовы ў Ленінградзе» І. Ваўка-Левановіча.

У снежні 1929 г. абвастрылася і на працягу некалькіх дзён прыйшла да свайго вырашэння сітуацыя вакол М. Дурнаво. Пасля паведамленняў маскоўскага друку аб тым, што М. Дурнаво вылучаны ў члены АН СССР, 15 снежня фракцыя КП(б)Б ЦБ секцыі навуковых работнікаў БССР правяла пасяджэнне, на якім разглядала гэта пытанне і ў выніку заявіла пратэст супраць такога вылучэння. У газеце «Звязда» за подпісам «Навуковы працаўнік» быў надрукаваны артыкул з назвай «Рэакцыянеру Дурнаво – не месца ў Акадэміі навук». 18–19 снежня прэзідыум Акадэміі навук пастанавіў падаць дакладную запіску ў СНК БССР аб пазбаўленні М. Дурнаво годнасці акадэміка і звальненні яго з работы [399; 306].

Дзеянні ўрада і акадэмічных структур у справе названых навукоўцаў былі абумоўлены актывізацыяй ідэалагічнай дзейнасці партыйных органаў, якая мела месца ў Беларусі ў 1929 г., асабліва ў другой яго палове. 5–14 лютага 1929 г. адбыўся XII з'езд КП(б)Б, які спрыяў пашырэнню адміністрацыйнасілавых метадаў уздзеяння ў ідэалагічна-партыйнай барацьбе, увогуле, і перагляду пазіцыі ў дачыненні да інтэлігенцыі, у прыватнасці. З 9 мая па 27 чэрвеня 1929 г. у Беларусі з мэтай абследавання практыкі нацыянальнай работы працавала камісія ЦКК ВКП(б) пад кіраўніцтвам старшыні ЦКК кампартыі Украіны У. П. Затонскага. 27 ліпеня 1929 г. газета «Звязда» надрукавала падрыхтаваны па рашэнні бюро ЦК КП(б)Б рэдакцыйны артыкул «Аб правым ухіле ў КП(б)Б па нацыянальным пытанні». У жніўні 1929 г. за подпісам «А. И.» шэсць вялікіх артыкулаў аб палітычным становішчы ў Беларусі надрукавала газета «Комсомольская правда». 5–8 верасня пленум ЦК КП(б)Б абмяркоўваў у тым ліку пытанне неабходнасці ўцягвання інтэлігенцыі ў класавую барацьбу і выкрыцця «кулацка-нэпманаўскіх ідэолагаў». 2 лістапада 1929 г. газета «Звязда» надрукавала рэдакцыйны артыкул «Актыўней павядзём барацьбу з нацыяналдэмакратызмам, ачысцім партыю ад нацыянал-дэмакратычных агентаў, дамо адпор прымірэнчым адносінам да нацыянал-дэмакратызму!». 19 верасня з партыі былі выключаны нарком земляробства Д. Ф. Прышчэпаў і яго намеснік А. Ф. Адамовіч. На працягу восені 1929 г. разгортвалася так званая справа наркома асветы А. В. Баліцкага, з Сельскагаспадарчай акадэміі быў звольне-

ны прафесар І. А. Кіслякоў, у пастанове прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Аб выніках чысткі ячэйкі наркамасветы» выступленне некаторых удзельнікаў падчас чысткі З. Жылуновіча былі кваліфікаваны як «наглая нацыянал-дэмакратычная вылазка» [252, с. 29–193]. 10 лістапада 1929 г. у газеце «Известия» быў надрукаваны артыкул старшыні камісіі ЦКК ВКП(б) У. П. Затонскага «На франтах нацыянальнай культуры, або Правы, левы дзе бок», прысвечаны «мастацтвам» нацыянал-дэмакратызму ў Беларусі. У артыкуле сцвярджалася, што «замазваецца класавы змест нацыяналізму», абвастрэнне якога ў Беларусі «непасрэдна, груба-прымітыўна, выразна і відавочна» звязана з умацаваннем «кулака», крытыкавалася практыка «запабягання перад акадэмікамі» [625] і г. д., і да т. п.

Прыцягненне ўвагі партыйных органаў да навукоўцаў у гэты час, магчыма, было таксама неяк звязана з выкананнем прынятай 26 чэрвеня 1929 г. пастановы ЦК ВКП(б) «Аб навуковых кадрах ВКП(б)» і «пралетарызацыяй» акадэміі, якая пачынала набіраць сілу. У прысвечаным праблеме навуковых кадраў артыкуле, апублікаваным у газеце «Правда» 21 лістапада, з апорай на прадастаўленыя секцыяй навуковых работнікаў звесткі паведамлялася, што больш за палову навуковых работнікаў сталі займацца навукай да 1918 г., а камуністы сярод навукоўцаў складалі толькі 7–8 %. У артыкуле канстатавалася «ажыўленне актыўнасці прадстаўнікоў чужой ідэалогіі» і лічылася патрэбным «увесці ў дзеянне каталізатары, здольныя паскорыць працэс дыферэнцыяцыі сіл унутры навуковых кадраў» [651]. 4 снежня 1929 г. у апублікаваным у газеце «Правда» інфармацыйным матэрыяле паведамлялася, што Маскоўская абласная канферэнцыя навуковых работнікаў палічыла «цалкам своечасовым пераглядзець склад старых акадэмікаў з мэтай выдалення з Акадэміі адсталых у навуковых адносінах і шкодных у грамадскім сэнсе элементаў» [716]. У згаданым артыкуле газеты «Звязда» ад 10 снежня гаворка ішла ў тым ліку пра серыю адкрытых сходаў ячэйкі майстэрань малога рамонту (адбыліся 22, 29 кастрычніка і 5 лістапада), на якіх абмяркоўвалася дзейнасць ячэйкі КП(б)Б БАН. На сходах гаварылася пра тое, што «акадэмікі баяцца рабочай крытыкі <...> замкнуліся ў сваіх кабінетах», супрацоўнікі акадэміі былі заклікаfamы «выйсці ў рабочыя раёны з дакладамі аб рабоце акадэміі» [770]. Адной з важных задач ВАРНІТСО лічылася неабходнасць «папярэджвання і сігналізацыі шкодніцтваў, якія выспяваюць», важнай умовай рэалізацыі такога падыходу называлася «неаслабная пільнасць»; у рамках ВАРНІТСО як кіраўніцтва да дзеяння папулярызаваўся лозунг аб патрэбе ў справе выкрыцця шкодніцтваў «выклікаць на спаборніцтва АДПУ» [363, с. 150].

Да актывізацыі ідэалагічнай дзейнасці ў 1929 г. спрычынілася ДПУ. Так, том з артыкулам Я. Станкевіча прайшоў неабходную праверку ў цэнзурным ведамстве, але справу не прапусціла ДПУ [99, с. 69]. След ДПУ прасочваецца і ў сувязі з другім, вельмі спецыяльным выпадкам: палемічным дакладам І. Ваўка-Левановіча «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы», прачытаным у Акадэміі навук 16 снежня 1929 г. [683, с. 354–380]. Паводле адных ацэнак, поруч з правільнымі палажэннямі гэты даклад меў такса-

ма «шэраг памылковых»; сярод іншага І. Воўк-Левановіч назваў кіраўніцтва мовазнаўчымі ўстановамі Беларусі «нацыяналістычным засценкам» [80, с. 127]. Згодна з іншымі ацэнкамі, даклад змяшчаў «зусім абгрунтаванае ў навуковым плане сцверджанне аб фарміраванні літаратурных моў на інавацыйнай базе» [376, с. 318]. Дыскусія па дакладзе на пасяджэнні не паспела разгарнуцца, дакладчык толькі атрымаў некалькі вострых пытанняў. Пасля пазнейшых публічных палітычных абвінавачванняў у сувязі з гэтым дакладам у 1930 г. І. Воўк-Левановіч пакінуў Беларусь.

Незвычайным у акалічнасцях падрыхтоўкі і ўспрыняцця дадзенага даклада з'яўляецца тое, што выступіць з ім І. Ваўка-Левановіча падгаварыў невядомы сакрэтны супрацоўнік ДПУ, які добра ведаў «вялікадзяржаўныя шавіністычныя», паводле яго слоў, погляды навукоўца [380, с. 352]. Гэты супрацоўнік таксама справакаваў чуткі адносна паводзінаў Ваўка-Левановіча ў часы акупацыі Беларусі немцамі [376, с. 317] і спрыяў негатыўнай рэакцыі на даклад [380, с. 352]. Паводле І. І. Шаўчука, Воўк-Левановіч стаў аб'ектам пільнай увагі ДПУ не пазней чым з 1925 г., у дачыненні да апошняга аўтар ужыў выраз «ішоў на повадзе» ў ДПУ [395, с. 208–209]. Пра тое, што І. Воўк-Левановіч уяўляў каштоўнасць для органаў ДПУ як асоба з пэўнымі поглядамі, можа сведчыць яго наступная характарыстыка, дадзеная ў дакладной запісцы старшыні ДПУ БССР Р. Рапапорта сакратару ЦК КП(б)Б К. Гею 22 мая 1930 г. Р. Рапапорт неадабральна паставіўся да крытычнай ацэнкі меркаванняў І. Ваўка-Левановіча з боку некаторых, у тым ліку высокапастаўленых, членаў партыі: «ад'езд Ваўка-Левановіча з БССР палітычна нявыгадны, бо з яго ад'ездам развальваецца група беларусаў-усходнікаў, якая вядзе бесперапынную барацьбу з групай заходнікаў і расшыфроўвае іх контррэвалюцыйную сутнасць» [308]. У выніку інтрыг навуковая дыскусія па дакладзе І. Ваўка-Левановіча так і не адбылася. 24 снежня 1929 г. у палітычным кантэксце даклад быў згаданы З. Жылуновічам на агульным сходзе супрацоўнікаў акадэміі. Даведаўшыся пра гэта, І. Воўк-Левановіч напісаў заяву ў камісію па чыстцы ячэйкі КП(б)Б, сцвердзіўшы, што яго апаненты ў справе нармавання беларускай літаратурнай мовы маюць «ідэалістычна-нацыяналістычныя антымарксісцкія ўстаноўкі» [380, с. 352–353]. Асоба навукоўца і яго перакананні разглядаліся ў палітычным ракурсе ў газетных публікацыях супрацоўніка кафедры марксізму-ленінізму А. Валабрынскага і загадчыка аддзела друку, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б А. Сянкевіча [570]. У маі 1930 г. даклад І. Ваўка-Левановіча даў падставу ідэнтыфікаваць «антыпралетарскія», «шавіністычныя» ўстаноўкі ў мовазнаўстве, зафіксаваныя ў рэзалюцыі бюро ЦК КП(Б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве» [252, с. 228–229]. Усё гэта стварае выключна спецыфічны кантэкст у працэсе ацэнкі гэтага даклада (падрабязней пра яго гл. 3.4.5).

Аднак звальненні з пасад, траўля і пазбаўленне працы яшчэ не былі для беларускіх мовазнаўцаў на пераломе 1920–1930-х гг. самымі неспрыяльнымі выклікамі. У 1930 г. адбыўся сапраўдны крах беларускай лінгвістыкі. 17 люта-

га 1930 г. быў арыштаваны спецыяліст слоўнікавай камісіі, член правапіснай камісіі Інстытута мовазнаўства І. Бялькевіч. 28 чэрвеня 1930 г. быў арыштаваны яшчэ адзін член правапіснай камісіі – У. Чаржынскі. 29 чэрвеня 1930 г. быў арыштаваны навуковы сакратар ЦБ краязнаўства, укладальнік «Віцебскага краёвага слоўніка» М. Каспяровіч. У ліпені адзін за адным былі арыштаваны ўкладальнік некалькіх перакладных слоўнікаў М. Гарэцкі, укладальнік БНТ-5 М. Грамыка, укладальнік ПРКБС, былы неадменны сакратар БАН В. Ластоўскі, аўтар шматлікіх выданняў правапісаў і граматык, намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства акадэмік Я. Лёсік, дырэктар Інстытута мовазнаўства акадэмік С. Некрашэвіч, член камісіі па складанні слоўніка жывой беларускай мовы Б. Эпімах-Шыпіла. З 6 жніўня 1930 г. на працягу месяца пад арыштам знаходзіўся вучоны сакратар Інстытута мовазнаўства П. Бузук. Мяркуючы па яго перапісцы, а таксама па карэспандэнцыі яго жонкі, аж да пачатку лютага 1931 г. ён хварэў цяжкім псіханеўрастэнічным расстройствам [307, с. 600–601]. Да большасці названых вучоных былі прад'яўлены абвінавачванні ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі. Усё гэта цалкам змяніла навуковы клімат у Беларусі.

## 1.3. ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА ЯК «РУКАТВОРНЫ» АБ'ЕКТ І АСАБЛІВАСЦІ ВЫВУЧЭННЯ ЯЕ ГІСТОРЫІ

### 1.3.1. ЛІТАРАТУРНЫЯ МОВЫ ЯК АБ'ЕКТ ДАСЛЕДАВАННЯ ЛІНГВІСТЫКІ

Пытанне пра тое, ці ўяўляюць сабой літаратурныя мовы каштоўнасць як аб'ект даследавання лінгвістыкі, мае некароткую і няпростую гісторыю. У XIX ст. мовазнаўства яшчэ не займалася стандартнымі мовамі. Яны сталі трапляць у поле зроку лінгвістаў найперш як гістарычныя аб'екты, аднак у першых працах яшчэ недастаткова выразна ўсведамлялася іх спецыфіка. Паводле ацэнкі У. К. Жураўлёва, напрыклад, «Очерк истории современного литературного русского языка» Я. Ф. Буддэ 1912 г. яшчэ неістотна адрозніваўся ад гістарычнай граматыкі [115, с. 86]. Яшчэ ў пачатку 1930-х гг. са спасылкай на «Общее языковедение» А. Томсана 1910 г. Р. Якабсон нагадваў, што младаграматычная школа, у «якой мы былі выхаваны», не лічыла паняцце «нормы» прадметам мовазнаўчых даследаванняў [471, с. 89]. У пачатку XX ст. многія лінгвісты яшчэ лічылі літаратурную мову «штучным стварэннем», пэўнай «аранжарэйнай раслінай», вывучэнне якой у параўнанні з даследаваннем жывых народных моў не мае каштоўнасці [466].

Не існуе адзінай канцэпцыі прызнакаў і функцый літаратурнай мовы ў лінгвістыцы наогул і ў славянскім мовазнаўстве, у прыватнасці [102, с. 15]; такі стан рэчаў звязаны, верагодна, з вялікай колькасцю літаратурных моў і наяўнасцю розных нацыянальных лінгвістычных школ. Часам бывае, што ўжываныя ў рамках адной нацыянальнай навуковай школы навуковыя тэрміны і дэфініцыі патрабуюць спецыяльных намаганняў пры перадачы іх сродкамі іншай нацыянальнай мовы; у такіх выпадках патрабуецца пераклад з адной «навуковай мовы» на іншую, звычайнага перакладу «з мовы на мову» ў такіх выпадках можа быць недастаткова. Выпрацаваць універсальную тэорыю літаратурнай мовы, якую можна было б прымяняць да любой літаратурнай мовы, немагчыма; прынамсі, пакуль яна не створана. Тэорыя, падрыхтаваная, напрыклад, на аснове чэшскай літаратурнай мовы, не абавязкова будзе задавальняць славацкіх лінгвістаў [171, с. 8], і гэта пры тым, што славацкая мова «ў пэўным сэнсе вырастала» з чэшскай [492; прыведзена паводле: 498, с. 466]. Гэта абумоўлена той акалічнасцю, што чэшская і славацкая літаратурныя мовы фарміраваліся рознымі шляхамі, што прывяло да іх неаднолькавага статусу ў рамках тыпалогіі славянскіх літаратурных моў. Славацкая мова, напрыклад, менш уніфікаваная, чым чэшская або польская, мае вялікую колькасць сінонімаў і паралельных марфалагічных сродкаў [498, с. 469–470].

Што датычыць беларускай літаратурнай мовы, то, як і іншыя славянскія, яна займае сваё месца ў рамках агульнай тыпалогіі славянскіх літаратурных моў, збліжаючыся з аднымі славянскімі мовамі па тыпе фарміравання і будучы непадобнай, проціпастаўленай у адносінах да іншых славянскіх моў. Напрыклад, у дачыненні да чэшскай літаратурнай мовы беларуская літаратурная мова можа выступаць як пэўны антыпод [448, с. 29]. З пункту гледжання дзеяння ў славянскіх мовах на працягу іх гісторыі тэндэнцый да дэмакратызацыі мовы пісьменства, да захавання «прэстыжных», традыцыйных формаў мовы пісьменства і тэндэнцыі да збліжэння раней проціпастаўленых і абасобленых сістэм пісьмовай і размоўнай моў беларуская мова поруч з сербскай належаць да крайняга праяўлення першай тэндэнцыі: у абодвух выпадках літаратурная мова фактычна была створана нанова на аснове жывога народнага маўлення [103, с. 143]. Пішучы пра гэту спецыфіку беларускай і сербскай моў, Я. І. Дзёміна адначасова заўважае, што руская і польская мовы развіваліся зусім інакш, на фоне неперарванай літаратурна-моўнай традыцыі[19]. Аддаючы належ-

[19] Як заўважана многімі аўтарамі [436, с. 336; 482, с. 1], руская і польская мовы складаюць спецыфіку не толькі адносна сербскай і беларускай, але і ў дачыненні да ўсіх астатніх славянскіх моў. Толькі руская і польская літаратурныя мовы мелі неперарваную традыцыю развіцця і, як вынік, не ведалі перыяду моўнага адраджэння. З увагі на тое, што беларуская лінгвістыка нярэдка грунтуецца перадусім на расійскай традыцыі [222] і часам толькі ёй і абмяжоўваецца, можна прадбачыць, што прынамсі некаторыя («генетычна» расійскія) ацэнкі беларускай сітуацыі з'яўляюцца штучнымі і неадэкватнымі, не ў дастатковай ступені ўлічваюць спецыфіку развіцця беларускай літаратурнай мовы і яе адрозненне ад развіцця рускай і польскай моў. Беларуская мова не павінна вывучацца пры дапамозе таго самага паняційнага апарату, пры дапамозе якога вывучаюцца руская ці польская літаратурныя мовы.

нае штучнаму характару літаратурных моў, Г. А. Цыхун сцвярджае, што на фарміраванне беларускай літаратурнай мовы аказалі значны ўплыў падыходы сербскага рэфарматара В. Караджыча, а таксама праводзіць паралель з задачамі, якія стаялі перад кадыфікатарамі македонскай літаратурнай мовы: нейтралізацыя культурнага, моўнага і іншых уплываў суседзяў, а таксама кансалідацыя народа на моўнай аснове [376, с. 268–269].

Гэтыя складаныя акалічнасці «лакалізацыі» беларускай літаратурнай мовы ў рамках агульнай славянскай тыпалогіі, спецыфіку яе фарміравання і развіцця, тыпалагічна падобныя, а таксама адрозныя з’явы ў гісторыі іншых (роднасных) літаратурных моў варта прымаць пад увагу пры вывучэнні гісторыі фарміравання сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Характарызуючы моўны сінкрэтызм беларускіх мастацкіх твораў XIX ст., Г. А. Арцямёнак апелюе да падобных працэсаў у моўнай практыцы балгарскай, славацкай, славенскай і ўкраінскай моў [14, с. 21]. Вялікія заслугі ў распрацоўцы адпаведных прац мае нямецкі навуковец К. Гутшміт, які ў шэрагу сваіх артыкулаў «фактычна ўпершыню даследаваў важнейшыя напрамкі развіцця сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў параўнанні з такімі славянскімі мовамі, як руская, польская, балгарская і сербскахарвацкая <...> звярнуў увагу на ролю ўкраінскай мовы ў станаўленні слоўнікавага складу» [292, с. 56]. Параўнальны аспект у поўнай меры быў выкарыстаны К. Гутшмітам у працэсе даследавання славянскіх літаратурных моў другой паловы XIX ст.– пачатку XX ст. [465]. Нямецкі даследчык вядомы і тым, што ён уважліва адрэцэнзаваў калектыўную працу беларускіх аўтараў па гісторыі беларускай літаратурнай мовы [464].

Развіццю тыпалагічных даследаванняў у славістыцы моцна паспрыяла заснаваная ў 1970 г. пры Міжнародным камітэце славістаў камісія славянскіх літаратурных моў, якая па стане на 1992 г. правяла 13 пасяджэнняў у розных краінах. Праца камісіі мела значэнне не толькі для выпрацоўкі важных пытанняў, звязаных з тэорыяй літаратурных моў (норма і кадыфікацыя, іх варыянтнасць, дынаміка, тып літаратурнай мовы, стратыфікацыя літаратурнай мовы, стылёвая дыферэнцыяцыя і інш.), але і для асэнсавання праблем гістарычнага развіцця славянскіх літаратурных моў. У 1973, 1983 і 1987 гг. былі праведзены тры пасяджэнні камісіі з выразным гістарычным ухілам, прысвечаныя юбілеям чэшскага і сербскага лінгвістаў Ё. Юнгмана і В. Караджыча, а таксама гісторыі славянскіх літаратурных моў у другой палове XIX ст. [472]. На першым этапе дзейнасці камісіі ад беларускага боку ў яе пасяджэннях браў удзел А. І. Жураўскі, які апублікаваў шэраг дакладаў у рамках падрыхтаваных камісіяй выданняў [121; 117; 118; 516]. З 1998 г. у працы камісіі ўдзельнічае Н. Б. Мячкоўская [238; 240].

Аўтары, якія спецыяльна займаюцца літаратурнымі мовамі, падкрэсліваюць важнасць дыяхранічных аспектаў даследавання. Так, Н. Б. Мячкоўская звяртае ўвагу на тое, што сінхранічная па сваёй прыродзе, сацыякультурная характаралогія літаратурных моў, трохі парадаксальна, можа быць адэкватна

ўстаноўлена толькі з улікам дыяхранічных ракурсаў: прычынна-гістарычнага разумення своеасаблівасці літаратурнай мовы [239, с. 105]. Варты ўвагі напамін пра тое, што «ў працэсе ацэнак моўных фактаў немагчымым з'яўляецца адрыў ад іх гістарычнай абумоўленасці» [450, с. 6–7]. Відавочна, такое патрабаванне тым больш мае сілу пры ацэнцы моўных з'яў не вельмі далёкай гісторыі, якія з розных прычын аказаліся маргінальнай часткай сучаснай мовы або і ўвогуле засталіся па-за яе рамкамі.

Вызначэння нейкіх «магістральных» падыходаў у развіцці літаратурнай мовы (беларускай у тым ліку) можа быць недастаткова. Напрыклад, важным пытаннем гісторыі розных літаратурных моў з'яўляецца роля моў, якія могуць брацца за своеасаблівы ўзор, эталон (у рамках славянскіх моў такімі найчасцей былі чэшская і руская). Аднак у гісторыі бывала і так, што роля пэўнага эталона на адным этапе стандартызацыйных працэсаў была плённай, а на іншым – не [448, с. 30].

Не існуе нязменнага стану літаратурнай мовы, кожны этап развіцця мовы, сцвярджаў С. І. Ожагаў, мае свае нормы [262, с. 259]. У сувязі з гэтым важна падкрэсліць, што розныя перыяды гісторыі літаратурных моў, розных паводле свайго тыпу, характару і развіцця, маюць вывучацца з улікам спецыфічных, скіраваных на асэнсаванне менавіта гэтых моў і гэтых перыядаў, падыходаў.

Неабходнасць пашырэння і паглыблення даследаванняў у галіне гісторыі літаратурных моў, вывучэння сувязі гісторыі мовы з гісторыяй народа ў 1980–1990-я гг. спрыяла ўзнікненню самастойнай дысцыпліны – дыяхранічнай сацыялінгвістыкі, засяроджанай на знешняй гісторыі мовы і розных моўных утварэнняў у канкрэтным, гістарычна зменлівым соцыуме; прадметам дыяхранічнай сацыялінгвістыкі з'яўляецца гісторыя «знешняй» моўнай сістэмы, гісторыі функцыянавання, развіцця і ўзаемадзеяння моў [113; 115; 116]. Важнасць гэтай дысцыпліны для вывучэння літаратурных моў у іх гістарычна-сацыяльным развіцці заключаецца сярод іншага ў тым, што яна мае справу з сацыяльна абумоўленымі моўнымі працэсамі, у той час як сінхранічная сацыялінгвістыка даследуе сацыяльна дэтэрмінiраваныя адносіны [181, с. 131, разрадка аўтара]. Няпоўны ўлік «знешніх» фактараў пры інтэрпрэтацыі гісторыі літаратурнай мовы, недастаткова выразнае адрозненне гісторыі мовы ў генетычна-лінгвістычным разуменні ад гісторыі літаратурнай мовы ў яе сацыялінгвістычным разуменні можа кваліфікавацца як пэўны недахоп некаторых нацыянальных школ лінгвістыкі пры вырашэнні прыватных праблем [468].

## 1.3.2. НАРМАТЫЎНЫ ХАРАКТАР ЛІТАРАТУРНЫХ МОЎ

Ідэя стандартызацыі (нармалізацыі) моў, якая паспрыяла ўтварэнню шматлікіх літаратурных моў, развілася не па якіх-небудзь «іманентных» моўных або лінгвістычных прычынах, але, як сцвярджаецца, была вынашана ўрадамі, яна цесна звязана з фарміраваннем сучаснага народа-дзяржавы. У XIX ст. поруч з часткова звернутай «назад» прымардыялісцкай нацыяна-

лістычнай рыторыкай моўная стандартызацыя была адным з вырашальных праектаў будучыні, нацыянальнай мадэрнізацыі, абавязковым у кантэксце індустрыяльнага капіталістычнага ўздыму, урбанізацыі, рацыянальна-бюракратычнага ўладкавання дзяржавы і ўзнікнення цывільнага грамадства. У XIX ст. моўная стандартызацыя экспліцытна звязвалася з такімі паняццямі, як «эфектыўнасць», «прагрэс» і «рацыянальнасць». У цэнтры грамадскіх дэбатаў, звязаных з моўнай нармалізацыяй, з сацыялагічнага пункту гледжання ляжаць не (с)толькі канкрэтныя моўныя з'явы, колькі пытанні культурнай і палітычнай ідэнтычнасці ўвогуле [470, с. 122]. У сувязі з тым, што моўная стандартызацыя не абмяжоўваецца адзіна лінгвістычнымі аспектамі, важнымі ракурсамі яе вывучэння ў працах, якія належаць да этнаграфічнага (у заходняй тэрміналогіі) напрамку, з'яўляецца даследаванне яе гістарычнай, палітычна-эканамічнай і культурнай спецыфікі, а таксама разнастайнасці шляхоў, дзякуючы якім канкрэтная мова становіцца стандартызаванай. Важна таксама вывучаць выкарыстоўваныя ў працэсе стандартызацыі стратэгіі і тактыкі, процістаянне гегемоніі стандарту і спаборніцтва з ім [470, с. 122]. У рамках ужывальнай у славістыцы навуковай парадыгмы стандартызацыйныя працэсы ўключаюць наследаванне (або выбар) пісьма, распрацоўку графікі і арфаграфіі, інтэлектуалізацыю мовы, дасягненне аўтаноміі ад уласнай дыялектнай базы, функцыянальнай палівалентнасці і эластычнай стабільнасці, разбудову нормы, тэрміналогіі і наменклатуры, функцыянальных стыляў [448, с. 26]; на думку некаторых аўтараў, развіццё славянскіх літаратурных моў увогуле вызначалі тры тэндэнцыі: тэндэнцыя да ўніфікацыі, тэндэнцыя да аддзялення і тэндэнцыя да дасягнення прэстыжу [475; прыведзена паводле: 498, с. 466]. Для беларускай лінгвістыкі застаюцца асабліва актуальнымі тэмамі даследавання як агульныя сацыялагічныя аспекты стандартызацыі, так і праблемы інтэлектуалізацыі мовы, дасягнення ёй гнуткай стабільнасці, разбудовы функцыянальных стыляў і інш.

Пры тым, што існуючыя ў соцыуме нормы часам падаюцца як частка «ўсім вядомых ведаў», пры тым, што гэтыя нормы нібыта павінны быць сацыяльнай канвенцыяй, якая нізыходзіць (спускаецца) на моўную структуру і моўнае ўжыванне [444, с. 520], мове, тым не менш, заўсёды спадарожнічае ідэалагічная нагрузка, якая стварае ўмовы для пэўнага сацыяпалітычнага ацэньвання розных нашых выказванняў. Іншымі словамі, «моўнаму ўжыванню ўласціва нарматыўнасць, але не ў тым сэнсе, што яно заўсёды кіруецца ўсталяванымі нормамі, але ў тым сэнсе, што кожны акт камунікацыі будзе падлягаць ацэнцы на аснове (часта імпліцытных) падзяляемых усімі комплексаў індэкснасцей (indexicalities) – тых комплексаў індэкснасцей, якія ствараюць аснову моўных супольнасцей» [444, с. 520]. З прычыны пашыранага ўяўлення пра тое, што нормы моўнага ўжывання фарміруюцца самі па сабе, наяўнасць у пэўным соцыуме выразнай, усвядомленай ім, прэскрыптыўнай практыкі, верагодна, можа спрыяць тым больш абвостранаму ацэньванню моўнага ўжывання і (як бы «незаўважнай» у іншых выпадках) кадыфікацыі.

## 1.3.3. МОВАЗНАЎЦЫ І ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

Вышэй (1.3.2) прыведзена меркаванне аўтара артыкула «Стандартызацыя» ў шматтомнай «Энцыклапедыі мовы і лінгвістыкі», які ўказвае, што працэс моўнай стандартызацыі можа падавацца як пэўны від «натуральнага адбору», пры гэтым будзе лічыцца, што моўная нармалізацыя не падлягае кантролю з боку чалавека. Такія грамадскія інстытуты, як адукацыя, сродкі масавай інфармацыі і акадэмічная лінгвістыка, пры такім падыходзе разумеюцца нібыта толькі як перадатчыкі «натуральнага» ходу моўнага развіцця. Асэнсоўваючы гэта пытанне, самі лінгвісты, аднак, указваюць на сваю ролю ў працэсе фарміравання мовы. Напрыклад, славацкі мовазнавец П. Гарэцкі разважае над тым, праз пасрэдніцтва якога спосабу і тэхнікі здзяйсняецца (мае здзяйсняцца) кадыфікацыя. Ён звяртае ўвагу на тое, што ў многіх моўных супольнасцях прадпісанні выдае нейкая аўтарытэтная асоба (якая мае паўнамоцтвы рэкамендаваць) або больш ці менш прыватны, неафіцыйны калектыў (напрыклад, складальнікі слоўнікаў «Webster» або «Duden»). У іншых супольнасцях, да якіх належыць і славацкая, у якасці рэкамендацыйнага органа функцыянуе пэўны афіцыйна выбраны і зацверджаны калектыў у рамках якой-небудзь агульнанацыянальнай культурнай або навуковай установы. На працягу XX ст. такія рэкамендацыйныя функцыі мелі рэдактар славацкіх друкаваных выданняў «Slovenské pohľady» і «Slovenské národne noviny» Ё. Шкульцеты, Маціца славацкая, Інстытут мовазнаўства імя Л. Штура Славацкай акадэміі навук [89, с. 218]. Роля лінгвістаў можа бачыцца настолькі значнай, што, сцвярджаецца, калі яны займаюцца адборам і кадыфікацыяй увасобленых у літаратурнай практыцы варыянтаў, каб увасобіць адзінства моўнай нормы, то тым самым яны «бяруць лёс мовы ў свае рукі» [254, с. 247]. Паводле аднаго з класікаў мовазнаўства XIX ст. В. Гумбальта, граматысты ўключаюцца ў кадыфікацыю мовы тады, калі над ёй ужо папрацавалі пісьменнікі: «на дапамогу гэтым тварцам, якія прыдаюць мове яе жывое аблічча, прыходзяць граматысты і наносяць апошні штрых на завершаную карціну мовы. Тварыць не іх задача <...> Але яны адкідаюць лішняе, абагульняюць, ліквідуюць нерэгулярнасці і запаўняюць прабелы» [101, с. 163; цыт паводле: 254, с. 248]. Рэцэнзуючы зборнік артыкулаў македонскага аўтара Т. Стаматоскага «Барацьба за македонскую літаратурную мову», рэцэнзент кнігі Ж. Башнякавіч зазначае, што ў адным з яе вялікіх раздзелаў большасць параграфаў прысвечаны мове канкрэтных асоб, падручнікаў або нейкіх іншых пісьмовых тэкстаў, у той час як колькасць параграфаў, якія прадстаўлялі б агульную гісторыю македонскай мовы, меншая. Рэцэнзент далучаецца да канстатацыі аўтара рэцэнзаванай кнігі адносна грамадскай функцыі навуковай і выхаваўчай працы, якая праявілася ў дзейнасці Б. Канескага і іншых македонскіх лінгвістаў: дзякуючы такой дзейнасці македонская мова атрымала «вялікае прызнанне ў сваёй краіне і за яе межамі» [42, с. 215, 217]. Несумненнай з'яўляецца роля мовазнаўцаў у такой навукова-прыкладной сферы як культура маўлення. У літаратуры заўважаецца,

што менавіта мовазнаўцы вучаць і «неаднаразова вырашаюць пытанні правільнасці тых або іншых сумніўных формаў, выдаюць слоўнікі» [513, с. 310]; значыць, адказ на пытанне пра тое, ці павінны мовазнаўцы не толькі ўдзельнічаць у адпаведным дыскурсе, але і «кіраваць гэтым працэсам» [450, с. 7], для многіх лінгвістаў з'яўляецца зусім відавочным.

Увогуле, найбольш паўнацэнна свядомае ўздзеянне грамадства на развіццё мовы рэалізуецца ў перыяд складвання нацыянальна-літаратурных моў [236, с. 112–121]. У XIX ст., напрыклад, славянскія мовы развіваліся не «з чыстага ліста», а мелі сваёй апорай пэўны тэарэтычны фундамент [115, с. 85]. Уплыў грамадства на мову апасродкуецца праз дзейнасць канкрэтных асоб.

Добрай лабараторыяй для такога тыпу даследаванняў служылі і служаць працы славістаў, асабліва прысвечаныя тым мовам, якія некалі зведалі ў сваім развіцці перыяды заняпаду (гэта значыць, усім славянскім мовам, за выключэннем рускай і польскай). У славістыцы існуюць асобныя працы, аўтары якіх імкнуцца паказаць наяўнасць нейкіх канкрэтных рыс у канкрэтных сучасных славянскіх літаратурных мовах не праз тое, што гэтыя рысы нібыта ўласцівы «сістэме» гэтай мовы, але таму, што гэтыя рысы былі ўведзены «штучным шляхам» тым або іншым кадыфікатарам і адлюстроўвалі асабістыя прыхільнасці гэтага кадыфікатара. У гэтым плане заслугоўвае ўвагі артыкул 1967 г. брытанскага славіста Роберта Оці «Унутраныя і знешнія фактары ў развіцці славянскіх літаратурных моў», апублікаваны ў сёмым томе серыі «Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej» [434].

У артыкуле Р. Оці зроблена цікавая спроба дакладна адмежаваць змены ў мовах, якія адбываюцца пад уздзеяннем іманентнага развіцця гэтых моў, ад тых зменаў, якія выкліканы знешнім уплывам на мову, «навязаны» мове. На думку брытанскага славіста, аперыраваць адзіна ўнутранымі фактарамі прымальна толькі ў тых выпадках, калі мы займаемся мовамі супольнасцей, якія не маюць пісьменства, або праводзім рэканструкцыю моў, на якіх гаварылі тады, калі не існавала пісьмовых запісаў. Калі ж мы займаемся дадзенымі моў пачынаючы з сярэдзіны XVIII ст. (калі ўжо выпадае гаварыць пра нацыянальную свядомасць, пашырэнне адукацыі, развіццё складаных структур сучасных дзяржаў), калі мы сягаем у час, калі мовы сталі аб'ектам наўмыснага (deliberate) культывавання і мадыфікацый, то зусім неабходна ўлічваць знешнія – як сацыяльныя, так і асабістыя – чыннікі. У такім падыходзе, паводле Р. Оці, няма адмаўлення прыроды мовы як сістэмы, але гаворка ідзе пра тое, што неабходна вывучаць розныя складаныя спосабы, праз якія моўная сістэма існуе і развіваецца.

Брытанскі славіст лічыў, што ўплыў на моўнае развіццё асоб (навукоўцаў, пісьменнікаў, палітыкаў) або інстытуцый (акадэмій, таварыстваў, урадаў) можна выразна назіраць акурат у галіне славянскіх моў, і асабліва моў Цэнтральнай Еўропы і Балканаў. У гэтым рэгіёне моўныя адраджэнні былі інспіраваны і кіраваны інтэлектуаламі-нацыяналістамі, якія часта намагаліся «накінуць» на новую або адноўленую мову пэўныя фаналагічныя, марфалагічныя або

арфаграфічныя характарыстыкі, якія паходзілі з пануючай ідэалогіі або нават з уласных ідыясінкрэтычных поглядаў названых асоб. Незалежна ад таго, ці інтэрвенцыі гэтага роду павінны прыпісвацца ціску сацыяльнага развіцця ці адвольным поглядам нейкіх людзей, у абодвух выпадках яны павінны характарызавацца як знешнія чыннікі.

У чэшскай мове знешнім чыннікам, які мадыфікаваў моўнае развіццё, Р. Оці палічыў кадыфікацыю Ё. Добраўскага. У славацкай мове знешнім чыннікам брытанскі славіст прызнаў кадыфікацыі Л. Штура і М. Гаталы, сцвердзіўшы, што развіццё славацкай мовы нельга разглядаць як натуральнае або непазбежнае: тут дзейнічалі знешнія фактары і адвольнае ўмяшанне канкрэтных асоб. Уклад у фарміраванне сербскай мовы зрабіў В. Караджыч, які «вынайшаў» новую літаратурную мову на аснове яго роднага дыялекту. Ці не яшчэ больш відавочным у ракурсе разгляданай тэмы было прыняцце новай літаратурнай мовы ў Харватыі, дзе мова была вельмі блізкай да мовы В. Караджыча. Славяне-каталікі Харватыі, Далмацыі і Славоніі мелі раней, прынамсі, тры літаратурна-пісьмовыя традыцыі, угрунтаваныя на розных дыялектах, аднак сталася так (і гэта было непрадказальна), што дзякуючы Л. Гаю і яго паплечнікам у рамках ілірыйскага руху насельнікам адпаведных тэрыторый менш чым за 20 гадоў была накінута літаратурная мова, не падобная да ніводнага з трох ранейшых варыянтаў [434].

Увогуле, роля канкрэтных асоб у фарміраванні розных славянскіх моў у апошні час шырока асвятляецца ў літаратуры. Так, напрыклад, сцвярджаецца, што чэшская літаратурная мова ў яе сучасным выглядзе («spisovná čeština») узнікла дзякуючы дзейнасці Ё. Добраўскага як пэўнае «штучнае моўнае ўтварэнне» [498, с. 469]. У нядаўна падрыхтаванай працы па гісторыі славацкай літаратурнай мовы гісторыя мовы «літаратурнага перыяду» дзеліцца на этапы, назвы якіх паходзяць ад прозвішчаў вядомых кадыфікатараў славацкай мовы або ад грамадскіх аб’яднанняў, якія дыктавалі моўнае ўжыванне: «берналакаўскі» этап (ад імя А. Берналака), «штураўскі» этап (ад імя Л. Штура), «мацічны» этап (ад слова «маціца»), «марцінскі» этап (ад назвы горада Марцін). Апісанне берналакаўскага і штураўскага перыядаў славацкай літаратурнай мовы ў сукупнасці склала адну пятую частку ўсёй манаграфіі. На думку аднаго з рэцэнзентаў гэтай кнігі, уключаныя ў большасць глаў спецыяльныя профілі або характарыстыкі асоб, якія ігралі ў рамках адпаведных этапаў дамінуючую ролю, складаюць арганічную частку кнігі [495, с. 100–101][20]. Дзейнасць канкрэтных кадыфікатараў можа прыводзіць у тым ліку да зруху дыялектнай базы літаратурнай мовы; так, у Славакіі на змену

[20] Барацьба паміж рознымі культурна-моўнымі канцэпцыямі, вылучанымі рознымі мовазнаўцамі, не была простым, адарваным ад жыцця, «тэарэтызаваннем», яна ўплывала на засваенне той або іншай формы літаратурнай мовы той або іншай часткай грамадства. Напрыклад, у выніку прыняцця ў рамках культурна-моўнай барацьбы «выпраўленай штураўшчыны» ў сярэдзіне XIX ст. носьбітамі славацкай літаратурнай мовы станавіліся не толькі духавенства і інтэлігенцыя, як гэта было раней, але таксама і мяшчане, рамеснікі, сяляне [343, с. 71].

ўгрунтаванай пераважна на заходніх гаворках кадыфікацыі А. Берналака пазней прыйшла кадыфікацыя Л. Штура, заснаваная на схаваных ад чужога ўплыву сярэднеславацкіх гаворках [339]. Стваральнікам македонскай літаратурнай мовы з'яўляецца К. Місіркаў [42, с. 215–216; 376, с. 268–272]. У манаграфіі па гісторыі балгарскай літаратурнай мовы спецыяльны раздзел прысвечаны дзейнасці Г. Ракоўскага ў галіне стварэння архаізаванай версіі балгарскай мовы [54, с. 42 і наст.]. У іншай манаграфіі ў рамках агляду кадыфікацыі балгарскай стандартнай мовы спецыяльная ўвага ўдзяляецца правапісу слоўніка Н. Герава, пурыстычным працам А. Тэадорава-Балана (аўтара, які адстойваў свае погляды на балгарскую стандартную мову з «зайздроснай упартасцю»), сцвярджаецца, што дэскрыптыўны пачатак балгарскай кадыфікацыі ў перыяд пачатковай фазы нацыянальнага адраджэння меў хутчэй інтэнцыянальны характар, пры гэтым суб'ектыўны фактар выходзіў на пярэдні план. У гэтай працы ўказваецца, што з традыцыйнага ўяўлення пра літаратурныя школы ў гісторыі балгарскай стандартнай мовы можа вынікаць, што нібыта нормы балгарскай стандартнай мовы выпрацоўваліся «выключна і адзіна шляхам шматлікіх спробаў яе кадыфікацыі» [84, с. 310–322, 354–359, 303–304]. У балгарыстыцы існуе спецыяльная публікацыя пра В. Стаянава як «будаўніка» новабалгарскай літаратурнай мовы [310]. І г. д., і да т. п.

Адносіны лінгвістыкі да развіцця мовы на розных гістарычных этапах могуць быць неаднолькавымі і фактычна арыентаванымі на дасягненне процілеглых мэт. З аднаго боку, па меры развіцця лінгвістыкі і паралельнага станаўлення і развіцця літаратурных моў прэскрыптыўны напрамак у межах мовазнаўства становіцца ўсё менш заўважным. Пераважнай тэндэнцыяй сучаснасці з'яўляецца «вызваленне» мовы ад апекі прэскрыптыўнай лінгвістыкі [497, с. 56]. Сталенне стандартных моў, запаўненне ўсё большай колькасці «клетак» моўнай сістэмы пакідае ўсё меншыя магчымасці для дзеяння прэскрыптыўнай лінгвістыкі. З другога боку, можа сцвярджацца, што «на сучасным этапе няма чыста спантаннага развіцця мовы. Асабліва з XIX ст. вялікі ўплыў на развіццё мовы аказвае тэорыя, перш за ўсё нарматыўная тэорыя, г. зн. граматыка (у гутарковым значэнні гэтага слова) і арфаэпія. Паколькі існуе такі ўплыў, то мы павінны адказваць за яго напрамак» [439, с. 32; цыт. паводле: 450, с. 7]. О. Улічны выдзеліў у сучасным стаўленні чэшскіх лінгвістаў да літаратурнай мовы тры пазіцыі. Адны мовазнаўцы адносяцца да літаратурнай мовы ліберальна, нават абыякава; другія ўлічваюць функцыянальную спецыфіку моўных сродкаў, а трэція аддаюць перавагу падыходам тыпу моўнай інжынерыі [505, с. 62]. На аснове ўдзелу тых або іншых польскіх лінгвістаў у папулярна-навуковай дзейнасці Ф. Нецкуля вылучыў групу «памяркоўных пурыстаў» (сюды залічаны А. Брукнер, З. Клемянсевіч і С. Урбаньчык) і навукоўцаў, якія занялі б хіба «незалежнае месца дзесьці пасярэдзіне паміж памяркоўнымі пурыстамі і памяркоўнымі лібераламі» (В. Дарашэўскі) [485, с. 7–8]. Увогуле, як заўважыў Р. Оці, вывучаць гісторыю літаратурных моў азначае вывучаць

таксама гісторыю грамадскіх і дзяржаўных фармацый, азначае вывучаць характар і погляды канкрэтных асоб [432, с. 161].

Рэалізаванае праз дзейнасць канкрэтных асоб, само зараджэнне навукі аб гісторыі літаратурных моў было вынікам пэўнага «сацыяльнага заказу», вырашэння задач «моўнага будаўніцтва» славянскіх моў ХІХ ст. У нарысе рускай мовы А. А. Шахматава 1941 г. гісторыя рускай літаратурнай мовы была прадстаўлена ў значнай ступені як гісторыя рускай культуры і рускай адукаванасці [115, с. 85–86]. Спробы «выдаліць» сацыяльна-чалавечы аспект з гісторыі літаратурных моў, цалкам «ачысціць» навуковыя дыскусіі ад палітычных канатацый або своеасаблівая «дыскрэдытацыя» колішніх падыходаў у фарміраванні літаратурных моў [параўн., напрыклад: 225][21] адлюстроўваюць уяўленне аб літаратурных мовах як цалкам незалежных ад сацыяльнага кантэксту з'явах і ўяўляюць сабой неадэкватнае «вымярэнне» гістарычнай рэчаіснасці пры дапамозе сучасных крытэрыяў.

У беларускай лінгвістыцы тэма «стваральнікі беларускай літаратурнай мовы» прымянальна да канкрэтных асоб-мовазнаўцаў не з'яўляецца папулярнай. Угрунтаваны на дзейнасці гэтых асоб «суб'ектыўны» ракурс развіцця беларускай літаратурнай мовы прадстаўлены пераважна ў той частцы даследаванняў па гісторыі мовы, дзе гаворка ідзе пра тую «гістарычную» частку сучаснай мовы, якая была адкінута ў 1930-я гг. як «нявартая» спадчына, навязаная беларускай літаратурнай мове «нацдэмамі». Такі падыход у значнай ступені з'яўляецца наступствам захавання дзеяння старой дактрыны аб нарастанні класавай барацьбы па меры поспехаў у пабудове сацыялістычнага грамадства, пры гэтым дзейнасць выкрытых у 1930-я гг. «ворагаў-мовазнаўцаў» ілюструе гэтую дактрыну. Насуперак таму, што ў працэсе фарміравання іншых славянскіх моў аспект сацыяльнай, рэлігійнай, ідэалагічнай, нацыянальна-культурнай і інш. барацьбы мог пранізваць значную частку іх гісторыі [параўн., напрыклад: 170; 340; 107; 341; 349; 342; 343], у беларускіх працах па гісторыі літаратурнай мовы новага перыяду аспект барацьбы выразна прадстаўлены пераважна толькі ў раздзеле аб 1930-х гг., параўн.: [389, с. 297–305]. Выглядае так, што стваральнікамі беларускай літаратурнай мовы імкнуліся быць толькі (надоўга выведзеныя па-за рамкі гісторыі беларускага мовазнаўства) Я. Лёсік і В. Ластоўскі. Мова, якая сцвердзілася ў барацьбе 1930-х гг. (уласна сучасная беларуская літаратурная мова), лічыцца пры такім падыходзе «аб'ектыўнай», «правільнай» версіяй, якая сфарміравалася ў значнай ступені «натуральным шляхам». Такі падыход грашыць на пэўны схематызм і не ўлічвае той акалічнасці, што фарміраванне сучаснай версіі беларускай літаратурнай мовы таксама не абышлося без прэскрыптыўных падыходаў і дзеяння суб'ектыўных фактараў.

[21] Напрыклад, дзейнасць «шышкоўскай» школы пачатку XIX ст. У. В. Люшцікам характарызуецца пры дапамозе такіх ацэнак, як «агрэсіўны характар», «прымусовыя меры», «валюнтарысцкія прадпісанні», а наконт палемікі паміж «традыцыяналістамі» і «рэфарматарамі» сцвярджаецца, што такая дыскусія выходзіла за межы навуковай, набываючы палітычнае адценне [225, с. 124, 127].

Частку сучасных слоўнікавых рэгламентацый у беларускай літаратурнай мове з прычыны іх апоры на пэўную канвенцыю, улік спецыфікі гістарычнага развіцця беларускай мовы, дзеянне прадпісальнай практыкі мовазнаўцаў (а не на «сістэмныя» пачаткі беларускай мовы) можна прызнаць «умоўнымі», «адноснымі». Пра некаторыя такія з'явы (неўключэнне ў лексікаграфічныя працы слоў *відзець, громка, давольны, дзела, ждаць, непрыметны, палучаць, явіцца* і інш.) пісаў А. Я. Баханькоў [20, с. 61–63]. Незалежна ад ацэнкі прапаноў такога роду трэба прызнаць, што ў выпадку неўключэння названых лексем у слоўнікі мы маем справу з даволі добра адчувальным прэскрыптывізмам, які не заўсёды, як магло б здавацца, арыентуецца на моўную сістэму. Парадаксальным тут можа з'яўляцца тое, што ў гэтай сваёй крытыцы недахопаў прынятай лексічнай кадыфікацыі А. Я. Баханькоў хутчэй аказаўся своеасаблівым «дысідэнтам», ён, бадай, не быў бы падтрыманы іншымі беларускімі лінгвістамі. Тое, што сярод кадыфікаваных лексічных нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы існуюць і выразна «прэскрыптывісцкія», якія супярэчаць моўнай сістэме і моўнаму ўжыванню, – гэта асаблівасць сучаснай беларускай мовы. Разгледзім яшчэ два прыклады.

У ТСБМ слова *счэзнуць* пададзена толькі са значэннем 'зачахнуць, заняпасці', не фіксуецца са значэннем 'знікнуць' і мае абмежавальную стылістычную памету «разм.». Адпаведна ў РБС рус. *исчезнуть* на беларускую мову перакладаецца як *знікнуць*, а ў БРС слова *счэзнуць* дадзена як *исчахнуть, зачахнуть*. З такой кадыфікацыі можа выглядаць, што ў беларускай мове дзеяслоў *счэзнуць* у значэнні 'знікнуць' не ўжываецца. Але, прынамсі, у дачыненні да народнай мовы вядома, што гэта не так. Формы *счэзаць, счэзнуць, счэза* 'пагібель' фіксуюцца, напрыклад, у «Тураўскім слоўніку». У ЭСБМ яны тлумачацца ў рамках беларускай мовы, робіцца спасылка да *чэзнуць* (ЭСБМ 13, с. 113). Аднак і ў дачыненні да літаратурнага ўжывання ў гістарычным плане сітуацыя, аказваецца, не такая адназначная, параўн.: *саўсім* ***счазае****... балотныя травы пакрысе* ***счазаюць****... фауна* ***счэзла*** (Смол. 23/93); *усё* ***шчэзла*** *без следу* (Крыв. 1923; ужыта В. Ластоўскім). Тым не менш у падрыхтаваным В. Ластоўскім ПРКБС і ў РБС-28 слова *счэзнуць* не фіксавалася не толькі ў значэнні 'знікнуць', але нават і ў значэнні 'зачахнуць, заняпасці'. Бел. *счэзнуць* у значэнні 'знікнуць' не было прадстаўлена ў РБС-37 і ва ўсіх наступных нарматыўных беларускіх слоўніках. У аснове гэтай паслядоўнай і доўгатэрміновай лексікаграфічнай «дыскрымінацыі» слова *счэзнуць* ляжыць, верагодна, тая акалічнасць, што ў значэнні 'знікнуць' яно мае добра вядомы адпаведнік у рускай мове ў выглядзе царкоўнаславянізма *исчезнуть*. Рус. *исчезнуть* у беларускай літаратурнай мове адпавядае добра ўкарэненае і дастаткова «высокае» слова *знікнуць*; у гэтай сітуацыі *счэзнуць* 'знікнуць' у беларускай мове ўспрымаецца як русізм або як скажоны царкоўнаславянізм. У выпадку слоўнікавай фіксацыі лексемы *счэзнуць* 'знікнуць' яна ўступіла б у (непажаданыя) канкурэнтныя адносіны са словам *знікнуць*. У выніку форма *счэзнуць* 'знікнуць' не падаецца

ў беларускіх нарматыўных слоўніках нават з паметай *разм.* – нягледзячы на тое што некаторыя ўтварэнні з *чэз-* (напрыклад, *чэзлы*) з'яўляюцца, несумненна, беларускімі і не фіксуюцца ў рускай мове.

Насуперак адсутнасці чужых рыс у беларускай літаратурнай мове не замацавалася і слова *астаноўка*; яго ўжывае, напрыклад, Я. Колас у лісце да М. Д. Міцкевіч ад 23 жніўня 1926 г.: *яго зараз жа, на першай* ***астаноўцы****, злавілі і адабралі туфлі* (Кол. ЗТ20, с. 18, 75). Тое, што ў беларускай мове няма слова *астаноўка*, – гэта пэўная канвенцыя, умоўнасць, зафіксаваная ў слоўніку. Слова *астаноўка*, у якім няма нічога спецыфічна «небеларускага», лічыцца небеларускім толькі таму, што існуе «жорсткая» пара: бел. *прыпынак* – рус. *остановка*.

### 1.3.4. МЕСЦА ПЕРЫЯДУ 1920–1930-х гг. У РАМКАХ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Пры вывучэнні перыяду 1920–1930-х гг. беларускай літаратурнай мовы патрэбна выразна ўяўляць яго месца ў рамках агульнай гісторыі нацыянальнай мовы беларусаў.

У падручніку Л. М. Шакуна пра XIX і XX стст. у гісторыі беларускай літаратурнай мовы гаворыцца як пра «новую беларускую літаратурную мову», перыяд фарміравання і развіцця «той літаратурнай мовы, якой мы карыстаемся зараз» [389, с. 17]. Аўтар удакладняў, што гэту мову звычайна называюць «сучаснай беларускай літаратурнай мовай», але папярэджваў, што ўжыванне апошняга тэрміна не зусім дакладна акрэслена: ён часта выкарыстоўваецца і ў больш вузкіх значэннях тыпу «беларуская літаратурная мова савецкай эпохі», «беларуская літаратурная мова сярэдзіны і другой палавіны XX ст.», наогул «беларуская літаратурная мова нашых дзён» [389, с. 17]. Магчымасць называць перыяд XIX і XX стст. у развіцці беларускай літаратурнай мовы пры дапамозе двух розных тэрмінаў – «новая беларуская літаратурная мова» і «сучасная беларуская літаратурная мова» – можа ствараць выразныя нязручнасці. Аналагічна заўвазе адносна падобнай сітуацыі ў балгарскай лінгвістыцы [55, с. 154] можна сказаць, што тэрмін «сучасная беларуская літаратурная мова» не можа быць прыкладзены да некаторых этапаў гісторыі літаратурнай мовы ў Беларусі, да якіх тэрмін «новая беларуская літаратурная мова» стасуецца безумоўна. У беларускай лінгвістыцы апошняга часу заўважаецца тэндэнцыя апусціць ніжнюю мяжу існавання нарматыўнай беларускай мовы ў рамкі перыяду 1920-х гг. або нават яшчэ ранейшага часу. Напрыклад, мова «Нашай нівы» можа ацэньвацца як «сістэма сістэм» [12, с. 5]. У апошнія гады стала асабліва відавочна, што ўмоўнасць прыкладання тэрміна «сучасная беларуская літаратурная мова» да перыяду XIX ст. не ўсімі разумеецца належным чынам. У якасці яркага прыкладу такога неадэкватнага разумення можна назваць артыкул Т. Л. Памазенка, у якім сучасная навуковая тэрміналогія без якіх-небудзь агаворак разглядаецца ў кантэксце першай паловы XIX ст. [272].

У падручніку Л. М. Шакуна перыяд існавання новай беларускай літаратурнай мовы падзелены на два (умоўна іх можна назваць «дарэвалюцыйным» і «савецкім») перыяды. Беларуская літаратурная мова XIX – пачатку XX ст., у сваю чаргу, дзеліцца на перыяд XIX ст. і перыяд пачатку XIX ст.

Згодна з той жа крыніцай беларуская літаратурная мова савецкай эпохі пры вызначэнні спецыфікі ў сваіх храналагічных рамках вяхой мае пералом 1920–1930-х гг., азнаменаваны прыняццем пастановы ўрада БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» 1933 г. У той час як перыяду 1920-х гг. былі ўласцівы «вялікія зрухі» ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, калі гэта быў час «бурнага папаўнення і замацавання сродкаў беларускай літаратурнай мовы і пошукаў шляхоў і спосабаў іх выпрацоўкі», то галоўнай ідэяй пастановы СНК (адпаведна 1930-х гг. увогуле) было ўпарадкаванне правіл граматыкі і арфаграфіі, а таксама «вызначэнне тых напрамкаў, па якіх павінна адбывацца далейшае развіццё беларускай літаратурнай мовы савецкай эпохі ў адпаведнасці з задачамі камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне, з моўнай практыкай народа» [389, с. 18–19].

З сучаснага пункту гледжання гэта ўжо старая перыядызацыя (у сваіх галоўных рысах яна была выкладзена яшчэ ў падручніку 1960 г.) дазваляе зрабіць шэраг каментарыяў, датычных агульнага характару праведзенага члянення гісторыі новай беларускай літаратурнай мовы на асобныя перыяды і этапы. Асабліва важна ўстанавіць суадносіны перыяду 1920-х гг. (часу, з якога пачынаецца наша даследаванне) з папярэднім (пачаткам XX ст.) і наступным (ад пачатку 1930-х гг.) перыядам у развіцці беларускай літаратурнай мовы. Важным з’яўляецца, увогуле, вызначыць месца і ролю гэтага перыяду ў агульнай гісторыі фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы.

Адносна агульнага характару гэтай перыядызацыі можна канстатаваць, што, як звычайна бывае, яна грунтуецца ў значнай ступені на знешніх у дачыненні да мовы фактарах. Гэта заўважна, напрыклад, пры характарыстыцы пастановы СНК 1933 г., якая, згодна з дадзенымі перыядызацыі, «упарадкавала правілы» і вызначыла напрамкі далейшага развіцця беларускай літаратурнай мовы. У дадзеным выпадку было падкрэслена ўказанне на «ідэалагічны» вектар рэформы, а адпаведнасць далейшага развіцця «моўнай практыцы народа» была згадана толькі ў самым канцы [389, с. 19].

Аднак наяўнасць у рамках тых або іншых перыядаў і этапаў тых або іншых характарыстык беларускай літаратурнай мовы, якія сведчылі б пра яе новую якасць, іх пазітыўную або негатыўную суадноснасць з аналагічнымі ці падобнымі характарыстыкамі ў рамках іншых, папярэдніх або наступных перыядаў і этапаў, не заўсёды зразумелая.

Напрыклад, прымяняльна да пачатку XX ст. (дарэвалюцыйнага перыяду) сцвярджаецца, што гэтаму этапу было ўласціва «афармленне норм, якія, аднак, не былі канчаткова выпрацаваны і замацаваны», указваецца, што беларуская літаратурная мова ў гэты час яшчэ «не мела шырокаразгаліна-

ванай стылістычнай дыферэнцыяцыі» [389, с. 18]. Ці можна на аснове такіх характарыстык зрабіць выснову, што на наступным этапе – у 1920-я гг. – нормы беларускай літаратурнай мовы ўжо былі канчаткова выпрацаваны і замацаваны? Ці была ўласціва перыяду беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. адсутная ў папярэдні перыяд разгалінаваная стылістычная дыферэнцыяцыя і ці існавалі ў беларускай літаратурнай мове гэтага часу ўсе неабходныя выяўленчыя сродкі? Ці ўказанне на тое, што сэнсам рэформы 1933 г. было вызначэнне напрамкаў далейшага развіцця беларускай літаратурнай мовы, сцвярджэнне пра тое, што з гэтага часу беларуская літаратурная мова развівалася ў суладнасці з моўнай практыкай народа, можна разумець так, што да 1933 г. напрамкі развіцця не былі вызначаны, а сама мова развівалася не ў адпаведнасці з моўнай практыкай народа? Ад станоўчых або адмоўных адказаў на гэтыя пытанні залежыць адказ на вельмі важнае пытанне аб тым, ці перыяд 1920-х гг. можа быць уключаны ў рамкі с у ч а с н а г а развіцця беларускай літаратурнай мовы.

Некаторыя характарыстыкі мовы 1900–1910-х гг. у значнай ступені можна прыкласці і да перыяду 1920-х гг. Спасылаючыся ў тым ліку на сведчанне М. Байкова 1920-х гг. аб «незакончаным сфармаванні» тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, у адной са сваіх пазнейшых прац Л. М. Шакун пісаў, што ў 1920-я гг. нормы правапісу і граматыкі «належным чынам» узаконены не былі [392, с. 134]. Адпаведна нашаніўскі перыяд і перыяд 1920-х гг. не былі выразна аддзелены адзін ад аднаго з пункту гледжання названай характарыстыкі. Аналагічна не толькі ў 1920-я гг. адбываліся «вялікія зрухі» ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, «бурнае папаўненне і замацаванне» яе сродкаў – рэалізацыя тэндэнцый, пры дапамозе якіх ахарактарызаваны 1920-я гг.

Вядома, па неабходнасці схематычна выкладзеная перыядызацыя беларускай літаратурнай мовы не можа даваць вычарпальных адказаў на ўсе пытанні, але, як пераканаемся ніжэй, здавальняючыя адказы на пералічаныя пытанні не заўсёды могуць быць атрыманы і пры чытанні іншых, спецыяльных прац. Цікава, што ў калектыўнай манаграфіі 1968 г. некаторыя падзеі, якія адбываліся ў рамках 1930-х гг. фактычна адначасова (напрыклад, рэформа 1933 г. і ўкладанне «Руска-беларускага слоўніка» ў 1937 г.), прадстаўлены ў рамках розных раздзелаў: першая ў рамках раздзела, прысвечанага мове першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў, другая – у раздзеле аб беларускай літаратурнай мове «нашага часу» [175, с. 271–273, 281–284]. На падставе гэтага між іншага можна зрабіць выснову, што рэформа 1933 г. не ўкладалася аўтарамі ў паняцце «сучаснасць», аднак не было перашкод разглядаць у якасці «сучаснага» слоўнік пад рэдакцыяй А. Александровіча.

Гэтыя і іншыя ацэнкі перыяду 1920–1930-х гг. у развіцці беларускай літаратурнай мовы пад пяром розных даследчыкаў паказваюць сярод іншага на неадназначнасць, супярэчлівасць дадзенага перыяду, яго складанасць для адназначнай кваліфікацыі ў рамках агульнай перыядызацыі беларускай літаратурнай мовы.

У метадалагічным плане прынцыповым з’яўляецца пастаўленае вышэй рэдка абмяркоўванае пытанне аб кваліфікацыі перыяду 1920-х гг. як сучаснага *vs* гістарычнага ў развіцці беларускай літаратурнай мовы. Карысным у гэтых адносінах можа быць суаднясенне з сітуацыяй у іншых мовах.

Што датычыць, напрыклад, рускай літаратурнай мовы, то многія кардынальныя праблемы яе нармалізацыі вырашаліся ў першай трэці XIX ст. [115, с. 85]. Нягледзячы на тое што ў рускай культурнай сітуацыі вядомы заклік У. І. Леніна зрабіць слоўнік, які ўключаў бы лексіку «ад Пушкіна да Горкага» [87, с. 38–39][22], рэалізацыя такога праекта сутыкнулася са значнымі праблемамі. Рэч у тым, што руская літаратурная мова перыяду XIX – XX стст. не была цэласнай, расійскімі лінгвістамі абмяркоўвалася пытанне стварэння гістарычнага слоўніка XIX ст.; адпаведна не ўсё з перыяду XIX – XX стст. у рускай мове можа быць прызнана «сучасным». Некаторыя аўтары лічаць, што прымяняльна да пушкінскага часу развіцця рускай мовы зусім абгрунтавана лічыць яго сучасным у адносінах да фанетычнай сістэмы мовы (але не да арфаэпіі), аднак гэтага нельга рабіць у адносінах да лексікі [200, с. 248]. В. У. Вінаградаў меркаваў, што сучасная руская мова ўключае час з 90-х гг. XIX ст. – пачатку XX ст. [88, с. 41], значыць, «зона сучаснага перыяду» пачынаецца ў рускай мове з 1890-х гг. [347, с. 29][23]. Яшчэ вышэй паднімаў ніжнюю мяжу сучаснай рускай літаратурнай мовы К. С. Гарбачэвіч, на яго думку, умоўнай мяжой сучаснай рускай літаратурнай мовы магло б служыць славаўжыванне канца 30-х – пачатку 40-х гг. XX ст. [87, с. 40].

На думку чэшскага лінгвіста А. Едлічкі, паняцце «сучасная» мова ахоплівае прадстаўнікоў трох пакаленняў, для чэшскай літаратурнай мовы гэта прыкладна перыяд 50–60 гадоў, для славацкай – 30 гадоў [171, с. 10].

Зварот да лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы нашаніўскага перыяду выразна паказвае, што беларуская літаратурная мова ў гэты час яшчэ не была «сучаснай». У СМНН яшчэ не зафіксаваны наступныя словы або лексіка-семантычныя варыянты пэўных слоў: *аазіс, абагавіць* і *абагаўленне, абагачэнне* (або больш чаканае *збагачэнне*) і *абагачальны, абаграванне, абагрэў* і *абагравальнік, абагульніць, абагуліць* і *аграмадзіць* (з

[22] У дзейнасці лексікографаў-практыкаў ён пазней трансфармаваўся ў формулу «ад эпохі Пушкіна да нашых дзён» [88, с. 41].

[23] У сувязі з гэтым Ю. С. Сарокін звяртаў увагу на тое, што задача нарматыўнай ацэнкі з сучасных пазіцый колішніх, не зусім сучасных, тэкстаў непазбежна прыводзіць да скажэння гістарычнай перспектывы [347, с. 29]. Як аб зусім зразумелай рэчы М. А. Паўленка пісаў пра тое, што пра вывучэнні моўных фактаў на тым або іншым гістарычным этапе развіцця мовы даследчык павінен глядзець на гэтыя факты як сучаснік таго гістарычнага перыяду: «толькі пры такім падыходзе вынікі даследавання будуць набліжацца да большай ступені верагоднасці» [264, с. 130]. На жаль, з падобным неадэкватным ацэньваннем нярэдка сутыкаемся ў беларускай сітуацыі. У беларускай навуковай літаратуры даволі часта назіраем выпадкі, калі розныя вучоныя звярталіся і звяртаюцца да колішніх падзей не столькі з мэтай іх аналізу згодна са спецыфікай канкрэтнага перыяду, у межах якога яны адбываліся, колькі жадаючы «прыстасаваць» гэтыя падзеі да сучаснасці, адказаць на пэўныя надзённыя пытанні.

вытворнымі)*, (а)балонка* (нават у бытавым значэнні)*, абарона* і *абарончы, абачлівы* і *абачлівасць, абвадніць, абвадненне* і *абвадняльны, абважыць* і *абважванне, абвергнуць, абвінаваўчы, абвяржэнне, адхіліць* (ва ўсіх значэннях) і *запярэчыць, аб'ява, абгортка, абдуманасць, аб'езд, аб'ект* (і вытворныя), *абяцаны, абдымкі, ахоп* (ёсць *абхват* у канкрэтным значэнні 'таўшчыня па аб'ёме распасцёртых рук'), *абсяг, аб'ём* і *аб'ёмнасць, абжытасць, абклад* 'аздоба пераплёту кнігі ці абраза' і *аправа* 'рамка, абалонка'*, аблуда* і *аблудны, абмаляваць* і *абрысаваць, абмежаванасць* і *абмежаванне, абмеркаванне* (хоць ёсць дзеяслоў *абмеркаваць*)*, абнадзеіць, абнародаваць, абнаўленне, абняславіць* і *зняславіць* (з вытворнымі)*, абраннік, абскардзіць, абслугоўваць, абставіны, абуджэнне, абумовіць* і *абумоўленасць, абутак, абцяжарыць, абыходжанне, абыякавасць, абязболіць, абязводзіць, абясшкодзіць, авалодаць, авантура* і *авантурнік, агаласіць, агідны, аглядны, аглядчык* і *аглядальнік, агонія, агрэсар* і *захопнік, агрэх, агульначалавечы, адаптаваць* (з вытворнымі), *адарванасць, адасобіць* (з вытворнымі), *адбіванне, адбіццё* і *адлюстраванне, адбудова, адварот, адведзіны* і *адведкі, адвечнасць, адвод, адгалінаванне, адгарнуць, адгрузіць, аддаленасць, аддзякаваць* і *аддзячыць, аджартавацца, адзеравянеласць, адзінаўладдзе* (ёсць, аднак, *аднаўладства*)*, адзінкавасць, адзнака, адказнасць, адключыць, адмоўны* (хоць шырока ўжываўся дзеяслоў *адмовіцца*)*, аднабаковасць, аднавясковец, аднагалосны* і *аднагалоснасць, аднагучны, аднадумны* і *аднадумства, аднародны* і *аднароднасць, аднаўленчы, безнадзейнасць, выраб* 'дзеянне паводле дзеяслова вырабіць'*, даследаваць* і *даследчык, дэмабілізаваць, звышчалавек, мабілізаваць, магільшчык* (а таксама *грабар*)*, магній, магніт* або *магнэз, магутнасць, магчыма, магчымы, мадонна, мадыстка, мажнець, мажны, мазіла, мазня, макацёр* або *макітра* і інш.

Відавочна, існуюць розныя прычыны адсутнасці гэтых і іншых слоў у СМНН. Бадай, не ўсе словы з нашаніўскага перыяду можна знайсці на старонках газеты «Наша ніва». Не ўсе лексемы, якія ўжываліся ў газеце, аказаліся ўключанымі ў слоўнік. У ім няма, напрыклад, слоў *абвестка, аблаўнік* 'удзельнік аблавы', *абоймішча* 'абхват', *аджагнацца* і *аджэгнывацца*, *акалот, артызм* 'артыстызм', *ачуціць* (*ацуціць*) 'вывесці са стану непрытомнасці', *ашкіра, бегма, бедуін, бузавацца* і *збузавацца, валашчанін* 'жыхар воласці', *валкерня, вашчынне, воміты* 'ваніты'*, вотрыны, выжануць, вызнаць, вярзня, гойдаўка* 'арэлі', *дзевяцьдзесят, дойка* 'даярка', *другак* 'зерне другога, невысокага гатунку', *жлукта* 'настой, адвар', *закарбаваць* 'зрабіць зарубку', *затоўка, злудны* 'падманлівы', *значнік, кажанець,* 'цвярдзець'*, ліхадумец, мэшты* 'абутак'*, нагдай, нападчык* 'нападнік', *ямкач* (*ёмкач*) 'спрытнюга'. Але трэба прызнаць і абмежаванасць лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы нашаніўскага перыяду. З прычыны невялікай колькасці тэкстаў і вузкага кола жанраў (асабліва навуковых), у якіх яна тады існавала, некаторыя лексемы абстрактна-навуковага характару – часта вельмі важныя, без якіх немагчыма ўявіць сабе сучасны інтэлектуальны дыскурс – у ёй тады яшчэ не існава-

лі. Да гэтай групы належаць наступныя словы: *аазіс, абагаўленне, абагачальны, абагульніць, (а)балонка, абачлівасць, абвадненне, абдуманасць, аб'ект*, *абмежаванасць, абнаўленне, абуджэнне, абумовіць* і *абумоўленасць, абцяжарыць, абыходжанне, абыякавасць, абязболіць, абязводзіць, абясшкодзіць, аглядны* і *аглядальнік, агонія, агульначалавечы, адаптаваць* (з вытворнымі), *адарванасць, адбіванне, адбіццё* і *адлюстраванне, адбудова, адвечнасць, адгалінаванне, аддаленасць, аджартавацца, адзеравянеласць, аднолькавы* (ёсць: *адзінакавы, адзінакі, аднаковы, аднакі*)*, адзінкавасць, адзнака, адказнасць, адключыць, адмоўны, аднабаковасць, аднагалосны* і *аднагалоснасць, аднадумства, аднароднасць, аднаўленчы* і інш. Верагодна, літаратурную мову з наяўнасцю такой вялікай колькасці важных лакун нельга кваліфікаваць як «сучасную». Пералічаныя і шматлікія іншыя словы ўваходзілі ў беларускую літаратурную мову ў 1920-я гг. і пазней у якасці неалагізмаў; не ва ўсіх выпадках яны адразу з'явіліся ў форме, аналагічнай сучаснай. Напрыклад, слова *аазіс* першапачаткова ўвайшло ў мову ў форме *ааз* (БНТ-3; ЗАГНФ). Не ведаючы, як абазначыць паняцце '(газетны) аглядальнік', адзін з аўтараў «Нашай нівы» (або яе рэдактар-выдавец А. Уласаў) выкарыстаў слова *абсерватар* (*обсэрватар*) (НН 1911). Ва ўсіх выпадках, калі меў месца выбар паміж дзвюма ці больш формамі, карысна даследаваць гісторыю гэтай канкурэнцыі, паколькі не заўсёды сённяшняя ўзуальная форма была асноўнай, часам яна сцвердзілася ў працэсе суіснавання з іншымі. Адпаведна некаторыя паняцці ў мове нашаніўскай пары перадаваліся пры дапамозе адрозных ад сучасных, моўных сродкаў; прынамсі, спецыфічнай магла быць іерархія паміж рознымі варыянтамі. Такое вар'іраванне абмяркоўваецца ў нядаўна выдадзенай манаграфіі «Мова "Нашай Нівы". 1906–1915. Варыянтнасць. Сінанімія», матэрыял якой паказвае, што на старонках «Нашай нівы», напрыклад, словы *вучыцель, багач* былі многа больш ужывальнымі, чым *настаўнік*, *багатыр* (а слова *багацей* не сустракалася ўвогуле) і інш. [243, с. 175, 181]. Словы *настаўнік* і *багацей* сталі здабыткам нормы беларускай літаратурнай мовы, бадай, дзякуючы пераважна кадыфікацыйнай практыцы.

Такім чынам, не толькі адносна літаратурнай мовы XIX ст. выпадае гаварыць, што яна яшчэ не склалася [175, с. 110], але і беларускую літаратурную мову перыяду «Нашай нівы» мы павінны прызнаць «несучаснай». Мова «Нашай нівы», паводле В. П. Лемцюговай, «не была яшчэ нечым гатовым», яе «сістэмная арганізацыя яшчэ не мела поўнага набору адзнак сталай сістэмы» [243, с. 11, 13]. «Небывалая» лексічная дублетнасць беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст., на думку А. Я. Баханькова, сведчыла «не столькі пра багацце лексікі гэтага часу, колькі пра яе "рыхласць" і неўнармаванасць; аб'ектыўных умоў для нармалізацыі не было» [212, с. 97–98]. Мова газеты «Наша ніва» не з'яўляецца с у ч а с н а й яшчэ і таму, што яна не валодала многімі лексічнымі сродкамі з ліку тых, якія ёсць у сучаснай беларускай літаратурнай мове (і, увогуле, патрэбны сучаснай літаратурнай мове); на фоне суседніх славянскіх моў яна характарызавалася вялікай колькасцю лексічных лакун.

Прызнанне «несучаснага» статусу мовы газеты «Наша ніва» павінна мець сваім наступствам улік гэтай акалічнасці ў працэсе прымянення да вывучэння мовы газеты розных даследчых метадаў. Так, прынятыя ў даследаваннях па сучасных мовах метады будуць тут мець пэўнае абмежаванне; з другога боку, метады, ужывальныя ў даследаваннях па гісторыі літаратурных моў, будуць больш адпаведнымі.

Але што можна сказаць наконт сучаснасці беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг.? Паспрабуем адказаць на гэта пытанне, звярнуўшыся да стаўлення розных асоб да мовы гэтага перыяду.

У працэсе выдання ў першай палове 1950-х гг. некаторых, напісаных у 1920-я гг., твораў Якуба Коласа здзяйсняліся шматлікія моўныя праўкі: самому класіку мова яго ранейшых твораў здавалася ўжо не зусім адпаведнай сучаснасці. У каментарыях да публікацыі трылогіі «На ростанях» у апошніх Зборах твораў класіка сцвярджаецца, што дзве першыя аповесці трылогіі рэдагаваліся пераважна ў моўна-стылёвым (лексічным) плане [156, с. 762; 155, с. 442]. Паводле некаторых ацэнак (відаць, перабольшаных), гэта рэдагаванне было значным. На думку М. Лужаніна, «строга кажучы, абедзве палескія аповесці былі перапісаны» [220, с. 208]. Рыхтуючы першае асобнае выданне трылогіі, Колас выказаўся аб праблеме моўнага адзінства сваіх твораў, напісаных у розны час, наступным чынам: «...у мяне як быццам нарадзілася два дзіцяці: адно да вайны, а другое зараз. Злучаюцца ў розны час напісаныя творы, а чытацца павінны як адна кніга <...> Трэба засыпаць роў трыццацігадовай глыбіні паміж канцом і пачаткам. Я амаль не пераглядаў даваенных аповесцей. А мова наша моцна вырвалася наперад». Згодна з М. Лужаніным, жаданне «засыпаць роў» у народнага паэта было «нястрымнае, і даводзілася захоўваць пэўную асцярожнасць, каб не закасаваць і не прыгладзіць моўныя і стылістычныя асаблівасці пачатку трылогіі» [220, с. 207]. У працэсе рэдагавання трылогіі паміж Коласам і М. Лужаніным існавала дамоўленасць аб тым, што будуць выконвацца шэраг правіл. Так, напрыклад, было дамоўлена пісаць *громка, крэпка, быстра, трудна*; *вачамі* замест *вачыма*; *Уладзімер* замест *Уладзімір*; *поезд* (верагодна, замест *цягнік*); *зварачаць* замест *звяртаць* або *зварочваць*; *пакуль* замест *покуль, покі* (апошнія формы вырашана пакідаць у дыялогах); *статак* замест *стада*; *напіс* замест *надпіс*; *непрыметны* замест *непрыкметны*; *хвіліна* замест *мінута*; *збянтэжыцца* замест *змяшацца, замяшацца*; *наглядчык* замест *надзірацель, назірач* і інш. [220, с. 209–210]. Згодна з каментатарамі да выдання трылогіі ў Зборы твораў у чатырнаццаці тамах пры рэдагаванні была засведчана «строгая паслядоўнасць» у замене аўтарам пэўных слоў, выразаў на іншыя, напрыклад: *адзявацца – апранацца, бумажка – паперка, вялізарнае – велічнае, гаварыць – казаць, гадаць – варажыць, дзела – справа, дзяржаць – трымаць, жаласць – жаль, жалезная дарога – чыгунка, журнал – часопіс, замеціць – заўважыць, змяшаўся, замяшаўся – збянтэжыўся, зыкі – гукі, кабета – жанчына, канчальныя – апошнія, куском – кавалкам, нашай – нашае, палажэнне – становішча, покі – пакуль, скора – хутка, стрэмка – заноза,*

*фамілія – прозвішча, цёнгле – заўсёды, цетрадзі – сшыткі, цягнік – поезд, чапуха – глупства* і інш. [156, с. 762–763]. Такая сітуацыя можа тлумачыцца тым, што разуменне нарматыўнасці моўных сродкаў беларускай стандартнай мовы часткова склалася ўжо ў «пасляколасаўскі» час: у другой палове XX, нават у пачатку XXI ст. [165, с. 39].

Сучаснікі, у тым ліку лінгвісты, якія сутыкаюцца з прызначанымі для шырокага чытача тэкстамі 1920-х гг., звычайна фіксуюць пэўную «незвычайнасць» ужыванай у той час беларускай літаратурнай мовы.

Напрыклад, калі ў 1991 г. быў надрукаваны «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» У. Ігнатоўскага паводле выдання 1926 г., то рэдактар сучаснага выдання палічыў патрэбным зрабіць спецыяльную заўвагу адносна «сакавітай мовы аўтара». Стыль і мова кнігі (цалкам звычайныя для 1926 г.), на думку Э. Гнеўкі, могуць служыць «узорам (трэба думаць, адсутным у сітуацыі пачатку 1990-х гг. – *С. З.*) папулярнага выкладання гісторыі» [86, с. 18–19].

Фактычна аналагічную рэмарку аб «прыгожай, сакавітай» беларускай мове кнігі А. Смоліча 1923 г. «Геаграфія Беларусі» (якая «застаецца неперасягнутым узорам навукова-папулярнага апісання нашай краіны») знаходзім у прысвечаным геаграфічнай тэрміналогіі артыкуле Н. М. Панковай [274, с. 64]. Характарызуючы руцінную моўную практыку на прыкладзе выдадзеных у 1924 г. падручнікаў, А. Лапкоўская зазначае, што адбор моўных сродкаў у іх адзначаўся «прыкметным адхіленнем ад агульнаўжывальнага лексічнага фонду», што яны ствараліся «як бы на аснове вопыту мастацкай літаратуры» [209, с. 238].

Што да твораў мастацкай літаратуры 1910–1920-х гг., то тут можна сустрэць як памяркоўную ацэнку ступені зразумеласці іх мовы, так і больш строгую, пераважна ў дачыненні да канкрэтных аўтараў. Так, А. Каўрус канстатуе, што «сённяшні чытач адчувае пэўную цяжкасць разумення» мовы твораў гэтага часу [163, с. 23]. Адносна мовы аповесці В. Ластоўскага «Лабірынты» Г. І. Кулеш зазначае, што ў творы ўжыта «нямала слоў, незнаёмых сучаснаму чытачу» [184, с. 63]. Аб мове рамана Ц. Гартнага «Сокі цаліны» існуе выказанае А. Майсейчыкам меркаванне, што твор «насычаны словамі, малазразумелымі сёння» [163, с. 23].

Ва ўсіх гэтых выпадках канстатуем усвядомленую сучаснымі аўтарамі дыстанцыю паміж сучаснай мовай і мовай 1920-х гг.

На розніцу паміж сучаснай мовай і беларускай літаратурнай мовай 1920-х гг. указвае такая рыса апошняй, як яе полінайменнасць [гл., напрыклад: 177, с. 121–122; 194]. З літаратуры вядома [параўн., напрыклад: 147, с. 350], што полінайменнасць выступае ў літаратурнай мове звычайна толькі на этапе яе пачатковага (незавершанага) фарміравання.

Між тым у сучасных даследаваннях мовы 1920-х гг. вельмі часта знаходзім яе разгляд як цалкам сучаснай з’явы – у тым сэнсе, што яна ацэньваецца з пункту гледжання крытэрыяў, якія сфарміраваліся і прымяняюцца да сучаснай мовы.

Напрыклад, ужыванне ў мастацкіх творах М. Гарэцкага формаў з субстытуцыямі гука [ф] і прыстаўным *в* (тыпу *пяць хунтаў мукі, хвартух, у вакно, як у вастрозе, воўцы бляюць*) – вельмі звычайнай практыкі для свайго часу – кваліфікуюцца як «фанетычныя сігналы размоўнасці»; ужыванні тыпу *праводзілі шосу, кніжак палітыцкіх* разглядаюцца як «перакручаныя (скажоныя) формы слоў», уласцівыя мове малаадукаваных людзей [168, с. 112, 114–115]. Аднак, напрыклад, форма *шаса* ў 1920-я гг. была зусім звычайнай, яна фігуравала ў БРС-26 (поруч з *шаша* і *шоса*), у РБС-28 былі пададзены формы *шаша, саша* і *шоса*. Форма *шаса* ў 1920 – пачатку 1930-х гг. была прадстаўлена нават у тэрміналагічных слоўніках: ПБВС, БНТ-11 (*дорога шоссейная – шаса*), ВРБС. Падобным чынам у іншай працы як дыялектныя ў мове твораў М. Зарэцкага разглядаюцца формы з субстытуцыямі гука [ф]: *на тарпяных наспах*; *хутру; пархумы*. Аналагічна з працай Л. С. Кныш у артыкуле Н. Я. Пятровай лічыцца, што такія формы ўжываюцца пісьменнікам з мэтай паказаць «абмежаванасць дзеючай асобы» [294, с. 58]. Як дыялектныя ў названай працы Н. Я. Пятровай часам кваліфікуюцца шырокаўжывальныя ў 1920-я гг. у літаратурнай мове і зафіксаваныя ў тагачасных (а то і ў сучасных) слоўніках і граматыках словы і формы тыпу *амбарас, вязьмо, даказаць* ‘данесці’, *замуляцца, зморшчыкі* (слова *зморшчка* як адпаведнік рус. *складка* ёсць у РБС-28; тэрмін *пузырныя зморшчкі* фіксаваўся ў БНТ-13), *павучынка, тэй ці не тэй*; *у грудзёх*; *назваў быў*. Кваліфікацыя прымяняльна да перыяду 1920-х гг. тых або іншых слоў або формаў у якасці дыялектных выглядае асабліва складанай у сувязі з тым, што ў гэты час у літаратурную мову літаральна «штодзённа» ўваходзілі шматлікія народныя словы, якія раней адсутнічалі ў літаратурнай мове часта не з прычыны іх нейкай асаблівай «дыялектнасці», а з прычыны абмежаванасці самой беларускай літаратурнай мовы ў папярэдні час. Яны «імгненна» станавіліся літаратурнымі – у выніку размежаванне «літаратурнае» *vs* «дыялектнае» прымяняльна да гэтага часу яшчэ далёка не заўсёды паддаецца карэктнай інтэрпрэтацыі. Даследчыцкія прыёмы, накшталт прыведзеных вышэй, даюць вынікам скажэнне гістарычнай перспектывы[24].

Для нашай працы прынцыповым з’яўляецца адрозненне гістарычнага ад сучаснага. Насуперак таму, што моўныя крыніцы 1920-х гг. з’яўляюцца складовай часткай новай (сучаснай) беларускай літаратурнай мовы, ёсць сэнс разглядаць іх як перадусім гістарычныя. Гэту спецыфіку 1920-х гг. варта

[24] Прыведзеныя прыёмы ўяўляюць сабой спробы прыстасаваць сучасныя інструменты даследавання да кваліфікацыі гісторыі «па інерцыі», уласцівыя даволі многім сінхраністычным працам; яны тлумачацца, верагодна, недастатковым вопытам асобных даследчыкаў. З іншым узроўнем маем справу тады, калі гістарычныя падзеі ацэньваюцца з пункту гледжання сучаснага разумення ў значнай ступені на свядомай, «канцэптуальнай» (часта ў сваёй сутнасці палітычнай) аснове. Напрыклад, у Чэхіі ў апошнія гады прагучала выразная крытыка на адрас кадыфікатараў канца XVIII ст. – першай паловы XIX ст. Ё. Добраўскага і Ё. Юнгмана [499; 258]. У беларускай сітуацыі такое празмернае выкарыстанне палітычных праекцый у рамках навуковых кваліфікацый падзей 1920–1930-х гг. нярэдка можна было назіраць у розных працах А. І. Жураўскага.

пэўным чынам улічваць і ў сінхранічна арыентаваных працах. Такі падыход у значнай ступені прыняты на кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе падрыхтавана гэта даследаванне. Напрыклад, Г. І. Кулеш разглядае напісаныя ў 1920-я гг. афіцыйна-дзелавыя кнігі як *per se* гістарычныя крыніцы. Параўн., напрыклад, назвы наступных прац: «Дапаможнікі па справаводстве 1920-х гг. як крыніца гісторыі афіцыйна-дзелавога стылю» [189], «Беларускамоўны тэкст Канстытуцыі Польскай Рэспублікі 17 сакавіка 1921 года як крыніца гісторыі афіцыйна-дзелавога стылю» [190] (разрадка наша. – *С. З.*). З улікам гэтай спецыфікі падрыхтаваны шматлікія публікацыі супрацоўнікаў і (былых) аспірантаў кафедры Г. І. Кулеш [186; 191; 192; 195; 196; 197], А. В. Губкінай [90; 91; 92; 93; 94], В. А. Зразікавай [137; 138; 139; 140; 141], Т. М. Сакун [321; 322; 323; 324], С. Я. Богуш [32; 35; 37; 38; 39].

# Раздзел 2
# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА І БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ МІЖВАЕННАГА ПЕРЫЯДУ Ў АСВЯТЛЕННІ ЛІНГВІСТЫКІ

## 2.1. ПРАЦЫ ПА ГІСТОРЫІ МОВАЗНАЎСТВА МІЖВАЕННАГА ПЕРЫЯДУ

### 2.1.1. ГІСТОРЫЯ МОВАЗНАЎСТВА Ў ПРАЦАХ Л. М. ШАКУНА ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Першай значнай працай навукова-педагагічнага жанру 1960-х гг., у якой спецыяльна асвятляліся асаблівасці развіцця беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг., стаў дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ Л. М. Шакуна, апублікаваны ў 1960 г. і перавыдадзены ў 1963 і 1984 гг. [386; 389]. Выданне 1984 г. выкарыстоўваецца ў навучальным працэсе і сёння.

У «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» Л. М. Шакуна 1984 г. перыяд 1920–1930-х гг. разгледжаны ў рамках наступных параграфаў раздзела «Беларуская літаратурная мова савецкай эпохі»: «Змены ва ўзаемаадносінах паміж беларускай літаратурнай мовай і народнымі гаворкамі ў савецкі час», «Развіццё лексікі і фразеалогіі беларускай літаратурнай мовы пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі», «Замацаванне графічных, граматычна-правапісных і арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы», «Барацьба за чысціню і выразнасць беларускай літаратурнай мовы» [389, с. 262–281, 287–305].

У адпаведнасці з патрабаваннямі да навучальнай літаратуры 1960-х і пазнейшых гадоў разгляд беларускай лінгвістыкі міжваеннага перыяду пададзены ў «Гісторыі...» з выразнымі ідэалагічнымі акцэнтамі, у кантэксце ўласцівай 1920–1930-м гг. «жорсткай класавай барацьбы» [389, с. 298]. Адпаведныя раздзелы дапаможніка (асабліва ў выданнях 1960-х гг.) насычаны ідэалагічна-прапагандысцкай рыторыкай, палітычнымі і зніжальнымі ацэнкамі. Паводле абранага падыходу, у моўным развіцці беларускага народа існавалі сур'ёзныя перашкоды. Ворагі, беларускія «буржуазныя» нацыяналісты адводзілі літаратурнай мове важнае месца, яны імкнуліся выкарыстаць яе «ў

сваёй бруднай справе, накіраванай на рэстаўрацыю капіталізму ў краіне» [389, с. 298]. Быў абвешчаны «самабытны» шлях развіцця беларускай мовы, якому спадарожнічала імкненне «ўсякімі сродкамі <...> перашкодзіць запазычванню слоў з рускай мовы». На працягу 1920-х гг. адбывалася наўмыснае «засмечванне» і «выхалашчванне» літаратурнай мовы, тармажэнне яе развіцця; буржуазныя нацыяналісты культывавалі розны моўны хлам, «выдуманыя штучныя словы», «даўно забытыя архаізмы» [389, с. 299–300]. Прымяняльна да выдання падручніка 1963 г. П. Вэкслер сцвердзіў, што ў ім прадстаўлены «рэтраспектыўны савецкі пункт гледжання» [509, с. 277].

Аўтар паказаў (няхай часта ў скажоным выглядзе) значэнне ў фарміраванні літаратурнай мовы лінгвістаў (звычайна не называючы канкрэтных прозвішчаў) і ролю ідэалагічных і палітычных фактараў, якімі кіраваліся ў сваёй дзейнасці як «буржуазныя нацыяналісты», так і «савецкая грамадскасць».

Многія кваліфікацыі Л. М. Шакуна наконт беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг. сёння не могуць падлягаць сур'ёзнаму разгляду. Падручнік перапоўнены тэндэнцыйнымі інтэрпрэтацыямі поглядаў беларускіх лінгвістаў 1920-х гг., найбольш такога роду скажэнняў знаходзіцца ў параграфе «Барацьба за чысціню і выразнасць беларускай літаратурнай мовы», аднак такія перакручванні ёсць і ў іншых месцах. Напрыклад, ва ўведзеным у 1984 г. новым параграфе аб ролі мастацкай літаратуры і публіцыстыкі ва ўзбагачэнні беларускай літаратурнай мовы Л. М. Шакун працытаваў меркаванне С. Некрашэвіча аб неабходнасці ўключаць у слоўнік жывой беларускай мовы так званыя «непрыстойныя словы» [581, с. 67], у сувязі з гэтым сцвердзіўшы, што ў 1920-я гг. некаторыя пісьменнікі і мовазнаўцы нібыта лічылі патрэбным карыстацца элементамі прастамоўя і вульгарызмамі як сродкам мастацкага выяўлення [389, с. 289–290]. Выказаныя ў сувязі з падрыхтоўкай вялікага слоўніка акадэмічнага тыпу навуковыя мэты тут былі неабгрунтавана прадстаўлены як мастацкія. Ацэнка аўтарам беларускай лінгвістыкі 1920-х гг. істотна змянілася ў станоўчы бок толькі з выданнем у 1995 г. дапаможніка «Гісторыя беларускага мовазнаўства» [95; гл. таксама 2.1.5].

## 2.1.2. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫКІ 1920–1930-х гг. У КАЛЕКТЫЎНАЙ МАНАГРАФІІ «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ» 1968 г.

У рамках раздзела «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў першыя паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі» ў кнізе змешчаны параграфы ««Беларуская граматыка» Б. Тарашкевіча і яе значэнне ў распрацоўцы граматычных норм беларускай літаратурнай мовы», «Далейшая распрацоўка пытанняў арфаграфіі і граматыкі» і «Слоўнікавая работа» [175, с. 160–220]. Пытанні гісторыі лінгвістычнай думкі прысутнічаюць у калектыўнай манаграфіі і ў рамках прысвечанага пераважна узусу параграфа «Выпрацоўка лексічных норм беларускай літаратурнай мовы». У ім абмяркоўваецца дыскусія 1934 г. аб

выкарыстанні ў мове мастацкай літаратуры дыялектнай лексікі, згадваюцца меркаванні на гэты конт У. Дубоўкі, коратка характарызуецца ўклад у асэнсаванне праблем літаратурнай мовы К. Чорнага, прыводзяцца аргументы на карысць нармалізуючай ролі «Расійска-беларускага слоўніка» 1928 г., робіцца спасылка на меркаванні К. Крапівы наконт словаўжывання Ц. Гартнага [175, с. 239–242, 244–249] і інш.

Як ужо было заўважана вышэй (гл. 1.3.4.), з размеркавання матэрыялу ў рамках розных раздзелаў можа выглядаць, што рэформа 1933 г. адносілася аўтарамі да гісторыі беларускага мовазнаўства, тады як падрыхтаваны фактычна ў той жа час слоўнік пад рэдакцыяй А. Александровіча разглядаўся як нібыта «сучасны».

У якасці ўступнага раздзела часткі, прысвечанай паслякастрычніцкаму перыяду, у кнізе змешчаны параграф «Асаблівасці функцыянавання беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд», у якім у тым ліку дадзена ацэнка «пурыстычных тэндэнцый» у станаўленні беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. [175, с. 156–158]. Аўтары прыйшлі да вываду аб існаванні «пэўных нацыяналістычных перагібаў, якія асабліва выразна адлюстраваліся ў беларускім мовазнаўстве 20-х гг.», і, разам з тым, зрабілі агаворку аб неадэкватным прыпісванні беларускім лінгвістам 1920-х гг. «на працягу многіх год <...> пурыстычных тэндэнцый і ўхілаў да няправільна зразуметай «самабытнасці» <...> без разбору, агулам, што шырока адлюстравалася ў адпаведнай літаратуры» [175, с. 156–159].

У кнізе падрабязна прааналізавана «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча і яе значэнне ў распрацоўцы граматычных нормаў беларускай літаратурнай мовы [175, с. 160–181].

У дванаццацістаронкавым параграфе «Далейшая распрацоўка пытанняў арфаграфіі і граматыкі» сцвярджаецца, што недастатковая ўрэгуляванасць шэрагу пытанняў (графіка і арфаграфія, асабліва правапіс запазычаных слоў і транслітарацыя на беларускае пісьмо іншамоўных імён і прозвішчаў, пытанне аб ужыванні ў літаратурнай мове граматычных дублетаў) выклікала з'яўленне ў друку «цэлай серыі» публікацый, прысвечаных спрэчным пытанням правапісу і граматыкі [175, с. 182]. У раздзеле коратка разгледжана гісторыя абмеркавання ў беларускай лінгвістыцы і публіцыстыцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. шэрагу арфаграфічных і марфалагічных з'яў, спрэчкі наконт графікі беларускай мовы: напісанне ненаціскных *о, е*, правапіс іншамоўных слоў (аканне ў іх, перадача гука *l* еўрапейскага, правапіс слоў з літарай *ф*, спалучэнняў *іо, іа* і інш.), адмена абазначэння мяккасці свісцячых перад мяккімі зычнымі, некаторыя формы дзеясловаў (канчаткі *-аць/-аце, -эма/-эм*), прыметнікаў (*-аю/-ай, -ае/-ай*), назоўнікаў (канчаткі *-а/-у, -ом/-ох* ), лічэбнікаў (канчаткі *-ёх* і *-і* лічэбнікаў тыпу *пяць, сем*) і інш.

У параграфе ўпершыню ў беларускай лінгвістыцы пасляваенных гадоў былі дадзены кароткія згадкі пра праекты графічных і правапісных рэфор-

маў Я. Лёсіка (аднак не было названа яго прозвішча), а таксама прыведзена сціслае апісанне дыскусіі на Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г. (аднак не даваліся спасылкі на забароненыя для цытавання працы канферэнцыі). Аўтары прызнавалі, што пастановы акадэмічнай канферэнцыі пераважна былі накіраваны на паляпшэнне існуючага правапісу; гэта трэба лічыць вялікім дасягненнем. У раздзеле на трох старонках дадзены аналіз пунктаў цэнтральнай падзеі моўнага рэгулявання 1920–1930-х гг. – пастановы СНК БССР 1933 г., адной з мэтаў якой было «найлепшае выражэнне арганічнай сувязі беларускай літаратурнай мовы з рускай мовай» [175, с. 190].

У параграфе «Слоўнікавая работа» былі разгледжаны лексікаграфічныя працы канца 1910-х – 1920-х гг. У ім фактычна ўпершыню ў беларускай лінгвістыцы пасляваеннага часу прыводзіліся праўдзівыя звесткі пра дзейнасць узначальванай С. М. Некрашэвічам слоўнікавай камісіі Інбелкульта, коратка разглядаліся яго погляды на ўкладанне слоўніка жывой беларускай мовы[25], давалася ў тым ліку станоўчая характарыстыка спробы адлюстраваць «велізарнае сінанімічнае багацце» беларускай літаратурнай мовы ў «Расійска-беларускім слоўніку» 1928 г. С. Некрашэвіча і М. Байкова [175, с. 197–202, 208–209]. У параграфе ўпершыню ў пасляваеннай беларускай лінгвістыцы быў багата прадстаўлены матэрыял лексікаграфічных, у тым ліку тэрміналагічных, прац 1920-х гг., які ў тым ліку ілюстраваў частую арыентацыю тагачасных укладальнікаў слоўнікаў на «вузкія беларускія дыялектызмы або штучныя словы», прадстаўляў словы, якія «не вытрымалі выпрабавання часам» [175, с. 195–196, 201, 203, 205–210, 213–219).

Падобна да пэўных раздзелаў у прысвечаных гісторыі беларускай літаратурнай мовы дапаможніках Л. М. Шакуна, фрагменты па гісторыі лінгвістыкі ў рамках главы «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў першыя паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі» разгляданай калектыўнай манаграфіі займаюць вельмі значнае месца. Яны сувымерныя паводле свайго аб’ёму з параграфамі па гісторыі моўнага ўжывання.

Факты ўключэння ў манаграфію па гісторыі літаратурнай мовы некалькіх раздзелаў па гісторыі лінгвістыкі, а таксама наяўнасць матэрыялу па гісторыі мовазнаўчай думкі ў параграфах па гісторыі узусу невыпадковыя. У шэрагу выпадкаў аналіз гісторыі станаўлення ва узусе некаторых моўных з’яў – асабліва калі яны часта абмяркоўваліся і / або былі адрэгуляваны дэкрэтным парадкам – без прыцягнення інфармацыі аб сацыяльным (ідэалагічным і навуковым) кантэксце мог бы быць недастатковым, тэндэнцыйным. Напрыклад, з выкладзенага ў кнізе аб гісторыі выкарыстання ў навукова-публіцыстычным стылі дзеепрыметнікавых формаў з суфіксамі *-уч-, -юч-* магло б выглядаць, што іх пранікненне ў літаратурную мову было цалкам заканамерным; аўтары

[25] Першай аб’ектыўнай публікацыяй пра С. М. Некрашэвіча ў пасляваенныя гады была кароткая нататка 1967 г. у часопісе «Полымя» [76].

напісалі, што яно было «мэтазгодным». У манаграфіі сцвярджаецца, што, з аднаго боку, дзеепрыметнікі незал. ст. цяп. часу сталі характэрнай прыкметай новага стылю беларускай літаратурнай мовы – «навуковага і публіцыстычнага», яны ўжываліся «шырока і сістэматычна». З другога боку, іх пашырэнне адносілася аўтарамі «цалкам за кошт уплыву» рускай літаратурнай мовы; ва узусе і ў слоўнікавай практыцы можна было заўважыць імкненне замяняць гэтыя неўласцівыя жывой народнай мове формы іншымі, з суфіксам *-альн-*. Аўтары напісалі, што гэта тэндэнцыя ў далейшым не атрымала развіцця [175, с. 232–233]. Застаецца незразумелым, наколькі пашыранай яна была. Тая акалічнасць, што ў сучаснай практыцы дзеепрыметнікавыя формы нярэдка замяняюцца (аналагічна да 1920-х гг.) на ўтварэнні з суфіксам *-альн-* [58], а таксама той факт, што, як пазначылі самі аўтары, дзеепрыметнікі незал. ст. былі «ўведзены» ў беларускую мову ў рамках праведзенай у 1933 г. рэформы правапісу [175, с. 193], змушаюць паглядзець на гэту з'яву больш глыбока[26].

Наяўнасць у працы па гісторыі літаратурнай мовы спецыяльных раздзелаў па гісторыі лінгвістыкі сведчыць аб значэнні асэнсавання прэскрыптыўных прац 1920–1930-х гг., тагачасных грамадскіх дыскусій, нарэшце, такога арганізацыйнага захаду, як пастанова СНК для паспяховага даследавання спецыфікі тагачаснага моўнага ўжывання.

Падыход, згодна з якім гісторыя літаратурнай мовы вывучаецца ў сувязі з гісторыяй мовазнаўства і, шырэй, грамадства, сугучны з адлюстраваным у навучальнай літаратуры поглядам, паводле якога грамадства можа ўздзейнічаць на моўную практыку праз свае кампетэнтныя органы тыпу акадэмій, школьных міністэрстваў, навукова-даследчых інстытутаў, якія здзяйсняюць кадыфікацыю нормаў. Пры гэтым асноўнымі сферамі, што дапускаюць свядомае ўздзеянне на мову, пазначаюцца графіка і арфаграфія, тэрміналогія, нарматыўна-стылістычная сістэма мовы [237, с. 274–275]. Матэрыял беларускага моўнага рэфармавання 1933 г. паказвае, што ў сферу ўздзеяння грамадства на мову можа трапляць і граматыка.

Кніга І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч і А. І. Яновіч была напісана ў час, калі даследчыкі былі пазбаўлены магчымасці глыбока аналізаваць погляды некаторых ключавых фігур беларускай лінгвістыкі 1920-х гг. (напрыклад, Я. Лёсіка і В. Ластоўскага) і нават згадваць іх імёны. У манаграфіі зусім не разглядаюцца акалічнасці правапіснага рэгулявання 1927–1932 гг., адсутнічае згадка аб надрукаваным праекце беларускага правапісу 1930 г. і інш. Тым не менш разгледжаная праца стала важным укладам у адэкватнае асэнсаванне перыпетый беларускага мовазнаўства 1920–1930-х гг., значна абагаціла веды ў гэтай галіне.

---

[26] Сам факт «увядзення ў правапіс» (такая фармулёўка выкарыстана ў тэксце пастановы СНК) дэкрэтыўным шляхам нейкай граматычнай катэгорыі ці яе разнавіднасці можа быць даволі паказальным. Каментуючы гэту сітуацыю ў 1989 г., брытанскі даследчык Дж. Дынглі паставіў у дужках красамоўны клічнік [454, с. 155].

## 2.1.3. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА 1920–1930-х гг. У ПРАЦЫ П. ВЭКСЛЕРА «ПУРЫЗМ І МОВА. ДАСЛЕДАВАННЕ СУЧАСНАГА ЎКРАІНСКАГА І БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛІЗМУ (1840–1967)»

У 1970–1990-я гг. гісторыя беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг. асвятлялася ў шэрагу прац амерыканскага і ізраільскага лінгвіста П. Вэкслера [509; 510; 511; 512].

Манаграфіі 1974 г. уласціва грунтоўная тэарэтычная база. Кнізе папярэднічала публікацыя канцэптуальнага артыкула, у якім праблема пурызму як адна з праблем тыпалогіі літаратурных моў разглядалася ў комплексе з пытаннямі дыгласіі і моўнай стандартызацыі [508]. Першыя тры раздзелы манаграфіі прысвечаны тэарэтычна-метадалагічным пытанням, у іх абмяркоўваюцца дэфініцыя праблемы, падыходы да яе вывучэння, непасрэдныя і далёкасяжныя мэты, пытанні ўплыву моўнай структуры на адкрытасць (прыняцце пэўных моўных элементаў) і закрытасць (іх непрыняцце), матывацыі закрытасці ў дачыненні да чужога матэрыялу, беларуская і ўкраінская мовы ў ракурсе пурызму, разгляданыя не паасобку, а разам, і інш. [509, с. 1–38][27]. Аўтар абмеркаваў іншыя ўжывальныя ў лінгвістыцы абазначэнні тыпу «моўнае планаванне» або «моўная інжынерыя», «моўная стандартызацыя», «нармалізацыя мовы», «моўная правільнасць», асаблівую ўвагу аддаўшы паняццю «прэскрыптыўнае ўмяшанне» (prescriptive intervention). У асобным кароткім параграфе П. Вэкслер разгледзеў узаемаадносіны, якія ўзнікаюць паміж моўнымі і нямоўнымі фактарамі. Аўтар аддаў належнае той акалічнасці, што пурызм фарміруецца ў пэўным інтэлектуальным асяроддзі, з нагоды чаго ён засведчыў, што беларускі пурызм развіўся ў асяроддзі рамантызму [509, с. 9–11, 23].

Міжваенны беларускі пурызм аўтар разгледзеў у дзясятым і адзінаццатым раздзелах манаграфіі, першы з якіх прысвечаны 1920-м гг., а ў другім выкладзены матэрыял 1930-х гг. [509, с. 227–279].

У дзясятым раздзеле аўтар аналізуе стаўленне кадыфікатараў 1920-х гг. да ўбірання беларускай літаратурнай мовай дыялектнага матэрыялу, прыцягнення ў яе старабеларускіх слоў, выкарыстання няўласнага матэрыялу, падрабязна абмяркоўвае стварэнне тэрміналогіі [509, с. 227–269]. Асаблівая ўвага аддадзена поглядам розных удзельнікаў абмеркавання моўных пытанняў, аўтара найбольш цікавяць разнастайныя прэскрыптыўныя сцверджанні беларускіх нармалізатараў.

Аўтар паказаў, што, заклапочаныя пагрозай з боку суседніх славянскіх моў, многія ўдзельнікі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы

[27] У адной з пазнейшых прац пра пурызм іншага аўтара сцвярджаецца, што з пункту гледжання прадстаўленага матэрыялу і тэарэтычнай базы манаграфія П. Вэкслера паводле свайго значэння «зацьмявае» любую іншую працу ў галіне славянскага пурызму. Аўтар не толькі разглядаў украінскі і беларускі пурызм у міжнародным кантэксце, але і абгрунтоўваў неабходнасць адэкватнай тыпалогіі славянскага і агульнага пурызму, а таксама прапанаваў магчымыя рэквізіты такой тыпалогіі [503, с. 96–97].

1920-х гг. лічылі, што яна павінна грунтавацца выключна на матэрыяле народнай (вясковай) мовы, пры гэтым галоўная ўвага аддавалася тым дыялектам, якія зазналі найменшы ўплыў рускай або польскай моў. Што да старабеларускай лексікі, то П. Вэкслер сцвердзіў, што існавала пэўная розніца ў стаўленні да яе паміж савецкімі мовазнаўцамі, з аднаго боку, і заходнебеларускімі, з другога: усходнебеларускія аўтары, паводле даследчыка, у цэлым ставіліся да старабеларускіх рэсурсаў менш талерантна [509, с. 235][28]. Паводле П. Вэкслера, многія беларускія моўцы ў 1920-я гг. хацелі замяніць многае з засвоенага беларускай мовай з суседніх славянскіх моў матэрыялам з гаворак або старабеларускімі словамі; калі толькі існаваў уласны матэрыял, яму мелася аддавацца перавага. Запазычанні з суседніх моў разглядаліся як часовы матэрыял. Найбольш прыдатнай для абмеркавання прэскрыптыўных тэндэнцый з'яўляецца сфера тэрміналогіі, асабліва тэрміны з тых галін ведаў, у якіх добрых слоў для задавальнення тэрміналагічных патрэб было вельмі мала: акурат у рамках разбудовы тэрміналогіі разнародныя прадпісвальныя тэндэнцыі сутыкаліся адна з адной. Увогуле, у справе фарміравання тэрміналогіі беларускія кадыфікатары, сцвярджае аўтар, абапіраліся на чэшскі вопыт. П. Вэкслер звярнуў увагу на тое, што стаўленне да выкарыстання таго або іншага матэрыялу ў рамках стварэння тэрміналогій у пэўным сэнсе было аналагічным стаўленню да канцэпцыі фарміравання літаратурнай мовы ў цэлым. Пераважная большасць лінгвістаў падзяляла погляд, згодна з якім асновай тэрміналогіі мае стаць жывая народная мова; і ў пачатку кадыфікацыі, на думку П. Вэкслера, многія былі даволі аптымістычнымі адносна магчымасці рэалізаваць такі падыход.

Аднак былі і лінгвісты, скептычна настроеныя да магчымасці максімальна выкарыстаць у працэсе стварэння тэрміналогіі народныя рэсурсы. Калі патрэбных слоў у народнай мове не было, то існавалі два падыходы. Першы з іх аўтар назваў *пераважна этнаграфічным* (згодна з ім прыдатнымі лічыліся словаўтваральныя неалагізмы, старабеларускія словы, а запазычанні дапускаліся ў апошнюю чаргу), а другі – *мадыфікаваным этнаграфічным* (паводле яго, запазычанні, асабліва інтэрнацыянальныя, прымаліся, а ў дачыненні да словаўтваральных неалагізмаў энтузіязму было менш) [509, с. 235]. Першы падыход панаваў сярод заходнебеларускіх нармалізатараў, а ва Усходняй Беларусі пашыраным быў і мадыфікаваны этнаграфічны падыход. У сувязі з апошнім аўтар спасылаўся на выказванні 1926 г. наконт матэматычнай тэрміналогіі А. Лёсіка і пазнейшую яе рэвізію. П. Вэкслер не пакінуў без увагі і тое, што такія выпадкі вагання ў напрамку да інтэрнацыяналізмаў, як гэта мела месца ў выпадку з крытыкай матэматычнай тэрміналогіі з боку А. Лёсіка, правакавалі контррэакцыю.

[28] У іншым месцы аўтар напісаў, што ўсходнія беларусы ставіліся да ўжывання старабеларускага матэрыялу з асаблівым энтузіязмам [509, с. 244]. Бадай, не заўсёды існуе магчымасць адрозніваць погляды заходне- і ўсходнебеларускіх нармалізатараў. Характарызуючы погляды заходніх аўтараў, П. Вэкслер часам грунтаваўся ці не толькі на поглядах Я. Станкевіча.

На прыкладзе савецкай Беларусі 1930-х гг., дзе ў гэты час (чаго не было раней) моцна крытыкаваліся культурныя дзеячы Заходняй Беларусі, а таксама з палітычных матываў ганьбавалася мовазнаўчая практыка 1920-х гг., аўтар паказаў пераарыентацыю ў прэскрыптыўным умяшанні. Адкрытасць літаратурнай мовы да «архаічнага» і «дыялектнага» матэрыялу, а таксама да створаных на ўласнай аснове неалагізмаў стала крытыкавацца. Аўтар зрэшты сцвердзіў, што ў савецкай Беларусі падтрымка фарміравання літаратурнай мовы на базе народных гаворак працягвала мець сілу, аднак адбыўся зрух у дачыненні да арыентацыі на канкрэтныя дыялекты: цяпер за ўзор мелі прымацца больш блізкія да рускай мовы цэнтральныя і ўсходнія гаворкі. П. Вэкслер аддаў належнае таму факту, што гэта пераарыентацыя не была фармальнай і мела арганізацыйныя інструменты: «камуністычная партыя правяла кампанію з мэтай дыскрэдытацыі беларускіх пурыстаў папярэдняга дзесяцігоддзя, абвінавачваючы іх у “нацыяналістычных” спробах аддзяліць беларускую літаратурную мову ад рускай» [509, с. 270]. «Пераважна этнаграфічны» падыход у гэты час сутыкнуўся з жорсткай крытыкай, затое шырока віталіся інтэрнацыяналізмы.

Аўтар напісаў пра афіцыйныя заявы, якія дыскрэдытавалі дзейнасць пурыстаў папярэдняга часу, і ўлічыў ідэалагічна-арганізацыйны антураж новай моўнай палітыкі. У гэтай сувязі П. Вэкслер спаслаўся на пасляслоўе да БНТ-23, пастанову СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», кнігу «”Навука” на службе нацдэмаўская контррэвалюцыі» 1931 г., спыненне выпуску тэрміналагічных слоўнікаў, часопісаў «Узвышша», «Маладняк» і «Полымя», арышты ўдзельнікаў дыскусій 1920-х гг. і інш. Аўтар ахарактарызаваў некаторыя рысы новай арыентацыі, у сувязі з чым згадаў шырока практыкаванае ў гэты час падвядзенне пад лінгвістычныя меркаванні ранейшага часу ідэалагічна-палітычнай падкладкі, інтэрпрэтацыі, згодна з якімі лінгвісты 1920-х гг. узводзілі беларусаў непасрэдна да племені крывічоў, арыентацыю ў фарміраванні лексічнага складу на тыя словы, якія былі агульнымі ва ўсіх трох усходнеславянскіх мовах, і інш. П. Вэкслер разглядаў 1930-я гг. як пэўную цэласць і, цікава, вельмі мала ўвагі ўдзяліў рэформе беларускай мовы 1933 г.

У заключным чатырнаццатым раздзеле кнігі аўтар абагульніў свае назіранні над беларускім і ўкраінскім пурызмам, а таксама паўторна звярнуўся да абмеркавання некаторых тэарэтычных пытанняў, у прыватнасці, спецыяльна асэнсаваў ролю пурызму ў развіцці літаратурнай мовы. П. Вэкслер ахарактарызаваў тэндэнцыі развіцця беларускай і ўкраінскай моў у параўнанні, перыяд за перыядам, пачынаючы ад 1840-х гг. ва Украіне і 1890-х гг. у Беларусі [509, с. 308–314], і прыйшоў да высновы, што працэсы фарміравання беларускага і ўкраінскага пурызму працякалі падобным чынам, аднак часам існавалі адрозненні паводле зместу і ступені. Аўтар зрабіў вывад, што важнымі крытэрыямі ўсіх выпадкаў накіраванага вонкі пурызму[29] з’яўляюцца часавая

[29] Такі пурызм прынцыпова адрозніваецца ад пурызму, скіраванага ўнутр, напрыклад, да сацыяльных жаргонаў і дыялектаў.

працягласць і ахоп пурыстычных тэндэнцый, а таксама неабходнасць пурызму ў развіцці той або іншай літаратурнай мовы. Аўтар вылучыў два тыпы пурызму. Першы мае месца ў прызнаных самой супольнасцю і знешнімі назіральнікамі мовах (напрыклад, чэшскай, фламандскай, афрыкаанс, албанскай і інш.). Закрытасць да чужога матэрыялу ў такіх выпадках з пункту гледжання прызнання канкрэтнай мовы ў якасці самастойнай – неістотная, і, напрыклад, турэцкая або албанская мовы могуць без рызыкі ўвабраць у сябе многа арабскага або турэцкага матэрыялу адпаведна. Другі тып пурызму ўзнікае ў мовах, незалежны статус якіх можа быць пастаўлены пад сумненне як некаторымі носьбітамі гэтых моў, так і многімі знешнімі назіральнікамі. У такіх выпадках узнікае патрэба нейтралізаваць адпаведныя абвінавачванні. Калі існуе рызыка, што нейкая мова не толькі можа быць заменена іншай, але і страціць свой статус асобнай мовы, то пурыстычныя дэкларацыі маюць тэндэнцыю быць шырокімі паводле свайго ахопу і працяглымі ў часе [509, с. 315]. Бадай, такога тыпу развагі маюць завельмі тэарэтычны характар, яны часам не пацвярджаюцца фактычным матэрыялам. Напрыклад, чэшская мова ў канцы XVIII ст. лічылася асобнай і ў Чэхіі і за яе межамі, тым не менш імкненне да закрытасці адносна нямецкага матэрыялу ў першай палове XIX ст. было даволі моцным. У шэрагу выпадкаў можа не існаваць адзінадушнага меркавання наконт самастойнага *vs* несамастойнага статусу тых або іншых моў, што само па сабе робіць складаным размежаванне названых тыпаў пурызму ў дачыненні да шэрагу моў.

Аўтар аддае належнае таму, што тыя літаратурныя мовы, якія выкарыстоўваюцца поруч з іншымі, засвоенымі раней роднаснымі літаратурнымі мовамі з глыбокай літаратурнай традыцыяй, маюць спецыфічныя цяжкасці ў падтрымцы незалежнага статусу (выпадкі ніжнянямецка-нямецкай, правансальска-французскай, сіцылійска-італьянскай канкурэнцыі і інш.). У такіх выпадках «меншыя» мовы асабліва часта могуць разглядацца як «дыялекты». Гэта актуальна і для беларускай мовы, значная колькасць адукаваных носьбітаў якой у XIX – пачатку XX ст. у рознай ступені засвоілі сумежныя рускую і польскую мовы. Значэнне мае і тое, што замежныя назіральнікі ў пачатку XX ст. не бачылі перспектыў для беларускай мовы як літаратурнай [509, с. 316–317, 326]. Праўдападобна, аўтар лічыць, што для прызнання нейкай мовы ў якасці самастойнай яе іманентныя характарыстыкі маюць большае значэнне, чым яе функцыянальны статус. Погляд, згодна з якім самастойны статус беларускай мовы залежыць ад яе функцыі ў грамадстве, ён называе «нацыяналістычным» [509, с. 318].

У цэлым П. Вэкслер даволі крытычна аценіў дасягненні ў рэгуляванні беларускай мовы праз ўмяшанні пурыстаў. Аўтар звярнуў увагу на тое, што крытэрыі кадыфікатараў не былі строгімі і маглі стасавацца да моўнага матэрыялу адвольна: у адных выпадках адны, у другіх – іншыя. Акцэнтуючы апору на ўласныя рэсурсы, пурысты часта мелі на ўвазе нейкі гіпатэтычны этап мовы, калі не існавала іншамоўных уплываў. Закрытасць у дачыненні да чужых рэсурсаў

падразумявала, што ў мову не маглі б уваходзіць новыя карані, і гэта, паводле аўтара, давала б вынікам запавольванне тэмпу развіцця мовы [509, с. 318].

Вымогі пурыстаў адносна закрытасці да замежнага матэрыялу немагчыма было выканаць паслядоўна, а пастаянныя заклікі абапірацца на вусную мову часта мелі пад сабой эстэтычныя перакананні, маглі быць «дэмагагічнымі» і нерэалістычнымі [509, с. 319]. Калі існавала патрэба, каб беларуская мова знаходзілася на ўзроўні іншых моў, то хуткі рост навуковай тэрміналогіі рабіў выкарыстанне інтэрнацыяналізмаў, якія заўсёды знаходзіліся пад рукой, непазбежным. Адштурхоўванне ад рускай і польскай моў не гарантавала беларускую мову ад пераймання іншых мадэляў. Імкнучыся пазбавіцца ад уплыву пэўных моў, пурысты ў любым выпадку кіраваліся матэрыялам гэтых моў і часта выкарыстоўвалі тыя самыя спосабы, якімі ўжываліся ў гэтых мовах. Насуперак жаданням пурыстаў «рэальнае падабенства з суседнімі мовамі ўмацоўвалася на ўзроўні прэскрыптыўных практык» [509, с. 319]. Акцэнтуючы стварэнне неалагізмаў (часта па нямецкіх ці інтэрнацыянальных мадэлях), кадыфікатары Заходняй Беларусі ішлі ўслед за чэшскім, часам за польскім узорам, якія, у сваю чаргу, грунтаваліся на нямецкай практыцы. Паводле аўтара, невыпадкова, што схільнасць да старабеларускай лексікі была мацнейшай у Заходняй Беларусі; адной з прычын гэтага было тое, што ў Заходняй Беларусі добра ведалі архаізуючы чэшскі досвед XIX ст. Затое культываваная ў савецкай Беларусі апора на інтэрнацыяналізмы поруч з калькамі – гэта падыход, навеяны практыкай рускай мовы [509, с. 319–320].

На апошніх старонках працы аўтар назваў пурызм «самапаглынальным», разам з тым нагадаў, што ён прыцягнуў увагу моўцаў да ўласных моўных рэсурсаў і стымуляваў цікавасць да іх развіцця. Урэшце, П. Вэкслер прызнаў, што пурызм стварыў бар’ер паміж беларускай і суседняй рускай мовай на ўсіх узроўнях, настолькі, што было складана гаварыць аб моцнай блізкасці беларускай і рускай моў, якая дазваляла б лічыць беларускую мову дыялектам. Значнасць пурызму ў захаванні беларускай мовы робіцца асабліва відавочнай на фоне яго адсутнасці ў савецкай Беларусі ў 1930–1950-я гг. [509, с. 320].

Аўтар карыстаўся разнастайнымі крыніцамі, выклаў у сваёй працы вельмі багаты матэрыял, паслядоўна спрабуючы адрозніваць пурыстычную практыку ў савецкай і Заходняй Беларусі. Ён неаднаразова спасылаўся на забароненыя ў БССР для выкарыстання працы Я. Лёсіка (у бібліяграфіі прыведзена яго 19 пазіцый) і В. Ластоўскага (у бібліяграфіі дадзена 9 прац), аднак не цытаваў, відаць, недаступную яму манаграфію І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. Поруч з дакладнымі ў высновах П. Вэкслера ўтрымліваецца шэраг спрэчных ацэнак. Іх абмеркаванне ў дарэчных выпадках гл. ніжэй.

У працы «Беларусіфікацыйныя, русіфікацыйныя і паланізацыйныя напрамкі ў беларускай мове 1890–1982» П. Вэкслер распрацаваў перыядызацыю пурыстычнага напрамку, у рамках якога выдзяляўся асобны перыяд 1890-х – 1932 (а ў Заходняй Беларусі 1939) гг.; важнымі аспектамі пры разглядзе гэтага перыяду для аўтара былі афіцыйны статус беларускай мовы, стаўленне

да яе статусу як самастойнай з боку навукоўцаў і лінгвістычныя дыскусіі [510]. Грунтуючыся на матэрыялах БРС-26, «Віцебскага краёвага слоўніка» М. Каспяровіча, «Падручнага беларуска-польскага слоўніка» Б. Друцкага-Падбярэскага, «Краёвага слоўніка Чэрвеншчыны» М. Шатэрніка, «Ідыш-беларускага падручнага слоўніка» 1932 г., у артыкуле «Рэлігійныя элементы ў савецкіх слоўніках ідыш, дунганскай і беларускай моў» аўтар паказаў варожае, на яго думку, стаўленне ўкладальнікаў слоўнікаў да прадстаўлення ў іх рэлігійнай тэрміналогіі (асаблівая ўвага была звернута на тэрміналогію каталіцкага абраду). Такі закід наўрад меў пад сабой важкія гістарычныя падставы; вядома, напрыклад, што РБС-28 у тагачасным друку быў крытыкаваны найперш за празмернае, на думку рэцэнзентаў, прадстаўленне рэлігійнай лексікі. Між іншым, П. Вэкслер заўважыў, што ў Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг. літаратурная мова распрацоўвалася з апорай на цэнтральныя і паўднёва-заходнія гаворкі, у той час як у савецкай Беларусі за аснову былі прыняты цэнтральныя і паўночна-ўсходнія гаворкі [511]. У 1993 г. П. Вэкслер надрукаваў артыкул пра Акадэмічную канферэнцыю 1926 г. [512].

На жаль, каштоўныя працы П. Вэкслера толькі ў нязначнай ступені ўведзены ў кантэкст беларускай лінгвістыкі. У савецкі час яго даследаванні беларускімі аўтарамі не ўлічваліся, пазней на асобныя з іх спасылаліся А. І. Жураўскі [127] і Ю. Бушлякоў [46]. У адным з сучасных беларускіх артыкулаў ёсць не толькі звычайная спасылка на даследчыка, але і сцвярджэнне таго, што ўстаноўленыя ў яго працах некаторыя дэталі стаўлення да паланізмаў у БССР у працэсе кадыфікацыі беларускай мовы могуць быць удакладнены [214, с. 138]. Артыкул «Беларусіфікацыйныя, русіфікацыйныя і паланізацыйныя напрамкі ў беларускай мове 1890–1982» зарэферыравала А. Літвіноўская [216], у аснову перыядызацыі гісторыі беларускай матэматычнай тэрміналогіі Д. В. Дзятко пакладзена класіфікацыя П. Вэкслера [105, с. 24–39]. Увядзенне прац П. Вэкслера ў навуковы ўжытак беларускіх мовазнаўцаў, вызначэнне іх месца сярод іншых беларусістычных прац застаецца адной з задач сучаснай беларускай лінгвістыкі.

### 2.1.4. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА 1920–1930-х гг. У КНІЗЕ НАРЫСАЎ «БЕЛАРУСКІЯ МОВАЗНАЎЦЫ» І. К. ГЕРМАНОВІЧА

І. К. Германовіч быў адным з першых беларускіх даследчыкаў, хто звярнуўся ў сваіх працах да вывучэння ўкладу беларускіх мовазнаўцаў 1920-х гг. у беларускую лінгвістыку, у даследаванне дыскурсу аб мове ў 1920–1930-я гг. Зацікаўленасць, звязаная з гісторыяй беларускай лінгвістыкі, з'явілася ў аўтара ў працэсе падрыхтоўкі дысертацыі «Нармалізацыя лексікі беларускай літаратурнай мовы ў 20–30-я гады XX стагоддзя» (1963).

У першым артыкуле І. К. Германовіча аб гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай лексікі сцвярджалася, што ў першыя паслярэвалюцыйныя

дзесяцігоддзі пытанні культуры мовы ў Беларусі сталі набываць «першаступеннае значэнне», яны станавіліся аб'ектам спецыяльных даследаванняў «асобных лінгвістаў і цэлых навуковых калектываў», абмяркоўваліся на старонках газет і часопісаў. Згодна з існуючай традыцыяй аўтар найперш засяродзіўся на апрацоўцы і ўдасканаленні беларускай літаратурнай мовы пісьменнікамі, уласна, на ўжыванні паланізмаў *гарбата, атрамант, загарак, цёнгле, мосенж, масянжовы* ў мастацкай літаратуры, паказаўшы працэс іх выцяснення з літаратурнай мовы. Разам з тым у артыкуле часам фіксаваліся каштоўныя заўвагі адносна стаўлення ў 1920-я гг. да некаторых лексем (прыведзена, напрыклад, меркаванне М. Гарэцкага пра словы *гарбата* і *чай*) і прадстаўленасці названых слоў у тагачасных лексікаграфічных крыніцах – НБМС і БРС-25, БРС-26 і РБС-28, БНТ-18, РБС-37 [71].

У артыкуле І. К. Германовіча 1962 г. [72] была працягнута тэма выцяснення з беларускай літаратурнай мовы асобных паланізмаў (*варунак, дэсань, мапа, нэндза, развязаць, тартак*); гэтым разам улік лексікаграфічных крыніц быў пазначаны і ў фармуляванні задачы артыкула, дзе ўказвалася, што матэрыялам артыкула з'яўляліся «друк і слоўнікі». У гэтай працы былі зроблены спасылкі на новыя лексікаграфічныя крыніцы: БНТ-1, БНТ-2, БНТ-3, БНТ-10, БНТ-14, БНТ-15, ПБВС [72]. Пазней аўтар стаў называць слоўнікі 1920-х гг., у тым ліку тэрміналагічныя, «нарматыўнымі» [73, с. 115; 74, с. 6–7; 75, с. 20]. Улік пры аналізе дынамікі беларускага лексічнага складу дадзеных лексікаграфічных крыніц 1920-х гг., пашырэнне іх кола, спасылкі на матэрыялы тагачасных дыскусій назіраюцца і ў іншых публікацыях І. К. Германовіча [73; 75; 77]. У артыкуле пра дыялектызмы і наватворы, а таксама ў дысертацыйным даследаванні сярод іншага была выказана крытыка на адрас укладальнікаў першых тэрміналагічных слоўнікаў у сувязі з прынятым імі «рэзка пурыстычным напрамку» іх працы, арыентацыяй на «моўнае штукарства» [73, с. 116–117; 74, с. 4].

Свае першыя артыкулы, непасрэдна прысвечаныя гісторыі беларускага мовазнаўства, І. К. Германовіч апублікаваў у сярэдзіне 1960-х гг., гэта былі напісаныя ў суаўтарстве працы, прысвечаныя лінгвістычнай спадчыне былога дырэктара Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума І. Бялькевіча, а таксама першага старшыні Інстытута беларускай культуры і першага дырэктара Інстытута мовазнаўства БАН С. Некрашэвіча. Пазней былі надрукаваны артыкулы пра І. Ваўка-Левановіча, А. Багдановіча, П. Юргелевіча, М. Шатэрніка і іншых беларускіх лінгвістаў. Аўтар займаўся пошукавай працай, актыўна працаваў з першакрыніцамі, збіраў інфармацыю пра лінгвістаў 1920–1930-х гг. у архівах, кантактаваў са сваякамі мовазнаўцаў. У тых выпадках, калі на шляху збору дадзеных ляжалі значныя перашкоды (як, напрыклад, адмовы афіцыйных устаноў прадаставіць інфармацыю), І. К. Германовіч карыстаўся арыгінальнымі спосабамі. Напрыклад, сутыкнуўшыся з цяжкасцямі ў зборы інфармацыі пра С. Некрашэвіча, І. К. Германовіч вырашыў наведаць былы Парыцкі раён, дзе С. Некрашэвіч у 1920-я гг. працаваў у дыялекталагічных экспедыцыях. У

выніку гэтай паездкі было ўстаноўлена месца нараджэння навукоўца. Вынікам працы даследчыка стала апублікаваная ў 1985 г. кніга «Беларускія мовазнаўцы», якая мела восем рэцэнзій. Кнігу склалі нарысы пра 17 беларускіх лінгвістаў, пераважная большасць якіх займалася лінгвістыкай у 1920–1930-я гг. У кнізе былі апублікаваны звесткі пра жыццё і дзейнасць А. К. Сержпутоўскага, М. Я. Байкова, І. В. Воўка-Левановіча, А. В. Багдановіча, М. І. Каспяровіча, І. К. Бялькевіча, А. І. Крукоўскага, М. В. Шатэрніка, А. К. Гурло і інш. Так, напрыклад, у артыкуле пра народжанага ў Расіі М. Я. Байкова былі ўказаны акалічнасці далучэння навукоўца да беларускага руху, апісана яго дзейнасць у рамках слоўнікавай камісіі Інбелкульта, разгледжаны складзеныя з яго ўдзелам лексікаграфічныя працы, прыведзены спіс больш чым са ста друкаваных прац [78, с. 94–114]. Як і ва ўсіх іншых выпадках, у нарысе пра І. В. Воўка-Левановіча (першы артыкул пра яго І. К. Германовіч надрукаваў у 1971 г.) дадзена падрабязная, наколькі магчыма, біяграфія навукоўца, спіс яго публікацый, асветлены акалічнасці атрымання адукацыі, вучоба і праца пад кіраўніцтвам Я. Ф. Карскага ў Петраградскім універсітэце, выкладчыцкая і даследчая дзейнасць у БДУ і Інбелкульце. Як і ва ўсіх іншых выпадках, у нарысе пра І. В. Воўка-Левановіча ўведзена ў навуковы ўжытак, наколькі гэта было магчыма, рукапісная спадчына навукоўца, у прыватнасці, прыведзены звесткі пра яго даклад «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы», прачытаны ў Акадэміі навук 16 снежня 1929 г. [78, с. 115–126]. У артыкуле пра А. В. Багдановіча (першы артыкул пра яго І. К. Германовіч надрукаваў у 1973 г.) прыведзены звесткі пра ўдзел А. В. Багдановіча ў краязнаўчым руху ў Віцебску і абмеркаванні правапісных праблем беларускай мовы, разгледжаны дапаможнік «Беларуская мова» і нявыдадзены рукапіс «Самавучыцеля па беларускай мове». Рыхтуючы нарыс пра А. В. Багдановіча, І. К. Германовіч прывёў звесткі і пра іншыя неапублікаваныя працы навукоўца, рукапісы якіх, на адрозненне ад «Самавучыцеля па беларускай мове», не захаваліся [78, с. 127–140]. Нягледзячы на тое што ў 1972 г. у «Весніку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта» І. К. Германовіч ужо друкаваў артыкул пра навуковую дзейнасць С. Некрашэвіча, падчас падрыхтоўкі кнігі да друку нарыс пра С. Некрашэвіча па цэнзурных прычынах з яе быў выдалены.

У 2006–2008 гг. выйшла пасмяротнае двухтомнае дапоўненае выданне, у якое былі ўключаны 47 артыкулаў. У новым выданні дадаліся лінгвістычныя партрэты В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, С. Некрашэвіча, Б. Тарашкевіча, некаторыя ранейшыя артыкулы былі папоўнены новай інфармацыяй. Напрыклад, у артыкуле пра М. Байкова была ўказана фармулёўка прычын яго звальнення з Акадэміі навук у 1930 г.[30] («як скампраметаваны ў друку і як чужы па свайму сацыяльнаму паходжанню»), удакладнены лёс навукоўца ў 1940-я гг., верагодны час і абставіны яго смерці [80, с. 44–45]. У артыкуле пра С. Некрашэвіча быў раскрыты лёс навукоўца пасля арышту [81, с. 56]. У артыкулах пра

[30] Паводле нашай інфармацыі, М. Байкоў быў звольнены з Акадэміі навук не ў сярэдзіне 1930 г., як сцвярджаў І. К. Германовіч, а 19 лістапада.

Я. Лёсіка і В. Ластоўскага дадзены біяграфічныя звесткі і ацэнка дзейнасці гэтых навукоўцаў, аб'ектыўнае асэнсаванне спадчыны якіх у Беларусі да часу іх рэабілітацыі ў канцы 1980-х гг. было немагчыма [81, с. 4–39].

Арыентаваныя на паслядоўнае прадстаўленне фактычнага, часта раней невядомага, матэрыялу, забяспечаныя падрабязнымі бія- і бібліяграфічнымі даведкамі, працы І. К. Германовіча пра шэраг ключавых і другарадных фігур беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг. сталі важным этапам не толькі ў асэнсаванні навуковых лёсаў канкрэтных асоб, але і ў даследаванні важных напрамкаў беларускага мовазнаўства гэтага часу ўвогуле (перакладная, тлумачальная, дыялектная і тэрміналагічная лексікаграфія, выпрацоўка правапісу і граматыкі, культура мовы, дыялекталогія, выпрацоўка канцэпцыі фарміравання літаратурнай мовы, вывучэнне мовы мастацкай літаратуры). Так, у артыкуле пра М. Байкова аўтар не толькі зазначаў, што М. Байкоў быў перакананым прыхільнікам ачышчэння беларускай літаратурнай мовы ад запазычанняў і стварэння беларускай навуковай тэрміналогіі на народнай аснове, але і ўказваў на карані такіх перакананняў. У прыватнасці, М. Байкоў спасылаўся на чэшскі прэцэдэнт і тую акалічнасць, што ў пачатку 1920-х гг. у Беларусі класічныя мовы не выкладаліся, і «нават студэнты вышэйшай школы часта не могуць разабрацца ў значэнні лацінскіх і грэцкіх тэрмінаў» [78, с. 99; 80, с. 48]. У артыкуле пра С. Некрашэвіча аўтар рабіў выснову, што падрыхтаваныя з удзелам мовазнаўца перакладныя слоўнікі былі важным этапам у гісторыі нацыянальнай лексікаграфіі і аж да выхаду РБС-53 заставаліся найбольш грунтоўнымі працамі гэтага тыпу. Увогуле, на думку І. К. Германовіча, даследаванні С. Некрашэвіча і калектываў, якімі ён кіраваў, у многім абумовілі дасягненні сучаснай беларускай лінгвістыкі і пры вырашэнні яе праблем часта выкарыстоўваюцца і ў нашы дні [81, с. 60, 65]. У працах І. К. Германовіча, аднак, нельга прыняць асобныя ацэнкі разгортвання правапіснага рэгулявання, напрыклад, тое, што «Праект спрашчэння беларускага правапісу» 1933 г. уяўляў сабой пэўную рэдакцыю праекта 1930 г. [81, с. 63][31].

Падчас падрыхтоўкі энцыклапедычнага выдання «Беларуская мова» І. К. Германовіч падрыхтаваў значную колькасць артыкулаў пра лінгвістаў 1920–1930-х гг., а таксама асобныя артыкулы пра канкрэтныя навуковыя падзеі, напрыклад, пра Акадэмічную канферэнцыю 1926 г. [79].

## 2.1.5. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫКІ 1920–1930-х гг. У ДАПАМОЖНІКУ «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА» Л. М. ШАКУНА

З 1994 г. у праграму падрыхтоўкі філолагаў-беларусістаў была ўведзена новая дысцыпліна – «гісторыя беларускага мовазнаўства». У 1995 г. быў выдадзены першы ў Беларусі дапаможнік па гісторыі беларускага мовазнаўства для студэнтаў філалагічных факультэтаў [392]. Гісторыя лінгвістыкі 1920–1930-х гг.

[31] Падрабязней на гэты конт гл. 5.3.

разглядаецца ў ім у рамках розных раздзелаў, прысвечаных канкрэтным напрамкам: распрацоўцы правапісу і граматычных нормаў, працы ў галіне лексікалогіі і лексікаграфіі, лінгвастылістычным і дыялекталагічным штудыям, а таксама даследаванням гісторыі беларускай мовы. У параграфе «Агульныя заўвагі аб развіцці беларускага мовазнаўства ў паслякастрычніцкі час» аўтар выклаў меркаванні аб умовах развіцця лінгвістыкі ў гэты час у параўнанні з папярэднімі гадамі, а таксама коратка закрануў гісторыю адпаведных навуковых устаноў. У дачыненні да падзей 1930-х гг. аўтар карыстаўся такім выразам, як «нечуваныя рэпрэсіі», сцвердзіў, што ў іх выніку да пачатку Другой сусветнай вайны «з беларускіх лінгвістаў засталіся лічаныя адзінкі» [392, с. 118]. Выкладанне матэрыялу ў дапаможніку істотна адрозніваецца ад асвятлення Л. М. Шакуном гісторыі беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг. у яго ранейшых дапаможніках (гл. 2.1.1); згодна з некаторымі ацэнкамі, у падручніку выкладзены «агульнапрыняты зараз погляд на развіццё беларускай мовы і мовазнаўства ў перыяд з 1918 па 1941 год» [95, с. 49].

У падручніку станоўча ацэнены працы ў галіне правапісу і граматыкі Я. Лёсіка. Пастанова СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» 1933 г. кваліфікавана як ідэйна-палітычнае мерапрыемства, якое сімвалізавала сабой адыход ад традыцый, у рэчышчы якіх адбывалася ранейшае ўдасканаленне нормаў беларускай мовы. Дэкрэт СНК, згодна з аўтарам, «радыкальна павярнуў беларускі правапіс і граматычныя нормы беларускай мовы ў бок збліжэння яе з рускай мовай» [392, с. 137–139]. У лексікаграфічным параграфе коратка асветлены ўклад у слоўнікавую справу М. Гарэцкага, станоўча ацэнены слоўнік В. Ластоўскага і адмоўна – РБС-37. Перыяд пасля вывядзення з ужытку слоўнікаў 1920-х гг. у беларускай нарматыўнай лексікаграфіі ў кнізе ахарактарызаваны як «вакуум» [392, с. 182–185].

Іначай, чым у ранейшых публікацыях, Л. М. Шакун ацаніў і дзейнасць беларускіх тэрмінолагаў 1920-х гг. У параграфе «Распрацоўка беларускай нацыянальнай тэрміналогіі» прыведзены акалічнасці тэрміналагічнай працы ў Беларусі ў пачатку 1920-х гг., названы аўтарытэтныя асобы, якія працавалі ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі, акрэслены прынцыпы стварэння тэрміналогіі. У працы прыведзена вялікая колькасць тэрміналагічных выданняў, у тым ліку дадзены поўны спіс слоўнікаў, выдадзеных у серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія». Аўтар спыніўся і на супярэчнасцях пры стварэнні тэрміналогіі, звязаных з рознымі падыходамі да фарміравання навуковай лексікі. У прыватнасці, спаслаўшыся на меркаванні А. Лёсіка, А. Смоліча, Л. Акіншэвіча, прадмовы да БНТ-18 і БНТ-21, ён сцвердзіў, што па меры з’яўлення новых слоўнікаў у надрукаваных водгуках «усё настойлівей падкрэслівалася мэтазгоднасць звяртацца ў неабходных выпадках да тэрмінаў рускай мовы, асабліва інтэрнацыянальнага распаўсюджання, каб занадта не адгароджваць беларускую нацыянальную тэрміналогію ад тэрміналогій іншых народаў» [392, с. 196–197]. Папраўдзе, стаўленне тагачаснай грамадскасці да тэрміналагічных слоўнікаў у частцы яе ацэнкі выкарыстання тых або іншых

крыніц патрабуе больш дакладнай ацэнкі. Напрыклад, пафас артыкула Л. Акіншэвіча не зводзіўся да таго, што ў ім падкрэслівалася неабходнасць звяртацца да тэрмінаў рускай мовы. Сярод іншага Л. Акіншэвіч крытыкаваў практыку ўвядзення ў беларускую мову рускіх слоў і настойліва акцэнтаваў патрэбу выкарыстоўваць старыя беларускія словы [524, с. 190–192]. У дапаможніку змешчана заўвага аб тым, што «вялікая колькасць з тых тэрмінаў, што прапаноўваліся распрацоўшчыкамі, не ўспрымаліся нават сучаснікамі», коратка абмеркаваны выпадкі заўваг наконт агульнай прыдатнасці тэрміналогіі ў якасці абавязковай для выкарыстання. Л. М. Шакун салідарызаваўся з ацэнкай Л. А. Антанюк, паводле якой імкненне ў працэсе выпрацоўкі беларускай тэрміналогіі да выкарыстання сродкаў нацыянальнай мовы «не мела якіх-небудзь крайнасцей» [392, с. 197–198].

### 2.1.6. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА 1920–1930-х гг. У КАНДЫДАЦКІХ ДЫСЕРТАЦЫЯХ 2000-х гг. І НЕКАТОРЫХ ІНШЫХ ПУБЛІКАЦЫЯХ

Пачынаючы з 1990-х гг. на хвалі ўздыму цікавасці да лінгвістычнай спадчыны 1920-х гг. у Беларусі быў здзейснены шэраг важных выданняў. У 1991 г. у серыі «Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць» выдавецтвам «Народная асвета» дванаццацітысячным тыражом было перадрукавана пятае (1929 г.) выданне «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча з кароткім уступным словам А. І. Падлужнага і папярэджаннем рэдакцыі выданняў па мове і літаратуры выдавецтва аб тым, што граматыка Б. Тарашкевіча «сёння патрабуе пэўных тлумачэнняў і каментарыяў». Такія тлумачэнні і каментарыі было паабяцана змясціць у наступным выданні серыі ў артыкуле А. Я. Міхневіча [752]. У 1994 г. у рамках серыі з кароткай прадмовай А. І. Жураўскага былі выдадзены недрукаваныя раней «Лекцыі па гісторыі беларускай мовы» І. В. Ваўка-Левановіча [579]. У 1993 і 1995 гг. выдавецтва выдала БРС-26, а таксама дапаможнік Я. Лёсіка 1926 г. «Граматыка беларускае мовы. Фанетыка» [675]. Названыя выданні былі здзейснены даволі вялікімі тыражамі (БРС-26 быў надрукаваны тыражом 26 тысяч экзэмпляраў) пераважна без грунтоўных суправаджальных матэрыялаў з боку лінгвістаў. З аднаго боку, выдавецтва рэагавала на грамадскі попыт на адпаведную літаратуру, з другога боку, яно (у выпадку выданняў Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка) не захацела ці не змагло звярнуцца да кваліфікаваных лінгвістаў з мэтай падрыхтоўкі кваліфікаваных тлумачэнняў і каментарыяў да прац лінгвістаў 1920-х гг.

У 1994 г. выйшла з друку энцыклапедыя «Беларуская мова», яе асаблівасцю было імкненне падаць гісторыю беларускай лінгвістыкі шырэй, чым гэта магло быць у выпадку, калі б энцыклапедыя выдавалася ў 1980-я гг. Так, у гэта выданне былі ўключаны не толькі артыкулы, прысвечаныя аўтарам, лінгвістычны даробак якіх вывучаўся акадэмічнай і ўніверсітэцкай навукай у папярэднія гады. У энцыклапедыі былі таксама надрукаваны артыкулы, прысвечаныя В. Ластоўскаму, Я. Станкевічу (аўтары – В. Вячорка і С. Шупа),

Я. Лёсіку (аўтар – С. М. Запрудскі), навуковая спадчына якіх у савецкі час фактычна не вывучалася або даследавалася вельмі прадузята.

Публікатарскі бум 1990-х гг. спадчыны міжваеннага перыяду паўплываў на тэматыку навуковых прац. У 2001 – 2003 гг. выкладчыкі кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ У. І. Кулікові, І. І. Савіцкая і Ю. С. Бушлякоў абаранілі кандыдацкія дысертацыі па лінгвістычнай спадчыне У. Дубоўкі, М. Гарэцкага і Я. Станкевіча, папярэдне надрукаваўшы пару дзясяткаў артыкулаў пра сваіх герояў [198; 312; 313; 314; 315; 316; 317; 46; 47; 48]. І. І. Савіцкая апублікавала асобныя артыкулы аб слоўнікавай спадчыне М. Гарэцкага і пасля абароны дысертацыі [318]. Дысертацыя У. І. Куліковіча ў 2011 г. выйшла асобным выданнем [199]. У 2000 г. было абаронена дысертацыйнае даследаванне Ж. Я. Белакурскай аб лінгвістычнай спадчыне Якуба Коласа, праца над якім была пачата яшчэ ў 1980-я гг. [21]. У названых дысертацыях карпатліва прааналізавана навуковая спадчына шэрагу ўдзельнікаў лінгвістычнага працэсу 1920-х гг. Гэтыя працы даюць больш глыбокі погляд на лінгвістыку 1920-х гг. у такіх яе напрамках, як культура мовы, фарміраванне літаратурнай мовы, перакладная лексікаграфія, гісторыя правапісу, пурызм[32].

У 1990-я гг. да гісторыі беларускай лінгвістыкі 1920–1930-х гг. неаднаразова звяртаўся А. І. Жураўскі [125; 126; 127; 128; 129; 130]. У навуковым даробку навукоўца ёсць як акадэмічныя працы [напрыклад: 126; 128], так і працы з выразнымі ідэалагічнымі акцэнтамі [напрыклад: 125]. Праблематыка гісторыі беларускага мовазнаўства асвятлялася ў шэрагу публікацый А. І. Падлужнага [266; 267; 268; 270; 271]. Асэнсаванню акалічнасцей бытавання беларускай лінгвістыкі ў 1920–1930-я гг. служаць многія працы Р. П. Платонава і апублікаваныя ім і іншымі даследчыкамі дакументы [282; 283; 284; 285; 287; 288; 290;144].

Шэраг прац па гісторыі лінгвістыкі апублікавалі супрацоўнікі і аспіранты кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта [177; 183; 185; 188; 193; 31; 33; 34; 36; 40]. Шэраг каштоўных публікацый у сферы гісторыі беларускай лінгвістыкі зрабіў В. К. Шчэрбін [406; 407; 408; 410; 411; 412; 413; 414; 415; 417; 418; 419]. Некаторыя працы ў апошнія гады былі апублікаваны ў рамках падрыхтоўкі да 90-гадовага юбілею Інбелкульта [11; 69; 397; 420].

Цікавасць апошніх гадоў да ўстанаўлення спецыфікі граматычных прац міжваеннага перыяду дала вынікам арганізацыю аўстрыйскім славістам Г. Бідэрам пасяджэння спецыяльнага тэматычнага блока на V Міжнародным кангрэсе беларусістаў, сярод матэрыялаў гэтага пасяджэння гл.: [50; 96; 300].

За межамі Беларусі ў супастаўляльным плане актыўна вывучае кадыфікацыю беларускай і ўкраінскай літаратурных моў А. Скапненка [328; 331; 332; 333; 334; 335; 336; 337]. Некаторыя меркаванні беларускіх лінгвістаў 1920–1930-х гг. у кантэксце ідэалогіі моўнага будаўніцтва ў Беларусі і Савецкім Саюзе разгледзеў К. Вулхайзер [515].

[32] Аднак шэраг нашых крытычных заўваг на адрас асвятлення Ю. С. Бушляковым дзейнасці Я. Станкевіча гл.: [131, с. 331–340].

# 2.2. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ 1920–1930-х гг. У АСВЯТЛЕННІ ЛІНГВІСТЫКІ

## 2.2.1. ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ 1920–1930-х гг. У ПРАЦАХ Л. М. ШАКУНА

У 1960–1980-я гг. гісторыю беларускай літаратурнай мовы актыўна вывучаў Л. М. Шакун, вынікі яго даследаванняў адлюстраваны ў тройчы выдадзеным дапаможніку для студэнтаў, а таксама ў шэрагу іншых публікацый [386; 389; 387; 388; 390; 391].

У «Нарысах гісторыі беларускай літаратурнай мовы» 1960 г. перыяд 1920–1930-х гг. разглядаўся ў рамках трох раздзелаў: «Змены ў лексіцы і фразеалогіі беларускай літаратурнай мовы пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі», «Замацаванне граматычных, графічных, правапісных і арфаэпічных норм беларускай літаратурнай мовы» і «Барацьба савецкай грамадскасці за чыстату, правільнасць і выразнасць літаратурнай мовы сацыялістычнай эпохі» [386, с. 191–213). Аналізуючы лексіку, аўтар, як было прынята ў навучальных дапаможніках таго часу, асаблівую ўвагу ўдзяліў словам, якія характарызавалі стары і новы ўклад жыцця. Навуковая тэрміналогія, паводле Л. М. Шакуна, у 1920-я гг. была створана «амаль на пустым месцы <...> на аснове лексічных багаццяў народнай гаворкі і выкарыстання іншамоўных запазычанняў» [386, с. 190, 197). Такая практыка, згодна з аўтарам, адпавядала агульным тэндэнцыям стварэння тэрміналогіі ў розных мовах. Сярод важных крыніц стварэння тэрміналогіі словаўтваральныя неалагізмы-калькі былі названы ў апошнюю чаргу, фактычна ў складзе запазычанняў. Пішучы пра папаўненне слоўніка літаратурнай мовы ў цэлым, аўтар, аднак, стварэнне новых слоў і словазлучэнняў вылучыў на першае месца, затым указаў на запазычванні, пераасэнсаванне старых слоў і, нарэшце, на асваенне народных гаворак [386, с. 193).

Што датычыць працэсу замацавання граматычных, графічных, правапісных і арфаграфічных нормаў беларускай літаратурнай мовы, то, паводле Л. М. Шакуна, ён працякаў спачатку з апорай на граматыку Б. Тарашкевіча і выдадзеных на яе аснове іншых падручнікаў [386, с. 206), а потым быў адрэгуляваны пастановай СНК 1933 г. Увогуле, выразнай асаблівасцю дадзенага дапаможніка з’яўляецца тое, што ў ім (прынамсі, у некаторых раздзелах) адносна многа месца аддадзена разгляду перыпетый развіцця беларускай лінгвістыкі. Такое «змешванне» можа здавацца недахопам, але, папраўдзе, існуючая цесная сувязь гісторыі беларускай літаратурнай мовы з гісторыяй беларускага мовазнаўства робіць такое спалучэнне ў рамках аднаго дапаможніка абгрунтаваным. Існуе мноства сведчанняў таго, што гісторыя літаратурнай мовы грунтоўна даследуецца толькі ў тым выпадку, калі пад

увагу прымаюцца шматлікія фактары гісторыі грамадства, гістарычныя ўмовы жыцця канкрэтнага народа, у якіх адбываецца фарміраванне і развіццё літаратурнай нормы канкрэтнай нацыянальнай мовы. Напрыклад, вядомая праца В. У. Вінаградава «Очерки по истории русского литературного языка XVII–XIX веков» 1938 г. атрымала высокую ацэнку ў савецкай лінгвістыцы не толькі таму, што ў ёй утрымліваецца глыбокі аналіз развіцця рускай літаратурнай мовы і яе стыляў, але і ў значнай ступені з той прычыны, што такі аналіз у дадзенай манаграфіі быў «бліскуча злучаны з гістарыяграфічным даследаваннем» [427, с. 65].

У адпаведнасці з патрабаваннямі 1960-х гг. выклад станаўлення літаратурнай мовы ў Беларусі 1920–1930-х гг. і, асабліва, разгляд беларускай лінгвістыкі гэтага часу пададзены ў «Нарысах…» з выразнымі ідэалагічнымі акцэнтамі, у кантэксце ўласцівай 1920–1930-м гадам «жорсткай класавай барацьбы» [386, с. 206). На працягу 1920-х гг. адбывалася, паводле гэтай працы, «засмечванне беларускай літаратурнай мовы рознымі надуманымі, штучнымі і архаічнымі словамі і формамі» [386, с. 203), у літаратурны ўжытак уводзіліся вузкамясцовыя словы, шырока запазычваліся словы з польскай мовы [386, с. 203, 206, 207).

Насуперак таму, што аўтар выразна паказаў (магчыма, нават перабольшыў) значэнне ў фарміраванні літаратурнай мовы лінгвістаў (часам не называючы канкрэтных прозвішчаў), ён, тым не менш, падкрэсліваў таксама спантанны характар станаўлення літаратурнай мовы. Напрыклад, у дапаможніку сустракаюцца выразы тыпу «беларускі народ стварыў сваю нацыянальную тэрміналогію», «беларускі народ развіваў і ўдасканальваў сваю літаратурную мову» і інш. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў гэты час, паводле фармулёвак дапаможніка, адбывалася шляхам актывізацыі ўнутраных рэсурсаў мовы і – «у неабходных выпадках» – запазычанняў [386, с. 197, 206, 191].

Пералічаныя асаблівасці ў асноўным захаваліся ў перавыданні дапаможніка ў 1963 г., аднак у дапрацаваным і дапоўненым выданні 1984 г. можна заўважыць некаторыя станоўчыя, хоць і непаслядоўныя змены. У прыватнасці, у фрагменце аб крыніцах укладання тэрміналогіі ў ім часткова былі «рэабілітаваны» словаўтваральныя неалагізмы. Месца, дзе раней фактычна сцвярджалася, што калькі належаць да іншамоўных запазычанняў, было адрэдагавана [389, с. 269].

У выданне падручніка 1984 г. дадаліся раздзелы аб зменах ва ўзаемаадносінах паміж беларускай літаратурнай мовай і народнымі гаворкамі, аб зменах у стылістычнай сістэме беларускай літаратурнай мовы і аб ролі мастацкай літаратуры і публіцыстыкі ва ўзбагачэнні і ўдасканаленні літаратурнай мовы [389, с. 281–297]. Аднак спецыфіка міжваенных гадоў у гэтых раздзелах разглядалася, падобна да ранейшых выданняў дапаможніка, непаслядоўна. Напрыклад, у раздзеле аб зменах у стылістычнай сістэме згадваліся зрухі, якія адбыліся ў беларускай літаратурнай мове на працягу савецкага перыяду ў цэлым, без вылучэння асаблівасцей розных этапаў (указвалася, напрыклад, на пранікненне ў розныя стылі грамадска-палітычнай тэрміналогіі і элементаў публіцыстыкі) [389, с. 286].

Зрэшты, у новым раздзеле аб ролі мастацкай літаратуры і публіцыстыкі ва ўзбагачэнні і ўдасканаленні літаратурнай мовы знаходзіцца шэраг важных указанняў на развіццё пэўных працэсаў у іх часавым вымярэнні. Напрыклад, аўтар паведаміў, што ў беларускай мастацкай літаратуры 1920-х гг. нават у прозе вельмі моцнай была фальклорная плынь [389, с. 289]. У гэты час, паводле аўтара, некаторыя пісьменнікі і мовазнаўцы лічылі патрэбным карыстацца элементамі прастамоўя і нават вульгарызмамі як сродкам мастацкага выяўлення, адпаведна, у мастацкай літаратуры гэтага часу нярэдка сустракаліся выпадкі такога ўжывання [389, с. 289–290]. Гэтаксама аўтар указаў, што некаторыя ўжытыя ў мастацкай літаратуры моўныя сродкі, якія ў 1920-х – пачатку 1930-х гг. крытыкаваліся як русізмы (напрыклад, словы *поступ, накіп, прывет, урок, зашыпець, назваць, спяшыць, катацца, азадачыць, зазвінець, набат*, канчатак *-ах* у формах назоўнікаў месн. скл. мужч. р. мн. л.), пазней замацаваліся ў літаратурнай мове [389, с. 293].

У раздзеле аб ролі мастацкай літаратуры і публіцыстыкі змяшчалася заўвага аб тым, што адсутнасць цвёрдай стылістычнай нормы ў 1920–1930-я гг., у цэлым недастатковая распрацаванасць моўна-выяўленчых сродкаў «стваралі надзвычай шырокія магчымасці для наватарства ў іх адборы і выкарыстанні» [389, с. 288].

Рэдагаванне і папаўненне дапаможніка 1984 г. у некаторых выпадках сталі прычынай з'яўлення супярэчлівых фармулёвак. Напрыклад, у новым раздзеле аб зменах ва ўзаемаадносінах паміж беларускай літаратурнай мовай і дыялектамі ў кантэксце гаворкі пра тое, што мастацкая літаратура на працягу свайго развіцця супрацьстаяла неапраўданаму ўжыванню дыялектных з'яў, аўтар сцвердзіў, што ярка выражаныя дыялектызмы ў творах беларускіх пісьменнікаў 1920–1930-х гг. сустракаліся «параўнальна не так ужо і часта» [389, с. 263]. Затое ў іншым раздзеле, у кантэксце гаворкі пра адсутнасць у 1920–1930-я гг. строгіх рэгламентацый адносна ўжывання дыялектызмаў, Л. М. Шакун напісаў, што творы беларускіх пісьменнікаў гэтага часу былі «перапоўнены дыялектнымі словамі і выразамі», і паведаміў, што «многія паэты і празаікі да сваіх твораў пачалі прыкладаць спецыяльныя слоўнікі» [389, с. 291]. З'яўленне падобных супярэчлівых характарыстык абумоўлівалася, відаць, несвабодай навуковага мышлення, уласцівага 1960–1980-м гг., што асабліва выразна відаць на прыкладзе навучальнай літаратуры. З выкладання матэрыялу ў раздзеле аб зменах ва ўзаемаадносінах паміж літаратурнай мовай і гаворкамі вынікае, што аўтара цікавілі не толькі гістарычныя працэсы развіцця беларускай літаратурнай мовы. У гэтым кароткім раздзеле палова плошчы была аддадзена адрасаваным бягучай злобе дня развагам аб месцы дыялектнай лексікі ў сучаснай беларускай мове.

У выдадзеным у 1980-я гг. падручніку па гісторыі беларускай літаратурнай мовы (тым больш у ранейшых працах) не было магчымасці паслядоўна і несупярэчліва паказаць працэсы развіцця беларускай літаратурнай мовы

ў 1920–1930-я гг. Дапаможнікі па гісторыі беларускай літаратурнай мове Л. М. Шакуна, аднак, маюць вялікае значэнне як важны этап асэнсавання адпаведнай тэматыкі.

### *2.2.2.* АСВЯТЛЕННЕ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ 1920–1930-х гг. У ПРАЦАХ І. К. ГЕРМАНОВІЧА

У кандыдацкай дысертацыі [74], звязаных з яе падрыхтоўкай ранейшых [71; 72; 73;] і пазнейшых публікацыях [75; 77] на прыкладзе 85 «найбольш ужывальных» [74, с. 7] у 1920–1930-я гг. лексічных дублетных радоў І. К. Германовіч асэнсаваў асаблівасці нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы гэтага часу. Выбар тэмы быў абумоўлены той акалічнасцю, што ў дадзены перыяд «найбольш ярка праяўляліся супярэчлівыя тэндэнцыі развіцця беларускай літаратурнай мовы і найбольш інтэнсіўна адбывалася яе нармалізацыя» [74, с. 6]. Крыніцамі матэрыялу для аўтара паслужылі як мастацкая, навуковая, публіцыстычная і афіцыйная літаратура, так і звесткі з беларускіх слоўнікаў і спецыяльных артыкулаў па пытаннях культуры беларускага маўлення ў перыяд 1920–1930-х гг. У працэсе аналізу лексічных дублетаў быў прыняты строгі парадак, згодна з якім тлумачыліся значэнні слоў і іх паходжанне, на матэрыяле пісьмовых помнікаў устанаўлівалася даціроўка лексем, вызначалася пашырэнне слоў у беларускіх гаворках і іншых мовах, устанаўліваўся час узнікнення лексічнага дублетнага рада, фіксавалася яго адлюстраванне ў розных моўных стылях і ў творах асобных пісьменнікаў, адзначалася прадстаўленне тых або іншых кампанентаў дублетнага рада ў слоўніках (апошнія аўтарам звычайна называліся «нарматыўнымі»), час ліквідацыі лексічнага дублетнага рада, прычыны выхаду з літаратурнага ўжытку асобных кампанентаў дублетнага рада, месца кампанентаў лексічнага дублетнага рада ў слоўнікавым складзе беларускай літаратурнай мовы [74, с. 7].

Аўтар звярнуў увагу на тое, што ўласцівая літаратурнай мове першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў лексічная дублетнасць у значнай ступені была ўнаследавана з папярэдняга перыяду развіцця мовы, калі яшчэ не былі вызначаны пэўныя граніцы паміж агульнанароднымі і дыялектнымі словамі. Суіснаванне ў маўленчай практыцы паралельных слоў, узятых з розных гаворак (*рукавіцы – сподкі, зусім – спрэс*), было звычайнай практыкай 1920-х гг. Па-другое, неапраўданым было ўжыванне многіх русізмаў (*гасударства, вучыцель, сабранне, стацця*), бо для перадачы адпаведных паняццяў здаўна існавалі беларускія словы. Таксама, паводле даследчыка, у лексіцы літаратурнай мовы было занадта многа паланізмаў, дублетнасць павялічвалі ўведзеныя для ўзбагачэння беларускага слоўніка архаізмы і наватворы [71, с. 87]. Найбольшую ўвагу даследчыка прыцягнула выцясненне з беларускай мовы паланізмаў [71; 72]. У іх І. К. Германовіч прааналізаваў ужыванне і паступовы заняпад слоў *гарбата, атрамант, загарак, цёнгле, мосенж, масянжовы*, *варунак, дэсань, мапа, нэндза, развязаць, тартак*, прывёў пералік больш ужывальных

(*варункі, выстарчаць*, *гвязда, жагнаць, жадны, нэндза, пекны* і вытворныя *пекнасць, пекна* і *пекната, строі* і *стройны, выстраены, строіцца, ценкі, цнота* і *цнатлівасць*) і менш ужывальных (*вызыск, дэсэнь, мапа, парцаляна, пушка, пудэлак, развязаць, размаіты, рапараваць, тартак, трунак, тэстамент, утур, ядваб*) паланізмаў. І. К. Германовіч зрабіў вывад, што к другой палове 1930-х гг. беларуская лексічная сістэма ў асноўным стабілізавалася, а лексічныя нормы складваліся і замацоўваліся на аснове беларускага слоўнага матэрыялу [71; 72]. У артыкуле аб лексічных дыялектызмах і наватворах з апорай пераважна на матэрыял з мастацкай літаратуры і тэрміналагічныя слоўнікі разгледжана канкурэнцыя слоў *бацян* і *бусел*, ужыванне прыслоўяў *кагадзе* 'нядаўна', *суздром* 'зусім, цалкам', *угрунь, грунём* 'бягом, хутка', слоў *мошаст, машастовы, пара* 'суткі', асэнсавана выкарыстанне шматлікіх наватвораў, што ўзніклі ў працэсе разбудовы інтэлектуальнага пласта беларускай лексікі, а таксама ў практыцы індывідуальнай словатворчасці асобных пісьменнікаў [73]. На думку аўтара, асабліва многа лексічных дублетаў існавала ў сферы тэрміналогіі як вынік пурыстычнай скіраванасці першых тэрміналагічных слоўнікаў [74, с. 4].

І. К. Германовіч класіфікаваў дублетныя рады з пункту гледжання часу іх узнікнення і паходжання кампанентаў, звярнуў увагу на рухомасць складу кампанентаў шэрагу дублетных радоў (яны маглі быць двух-, трох- і чатырохкампанентнымі), разгледзеў пашыранасць тых або іншых радоў у залежнасці ад паходжання кампанентаў. Аўтар прыйшоў да высноў, што кампаненты многіх радоў паступова змянялі свае значэнні або стылістычныя характарыстыкі, што ў сучаснай мове захавалася зусім мала радоў, якія ўтварыліся яшчэ ў старабеларускай мове, што ў савецкі час нормы беларускай літаратурнай мовы складваліся ў цесным узаемадзеянні з нормамі рускай мовы. І. К. Германовіч прыйшоў да вываду, што на працягу 1920–1930-х гг. беларуская літаратурная мова значна папоўніла свой лексічны склад і ў асноўным выпрацавала агульныя для ўсіх стыляў лексічныя нормы. Гэта выпрацоўка ажыццяўлялася найперш шляхам ліквідацыі празмернай дублетнасці. Ліквідацыя дублетнасці і замацаванне за кожным тэрмінам аднаго пэўнага значэння адбываліся адначасова са стылістычнай дыферэнцыяцыяй лексікі, што паклала пачатак строгаму размежаванню разрадаў лексікі ў залежнасці ад ужывання ў розных відах вуснага і пісьмовага маўлення [74].

Выкананае з прыцягненнем вялікага матэрыялу, апрацаванага па строгай методыцы, дысертацыйнае даследаванне І. К. Германовіча ў многіх сваіх фрагментах і сёння застаецца непераўзыдзеным узорам аналізу лексічнага матэрыялу 1920–1930-х гг. Час падрыхтоўкі гэтай працы пакінуў свой след у тым, што часам аўтар недастаткова ўлічваў канцэпцыі 1920-х гг. і аналізаваў моўнае ўжыванне з пункту гледжання падыходаў 1960-х гг., якім было ўласціва строгае стаўленне да дублетнасці ў рамках літаратурнай мовы. І. К. Германовіч часам занадта крытычна ацэньваў уласцівую 1920-м гг. практыку свабоднага выкарыстання ва узусе і тэрміналагічных слоўніках разнастайных дыялект-

ных слоў і наватвораў, якія не захаваліся ў літаратурнай мове наступных дзесяцігоддзяў. У некаторых выпадках на выніках даследавання І. К. Германовіча адлюстравалася і тая акалічнасць, што на фоне выключна багатых даных мастацкай літаратуры прыцягненне матэрыялу навуковага і афіцыйна-дзелавога стыляў у яго працы можа выглядаць як недастатковае.

### 2.2.3. «ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ» І. І. КРАМКО, А. К. ЮРЭВІЧ, А. І. ЯНОВІЧ

Калектыўная манаграфія І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч і А. І. Яновіч 1968 г. па сённяшні дзень застаецца галоўнай кнігай, у якой найбольш поўна, дэталёва і кваліфікавана паказаны працэсы развіцця і станаўлення беларускай літаратурнай мовы ў міжваенныя гады. Разгляду ў кнізе станаўлення арфаграфічных, граматычных і лексічных нормаў папярэднічае грунтоўны аналіз значэння граматыкі Б. Тарашкевіча ў распрацоўцы граматычных нормаў беларускай літаратурнай мовы, пазнейшых спробаў урэгуляваць арфаграфію і граматыку, а таксама слоўнікавай работы (гл. 2.1.2).

У выкладзеным на 15 старонках раздзеле «Станаўленне арфаграфічных і граматычных норм» разгледжана бытаванне ва узусе 8 арфаграфічных (абазначэнне ненаціскнога галоснага *е*; адлюстраванне на пісьме прыстаўных *в* або *г*; правапіс прыстаўных галосных гукаў; напісанне ў запазычаннях ненаціскных галосных *о, е*; перадача на пісьме спалучэнняў галосных *іо, іа, ео*; перадача ў запазычаннях мяккасці і цвёрдасці зычных адпаведна з іх характарам у мове-крыніцы; перадача слоў з гукам *ф*; правапіс у запазычаннях падвоеных зычных), адной словаўтваральнай (перадача суфікса *-ірава-* у дзеясловах і аддзеяслоўных назоўніках на *-ава-*), 12 марфалагічных (засваенне іншамоўных слоў са значэннем асобы з суфіксам *-іст-*; формы назоўнікаў месн. скл. адз. л. мужч. і н. родаў; формы назоўнікаў родн. скл. мн. л. жан. р.; формы назоўнікаў месн. скл. мн. л. мужч. і жан. родаў; формы з адзнакамі старажытнага парнага ліку; формы канчаткаў дзеясловаў цяп. ч. 3-й асобы адз. л.; формы загаднага ладу; ужыванне сінтэтычных формаў складанага буд. ч.; формы родн. скл. лічэбнікаў *пяць – дзесяць* на *-ёх*; існаванне граматычных варыянтаў лічэбнікаў *абодвух – абодвых*; ужыванне дзеепрыметнікаў незал. і зал. ст. цяп. ч.) і 5 сінтаксічных з'яў.

Разгляд адносна шматлікіх характарыстык тагачаснай беларускай літаратурнай мовы дае добрае ўяўленне пра агульную карціну станаўлення тагачаснага беларускага правапісу і граматыкі. З другога боку, з-за шматлікасці рысаў, якія давялося асвятляць, і абмежаванасці друкаванай плошчы выклад у дадзеным раздзеле ў значнай ступені мае канстатуючы характар: у раздзеле найперш прадстаўлены вынікі станаўлення правапісу і граматыкі, але недастаткова асветлены працэс гэтага станаўлення. У рэдкіх выпадках указаны дакладныя вехі моўнага развіцця канкрэтных з'яў або ўказваецца на неаднолькавую храналагічную атрыбуцыю тых або іншых арфаграфічных або граматычных варыянтаў, якая ў шэрагу выпадкаў мела месца. Так, напрыклад, аўтары

зафіксавалі, што правапіс слоў са спалучэннямі *іо* (тыпу *піонэр, мэліорацыя*) пачаў адчуваць на сабе ўплыў акання «прыблізна ў 1924 г.» [175, с. 223–224). Формы родн. скл. лічэбнікаў *пяць – дзесяць* на *-і* поруч з устаноўленымі Б. Тарашкевічам формамі на *-ёх* «адзначаюцца амаль сістэматычна пачынаючы прыблізна з 1925–1926 гг.» [175, с. 231–232). Формы скланення назоўнікаў прыметнікавага тыпу (*тэрорыстага, тэрорыстаму, тэрорыстым* і г. д.), згодна з аўтарамі, сталі адзінай нормай прыкладна ў 1924– 1925 гг., аднак з 1928 г. зноў сталі ўжывацца формы на *-іст/-ыст*, пры гэтым у 1930 г. яны набылі значэнне факультатыўнай нормы [175, с. 227–228). Тое, што назіранняў такога тыпу ў працы няшмат, можа збядняць уяўленне пра літаратурную мову 1920–1930-х гг. як дынамічную, рухомую з'яву.

У асобных выпадках кваліфікацыі аўтараў – напрыклад, тлумачэнне дыялектным уплывам выпадкаў зацвярдзення зычных асновы ва ўскосных склонах лічэбнікаў *абодва, два* пры іх дапасаванні да назоўнікаў жан. р. тыпу *двух гаспадарак* [175, с. 232] – могуць падлягаць крытыцы.

На ўзровень асэнсавання працэсаў станаўлення арфаграфічных і граматычных нормаў у кнізе адмоўна паўплывала пэўная абмежаванасць крыніц літаратурнай мовы, якія былі выкарыстаны пры напісанні манаграфіі. У працэсе аналізу розных з'яў прыярытэт часта аддаваўся мове мастацкай літаратуры, у той час як крыніцы, датычныя мовы публіцыстыкі, навукі і, асабліва, афіцыйна-дзелавога стылю, даволі нешматлікія. Асабліва гэта справядліва ў дачыненні да крыніц 1920-х гг. У меншай ступені такі недахоп уласцівы раздзелу «Выпрацоўка лексічных норм беларускай літаратурнай мовы» [175, с. 235–271], аднак і тут абмежаваны корпус выкарыстаных навуковых і публіцыстычных крыніц часам паўплываў на вынікі даследавання. У шэрагу выпадкаў аўтары даверыліся некаторым недакладным або тэндэнцыйным ацэнкам, зробленым у 1920-я і, асабліва, у 1930-я гг., у выніку шэраг ужытых у мастацкіх творах слоў (*наўда, рыж, засіліць, собіць, нягеглы, аблудны, гугнявіць, жытло, пакупец, памітрэнжыцца, (с)пракаветны, шманаць*) неабгрунтавана залічылі да вузкіх дыялектызмаў (с. 238–239)[33], перабольшылі аб'ём русізмаў, якія праз творы пісьменнікаў увайшлі ў 1920-я гг. у беларускую літаратурную мову (с. 243–244) і інш. Дзіўным чынам у вывадах аб фарміраванні навукова-публіцыстычнага стылю аўтары не згадалі такой важнай крыніцы лексікі гэтага стылю, як наватворы-калькі (с. 270). Праўдападобна, у дачынен-

[33] Пры тым, што невузкадыялектны характар большасці пералічаных слоў сёння, бадай, відавочны і не патрабуе доказаў, словы *пакупец* 'пакупнік' і *рыж* 'рыс' маюць патрэбу ў тлумачэнні. Акрамя твораў П. Галавача, слова *пакупец* сустракаецца ў перакладах на беларускую мову твораў Д. Кэра (выдадзены ў папулярнай серыі «Вакол свету») і А. Чэхава, у рамках міжнароднай хронікі ў газеце «Савецкая Беларусь» за 1930 год. Параўн.: *сярод пакупцоў былі і абодва хлопчыкі* (Кэр); *пакупцы паведамілі яго* (Чэх.); *бабы прадаюцца па 63 іёны за 16 кілаграм, аднак пакупцоў на іх няма* (СБ 1930, чэрв.). Лексема *пакупец* фігуруе таксама як адзін з адпаведнікаў рус. *покупатель* у РБС-28. Слова *рыж* зафіксавана ў БНТ-6 і БРС-26. Яго сустракаем на старонках часопіса «Полымя» ў 1926 г. у навуковым артыкуле (*вываз з краіны рыжу*), таксама ў перакладной папулярнай літаратуры (*назапасіць рыжу* – СМД), у форме жан. р. *рыжа* – у кнізе на вайсковую тэму (*рондлі з рыжаю і тугою аржаною кашаю* – Моск.). Ва узусе 1920–1930-х гг. бытавала і форма *рыс*, але ў любым выпадку форма *рыж* не была вузкадыялектнай і ўжывалася не толькі ў мастацкай літаратуры.

ні да навуковай практыкі 1960-х гг. выпадае гаварыць аб пэўнай амбівалентнай «ідэалогіі» ў стаўленні да некаторых лексічных разрадаў – словаўтваральных наватвораў, русізмаў, дыялектызмаў і інш. Відаць, дзеяннем гэтай ідэалогіі, а таксама недастатковай распрацаванасцю пытанняў тэорыі літаратурнай мовы абумоўлены асобныя супярэчлівыя ацэнкі некаторых з'яў. Напрыклад, у адным месцы лексічнага раздзела манаграфіі аўтары выразна негатыўна ацэньваюць стан нармаванасці, засведчаны ў мастацкіх творах паслякастрычніцкага перыяду: «Адметнай рысай лексікі беларускіх мастацкіх твораў паслякастрычніцкага перыяду была яе неўнармаванасць. Вялікая колькасць дыялектызмаў, паланізмаў, дублетаў-русізмаў, аўтарскіх новаўтварэнняў-аднадзёнак засмечвала і псавала беларускую літаратурную мову» [175, с. 237]. У іншым месцы манаграфіі выказваецца шкадаванне, што «цвярозы» падыход У. Дубоўкі да выкарыстання ў літаратурнай мове «паветалізмаў» у 1920-я гг. «не быў узяты за аснову для далейшага развіцця беларускай літаратурнай мовы» [175, с. 242]. Яшчэ ў адным месцы звяртаецца ўвага на тое, што на першай стадыі станаўлення літаратурнай мовы працэс яе нармалізацыі натуральным чынам быў звязаны са зборам, выяўленнем «усяго лексічнага багацця беларускай мовы. І таму неабмежаванае выкарыстанне дыялектызмаў у творах усіх беларускіх пісьменнікаў таго часу – з'ява натуральная» [175, с. 241]. У рэцэнзіі нямецкага даследчыка К. Гутшміта сярод іншага асэнсоўваецца тая акалічнасць, што словы, якія ў беларускай мове засталіся ва ўжыванні, у кнізе ацэньваюцца станоўча, тады як лексемы, якія не ўтрымаліся ў літаратурнай мове, заўсёды атрымліваюць адмоўную ацэнку. К. Гутшміт бачыў пэўную праблему ў прымяненні аўтарамі да шэрагу слоў тэрміна «штучнае слова»; ён указаў, што забракаваны аўтарамі выраз *салодкі лёд* 'марожанае', па-першае, мае адпаведнік у выглядзе балг. *сладолед*, па-другое, яго складана параўноўваць з вядомым сапраўды штучным рускім выразам *глокая куздра* [464, с. 920–921].

## 2.2.4. БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1920–1930-х гг. У ПРАЦАХ А. Я. БАХАНЬКОВА

А. Я. Баханькоў з'яўляецца найбольш аўтарытэтным аўтарам у галіне даследавання дынамічных працэсаў у лексіцы беларускай літаратурнай мовы савецкага перыяду. Ён быў аўтарам прысвечаных лексіцы савецкага часу раздзелаў, надрукаваных у важных абагульняльных манаграфіях [82, с. 266–292; 212, с. 99–199], а таксама абароненай у пачатку 1980-х гг. доктарскай дысертацыі [20]. Напісаны ім адносна невялікі раздзел у вельмі высока ацэненай у свой час калектыўнай манаграфіі «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы» меў назву «Змяненне лексікі беларускай мовы ў савецкі перыяд».

У раздзеле больш ці менш падрабязна прааналізаваны запазычанні (с. 269–279)[34] і словаўтваральныя неалагізмы (с. 279–287); пра семантыч-

[34] Найбольш увагі было ўдзелена запазычаным праз рускую мову іншамоўным словам (с. 270–277), словам рускага паходжання было аддадзена намнога менш месца (с. 278–279).

ныя неалагізмы (с. 287–288), дыялектызмы і прафесіяналізмы (с. 289–290), перамяшчэнні ўнутры лексікі (с. 290–292) напісана даволі коратка.

Пішучы пра запазычанні, А. Я. Баханькоў разглядаў перш за ўсё тэрміналагічную сферу, ацэньваючы лексікаграфічную дзейнасць Інбелкульта і аддаючы належнае той акалічнасці, што пры выпрацоўцы тэрміналогіі асноўная ўвага звярталася на выкарыстанне лексічных і словаўтваральных багаццяў беларускай мовы. Аднак у рамках фарміравання лексікі навуковага стылю ў літаратурную мову пранікалі і шматлікія запазычаныя словы. Гэты працэс умацаваўся ў пачатку 1930-х гг., калі высветлілася, што «многія тэрміны, штучна створаныя ў 20-я гады на аснове беларускага моўнага матэрыялу, не адпавядаюць свайму прызначэнню, ускладняюць моўную практыку». Аўтар зазначыў, што з гэтага часу працэс насычэння літаратурнай мовы словаўтваральнымі тэрмінамі-неалагізмамі стаў развівацца ў «адваротным» напрамку, у выніку чаго ў мову «ўліўся» новы пласт іншамоўнай лексікі. Акрамя таго, пры пасрэдніцтве прэсы, праз пераклады класікаў марксізму-ленінізму і навуковых выданняў у літаратурную мову пранікла і была засвоена вялікая колькасць іншамоўных слоў невузкаспецыяльнага характару [82, с. 271–272].

Аўтар параўнаў працэсы запазычвання і асваення іншамоўнай лексікі беларускай і рускай мовамі ў 1920–1930-я гг. і прыйшоў да высновы, што паміж імі існавалі значныя адрозненні. У прыватнасці, гэтыя працэсы ў беларускай мове 1920-х гг. працякалі адначасова і больш актыўна, чым у рускай мове; к канцу 1930-х гг. гэта розніца зменшылася або стала зусім непрыкметнай [82, с. 273–274]. Гэтыя назіранні, на думку А. Я. Баханькова, пацвердзілі існуючае ў мовазнаўстве (узятае ім з рэдакцыйнага артыкула 5-га нумара часопіса «Вопросы языкознания» за 1967 г.) палажэнне аб тым, што «младапісьмовыя літаратурныя мовы, якія ўзніклі на аснове агульнанароднай жывой гутарковай мовы, у першы перыяд свайго развіцця пачынаюць адыходзіць ад гэтай асновы, імкліва папаўняючыся тэрмінамі, кніжнай фразеалогіяй, калькамі, запазычаннямі, жанрава-стылістычнымі наватварэннямі і г. д.» [82, с. 274].

Тое, што ў працэсах станаўлення і развіцця беларускай літаратурнай мовы, з аднаго боку, і рускай літаратурнай мовы, з другога, існуюць вельмі прыкметныя адрозненні, у літаратуры адзначалася і пазней [388, с. 5]. Гэта асаблівасць прадугледжвае выкарыстанне пры напісанні гістарычных прац прынцыпу гістарызму, які бярэ пад увагу нераўнамернасць развіцця розных усходнеславянскіх моў на розных этапах іх гісторыі. Так, напрыклад, пры аналізе працэсаў запазычвання лексікі ўкраінскай літаратурнай мовы другой паловы XIX ст. – пачатку XX ст. і супастаўлення іх з «адпаведным працэсам» у рускай літаратурнай мове В. Г. Мурамцава брала за перыяд суаднясення ў развіцці рускай літаратурнай мовы не цалкам «сінхронны» ўкраінскаму перыяд, а толькі 30–70-я гг. XIX ст. [251, с. 76–77].

Нямала інфармацыі пра словаўтваральныя неалагізмы было дадзена ў рамках параграфа аб запазычаннях, а ў параграфе, спецыяльна прысвечаным словаўтваральным неалагізмам, сустракаецца агаворка аб тым, што

яны прыкметна вылучаюцца «сярод лексічных запазычанняў» [82, с. 279]. У час напісання манаграфіі ў беларускай лінгвістыцы была ў сіле тэндэнцыя насцяроржанага стаўлення да большасці створаных слоў як крыніцы абагачэння літаратурнай мовы, яны вольна ці нявольна прыраўноўваліся да запазычанняў. Згодна з распрацаванай у 1930–1950-я гг. у Савецкім Саюзе канцэпцыяй літаратурнай мовы нармаваную мову тварылі майстры слова ці народ. У раздзеле «Змяненне лексікі беларускай мовы ў савецкі перыяд» А. Я. Баханькоў у першую чаргу згадваў словы, важныя «ў працэсе пабудовы сацыялістычнага грамадства» (*суботнік, калгас, МТС, рабоча-сялянскі, Вярхоўны Савет БССР*), і звяртаў увагу на тое, што ўзнікненне новых слоў у сучаснай беларускай мове на базе ўласных словаўтваральных элементаў было асаблівым у тым сэнсе, што яно адбывалася «не адвольна, само па сабе, а апасродкавана, пад уплывам адпаведных словаўтваральных мадэляў рускай мовы» [82, с. 279–280]. Уплыў сістэмы рускай мовы на беларускую, паводле аўтара, меў двухбаковы характар. З аднаго боку, прыярытэт рускай мовы і структурная блізкасць моў «нейтралізавалі і зводзілі на нішто спробы ўтварэння новых слоў па мадэлях, не ўласцівых ні беларускай, ні рускай мове» [82, с. 280][35]. З другога – «пры раўнапраўным становішчы блізкароднасных моў запазычванне ўнутранай формы слоў, перайманне словаўтваральных мадэляў з уплываючай мовы не падаўляла, а актывізавала і павялічвала словаўтваральныя магчымасці запазычваючай мовы, выяўляла і прыводзіла ў дзеянне ўсе яе патэнцыяльныя сродкі, у выніку чаго стваралася магчымасць утвараць словы, якія могуць лічыцца ўласнабеларускімі» [82, с. 280]. Аўтар звяртаў увагу на тое, што калькаванне часта не з'яўляецца простым механічным працэсам і дазваляе рэалізаваць творчыя магчымасці мовы-рэцыпіента; гэты тэзіс А. Я. Баханькоў пацвярджаў гісторыяй стварэння слова *вылучэнец* [82, с. 280–281].

У кароткім параграфе пра дыялектызмы аўтар звярнуў увагу на тое, што колькаснае папаўненне лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы дыялектызмамі, аналагічна да развіцця дарэвалюцыйнага часу, не прыводзіла да прыкметных зрухаў унутры сінанімічных радоў, да ўстанаўлення іерархіі паміж членамі рада. А. Я. Баханькоў прывёў групоўкі дыялектнай лексікі ў залежнасці ад пашырэння тых або іншых слоў у гаворках: а) два або некалькі слоў, аднолькава пашыраныя на ўсёй тэрыторыі; б) двухчленныя сінанімічныя рады, складзеныя са слоў паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга дыялектаў; в) трохчленныя рады, у якіх адзін член мае шырокае ўжыванне ў арэале народнай мовы, а два іншыя – лакальна абмежаваныя; г) мнагачленныя рады, у якіх проціпастаўлены некалькі вузкалакальных слоў, аб'яднаных адным агульнапашыраным; д) адносна вузкалакальныя словы, для якіх няма агульнапашыраных адпаведнікаў, і інш. Аўтар таксама даў кароткую класіфікацыю сінанімічных радоў у залежнасці ад паходжання кампанентаў, вылучыўшы

[35] У якасці прыкладаў такіх спроб аўтар прыводзіў «агульнавядомы лёс такіх штучных утварэнняў 20-х гг.», як *пярэзрынь* 'рэвалюцыя', *відаль* 'перспектыва', *будзік*, *будзель* 'будзільнік', *ходнік* 'тратуар', *лівар* 'сіфон', *лісцень* 'семядоля'.

рады: а) у якія ўваходзілі толькі славянскія словы; б) складзеныя са славянскіх і запазычаных заходнееўрапейскіх слоў; в) складзеныя з запазычаных слоў. Параграф пра дыялектызмы завяршаўся вывадам аб тым, што к канцу 1920-х гг. «усё неаб'ёмнае мора народнага лексікону было ўзрушана да глыбіні» [82, с. 290]. Такая выснова, бадай, абвяргала выказанае аўтарам меркаванне аб тым, што інтэнсіўнае насычэнне беларускай літаратурнай мовы дыялектызмамі не прыводзіла да прыкметных зрухаў унутры сінанімічных радоў і да ўстанаўлення іерархіі паміж членамі рада.

У параграфе аб перамяшчэннях унутры лексікі А. Я. Баханькоў вылучыў два процілеглых працэсы: а) атрыманне нейкімі членамі сінанімічных радоў зніжанай стылістычнай характарыстыкі або іх выпадзенне і б) колькасна пераважнае павышэнне стылістычнага статусу многіх слоў, рух у напрамку да вышэйшых пластоў.

Першы працэс аўтар праілюстраваў на прыкладзе зрухаў у радах са славянскіх і запазычаных заходнееўрапейскіх слоў (*гадзіннік – загарак, чарніла – атрамант, узор – дэсань*), а таксама у радах, складзеных з двух іншамоўных слоў (*чай – гарбата, бронза – мосенж*). У рамках гэтых радоў з ужывання выпадалі пераважна паланізмы, што аўтар лічыў абгрунтаваным з прычыны аслаблення ў савецкі час кантактаў беларускай мовы з польскай. У радах, у якія ўваходзілі толькі славянскія словы, згодна з аўтарам, звычайна страчваліся лексемы, якія супадалі з рускімі або нагадвалі іх (*вёска – дзярэўня, бульба – картофля, качка – вутка, настольнік – скацерць*). Выцясненне з літаратурнага ўжытку слоў дадзенай катэгорыі, паводле А. Я. Баханькова, зусім не дыктавалася патрэбамі моўнай практыкі, а было абумоўлена «ярка выражаным на Беларусі пурызмам 1920-х – пачатку1930-х гг.» [82, с. 291]. Натуральна, у працэсе канкурэнцыі з агульнапашыранымі адпаведнікамі маглі паніжаць свой статус вузкадыялектныя словы, спачатку ўзведзеныя ў ранг тэрмінаў (у якасці прыкладаў прыведзены *цяглiца, гучок, адсотак*).

Другі працэс А. Я. Баханькоў праілюстраваў на прыкладзе рада *кабан – парсюк – вяпрук*. Быўшы спачатку зніжанай, лексема *вяпрук* паступова павысіла свой статус. Такія працэсы адбываліся і ў многіх іншых радах са сферы бытавой лексікі тыпу *пуня – адрына, стажар'е – адонак, калодзеж – студня* [82, с. 291].

Па-першае, А. Я. Баханькоў не ва ўсіх выпадках ставіў перад сабой задачу паказаць працэс засваення тых або іншых разрадаў слоў; больш важным для аўтара часам было акрэсліць агульныя, прыдатныя для навукі аб сучаснай беларускай мове, «універсальныя» падыходы. Адпаведна, прынцып храналагічнага выкладання матэрыялу захаваны ў раздзеле непаслядоўна. Калі, напрыклад, у рамках параграфа аб запазычаннях мяжа паміж прадстаўленнем матэрыялу 1920–1930-х гг., з аднаго боку, і пазнейшага часу, з другога, выразна праведзена, то ў параграфе аб словаўтваральных неалагізмах такога размежавання няма. Асаблівай увагай А. Я. Баханькова да сучаснага (перыяду напісання манаграфіі) стану мовы можна растлумачыць і тую акалічнасць, што

ў параграфе аб перамяшчэннях унутры лексікі спачатку гаворка ішла пра рух у напрамку ніжэйшых стылістычных пластоў. Аднак у 1920-я гг. дамінантным працэсам было, несумненна, уваходжанне ў літаратурную мову шматлікіх народных і новаўтвораных слоў і, адпаведна, павышэнне іх стылістычнага статусу. Вылучаючы на першае месца рух у напрамку ніжэйшых стылістычных пластоў, у рамках якога, паводле аўтара, пацярпелі некаторыя словы, якія супадалі з рускімі або нагадвалі іх, А. Я. Баханькоў, верагодна, у значнай ступені спрабаваў адказваць на «сучасныя» пытанні ўкладання рэестру Тлумачальнага слоўніка і стылістычнай кваліфікацыі ў ім многіх слоў, пытанні, якія стаялі ў канцы 1960-х гг. перад лексікографамі Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук.

Па-другое, аўтар палічыў магчымым супастаўляць працэсы запазычвання і засваення замежных слоў у беларускай і рускай літаратурных мовах на аснове «сінхронных» перыядаў іх развіцця.

Па-трэцяе, падобна да ранейшых прац Л. М. Шакуна, словаўтваральныя неалагізмы не знайшлі адэкватнага месца ў даследаванні. Яны разглядаліся яшчэ як пэўны тып запазычаных слоў, асаблівая ўвага пры іх аналізе была аддадзена ідэалагічна нагружаным саветызмам. Розныя наватворы, у тым ліку, здавалася б, зусім падобныя (параўн., напрыклад, *усяленец* ‘эмігрант’, з аднаго боку, і *вылучэнец,* з другога), у залежнасці ад таго, засталіся ці не засталіся яны ў літаратурнай мове, ацэньваліся аднолькава.

Па-чацвёртае, у развагах А. Я. Баханькова наконт аб’ектыўнага характару ўплыву рускай мовы адчуваецца даніна пастулатам перыяду арыентацыі на пабудову камуністычнага грамадства. Перайманне словаўтваральных мадэляў з уплываючай мовы – у тых выпадках, калі ў мове-рэцыпіенце ёсць прыдатныя ўласныя мадэлі, – відавочна, можа не толькі актывізаваць і павялічваць, але пры пэўных умовах – напрыклад, калі ідзе гаворка пра мовы, падлеглыя пагрозе знікнення – і падаўляць словаўтваральныя магчымасці запазычваючай мовы, прынамсі, «наладжваць» іх на іншы, магчыма, непажаданы лад [гл.: 514; прымяняльна да беларускай мовы: 376, с. 108–130; 378]. Таксама неперakaнаўча выглядаў прыведзены аўтарам «адмоўны» матэрыял. Незразумела, чаму мадэлі тыпу *будзік, ходнік*, *лісцень* забракоўваліся як для беларускай мовы безумоўна немагчымыя. Напрыклад, у польскай мове некаторыя аналагічныя ўтварэнні існуюць беспраблемна, параўн.: *budzik, chodnik*. На пэўныя ідэалагічныя погляды аўтара можа ўказваць таксама размяшчэнне матэрыялу. Ілюструючы ў параграфе аб перамяшчэннях унутры лексікі атрыманне нейкімі членамі сінанімічных радоў зніжанай стылістычнай характарыстыкі або выпадзенне гэтых членаў, А. Я. Баханькоў спачатку напісаў пра выхад з ужытку слоў, якія супадалі з рускімі або нагадвалі іх, і толькі пазней звярнуўся да заняпаду «некаторых вузкадыялектных слоў» (с. 291). Папраўдзе, такіх народных слоў, якія выйшлі з ужытку, было вельмі многа, шкадаванне з гэтай нагоды рэгулярна выказваецца многімі беларускімі мовазнаўцамі.

Важным было і тое, што запазычанні аўтар разглядаў перш за ўсё на тэрміналагічным матэрыяле, фактычна толькі на матэрыяле лексікаграфічных крыніц.

Больш разгорнута падыходы А. Я. Баханькова да вывучэння развіцця лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд былі раскрыты ў яго манаграфіі 1982 г. [20].

Чатыры раздзелы кнігі прысвечаны: а) ролі народнай лексікі; б) словаўтваральным неалагізмам; в) «ажыўленню ўстарэлых слоў» і г) іншамоўным словам. Тут назіраецца цікавая структурная розніца з разгледжаным вышэй раздзелам гэтага ж аўтара 1970 г. У прыватнасці, праблема запазычанняў стала разглядацца не ў першую, а ў апошнюю чаргу, і, наадварот, асэнсаванне праблемы дыялектызмаў (з удакладненай назвай) перамясцілася на пярэдні план. У манаграфіі спецыяльны, хоць і кароткі, раздзел быў прысвечаны ажыўленню старабеларускай лексікі. Такія змены, на нашу думку, былі выкліканы не толькі паглыбленнем і пашырэннем ведаў аўтара ў дадзенай галіне, але і ўдакладненнем ідэалагічных акцэнтаў у рамках савецкай лінгвістычнай навукі. Калі ў 1970 г. (калі яшчэ па інерцыі захоўвалі сваю сілу пастулаты пабудовы камунізму) «інтэрнацыянальнае» вывучэнне запазычанняў (пераважная іх большасць прыйшла праз рускую мову) з перспектывай будучага «зліцця моў» магло здавацца прыярытэтнай навуковай задачай, то к 1982 г. вылучэнне на першы план даследавання развіцця беларускай мовы найперш у ракурсе ўплыву на яе іншых моў з ідэалагічных прычын магло ўжо здавацца недастаткова карэктным.

Ва ўводзінах аўтар спасылаўся на створаны пры прэзідыуме АН СССР у 1961 г. каардынацыйны Навуковы савет і на праведзеную ў 1962 г. у Алма-Аты канферэнцыю, якія рэкамендавалі навуковым установам СССР засяродзіцца на распрацоўцы праблемы «Заканамернасці развіцця нацыянальных моў у сувязі з развіццём сацыялістычных нацый». У якасці метадалагічна-тэарэтычнай асновы сваёй манаграфіі былі ўзяты сінхраністычныя працы свайго часу, часта ідэалагічна арыентаваныя на дэманстрацыю тагачаснага ўзаемадзеяння і ўзаемаабагачэння моў. Ва ўводзінах аўтар цытаваў калектыўныя манаграфіі «Взаимодействие и взаимообогащение языков народов СССР», «Вопросы развития литературных языков народов СССР в советскую эпоху», спасылаўся на калектыўную працу па лексіцы сучаснай рускай мовы 1968 г., манаграфіі «Закономерности развития литературных языков народов СССР в советскую эпоху» Ю. Д. Дэшэрыева і «Розвиток лексики слов'янських мов у післявоенний період» В. Т. Каламіец, працу «Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі» і інш.

Ва ўступнай частцы манаграфіі А. Я. Баханькоў не прыводзіў дыяхранічных прац па гісторыі славянскіх літаратурных моў (хаця б па гісторыі рускай ці ўкраінскай моў, хаця б напісаных расійскімі славістамі), прысвечаных аналагічным перыядам у іх развіцці. У рамках гісторыі рускай літаратурнай мовы часам, у многім падобным да 1920-х гг. у беларускай мове, быў перыяд

XVIII ст. – пачатку XIX ст. Нешматлікія спасылкі на працы такога тыпу ў манаграфіі былі зроблены ў рамках раздзела «Словаўтваральныя неалагізмы савецкага часу», калі, напрыклад, з нагоды асэнсавання з'явы семантычнага калькавання А. Я. Баханькоў двойчы працытаваў манаграфію Ю. С. Сарокіна пра развіццё слоўнікавага складу рускай літаратурнай мовы ў 30–90-я гг. XIX ст. і адзін раз – манаграфію У. У. Весяліцкага [345; 56; 20, с. 81]. У кнізе не згадвалася калектыўная манаграфія расійскіх лінгвістаў, прысвечаная лексічным наватворам у рускай мове XVIII ст. [231], працы Л. Л. Куцінай па гісторыі выпрацоўкі расійскай тэрміналогіі [204; 205].

У рамках раздзела кнігі, прысвечанага іншамоўнай лексіцы як крыніцы папаўнення слоўнікавага складу беларускай мовы, сустракаем спасылку на калектыўную манаграфію расійскіх лінгвістаў А. Э. Біржаковай, Л. А. Вайновай, Л. Л. Куцінай аб запазычаннях у рускай мове XVII ст. Аўтар сцвердзіў, што беларуская літаратурная мова пачатку 1920-х гг. магла быць «тыповай ілюстрацыяй» да працытаванага назірання расійскіх аўтараў аб тым, што ўваходжанне вялікай колькасці іншамоўных слоў адначасова з'яўлялася імпульсам да контрнамінацыі сіламі роднай мовы. А. Я. Баханькоў сцвердзіў нават, што для ажыццяўлення ідэі апоры на свае, а не на запазычаныя моўныя сродкі ў беларускай сітуацыі пачатку1920-х гг. XX ст. «было дастаткова падстаў і рэальных магчымасцей» [20, с. 144]. Такое, зробленае *ad hoc*, сцвярджэнне пярэчыла іншым, «генеральным», меркаванням аўтара, напрыклад, аб тым, што ў 1920–1930-я гг. «"прапускная здольнасць" беларускай словаўтваральнай сістэмы аказалася недастаткова высокай, а сама яна недастаткова "вопытнай", каб справіцца з новымі складанымі задачамі» [20, с. 133]. Такі погляд дрэнна ўзгадняўся і з меркаваннем аб існаванні ў міжваенны час сітуацыі, калі «запазычыць або скалькаваць новае слова з блізкароднаснай мовы было лягчэй, чым утварыць свой неалагізм» [20, с. 71]. Сцвярджэнне А. Я. Баханькова аб «дастатковых падставах» і «рэальных магчымасцях» пярэчыць і яго вываду аб тым, што выказаная с. Некрашэвічам ідэя адзінства літаратурнай і народнай моў была «нерэальнай, ілюзорнай» [20, с. 39]. Паколькі працы па гісторыі літаратурных моў і гісторыі рускай літаратурнай мовы XVIII і XIX стст., у прыватнасці, прыцягваліся аўтарам хутчэй выпадкова, у манаграфіі панавалі погляды, угрунтаваныя на аснове іншых, сінхраністычных крыніц.

З той прычыны, што аўтар арыентаваўся сярод іншага на распрацоўваную ў яго час тэму «Руская мова і савецкае грамадства» [20, с. 4], у некаторых выпадках (напрыклад, пры разглядзе калькавання) іншыя, чым руская мова, крыніцы (украінская, польская мовы) часам недаацэнены. Увогуле, можна сказаць, што аўтар вывучаў развіццё беларускай літаратурнай мовы ў значнай ступені ў кантэксце рускай мовы. Напрыклад, абапіраючыся на развагі У. Дубоўкі, аўтар залічыў наватвор *адлюстроўваць* да калек з рускай мовы [20, с. 86]. Папраўдзе, гэта калька з украінскай (параўн. *віддзеркалювати*), магчыма, з польскай (параўн. *odzwierciadlać*) мовы. У манаграфіі не ўлічаны ўкраінскі матэрыял пры асэнсаванні з'яўлення слова *абежнік*, польскі – пры асэнсаванні

слова *натхняць* [20, с. 90–91], зусім не згадваюцца як мовы-крыніцы пры калькаванні чэшская, нямецкая і інш.

У асобных кваліфікацыях аўтара можна заўважыць выкладзеную пад выглядам акадэмічных разваг ідэалагічную ўстаноўку на пажаданае змяншэнне польскага ўплыву. Напрыклад, разважаючы пра паланізмы, якія, на думку аўтара, паўторна, пасля нашаніўскага перыяду, трапілі ў беларускую літаратурную мову пасля 1939 г., А. Я. Баханькоў назваў словы *варунак, высілкі, выснова, звязак, кава, нагода, размаіты, стасунак*, дзеяслоўныя формы *акупаваць, замаскаваць*. Але асобныя з гэтых слоў (*выснова, нагода*) не былі паланізмамі, усе гэтыя лексемы былі ўжывальнымі ў 1920-я і, часткова, у пачатку 1930-х гг. Гэтыя словы прыцягнулі ўвагу А. Я Баханькова ў значнай ступені таму, што некаторыя з іх (*варунак, выснова, кава, нагода*) былі ўключаны ў ТСБМ без абмежавальных стылістычных памет, а ён лічыў іх «ўстарэлымі або зусім забытымі за гады савецкай улады», лексемамі, што «скарэй засмечваюць лексіку непатрэбнымі дублетамі, якія нічога не дабаўляюць да адпаведных агульнапрынятых слоў» [20, с. 26].

Пералічаныя вышэй асаблівасці працы А. Я. Баханькова 1970 г. у значнай ступені захаваліся і ў яго манаграфіі. Аўтар працягваў вывучаць развіццё лексікі ў многім як даследчык-сінхраніст, зацікаўлены не столькі ўстанаўленнем працэсаў фарміравання нормаў, колькі вынікамі гэтых працэсаў, здзейсненымі на працягу гістарычнага развіцця «адхіленнямі» ад прынятых пазней нормаў. Кніга ў значнай ступені імкнулася адказваць на актуальныя пытанні сучаснага нармавання беларускай літаратурнай мовы, таму адхіленыя на працягу гісторыі нормы былі пададзены не проста як пэўны этап у гісторыі развіцця беларускай мовы, але як такія, якім трэба было процістаяць. У раздзеле пра ролю народных гаворак А. Я. Баханькоў не толькі ўказаў на статус у сучаснай беларускай мове некаторых, шырокаўжывальных у 1920-я гг., дыялектных слоў, але і выказаў свае меркаванні наконт таго, якія разнавіднасці дыялектызмаў маюць шанцы замацавацца ў сучаснай літаратурнай мове [20, с. 57]. У заключэнні да кнігі аўтар у тым ліку разважаў пра магчымасць і неабходнасць «устанаўлення “кантролю” над моўнымі працэсамі» з прычыны таго, што пэўныя рэдакцыі і выдавецтвы «ігнаравалі афіцыяльна прынятыя нормы» [20, с. 227–228], гэтыя прапановы адрасаваліся сучаснікам. На думку аднаго з замежных рэцэнзентаў, поруч з каштоўнымі і стымулюючымі назіраннямі і вывадамі некаторыя высновы аўтара мелі «раздражняльны» характар, паколькі «занадта многа ў кнізе тлумачыцца хутчэй пры дапамозе палітычных клішэ, чым праз лінгвістычныя (у тым ліку непалітызаваныя сацыялінгвістычныя) паняцці» [481, с. 50]. У манаграфіі аўтар не абмяркоўваў праблемы пашырэння кола аналізаваных крыніц, звычайна такой важнай у даследаваннях гістарычнага характару [346, с. 9]. Крыніцамі даследавання паслужылі лексічныя матэрыялы, выбраныя аўтарам з розных літаратурных крыніц («у першую чаргу з газет і часопісаў»), а таксама з фундаментальнай картатэкі сектара лексікалогіі і лексікаграфіі тагачаснага Інстытута мовазнаўства Акадэміі

навук. У працы відавочным быў ухіл на працэсы самых апошніх гадоў, з гэтай прычыны крыніцамі даследавання паслужылі не толькі беларускія матэрыялы, але і два маскоўскія слоўнікі «Новые слова и значения» і «Словарь сокращений русского языка» 1971 і 1977 гг., з якіх было выбрана «многа слоў, якія ўжо фактычна існавалі ў беларускай мове, але яшчэ не былі засведчаны ў беларускіх лексікаграфічных выданнях» [20, с. 9]. Крыніцы перыяду 1920-х, часткова і 1930-х гг. былі прадстаўлены недастаткова поўна. А. Баханькоў амаль не працаваў з іншым, акрамя лексікаграфічнага, матэрыялам гэтага часу, здабытым самастойна; згодна з задачамі даследавання, для яго перыяд 1920-х гг. уяўляў хутчэй пэўны гістарычны «фон». Гісторыя мовазнаўства 1920–1930-х гг. у манаграфіі была выкладзена пераважна ў адпаведнасці з ранейшымі падыходамі.

У манаграфіі ва ўсіх асноўных раздзелах з неаднолькавай ступенню падрабязнасці разгледжаны таксама працэсы перамяшчэнняў унутры лексікі, канкурэнцыі ў рамках сінанімічных радоў і стылістычнай дыферэнцыяцыі. Так, у раздзеле пра словаўтваральныя неалагізмы стылістычная праблематыка прысутнічае ў рамках заўваг пра тое, што сярод розных крыніц калькавання найбольшую цяжкасць уяўляюць царкоўнаславянізмы [20, с. 89–90, 92]. У раздзеле, прысвечаным ролі народных гаворак, аўтар значную ўвагу аддаў асэнсаванню канкурэнцыі паміж народнымі словамі і лексемамі, якія супадалі з рускімі або нагадвалі іх [20, с. 56–67]. Найбольш падрабязна А. Я. Баханькоў разгледзеў працэсы семантычных зрухаў у іншамоўнай лексіцы ў аспекце яе асваення беларускай мовай [20, с. 168–181]. Асвятленне семантычных працэсаў у манаграфіі А. Я. Баханькова мела прыярытэт над прадстаўленнем стылістычных працэсаў. З прычыны таго, што 1920-я гг. прыцягвалі ўвагу аўтара ў значнай ступені як пастаўшчыкі «недаўгавечнага» моўнага матэрыялу [20, с. 57, 173–174], стылістычныя працэсы, якія пачыналі выпрацоўвацца ў гэты перыяд, цікавілі аўтара менш параўнальна з дынамікай пазнейшага часу.

Пры тым, што ў даследаваннях А. Я. Баханькова прадстаўлена вялікая колькасць багатага матэрыялу, зроблены шматлікія каштоўныя вывады, арыентацыя яго прац на сінхраністычныя падыходы, а таксама наяўнасць у іх пэўных ідэалагічных канатацый абумоўлівае іх абачлівае выкарыстанне з пункту гледжання задач нашага даследавання.

### 2.2.5. БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1920–1930-х гг. У ПРАЦАХ М. В. АБАБУРКІ

Зыходзячы з важнасці ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы словаўжывання аўтарытэтных беларускіх пісьменнікаў шэраг прац па гэтай праблеме напісаў М. В. Абабурка [1; 2; 4].

У манаграфіі 1987 г. «Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры» даследчык канстатаваў, што беларускія лінгвісты ўстанаўліваюць літаратур-

ныя нормы пераважна на аснове мастацкіх тэкстаў, з гэтай прычыны існуе тэндэнцыя атаясамляць нормы літаратурнай мовы з нормамі мовы мастацкай літаратуры [2, с. 11]. Кніга складаецца з глаў: «З гісторыі станаўлення беларускага літаратурна-мастацкага слова», «Мова беларускай мастацкай літаратуры як сінтэз гутарковай і пісьмовай мовы», «Узаемадзеянне гутарковага і кніжнага маўлення ў празаічных творах беларускіх пісьменнікаў як далейшае развіццё апавядальнай мовы» і «Да праблемы ўзаемадзеяння рэгіянальнага і агульнанароднага ў мове сучаснай беларускай мастацкай літаратуры». Манаграфія выканана ў сінхраністычнай парадыгме. Ва ўступе да кнігі згадваюцца гісторыі беларускай літаратурнай мовы, напісаныя Л. М. Шакуном, а таксама І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч, аднак пры выкладзе ўказанні на суаднесеныя з пэўнымі гістарычнымі перыядамі працэсы для аўтара вялікага значэння не маюць. Першымі творамі, якія разглядаюцца ў раздзеле «Мова беларускай мастацкай літаратуры як сінтэз гутарковай і пісьмовай мовы», з'яўляюцца творы П. Місько, М. Лужаніна, П. Панчанкі, І. Мележа, А. Макаёнка; творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, К. Каганца, Янкі Купалы, У. Галубка, Цёткі, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага ў манаграфіі аналізуюцца ў іншым раздзеле [2, с. 51–56, 92–97]. М. В. Абабурка зрабіў важную выснову аб тым, што ў 1920–1930-я гг. у параўнанні з папярэднім перыядам у мове мастацкай літаратуры рэзка змянілася адносная раўнавага кніжных і гутарковых элементаў. Сярод праяўлення гэтых зменаў аўтар бачыць у пэўных пісьменнікаў (Ц. Гартнага, Я. Коласа, М. Гарэцкага) павелічэнне кніжнасці, у іншых (М. Чарота, З. Бядулі, М. Зарэцкага) – гутарковасці, у трэціх (К. Чорнага, К. Крапівы, П. Галавача, Я. Маўра) – раўнамернае ўжыванне элементаў кніжнага і пісьмовага маўлення [2, с. 174].

У манаграфіі «Станаўленне і развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры» (2000) М. В. Абабуркі ўскоснае дачыненне да тэмы нашага даследавання мае трэцяя глава «Развіццё апавядальнай нормы беларускімі савецкімі пісьменнікамі-празаікамі», у якой зыходзячы з аб'екта свайго даследавання аўтар разважае пра асаблівасці аўтарскай мовы, мовы герояў і інш. [4, с. 133–181].

Працы М. В. Абабурка каштоўныя тым, што ў іх вывучаецца спецыфіка мовы беларускай мастацкай літаратуры і яе значэння для фарміравання нормаў беларускай літаратурнай мовы ўвогуле.

### 2.2.6. БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА 1920–1930-х гг. У АСВЯТЛЕННІ ІНШЫХ ПРАЦ

Розныя аспекты бытавання беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гг. разгледжаны ў вялікай колькасці прац іншых даследчыкаў.

Фарміраванне, упарадкаванне, канструяванне, функцыянаванне беларускай навуковай тэрміналогіі прааналізавала Л. А. Антанюк, якая ў рамках асэнсавання асаблівасцей падрыхтоўкі беларускіх тэрмінаў у 1920-я гг. сярод іншага зрабіла важны вывад аб тым, што імкненне да выкарыстання

сродкаў нацыянальнай мовы ў цэлым «не мела якіх-небудзь крайнасцей» [13, с. 30]. Заслугоўвае ўвагі і тое, што даследчыца ўдакладніла погляд на беларускую тэрміналогію як на феномен, які нібыта ўзнік у 1920-я гг. літаральна з нічога. У прыватнасці, даследчыца паказала, што фарміраванне беларускай тэрміналогіі з’яўляецца працяглым [13, с. 10].

Г. І. Кулеш апублікавала некалькі прац аб мове некаторых аўтараў 1920-х гг., якія раней не траплялі ў поле зроку даследчыкаў [184; 186], а ў апошнія гады актыўна даследуе афіцыйна-дзелавы стыль, дагэтуль фактычна зусім не вывучаны [189; 190; 191; 192; 193; 194; 195; 196; 197].

Дысертацыйнае даследаванне, прысвечанае назвам асоб паводле дзейнасці ў беларускай мове 1920-х гг., выкананае на матэрыяле лексікаграфічных крыніц, абараніла А. В. Губкіна [93]. Шэраг публікацый аб іншамоўнай лексіцы ў перыёдыцы 1920–1930-х гг. падрыхтавала Т. М. Сакун [321; 322; 323; 324]. Лексіцы афіцыйна-справаводчага стылю прысвяціла свае працы С. Я. Богуш [35; 37; 39; 40].

Аказіянальным словам (індывідуальна-аўтарскім неалагізмам) прысвечаны дысертацыі М. В. Шабовіча [384] і В. А. Зразікавай [141]; гэтыя тэмы асэнсоўваюцца і ў публікацыях іншых аўтараў [326]. У дзвюх дысертацыях апошніх гадоў у тых або іншых ракурсах аналізуюцца асаблівасці мовы пісьменнікаў М. Гарэцкага і М. Зарэцкага [169; 295].

Графіка-арфаграфічныя і лексічныя асаблівасці мовы Заходняй Беларусі (1920–1939 гг.) былі прааналізаваны ў двух артыкулах В. Р. Вячоркі [65; 66]. У шэрагу прац розных аўтараў [100; 57; 49; 214; 273; 210; 58; 274; 275; 43; 229; 281; 221; 209; 51; 224; 152; 230; 24; 250; 299] назіраецца выразны дыяхранічны ракурс, які выкарыстоўваецца або як метадалагічны прынцып даследавання, або мае падпарадкаванае значэнне ў кантэксце разгляду нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў славянскім кантэксце, шляхі развіцця яе лексікі, лінгвістычную тэрміналогію 1920-х гг. даследуе Г. Бідэр [26; 27; 28; 442; 443].

Існуе даволі вялікая колькасць публікацый розных аўтараў, якія, як правіла, не засяроджваюцца спецыяльна на перыядзе 1920–1930-х гг., аднак выкарыстоўваюць моўны матэрыял гэтага часу ў кантэксце асэнсавання нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы [228; 163; 164; 165; 329; 334].

У сучаснай лінгвістыцы назапашаны багаты матэрыял для асэнсавання праблем бытавання і станаўлення беларускай літаратурнай мовы, які патрабуе ўліку і верыфікацыі.

# Раздзел 3
# ЛІНГВІСТЫКА 1920-х гг.: РАСПРАЦОЎКА ПРАВАПІСУ, ТЭРМІНАЛОГІІ, КАНЦЭПЦЫІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

## 3.1. АБМЕРКАВАННЕ ПРАВАПІСНАЙ ПРАБЛЕМАТЫКІ Ў 1920–1925 гг.

### 3.1.1. ЗНАЧЭННЕ «БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАТЫКІ» Б. ТАРАШКЕВІЧА ДЛЯ РАСПРАЦОЎКІ АРФАГРАФІЧНЫХ І ГРАМАТЫЧНЫХ НОРМАЎ

Пасля публікацыі ў 1918 г. у Вільні «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча і пазнейшага паспяховага авалодання ёю кадыфікацыйнай практыкай (на працягу 1918–1921 гг. яна была выдадзена чатыры разы) попыт на нармалізацыйныя працы ў галіне правапісу быў задаволены. Сітуацыя ў беларускай арфаграфіі ў гэты час у значнай меры стабілізавалася. Як сцвярджаў у канцы 1922 г. З. Бядуля, граматыка Б. Тарашкевіча «зрабіла вялікую ўдзячную работу і беларускім пісьменнікам, і беларускаму друкаванаму слову. У часопісах і кніжках скончылася пестрата і размаітасць формаў і правіл» [568]. Гэтай стабільнасці спрыяла і тая акалічнасць, што чацвёртае – віленска-берлінска-мінскае – выданне граматыкі [751] было надрукавана немалым тыражом з падтрымкай НКА, яно было даступнае і ў савецкай Беларусі[36]. З 1921 г. у Мінску сталі друкавацца граматычныя дапаможнікі Я. Лёсіка, якія былі падрыхтаваны з апорай на падручнік Б. Тарашкевіча. У першым падручніку Я. Лёсіка была змешчана заўвага аб тым, што выкарыстаны ў кнізе правапіс быў прыняты паводле «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча [662, с. 2]. Як сведчыў С. Некрашэвіч, таксама і ў другім выданні першай часткі «Практычнай граматыкі» Я. Лёсіка 1922 г. арфаграфія Б. Тарашкевіча была пададзена ў нязмененым выглядзе [551, с. 4]. Паводле С. Некрашэвіча, без змен правапіс Б. Тарашкевіча папулярызаваўся і ў пазнейшым падручніку Я. Лёсіка –

[36] Пытанне аб надрукаванні граматыкі Б. Тарашкевіча разглядалася на сходзе навукова-літаратурнай калегіі пры НКА ў Мінску 15 сакавіка 1921 г., было пастаноўлена «дзеля вялікай патрэбы граматыкі для школ» надрукаваць падручнік Б. Тарашкевіча тыражом 15 тысяч экзэмпляраў [НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 91. Л. 81].

кнізе «Беларуская мова. Правапіс» 1924 г. [581, с. 34]. Пішучы аб «вялікім запатрабаванні на беларускую граматыку», 15 лістапада 1922 г. газета «Савецкая Беларусь» паведамляла, што Народным камісарыятам асветы дасылаліся ў школы граматыка Б. Тарашкевіча і першая частка «Практычнай граматыкі» Я. Лёсіка. Такім чынам, у абедзвюх частках Беларусі ў першай палове 1920-х гг. былі ва ўжытку заснаваныя на аднолькавай базе правапісныя падручнікі, што спрыяла пашырэнню і замацаванню ўніфікаванай арфаграфічнай практыкі.

Нармалізацыі беларускай мовы ў гэты час спрыяла таксама актыўнае развіццё кнігадрукавання і перыядычных беларускамоўных выданняў.

Характэрнай асаблівасцю граматыкі Б. Тарашкевіча была варыянтнасць некаторых формаў змяняльных часцін мовы, якая была абумоўлена ўплывам розных беларускіх дыялектаў [426, с. 13]. Так, у граматыцы фіксуецца варыянтнасць у формах назоўнікаў ніяк. і жан. р. у родн. скл. мн. л. (*вядзёр – вёдраў, зямель – земляў*), назоўнікаў мужч. р. на *-а* ў тв. скл. адз. л. (*старастай – старастам*), прыметнікаў жан. р. у родн. скл. адз. л. (*святой – святое, сіняй – сіняе*), родазмяняльных лічэбнікаў і займеннікаў (*аднэй – аднае, тэй – тае*), назоўнікаў жан. р. з асновай на зычны ў творным склоне (*косцю – касцёю, касьцьмі – касьцьма – касцямі*), у сістэме спражэння некаторых нетэматычных дзеясловаў (*ямо – ядзём, дамо – дадзём*), у формах дзеясловаў 3-й асобы адз. л. І спражэння з нулявым канчаткам і з канчаткам *-ць* (*нясе – нясець, думае – думаець*), дзеясловаў 1-й асобы мн. л. ІІ спражэння з канчаткамі *-ым (-ім)* і *-ом* (*сядзім – сядзём, крычым – крычом*), у формах ускосных склонаў лічэбнікаў *два* (*дзве*), утвораных ад асноў *дво-, дву-* (*двух – двох, дзвюм – дзвём*) і інш. [426, с. 13]. Існуюць розныя погляды на тое, на якім дыялекце базаваў сваю граматыку Б. Тарашкевіч. Калі адны даследчыкі падкрэсліваюць (нематываваную) угрунтаванасць нормаў Б. Тарашкевіча ў асноўным на паўднёва-заходнім дыялекце [117, с. 140], то другія прызнаюць такую дыялектную базу абгрунтаванай [180, с. 110–113]. Іншыя аўтары дыялектнай асновай граматыкі лічаць цэнтральныя беларускія гаворкі [389, с. 277; 392, с. 129]. Існуюць таксама даследчыкі, якія, бадай, не схільны вылучаць у граматыцы Б. Тарашкевіча нейкі з дыялектаў у якасці асноўнага [426, с. 14]. У цэлым, аднак, усе даследчыкі, за выключэннем А. І. Жураўскага і ў нейкай меры Л. І. Сямешкі, прызнаюць, што граматыка Б. Тарашкевіча ўслед за мовай тагачаснай беларускай пісьменнасці арыентавалася на шырокую дыялектную аснову.

Агульным падыходам Б. Тарашкевіча падчас падрыхтоўкі працы быў наступны: «Граматыка павінна толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія с а м а  м о в а  ў ж о  н а з н а ч ы л а (выдзелена намі. – *С. З.*)» [750, с. 3][37]. Арыентацыя на шырокую дыялектную аснову ў спалучэнні з нежаданнем

[37] Такі падыход выкарыстоўваўся не толькі ў гісторыі беларускага правапісу.Так, ва ўводзінах да «Правілаў чэшскага правапісу» 1902 г. Я. Гебаўэр звяртаў увагу на неабходнасць прадстаўлення ў сваім кодэксе толькі існуючых стабільных формаў: «Што да формаў, то мы строга трымаемся таго, штó ў літаратурнай мове само сабой развілася і адстаялася» [235, с. 385].

Б. Тарашкевіча займацца моўнай «інжынерыяй» абумовіла адсутнасць пасля выхаду яго працы напружання ў сферы кадыфікацыі марфалагічных нормаў.

Паколькі ў параўнанні з правапісам усталяванне граматычных нормаў пасля выдання граматыкі Б. Тарашкевіча патрабавала меншай дапрацоўкі [175, с. 184] і да граматычнай сферы была прыцягнута значна меншая ўвага лінгвістаў, у нашай працы граматычныя з'явы таксама разглядаюцца намнога менш падрабязна ў параўнанні з арфаграфічнымі.

Маючы на ўвазе прыведзены вышэй некароткі пералік марфалагічных дублетных формаў і, наадварот, адносную нешматлікасць арфаграм, якія рэальна патрабавалі дапрацоўкі, можна было б прыйсці да высновы, што граматычныя нормы ў граматыцы Б. Тарашкевіча, наадварот, патрабавалі большай увагі кадыфікатараў. Аднак графіка і часткова правапіс валодаюць максімальнай культурна-гістарычнай нагрузкай [237, с. 264–269], таму лінгвісты на пэўных этапах развіцця мовы (асабліва калі яны ўцягнуты ў «моўнае будаўніцтва») аддаюць праблемам графікі і правапісу большую ўвагу ў параўнанні з граматыкай.

Пры тым, што граматыка Б. Тарашкевіча надзвычай удала зафіксавала тагачасныя правапісныя нормы беларускай мовы, яна, тым не менш, мела асобныя недахопы. Так, напрыклад, з пункту гледжання механізацыі пісьма нязручным магло лічыцца правіла аб правапісе ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных у другім складзе перад націскам. У той час як у першым складзе перад націскам прапаноўвалася заўсёды пісаць *я*, правапісная рэалізацыя гука *е* ў другім складзе магла вар'іраваць у залежнасці ад таго, які галосны гук знаходзіўся ў першым складзе перад націскам. Так, літара *я* тут павінна была пісацца толькі тады, калі ў першым пераднаціскным складзе былі гукі, іншыя чым [а]. Калі ж у першым пераднаціскным складзе знаходзіўся гук [а], то тады ў другім пераднаціскным складзе на месцы ненаціскнога *е* павінна была пісацца літара *е*. Гэта правіла Б. Тарашкевіча дакладна наследавала падыходу, выпрацаванаму ўпершыню А. Луцкевічам у яго брашуры «Jak prawilna pisać pa biełarusku» (Вільня, 1917). У сумеснай брашуры 1918 г. А. Луцкевіча і Я. Станкевіча была змешчана спецыяльная агаворка, што «аканне» ў ёй «праведзена А. Луцкевічам паводлуг устаноўленага ім правіла»[775][38].

Гэтаксама пры педантычным стаўленні да правапісу складанасці выклікала правіла аб правапісе ненаціскнога *о* ў запазычаных словах. Рэгулюючы гэтую арфаграму, Б. Тарашкевіч выдзеліў у беларускай мове, з аднаго боку, «словы, узятыя з чужое мовы даўно», а з другога – «словы, нядаўна ўвайшоўшыя ў беларускую мову». Адпаведна, першая катэгорыя слоў павінна была падпарадкоўвацца беларускаму аканню, а другая – не. Пры пэўнай матываванасці гэтага падыходу, які адлюстроўваў рэальна існуючае раздзяленне лепш і горш засвоеных слоў, на практыцы існавалі цяжкасці ў аднясенні тых або іншых слоў да таго або іншага разраду.

---

[38] У 1918 г. Я. Лёсік спрабаваў аспрэчыць устаноўленае А. Луцкевічам правіла: «...будаваць правапіс на зыках шырокіх і вузкіх, быццам выплываючых з прынцыпу "акання", – непрактычна і рызыкоўна» [681, с. 296]. Аднак пазней да сярэдзіны 1920-х гг. Я. Лёсік не рабіў спроб змяніць яго.

## 3.1.2. ПРАЦЫ ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ 1920-х гг.

Акрамя падручнікаў Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка канца 1910-х – першай паловы 1920-х гг., вядомы нешматлікія пазнейшыя працы, прысвечаныя арфаграфіі. Да іх ліку належаць «Беларуская правапісь з практыкаваннямі» Я. Станкевіча (Вільня, 1921) [744], яго ж чатырохстаронкавая брашура «Правапісь чужых слоў» (Вільня, 1921) [745], артыкул Я. Лёсіка 1923 г. «У справе рэформы нашае азбукі» [664; 682, с. 100–106] і падручнік Р. Астроўскага [550].

У «Беларускай правапісі...» Я. Станкевіча не было ніякіх адхіленняў ад правапісных нормаў, прынятых Б. Тарашкевічам.

Кіруючыся закладзенымі Б. Тарашкевічам асновамі правапісу запазычаных слоў, у іншай сваёй брашуры «Правапісь чужых слоў» Я. Станкевіч развіў некаторыя пункты, вельмі сцісла выкладзеныя ў Б. Тарашкевіча. У прыватнасці, ён удакладняў, што ў адаптаваных запазычаных словах з гукам [ф] у беларускай мове маюць пісацца спалучэнне *хв*, літары *х* або *п*. У поўнай згодзе з Б. Тарашкевічам Я. Станкевіч вызначаў правапіс запазычаных слоў з ненаціскным *о* ў залежнасці ад таго, ці сталі гэтыя лексемы «народнымі». Прынцып ступені адаптаванасці ў беларускай мове розных катэгорый слоў быў прыменены Я. Станкевічам і пры рэгуляванні правапісу слоў з [г] выбухным або фрыкатыўным. Разглядаючы правапіс такіх лексем, Я. Станкевіч заўважаў, што выбухны *g* (*кг)* у беларускай мове сустракаецца пераважна толькі ў запазычаных словах, але «калі чужое слова робіцца народным, дык яно найчасцей пераходзіць у *г* (фрыкатыўны. – *С. З.*)». Таксама пункт аб правапісе запазычаных слоў са складамі *дэ, тэ, пэ, бэ, сэ, мэ, нэ, вэ, гэ* суправаджала заўвага аб тым, што «калі чужое слова становіцца народным у беларускай мове, дык за якісь час склад з *э* можа перайсці ў склад з *е*, толькі ў складох *дэ* і *тэ* чужых слоў *э* не пераходзіць у *е*» [745, с. 2]. Брашуру Я. Станкевіча аб напісанні замежных слоў, якая не выклікала ніякіх водгукаў у друку, можна разглядаць як своеасаблівы дадатак да правапісу Б. Тарашкевіча.

Што да артыкула Я. Лёсіка, то ён таксама не меў вялікага рэзанансу. Мяркуючы, што некаторыя літары беларускага алфавіту «зусім не адпавядаюць гукам нашае мовы», што беларускае пісьмо мае «няправільны, грубы, а часам і брыдкі выгляд» [682, с. 102], Я. Лёсік рэкамендаваў замест літары э выкарыстоўваць знак *є*, а замест *ы* – *и*. Літару *й* аўтар артыкула «У справе рэформы нашае азбукі» прапаноўваў замяніць знакам ёт (*j*). На думку Я. Лёсіка, у параўнанні з заменай літары *й* ётам замена дыграфаў *дз* і *дж* была «справай далёка прасцейшай»: у гэтым выпадку ён рэкамендаваў выкарыстоўваць літары *з̌* і *з* або *д̌* і *ж̌*. Я. Лёсік сцвярджаў, што рэформу азбукі трэба лічыць зусім своечасовай, бо з'явіўся інструмент правядзення такой рэформы – школы з выкладаннем на беларускай мове. Аўтар акрэсліў і працэдуру рэформы, у адпаведнасці з якой Інбелкульт павінен быў распрацаваць яе праект, НКА – яго зацвердзіць, а школы – пазнаёміць з рэформай шырокія колы грамадства. Я. Лёсік называў прапанаваную ім рэформу «навукова-правільнай і вельмі па-

трэбнай» і запэўніваў, што пры яе прыняцці «асабліва страшнае ломкі не будзе» [682, с. 106].

Маючы на ўвазе меркаванне Я. Бадуэна дэ Куртэнэ аб тым, што, напрыклад, руская мова зусім не звязана з рускім пісьмом па сутнасці, што такая сувязь існуе «толькі дзякуючы гістарычнай выпадковасці» [41, с. 39], можна лічыць, што графічныя прапановы Я. Лёсіка ў лепшым выпадку мелі толькі ўскоснае дачыненне да прадукавання навуковых ведаў.

Разгляду выкладзеных у артыкуле Я. Лёсіка прапаноў было прысвечана пасяджэнне ў Інбелкульце. Згодна з пазнейшай кваліфікацыяй, «праект, агулам кажучы, грамадзянства сустрэла непрыхільна: у Інбелкульце ўсе апаненты выказаліся проціў рэформы» [682, с. 100]. Прычынай такой непрыхільнасці, паводле Я. Лёсіка, была сфарміраваная к 1923 г. прывычка да ўсталяванага алфавіту.

Для задавальнення патрэб школьнага навучання ў 1925 г. у Вільні на аснове «добра апрацованых правапісаў Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка» быў укладзены падручнік Р. Астроўскага, які ва ўсіх пунктах працягваў закладзеную Б. Тарашкевічам і наследаваную Я. Лёсікам традыцыю. Між іншым, услед за Я. Лёсікам аўтар паўтарыў, што правапіс Б. Тарашкевіча быў надзвычай лёгка падтрыманы ўсімі карыстальнікамі беларускай мовы [550, с. 2, 3].

### 3.1.3. ДЗЕЙНАСЦЬ У РАСПРАЦОЎЦЫ ПРАВАПІСУ СЯРЭДЗІНЫ 1920-х гг.

Асобныя заўвагі наконт тых або іншых правіл выказваліся ў гэты час таксама аўтарамі рэцэнзій на выданні падручнікаў Я. Лёсіка. Напрыклад, у 1924 г. рэцэнзент падручніка «Беларуская мова. Правапіс» раскрытыкаваў Я. Лёсіка за адсутнасць аб'ектыўных крытэрыяў магчымасці скарачэння гука [і]. На думку рэцэнзента, адпаведнае правіла ў падручніку было выкладзена выключна няўдала. Усумніўся рэцэнзент таксама ў магчымасці аб'ектыўна размежаваць засвоеныя і незасвоеныя беларускай мовай запазычаныя словы: «дзе больш-менш аб'ектыўны крытэрыум ужывальнасці або неўжывальнасці слова ў масах народу?» [529, с. 49]. Аўтар рэцэнзіі залічыў да нелітаратурнай форму *левальвэр* і зрабіў дакор за тое, што ў падручніку быў зусім абмінуты правапіс складаных слоў. Нягледзячы на ў цэлым вельмі прыхільную ацэнку падручніка, рэцэнзент, тым не менш, лічыў, што гэты дапаможнік «ні ў якім выпадку не можа мець значэння абавязковага статуту асноў беларускага правапісу. Утварэнне такога статуту – чарговае заданне навуковых аддзелаў Інстытута беларускае культуры» [529, с. 49–50].

Пачынаючы з 1924 г. Я. Лёсік дапрацоўваў свае падручнікі. Напрыклад, у выданне дапаможніка «Беларуская мова. Правапіс» упершыню ў якасці самастойнага раздзела быў уключаны параграф «Правапіс чужаземных слоў». У параўнанні з граматыкай Б. Тарашкевіча ён, аднак, меў толькі мінімальныя дапаўненні; сур'ёзнай зменай у ім можна лічыць толькі спецыяльны пункт

аб выкарыстанні ў беларускай мове прыметнікавых назоўнікаў на *-істы / -ысты* тыпу *арганісты, алтарысты, комуністы, капіталісты* [665, с. 116–117]. У гэты час Я. Лёсік сцвярджаў, што Б. Тарашкевіч у сваёй граматыцы прапанаваў «стала й дакладна апрацованы правапіс. Гэты правапіс і прынят цяпер нашымі школамі, выдавецтвамі і пісьменнікамі. Ніхто проці яго не выступаў; усе прызналі яго с в а і м, і такім парадкам правапіс Б. Тарашкевіча стаў б е л а р у с к і м (выдзелена ўсюды аўтарам. – *С. З.*) правапісам. Можна з пэўнасцю сказаць, што правапіс гэты, паступова выправіўшы некаторыя драбніцы, у аснове сваёй застанецца нязменным» [665, с. 8].

У 1925 г. Я. Лёсік надрукаваў артыкул «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» [682, с. 177–192]. У ім ён займаўся пошукам больш рацыянальнага, на ягоную думку, спосабу перадачы на пісьме гукаў [і] і [у], а таксама правапісам складаных і чужаземных слоў. З'яўленне гэтай публікацыі, відавочна, было ў значнай ступені адказам на прыведзеныя вышэй заўвагі на адрас яго правапісу аднаго з рэцэнзентаў: у артыкуле разглядаліся пераважна тыя з'явы, якія выклікалі крытыку раней.

У дачыненні да правапісу гукаў [і] і [у] агульным падыходам у Я. Лёсіка была патрэба ўгрунтаваць іх напісанне на розных прынцыпах замест уніфікаванага, прынятага ў граматыцы Б. Тарашкевіча. Мяркуючы, што, згодна з «граматычнай правільнасцю», у беларускай мове маглі б быць прымальнымі напісанні тыпу *каза ўлезла в агарод, жыв адзін кравец*, Я. Лёсік, тым не менш, лічыў магчымым не прымаць такіх напісанняў і меркаваў, што трэба ў асноўным захаваць рэдакцыю гэтага правіла, аднак прапанаваў зрабіць выключэнні аб нескарачэнні пачатковага *у* пасля канцавых галосных у словах *увага, уважліва, умова, угода, урад, урадовы, упадак, уклад, уціск, ухвала, устава*, а таксама ў запазычаных словах тыпу *універсітэт, універсал, узурпатар*. У дачыненні да правапісу *і* Я. Лёсік прапанаваў неаднолькавыя падыходы ў залежнасці ад таго, ці з'яўляўся ён злучнікам або часціцай; асобнае правіла Я. Лёсік сфармуляваў таксама для злучніка *ды*.

Што да правапісу складаных слоў, то на думку Я. Лёсіка, прынцып напісання гэтага разраду лексікі быў заснаваны Б. Тарашкевічам у правіле правапісу складаных лічэбнікаў; існавала толькі патрэба развіць гэта правіла, што аўтар артыкула і зрабіў.

Калі Я. Лёсік успрыняў крытыку на адрас свайго правапісу 1924 г. у частцы, датычнай правапісу *і* і складаных слоў, то закіды рэцэнзента наконт невыразнасці крытэрыю размежавання адаптаваных і неадаптаваных запазычаных слоў Я. Лёсік адхіліў. Пішучы пра запазычаныя словы, Я. Лёсік чарговы раз далучыўся да сфармуляванага ў «Беларускай граматыцы для школ» падзелу замежных слоў пры напісанні галосных гукаў на абеларушаныя і неабеларушаныя. Правіла, згодна з якім галосны *о* ў запазычаных словах у значнай меры не павінен быў падпарадкоўвацца заканамернасцям беларускай мовы, у канцы 1910-х – першай палове 1920-х гг. было салідарным

меркаваннем усіх кадыфікатараў беларускай мовы. Крытэрый размежавання адаптаваных і неадаптаваных слоў, паводле Я. Лёсіка, мелі вызначыць «людзі навукі – мовазнаўцы, філолагі, хто знаецца на гэтай справе». У пачатку 1925 г. Я. Лёсік меркаваў, што «як агульная аснова для правапісу чужаземных слоў гэтае правіла (у рэдакцыі Б. Тарашкевіча. – *С. З.*) трэба лічыць дасканалым» [682, с. 187]. Грунтуючыся на выпрацаваных Б. Тарашкевічам падыходах, а таксама выкарыстоўваючы правілы напісання запазычаных слоў ва ўкраінскім правапісе, Я. Лёсік прапанаваў шэраг уласных правіл, якія ўдала разбудоўвалі сістэму напісання запазычаных слоў, вельмі коратка выкладзеную ў Б. Тарашкевіча і толькі нязначна ўдакладненую Я. Станкевічам.

Акрамя крытыкі з нагоды суб'ектыўнасці крытэрыю выдзялення абеларушаных і неабеларушаных слоў, Я. Лёсік адхіліў і крытыку ў сувязі з залічэннем слова *левальвэр* у лік літаратурных. У сваім артыкуле ён растлумачыў, што словы з перастаноўкамі складоў (тыпу рус. *тарелка* і *ладонь*) могуць станавіцца літаратурнымі[39]. Адхіліўшы падыход свайго крытыка ў часопісным артыкуле, у чарговым выданні свайго правапісу ў 1925 г. Я. Лёсік, аднак, выкарыстаў яго, кваліфікаваўшы як нелітаратурныя некаторыя фанетычна трансфармаваныя словы. Ён папярэдзіў чытачоў падручніка аб існаванні «вульгарызованых формаў» запазычаных слоў, замест якіх трэба пісаць *доктар, адвакат, фэльдшар, аэроплян, вэлёсыпэд*, а не, верагодна, падразумяваных (але не названых) *дохтар* або *дохтур, аблакат, фершал* або *хвершал, лісапэт* і да т. п. [667, с. 87].

У новым выданні правапісу 1925 г. знайшлі адлюстраванне некаторыя выказаныя ў артыкуле «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» меркаванні Я. Лёсіка наконт правапісу запазычаных слоў: адпаведны параграф тут даволі істотна дапаўняў правілы Б. Тарашкевіча. Я. Лёсік уключыў у свой падручнік таксама спецыяльны параграф, прысвечаны правапісу складаных слоў. Згодна з поглядамі на правапіс *у* і *і*, у «Беларускім правапісе» Я. Лёсіка ў 1925 г. з'явіліся таксама некаторыя змены і ў параграфах, прысвечаных перадачы на пісьме адпаведных гукаў. Напрыклад, было ўнесена выключэнне адносна немагчымасці скарачаць пачатковае *у* ў словах *увага, уважны, угода, умова, урад, упадак, уціск, уклад, ухвала*, а таксама ў запазычаных словах *універсітэт, універсал, узурпатар* і інш. У рамках раздзела, прысвечанага знакам прыпынку, былі ўведзены некаторыя правілы, якія абмяжоўвалі магчымасць скарачаць злучнік *і* ў пазіцыі пасля галосных [667, с. 132]. Тая акалічнасць, што праектаваныя змены ў правапісе не толькі абмяркоўваліся ў часопісных артыкулах, але і – явачным парадкам – уводзіліся ў падручнік, якім карысталіся шырокія слаі насельніцтва, стварыла новую сітуацыю ў грамадскай ацэнцы ўсталявання правапісу.

У канцы зімы 1925 г. у Інбелкульце пачала працаваць рэарганізаваная правапісна-тэрміналагічная камісія. На пасяджэнні прэзідыума Інбелкульта

[39] Форма *левальвэр* была кадыфікавана ў БРС-26, аднак у РБС-28 была дадзена форма *рэвальвэр*, што можна разглядаць як вынік уліку абмеркавання правапісу гэтага слова ў друку.

21 лютага 1925 г. старшынёй гэтай камісіі быў зацверджаны Я. Лёсік [ЦНА НАНБ. Ф. 67. Воп. 1. Спр. 9. Л. 10]. Ужо 26 лютага камісія пастанавіла «прыступіць да ўстанаўлення прынцыпаў правапісу чужаземных слоў і адначасна весці работу па ўкладанню слоўніка гэтых слоў» [ЦНА НАНБ. Ф. 67. Воп. 1. Спр. 9. Л. 48].

У адрозненне ад публікацыі 1923 г. аб рэформе алфавіту беларускай мовы, артыкул «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» быў неабыякава сустрэты лінгвістычнай грамадскасцю. Водгук на яго пад загалоўкам «Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу (Адказ на артыкул Я. Лёсіка)» надрукаваў А. Багдановіч, у якім ён аспрэчыў шэраг палажэнняў і прапаноў Я. Лёсіка [536].

Так, А. Багдановіч выказаў заўвагу адносна мэтазгоднасці ўводзіць выключэнні для правіла аб напісанні *у* ў частцы, датычнай спецыяльнага статусу слоў *увага, уважліва, умова, угода, урад* і інш. Не згадзіўся аўтар артыкула «Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу...» і са спробай размежаваць правапіс *й* і *ў*; перапрацоўка Я. Лёсікам правіла аб правапісе гукаў [у] і [і], на думку А. Багдановіча, «нікольκі не палепшыла» яго [536, с. 156]. А. Багдановіч перасцярог ад дэклараванага Я. Лёсікам імкнення будаваць правілы на строга навуковых падставах, бо такі падыход, паводле ягонага справядлівага меркавання, мог занадта ўскладніць правапіс. На яго думку, недахопам прапаноў Я. Лёсіка быў якраз недастатковы ўлік практычнага боку выкарыстання арфаграфіі.

Пярэчанні з боку А. Багдановіча выклікала таксама пазіцыя, згодна з якой пры напісанні запазычаных слоў захоўвала сілу размежаванне замежных слоў на адаптаваныя і неадаптаваныя ў беларускай мове. А. Багдановіч адзначыў «няпэўнасць гэтага падзелу» і сцвердзіў, што больш правільным быў бы «шлях абеларушвання патрэбных для шырокіх мас чужаземных слоў у літаратурнай мове» [536, с. 160, 162].

Не згадзіўся А. Багдановіч і з адвольным, на яго думку, падзелам Я. Лёсікам некаторых, фактычна падобных, народных формаў запазычаных слоў (напрыклад, *фершал* або *хвершал, дохтар, левальвэр*) на «вульгарызованыя» і літаратурныя. Крытык лічыў, што ў беларускай сітуацыі трэба вельмі асцярожна карыстацца тэрмінам «вульгарызм», бо раней у рускай літаратурнай мове вульгарызмам лічылася кожнае беларускае слова; тады тэрмін *вульгарызм* азначаў ‘слова, якое ўжывае «просты народ»’. Паводле А. Багдановіча, для беларускай літаратурнай мовы выкарыстанне гэтага тэрміна зусім не падыходзіць, паколькі «сама беларуская мова захавалася ў гэтым “простым народзе”, ды і з прынцыповага пункту погляду гэта не так» [536, с. 161][40].

У цэлым (за выключэннем рэалізацыі ненаціскнога *о* і скарачэння *у* ў запазычаннях) артыкул А. Багдановіча можна ахарактарызаваць як кансер-

[40] У слоўніку І. Насовіча часам сустракаюцца выразы «говор простолюдинов», «употребляется простолюдинами». У гэтых адносінах беларуская мова ў пачатку XX ст. знаходзілася ў пэўным сэнсе прыблізна ў тым становішчы, у якім руская мова была ў XVIII ст. У XVIII ст. мова рускага народа ў процістаўленні яе кніжнай мове разумелася як «простая речь», «просторечие» [148, с. 7].

ватыўны: аўтар лічыў непажаданым уводзіць змены ў выдадзены ў 1925 г. «Беларускі правапіс» Я. Лёсіка, які ён лічыў зусім аўтарытэтным кодэксам. Сваёй публікацыяй А. Багдановіч імкнуўся знізіць крытычны пафас у дачыненні да дзейнага правапісу, які выразна прысутнічаў у артыкуле Я. Лёсіка. Навуковец сцвярджаў, што ён напісаў свой артыкул «зусім не дзеля таго, каб распачынаць спрэчкі аб нашым правапісе альбо здабыць перамогу “на правапісальным полі бітвы”» [536, с. 153].

Праўдападобна, на гэтай стадыі і іншыя беларускія мовазнаўцы імкнуліся абмежаваць абмеркаванне правапісу. Здаецца, некаторыя лінгвісты на першым этапе разгортвання дыскусіі не толькі пярэчылі супраць канкрэтных прапаноў Я. Лёсіка, але і не падтрымлівалі самую ініцыятыву рэфармаваць правапіс, карыстаючыся інструментам грамадскай дыскусіі. Як скардзіўся ініцыятар рэформы ў верасні 1926 г., пасля стварэння правапіснай камісіі некаторыя яе члены (напрыклад, У. Чаржынскі і С. Некрашэвіч) прапаноўвалі забараніць публічныя дыскусіі аб зменах у правапісе. Як сведчыў Я. Лёсік, у ліпені 1926 г. камісія пастанавіла не пашыраць артыкулаў аб рэформе правапісу сярод публікі і членаў Інбелкульта ад імя гэтай камісіі. Некаторыя члены камісіі спробу (трэба думаць, Я. Лёсіка) ініцыяваць рэформу правапісу называлі «дэмагогіяй», а публічныя дыскусіі на гэту тэму – «заклiканнем вуліцы лячыць хворага» [672]. Сам Я. Лёсік лічыў, што «правапіс – справа больш грамадзянская, як кабінетна-вучоная» [682, с. 194], спробы ўтаймаваць дыскусію ацэньваў як рэтраградства і пры кожнай зручнай нагодзе апеляваў не толькі да навуковага асяродку, але і да публікі.

Правапіснае пытанне працягвала стаяць на парадку дня кіраўнічых органаў Інбелкульта. Калі 6 кастрычніка 1925 г. на пасяджэнні прэзідыума заслухоўвалася паведамленне Я. Лёсіка аб рабоце правапісна-тэрміналагічнай камісіі, то ў пастанову было запісана, што «правапіс павінен быць дэкрэтыраван, каб такім парадкам унесці аднастайнасць у наш правапіс» (ЦНА НАНБ. Ф. 67. Воп. 1. Спр. 9. Л. 243–244).

Між тым правіла аб аканні ў замежных словах у версіі Б. Тарашкевіча пачало ўсё часцей ігнаравацца. Так, пашырэнне акання на ўсе запазычаныя словы было адлюстравана ў ПРБС-26[41]. Спасылаючыся на гэтую акалічнасць, у пачатку 1926 г. рэдакцыя часопіса «Асвета» ў спецыяльнай заяве абвясціла, што ў сваёй практыцы яна адмаўляецца праводзіць размежаванне запазычаных слоў на абеларушаныя і неабеларушаныя і будзе любы ненаціскны *о* ў запазычаных словах перадаваць праз *а*, гук *е* ненаціскны будзе пакідаць без змен, а спалучэнні *іо, іа* будзе пісаць як *ія* [523; 683, с. 189].

У канцы 1925 г. у асяроддзі лінгвістаў паступова пачала фарміравацца думка аб магчымасці ўвядзення некаторых зменаў у правапіс. Калі ў красавіку 1926 г. Л. Цвяткоў падрыхтаваў справаздачу са сходу мовазнаўча-літаратурнай

[41] З гэтай нагоды закід аўтарам слоўніка зрабіў П. Бузук – паколькі «спрэчкі наконт гэтага пытання яшчэ не зусім скончыліся» [683, с. 137].

секцыі Інбелкульта (адбыўся 12 красавіка 1926 г.), то аб патрэбе «рэвізаваць» правапіс і графіку ў ёй гаварылася ўжо як аб вырашанай справе [760][42]. Паводле Л. Цвяткова, пытанне рэформы правапісу ў гэты час мела вялікае грамадскае значэнне таму, што нескладаны ў засваенні правапіс значна аблягчаў бы доступ да культуры шырокім народным масам. У Беларусі, паводле аўтара справаздачы, сітуацыя для правядзення такой рэформы была спрыяльная, паколькі арфаграфічная традыцыя была непрацяглая. Праблемнымі пунктамі тагачаснай графікі і правапісу прызнаваліся выкарыстанне дыграфаў для афрыкат [дз] і [дж], залежнасць напісання літар *е* або *я* ў другім складзе перад націскам ад якасці першага пераднаціскнога галоснага і інш. На гэтым сходзе Я. Лёсік прапанаваў адмовіцца ад выключэння аб непазначэнні асіміляцыі свісцячых перад заднеязычнымі *г, к, х* (пісаць: *зьгінуць, ськінуць, сьхіліцца*) або (у якасці альтэрнатывы) адмовіцца ад мяккага знака ў гэтай пазіцыі ўвогуле (пісаць: *згінуць, скінуць, сліва, змена, дзверы* і да т. п.). Пры абгрунтаванні апошняй прапановы Я. Лёсік спасылаўся на «магчымасць не адзначаць фактаў мовы, калі яны могуць лёгка “падразумявацца”», аднак, на думку Л. Цвяткова, такі падыход супярэчыў «духу нашага правапісу» і таму не павінен быў прымацца [760, с. 141].

Галоўным жа пунктам сутыкнення было пытанне аб аканні ў запазычаных словах. На сходзе 12 красавіка быў заслуханы даклад С. Некрашэвіча аб неабходнасці пашырыць прынцып акання на замежныя словы, а таксама судаклад Я. Лёсіка аб захаванні існуючага парадку рэчаў. Падчас дыскусіі за неабходнасць захоўваць у пэўных выпадках спецыфічны правапіс запазычаных слоў выказаўся А. Круталевіч. М. Байкоў і некаторыя іншыя ўдзельнікі сходу схіляліся да думкі аб патрэбе адаптаваць да правіл беларускага правапісу ўсе запазычаныя словы з ненаціскным *о*[43]. Галасаванне на сходзе паказала, што большасць супрацоўнікаў секцыі, а таксама пабочных удзельнікаў сходу падтрымліваюць пазіцыю С. Некрашэвіча [760, с. 141]. Аднак неўзабаве пасля гэтага сходу навуковая рада Інбелкульта прыняла пастанову аб захаванні напісання *о* ў ненаціскных складах малапашыраных замежных слоў і даручыла правапісна-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта на чале з Я. Лёсікам падрыхтаваць пералік адаптаваных запазычаных слоў. Паводле сведчання С. Некрашэвіча, пастанова рады Інбелкульта была прынята ў яго адсутнасць

[42] Укараненню ў грамадскую свядомасць у другой палове 1920-х гг. думкі аб патрэбе рэфармаваць правапіс спрыялі неаднаразова выказаныя Я. Лёсікам у прадмовах да розных яго падручнікаў імпліцытна крытычныя развагі аб тым, што беларускі правапіс грунтуецца на некалькіх прынцыпах. Пачынаючы з 1927 г. у гэтых прадмовах напрамую гаварылася аб патрэбе ўнесці змены ў правапіс.

[43] Мяркуючы па адной з пазнейшых публікацый М. Байкова, яе аўтар трымаўся даволі спецыфічнага погляду на ўрэгуляванне правапісу гэтай арфаграмы. З аднаго боку, ён лічыў патрэбным прымяніць да запазычаных слоў прынцып «няпоўнага» акання (г. зн. пашырыць напісанне *а* на месцы ненаціскнога *о*). З другога боку, М. Байкоў рабіў шэраг агаворак да гэтага правіла, усё ж такі дазваляючы нязгодныя з беларускай фанетыкай напісанні вузкаспецыяльных навуковых тэрмінаў, геаграфічных назваў, прозвішчаў, імёнаў і г. д. [539, с. 164–168].

пасля заслухоўвання даклада Я. Лёсіка, іншыя меркаванні, згодна з сведчаннем С. Некрашэвіча, на пасяджэнні рады не разглядаліся [581, с. 23]. Правапісна-тэрміналагічнай камісіі было даручана таксама падрыхтаваць пытанне рэформы правапісу ў цэлым. Камісія папярэдне рэкамендавала ўсім карыстальнікам беларускай мовы ўстрымацца ад зменаў правапісу да той пары, пакуль гэта пытанне не будзе вырашана аўтарытэтным навуковым органам [760, с. 142].

Сам факт наяўнасці гэтай пастановы рады ўказвае на тое, што створаная ў канцы зімы 1925 г. пад старшынствам Я. Лёсіка камісія не змагла ўкласці слоўнік замежных слоў.

У 1926 г. С. Некрашэвіч апублікаваў артыкул «Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы». Паводле аўтара, вылучэнне сярод арфаграфічных правіл пункта аб неадаптаванні запазычаных слоў да агульных правіл азначала б падзел беларускай мовы на дзве: народную і літаратурную. Між тым, на яго думку, такі падзел пры фарміраванні беларускай літаратурнай мовы быў бы вельмі непажаданым: «мы павінны імкнуцца, каб простая мужыцкая мова разам з тым была і мовай кніжнай (літаратурнай) <...> Адзінства народнай і кніжнай мовы павінна быць ідэалам пры развіцці нашай мовы» [581, с. 25–26]. Паколькі захаванне ненаціскнога *о* пры напісанні запазычаных слоў, паводле С. Некрашэвіча, падрывала такое адзінства, то ад яго патрэбна было адмовіцца. Згодна з аўтарам, любое ненаціскное *о* дзеці вымаўляюць толькі праз *а*. Адпаведна, не трэба, каб яны адвучваліся ад свайго правільнага вымаўлення, засвойваючы вымаўленне, якое было б патрэбна хіба для таго, каб яго носьбіты маглі «фарсануць сваёй вучонасцю». С. Некрашэвіч адхіліў і іншыя довады прыхільнікаў захавання ненаціскнога *о* (напрыклад, меркаванне аб тым, што захаванне арыгінальнага вымаўлення нібыта аблягчае разуменне паміж народамі) і прыйшоў да высновы, што «оканне супярэчыць законам нармальнага развіцця нашай мовы». Адначасова С. Некрашэвіч выказаў сваё меркаванне і адносна правіла перадачы ненаціскнога *е*, сцвердзіўшы, што яно «патрабуе хуткага перагляду ў бок яго большай праўдзівасці жывому вымаўленню і, галоўным чынам, прастаты» [581, с. 27, 31].

Пасля стварэння вясной 1926 г. новай правапіснай камісіі дзейнасць у напрамку рэфармавання арфаграфіі стала набываць у тым ліку грамадска-прапагандысцкі характар. Каб задаволіць патрэбу ўліку грамадскай думкі – «голасу настаўніцтва, беларускага студэнцтва і ўсяго грамадскага актыву» [760, с. 143] – у Інбелкульце штотыдзень сталі адбывацца пашыраныя сходы секцыі мовы і літаратуры, на якіх абмяркоўваліся пытанні правапісу. Як сведчыў Я. Лёсік, гэтыя сходы былі самымі шматлюднымі з тых, якія адбываліся ў Інбелкульце [682, с. 194]. На адным з першых сходаў Я. Лёсік прачытаў даклад, у якім адстойваў сваю выказаную раней прапанову аб забароне перадаваць злучнік *і* ў выглядзе *й* [760, с. 143]. На гэтых сходах паступова былі вызначаны некаторыя змены, якія меркавалася рэалізаваць. У прыватнасці, была падтрымана ініцыятыва Я. Лёсіка перадаваць злучнік *і* ў нязменным выглядзе. Таксама

было прынята рашэнне аб перадачы ненаціскнога *е* ў выглядзе *я* пасля мяккіх зычных толькі ў першым складзе перад націскам. На адным са сходаў была прынята пастанова аб патрэбе адмяніць уведзенае Я. Лёсікам выключэнне аб немагчымасці скарачаць пачатковае *у* ў словах *урад, установа* і інш. [760, с. 143].

З канкрэтнымі прапановамі на гэтых сходах неаднойчы выступалі настаўнікі; пры гэтым, паводле сведчання Л. Цвяткова, асаблівасцю іх поглядаў быў «надзвычайны радыкалізм; мелася нават імкненне амаль што да фанетычнага правапісу ў поўным значэнні гэтага слова» [761, с. 90]. Напрыклад, частка настаўнікаў лічыла, што правапіс гукаў у замежных словах не павінен быў адрозніваўцца ад правапісу гукаў беларускіх слоў, і тут, такім чынам, павінен быў дзейнічаць фанетычны прынцып. На думку Л. Цвяткова, такі падыход быў у значнай меры ўтапічным, бо ў шэрагу выпадкаў захаваць арыгінальнае вымаўленне было немагчыма. Напрыклад, звязаная са словам *сацыялізм* форма *socius* у арыгінале чыталася як «сокіус», а слова *тэатр* прыйшлося б пісаць, як *тгэатр* або *тхэатр* [760, с. 144].

Іншым (і, паводле Л. Цвяткова, найбольш пашыраным) падыходам у пытанні правапісу галосных у замежных словах было імкненне захаваць падзел на засвоеныя і незасвоеныя запазычанні[44]. Аднак, згодна з Л. Цвятковым, такі прынцып быў бы вытрыманы поўнасцю толькі ў тым выпадку, калі б сталі пісаць і гаварыць тыпу *сокіалізм*. Найбольш шанцаў, на думку Л. Цвяткова пачатку чэрвеня 1926 г., меў «напрамак Некрашэвіча і Байкова – кампраміс паміж этымалогіяй і фанетыкаю: аканню ў чужаземных словах падлягае толькі *о*» [760, с. 144].

У сярэдзіне 1926 г. Я. Лёсік стаў узмацняць сваю крытыку правапісу Б. Тарашкевіча. Як сведчыў адзін з назіральнікаў, у канцы мая – пачатку чэрвеня 1926 г. Я. Лёсік «выявіў рашуча безумоўную варожасць да яго («старога» правапісу. – *С. З.*) прынцыпаў <...> Далей пайшла шырокая дыскусія, якою зацікавілася ўсё беларускае грамадзянства». На думку аўтара, пазіцыя Я. Лёсіка поруч з пазіцыяй С. Некрашэвіча «мае рашучае значэнне для настрою грамады» [701]. Аўтар часопіса «Асвета» памылкова залічыў да прыхільнікаў грунтоўнай рэформы правапісу С. Некрашэвіча. Аўтар нататкі паведамляў аб будучай канферэнцыі з нагоды правапісу і прадказваў, што будучая рэформа «будзе мець усё-ткі больш-менш характар кампрамісу» [701].

Між тым пытаннем «рэвізіі» беларускага правапісу зацікавіліся некаторыя мовазнаўцы з-за межаў Беларусі. У адной з публікацый паведамлялася, што прафесар Маскоўскага ўніверсітэта П. Растаргуеў летам 1926 г. меў зрабіць у Інбелкульце даклад аб рэформе графікі [760, с. 143]. Пытанне неабходнасці рэфармаваць беларускі правапіс паступова аваладвала даволі шырокімі коламі гуманітарнай інтэлігенцыі; у адной з публікацый Л. Цвяткова сцвярджалася, што «патрабуе рэвізіі правапісу ўсё грамадзянства» [760, с. 143].

[44] У чэрвені 1926 г. гэты падыход быў кваліфікаваны Л. Цвятковым як напрамак «Лёсіка, Чаржынскага, Круталевіча, а магчыма, і большасці іншых навуковых працаўнікоў» [760, с. 144].

У чэрвені 1926 г. Я. Лёсік папулярызаваў падрыхтаваны сумесна з братам А. Лёсікам праект рэформы правапісу. Кіруючыся патрэбай пры рэфармаванні «ўжыць некаторую рэвалюцыйнасць» [682, с. 211], у гэты праект сярод іншага яны ўключылі пункт аб неабходнасці перадаваць любое ненаціскное *е* пасля мяккіх зычных праз літару *я*. Паколькі прапановы братоў Лёсікаў былі даволі радыкальнымі[45], а агітацыя – вельмі інтэнсіўнай, «у мэтах адзінства правапісу» [731, с. 63–64] 1 ліпеня 1926 г. навуковая рада Інбелкульта пастанавіла стварыць для разгляду праекта братоў Лёсікаў камісію пад старшынствам навуковага сакратара Інбелкульта А. Цвікевіча. У камісію ўвайшлі А. Цвікевіч, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, Б. Эпімах-Шыпіла, У. Чаржынскі, А. Багдановіч, П. Бузук. Праект камісія ацаніла адмоўна [537; 556; 575; 576; 710]. Тым не менш адносна пытання, як канкрэтна трэба было рэфармаваць правапіс, камісія да згоды не прыйшла. Нарэшце, «паколькі пытанне аб рэформе беларускага правапісу пашырылася ў самыя шырокія масы нашага настаўніцтва і такім чынам параджала непатрэбныя і шкадлівыя аб правапісе спрэчкі» [711, с. 6], а таксама па іншых прычынах, пра якія гл. 3.2.2, прэзідыум Інбелкульта па рэкамендацыі навуковай рады прыняў рашэнне аб скліканні міжнароднай канферэнцыі па пытаннях беларускага правапісу і азбукі.

У верасні 1926 г. у шасці нумарах газеты «Савецкая Беларусь» быў надрукаваны артыкул Я. Лёсіка «Спрашчэнне правапісу». У публікацыі былі выказаны некаторыя прапановы, з якімі аўтар выступаў і раней: абмежаваць выкарыстанне нескладовых *ў* і *й*, «выходзячы з эканоміі ў часе і паперы», адмовіцца ад пазначэння асіміляцыйнага змякчэння свісцячых, перадаваць любое ненаціскное *е* ў беларускіх словах літарай *я*. Аднак у артыкуле былі сфармуляваны і некаторыя новыя прапановы, напрыклад, вымога кіравацца фанетычным прынцыпам пра напісанні зычных (пісаць *баісься, турбуесься; люцкі, гарацкі, швэцкі; мёт, хлеп, ношка, калотка*) [672].

Пытанне аб правапісе разглядалася на Усебеларускай літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі (адбылася 20–24 верасня 1926 г. у Мінску). На канферэнцыі прысутнічалі больш за 100 настаўнікаў (у тым ліку 50 педагогаў з розных акруг Беларусі). Мэта склікання форуму – пазнаёміць настаўнікаў з апошнімі метадамі выкладання мовы і літаратуры, а таксама абмяняцца метадычным вопытам. На канферэнцыі былі прачытаны 16 дакладаў і лекцый на моўныя, літаратурныя і іншыя тэмы [684; 758]. Заслухаўшы даклад Я. Лёсіка аб рэформе правапісу і судаклад І. Ваўка-Левановіча, канферэнцыя пераважнай большасцю галасоў прыняла пастанову, заснаваную пераважна на прапановах Я. Лёсіка. У ёй былі зафіксаваны наступныя пункты:

– канферэнцыя прызнала «канечную і безадкладную патрэбу рэформы беларускага правапісу, каб зрабіць яго лёгкім, простым і даступным для школы і шырокіх працоўных мас»;

[45] Чэшскі лінгвіст Ф. Ціхы сцвярджаў, што ў брашуры «Да рэформы беларускага правапісу» браты Лёсікі патрабавалі радыкальных зменаў не толькі ў правапісе, але і ў графіцы [504, с. 291].

– канферэнцыя палічыла патрэбным правесці поўнасцю фанетычны прынцып у напісанні галосных гукаў і сцвердзіла, што «адным са спосабаў правядзення фанетычнага напісання галосных з'яўляецца поўнае аканне на пісьме»;

– было пастаноўлена не пісаць *у* і *і* нескладовыя ў пачатку слова, а таксама тады, калі яны з'яўляюцца прыназоўнікам або злучнікам;

– было пастаноўлена пашырыць фанетычны прынцып у напісанні зычных, у тым ліку дапусціць азначэнне асіміляцыі звонкіх і глухіх у сярэдзіне (але не ў канцы) слова;

– не разглядаць правапіс запазычаных слоў і перадаць яго на вырашэнне Акадэмічнай канферэнцыі [731, с. 274–275].

Як вынікае з гэтых дадзеных, у верасні 1926 г. Я. Лёсік працягваў прасоўваць некаторыя са сваіх непадтрыманых раней прапаноў і вылучаў новыя ініцыятывы. Такой ініцыятывай была прапанова пашырыць фанетычны прынцып пры передачы зычных. Мяркуючы па напісанай вясной 1926 г. справаздачы Л. Цвяткова на сходах Інбелкульта панаваў іншы падыход [760, с. 143]. Гэтаксама новай была прапанова рэалізаваць на пісьме прынцып «поўнага акання».

15 кастрычніка 1926 г. рэзалюцыю аб патрэбе правесці рэформу правапісу прыняў таксама агульны сход студэнтаў Вышэйшых курсаў беларусазнаўства, у якіх бралі ўдзел 68 чалавек. Сход далучыўся да рэзалюцыі літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі, дадаўшы да пералічаных вышэй пунктаў неабходнасць абазначаць афрыкаты [дз] і [дж] адной літарай з умоўным значком [731, с. 275 – 276][46].

Праграму ў пытаннях правапісу і графікі ад імя настаўнікаў у канцы верасня – кастрычніку 1926 г. паспрабаваў выпрацаваць тагачасны настаўнік 3-й Мінскай сямігадовай школы Л. Цвяткоў [761]. Аддаўшы належнае максімалізму многіх настаўніцкіх прапаноў, Л. Цвяткоў палічыў патрэбным сфармуляваць праграму-мінімум, ад якой настаўнікі не павінны былі адступаць у выпадку непрыняцця на Акадэмічнай канферэнцыі іх прапаноў. У гэтую праграму, згодна з Л. Цвятковым, павінны былі ўваходзіць наступныя пункты:

– скасаванне дыграфаў для пазначэння афрыкат [дз] і [дж];

– рэдакцыя тарашкевічаўскага правіла правапісу прыназоўніка *у* і злучніка *і*, згодна з якой яны не маглі б пераходзіць у *ў* і *й* у тым выпадку, калі на іх падае лагічны націск;

– скасаванне выключэння аб непамякчэнні свісцячых перад заднеязычнымі *г, к, х*;

– прыняцце правіла аб рэалізацыі ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных, згодна з якім *я* павінна было пісацца толькі ў першым пераднаціскным складзе;

– перадача ненаціскнога *о* ў замежных словах праз *а* [761].

Апанент Я. Лёсіка на літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі І. Воўк-Левановіч палічыў патрэбным аспрэчыць погляды, засведчаныя ў прынятай

[46] У «Працах Акадэмічнай канферэнцыі...» дадзена памылковая дата прыняцця рэзалюцыі: 15 лістапада 1926 г.

рэзалюцыі. У сваім водгуку ён звярнуў увагу на тое, што «”якальцы” (пад якімі ён разумеў прыхільнікаў перадачы любога ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных праз літару *я*. – *С. З.*) у захапленні спрэчкаю і прагай да перамогі над сваімі апанентамі забыліся зусім аб тым “фанетычным прынцыпе”, які нібыта самі бароняць». І. Воўк-Левановіч назваў Я. Лёсіка «правадыром крайніх спрашчэнцаў», зазначыўшы, што палягчэнне ў напісанні тут ілюзорнае. Згодна з І. Ваўком-Левановічам, у беларускім правапісе кожнае ненаціскное *о* ў запазычаных словах трэба было перадаваць праз *а*, ненаціскное *е* пасля мяккіх зычных пазначаць толькі ў першым складзе перад націскам, нязменна пісаць адмоўную часціцу *не* [577].

У адказе сваім апанентам П. Бузуку і І. Ваўку-Левановічу Я. Лёсік патлумачыў матывы вылучэння ім ініцыятывы рэфармавання правапісу: «Раней (уздымаць пытанне аб рэформе правапісу. – *С. З.*) не было патрэбы. Раней беларускім правапісам карысталіся толькі інтэлігенты. Цяпер жа школа стала вінаваціць мяне, бо я праводзіў яго ў жыццё». Я. Лёсік катэгарычна сцвердзіў, што ён раней не згаджаўся «і ніколі не згодзіцца» перанесці беларускае аканне на запазычаныя словы кніжнага характару без таго, калі адначасова не будзе прынята поўнае аканне (г. зн. «яканне») у беларускіх словах [673].

Як відаць, разгортванне дыскусіі аб правапісе ў 1925–1926 гг. ініцыявалася фактычна адным чалавекам – Я. Лёсікам, асаблівай крытыцы правапіс Б. Тарашкевіча стаў падлягаць у сярэдзіне 1926 г. Я. Лёсік лічыў патрэбным замяніць у беларускім алфавіце літары *э, ы, й*, рэвізаваць перадачу на пісьме гукаў *і* і *у*, распрацоўваў правапіс складаных і чужаземных слоў, прапаноўваў адмовіцца ад пазначэння асіміляцыйнай мяккасці на пісьме. У 1925 г. асобныя з вылучаных ім зменаў Я. Лёсік увёў у свой правапісны падручнік. Летам 1926 г. ён ініцыяваў таксама патрэбу рэалізаваць на пісьме прынцып «поўнага акання» і пашырыць фанетычны прынцып на напісанне зычных. С. Некрашэвіч паставіў пытанне аб неабходнасці любое ненаціскное *о* ў замежных словах перадаваць пры дапамозе *а*, а таксама спрасціць правіла аб правапісе *е* ненаціскнога. Салідарным меркаваннем многіх мовазнаўцаў гэтага часу была патрэба ўвесці ў беларускі алфавіт спецыяльныя літары для пазначэння афрыкат. На першым этапе разгортвання дыскусіі некаторыя лінгвісты не хацелі надаваць ёй шырокага грамадскага характару. Пасля правядзення ў Інбелкульце некалькіх пашыраных пасяджэнняў секцыі мовы і літаратуры, публікацыі Я. Лёсікам летам 1926 г. спецыяльнага праекта і пастановы прэзідыума Інбелкульта аб скліканні канферэнцыі па правапісе арфаграфічная праблема набыла выразны грамадскі характар.

# 3.2. АКАДЭМІЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА РЭФОРМЕ ПРАВАПІСУ І АЗБУКІ 1926 г.

З 14 па 19 лістапада 1926 г. у Мінску была праведзена Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая па сённяшні дзень застаецца самым змястоўным навуковым форумам у гісторыі беларускай лінгвістыкі[47], пэўным узорам арганізацыі навуковых з'ездаў, прысвечаных беларускай мове. Такі статус канферэнцыі абумоўлены некалькімі прычынамі.

У другой палове 1926 г. тэма правапісу і азбукі абмяркоўвалася некаторымі беларускімі мовазнаўцамі і ўспрымалася тагачасным грамадствам як важная навукова-практычная праблема. У верасні і ў кастрычніку 1926 г. рэзалюцыі з нагоды правапісу прынялі літаратурна-лінгвістычная канферэнцыя і сход студэнтаў Вышэйшых курсаў беларусазнаўства. Цікавасць да рэформы беларускай мовы была ўзбуджана некалькімі публікацыямі ў друку, прычым у некаторых з іх патрэба «рэвізаваць» беларускую мову выказвалася непасрэдна ў назвах [682, с. 100–106, 177–192, 211–216; 536; 760; 761].

На канферэнцыі ўпершыню ў гісторыі беларусазнаўчыя пытанні абмяркоўваліся на міжнародным узроўні [22, с. 104], наогул гэты форум быў «першым навуковым выхадам Беларусі на міжнародную арэну» [711, с. 9]. Канферэнцыя была праведзена ў маладой рэспубліцы праз некалькі гадоў пасля ўсталявання савецкай улады і, сімвалізуючы сабой вяршыннае дасягненне дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, мела выразныя палітычныя аспекты [142; 284; 285]. Асноўнай тэмай форуму была правапісна-графічная, але быў заслуханы і шэраг іншых мовазнаўчых дакладаў, а таксама некалькі літаратуразнаўчых. Напярэдадні канферэнцыі былі апублікаваны дзевяць брашур па правапіснай тэме, частка з іх была разаслана дэлегатам для папярэдняга азнаямлення [668; 661; 658; 575; 710; 537; 576; 669; 556]. У адной з брашур Я. Лёсіка сцвярджалася, што «цяжкія, а ў некаторых разох хітрыя і ні на чым не абапёртыя правілы нашага правапісу даўно ўжо непакояць і нашую школу, і наша грамадзянства» [682, с. 194]. Канферэнцыя працягвалася шэсць дзён, што дало магчымасць грунтоўна абмеркаваць асноўныя пытанні[48]. У 1927 г. матэрыялы форуму былі надрукаваны [731], прычым у кнігу ўвайшлі не толькі даклады, але і (вельмі падрабязная) дыскусія, а таксама разнастайныя спадарожныя матэрыялы. Канферэнцыя была дэмакратычным і «празрыстым» мерапрыемствам: усе дэлегаты мелі магчымасць выказваць свае думкі па любому з дыскутуемых пытанняў, пастановы прымаліся шляхам галасавання, вынікі якога ўключна з персанальнымі схільнасцямі па канкрэтных пунктах апублікаваны ў зборніку матэрыялаў.

---

[47] Другім найбольш значным лінгвістычным форумам перыяду беларускага савецкага мовазнаўства А. І. Жураўскі лічыў праведзеную ў лютым 1972 г. у Акадэміі навук нараду [127, с. 13].

[48] Паводле адной з інфармацыйных нататак у газеце «Савецкая Беларусь» ад 21 верасня 1926 г., меркавалася, што канферэнцыя будзе працягвацца тры дні.

У канферэнцыі ўдзельнічалі найлепшыя навуковыя сілы Беларусі і, у значнай ступені, іншых краін. Так, у форуме бралі ўдзел усе вядучыя супрацоўнікі Інбелкульта на чале з яго старшынёй У. Ігнатоўскім (С. Некрашэвіч, М. Байкоў, Я. Лёсік, М. Грамыка, Б. Эпімах-Шыпіла і інш.), прафесар БДУ П. Бузук і дацэнты А. Багдановіч, І. Воўк-Левановіч, Л. Цвяткоў. Дэлегатамі форуму былі настаўнікі дзевяці педагагічных тэхнікумаў, выкладчыкі Беларускага камуністычнага ўніверсітэта, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, шэраг пісьменнікаў (А. Бабарэка, У. Дубоўка, Ц. Гартны, Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля)[49]. У форуме таксама ўдзельнічалі прафесар Маскоўскага ўніверсітэта П. Растаргуеў, рэктар Літоўскага ўніверсітэта ў Коўне М. Біржышка, дацэнт Латвійскага ўніверсітэта ў Рызе Э. Блесэ, дацэнт Ленінградскага ўніверсітэта П. Гарчынскі, дацэнт Варшаўскага ўніверсітэта Ю. Галомбэк, дацэнт Харкаўскага інстытута народнай асветы К. Німчынаў, прафесар Берлінскага ўніверсітэта М. Фасмер, рэдактар ковенскага часопіса «Крывіч» В. Ластоўскі і інш. Усяго ў рабоце канферэнцыі з правам рашаючага голасу прынялі ўдзел 69 чалавек. Некаторыя навукоўцы ўдзельнічалі ў дыскусіях завочна: акадэмік Б. Ляпуноў (Ленінград), член Чэшскай акадэміі навук і мастацтваў А. Чэрны (Прага), Я. Тымчанка і А. Курыла (Кіеў). Іншыя, не маючы магчымасці прыехаць (Б. Тарашкевіч, акадэмік К. Студынскі і І. Свянціцкі з Львова, Я. Бадуэн дэ Куртэнэ з Варшавы, О. Гуер з Прагі, У. Ганцоў і М. Грунскі з Кіева, Д. Ушакоў з Масквы), даслалі пісьмовыя прывітанні. На канферэнцыю былі запрошаны (аднак у ёй не ўдзельнічалі) акадэмікі Я. Карскі[50], П. Лаўроў і член-карэспандэнт АН СССР Л. Шчэрба (Ленінград), член-карэспандэнт АН СССР М. Дурнаво (Прага), В. Вондрак (Брно), Я. Лось і Я. Развадоўскі (Кракаў), прафесар Д. Дарашэнка (Прага), акадэмік А. Крымскі і М. Грушэўскі (Кіеў), член-карэспандэнт АН СССР А. Томсан (Адэса), Э. Бернекер (Германія), А. Беліч (Бялград). Газета «Савецкая Беларусь» даволі падрабязна інфармавала чытачоў аб ходзе падрыхтоўкі канферэнцыі і аб запрошаных навукоўцах. Так, 21, 24, 30 верасня і 9 кастрычніка 1926 г. газета паведамляла аб запрашэннях заходнебеларускіх дзеячаў, прадстаўнікоў беларускай дыяспары, навукоўцаў з Ленінграда, Масквы, Кіева, Адэсы, Чэхаславакіі, Польшчы, Германіі і інш. 26 кастрычніка 1926 г. яна напісала, што І. Свянціцкі, які наведаў Мінск напярэдадні канферэнцыі, згадзіўся зрабіць на ёй даклад аб асаблівасцях мовы беларуска-ўкраінскіх старадрукаў да XIV стагоддзя. У гэты ж дзень газета паінфармавала аб тым, што П. Растаргуеў мае прачытаць на канферэнцыі два даклады – аб рэформе азбукі і аб рэформе правапісу. 3 лістапада «Савецкая Беларусь» паведаміла, што на канферэнцыю мае прыехаць «прафесар Берлінскага ўніверсітэта па кафедры філалогіі» (пад якім, відавочна, меўся на ўвазе М. Фасмер). 7 лістапада 1926 г. газета апублікавала на сваіх старонках

[49] Я. Купала, Я. Колас і З. Бядуля былі адначасова супрацоўнікамі Інбелкульта.

[50] Некаторыя расійскія вучоныя не паехалі на Акадэмічную канферэнцыю, верагодна, па прынцыповых матывах. У пачатку лютага 1927 г. у адным са сваіх лістоў А. І. Сабалеўскі пісаў Я. Ф. Карскаму: «Добра зрабілі Вы, што ў Мінск не паехалі» [253, с. 246; 304, с. 409].

інфармацыю аб тым, што «за познай перадачай запрашэння» Я. Бадуэн дэ Куртэнэ не зможа прыехаць на канферэнцыю, аднак ён «згаджаецца прыслаць спецыяльны даклад аб беларускім правапісе». Я. Бадуэн дэ Куртэнэ ў сваім лісце арганізатарам паведаміў, што ён уважліва і з вялікай цікавасцю прачытаў далучаныя да запрашэння тры брашуры Я. і А. Лёсікаў, аднак з прычыны важнасці гэтага пытання, браку часу і загружанасці іншымі справамі пакуль устрымліваецца ад выказвання сваёй думкі. Славуты вучоны прапанаваў сваю дапамогу праз некалькі тыдняў, тады ён і абяцаў даслаць свае «абшырныя і ўсебаковa абдуманыя ўвагі» [731, с. 39–40]. Імкненне Я. Бадуэна дэ Куртэнэ выдаткаваць свой час на аналіз рэфарматарскіх прапаноў у галіне беларускага алфавіту і правапісу тым больш цікавае ў святле тых акалічнасцей, што ён не дапускаў існавання сутнаснай сувязі паміж мовай і пісьмом [41, с. 39], а ў 1920 г. выказваў скепсіс з нагоды магчымай эмансіпацыі беларускай мовы [634, с. 182–183]. Праз шэсць гадоў, калі сітуацыя беларускай мовы істотна змянілася, вучоны быў гатовы ўнесці свой асабісты ўклад ва ўсталяванне яе графічных і правапісных нормаў. 21 лістапада газета «Савецкая Беларусь» паведаміла аб яшчэ адным атрыманым ад Я. Бадуэна дэ Куртэнэ лісце, у якім прычынай яго непрыезду на канферэнцыю было названа яго кепскае здароўе.

Паводле слоў У. Ігнатоўскага, арганізатары ставілі за мэту запрасіць на канферэнцыю «”кітоў навукі” з-за мяжы і СССР» [22, с. 103], і гэта мэта была імі выканана. У канферэнцыі, аднак, не ўдзельнічалі дзеячы беларускага руху з Польшчы; усім ім, за выняткам Я. Станкевіча, польскія ўлады адмовілі ў выдачы пашпартоў для паездкі ў Мінск[51]. З гэтай нагоды на форуме была прынята спецыяльная рэзалюцыя-пратэст. На думку М. Байкова, адсутнасць на канферэнцыі некаторых выдатных спецыялістаў-беларусазнаўцаў «сама па сабе не магла не адбіцца адмоўна на працах канферэнцыі» [541, с. 257]. Б. Тарашкевіч, які ў 1926 г. палітычнымі пытаннямі цікавіўся намнога больш, чым лінгвістычнымі, наадварот, ацаніў факт няўдзелу ў канферэнцыі заходнебеларускіх культурніцкіх дзеячаў станоўча: тое, што ім не дазволілі прыехаць на канферэнцыю, паводле яго ацэнкі, аказалася «палітычна зусім добра» [285, с. 85]. Мінскія камуністы прымалі ўдзел толькі ў арганізацыйнай (і зусім нязначна – у навуковай) частцы канферэнцыі, і ў гэтым плане пазбаўленым зместу даводзіцца прызнаць выказванне аднаго сучаснага гісторыка аб іх «лінгвістычных пошуках» [207, с. 144]. Ізраільскі даследчык П. Вэкслер лічыць знамянальным той факт, што канферэнцыя па мове, «якая яшчэ толькі некалькі гадоў таму назад не мела палітычнага прызнання, змагла выклікаць так шмат зацікаўлення сярод айчынных і замежных навукоўцаў» [512, с. 33]. Можна бачыць выразнае перабольшанне ў сцвярджэнні аб тым, што на канферэнцыі быў выяўлены погляд на пытанні беларускага правапісу і графікі «блізка ўсіх выдатнейшых славістаў» [711, с. 3], аднак справядлівым трэба прызнаць меркаванне, што форум, папраўдзе, меў агульнаславістычны характар.

[51] Кіруючыся меркаваннямі салідарнасці, Я. Станкевіч не паехаў на канферэнцыю па сваёй волі.

Канферэнцыя адбылася ў час, калі грамадскія функцыі маладой беларускай літаратурнай мовы значна пашырыліся, і сама яна інтэнсіўна развівалася, аднак здабыткі лінгвістыкі ў яе вывучэнні былі яшчэ вельмі сціплымі. Акадэмік Я. Карскі толькі ў нязначнай меры цікавіўся праблемамі сучаснай мовы; увогуле ж пэўныя імпульсы для разгортвання такіх даследаванняў узніклі толькі пасля з'яўлення ў 1918 г. граматыкі Б. Тарашкевіча, публікацыі перакладных слоўнікаў 1918 і наступных гадоў, заснавання БДУ і Інбелкульта. Паводле П. Вэкслера, у Беларусі ў 1920-я гг. публікацыя школьных граматык і газет разглядалася як больш надзённая праблема, чым правядзенне канферэнцый [512, с. 32]. У дакладзе на канферэнцыі аб стане даследавання беларускай мовы С. Некрашэвіч гаварыў, што вывучэнне сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў Беларусі яшчэ толькі пачыналася [731, с. 53]. Усё гэта сведчыла аб важнасці правядзення ў Беларусі такога навуковага форуму.

Традыцыйна лічыцца, што прычынамі склікання канферэнцыі былі недахопы правапісу Б. Тарашкевіча, узнікненне дыскусіі з гэтай нагоды, патрэба ўзгадніць шматлікія супярэчлівыя прапановы, абагульніць дасягненні беларускага мовазнаўства і абмеркаваць далейшыя шляхі яго развіцця [175; 389; 359; 360; 125; 361; 79; 392].

Аднак у розных працах указваецца на неаднолькавы набор недахопаў працы Б. Тарашкевіча. Напрыклад, у акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» падаецца наступны пералік недасканалых момантаў кадыфікацыі Б. Тарашкевіча:

– наяўнасць дублетных граматычных формаў;

– правапіс запазычаных слоў і транслітарацыя на беларускае пісьмо іншамоўных імён і прозвішчаў;

– адсутнасць спецыяльных літар для абазначэння афрыкат [дз] і [дж];

– абазначэнне падоўжаных зычных праз падвойнае напісанне літар;

– рэалізацыя на пісьме ў беларускіх словах ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных;

– абазначэнне асіміляцыйнай мяккасці *з, с, ц, дз*, а таксама пазначэнне пры дапамозе мяккага знака мяккасці падоўжаных зычных;

– скарачэнне на пісьме гукаў *у, і* ў пачатку слова, а таксама адпаведных прыназоўнікаў;

– правапіс ненаціскнога *о*, а таксама ненаціскнога *е* (пасля мяккіх зычных) у запазычаных словах [175, с. 182–184].

Насуперак двухразоваму паўтарэнню ў калектыўнай манаграфіі аб такім недахопе працы Б. Тарашкевіча, як наяўнасць у ёй граматычных дублетаў, пазней, аднак, у працы сцвярджаецца, што ў параўнанні з правапісам граматычныя нормы патрабавалі меншай дапрацоўкі. Разгляд недахопаў граматычнай кадыфікацыі Б. Тарашкевіча ў калектыўнай манаграфіі праведзены пераважна з апорай на працу С. Некрашэвіча «Правапіс спрэчных дзеяслоўных форм» 1922 г., а таксама на адзін з праектаў рэформы братоў А. і Я. Лёсікаў 1926 г. Да

недахопаў граматычнай кадыфікацыі, такім чынам, былі залічаны недастаткова выразнае размежаванне Б. Тарашкевічам канчатка *-е (-а)* у 3-й асобе адз. л. дзеясловаў I спр. і канчатка *-іць (-ыць)* у дзеясловах II спр., канчатак *-ом (-ём)* у форме дзеясловаў 1-й асобы мн. л., збыткоўныя канчаткі *-аце (-яце)* у форме дзеясловаў 2-й асобы мн. л. абв. ладу і *-эма(-ема)* у формах дзеясловаў 1-й асобы мн. л. заг. ладу і інш. [175, с. 184–185]. Можна меркаваць, што паступоваму ўсведамленню некаторых варыянтаў Б. Тарашкевіча ў якасці збыткоўных спрыяла экспансія беларускай літаратурнай мовы ў розныя сферы, яе агульнае інтэнсіўнае развіццё. Калі ў 1918 г. задачай Б. Тарашкевіча сярод іншага было сабраць адметныя рысы беларускай мовы (уключна з марфалагічнымі дублетамі), то к сярэдзіне 1920-х гг. усё больш на першы план сталі выходзіць задачы граматычнай нармалізацыі. Падобную эвалюцыю ў гэтым плане можна назіраць у пазіцыі Я. Лёсіка, якая адбылася на працягу 1917–1926 гг. Калі ў 1917 г. ён безумоўна ўхваляў ужыванне ў беларускай мове розных слоў для абазначэння аднаго і таго ж паняцця, наяўнасць у ёй падобных гукаў і выкарыстанне некаторых дублетных дзеяслоўных формаў [681, с. 193], то к сярэдзіне 1920-х гг. ён усё часцей апеляваў не да разнастайнасці формаў, але да патрэбы пазбаўлення ад некаторых з іх.

У працы Л. М. Шакуна 1984 г. пералік недасканалых момантаў кадыфікацыі Б. Тарашкевіча выглядае наступным чынам:

– выкарыстанне канчаткаў *-ом,-ох* у формах назоўнікаў дав. і месн. склонаў мн. л.;

– наяўнасць формаў лічэбнікаў тыпу *пяцёх, пяцём, пяцьма*;

– недастаткова выразнае размежаванне канчатка *-е (-а)* у 3-й асобе адз. л. дзеясловаў I спражэння і канчатка *-іць (-ыць)* у дзеясловах II спражэння;

– канчатак *-ом (-ём)* у форме дзеясловаў 1-й асобы мн. л.;

– збыткоўныя канчаткі *-эма (-ема)* у формах дзеясловаў 1-й асобы мн. л. заг. ладу;

– «штучнае» вымаўленне слоў іншамоўнага паходжання накшталт *кляса, галёша, сэзон, сыстэма, арытмэтыка*;

– напісанне *е* ненаціскнога [389, с. 277–278].

У сваёй пазнейшай працы галоўнымі недахопамі кадыфікацыі Б. Тарашкевіча Л. М. Шакун палічыў правіла аб напісанні *е* ў ненаціскным становішчы і правапіс запазычаных слоў. Сярод збыткоўных граматычных формаў Б. Тарашкевіча ў гэтай сваёй працы Л. М. Шакун прызнаў парны лік назоўнікаў тыпу *дзве хаце*, раўнапраўнасць такіх формаў, як *касцьмі* і *касцьма*, *дзвюх* і *дзвёх*, *гэты* і *гэны*, *крычым* і *крычом* [392, с. 132]. Звяртае на сябе ўвагу тое, што на працягу 11 гадоў, якія прайшлі паміж выхадам з друку другога выдання «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» і публікацыяй «Гісторыі беларускага мовазнаўства», Л. М. Шакун істотна змяніў свае погляды на канкрэтныя недахопы граматыкі Б.Тарашкевіча.

Недахопамі кадыфікацыі Б. Тарашкевіча ў інтэрпрэтацыі Л. І. Сямешкі былі правілы перадачы на пісьме ненаціскных галосных і правапіс запазычаных слоў

[359], згодна з меркаваннем А. І. Жураўскага – правіла аб напісанні ненаціскнога *е* і штучны падзел запазычаных слоў на адаптаваныя і неадаптаваныя ў народнай мове [125]. У сваёй пазнейшай публікацыі сярод асноўных недахопаў граматыкі Б. Тарашкевіча Л. І. Сямешка вылучала таксама граматычныя нормы тыпу канчаткаў назоўнікаў *-ом/-ём, -ох/-ёх*, якія, на яе думку, былі непрымальнымі таму, што абапіраліся на вузкую дыялектную базу [360].

Падобная неаднастайнасць у вызначэнні рознымі аўтарамі недахопаў кадыфікацыі Б. Тарашкевіча сведчыць, магчыма, аб тым, што навукоўцы не імкнуліся акрэсліць хібы граматыкі Б. Тарашкевіча дакладна і пунктуальна, задавальняючыся пераважна не асабліва сістэматычным пералікам такіх недахопаў са значнай апорай на сучасную кадыфікацыю. г. зн. «недасканалымі» маглі лічыцца тыя правілы Б. Тарашкевіча, якія ў ходзе далейшай кадыфікацыі былі зменены. Акрамя таго, падобная нястрогасць паказвае, што недахопы любой правапіснай сістэмы складана (калі не сказаць: немагчыма) вызначыць зыходзячы адзіна з навуковых падстаў[52]. Нарэшце, неаднастайнасць у вызначэнні рознымі аўтарамі галоўных недахопаў граматыкі Б. Тарашкевіча можа параджаць сумненне ў тым, што ў яго кадыфікацыі ўвогуле былі выразныя і відавочныя для ўсіх недахопы.

Папраўдзе, у беларускім правапісе 1920-х гг. існавалі недахопы, але яны не былі настолькі шматлікімі і значнымі, каб іх ліквідацыя не магла быць праведзена без склікання спецыяльнага навуковага з’езда. Падобна, асобныя арфаграфічныя правілы, якія звычайна разглядаюцца ў літаратуры як асабліва недасканалыя (напрыклад, правіла перадачы *о* ў запазычаных словах), у рэальнасці складалі невялікую праблему для многіх карыстальнікаў беларускай мовы. Параўн. у гэтым плане адзін з пунктаў рэзалюцыі Усебеларускай літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі, які пастанавіў пытанне правапісу запазычаных слоў не разглядаць, паколькі яно «стаіць не так востра для школы і працоўных мас» [731, с. 275]; гл. таксама 3.1.3. Цікава і тое, што ў адной з метадычных прац 1920-х гг. памылкі вучняў пры напісанні запазычаных слоў для ацэнкі пісьменнасці лічыліся менш важнымі ў параўнанні з памылкамі ў каранях слоў, канчатках, у сувязі слоў, у пунктуацыі, у пабудове складаных сказаў [683, с. 228].

Што ж датычыцца ўзбуджаных Я. Лёсікам спрэчак (фактычна ён быў ледзь не адзіным прыхільнікам радыкальнай рэформы беларускай мовы), то да канферэнцыі яны не паспелі належным чынам разгарнуцца. Мовазнаўцы, якія выступілі ў адказ на артыкул Я. Лёсіка 1925 г. «Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу» (А. Багдановіч і інш.), намагаліся гэтую дыскусію пагасіць. Пасяпяховаму разгортванню дыскусіі не спрыяла і тое, што гэта публікацыя Я. Лёсіка была даволі «нятрапная»: у яго артыкуле толькі часткова былі

[52] Параўн. у гэтым плане думку А. Шахматава 1901 г. аб тым, што «высвятленне вартасцей і недахопаў той або іншай сістэмы правапісу магчымае толькі паводле меркаванняў практычных» [383, с. 171], а таксама думку П. Растаргуева, згодна з якой практычныя заняткі правапісам і граматыкай не з’яўляюцца разнавіднасцю навуковага вывучэння беларускай мовы [731, с. 27-28].

вызначаны сапраўдныя праблемы тагачаснага правапісу, пры гэтым самыя важныя пункты былі абмінуты або патрактаваны неналежным чынам. Так, Я. Лёсік зусім не закрануў актыўна абмяркоўванай пазней праблемы напісання літар *е* або *я* ў другім і наступных складах перад націскам, а ў дачыненні да пытання аб пашырэнні акання на запазычаныя словы, з якога ўласна і пачалася гаворка пра рэфармаванне правапісу [731, с. 8], заняў выразна кансерватыўную пазіцыю [682, с. 177–192]. У сваім артыкуле Я. Лёсік нямала месца прысвяціў малаістотнай арфаграфічнай праблеме – размежаванню ўніфікаванага ў Тарашкевіча напісання злучніка *і* і прыназоўніка *у*. Першая правапісная рэфарматарская публікацыя Я. Лёсіка не ў поўнай меры спрыяла таму, каб да канферэнцыі абмяркоўваліся найперш рэальныя, а не надуманыя праблемы правапісу. У цэлым падчас спрэчак да Акадэмічнай канферэнцыі, якая была склікана на некалькі месяцаў раней, чым папярэдне планавалася, канкрэтных прапаноў па рэфармаванні правапісу было выказана няшмат.

У значнай ступені іншы погляд на прычыны правядзення канферэнцыі адлюстраваны ў некаторых публікацыях аўтараў-гісторыкаў: згодна з ім, форум быў скліканы з-за палітычных меркаванняў [142; 207] і, увогуле, ён меў пераважна палітычны характар [142]. Недаацэнка навуковага значэння канферэнцыі выказана і ў асобных публікацыях мовазнаўцаў [167, с. 283]. У пацвярджэнне прыводзяцца шматлікія доказы таго, што ўлады трактавалі канферэнцыю не столькі як навуковае мерапрыемства, колькі як палітычна-прапагандысцкую акцыю. Напрыклад, звяртаецца ўвага на тое, што падчас падрыхтоўкі і правядзення форуму працавала створаная з высокіх партыйных чыноўнікаў «партпяцёрка», што канферэнцыя была своеасаблівым «папераджальным» мерапрыемствам у дачыненні да рыхтаванага за мяжой з удзелам В. Ластоўскага Усебеларускага з'езда. На думку партыйных арганізатараў форуму, ён павінен быў сімвалізаваць адзінства камуністычнай партыі Беларусі з заходнебеларускім нацыянальна-вызваленчым рухам і беларускай палітычнай эміграцыяй, пераканаць сусветную грамадскасць у паспяховасці культурна-нацыянальнай палітыкі ў БССР, замацаваць пазіцыі партыі сярод розных груп інтэлігенцыі і г. д. [285; 142]. Усе гэтыя мэты ў значнай ступені былі дасягнуты. У працах аўтараў-гісторыкаў падрабязна апісваецца антураж канферэнцыі. У дні з'езда Мінск быў святочна ўпрыгожаны, па горадзе курсіравалі агітацыйныя машыны, на прадпрыемствах і ва ўстановах праходзілі ўрачыстыя мітынгі, у газеце «Савецкая Беларусь» друкаваліся беспрэцэдэнтна падрабязныя матэрыялы аб канферэнцыі, для дэлегатаў была прадугледжана багатая сацыяльна-культурная праграма і інш. Між тым значная частка гэтых захадаў уяўляе сабой не столькі (прынамсі, не толькі) элемент палітычнага маніпулявання, колькі звычайны фактар правядзення любых значных міжнародных форумаў. Так, у газетах былі надрукаваны інтэрв'ю з замежнымі лідарамі беларускага палітычнага руху В. Ластоўскім і К. Езавітавым, але яны выказваліся свабодна, без прымусу з боку партыйных

органаў[53]. Жаданне атрымаць палітычныя дывідэнды можна бачыць у скажэнні меркаванняў дэлегата канферэнцыі латышскага паэта Яна Райніса, апублікаваных 16 лістапада 1926 г. у газеце «Савецкая Беларусь», аднак гэтыя злоўжыванні былі выпраўлены шляхам публікацыі ў нумары за 18 лістапада адпаведных паправак.

Папраўдзе, на факт склікання канферэнцыі ў рознай ступені паўплывалі ўсе названыя чыннікі: асобныя недахопы тагачаснага правапісу, гучная пастаноўка пытання рэформы правапісу і алфавіту ў грамадстве, жаданне беларускіх улад правесці ў маладой савецкай рэспубліцы міжнародную канферэнцыю, патрэба беларускага мовазнаўства агледзець вынікі свае працы за некалькі гадоў. Р. Платонаў называе канферэнцыю «значнай навуковай і важнай палітычнай падзеяй» [289, с. 110]. Палітычныя фактары, аднак, у нязначнай ступені ўплывалі на ход абмеркавання на форуме графічных і правапісных праблем (калі ўплывалі ўвогуле). Як сцвярджае Р. Платонаў, усе даклады і выступленні на канферэнцыі будаваліся з улікам пастаўленых навуковых мэт і практычных задач [285, с. 82–83]. Згодна са сцвярджэннем У. Ігнатоўскага, ідэя склікаць канферэнцыю па правапісе ўзнікла вясной 1926 г. [22, с. 102], але папраўдзе ў інбелкультаўскіх колах такая думка з’явілася раней. У пачатку кастрычніка 1925 г. на пасяджэнні прэзідыума Інбелкульта правапісна-тэрміналагічнай камісіі было прапанавана прыступіць «да перагляду правапісу і граматычнай тэрміналогіі з тым, каб унесці іх у навуковую раду і ў далейшым прадставіць даклад на навуковым кангрэсе беларусазнаўцаў» [ЦНА НАНБ. Ф. 67. Воп. 1. Спр. 9. Л. 243]. Разам з тым трэба прызнаць, што адначасова для склікання канферэнцыі вялікае значэнне мела палітычная кан’юнктура. Яшчэ ў жніўні 1925 г. планаваны «сусветны з’езд беларусаведаў» згадваўся ў пастанове сакратарыята ЦК КП(б)Б аб мэтазгоднасці склікання другой Усебеларускай палітычнай канферэнцыі ў Берліне [729, с. 168]. Нягледзячы на палітычныя матывы склікання канферэнцыі ў працэсе яе падрыхтоўкі, згодна з пастановай бюро ЦК КП(б)Б ад 12 лістапада 1926 г., было вырашана надаць рабоце форуму «строга акадэмічны характар», што і было выканана. У гэтай пастанове таксама спецыяльна агаворваліся пытанні магчымасці ўключэння ў склад прэзідыума канферэнцыі В. Ластоўскага, неабходнасці запрасіць на форум Я. Станкевіча, магчымасці допуску на канферэнцыю двух ксяндзоў і інш. [279, с. 168–169]. Абапіраючыся ў значнай ступені на перапіску паміж расійскімі навукоўцамі, сучасны расійскі аўтар сцвярджае, што многія дыскусіі на канферэнцыі «выходзілі на пытанні, якія мелі ідэалагічную і нават палітычную падкладку <...> абмеркаванне насіла востры і часам скандальны характар» [304, с. 408–409]. Аднак для ўдзельнікаў канферэнцыі і староніх назіральнікаў палітычныя падставы яе склікання былі зусім невідавочнымі. Параўн. у гэтых адносінах

[53] Як вядома, пасля ўдзелу ў Акадэмічнай канферэнцыі В. Ластоўскі змяніў свае погляды на ролю савецкай Беларусі ў пабудове беларускай нацыянальнай культуры і неўзабаве пераехаў у Мінск.

меркаванне Я. Бадуэна дэ Куртэнэ аб тым, што форум меў «чыста культурніцкі характар, і ніхто з тых, хто выступаў на ім, не меў намеру займацца палітычнымі гульнямі» [441, с. 179].

У дадатак да традыцыйнага асвятлення моваздаўцамі прычын склікання Акадэмічнай канферэнцыі можна сцвердзіць вялікае значэнне суб’ектыўнага фактару: складана сказаць, ці была б праведзена канферэнцыя ўвогуле, калі б член Інбелкульта Я. Лёсік не задэманстраваў выразную волю рэфармаваць правапіс Б. Тарашкевіча. Паводле Д. Дынглі, Інбелкульт склікаў Акадэмічную канферэнцыю галоўным чынам «у выніку намаганняў Я. Лёсіка правесці кампанію на карысць зменаў у беларускай арфаграфіі і стандартызацыі граматыкі» [454, с. 152; 455, с. 182].

П. Вэкслер мяркуе, што скліканне канферэнцыі з’явілася «выдатным здзяйсненнем» (remarkable feat), калі мець на ўвазе, што інтэнсіўнае друкаванне беларускай мастацкай літаратуры і журналістыка налічвалі толькі два дзесяцігоддзі, што яшчэ некалькі гадоў да таго беларускамоўная супольнасць была пазбаўлена права ўжываць родную мову ў школе, у друку і ўрадавых установах. Ізраільскі даследчык лічыць гэтую падзею ўнікальным дасягненнем у гісторыі савецкай лінгвістыкі ў цэлым: канферэнцыя была першым вялікім міжнародным лінгвістычным форумам у СССР, прысвечаным адной з савецкіх моў [512, с. 31–32].

На канферэнцыі адбыўся шэраг пленарных пасяджэнняў. Канкрэтныя пытанні графікі, правапісу і літаратуры абмяркоўваліся таксама на пасяджэннях адпаведных камісій. Па беларускай мове ў праграму канферэнцыі былі ўключаны даклады «Сучасны стан вывучэння беларускай мовы» С. Некрашэвіча, «Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моваў» П. Бузука і «Беларускія элементы ў польскай мове» Л. Цвяткова.

Аднак цэнтральнымі пунктамі на канферэнцыі былі праблемы рэфармавання правапісу і азбукі.

Аб рэформе алфавіту былі зроблены даклады Я. Лёсіка і П. Растаргуева. Я. Лёсік прапанаваў гукі [дз] і [дж] абазначаць літарамі д̆ і ӂ, выбухны *г* абазначаць літарай *ґ*, замест *й* увесці *j*, замест *э* – *є*, замест *ы* – *и*. П. Растаргуеў у сваім дакладзе выступіў за ўвядзенне ў беларускую графіку для пазначэння афрыкат [дз] і [дж] сербскіх літар *ђ* і *ћ*, а таксама за замену літары *й* знакам *j*. Даклады наконт рэфармавання правапісу прачыталі Я. Лёсік і С. Некрашэвіч.

У сваім дакладзе Я. Лёсік сыходзіў з таго, што тагачасны беларускі правапіс знаходзіўся ў крызісе [731, с. 190; 674; 682, с. 229].

Здаецца, толькі Я. Лёсік, характарызуючы правапісную сітуацыю сярэдзіны 1920-х гг., карыстаўся словам «крызіс». Вучоны лічыў магчымым ужываць гэта слова яшчэ ў маі 1928 г., сцвярджаючы, што так «часам кажуць цяпер»; паводле навукоўца, Акадэмічная канферэнцыя склікалася менавіта для ліквідацыі правапіснага крызісу [682, с. 305]. Падобныя прыёмы трэба кваліфікаваць як у значнай ступені прапагандысцкія. Тэзіс аб «крызісе» Тарашкевічавага

правапісу, аднак, падтрыманы некаторымі сучаснымі даследчыкамі. Параўн. адзін з падзагалоўкаў «Крызіс» у артыкуле Л. І. Сямешкі [360]. На карысць думкі аб крызісе правапісу можа сведчыць і выказванне А. І. Падлужнага, згодна з якім Акадэмічная канферэнцыя «аднадушна прызнала, што правапіс Б. Тарашкевіча <...> занадта складаны ў практычным ужыванні» [271, с. 134].

У сферы арфаграфіі Я. Лёсік прапанаваў наступныя змены:

– пашырыць фанетычны прынцып правапісу галосных на пазначэнне ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных, а таксама на зычныя (за выключэннем канцавых);

– пачатковыя *і* і *у*, а таксама злучнік *і* і прыназоўнік *у* пісаць заўсёды нязменна;

– не абазначаць пазіцыйную мяккасць свісцячых пры дапамозе мяккага знака;

– у назоўніках і прыметніках на канцы слова не пад націскам пісаць літару *і* (*у лесі, леваі рукі*) [731, с. 183–208; 682, с. 211–216][54].

Даклад С. Некрашэвіча ў значнай ступені меў крытычны ў адносінах да выступлення Я. Лёсіка характар. С. Некрашэвіч не падзяляў думкі аб крызісным стане тагачаснага правапісу: «Ніякага крызісу яго (правапісу Б. Тарашкевіча. – *С. З.*) няма, хоць дакладчыку (Я. Лёсіку. – *С. З.*) і хочацца тут бачыць крызіс» [731, с. 219]. Судакладчык прапанаваў:

– у другім складзе перад націскам пісаць *е* і ніколі – *я* (*непрыхільна, непрыцямна*);

– не падпарадкоўваць правапіс часціцы *не* і прыназоўніка *без* правілу «якання» (г. зн. пісаць іх заўсёды нязменна)[55];

– словы *няма* і *няхай* пісаць як *німа* і *ніхай*;

– ненаціскное *о* ў запазычаных словах заўсёды перадаваць праз *а* [731, с. 208–220; 581, с. 11–22].

Прапановы Я. Лёсіка на форуме пераважна былі забалаціраваны – нягледзячы на тое, што ў верасні ён быў падтрыманы ўдзельнікамі настаўніцкай літаратурна-лінгвістычнай канферэнцыі. Факт існавання пастановы настаўніцкага форуму амаль ніяк не паўплываў на характар абмеркавання правапіснай тэматыкі на Акадэмічнай канферэнцыі. На пленарным пасяджэнні пастанову настаўніцкага сходу фактычна дэзавуіраваў яго ўдзельнік, выкладчык Полацкага педтэхнікума С. Мялешка. Ён сцвердзіў, што прысутныя на канферэнцыі настаўнікі «нядобра былі падрыхтаваны да гэтага пытання; апрача даклада Лёсіка, нічога больш не чыталі, бо ўвагі і погляды іншых аўтараў не былі яшчэ надрукаваны, і наогул гэтае пытанне не было яшчэ досыць абдумана. Безумоўна, на гэтай канферэнцыі былі і ворагі гэтай рэзалюцыі <...> Рэ-

[54] Вынесены на абмеркаванне праект быў падрыхтаваны сумесна з А. Лёсікам. Погляды братоў Лёсікаў на правапіснае рэфармаванне маглі неістотна адрозніваца. А. Лёсік лічыў своечасовым перагледзець правапіс Б. Тарашкевіча, каб падобна да культурнага жыцця Беларусі, якое «вашло ў сталыя і пэўныя нормы <...> зрабіць такія пэўныя нормы і для беларускага аднолькавага пісьма». А. Лёсік, аднак, меркаваў, што значныя змены ўводзіць у правапіс не трэба [658, с. 1–2].

[55] У энцыклапедычным артыкуле «Рэформа беларускага правапісу 1933 года» памылкова сцвярджаецца, што гэта прапанова была вынесена на абмеркаванне Я. Лёсікам [361, с. 465].

залюцыя настаўніцтва, безумоўна, была складзена спешна, і настаўніцтва тут дапусціла безумоўную памылку» [731, с. 228].

На канферэнцыі адбылося вострае сутыкненне думак паміж прыхільнікамі хуткай і даволі радыкальнай рэформы (Я. Лёсік) і паслядоўнікамі памяркоўнага вырашэння гэтай праблемы (С. Некрашэвіч, П. Растаргуеў, А. Багдановіч і інш.). У якасці ініцыятара рэформы, падтрыманага самім фактам склікання канферэнцыі, Я. Лёсік напачатку на форуме меў пэўную перавагу. Удзел у канферэнцыі настаўнікаў, для якіх Я. Лёсік быў вялікім аўтарытэтам, таксама нібыта мог спрыяць станоўчаму ўспрыняццю яго прапаноў. Я. Лёсік лічыў, што, ужыўшы «некаторай рэвалюцыйнасці» [682, с. 196, 211], рэфармаваць беларускую графіку і правапіс трэба.

Вылучаючы свае ініцыятывы, Я. Лёсік у значнай меры пераймаў рэформу рускай мовы 1917–1918 гг., на якую ён часта спасылаўся. Такое суаднясенне, аднак, было няўдалым з прычыны прынцыповай розніцы ў гісторыі графікі і правапісу ў рускай і беларускай мовах. Галоўнай прычынай няўдачы рэформы польскага правапісу ў Беларусі ў другой палове 1920-х – пачатку 1930-х гг. В. Лаўрэцкая таксама лічыць тую акалічнасць, што ініцыятары «проста пераймалі рэформу рускай графікі, якая адбылася пасля рэвалюцыі» [211, с. 224].

Іншай думкі на моўнае рэфармаванне ў параўнанні з Я. Лёсікам трымаліся прадстаўнікі памяркоўнага крыла, напрыклад, П. Растаргуеў, які яшчэ ў сваім прывітальным слове на канферэнцыі зазначыў, што «справа рэформы правапісу і азбукі – складаная і трудная», таму пры рэфармаванні «патрэбна вялікая асцярожнасць, каб не адтаўхнуць народныя масы ад праведзенай рэформы». Прыехаўшы на канферэнцыю са спецыяльным дакладам, П. Растаргуеў, тым не менш, не залічыў практычныя заняткі правапісам і граматыкай да навуковага вывучэння беларускай мовы [731, с. 27–28]. У заканчэнні свайго даклада і ў заключным слове пасля дыскусіі П. Растаргуеў сказаў, што ён не настойвае на тым, каб ягоны праект быў прыняты: «...сама традыцыя, прывычка, боязь навіны і іншыя падобныя аргументы, на жаль, будуць гаварыць супроць паказанай тут рэформы» [731, с. 131, 166].

Паводле С. Некрашэвіча, у сярэдзіне 1920-х гг. важкіх падстаў для перагляду дзейных на той час правіл правапісу не існавала; вынесены Я. Лёсікам на абмеркаванне канферэнцыі правапісны праект ён кваліфікаваў як «несур'ёзны». Аднак калі з нагоды правапісу была склікана спецыяльная канферэнцыя, то, лічыў С. Некрашэвіч, яе трэба выкарыстаць – «каб накіраваць працу па рэформе нашага правапісу на належны шлях». Гэткі шлях, на думку С. Некрашэвіча, мог быць адзін: «…шырока распачаць працу па даследаванні беларускіх гутарак і на аснове вывадаў даследавання рабіць рэформу правапісу» [581, с. 13–14]. Такая пастаноўка пытання аказалася эфектыўнай у тактычным плане супраць пазіцыі прыхільніка хуткай рэформы Я. Лёсіка: зразумела, што шырока даследаваць беларускія гаворкі за кароткі час было немагчыма.

Ёсць, аднак, падставы сумнявацца, што С. Некрашэвіч, папраўдзе, лічыў шлях вывучэння гаворак найбольш плённым для вырашэння прабле-

мы рэфармавання правапісу. Раней аднадумца С. Некрашэвіча А. Багдановіч выказваў думку, што правілы неабавязкова павінны грунтавацца на строгіх лінгвістычных даследаваннях; апошнія, калі іх рэалізоўваць у практыцы, могуць моцна ўскладняць сітуацыю і правакаваць шматлікія выключэнні [536, с. 153]. Падобны скепсіс выказаў і І. Воўк-Левановіч: «...мы не можам грунтавацца выключна на народным вымаўленні <...> Калі грунтавацца на народных гутарках <...> тады будуць бясконцыя спрэчкі, і такія спрэчкі тым шкодны, што яны ніколі не прывядуць да якіх-небудзь вынікаў» [731, с. 239].

Адпаведна, недастатковая вывучанасць, напрыклад, беларускага дыялектнага вакалізму не была неадольнай перашкодай для таго, каб нейкім чынам усталяваць правапіс ненаціскнога *е* пасля мяккіх зычных. Канферэнцыя была месцам адкрытага сутыкнення думак, і яе ўдзельнікі былі зацікаўлены не проста ў выкладанні сваіх пазіцый, але і ў прыцягненні на свой бок дэлегатаў канферэнцыі. У гэтым плане Некрашэвічаву тактыку вядзення дыскусіі можна ацаніць як удалую: прапанова рэфармаваць правапіс на аснове дыялекталагічных даследаванняў была не абстрактным «інтэлігенцкім» пажаданнем, а вырастала з непрыняцця Лёсікавага тэзіса аб тым, што ў гаворках заўсёды «галосныя *о (ё)* – *э (е)* <…> не пад націскам даюць *а (я)*» [682, с. 235]. Пра неабгрунтаванасць гэтай думкі гаварылі многія ўдзельнікі канферэнцыі[56]. Паколькі адсутнасць дыялекталагічных даследаванняў у Беларусі ў 1920-я гг. не давала магчымасці пацвердзіць справядлівасць тэзіса Я. Лёсіка, адсылка да новых пошукаў была добра зразумелай. Абмеркаванне на канферэнцыі было добрай школай для маладой беларускай савецкай лінгвістыкі: яно паказала ўсю неадназначнасць любых, часам, здавалася б, зусім відавочных і «бясспрэчных», канкрэтных арфаграфічных прапаноў і глыбіню праблемы правапіснага рэфармавання як грамадскага мерапрыемства ў цэлым.

Калі не лічыць спрэчак па канкрэтных пунктах, калізія паміж прыхільнікамі хуткай рэформы і людзьмі, якія выказвалі стрыманасць, была на канферэнцыі галоўнай. Рэалізаваная як сутыкненне неаднолькавых падыходаў да «тэхналагічна» розных спосабаў рэфармавання (рабіць змены адразу ці пасля правядзення навуковых даследаванняў?), дадзеная калізія папраўдзе адлюстроўвала больш глыбокія разыходжанні ў меркаваннях адносна арганізацыі і развіцця беларускай лінгвістыкі ўвогуле. Калі, на думку Я. Лёсіка, у сярэдзіне 1920-х у Беларусі існавалі попыт і кан'юнктура на правядзенне хуткай арфаграфічнай рэформы (што толькі ўскосна было навуковай праблемай), то, паводле С. Некрашэвіча, П. Растаргуева і іншых, у Беларусі ў гэты час існавала патрэба разгортвання сапраўдных навуковых даследаванняў. Параўн. у гэтым плане выключна станоўчую ацэнку С. Некрашэвічам дыскусіі, якая вынікла на канферэнцыі па вельмі далёкім ад асноўнай тэмы дакладзе П. Бузука «Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў»: «...спрэчкі з метадалагічнага боку <…> вельмі цікавыя» [711, с. 4]. Улады хацелі «вучоных

[56] Згодна з меркаваннем П. Бузука, выказаным пазней, на поўдні Беларусі панавала дысіміляцыйнае яканне, а моцнае яканне ўяўляла сабой «чыста штучную з'яву» [560, с. 35].

звесці на зямлю, паставіць пытанне (рэформы правапісу. – *С. З.*) практычна і спрасціць» [22, с. 104], аднак гэтага не адбылося. Дыскусія на канферэнцыі не абмежавалася арыентацыяй на практычныя змены ў правапісе і вылілася ў грунтоўнае абмеркаванне з прыцягненнем разнастайных аргументаў. Гэта парушыла статус канферэнцыі як пераважна практычнага мерапрыемства, якое павінна было даць вынікам канкрэтныя правапісныя змены.

Зрэшты, па шэрагу графічных і правапісных пунктаў на канферэнцыі былі прыняты канкрэтныя рашэнні. Так, у сферы алфавіту было пастаноўлена:

– афрыкаты *дз* і *дж* абазначаць літарамі сербскага алфавіту *ђ* і *ћ*;

– замяніць літару *й* лацінскай літарай *j*[57];

– увесці напісанні *ja, jэ, jу, jо* замест *я, е, ю, ё* ў пачатку складу перад галоснымі;

– літары *я, е, ю, ё* ў беларускім алфавіце захаваць для азначэння мяккасці зычных.

Цікавым эпізодам на канферэнцыі была спроба надаць легітымны статус беларускай лацінцы. Падчас адкрыцця ў прэзідыум была пададзена падпісаная 40 удзельнікамі, у тым ліку М. Гарэцкім, У. Ігнатоўскім, М. Грамыкам, П. Бузуком, Я. Бялькевічам, З. Жылуновічам, К. Чорным, Я. Коласам, А. Бабарэкам, С. Некрашэвічам, Я. Лёсікам і інш., запіска-прапанова аб неабходнасці ўвядзення ў БССР дадаткова да кірылічнага алфавіту «лацінкі, якая цяпер ужываецца ў Заходняй Беларусі». У канцы тэксту У. Ігнатоўскім была зроблена прыпіска аб умове (разгляду гэтага пытання?): «сувязь з усёй СССР». Некаторыя дэлегаты падпісалі запіску з агаворкамі тыпу «прынцыпіяльна лічу лацінку патрэбнай, але гэтае пытанне яшчэ не на чарзе нашага дня» (Я. Колас), «прынцыпова за ўвядзенне лацінкі, але ў сучасны момант баюся, каб не адбілася на заходняй частцы Беларусі ў бок паланізацыі» (Я. Бялькевіч), «з вялікай асцярогай» (С. Некрашэвіч). Насуперак таму, што запіска, верагодна, была перададзена ў графічную камісію, яна на канферэнцыі не абмяркоўвалася [226; НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 108. Л. 18]. Відаць, гэта адбылося таму, што пытанне ўзнікла, згодна з У. Ігнатоўскім, «выпадкова», людзі, якія падпісалі гэты дакумент, самі часткова лічылі яго не вельмі актуальным, а прэзідыум не палічыў патрэбным абмяркоўваць пытанне, якое не мела папярэдняй распрацоўкі.

У сферы правапісу Акадэмічная канферэнцыя пастанавіла:

– пашырэнне фанетычнага прынцыпу правапісу на зычныя не разглядаць;

– напісанне кожнага ненаціскнога *е* праз *я* адхіліць;

– адносна напісання ненаціскнога *е*: а) у другім складзе перад націскам пісаць толькі *е*; б) часціцу *не* і прыназоўнік *без* пісаць нязменна[58];

[57] Украінскі даследчык А. Скапненка лічыць, што прынятае на Акадэмічнай канферэнцыі пастаноў аб увядзенні сербскіх літар і *j* «адкрывала цалкам рэальную перспектыву стварэння для беларускай мовы паслядоўна фанетычнага правапісу» [328, с. 129].

[58] Відавочна, абедзве гэтыя змены значна аблегчылі б пісьмо. У адной з прац 1920-х гг. знаходзім наступную заўвагу: «Адно, што застаецца запомніць з правапісу, – гэта калі пішацца недарэчнае *не* ці *ня*, у залежнасці ад націскнога складу» [700, с. 84].

– напісанне слоў *няма, няхай* як *німа, ніхай* адхіліць;

– пашырыць аканне на ўсе чужаземныя словы (правіла датычылася рэалізацыі замежнага *о*, але не пашыралася на *е*);

– літару *і*, калі яна стаіць у сярэдзіне або пачатку слова, ніколі не перадаваць праз *й*;

– правапіс *у* пакінуць у рэдакцыі Б. Тарашкевіча.

С. Некрашэвіч пазней кваліфікаваў правапісныя пастановы канферэнцыі як «жыццёвыя», такія, якія «безбалесна могуць быць прыняты нашай арфаграфіяй» [711, с. 8].

Тым не менш было вырашана не праводзіць прынятую рэформу ў жыццё. Падобна, інстанцыі, ад якіх залежала вырашэнне гэтага пытання, пабачылі, што сітуацыя з рэфармаваннем беларускай мовы сапраўдзе з'яўляецца не такой простай, як гэта выглядала ў даканферэнцыйных публікацыях Я. Лёсіка. Можна меркаваць, што пастановы канферэнцыі не былі прыняты ў якасці абавязковых у тым ліку таму, што яны змяшчалі графічны блок (увядзенне літар *ђ, ћ* і *j*). На фоне правапісных прынятыя графічныя змены выглядалі даволі радыкальнымі. Рэцэнзуючы ў 1927 г. выданне матэрыялаў канферэнцыі, М. Байкоў выказваў сумненне ў тым, што пастанова канферэнцыі аб увядзенні сербскіх літар знойдзе сабе прымяненне. Таксама спрэчным ён лічыў увядзенне ў беларускую графіку літары *j*. «Зусім канкрэтнай» ён называў толькі пастанову аб пашырэнні акання ў чужаземных словах [541, с. 257] і «для ўхілення блытаніны» лічыў патрэбным прыняць яе да выканання [542, с. 148]. Д. Дынглі сцвярджае, што на канферэнцыі агульная згода была дасягнута толькі па пункце, датычным пашырэння акання на ўсе запазычаныя словы [454, 152; 455, с. 182–183].

У цэлым можна гаварыць пра недапрацаванасць пададзеных на разгляд канферэнцыі праектаў Я. Лёсіка[59]. На нязначны практычны ўплыў пастаноў канферэнцыі магла ўплываць адсутнасць на форуме, за выключэннем В. Ластоўскага, заходнебеларускіх дзеячаў. На канферэнцыі С. Некрашэвіч выказаў думку, што забеспячэнне адзінства літаратурнай мовы ў БССР і Заходняй Беларусі павінна дасягацца «шляхам канферэнцый, шляхам узаемных уступак» [731, с. 50]. Ён пацвердзіў сваю пазіцыю і пазней, сцвердзіўшы, што рэалізацыя пастаноў канферэнцыі павінна здзяйсняцца «ў поўнай пагоджанасці з адпаведнымі навуковымі коламі Заходняй Беларусі» [711, с. 9].

Канферэнцыя не апраўдала чаканняў тых людзей, якія хацелі нешта змяніць у беларускім правапісе; параўн. у гэтых адносінах назву артыкула П. Вэкслера: «…унікальная падзея, ад якой чакалі большага» [512]. Насуперак выразным ініцыятывам рэфармаваць правапіс некаторыя беларускія лінгвісты не лічылі патрэбным праводзіць такое рэфармаванне і яшчэ да канферэнцыі прадказвалі немагчымасць здзяйснення радыкальнай рэформы. Спасылаючыся на выказванне Я. К. Грота аб тым, што ў пытаннях правапісу вялікае значэнне

[59] Што да П. Растаргуева, то цікава, што ён скептычна ставіўся да магчымасці рэфармаваць алфавіт і фактычна не вельмі актыўна шукаў падтрымкі дэлегатаў канферэнцыі [731, с. 131].

маюць звычай, традыцыі і настроі, І. Воўк-Левановіч сцвярджаў, што і ў беларускай сітуацыі гэтыя фактары могуць аказацца больш важкімі, чым усе добрыя намеры рацыяналізаваць правапіс: «...сучасныя грамадскія настроі разам з замацаваным ужо usus'ам па тарашкевічаўскім правапісе <...> можна сказаць наперад, прадрашаюць магчымасць карэннай рэформы правапісу ў напрамку яго максімальнай рацыяналізацыі – у адмоўным сэнсе. Хутчэй за ўсё будзе магчыма ўнесці толькі некаторыя найбольш пажаданыя папраўкі ў ужо прыняты ў нас *de facto* правапіс» [575, с. 21].

Паводле ацэнкі М. Байкова, работа канферэнцыі «не дала рашучых вынікаў для развязання пытанняў рэформы правапісу і азбукі» [541, с. 257]. У практычным плане яна аказала нязначнае ўздзеянне на развіццё тагачаснай беларускай мовы, усе яе канкрэтныя пастановы (у тым ліку і «бясспрэчныя») маглі ігнаравацца карыстальнікамі беларускай мовы[60]. Гэтая акалічнасць ускосна пацвярджае пазітыўныя характарыстыкі тагачаснага правапісу: несумненна, ён быў не настолькі недасканалы, як гэта хацелі паказаць ініцыятары яго рэформы. Галоўным дасягненнем форуму было наданне ім выразнага імпульсу разгортванню лінгвістычных даследаванняў у Беларусі. Толькі з 1926 г. Інбелкульт прыкметна пайшоў па шляху навукова-даследчай работы [126, с. 52].

У лінгвістыцы 1930-х гг. і ў асобных працах замежных беларусістаў [234, 130–131; 515, с. 310–311] звяртаецца ўвага на тое, што беларускія мовазнаўцы на канферэнцыі імкнуліся рэфармаваць беларускую мову, кіруючыся ў значнай меры нацыянальнымі памкненнямі (прымалі пастановы, накіраваныя на аддаленне беларускай мовы ад рускай). Папраўдзе, сітуацыя была даволі неадназначная. Напрыклад, В. Ластоўскі, і Я. Лёсік на канферэнцыі стаялі за тое, каб у беларускай мове звузіць выкарыстанне літары *ў* (В. Ластоўскі ўвогуле прапаноўваў яе скасаваць). Я. Лёсік прапанаваў увесці ў алфавіт літару *и*, скасаваць абазначэнне асіміляцыйнай мяккасці свісцячых, а В. Ластоўскі – замест э пісаць *е* (*рекі*). У прапановах двух гэтых лінгвістаў (асабліва Я. Лёсіка) выразна праглядаўся рацыяналістычны аспект: найбольш важнай падчас рэформы, лічыў ён, была патрэба зрабіць алфавіт і правапіс лагічнымі, «навуковымі». Цікава, што ва Украіне ў сярэдзіне 1920-х гг. Г. Галаскевіч таксама лічыў патрэбным стварыць «навуковы правапіс» [353, с. 64].

Правядзенне канферэнцыі выклікала неадназначную рэакцыю ў найвышэйшых партыйных колах. 26 лістапада 1926 г. было праведзена закрытае пасяджэнне бюро ЦК КП(б)Б, на якім некаторыя члены рэзка крытыкавалі старшыню камісіі па падрыхтоўцы канферэнцыі У. М. Ігнатоўскага. У сувязі з тым, што неўзабаве ў ЦК ВКП(б) паступіла інфармацыя аб нацыяналістычных праяўленнях на Акадэмічнай канферэнцыі, у снежні 1926 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкі ездзіў у Маскву даваць тлума-

[60] Чэшскі лінгвіст Ф. Ціхы лічыў, што пасля правядзення канферэнцыі ў савецкай і Заходняй Беларусі сталі выкарыстоўвацца два розныя правапісы [504, с. 292], аднак гэта не так.

чэнні на гэты конт [279, с. 174, 178–179]. У новай рэзалюцыі бюро ЦК ад 17 снежня поруч са станоўчымі момантамі быў адзначаны і шэраг адмоўных: «нацыяналістычныя захапленні ў сувязі з канферэнцыяй <...> ажыўленне ў некаторай часткі інтэлігенцыі нацыянал-дэмакратычных тэндэнцый», невыкананне камуністамі, што выступалі на канферэнцыі з прывітаннямі, дырэктывы бюро ЦК пра тое, што яны павінны былі выявіць «лінію партыі ў будаўніцтве БССР», незнаёмства шэрагу партыйных работнікаў з беларускім рухам. Канферэнцыя крытыкавалася і за тое, што на ёй у прэзідыум была пададзена падпісаная ў тым ліку шэрагам камуністаў прапанова аб разглядзе пытання аб выкарыстанні для беларускай мовы лацінскай графікі ў дадатак да кірылічнай (у тэрміналогіі крытыкаў: «пераходу» на лацінскую графіку). У рэзалюцыі былі зроблены вывады аб тым, што сярод шэрагу камуністаў няма належнай ацэнкі небяспек мясцовага нацыяналізму, што кадры, якія вядуць работу на культурным фронце, – недастатковыя, што ранейшыя дырэктывы КП(Б)Б па пытаннях культурнага будаўніцтва «не засвоены поўнасцю і не выкананы». У рэзалюцыі прызнавалася памылка ў тым, што бюро ЦК КП(б)Б не паставіла пытання аб арганізацыі канферэнцыі ў ЦК ВКП(б) [279, с. 175–178]. Пытанне правядзення Акадэмічнай канферэнцыі абмяркоўвалася і ў палітычнай справаздачы ЦК КП(б)Б X з’езду КП(б)Б 3 студзеня 1927 г. (раздзел «Аб беларускім нацыяналізме»). Поруч са станоўчымі момантамі было адзначана, што правядзенне канферэнцыі сведчыла аб адсутнасці ў шэрагу камуністаў «дастаткова пільнага разумення небяспекі нацыянал-дэмакратычных настрояў з боку часткі інтэлігенцыі» [22, с. 116][61].

Пазней канферэнцыя была выключна адмоўна ацэнена ў дакладзе камісіі ЦКК ВКП(б) пад кіраўніцтвам У. П. Затонскага [279, с. 179–180]. 27 снежня 1929 г. у газеце «Звязда» быў апублікаваны артыкул, у якім сярод іншага пісалася пра тое, што «...канферэнцыя была некаторым чынам тым месцам, дзе нацыянал-дэмакраты прабавалі прадэманстраваць свае жывыя сілы ўнутры Савецкай Беларусі». На кастрычніцкім пленуме ЦК КП(б)Б 1930 г. старшыня ДПУ Г. Рапапорт сцвярджаў, што пад выглядам навуковай «была фактычна склікана канферэнцыя нацыянал-дэмакратаў і нацыянал-фашыстаў <...> каб абгаварыць, абмяняцца думкамі і каардынаваць дзеянні» [286, с. 194]. У друку пачатку 1930-х гг. канферэнцыя называлася таксама «генеральным злётам нацдэмаўскіх контррэвалюцыянераў» [534, с. 109], а пазней – «сусветным контррэвалюцыйным кангрэсам беларусаў» [285, с. 92]. У сувязі з наяўнасцю гэтых палітычных ацэнак беларускай навуцы доўгі час было складана даць адэкватную характарыстыку Акадэмічнай канферэнцыі.

---

[61] Тэрмін «нацыянал-дэмакратызм» у партыйнай фразеалогіі з’явіўся на кастрычніцкім пленуме ЦК КП(б)Б 1925 г., пад ім разумелася правая небяспека ў культурным будаўніцтве, тэндэнцыя развіваць нацыянальную культуру на шкоду яе класаваму зместу. На канферэнцыі нацыянал-дэмакратызм быў упамянуты толькі ў дакладзе «Асноўныя этапы развіцця новай беларускай літаратуры» М. Піятуховіча пры характарыстыцы ідэалогіі газеты «Наша ніва» [731, с. 321].

# 3.3. РАСПРАЦОЎКА ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў КАНЦЫ 1920-х гг.

## 3.3.1. ПАЧАТАК ДЗЕЙНАСЦІ ПРАВАПІСНАЙ КАМІСІІ ІНБЕЛКУЛЬТА

Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, у якой удзельнічала вялікая колькасць навукоўцаў і педагогаў і дзе абмяркоўваліся многія графічныя і правапісныя праблемы, у значнай меры задаволіла імкненне беларускага грамадства сярэдзіны 1920-х гг. да асэнсавання адпаведнай тэматыкі. Тым не менш у беларускай арфаграфіі яшчэ заставаліся пытанні, якія маглі выклікаць непаразуменні або прыцягваць увагу дапытлівых людзей. Рэфарматарскія публікацыі на правапісную тэматыку эпізадычна працягвалі з'яўляцца, аднак грамадская цікавасць да правапіснай праблематыкі была ў гэты час на спадзе. На фоне заяў аб «крызісе» правапісу беларускае грамадства асэнсоўвала наступны факт: насуперак чаканням правапіс Б. Тарашкевіча вытрымаў даволі жорсткую крытыку і ў яго не было ўнесена ніякіх змен. Тыя ж рэкамендацыі, якія былі прапанаваны на форуме, можна лічыць памяркоўнымі. Як заўважыў адзін з удзельнікаў, канферэнцыя разважала, уласна кажучы, «аб дадатках да Тарашкевіча» [702, с. 93].

1 кастрычніка 1927 г. пры кафедры жывой беларускай мовы Інбелкульта была створана Камісія літаратурнай мовы, якой былі даручаны апрацоўка матэрыялаў канферэнцыі і падрыхтоўка канчатковага праекта правапісу. У складзе гэтай камісіі была вылучана правапісная камісія, у якую ўвайшлі С. Некрашэвіч (старшыня), А. Багдановіч (сакратар), Я. Лёсік, В. Ластоўскі, П. Бузук, Я. Бялькевіч, Я. Купала і У. Чаржынскі. Правапісная камісія пачала сваю работу 7 снежня 1927 г. і да 17 красавіка 1929 г. правяла 33 пасяджэнні [551, с. 5]. У 1928 г. у газетах тройчы былі апублікаваны нататкі з нагоды дзейнасці камісіі [608; 727; 688]. Звесткі пра дзейнасць камісіі знаходзім таксама ў артыкуле Я. Лёсіка «Дзесяцігоддзе беларускае граматыкі (1918–1928)» [682, с. 302–306].

З першай інфармацыйнай нататкі даведваемся, што першапачаткова камісія мела намер падрыхтаваць праект правапісу да 1 ліпеня 1928 г. Гэты праект меў уключаць у сябе раздзелы, прысвечаныя правапісу: 1) галосных; 2) зычных; 3) марфалагічных формаў; 4) складаных слоў; 5) чужаземных слоў і 6) уласных назваў. На першых пасяджэннях былі распрацаваны першы і часткова другі раздзелы. Як сведчыў невядомы хранікёр, найбольш спрэчным пунктам для членаў камісіі аказаўся правапіс ненаціскнога *е*, адносна якога поўная згода дасягнута не была. Па гэтым пункце акрэсліліся два падыходы.

Згодна з першым прапаноўвалася падпарадкаваць правапіс гэтай арфаграмы дзеянню марфалагічнага прынцыпу. Прадугледжвалася, аднак, наступ-

ная мадыфікацыя: ненаціскное *е* будзе пазначацца літарай *е*, а націскное – той жа літарай, але (як сцвярджалася, на ўзор Б. Тарашкевіча) з пазначэннем націску (*é*)[62]. Згодна з другім падыходам пры вызначэнні напісання ў дадзеным выпадку павінен быў пераважаць фанетычны прынцып. Паколькі вымаўленне ненаціскнога *е* ў розных пазіцыях выразна адрозніваецца ад вымаўлення націскнога *е*, для першага было вырашана выкарыстоўваць грэчаскую літару іпсілан. Невядома, хто быў ініцыятарам увядзення ў беларускі алфавіт новага графічнага знака[63]. Аўтар нататкі сцвярджаў, што для карыстальнікаў беларускай мовы яна «вялікай навіны складаць не будзе» [608].

Другая публікацыя ўяўляла сабой пашыраны варыянт першай нататкі. Яе аўтар катэгарычна пярэчыў супраць прымянення пры абазначэнні ненаціскнога *е* марфалагічнага прынцыпу, бо «ненаціскное *е* ў слове *весна* будзе чытацца як *е*, што фактычна будзе азначаць калечанне нашай мовы. Не паможа гэтаму і націск над націскным *е* (*é*), бо графічны вобраз слоў аднакі <...> Вялікі расійскі ўплыў будзе дапамагаць змяшэнню ў вымаўленні націскнога і ненаціскнога *е*, а праз гэта і зніканню з беларускай мовы аднэй з яе характэрных асаблівасцей». Невядомы хранікёр сцвердзіў, што такая інавацыя не ўдакладняе правапісу, не дапасоўвае яго да вымаўлення, і схіліўся да ўвядзення іпсілана. Прынамсі, лепшым за першы падыход аўтар лічыў захаванне існуючага правіла ў сукупнасці з удакладненнем, прынятым на Акадэмічнай канферэнцыі [688]. Аўтар заклікаў выказацца на гэты конт і іншых зацікаўленых асоб, аднак абмеркаванне гэтай тэмы працягу не атрымала.

Як сведчыў у маі 1928 г. Я. Лёсік, адносна гэтага пункта ў камісіі акрэсліліся тры падыходы: 1) націскны і ненаціскны [е] заўсёды абазначаць літарай *е*; 2) ненаціскны [е] абазначаць літарай *я*; 3) ненаціскны [е] абазначаць літарай іпсілан [682, с. 306]. Сам Я. Лёсік у згодзе з пазіцыяй, выказанай ім на Акадэмічнай канферэнцыі, працягваў лічыць, што кожны ненаціскны *е* павінен пазначацца літарай *я*.

У яшчэ адной інфармацыйнай нататцы паведамлялася аб пасяджэнні акадэмічнай рады Інбелкульта, на якім была выслухана справаздача старшыні Правапіснай камісіі С. Некрашэвіча. К кастрычніку 1928 г. камісія завяршала распрацоўку правапісу марфалагічных формаў і займалася правапісам замежных слоў, а таксама ўласных назваў, фактычна знаходзілася на апошнім этапе сваёй дзейнасці. Канчатковым тэрмінам падрыхтоўкі праекта было прызначана 1 студзеня 1929 г. Спецыяльна набранымі тлустымі літарамі газета паведамляла, што ў аснову праекта арфаграфіі «будзе пакладзены правапіс, якім зараз карыстаецца газета “Савецкая Беларусь”» [727]. З гэтай нататкі

[62] Пазначэнне націскнога *е* праз *é* было прынята і ў дапаможніку Я. Станкевіча «Беларуская правапіс з практыкаваннямі» [744, с. 17].

[63] На Акадэмічнай канферэнцыі на пасяджэннях правапіснай камісіі І. Воўк-Левановіч і М. Дамброўскі ўспаміналі аб транскрыпцыйным абазначэнні ненаціскнога *е* грэчаскай літарай *ε* (іпсілан) [731, с. 241, 288], аднак яны не прапаноўвалі ўвесці гэтую літару ў алфавіт.

можна зрабіць выснову, што к кастрычніку 1928 г. ідэя ўвесці ў алфавіт іпсілан і літару *é* перастала быць актуальнай, а ў правапісе мелі быць захаванымі ўсе асноўныя ўжывальныя да гэтага часу арфаграмы.

### 3.3.2. ПАЛЕМІКА ПАМІЖ Я. ЛЁСІКАМ І І. ВАЎКОМ-ЛЕВАНОВІЧАМ

У лютым 1928 г. адбылася палеміка паміж Я. Лёсікам і І. Ваўком-Левановічам з нагоды выдання апошнім «Лекцый па гісторыі беларускае мовы», у якой закраналіся і арфаграфічныя пытанні.

У выключна рэзкім, з элементамі палітычных абвінавачванняў, водгуку на публікацыю падручніка І. Ваўка-Левановіча Я. Лёсік зафіксаваў у гэтай кнізе шэраг адхіленняў ад усталяванай арфаграфіі. Гаворка ішла пра змякчэнне зубных *д, т, з, с* у чужаземных словах (*фанэцікі, сісьцемацізуе, практычных, дзіалектаў, сьціль, дзісцыплін*), непаслядоўнасць у напісанні ненаціскнога *о* (*марфалогіі – морфологічных, фанэцічных – фонэтычных, хронологічную – храналагічна*) і незмякчэнне *л* у замежных словах (*цермінологіі, дыалекталогіі, філалагічнай, аналагічнай*). Я. Лёсік адхіліў меркаванне І. Ваўка-Левановіча адносна ўплыву ў справе незмякчэння *д* і *т* у запазычаных словах з боку польскага вымаўлення. На думку палеміста, вымаўленне тыпу *дыплёмат, тэорыя, соцыял-дэмократ* не пераймалася з польскай мовы, а было засвоена прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі непасрэдна ў Заходняй Еўропе. Я. Лёсік кваліфікаваў дзеянні І. Ваўка-Левановіча як «свядомае і наўмыснае перакручванне агульнапрынятага правапісу» [682, с. 293–300].

У сваім адказе І. Воўк-Левановіч сцвердзіў, што рукапіс яго кнігі быў напісаны згодна з яго асабістым пунктам гледжання ў галіне перадачы чужаземных слоў, які ён неаднаразова адстойваў у Інбелкульце і ў навуковым таварыстве пры БДУ. У навуковым таварыстве І. Воўк-Левановіч, паводле яго ўласнага сведчання, чытаў спецыяльны даклад на гэтую тэму. Навуковец звяртаў увагу на тое, што сяляне пераважна вымаўляюць не так, як прынята пісаць: *дзісцыпліна, арыхмеціка, капярацыя, пазіцыя, іньсьпектар*. На думку І. Ваўка-Левановіча, цвёрда вымаўляць зубныя, а таксама мякка вымаўляць *л* у замежных словах для многіх беларусаў «надзвычайна цяжка»; такое вымаўленне можна было чуць «толькі ад вельмі старых людзей». У сувязі з гэтым навуковец лічыў магчымым прыняць напісанні тыпу *дісьціпліна* (або нават *дісьтіпліна*), *консьтітутія, діалект, морфологія, філологія* і да т. п. [578].

Публікацыя І. Ваўка-Левановіча з’явілася першым выступленнем у Беларусі супраць некаторых усталяваных падыходаў правапісу запазычаных слоў[64]. У 1928 г. заўвага наконт неабгрунтаванасці правіла аб напісанні мяккага *л* у запазычаннях сустракаецца таксама ў іншага аўтара. Так, з нагоды непаслядоўнасці ў напісанні слоў *галёп, галун, Плятон, Алах* у РБС-28

[64] У 1922 г. падобны погляд, аднак, выказваў Я. Карскі ў трэцім томе сваёй манаграфіі «Белорусы», апублікаваным у Петраградзе [634, с. 192].

рэцэнзент слоўніка Р. Бахта выказаў меркаванне, што пісаць *Алах* і *галун* мэтазгодна, увогуле, у гэтым пункце правапісу «трэба пайсці насустрач народнай фанетыцы» [683, с. 162]. Дадзеныя арфаграмы не абмяркоўваліся на Акадэмічнай канферэнцыі: верагодна, большасць яе ўдзельнікаў не лічыла напісанні з мяккім *л* праблемнымі.

## 3.3.3. ШОСТАЕ ВЫДАННЕ ПАДРУЧНІКА «БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС» Я. ЛЁСІКА

У 1928 г. выйшла з друку чарговае (шостае) выданне падручніка «Беларускі правапіс» Я. Лёсіка, першае дапрацаванае выданне гэтай кнігі пасля Акадэмічнай канферэнцыі. У параўнанні з чацвёртым (падрыхтаваным да канферэнцыі) і стэрэатыпным пятым (1927) выданнямі ў ім у прадмове былі зроблены некаторыя змены. Так, Я. Лёсік апусціў сваю ранейшую станоўчую характарыстыку правапісу Б. Тарашкевіча, якая пачынала прадмову ў выданнях падручніка 1924–1927-х гг. (гл. 3.1.3). У новым выданні сярод пералічваных раней фанетычнага, этымалагічнага, традыцыйнага прынцыпаў правапісу і «прынцыпу напісання чужаземных слоў» традыцыйны прынцып быў абмінуты. Таксама ў прадмове была зроблена ўстаўка з ілюстрацыямі адхіленняў ад дзейных, паводле Я. Лёсіка, у беларускай мове трох прынцыпаў правапісу. Так, да адхіленняў ад фанетычнага прынцыпу аўтар залічыў напісанні тыпу *вецер, восень; далей, болей* (формы назоўнікаў родн. скл. мн. л.); *гаем, роем; лялек, жнеек, песень*; *чытае, працуе* і да т. п. Адхіленнем ад прынцыпу правапісу запазычаных слоў было кваліфікавана падпарадкаванне правілам беларускай арфаграфіі напісання «вядомых шырокім народным масам як свае родныя» запазычаных слоў: *літара, дарэктар, аканом* або *аконам, калідор, рэвальвэр, камісія, камітэт, сакратар, камуністы* [678, с. 3–4].

У дадзеным выпадку можна гаварыць пра няпоўны ўлік вынікаў дыскусіі і пастаноў Акадэмічнай канферэнцыі. Так, развагі Я. Лёсіка аб адхіленнях ад «прынцыпу правапісу чужаземных слоў» недастаткова бралі пад увагу тую акалічнасць, што на канферэнцыі гэта «адхіленне» (ужо рэалізоўванае некаторымі аўтарытэтнымі выданнямі) фактычна было пераведзена ў разрад правіла. На форуме Я. Бялькевіч указваў, што напісанні тыпу *доляй, воляй* трэба разглядаць у рамках марфалогіі, а не як арфаграфічную з’яву [731, с. 236]; адпаведна, развагі Я. Лёсіка пра тое, наколькі ў выпадку напісанняў *далей, болей* былі парушаны прынцыпы фанетыкі, справядлівыя толькі часткова.

## 3.3.4. РЭЦЭНЗІЯ Я. КАРСКАГА НА «ПРАЦЫ АКАДЭМІЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ...»

У 1928 г. крытычны пункт гледжання на правапіс запазычаных слоў, аналагічны меркаванням І. Ваўка-Левановіча, выказаў у рэцэнзіі на «Працы Акадэмічнай канферэнцыі...» Я. Карскі. На яго цвёрдае перакананне, «на месцы

рускага *л* цвёрдага і пры запазычанні павінна быць цвёрдае *л* (*логіка, філасофія, мінералогія* і г. д.); гэтаксама і спалучэнні *ти, ди* павінны перадавацца праз беларускія *ці, дзі* (*дзіагноз, дзівізія, дзіктатура, ціп, цігра, цiраж, пракцічны, грамаціка* і да т. п.). Калі ж мы цяпер сустракаем у школьным ужытку: *практычны, граматыка, тыповы, лёгіка, філёзофія, дыямэнты, лягуна, ляка, пэрыодызацыя, эксплёатацыя, русіфыкацыя, калёнізацыя, фізыяномія, ідэалёгія, трагедыя, ідылія, дыдактызм, мiталёгія, сантымэнталізм, полёнізацыя, радыкальны, дэспотызм, антыэстэтызм, псыхолёгізм* і да т. п., то гэта будуць сучасныя запазычанні з польскай або ўтвораныя ў духу польскай фанетыкі асобамі, выхаванымі польскай культурай» [683, с. 256]. Надрукаваная ў замежным часопісе рэцэнзія Я. Карскага, аднак, была недаступная для большасці беларускіх мовазнаўцаў.

## 3.3.5. АРТЫКУЛ Я. ЛЁСІКА «ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАТЫКІ»

Некаторыя меркаванні адносна развіцця правапісу пасля Акадэмічнай канферэнцыі былі выкладзены ў артыкуле Я. Лёсіка «Дзесяцігоддзе беларускае граматыкі (1918–1928 г)». У ім аўтар паўтарыў некаторыя аргументы, якія ён раней адстойваў на канферэнцыі. Адначасова аўтар сцвярджаў, што і праца Акадэмічнай канферэнцыі, і дзейнасць Правапіснай камісіі Інбелкульта паказваюць, што «вялікіх зменаў зроблена не будзе, і сістэмы і прынцыпы тарашкевічаўскага правапісу застануцца непарушнымі» [682, с. 305]. У сувязі з тым, што ў 1928 г. у Вільні адбываўся судовы працэс над дзеячамі заснаванай Б. Тарашкевічам сялянска-работніцкай грамады, які шырока асвятляўся ў савецкім друку, у БССР адбывалася своеасаблівая ідэалагічна-палітычная «кананізацыя» Б. Тарашкевіча, якая міжволі кідала адбітак і на абмеркаванне моўных пытанняў. Гэта акалічнасць аўтаматычна паніжала шанцы любога з савецкіх рэфарматараў гэтага часу ўнесці радыкальныя змены ў выпрацаваны Б. Тарашкевічам правапіс.

## 3.3.6. РЭФАРМАТАРСКІЯ ПРАПАНОВЫ У. ДУБОЎКІ

У 1927–1929 гг. з артыкуламі аб рэформе алфавіту і правапісу некалькі разоў выступіў паэт У. Дубоўка [198, с. 51–118].

У галіне правапісу У. Дубоўка прапаноўваў скасаваць выключэнне аб магчымасці не скарачаць *у* пасля галосных ў паэтычнай мове. Ён лічыў патрэбным удакладніць кадыфікацыю *у* і *ў, і* і *й* у пачатку слова, дзе прымальным лічыў не скарачаць пачатковага *у*, калі за ім ішлі два і больш зычныя гукі (*павінна ўжывацца*, але *адна установа, хмара ускрыла*). У. Дубоўка неадабральна выказаўся з нагоды меркавання некаторых удзельнікаў дыскусіі, якое праявілася яшчэ да Акадэмічнай канферэнцыі, аб тым, што *і* ў пачатку слова скарачаць не трэба. На думку паэта, «ігнараванне гэтага выпадку не пасуе

з духам нашае мовы» [616, с. 90]. З гэтай пазіцыяй У. Дубоўкі салідарызавалася рэдакцыя часопіса «Узвышша», якая ў спецыяльнай зносцы пры артыкуле У. Дубоўкі «Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашай мовы» з нагоды пастановы Акадэмічнай канферэнцыі аб нескарачэнні *і* ў пачатку слова выказалася наступным чынам: «Пытанне наконт *і*, трэба спадзявацца, пад вымогамі жыцця ўсё ж будзе перагледжана, бо згаданая пастанова не вырашае пытання ў належнай меры» [616, с. 88]. Увагу У. Дубоўкі прыцягнулі таксама прыстаўныя галосныя і зычныя. На думку паэта, для ўхілення немілагучнасці перад збегамі зычных у беларускай мове павінны ўжывацца прыстаўныя галосныя *і* і *а*, аднак для некаторых выпадкаў іх выкарыстанне абмяжоўвалася (*шмат істужак*, але *белая стужка*). Прыстаўны зычны *в* павінен быў ужывацца перад пачатковым *а* тады, калі папярэдняе слова мела «адкрыты канчатак»: *вялікія вазёры, на вялікіх азёрах; ночкаю васенняй, спраўляў асяніны* [198, с. 106–110].

У галіне графікі У. Дубоўка прапанаваў увесці спецыяльныя літары для пазначэння афрыкат [дз’] і [дж]. Для іх У. Дубоўка прыдумаў спецыяльныя знакі, створаныя на аснове іншых алфавітаў; яны пэўны час выкарыстоўваліся ў часопісе «Узвышша». Таксама ён выказаўся за выключэнне з беларускага алфавіту літары *ё*, прапанаваўшы яе замяніць знакам *ö* [198, с. 63–73]. Нягледзячы на тое што пытанне ўвядзення спецыяльных літар у беларускі алфавіт для абазначэння афрыкат у сярэдзіне 1920-х гг. многімі ўспрымалася як важная практычная задача, далейшага развіцця гэта тэма фактычна не мела[65].

### 3.3.7. АРТЫКУЛ Л. ЦВЯТКОВА АБ ПРАВАПІСЕ І СКЛАНЕННІ ЗАМЕЖНЫХ УЛАСНЫХ НАЗВАЎ

Пра тое, што пасля канферэнцыі 1926 г. правапісная сітуацыя ў беларускай мове была даволі стабільная, ускосна сведчыла і тая акалічнасць, што ў 1928 г. у часопісе «Полымя» Л. Цвяткоў апублікаваў артыкул «Увагі а правапісе і скланенні чужаземных уласных іменняў у беларускай мове» – на тэму, якая звычайна дэталёва распрацоўваецца ўжо на фінальнай стадыі правапіснай кадыфікацыі. Аўтар падкрэсліў, што правапіс іншамоўных уласных назваў уяўляе сабой складаную праблему для любой мовы, а ў якасці станоўчага боку для арфаграфічнага рэгулявання гэтага разраду лексікі ў беларускай мове назваў неглыбокую правапісную традыцыю. Гэта асаблівасць беларускага моўнага

[65] Існуе, аднак, ліст членаў прэзідыума «Узвышша» ад 30 мая 1929 г. аб спрашчэнні алфавіту [НГАБ. Ф. 7. Воп. 1. Спр. 775]. Патрабуе спецыяльнага вывучэння пытанне магчымай сувязі ініцыятывы аб увядзенні спецыяльных літар для афрыкат з аналагічнымі захадамі ў польскай мове. Пытанне аб замене польскіх афрыкат *dż*, *dz*, *dź* спецыяльнымі літарамі ў 1920-я гг. абмяркоўвалася не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі, напрыклад, на пасяджэнні ў Інбелкульце 19 мая 1927 г. [607]. Згодна з В. Лаўрэцкай, ідэя рэфармаваць польскі правапіс узнікла ў асяроддзі супрацоўнікаў Польскага сектара БАН у 1924 г. «на хвалі рэвалюцыйнага ўздыму і тэндэнцыі да татальнага знішчэння старой культуры» [211, с. 218]. В. Лаўрэцкая лічыць, што ў ходзе і напрамках дыскусій, звязаных з польскімі і беларускімі графікай і арфаграфіяй, можна заўважыць некаторыя паралелі [211, с. 218], аднак не згадвае спробаў замяніць у польскай мове афрыкаты спецыяльнымі літарамі.

развіцця дазваляла звярнуцца да тэарэтычнага асэнсавання правапісу гэтай групы слоў да таго, як спосабы напісання ўласных назваў ужо стабілізаваліся ў мове. У якасці галоўнага падыходу Л. Цвяткоў вызначыў у гэтай сферы непазбежна кампрамісны шлях: «...замест поўнае дакладнасці мы атрымаем (у значэнні: змушаны задаволіцца. – *С. З.*) толькі магчыма блізкую перадачу» [683, с. 258]. Л. Цвяткоў крытычна ацаніў сітуацыю ў рускай мове з прычыны наяўнай у ёй непаслядоўнасці і сцвердзіў, што пры засваенні гэтай групы слоў беларускай мовай трэба клапаціцца аб дакладнасці перадачы замежных уласных назваў, а не пераймаць чужыя напісанні. У сваім артыкуле аўтар падрабязна асвятліў спосабы перадачы па-беларуску ўласных назваў розных моў і, у прыватнасці, лічыў прымальным абысціся без фанетычнай адаптацыі рускіх, украінскіх і некаторых заходнееўрапейскіх прозвішчаў, прапаноўваў пісаць *Дедюлін, Скрябін, Дюран, Дюрынг, Долгарукаў, Лескоў, Агарёў, Мережкоўскі, Огоноўскі,* разглядаў як магчымае напісанне *Горькі* і інш. [683, с. 258–274].

### 3.3.8. «ПРАЕКТ РЭФОРМЫ І СТАБІЛІЗАЦЫІ...» Я. ЛЁСІКА

Стабільная сітуацыя ў правапісе пасля правядзення Акадэмічнай канферэнцыі паўплывала на тое, што Я. Лёсік пад канец 1920-х гг. абмежаваў свае рэфарматарскія ініцыятывы. У надрукаваным у 1929 г. «Праекце рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу» ён прапанаваў толькі дзве больш ці менш сур'ёзныя змены. Першая датычылася немагчымасці скарачаць на пісьме злучнік *і* і прыназоўнік *у*. Другой важнай навацыяй было неабазначэнне мяккасці свісцячых *з, с, дз, ц* перад наступнымі мяккімі зычнымі [679]. Як вядома, абедзве змены Я. Лёсік вылучаў яшчэ на Акадэмічнай канферэнцыі і нават раней, але быў падтрыманы толькі часткова. Адносна правапісу *у* і *і* на пасяджэнні правапіснай камісіі на канферэнцыі была прынята альтэрнатыўная прапанова А. Багдановіча; аднак ініцыятыва Я. Лёсіка аб немагчымасці скарачаць злучнік *і* была падтрымана [731, с. 394]. Што да прапановы адмовіцца ад пазначэння на пісьме асіміляцыйнага змякчэння свісцячых, то абмеркаваць яе на пасяджэнні правапіснай камісіі на канферэнцыі не хапіла часу. З ходу пленарных пасяджэнняў канферэнцыі вынікае, што такая прапанова мела многа праціўнікаў.

Гэты праект Я. Лёсіка меў водгук, надрукаваны ў часопісе «Полымя». Невядомы аўтар станоўча ацаніў як нязменнае напісанне прыназоўніка *у* і злучніка *і* («гэта значна спрашчае правапіс»), так і скасаванне мяккага знака ў пазіцыі перад наступнымі мяккімі зычнымі: «...з гэтым можна згадзіцца, бо ніякіх непаразуменняў гэта выклікаць не можа». З адным выключэннем (правапіс тыпу *на дубі, аб словi*) аўтар водгуку падтрымаў таксама ўсе правілы Лёсіка, датычныя правапісу канчаткаў [738, с. 184–185].

Паказальна, што на новым этапе Я. Лёсік не стаў рабіць новых прапаноў, а звярнуўся да ўжо выказаных, спаслаўшыся гэтым разам на падтрымку акадэміка М. Дурнаво. Звяртае ўвагу і тое, што, быўшы членам Правапіснай камісіі

Інбелкульта (які, несумненна, адстойваў свае погляды на яе пасяджэннях), ён захацеў, тым не менш, давесці свой праект да ведама больш шырокага кола асоб. Настойлівасць Я. Лёсіка аказалася паспяховай. Нягледзячы на тое што гэтыя прапановы мелі даволі шматлікіх і аўтарытэтных апанентаў – у тым ліку С. Некрашэвіча, Янку Купалу і інш. [551, с. 49–51], у падрыхтаваным Правапіснай камісіяй выніковым праекце яны былі ўлічаны [551, с. 13, 15, 20].

## 3.3.9. МЕТАДЫЧНЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ Ў ЧАСОПІСЕ «АСВЕТА»

З 1927 г. у часопісе «Асвета» сталі рэгулярна з'яўляцца публікацыі метадыстаў, прысвечаныя навучанню пісьму ў школе, у якіх у той або іншай ступені закраналіся і некаторыя пытанні правапісу.

У першым нумары часопіса за 1927 г. А. Лёсік прааналізаваў вынікі ўступных выпрабаванняў па беларускай мове на Мінскіх двухгадовых педагагічных курсах. Вучні, якія паступалі на гэтыя курсы, большасць прадметаў вывучалі ў школах на рускай мове, адкуль было зразумелым іх слабае валоданне беларускай мовай. Усяго аўтар прааналізаваў 200 пісьмовых прац абітурыентаў 1926 г., у якіх выявіў наступныя адхіленні ад правапісу і граматыкі беларускай мовы:

– напісанне *я* замест *е* ў розных граматычных формах: *існуя, працуя, тоя ці іншая пытаньне*;

– ужыванне канчатка *-а* (*-я*) замест канчатка *-ыць* (*-іць*) у формах дзеясловаў II спр. 3-й асобы адз. л. цяп. ч. абвес. ладу*: прыводзя, знача*;

– ужыванне ненарматыўных канчаткаў прыметнікаў і назоўнікаў: *у цёмнум кутку, лепшаю светлаю будучыну, у першаю чаргу, сельскаю гаспадарку; у вёсца, на вёсцэ* і інш.;

– ужыванне часціцы *ні* замест *не* (*ні адзін, ні раз, ні буду, ні думалі, ні адукованы*) і, наогул, напісанне *і* замест *е: прыдзіцца, прыдзім, будзім, пірастаюць* і інш.;

– непазначэнне мяккасці зычных: *весці* (замест *весьці*), *вязці* (замест *вязьці*), *барадзбу* (замест *барадзьбу*) і інш.

Усе гэтыя адхіленні аўтар артыкула растлумачыў уплывам дыялектнай мовы.

Акрамя таго, частымі былі і іншыя памылкі: напісанне пасля зацвярдзелых літары *і* (*карісьць, адукацію, гледзячі*), марфалагічны ўплыў рускай мовы (*чырвоные настаўнікі, гэтые, пэдагогічные курсы, к праце, настаўніцей, у жыццёвом шляху*) [659, с. 66–67].

А. Лёсік зрабіў выснову аб нізкім узроўні выкладання беларускай мовы ў сямігадовых школах, аднак рэдакцыя часопіса ў спецыяльнай заўвазе выказала меркаванне аб тым, што вывады аўтара нельга лічыць зусім дакладнымі. Рэдакцыя апелявала да таго, што аўтар не размежаваў ранейшых (якія вучыліся цалкам на рускай мове) і сучасных выпускнікоў, не паказаў у працэнтах, колькі было добрых, сярэдніх і дрэнных пісьмовых работ, і інш. [659, с. 69].

Аўтар артыкула «Да пытання аб арфаграфіі ў школе», апублікаванага ў трэцім нумары часопіса за 1927 год, С. Замбржыцкі звярнуў увагу на сацыяльныя ўмовы бытавання правапісу ў тагачасным грамадстве. На яго думку, арфаграфічныя навыкі ў школе таго часу ўяўлялі сабой «адно з самых хворых месц», а ў школах «мае сабе дасюль добры прытулак арфаграфічная непісьменнасць» [683, с. 213].

С. Замбржыцкі тлумачыў шматлікія правапісныя памылкі вучняў «спадчынай завірушнага часу, калі наша школа перажывала поўную разруху. У час рэвалюцыйных завірух некалі было займацца правапісам. Пісалі абы-як. На напісанне не зварочвалі ніякай увагі, і памылкі набылі ўсе правы грамадзянства». Пры комплекснай сістэме навучання набыццю правапісных навыкаў у тагачаснай пачатковай школе і ў другім канцэнтры сямігодак выдзялялася мала часу. Частка настаўніцтва да пісьма адносілася без належнай увагі. Паводле сведчання аўтара, пішучы заявы, многія тагачасныя настаўнікі рабілі памылкі «ў кожным слове» [683, с. 215, 213][66]. Згодна з С. Замбржыцкім, патрэбна было спрасціць тагачасны беларускі правапіс і, увогуле, «устанавіць цвёрдае напісанне ўсіх слоў беларускае мовы» [683, с. 218]. Аўтар звяртаў увагу на тое, што на правапісную граматнасць адмоўна ўплывала тая акалічнасць, што ў друку нярэдка сустракалася неаднастайнае напісанне – *пэрыод, пярыяд, пэрыад, нягледзячы, ня гледзячы*. Адначасова С. Замбржыцкі зазначаў, што ведання правіл правапісу для набыцця ўстойлівых арфаграфічных навыкаў недастаткова: «Правільнае напісанне набываецца практыкай, гэта ёсць больш тэхнічнай звыкласцю, чым веданнем правіл напісання» [683, с. 218, 214]. З такой думкай быў салідарны і іншы аўтар, які сцвярджаў: «...граматна пісаць навучаемся не дзякуючы завучванню правіл правапісу, а дзякуючы шматлікім практыкаванням зрокавага, рука-рухавага характару, а часткова – і слыхавога» [700, с. 85].

У адной з прац асцярожна канстатавалася, што вучні трэцяга і чацвёртага класаў не спраўляліся з арфаграфічнымі патрабаваннямі. (Аўтар пры гэтым, аднак, зазначаў, што ні ў Беларусі, ні ў іншых рэспубліках стандарты правапісу яшчэ не выпрацаваны, і трактаванне стандартнымі патрабаванняў праграмы было пэўнай умоўнасцю.) Пішучы арфаграфічную дыктоўку, вучні, паводле аўтара, найчасцей рабілі памылкі ў наступных формах: *расчыняныя* (замест *расчыненыя*), *гразю* (замест *граззю*), *гарацкія* (замест *гарадзкія*), *апусьцея* (замест *апусьцее*), *сяжу* (замест *сяджу*) і інш. [749, с. 56].

Пра стан навучання пісьму ў тагачасных школах, якое, паводле аднаго з назіральнікаў, «дайшло да немагчымасці», могуць сведчыць наступныя заўвагі: «Вучань як папала і чым папала панура, без зацікаўленасці мазаў па паперы, спадзеючыся стаць пісьменным чалавекам <...> Настаўнікі ж у значнай

[66] Нізкая культура пісьмовай мовы ў гэты час была ўласціва не толькі беларускім настаўнікам. Як сцвярджалася ў адным з артыкулаў, невысокай культурай мовы ў гэты час валодалі таксама, напрыклад, настаўнікі Камянеччыны ва Украіне (Асвета. 1927. № 1, с. 139–140).

большасці [на гэта] не зварачалі ўвагі» [636, с. 101]. У артыкуле А. Каўпака прыводзіліся прыклады падпісвання вучнямі сваіх сшыткаў (*для испісавання зкнігі, па пісані беларуські, пісані клясні, матыматыкі, для Гіяметрый* і інш.), якія сведчылі пра нізкі школьны ўзровень культуры пісьма.

У артыкуле «Правапісная пісьменнасць у нашых сямёхгадовых школах» (пяты нумар часопіса за 1928 г.) метадыста В. Самцэвіча звярталася ўвага на «велічэзную непісьменнасць», уласцівую школьнікам і ў нейкай меры настаўнікам. На яго думку, «правапісная непісьменнасць яшчэ досыць шырока пануе не толькі ў школах першай ступені, а і ў сямёхгодках, тэхнікумах і нават у ВНУ». Аўтар канстатаваў адсутнасць сістэматычнай працы ў набыцці арфаграфічных навыкаў. Паводле В. Самцэвіча, здаючы сшыткі пасля выканання пісьмовых заданняў, многія вучні нават не лічылі патрэбным уважліва правяраць напісанае. Адсутнасць знакаў прыпынку або іх няправільную расстаноўку вучні ўвогуле не лічылі за памылку. У цэлым існавала патрэба «рашуча паставіць пытанне аб карыстанні літаратурнай беларускай мовай ва ўсёй вучэбна-выхаваўчай працы школы і дамагацца ўсім настаўнікам правільных адказаў, бо справа развіцця мовы не ёсць толькі справа выкладчыка мовы» [737, с. 80, 83, 84, 87].

Аўтар артыкула «Правапісная пісьменнасць...» лічыў, што тагачасны беларускі правапіс быў занадта складаны, не меў цвёрда ўстаноўленых прынцыпаў: «інбелкультаўскія выданні, напр[ыклад], маюць адзін правапіс (слоў чужаземнага пахаджэння), «Савецкая Беларусь», «Асвета» і інш. маюць свой правапіс. Гэта ўносіць блытаніну і ў школы. Школы фактычна аднолькавага правапісу не маюць» [737, с. 87]. Сярод найбольш характэрных сфер вучнёўскіх памылак аўтар артыкула вылучыў наступныя:

– напісанне запазычаных слоў (*сьпектакль, белятрысьціка, імпірылістычная, імпэралістычная, контэр-рэвалюцыя, інтэсыўнасьць, у теятрэ* і інш.);

– напісанне ненаціскных галосных і некаторых зычных гукаў (*я добра правела вакацыі, селяне, серпамі, хочыцца, кавалычак, прыдмет, разпусьцілі, здзекі, збіраліся* і інш.);

– частае напісанне літар *е* і *у* замест *ё* і *ў*;

– правапіс *у* і *ў*;

– правапіс часціцы і прыстаўкі *не / ня* [737, с. 81–82].

З прыцягненнем большай увагі да фарміравання арфаграфічных навыкаў пісьменнасць вучняў паляпшалася. З аднаго боку, З. Сцяпура і А. Лёсік (першы вельмі асцярожна) пісалі аб нездавальняючым узроўні засваення вучнямі арфаграфічных правіл. З другога боку, у пазнейшай працы А. Лёсіка паведамлялася, што «памылкі арфаграфічнага характару ў работах вучняў 7-годак выпуску 1928 г. (на адрозненне ад выпуску 1926 г. – *С. З.*) з'яўляюцца выключэннем». Увогуле, А. Лёсік лічыў, што «з боку правапісу літар 7-годкі за два гады маюць значны прагрэс» [660, с. 89, 90; выдзелена аўтарам. – *С. З.*]. Заўважым, што пісьменнасць вучняў палепшылася, нягледзячы на тое, што з 1926 па 1928 г. у правапіс не было ўнесена ніякіх змен.

Сярод галоўных відаў памылак у новым сваім артыкуле А. Лёсік вылучыў наступныя:

– правапіс звонкіх і глухіх зычных (*бліскім, што-небуць, махчымасьць, найхудчэй* і інш.);

– злітнае і асобнае напісанне;

– правапіс *е – я* (*вывялі, трэцега, Алесява, Аляксеявіч, павясялела, жнівянь, ня ў сябе, уселяк, вывясяць, няцярпеньнем* і інш.) [660, с. 89].

Складана адназначна сказаць, у якой меры тыя або іншыя асаблівасці беларускага правапісу ўплывалі на пісьменнасць вучняў. Тым не менш звяртае на сябе ўвагу тое, што абсалютна ўсе аўтары, якія хоць колькі дэталёва пісалі пра канкрэтныя арфаграфічныя пункты, канстатавалі наяўнасць памылак на правапіс ненаціскнога *е*.

Трэба прызнаць, што авалоданне арфаграфічна бездакорным пісьмом у школе 1920-х гг. яшчэ не было важнай задачай. Некаторыя метадысты [659, с. 68; 636, с. 100] паказалі, што ў вучнёўскіх працах таго часу звычайнымі былі памылкі на лагічную і граматычна правільную пабудову словазлучэнняў і сказаў, дакладнае словаўжыванне і інш. Так, А. Лёсік прывёў прыклады наступных ужыванняў: *мне есьць жадання, вучыцца настаўніцай, жадаючы працягнуцца сваю адукацыю, хачу вучыцца на Пэдагагічных курсаў, вялікая роля ляжыць на настаўнікаў; весьці актыўны ўдзел з тым, чаго яшчэ не зразумела для нашых беларусаў* [659, с. 68]. Верагодна, менавіта такія, вельмі грубыя і найбольш заўважныя, памылкі, як і ўвогуле агульная патрэба навучання чытаць і пісаць, найперш займалі ўвагу тагачасных настаўнікаў.

### 3.3.10. ПРАЕКТ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ 1930 г.

У выніку дзейнасці Правапіснай камісіі быў падрыхтаваны праект (апублікаваны, праўдападобна, у першай палове 1930 г.). У параўнанні з газетнай інфармацыяй ад 22 сакавіка 1928 г. у структуры праекта не быў асобна выдзелены раздзел, прысвечаны правапісу складаных слоў, затое былі ўключаны часткі «Паасобныя заўвагі аб слоўных формах» і «Правапіс знакаў прыпынку». У напісанай С. Некрашэвічам прадмове да кнігі былі выкладзены звесткі пра фарміраванне правапісу беларускай мовы ў папярэдні перыяд, а таксама акрэслены прынцыпы працы камісіі, сфармуляваныя ў пачатку яе дзейнасці на спецыяльным пасяджэнні з удзелам прадстаўнікоў НКА, прэзідыума Інбелкульта і членаў класа філалогіі. У сваіх асноўных рысах гэтыя прынцыпы выглядалі наступным чынам:

«1. Рэфармаванне правапісу і азбукі размежаваць. У першую чаргу прыступіць да рэформы правапісу, абыходзячыся тым альфабэтам, які існуе цяпер.

2. Пастановы і працы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі лічыць не абавязковым, але аўтарытэтным матэрыялам.

3. Прымаючы пад увагу дастатковую навуковую вартасць правапісу Б. Тарашкевіча і дзесяцігадовую практыку ўжывання гэтага правапісу, зрабіць

толькі: а) некаторыя папраўкі ў гэтым правапісе ў бок яго спрашчэння, менавіта ў тых месцах, дзе практыка паказала іх цяжкасць або няяснасць, і б) дапаўненні – там, дзе яны нераспрацаваны ў Б. Тарашкевіча» [551, с. 5–6].

За аснову ў сваёй дзейнасці камісія ўзяла наяўную арфаграфію, названую як «правапіс Б. Тарашкевіча», аднак, сцвярджалася, жыццё паказала, што патрабуюцца дапаўненні, у сувязі з чым камісія нанова распрацавала правапіс замежных слоў і ўласных назваў [551, с. 31–39]. Практыка «правапісу Б. Тарашкевіча і папярэдняга пісьма» стымулявала таксама захаванне ў некаторых выпадках традыцыйных напісанняў [551, с. 6].

Пэўная частка правіл у праекце была падрыхтавана ў адпаведнасці з фармулёўкамі «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча. Паводле прадмовы да праекта, да ліку такіх належалі наступныя:

– правіла 1-е (правапіс галосных *о – э, ё*);

– правіла 5-е (правапіс звонкіх зычных перад глухімі і ў канцы слова, правапіс глухіх перад звонкімі);

– правілы 8–24 («з унясеннем некаторых дадаткаў» – правапіс спалучэнняў зычных; правапіс дзеяслоўных і прыслоўных прыставак; правапіс прыназоўніка *у* перад словамі, якія пачынаюцца з ненаціскнога галоснага *а*; правапіс *не* і складаных злучнікаў);

– правіла 25-е (ненаціскное *е* ў марфалагічных формах);

– правіла 26-е (з уключэннем невялікай заўвагі – канчаткі назоўнікаў месн. скл. адз. л.);

– правілы 27-е і 28-е (канчаткі назоўнікаў наз. скл. мн. л.; канчаткі назоўнікаў родн. скл. мужч. р. адз. л.);

– правіла 29-е (з невялікім удакладненнем – канчаткі назоўнікаў родн. скл. мн. л.).

Некаторыя фармулёўкі, аднак, паводле сведчання камісіі, былі ёю значна перапрацаваны (правілы 3, 4, 6, 7, 35, 36). Аналіз паказвае, што ў працэсе гэтай пераробкі камісія выкарыстала некаторыя фармулёўкі «Праекта рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу» Я. Лёсіка. Параўн., напрыклад, некаторыя правілы ў праекце 1929 г. Я Лёсіка і ў праекце 1930 г.

У праекце было пастаноўлена (правіла 39-е) у словах замежнага паходжання пісаць *о (ё)* толькі пад націскам; ненаціскное *о (ё)* пісаць праз *а (я)* [551, с. 31]. У якасці кампрамісу праект, аднак, прадпісваў пісаць *о, ё* на канцы запазычаных слоў (*брутто, какао, радыё, трыё*, правіла 40-е) і дапускаў напісанне ненаціскнога *о* ў пачатку і сярэдзіне слоў «у спецыяльнай навуковай літаратуры ў чужаземных малапашыраных словах» (заўвага да правіла 40-га).

Асобныя правілы праекта 1930 г. (напрыклад, правіла 2-е – правапіс ненаціскнога *е*) былі ўкладзены ў адпаведнасці з пастановай Акадэмічнай канферэнцыі[67].

[67] Пастанова Акадэмічнай канферэнцыі, аднак, не была ўлічана ў другім выданні віленскага падручніка 1930 г. Р. Астроўскага, дзе, як і раней, магчымасць напісання *я* ў другім складзе перад націскам ставілася ў залежнасць ад характару першага пераднаціскнога галоснага [532, с. 25].

| «Праект рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу» (1929) Я. Лёсіка | «Беларускі правапіс». Праект (1930) |
|---|---|
| Правіла 3-е. Напісанне ненаціскных галосных *о – э – е – ё* ў складаных словах падлягае агульным правілам напісання гэтых галосных у простых словах, але ў наватворах, у якіх выразна выступаюць складаныя часткі, дапушчаецца напісанне ненаціскных *о* – э, калі асноўны націск прыходзіцца на другую частку складанага слова... (с. 26) | Правіла 3-е. Складаныя словы падпарадкуюцца агульным правілам аб аканні (правілы 1 і 2), але ў наватворах, у якіх адчуваюцца абедзве складовыя часткі, пры асноўным націску на другой частцы слова дапушчаецца напісанне ненаціскнога *о, э*... (с. 13) |
| Правіла 4-е. Галосныя *у – і*, калі яны стаяць асобна ці на пачатку слова, то бываюць складовымі і нескладовымі, у залежнасці ад рытму, ад тэмпу мовы і ад папярэдняга гуку, але пішуцца заўсёды складовыя *у – і*... (с. 26) | Правіла 4-е. Галосныя *у, і* ў пачатку слоў і асобна (у якасці прыназоўнікаў) як пасля зычнага, гэтак і пасля галоснага папярэдняга слова пішуцца праз *у, і* (складовыя)... (с. 13) |
| Правіла 6-е. Зычныя *з – с* і *дз – ц* (*ц*, што з мяккага *ть*) перад мяккімі зычнымі і перад ётаванымі галоснымі вымаўляюцца мякка, але мяккі знак пішацца толькі перад ётаванымі галоснымі *я, е, ё, ю*... (с. 27) | Правіла 6-е. Перад мяккімі зычнымі і ётаванымі галоснымі *я, е, ю, ё* пасля *з, с, ц* (што з *т*) і *дз ь* не пішацца... (с. 15) |
| Правіла 7-е. Паміж т. зв. падвойнымі зычнымі, калі яны вымаўляюцца як мяккі працяглы гук, мяккі знак таксама не пішацца... (с. 27) | Правіла 6-е. Паміж т. зв. мяккімі падвойнымі зычнымі *ь* таксама не пішацца... (с. 15) |

У дачыненні да ўсталявання правапісу запазычаных слоў і ўласных беларускіх назваў камісія, паводле прадмовы да праекта, імкнулася аддаваць перавагу падыходам, выпрацаваным для беларускай лексікі[68]. Пры падрыхтоўцы раздзела «Правапіс чужаземных слоў» таксама была ўлічана практыка кадыфікацыі гэтага разраду лексікі ў падручніках Я. Лёсіка. Незразумела, на якой аснове некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што ў праекце правапіс замежных слоў «па-ранейшаму заставаўся неўрэгуляваным» [359].

З прадмовы да кнігі можна даведацца і аб тым, што некаторыя правілы выклікалі вялікі роскід меркаванняў і былі прыняты толькі пры нязначнай перавазе пададзеных «за» галасоў. Такім правілам было «кардынальнае

[68] У сучаснай беларускай лінгвістыцы часам лічыцца, што мовазнаўцы 1920-х гг., наадварот, «імкнуліся перадаваць запазычанні бліжэй да мовы-крыніцы» [361, с. 466].

пытанне беларускага правапісу» [551, с. 8] – правапіс ненаціскнога *е*. Высвятляецца, што ўвогуле пры распрацоўцы гэтага правіла пад увагу прымаліся аж шэсць падыходаў: 1) *е* абазначаць толькі пад націскам, а кожнае ненаціскное *е* абазначаць літарай *я*; 2) *е* абазначаць толькі пад націскам, а кожнае ненаціскное *е* абазначаць літарай *ε*; 3) дапусціць этымалагічнае напісанне *е, я*; 4) дапусціць азначэнне дысіміляцыйнага якання (*весна, вела*, але *вясны, вялі*); 5) захаваць правапіс Б. Тарашкевіча; 6) прыняць рэдакцыю гэтага правіла згодна з пастановай Акадэмічнай канферэнцыі. У выніку перамог апошні падыход. Гэтаксама вялікія спрэчкі выклікалі правілы аб напісанні пачатковых *у, і* (насуперак пастанове Акадэмічнай канферэнцыі ў праекце была падтрымана лёсікаўская пазіцыя) і, асабліва, правіла аб непазначэнні асіміляцыйнага змякчэння свісцячых.

У цэлым у праекце 1930 г. былі захаваны асноўныя правілы, сфармуляваныя ў 1918 г. Б. Тарашкевічам; на гэта ўказваюць і некаторыя замежныя аўтары [454, с. 153; 455, с. 183]. Частка правіл зведала рэдакцыйныя змены, асобныя правілы былі зменены істотна, і частка правіл не мела аналагаў у правапісе Б. Тарашкевіча. Верагодна, меў рацыю адзін з пазнейшых крытыкаў гэтага кампраміснага праекта[69], калі сцвярджаў, што «ўся рэформа звялася да надзвычайна абмежаванай колькасці змяненняў. Праект мы можам назваць толькі ўдакладненай зводкай таго, што мелася раней» [547, с. 78].

Актыўнае грамадскае абмеркаванне правапісных праблем у Беларусі ў другой палове 1920-х гг. было звязана не толькі (магчыма, і не столькі) з тым, што тагачаснай арфаграфіі былі ўласцівы пэўныя недахопы, але і (колькі) з некаторымі знешнімі фактарамі:

а) малады ўзрост беларускай літаратурнай мовы, якая не абапіралася на старажытную літаратурна-пісьмовую традыцыю[70];

б) («рэвалюцыйна»-адраджэнчы) этап, перажываны ў гэты час беларускім грамадствам, якому ў цэлым было ўласціва імкненне да зменаў;

г) існаванне ў некаторых слаях рэфарматараў рэштак перажыткаў, звязаных з недастатковым адрозненнем фаналагічнага падыходу да мовы ад графемнага, гіпертрафіраваная ўвага да літар і правапісу як знешніх маніфестацый мовы і віду навуковай рэфлексіі[71].

---

[69] Значэнне дасягнення кампрамісу паміж процілеглымі партыямі ў працэсе арфаграфічнага рэфармавання нярэдка мае больш важнае значэнне за стварэнне нейкай асабліва «навуковай» арфаграфіі. Л. Смірноў, у прыватнасці, падкрэслівае кампрамісны характар правапісу славацкай мовы, засведчаны ў «Кароткай славацкай граматыцы» М. Гатталы 1852 г. [340, с. 245].

[70] Л. Смірноў лічыць натуральным узнікненне ў Славакіі спрэчак аб правапісе славацкай мовы «ад самага пачатку» – з той прычыны, што славацкая мова была маладой і не мела апоры на старажытны літаратурна-пісьмовы стандарт [340, с. 240–241].

[71] Бурныя дыскусіі аб правапісе ў заходніх і паўднёвых славян у першай палове XIX ст. Р. Оці часткова тлумачыў тым, што ў лінгвістыцы той пары арфаграфія яшчэ недастаткова выразна аддзялялася ад фаналогіі [435, с. 324]. У беларускіх спрэчках 1920-х гг. звяртае на сябе ўвагу шчырае перакананне Я. Лёсіка ў тым, што правапіснае рэгуляванне ёсць пэўны від навуковай дзейнасці.

# 3.4. ВЫПРАЦОЎКА КАНЦЭПЦЫІ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

## 3.4.1. СУАДНОСІНЫ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ З НАРОДНАЙ: НАВУКОВАЯ РЭФЛЕКСІЯ

У 1920-я гг. у грамадстве была выразна пастаўлена праблема агульнай канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы, асэнсаванню дадзеных пытанняў у гэты час спрыялі інтэнсіўнае пранікненне беларускай мовы ў сферы, у якіх яна раней не ўжывалася або ўжывалася абмежавана (навука, справаводства) і абумоўленае знешнімі імпульсамі яе ўнутранае развіццё. У залежнасці ад таго, якой уяўлялася кадыфікатарам і іншым дзеячам 1920-х гг. літаратурная мова, і ад таго, як яны бачылі яе далейшае развіццё, тыя або іншыя моўныя сродкі маглі атрымліваць тую або іншую ацэначную кваліфікацыю. У гэты ж час у друку абмяркоўваліся шматлікія выпадкі словаўжывання, зараджалася навукова-практычная дысцыпліна «культура мовы» і г. д. (гл. 6.1). Важнымі праблемамі гэтага пераходнага часу («пераходнага» ў тым сэнсе, што адбываўся пераход беларускай мовы ад мовы прыгожага пісьменства да поліфункцыянальнай мовы), якія актыўна дыскутаваліся, былі наступныя:

1. У апоры на якія сродкі трэба разбудоўваць беларускую літаратурную мову (і, больш вузка, яе навуковую тэрміналогію)?
2. У якіх адносінах беларуская літаратурная мова знаходзіцца з народнай беларускай мовай?
3. У якіх адносінах беларуская літаратурная мова знаходзіцца з рускай і польскай мовамі?
4. Што такое «ўзорная», «правільная» беларуская мова?

Кожнае з гэтых пытанняў у розных карыстальнікаў беларускай мовы (і паза гэтым колам) магло атрымліваць неаднолькавыя адказы.

Тое, як многія з гэтых пытанняў асэнсоўваліся ў друку 1920-х і наступных гадоў, ужо ў значнай ступені асветлена ў існуючай літаратуры [175; 20; 389; 392; 183; 185; 188; 32; 33; 198].

Прынцыповым пытаннем развіцця тагачаснай літаратурнай мовы было пытанне яе адносін да народнай мовы; пытанне «народнасці» беларускай літаратурнай мовы закранала або мела самае непасрэднае дачыненне пры асэнсаванні трох з чатырох вылучаных вышэй важных пытанняў развіцця беларускай літаратурнай мовы. Так, у пытанні аб асноўных сродках беларускай літаратурнай мовы, несумненна, прынцыповым было пытанне аб ступені апоры літаратурнай мовы на народныя рэсурсы. Таксама пытанне аб «узорнай», «правільнай» беларускай мове галоўным пунктам суаднясення мела перадусім народную мову.

Важным было і больш агульнае пытанне таго, ці можа беларуская мова выконваць разнастайныя грамадскія функцыі? Як вядома, некаторыя кіраўнікі і частка інтэлігенцыі не хацелі прызнаваць беларускую мову ў якасці дзяржаўнай, лічылі яе беднай, грубай, штучна створанай з польскіх і рускіх элементаў, няздольнай выконваць шырокія грамадскія функцыі [20, с. 26–28; 515, с. 305]. Нігілістычныя адносіны да беларускай мовы можна праілюстраваць на прыкладзе водгукаў 1922 г. на першае выданне граматыкі Я. Лёсіка і часопісаў «Вольны сцяг», «Адраджэнне», «Маладая Беларусь» [720; 771] (гл. 1.2.2), публікацыі ў газеце «Савецкая Беларусь» у 1926 г. артыкула з прапановай адмяніць «гвалтоўнае» ўвядзенне беларускай мовы ў школы і ўстановы [20, с. 27]. Цалкам «прыдуманай» лічылі беларускую мову прадстаўнікі расійскай эміграцыі [30].

Насуперак таму, што ў канцы 1910-х гг. у некаторых публікацыях трапна акрэслівалася слабасць тагачаснай беларускай літаратурнай мовы [631], яе падзел у залежнасці ад усходніх *vs* «заходніх» уплываў [686], са зменай знешніх умоў бытавання беларускай мовы, у сувязі з яе бурным функцыянальным развіццём у 1920-я гг. падобныя пытанні ў канцэптуальным плане ўжо не ставіліся; на першы план выйшла пытанне ступені апоры беларускай літаратурнай мовы на народную мову.

Неабходнасць выразнай апоры ў працэсе фарміравання літаратурнай мовы на народныя моўныя сродкі была выказана ўжо ў адной з першых канцэптуальных публікацый аб развіцці беларускай літаратурнай мовы, артыкуле «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» Я. Лёсіка. У ім аўтар спасылаўся на зварот да дыялектных крыніц у працэсе «асвяжэння» літаратурнай мовы ў выпадку нават такой «багата развітай» літаратурнай мовы, як нямецкая, і абмяркоўваў пытанне спосабаў збліжэння беларускай літаратурнай мовы з мовай народнай [682, с. 115]. Хоць у артыкуле фіксуюцца «рэмінісцэнцыі» з працы ўкраінскай даследчыцы А. Курылы [334, с. 172], не прыходзіцца сумнявацца, што неабходнасць ствараць літаратурную мову ў цеснай апоры на народную было цвёрдым перакананнем самога Я. Лёсіка. У 1917 г. ён выказваў сваё разуменне літаратурнай мовы ўвогуле і месца ў ёй народных рэсурсаў: «Літаратурная мова – гэта мёд, што збіраецца пчоламі з розных кветак і раслін. Чым больш сокаў з усялякіх кветак уходзіць у склад мёду, тым ён прыемнейшы, салодшы, смачнейшы і пахучы. Літаратурная мова павінна, цвёрда трымаючыся агульнага нацыянальнага грунту, лучыць да сябе ўсе тыпічныя характэрныя словы, прыслоўі, выразы і іншыя асаблівасці тых мясцовасцяў, гаворак таго народа, моваю каторага яна ёсць <...> Мова, як чалавек, павінна шанавацца, паважацца і прыбірацца з кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя ўбранні. Кожнае адметнае слова, кожны асобісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны з пашанай страчаць і з вялікай любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашай літаратурнай мовы, а не хавацца за паветалізм і не казаць неабачна, што

*ў нас гэтак не кажуць*. Калі, скажам для прыкладу, у адным месцы кажуць *яха*, а ў другім *рэха*, калі адзін кажа *маланка*, а другі *бліскавіца*, *марыць* і *летуцець* – дык і хвала яму, абы яно было наша роднае, беларускае. Наша мова так багата, пекна і гучна, што часам, дапраўды, не ведаеш, якое слова, які выраз лепей ужыць, – ажно вочы разбягаюцца <...> Мова, так узгадаваная, усімі гаворкамі выпешчаная, робіцца здатнай, сардэчнай, усім любай і лёгка зразумелай кожнаму, хто хоць крошку падвучыцца». Меркаванні, што ў беларускай мове не хапае слоў, што выдумляюцца новыя, штучныя словы, Я. Лёсік лічыў у гэты час «выгадкамі» [681, с. 192–193]. Пазней пры разглядзе розных моўных з’яў падчас укладання сваіх падручнікаў Я. Лёсік надзвычай шырока выкарыстоўваў у якасці ілюстрацыйнага матэрыялу народную творчасць. Паводле нашых назіранняў не менш як кожная дзясятая ілюстрацыя ва ўкладзеных Я. Лёсікам моўных падручніках была прыказкай або прымаўкай. Аналізуючы граматычныя асаблівасці, Я. Лёсік шырока спасылаўся на мову фальклору ў якасці ўзору літаратурнай мовы. Для засваення самай пажаданай версіі літаратурнай мовы, якая была б найбліжэйшай да народнай мовы, Я. Лёсік раіў пры магчымасці «вучыцца ў самога народа», а пры адсутнасці такой магчымасці – «уважна чытаць народную вусную творчасць у форме песень, казак, загадак, прыказак, дзе мова шліфавалася соткі год, а чытаючы, старанна адзначаць усё асаблівае, цікавае, беларускае» [682, с. 115–116]. У тэрміналагічнай сферы Я. Лёсік быў прыхільнікам т. зв. этнаграфічнага падыходу яе фарміравання, згодна з якім безумоўны прыярытэт павінен быў аддавацца моўным сродкам, пацверджаным у народнай мове; затое наватворы, якія мелі «штучнае», ненароднае паходжанне, лічыліся непажаданымі.

Цесная сувязь літаратурнай мовы з народнай была сцверджана і ў іншай важнай публікацыі сярэдзіны 1920-х гг. – артыкуле С. Некрашэвіча «Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы», прачытаным спачатку ў ліпені 1925 г. у форме даклада на сходзе мовазнаўчай секцыі Інбелкульта [581, с. 50–79]. Даклад і пазнейшы артыкул былі падрыхтаваны С. Некрашэвічам у рамках дзейнасці дзеля стварэння слоўніка акадэмічнага тыпу «жывой беларускай мовы». Для стварэння такога слоўніка С. Некрашэвіч лічыў патрэбным улічыць тры асноўныя крыніцы – народную мову, літаратурную мову, тэхнічную мову (тэрміналогію). Тыя акалічнасці, што тагачасная літаратурная мова нязначна адрознівалася ад народнай і што літаратурная мова і тэрміналогія былі яшчэ «не апрацаваны», змушалі аўтара думаць, што названыя крыніцы можна паспяхова аб’яднаць у рамках падрыхтоўкі аднаго слоўніка. Увогуле, значэнне народнай мовы, на думку аўтара, абавязкова трэба было мець на ўвазе, «асабліва цяпер, калі яшчэ не закончыўся працэс фармавання нашай літаратурнай мовы і не выліўся ў нешта канчатковае, сталае, абавязковае» [581, 59–60, 62]. Выступаючы ў лістападзе 1926 г. на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі з аглядам прац па вывучэнні беларускай мовы за апошнія гады, С. Некрашэвіч сцвердзіў, што асноўным патрабаваннем, якое ставілася ў

той час у Інбелкульце пры апрацоўцы беларускай літаратурнай мовы, быў крытэрый яе блізкасці да народнай мовы: «Нашым ідэалам з’яўляецца адзінства літаратурнай і народнай мовы, і мы спадзяемся, што гэтага адзінства дасягнем» [731, с. 50].

### 3.4.2. ФАРМІРАВАННЕ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Паколькі фарміраванне мовы мастацкай літаратуры і публіцыстычнага стылю мелі ў гісторыі развіцця беларускай літаратурнай мовы даволі працяглую традыцыю і проціпастаўленне ў працэсе распрацоўкі гэтых стыляў дыялектнага слова літаратурнаму было выражана слаба [20, с. 41], галоўным полем сутыкнення розных падыходаў пры фарміраванні літаратурнай мовы стаў новы для яе навуковы стыль. Некаторыя беларускія мовазнаўцы 1920-х гг. выразна ўсведамлялі сабе тагачасны стан беларускай літаратурнай мовы ў гэтай галіне ў параўнанні з расійскай сітуацыяй. Напрыклад, М. Байкоў сцвярджаў, што ў Расіі ў XVIII ст. стваралі тэрміналогію «на манер нашых цяперашніх інбелкультаўцаў», сітуацыю ў сферы «навукова-літаратурнай мовы» ён ацэньваў як аналагічную або, прынамсі, падобную да расійскай сітуацыі XVIII ст [540, с. 204].

Пытанне выпрацоўкі беларускай навуковай тэрміналогіі ў 1920-я гг. неаднойчы звяртала на сябе ўвагу даследчыкаў. У існуючых працах [175; 509; 100; 20; 13; 126, 411; 412; 392; 177, с. 108–115, 117–124, 136–144] акрэслены прынцыпы і шляхі распрацоўкі тагачаснай тэрміналогіі, паказаны асноўныя дасягненні беларускіх тэрмінатворцаў 1920-х гг. і ахарактарызаваны праблемы, з якімі яны сутыкаліся. Разам з тым большасць прысвечаных гэтай тэме даследаванняў грунтуецца на друкаваных крыніцах, у іх рэдка прыцягваюцца архіўныя даныя. Недастаткова асэнсавана роля некаторых асоб у выпрацоўцы тэрміналогіі 1920-х гг. Нарэшце, існуе патрэба паставіць тэрміналагічную практыку 1920-х гг. у больш шырокі кантэкст стварэння будучай Акадэміі навук і пабудовы беларускай савецкай дзяржавы, суаднесці прэскрыптыўныя захады, засведчаныя ў слоўніках, з узусам, адлюстраваным у спецыяльнай навуковай і папулярнай літаратуры.

Разгортванне тэрміналагічнай работы ў пачатку 1920-х гг. было непасрэдна выклікана карэннымі зрухамі ў сацыяльным ладзе і сістэме адукацыі, у прыватнасці, што стварыла попыт на тэрміналогію на беларускай мове. Як сцвярджаў у канцы 1922 г. З. Бядуля, беларускамоўная тэрміналогія была запатрабавана «вялікім узростам беларускай культуры за апошнія два гады» [568]. Тэрміналагічны ўздым 1921–1922 гг., падчас якога былі апублікаваны першы (матэматычны) слоўнік з серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» і восем тэрміналагічных падборак (па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, трыганаметрыі), быў забяспечаны праз стварэнне ў лютым 1921 г. у складзе НКА Навукова-тэрміналагічнай камісіі. Камісія (складалася з гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай секцый, на чале

знаходзіўся С. Некрашэвіч) першапачаткова аб'яднала 14 чалавек, сярод якіх былі як гуманітарыі (старшыня гуманітарнай секцыі Я. Купала, сакратар гуманітарнай секцыі Я. Лёсік, лінгвіст М. Байкоў, літаратуразнавец У. Чаржынскі), так і прадстаўнікі прыродазнаўчых і дакладных навук: старшыня прыродазнаўчай секцыі фізік Л. Дашкевіч, географ М. Азбукін, матэматыкі К. Гадыцкі-Цвірка (старшыня матэматычнай секцыі), Л. Більдзюкевіч і А. Круталевіч, «інжынер-мілёратар» Ф. Бурак, батанік В. Міхальскі, хімік Ч. Родзевіч, «прыроднік» Я. Каранеўскі [НАРБ. Ф. 42. Воп. 3. Спр. 6. Л. 19][72]. Сярод членаў камісіі на момант яе стварэння найбольш падрыхтаванымі да ўкладання тэрміналогіі былі, відаць, Л. Більдзюкевіч і А. Круталевіч. Першы яшчэ ў 1920 г. апублікаваў падрыхтаваную ў рамках дзейнасці матэматычнай камісіі Мінскага беларускага педагагічнага інстытута «Праграму сістэматычнага курса арыфметыкі і тэрміналогію», а ў пачатку 1921 г. надрукаваў спецыяльны артыкул пра стварэнне матэматычнай тэрміналогіі [553; 554]. Не пазней чым да 11 сакавіка 1921 г. Беларускі аддзел НКА забраў з Паліграфічнага аддзела падрыхтаваны Л. Більдзюкевічам праект матэматычнай тэрміналогіі «дзеля надрукавання якімсь другім парадкам, так як надрукаваць яго ў Менску Беларускі аддзел страціў усялякую надзею» [НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 65. Л. 15, 19–20]. А. Круталевіч ужо да 20 красавіка 1921 г. падаў на разгляд навукова-літаратурнай калегіі рукапіс падручніка «Элементарная алгебра», а падрыхтаваныя ім руска-польска-ўкраінска-беларускія слоўнікі па алгебры і вышэйшым аналізе лічыліся «блізка што закончанымі» не пазней чым 6 мая 1921 г. [НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 519. Л. 15–18; НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 91. Л. 79].

Большасць членаў Навукова-тэрміналагічнай камісіі да ўваходу ў яе склад мелі вопыт грамадска-палітычнай дзейнасці ў рамках нацыянальна-вызваленчага руху. Так, Я. Лёсік быў адным з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады, уваходзіў у Беларускі нацыянальны камітэт, а ў 1918 г. быў адным з ініцыятараў абвяшчэння БНР. С. Некрашэвіч у 1918 г. прадстаўляў урад БНР на поўдні Украіны. Ч. Родзевіч быў адным з заснавальнікаў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам Першай сусветнай вайны, а падчас польскай акупацыі 1919–1920 гг. быў членам Мінскай беларускай школьнай рады, загадваў аддзелам асветы Мінскага магістрата. К. Гадыцкі-Цвірка ў снежні 1917 г. удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе, у чэрвені 1918 г. быў членам камісіі БНР па арганізацыі ўніверсітэта, уваходзіў у Беларускі настаўніцкі саюз. У. Чаржынскі ў 1920 г. быў членам партыі эсэраў і ўваходзіў у Беларускую вайсковую камісію. М. Азбукін быў членам Беларускага культурна-асветніцкага

[72] Захаваліся сем спісаў членаў Навукова-тэрміналагічнай камісіі, датаваныя 15 сакавіка, 28 ліпеня, 26 жніўня, вераснем, 1 кастрычніка, 3 кастрычніка і 13 кастрычніка 1921 г. У першы склад камісіі ўваходзілі таксама Р. Раксімовіч і П. Абрамовіч, якія, аднак, з 28 ліпеня 1921 г. як члены камісіі ўжо не значыліся. Я. Каранеўскі спачатку ўваходзіў у камісію і нават фігураваў як намеснік старшыні; аднак са жніўня 1921 г. ён ужо членам камісіі не быў. 1 чэрвеня 1921 г. членамі камісіі сталі К. Міцкевіч (Я. Колас) і Я. Дыла, у жніўні – Я. Сушынскі і М. Піятуховіч, у верасні 1921 г. – С. Плаўнік (З. Бядуля). Паводле В. Шчэрбіна [411, с. 116–117], членам камісіі, прынамсі, з верасня 1921 г. быў таксама М. Гуткоўскі, аднак яго прозвішча не фігуруе ў ніводным з вядомых спісаў.

таварыства ў Бабруйску. Я. Каранеўскі ў 1916–1918 гг. удзельнічаў у рабоце арганізацыі беларусаў-бежанцаў у Яраслаўлі, у 1920 г. быў намеснікам старшыні Беларускай камуністычнай арганізацыі. Некаторыя члены камісіі (Л. Більдзюкевіч, Ч. Родзевіч, М. Азбукін, К. Гадыцкі-Цвірка, Я. Каранеўскі, Я. Лёсік) мелі вопыт выкладання спецыяльных дысцыплін, а асобныя члены камісіі (К. Гадыцкі-Цвірка і Я. Каранеўскі), акрамя таго, уваходзілі ў Мінскае навуковае педагагічнае таварыства. У цэлым камісію можна ахарактарызаваць як групу аднадумцаў: падабраныя (верагодна, найперш С. Некрашэвічам) паводле крытэрыю прыналежнасці да пэўнага кола грамадска ангажаваных людзей, добрага валодання беларускай мовай і пэўнай спецыяльнасцю, пакліканыя стварыць беларускую навуковую тэрміналогію ў вельмі важны момант беларускай гісторыі, члены камісіі былі гатовы да хуткай выпрацоўкі спецыяльнай лексікі.

Да 1921 г. ужо існавалі спробы арганізавана стварыць беларускую тэрміналогію. Так, у 1919 г. Беларуская вайсковая камісія надрукавала «Вайсковую стылістыку» Зніча. Утвораная Беларускай школьнай радай тэрміналагічная камісія мінскіх настаўнікаў апублікавала «Праграмы беларускай ніжэйшае школы» на 1919/20 г. У 1920 г. спецыяльная камісія па выпрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі дзейнічала ў Мінскім беларускім педагагічным інстытуце. У Вільні (асабліва з 1916 г.) і ў Мінску (з 1918 г.) выдаваліся школьныя падручнікі і прызначаныя для выкарыстання ў навучанні брашуры і кнігі з пэўнай колькасцю ў іх навуковых тэрмінаў.

Адпаведна, члены створанай у лютым 1921 г. Навукова-тэрміналагічнай камісіі ў сваёй дзейнасці маглі абаперціся на некаторыя тэрміналагічныя здабыткі сваіх папярэднікаў. Тая акалічнасць, што к моманту стварэння камісіі ўжо існавала нейкая беларускай тэрміналогія, добра ўсведамлялася ініцыятарамі гэтай справы; у апублікаванай інфармацыйнай нататцы пра стварэнне камісіі паведамлялася, што яе мэтай з'яўляецца «як складанне новай тэрміналогіі, так і перагляд існуючай» [552]. Паколькі да 1921 г. ужо існавала навучальная літаратура па матэматыцы, граматыцы, геаграфіі, літаратуры (параўн.: Jur.; Смол. 19; Юр. 19; Юр. 20; Гар., Цыг.), то падрыхтаваныя камісіяй падборкі ў гэтых галінах, а таксама першыя выпускі серыі БНТ «натуральным шляхам» перанялі многія тэрміны з гэтых выданняў[73]. Так, верагодна, менавіта дзякуючы ранейшай практыцы ў падборках Навукова-тэрміналагічнай камісіі і першых слоўніках серыі БНТ былі прадстаўлены такія тэрміны, як *дзельнік, дзель, змяншаны, лічбіна, лічнік, назоўнік, множнік, множыва, мяшаны лік, прастакутны, развязванне задач, розніца, чатырохкутнік* (матэматыка), *дзейнік, дзеяслоўнае прыслоўе, займя, канчатак, прыдатак, прыймя, ступені прыраўнавання, сказнік, сычачы гук, умоўны лад* (граматыка), *вададзел, выдма, затока, зямная (земная) куля, краявід, крэйдавы перыяд, ліставы лес, расліна,*

[73] У якасці найбольш удала падрыхтаваных падборак з ліку апублікаваных камісіяй у 1921–1922 гг. А. Смоліч [739, с. 85] вылучыў акурат тыя (граматычную і арыфметычную), якія маглі абаперціся на папярэднюю практыку.

*раслiннасць, сухмень* (геаграфія) і інш.[74] Факт існавання навучальных выданняў, несумненна, аказваў стабілізуючае ўздзеянне на тэрміналогію. Напрыклад, нягледзячы на ўжыванне Я. Лёсікам у артыкуле «Наш правапіс» 1918 г. тэрмінаў *гаманок* 'гук', *чыннік* 'дзеяслоў', *заміжіменнік* 'займеннік', *мносцвяная лічба* 'множны лік', *частковы падзеж* 'родны склон', у падрыхтаванай у 1921 г. падборцы граматычнай тэрміналогіі ён ад вышэйназваных тэрмінаў адмовіўся, аддаўшы перавагу пададзеным у граматыцы Б. Тарашкевіча тэрмінам *гук, дзеяслоў, займя, множны лік, родны склон*.

Для спецыфікі фарміравання беларускай тэрміналогіі першай паловы 1920-х гг. быў важным той факт, што ў гэты час прыярытэт у выданні беларускамоўнай навучальнай літаратуры трымалі віленскія, а не мінскія выдавецтвы. Яшчэ ў 1921 г. С. Некрашэвіч наракаў, што ў Вільні выдадзена больш літаратуры, чым у Мінску [623, с. 63]. Некаторыя важныя выданні ў Вільні выходзілі на год-два-тры раней, чым аналагічныя ў Мінску. Напрыклад, першы беларускамоўны падручнік па элементарнай алгебры (А. Кісялёва) у Вільні быў надрукаваны ў 1921 г., у той час як падобны савецкі падручнік (А. Круталевіча) быў апублікаваны ў 1922 г. Падручнік А. Нэканды-Трэпкі па фізіцы ў Вільні ўпершыню быў надрукаваны ў 1922 г., тады як савецкі беларускамоўны падручнік па фізіцы Н. Кашына быў апублікаваны ў 1924 г. Да сярэдзіны 1920-х гг. у школах савецкай Беларусі, якія да той пары былі пераважна рускамоўнымі, шырока выкарыстоўваліся рускамоўныя падручнікі. Калі, напрыклад, у чацвёртым нумары часопіса «Асвета» за 1925 г. быў апублікаваны агляд метадычнай і навучальнай літаратуры па фізіцы, то ў ім аглядаліся дзевяць рускамоўных выданняў і ніводнага беларускамоўнага [522]. Нават у такой сферы, як навучанне пісьму, у першай палове 1920-х гг. у якасці метадычных дапаможнікаў шырока выкарыстоўвалася рускамоўная літаратура [732].

У Вільні раней, чым у Мінску, выйшлі беларускамоўныя падручнікі па граматыцы, геаграфіі, батаніцы, фізіялогіі і анатоміі, касмаграфіі (астраноміі) і інш. Складанасці выдання ў Мінску ў першай палове 1920-х гг. беларускамоўнай навучальнай літаратуры тлумачыліся навізной гэтай справы і адсутнасцю належнай паліграфічнай базы. Як сцвярджае А. Глагоўская, выдавецкія магчымасці ў Мінску былі асабліва абмежаваныя менавіта ў галіне выдання падручнікаў на беларускай мове для школ [460, с. 155]. Тое, што навучальная літаратура ў першай палове 1920-х гг. выходзіла найперш у Вільні і толькі пазней у Мінску, абумоўлівала пэўны ўплыў створаных у Вільні тэрмінаў на тэрміналогію савецкай Беларусі. Паводле сведчання аднаго з сучаснікаў, у Мінску спачатку былі ва ўжытку дапаможнікі, надрукаваныя ў Вільні; гэта, несумненна, таксама спрыяла засваенню ў савецкай Беларусі тэрміналогіі, створанай у Заходняй Беларусі. Аднак, на думку гэтага ж аўтара, многія заходнебеларускія тэрміны былі няўдалымі, да іх даводзілася «навыкаць <...> не маючы можнасці іх паправіць» [603].

[74] Традыцыйна пачаткі стварэння беларускай тэрміналогіі вельмі моцна звязваюць з дзейнасцю камісіі, адпаведна пра папярэднюю гісторыю часам або не ведаюць, або забываюць. Так, можа лічыцца [210, с. 177], што тэрміны *назоўнік* і *лічнік* былі прапанаваны толькі ў 1921 г.

Паказальна, аднак, што ў шэрагу выпадкаў укладальнікі ўсходнебеларускіх тэрміналогій не падтрымалі ўзуальных інтэрнацыянальных тэрмінаў, якія былі ва ўжытку ў Заходняй Беларусі, і замест іх прапанавалі наватворы, паланізмы або вандроўныя запазычанні-калькі. (Аб вандроўных запазычаннях-кальках у беларускай мове гл. 4.3.1). Так, напрыклад, нягледзячы на тое што ў першым і другім віленскіх выданнях «Геаграфіі Беларусі» А. Смоліча 1919 і 1922 гг. былі ва ўжытку інтэрнацыянальныя тэрміны *гарызонт, полюс, экватар*, укладальнік БНТ-3 М. Азбукін уключыў у яго тэрміны *кругавід* (поруч з *пазем*), *канцавоссе* (поруч з *полюс*), *роўнік*. Тэрмін *пазем* М. Азбукін прапанаваў ужываць услед за аўтарам падборкі арыфметычнай тэрміналогіі 1922 г., дзе для рус. *горизонтальный* беларускім эквівалентам быў прапанаваны тэрмін *паземны* (ТАр.). Тэрмін *канцавоссе* таксама быў выкарыстаны ўслед за ўкладальнікам падборкі тэрміналогіі аналітычнай геаметрыі (ТАГ, дзе ён быў пададзены ў форме *канцавось*) і аўтарамі БНТ-1, дзе для рускага тэрміна *полюс* былі прапанаваны два беларускія эквіваленты – *канцавоссе, полюс*. У 1924–1925 гг. тэрміны *кругавід, канцавоссе, роўнік* выкарыстоўваліся ў «Геаграфіі Еўропы» М. Азбукіна і другім выданні «Пачатковай геаграфіі» М. Грамыкі 1925 г.[75] У 1926–1927 гг. тэрміны *кругавід* і *пазем* былі прыведзены ў якасці эквівалентаў рус. *горизонт* у БРС-26 (са спасылкамі на БНТ-3) і ў ПБВС, такі ж падыход быў пацверджаны пазней і ў РБС-28. Цікава, што А. Смоліч, які ў 1922 г. пераехаў у савецкую Беларусь, пазней прыняў (змушаны быў прыняць?) новыя для яго тэрміны *кругавід, канцавоссе, роўнік*: яны былі засведчаны ў напісаных ім частках сумеснай з М. Азбукіным кнігі 1925 г. (СмАГ)[76]. У сярэдзіне 1920-х гг. тэрмін *канцавоссе* ўжываўся таксама ў фізічнай (напрыклад: Каш.) і геаметрычнай (напрыклад: Перэл.) літаратуры.

Фіксацыя пэўных тэрмінаў у слоўніках спрыяла іх выкарыстанню ў навучальнай літаратуры, якое было тым больш лёгкім у тых выпадках, калі тэрмінолагі і аўтары (або рэдактары ці перакладчыкі) былі аднымі і тымі ж асобамі. Так, відавочна, паспяховаму прышчапленню многіх геаграфічных тэрмінаў спрыяла тая акалічнасць, што аўтарам некаторых геаграфічных падручнікаў быў укладальнік геаграфічнай тэрміналогіі М. Азбукін. Шмат папрацаваў на ніве падрыхтоўкі навучальных дапаможнікаў і А. Круталевіч. Ён не толькі апублікаваў некалькі ўласных падручнікаў (у 1922, 1924, 1927,

[75] На жаль, мы не можам сказаць, якія тэрміны для паняццяў ‘полюс’, ‘гарызонт’, ‘экватар’ выкарыстоўваліся ў недаступным для нас першым выданні «Пачатковай геаграфіі» М. Грамыкі 1923 г. Зрэшты, вядома, што ў 1925 г. М. Грамыка ўвёў некаторыя змены, кіруючыся тым, што геаграфічныя тэрміны «за гэты час (за два гады паміж першым і другім выданнем. – *С. З.*) набылі большае сталасці» (Грам., с. 3).

[76] На жаль, невядома, ці пытанне аб выкарыстанні тэрмінаў *кругавід*, *гарызонт* і інш. абмяркоўвалася пры падрыхтоўцы да выдання гэтай кнігі, ці проста нехта з рэдактараў уніфікаваў тэрміны ў розных частках кнігі згодна з дадзенымі БНТ-3. Гэта пытанне істотнае таму, што рэцэнзуючы ў канцы 1922 г. апублікаваныя тэрміналагічныя падборкі, А. Смоліч разам з тым выказваў сумненне ў мэтазгоднасці занадта часта замяняць інтэрнацыянальныя тэрміны наватворамі [739, с. 86].

1928, 1930, 1931, 1933 гг.; некаторыя ў суаўтарстве), але і выступіў у якасці перакладчыка падручнікаў (Каш.; Мік.; Астр. 25; Астр. 27; Фукс), а таксама браў удзел у рэдагаванні выдадзенага ў 1931 г. двухтомнага «Курса геадэзіі». Вялікая роля А. Круталевіча (у сітуацыі на снежань 1922 г. ён з'яўляўся сакратаром прыродазнаўчага аддзела Інбелкульта) у падрыхтоўцы БНТ-1, яго актыўнасць у напісанні розных падручнікаў, далучанасць да перакладу або рэдагавання іншых важных навучальных кніг прымушаюць бачыць у А. Круталевічу асобу, чые густы былі вельмі ўплывовымі падчас падрыхтоўкі тэрміналагічных слоўнікаў у першай палове 1920-х гг.

Ужыванне шматлікіх тэрмінаў у навучальнай літаратуры спрыяла іх сацыялізацыі, тым не менш іх пашырэнне было неаднолькавым. У той час як складаныя лексемы *канцавоссе* і *кругавід* (першая насуперак крытыцы на яе адрас)[77] даволі актыўна ўжываліся ў рознага тыпу літаратуры, тэрміны *роўнік* і, асабліва, *пазем* не вельмі добра прышчапляліся ў беларускай мове[78]. Параўн.: *на двух **канцавоссях** літаратурнага жыцця* (Узв. 1927. Арт.); *процілеглыя **канцавоссі*** (Мал. 1928), *«На **канцавоссе** па паветры»* (1928, НКн.), *паўночнае **канцавоссе*** (Пол. 1929), ***канцавоссі** або інакш полюсы* (Дрож.); ***канцавосная** зорка змяніла месца* (Кар. УНД 30), *таемны **кругавід**... прагнымі вачыма глядзелі на **кругавід*** (Кар. УНД 30), *на **кругавідзе** ён убачыў цёмна-сінюю палосу* (Кар. УПП 30), *капітан не адрываў вачэй ад **кругавіду*** (Джуд), *тэмы пашыраць разумовы **кругавід** чытача* (Вальд.), *пушачцы компаса трэба надаць **паземнае** палажэнне* (Мік.), *пласты ляжаць **паземна** (гарызантальна)* (СмАГ), *карэнчыкі ідуць паземна ва ўсе бакі* (Чэм. ПМБ 30). У адным з падручнікаў ужываны ў 1929–1930 гг. тэрмін ***паземна*** (*пласты земных пародаў ляжаць **паземна***) у наступным выданні гэтага ж падручніка 1931 г. быў заменены на ***гарызонтна*** (*пласты земных пародаў ляжаць **гарызонтна***) (гл.: Касм. 29; 31).

Насуперак паслядоўна ўжыванаму А. Смолічам выразу *гушчыня засялення* М. Азбукін у БНТ-3, а таксама ва ўласных працах аддаваў перавагу больш блізкаму да польскай мовы выразу *гушчыня залюднення*. У выніку ў розных частках іх сумеснай кнігі (СмАГ) фіксуюцца неаднолькавыя падыходы да перадачы гэтага тэрміна.

Як відаць з прыведзенага, заходнебеларускія і ўсходнебеларускія тэрмінатворцы часам маглі кіравацца ў сваіх дзеяннях неаднолькавымі матывамі. Больш звязаныя традыцыяй ужывання, засведчанай у выдадзенай у Заходняй Беларусі навучальнай літаратуры, некаторыя заходнебеларускія тэрмінолагі ў параўнанні з усходнебеларускімі аўтарамі, бадай, трохі парадаксальным чынам

[77] Тэрмін *канцавоссе* раскрытыкаваў у 1926 г. у сваім гучным артыкуле «У справе беларускае навуковае тэрміналогіі» А. Лёсік [657], у 1927 г. гэты тэрмін застаўся па-за межамі БНТ-14. У выніку ён не выкарыстоўваўся ў трэцім выданні кнігі А. Астраба «Курс доследнай геаметрыі» на адрозненне ад ранейшых выданняў. Тэрмін *канцавоссе* часам кваліфікуецца як «няўдалы» і асобнымі сучаснымі аўтарамі [100, с. 134]. Некаторыя даследчыкі, наадварот, лічаць, што тэрмін *канцавоссе* – удалы, «які дакладна перадае сутнасць геаграфічнага аб'екта ці з'явы» [327, с. 144].

[78] Аб гісторыі ўжывання ў беларускай мове лексемы *роўнік* гл. 4.3.1.

былі менш схільныя да выкарыстання тэрмінаў-наватвораў (выключэнне, аднак, складаў В. Ластоўскі); іх пурызм быў выразна арыентаваны супраць польскай мовы.

Менш знаёмыя з практыкай ужывання наяўнай (заходне)беларускай тэрміналогіі, усходнебеларускія кадыфікатары на першым этапе стварэння навуковай лексікі, наадварот, часам адчувалі сябе вальней у стварэнні новых слоў; іх пурызм быў скіраваны найперш супраць рускай мовы. Разглядаючы стварэнне беларускай тэрміналогіі ў 1920-я гг., П. Вэкслер (бадай, адзіны аўтар, які спецыяльна браў пад увагу ўсходне- і заходнебеларускую тэрмінатворчую практыку) не бачыць значнай розніцы паміж імі, затое вылучае прыхільнікаў «пераважна этнаграфічнага падыходу», з аднаго боку, і адэптаў «мадыфікаванага этнаграфічнага падыходу», з другога. П. Вэкслер знаходзіць прыхільнікаў абодвух падыходаў як сярод усходнебеларускіх, так і сярод заходнебеларускіх кадыфікатараў [509, с. 242–249, 264–269].

У параўнанні з тэрмінолагамі Заходняй Беларусі ў выпадку з савецкімі тэрмінолагамі больш выпадае гаварыць пра элементы калектыўнага *resp.* «узгодненага» стварэння тэрмінаў. Падрыхтаваныя канкрэтнымі асобамі першыя тэрміналагічныя праекты разглядаліся спачатку на пасяджэннях адпаведных секцый, а пазней зацвярджаліся на агульных сходах камісіі. Як сведчыў С. Некрашэвіч, агульныя сходы мелі «самае важнае значэнне ў дзеяльнасці камісіі <...> Звычайна агульны сход прымаў тэрміналогію аднагалосна. Толькі спрэчныя словы, па якіх нельга было атрымаць поўную згоднасць усіх членаў камісіі, прымаліся ¾ прысутных на сходзе членаў» [708]. Паводле архіўных матэрыялаў, «тэрміны новыя ці мала ўжываныя (правінцыялізмы) заўсёды выклікаюць у камісіі вялікія спрэчкі, дэбатуюцца з усіх бакоў, на што праходзіць многа часу. У сярэднім на кожным агульным сходзе камісіі, ад 3 да 4 гадзін, прымаецца ня больш 30–50 тэрмінаў» [НАРБ. Ф. 42. Воп. 1. Спр. 519. Л. 15–18]. Асобныя праекты, напрыклад юрыдычны, зазнавалі больш шырокае абмеркаванне. Гэты праект спачатку быў абмеркаваны на пасяджэнні Правапісна-тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта, потым на пасяджэнні Тэрміналагічнай камісіі пры праўнай секцыі Інбелкульта, а затым у колькасці 300 экзэмпляраў быў разасланы ў дзяржаўныя ўстановы з мэтай атрымаць аб ім водзывы. Згодна з інфармацыяй аднаго з укладальнікаў праекта М. Гуткоўскага, у выніку стварэнне руска-беларускага юрыдычнага («праўнага») слоўніка заняло пяць гадоў работы [193, с. 83–84]. Вышэйсказанае сведчыць аб вялікай адказнасці кіраўнікоў Навукова-тэрміналагічнай камісіі і стараннай працэдуры зацвярджэння тэрмінаў.

Нягледзячы на разгляданую вышэй спецыфіку стварэння ў першай палове 1920-х гг. беларускіх тэрмінаў, звязаную з падрыхтоўкай тэрміналогіі ў розных цэнтрах, бадай, не выпадае гаварыць аб асобных «заходнебеларускай» і «ўсходнебеларускай» тэрміналогіях. У сваёй сутнасці беларуская навуковая тэрміналогія 1920-х гг. была адзінай. Па-першае, створаная ў Заходняй

Беларусі тэрміналогія без асаблівых складанасцей выкарыстоўвалася і ў савецкай Беларусі. У некаторых выпадках апублікаваныя ў Вільні кнігі нельга лічыць чыста «заходнебеларускімі» выданнямі. Напрыклад, як сведчыў адзін з рэцэнзентаў, выдадзеная ў Вільні ў 1919 г. «Геаграфія Беларусі» А. Смоліча складалася з лекцый, якія аўтар чытаў на настаўніцкіх курсах у Мінску і Вільні [610]. Па-другое, на працягу 1920-х гг. не выяўляюцца якія-небудзь рэгулярныя з'явы, якія былі б прымальнымі толькі для адной (заходнебеларускай або ўсходнебеларускай) разнавіднасці тэрміналогіі, затое з'яўляліся б недапушчальнымі для другой[79].

У шэрагу выпадкаў укладальнікі першых савецкіх тэрміналогій не мелі прэцэдэнтаў, не маглі абаперціся на папярэднюю практыку тэрмінатворчасці і павінны былі прымаць рашэнні адносна тых або іншых тэрмінаў самастойна. Як сведчыў старшыня Навукова-тэрміналагічнай камісіі С. Некрашэвіч, у працэсе яе дзейнасці ў аснову былі пакладзены словы, якія існавалі ў жывой народнай мове [708]. Арыентацыя на народныя сродкі падчас падрыхтоўкі першых тэрміналагічных выпускаў дала ў выніку прыцягненне вялікай колькасці дыялектных слоў. У выпадках, калі рэсурсы народнай мовы не давалі патрэбнага матэрыялу, «перад камісіяй паўставала дылема: ці ўтвараць новыя словы, неалагізмы, ці браць словы (тэрміны) з чужых моваў. Камісія па прыкладу чэхаў трымалася таго погляду, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы неалагізмы, чымся браць чужыя, зусім незразумелыя словы...». Паводле сведчання С. Некрашэвіча, у працэсе стварэння тэрміналогіі больш за ўсё было створана неалагізмаў на аснове народных слоў [708].

Ідэя прэзідыума камісіі звяртацца да запазычанняў толькі ў выпадку крайняй неабходнасці ў пачатку 1920-х гг. падтрымлівалася большасцю яе членаў. Да ліку прыхільнікаў максімальнага выкарыстання рэсурсаў народнай мовы належаў, напрыклад, старшыня гуманітарнай секцыі камісіі Я. Купала. У 1923 г. быў выдадзены падрыхтаваны гэтай секцыяй слоўнік літаратурнай тэрміналогіі, у напісанай Я. Купалам прадмове паведамлялася, што адной з мэт кнігі было «даць беларускі тэрміналагічны матэрыял для літаратурнае практыкі, каб гэтым хоць крыху дапамагчы нашаму пісьменству, асабліва часапіснаму, пазбавіцца ад лішняй, у большай частцы непатрэбнай і незразумелай чужаземшчыны. Разглядаючы чужаземныя тэрміны, камісія старалася па магчымасці даваць, замест іх, толькі – беларускія» (БНТ-2, с. 3).

Яшчэ больш паслядоўным прыхільнікам стварэння тэрміналогіі на народнай аснове з мінімальным прыцягненнем запазычанай лексікі быў сакратар камісіі М. Байкоў, які сваю пазіцыю на гэты конт выказаў у шэрагу публікацый [80, с. 48–49]. Сярод іншага М. Байкоў браў пад увагу «патрэбы масавай асветы», тую акалічнасць, што ў тагачасных школах замежныя і класічныя

[79] У некаторых публікацыях амерыканскай даследчыцы А. Баруты-Садкоўскі [445; 446; 17] робіцца спроба выдзяляць не толькі віленскі і мінскі, але і гродзенскі «моўныя варыянты», аднак такое размежаванне паказана ў дадзеных працах невыразна.

мовы не выкладаліся, і «нават студэнты вышэйшай школы часта не могуць разабрацца ў значэнні лацінскіх і грэцкіх тэрмінаў» [539, с. 158–159; 538, с. 80].

Практыка актыўнага ўключэння ў склад тэрміналогіі народнай лексікі і стварэння тэрмінаў пры дапамозе ўласных марфемных сродкаў, актывізацыі «ўсіх спосабаў утварэння новых слоў на аснове ўласнага матэрыялу» [20, с. 70] у яе процістаянні шырокаму запазычанню ўяўлялася тэрмінатворцам савецкай Беларусі першай паловы 1920-х гг. матываванай па шэрагу прычын:

1. Новыя задачы, якія былі пастаўлены перад беларускай мовай у пачатку 1920-х у сувязі з патрэбай рэзкага пашырэння сфер яе ўжытку (пранікнення ў сферы навучання, навукі і адміністрацыі), міжволі падштурхоўвалі яе да максімальна поўнага выкарыстання ўласных рэсурсаў. Абмежаваная ва ўжыванні ў гэтых сферах у папярэднія дзесяцігоддзі, беларуская мова ў гэты час павінна была здаць своеасаблівы «экзамен» на тое, каб лічыцца самастойнай і развітай мовай[80].

2. Традыцыя апоры на народныя сродкі і актыўнай словатворчасці ў працэсе стварэння беларускіх тэрмінаў была засведчана ўжо падчас перыяду падрыхтоўкі навучальнай літаратуры ў 1916–1920 гг.

3. Практыка апоры на народную мову і выкарыстанне ўласных словаўтваральных рэсурсаў знаходзілася ў гармоніі з уласцівай пачатку 1920-х гг. тэндэнцыяй дэмакратызацыі сістэмы адукацыі і навукі. На змену ранейшай практыцы, калі здабыткі адукацыі і навукі былі даступнымі вузкім слаям грамадства, у першай палове 1920-х адукацыя ўсё больш станавілася здабыткам шырокіх колаў насельніцтва [83, с. 225–233]. У гэтай сітуацыі заснаваная ў значнай ступені на народнай мове тэрміналогія палягчала працэс навучання. На думку Н. Мархеля, апора ва Украіне на народныя моўныя сродкі ў першай палове 1920-х гг. дэмакратызавала навуку, «падводзіла яе бліжэй да працоўных. Яна становіцца больш роднай і зразумелай народу» [691, с. 191]. У XIX і на пачатку XX ст. найбольш прэстыжныя носьбіты фінскай мовы лічылі, што фінская мова будзе развівацца найлепшым чынам у апоры на ўжо наяўныя ў фінскай мове сродкі. Такія ўстаноўкі былі матываваны двума фактарамі: «жаданнем інтэлектуальных лідэраў нова-незалежнай і сама-davернай дзяржавы (self-confident nation) выпрацаваць адрозную фінскую ідэнтычнасць і пераканаennем, што ўтрыманне мовы наколькі магчыма яснай і спарадкаванай (explicit and indexical) забяспечыць “лексічную дэмакратыю”, дзякуючы якой малое дзіця сярэдняга інтэлігента не будзе мець цяжкасцяў у разуменні нават аб-

[80] Матыў «багацця» беларускай мовы быў, бадай, агульным месцам у працэсе стварэння ўсіх перакладных слоўнікаў першай паловы 1920-х гг. Параўн. у гэтым плане наступнае выказванне аднаго з партыйных функцыянераў таго часу А. Баліцкага пра падрыхтаваны ў Інбелкульце «параўнаўчы» руска-беларускі слоўнік: «...гэты каштоўны слоўнік паказвае вялікае багацце беларускае мовы ў параўнанні яе з мовай расійскай» [543; 544, с. 7]. Аб багацці «сучаснай навукова-літаратурнай беларускай мовы ў параўнанні з мовай расійскай» спецыяльна гаворыцца і ў прадмове да БРС-26. Аўтары, зрэшты, папярэджвалі, што іх слоўнік «яшчэ не ёсць поўным (выдзелена М. Байковым і С. Некрашэвічам. – *С. З.*) слоўнікам» беларускай мовы (БРС-26, с. 3, 4).

страктных тэрмінаў» [467, с. 255]. З нагоды *corpus planning* у ісландскай мове, якому быў уласцівы моцны пурызм, у якасці станоўчага моманту даследчыкамі называецца «”празрыстасць”, матываванасць сваіх лексем, што стварае адзінства навукова-тэхнічнага слоўніка і слоўніка народнага маўлення» [352, с. 52–53; 9, с. 87]. Паколькі шырокае выкарыстанне інтэрнацыяналізмаў можа ствараць унутрымоўны бар’ер паміж спецыяльнай тэрміналогіяй і размоўнай лексікай, г. зн. паміж мовай больш і менш адукаваных слаёў грамадства [9, с. 87], пастолькі кадыфікатары 1920-х гг. імкнуліся гэтага пазбегнуць.

4. Завядзёнка імкнуцца да «чысціні» мовы, якая спадарожнічала звароту да «эндэмічных» сродкаў мовы, неадменна спадарожнічала ўсім выпадкам стварэння акадэмій у іншых краінах (Італіі, Францыі, Расіі, Венгрыі і інш.). Як сведчыў у кастрычніку 1924 г. А. Баліцкі, да таго часу галоўным відам дзейнасці Інбелкульта была апрацоўка беларускай літаратурнай мовы [543; 544].

Усё гэта ў сукупнасці давала вынікам стварэнне тэрміналогіі такім чынам, што яна, наколькі магчыма, абапіралася на сродкі народнай мовы. У некаторых тэрмінасістэмах (юрыдычнай, матэматычнай і інш.) такая апора была моцна абмежавана. Напрыклад, у БНТ-10 была здзейснена спроба падбіраць для тэрмінаў міжнароднага характару эквіваленты, створаныя на аснове беларускіх марфем (*реставрация – адбудаванне, суррогат – падмен*), аднак у пераважнай большасці выпадкаў побач з беларускім словам прыводзілася іншамоўнае: *разлад* і *дэзарганізацыя*; *драбніца* і *дэталь*; *адлічаць* і *дыскантаваць*; *стычнасць* і *калізія*; *цыркуляр* і *абежнік*; *экземпляр* і *паасобнік* [193, с. 85]. Рэцэнзіі на юрыдычны слоўнік, даклад аднаго з яго ўкладальнікаў, прачытаны на пасяджэнні юрыдычнай секцыі Навуковага таварыства пры БДУ, на думку Г. І. Кулеш, даюць падставу меркаваць, што «ў адрозненне ад лінгвістаў, правазнаўцы былі супраць замены міжнародных тэрмінаў на беларускія словы» [193, с. 85], аднак папраўдзе дыферэнцыяцыя поглядаў адбывалася не паводле прафесійных крытэрыяў. Пры ўкладанні канкрэтных тэрміналогій па розных прычынах маглі ўзнікаць спецыфічныя праблемы, не істотныя ў іншых сітуацыях. У выпадку ўкладання юрыдычнай тэрміналогіі, відаць, мела значэнне вельмі добрае знаёмства значнай часткі грамадства з асновамі рускай юрыдычнай тэрміналогіі. Натуральна, у параўнанні са слоўнікамі ва узусе сітуацыя магла быць больш складанай, была развіта паралельнасць розных спосабаў і сродкаў выказвання, іх дублетнасць. Тым не менш няма падстаў гаварыць пра «неўпарадкаванасць, хаатычнасць пры ўтварэнні новых слоў у працэсе фарміравання розных стыляў і тэрміналагічных сістэм» [20, с. 70]. Як у развіцці беларускай навуковай тэрміналогіі 1920-х гг., так і ў фарміраванні лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы гэтага часу ў цэлым існаваў выразны арганізуючы пачатак, які ўвасабляўся ў дзейнасці тэрміналагічных камісій, укладальнікаў перакладных слоўнікаў, рэфлексіі розных аўтараў над тымі ці іншымі нормамі словаўжывання і г. д.

### 3.4.3. СУАДНОСІНЫ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ З НАРОДНАЙ: ВЫНІКІ *CORPUS PLANNING*

Несумненна, вялікае значэнне мела арыентацыя літаратурнай мовы (мовы мастацкай літаратуры) на народную мову, выказаная ў маніфестах некаторых вядомых пісьменнікаў, напрыклад, К. Чорнага [769]. Увогуле, тэндэнцыя знаходзіць разнастайныя народныя моўныя сродкі для іх выкарыстання ў літаратурнай мове ўласціва працэсу разбудовы беларускай літаратурнай мовы ў 1920-я гг. у цэлым.

Калі мець на ўвазе спецыфіку папярэдняга, нашаніўскага перыяду развіцця беларускай літаратурнай мовы, то арыентацыю пры стварэнні літаратурнай мовы на народныя сродкі ў першай палове 1920-х гг. можна лічыць найбольш чаканым, «натуральным» шляхам яе развіцця. Зразумела, аднак, такі вектар развіцця не вырашаў аўтаматычна ўсіх праблем нармалізацыі. Па-першае, спрэчным было стаўленне да новых запазычанняў. Калі ў нашаніўскі перыяд русізмы тыпу *правіцяльства* або *гасударства* маглі разглядацца як прынятыя беларускай мовай (уласна, ужо як «народныя» сродкі), то пазней стаўленне да іх змянілася. Паколькі аналагічна да нашаніўскага перыяду беларуска-рускі білінгвізм у Беларусі ў 1920-я гг. працягваў захоўваць сваю сілу, пастолькі стаўленне да розных канкрэтных слоў гэтай катэгорыі магло заставацца супярэчлівым. Па-другое, арыентацыя на народныя сродкі неабавязкова давала вынікам рэалізацыю гэтай тэндэнцыі прымяняльна да абсалютна ўсіх з'яў. Напрыклад, насуперак уласціваму беларускай мове дзеканню гэта з'ява, аднак, не замацавалася пры кадыфікацыі правапісу запазычанай лексікі. Неадназначную арфаграфічную рэалізацыю зведалі таксама запазычаныя словы з ненаціскным *о*, гукам *ф* і інш. [175, с. 222–223, 225–226]. А. Я. Баханькоў адзначаў, што пранікненне ў пісьмовыя тэксты мясцовых слоў у цэлым абагаціла сінаніміку літаратурнай мовы, аднак рабіў агаворку, што асабліва паспяхова гэтыя працэсы працякалі ў сферы традыцыйнай лексікі [20, с. 54]; пры выкарыстанні народнай лексікі ў іншых лексічных разрадах сітуацыя магла быць іншай. Што датычыць укладання тэрміналогіі, то тут дадатковым пунктам спрэчак была яшчэ магчымасць ствараць новыя словы *vs* адаптацыя запазычанняў.

Нарэшце, спецыфічны і вельмі моцны пункт напружання стварала тая акалічнасць, што арыентацыя на народныя моўныя рэсурсы ў параўнанні з альтэрнатыўнымі напрамкамі развіцця (арыентацыя на нормы, прынятыя ў нейкай суседняй – рускай або польскай – культурнай мове; арыентацыя на старую пісьмовую беларускую мову і інш.) у большай ступені прадугледжвала аспект с т в а р э н н я літаратурнай мовы, што заўсёды не можа быць зусім простым. Нават у тых выпадках, калі багатыя сродкі народнай мовы былі вядомы носьбітам і кадыфікатарам, яны яшчэ павінны былі перажыць этап іх увядзення ў літаратурную мову і іх адаптацыі ў ёй. Сцвярджэнне многіх народных слоў у літаратурнай мове было вельмі хуткім, «імгненным», але так адбывалася не заўсёды. Часам нейкія звычайныя, фактычна «агульнанародныя»

і даўно ўжывальныя ў народнай мове сродкі пры іх увядзенні ў літаратурны зварот на працягу пэўнага часу маглі захоўваць адценне пэўнай «навізны», што можна назіраць на прыкладах адначасовага выкарыстання і нейкіх іншых, паралельных моўных сродкаў. Сам факт таго, што носьбіты былі сведкамі ўваходжання ў мову пэўных моўных сродкаў, што працэсы ўваходжання гэтых сродкаў у мову і замацавання ў ёй адбываліся вельмі хутка, у шэрагу выпадкаў мог абумоўліваць іх негатыўную або асцярожную ацэнку. Бадай, яшчэ ніколі да таго беларуская літаратурная мова не сутыкалася з патрэбай «эмансіпацыі» народнай лексікі ў такіх незвычайных кантэкстах (навуковае маўленне, афіцыйна-дзелавы стыль) у такіх вялікіх аб'ёмах.

Як бы там ні было, пранікненне народных моўных сродкаў у літаратурную мову ў 1920-я гг. было вельмі паспяховым, чаму спрыялі не толькі выказаныя ў артыкулах ці навуковых дакладах меркаванні, але і агульная ўласцівая 1920-м гг. у Беларусі тэндэнцыя да дэмакратызацыі ў рамках літаратурнай мовы. Гэтая тэндэнцыя была шырока рэалізавана таксама ў граматычнай і лексікаграфічнай літаратуры, стваральнікамі якой былі Б. Тарашкевіч, М. Гарэцкі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч і інш. У граматыках Б. Тарашкевіча арыентацыя на народныя сродкі сярод іншага адлюстравалася ў тым, што ў марфалагічнай сферы ў іх шырока былі прадстаўлены паралельныя (а не толькі «адзіна магчымыя») сродкі. У падрыхтаваных з удзелам С. Некрашэвіча слоўніках была шырока пададзена народная лексіка. Мова мастацкай літаратуры і перыядычнага друку, для якіх проціпастаўленне «літаратурнасць *vs* дыялектнасць» было не вельмі істотным [20, с. 41], актыўна насычаліся народнымі лексічнымі сродкамі. Народная, часам тэрытарыяльна абмежаваная і нават вузкадыялектная [20, с. 45; 13, с. 33], лексіка ў першай палове 1920-х гг. была звычайным складнікам і пры ўкладанні навуковай тэрміналогіі. Усё гэта спрыяла крышталізацыі беларускай літаратурнай мовы як мовы, створанай пераважна на народнай аснове.

Зварот у працэсе фарміравання літаратурнай мовы да народных крыніц у беларускай лінгвістыцы трактуецца амаль як «непазбежны». У кожным разе ён лічыцца настолькі натуральным, што, можа дапускацца, падчас яго рэалізацыі нібыта амаль не было спецыяльна скіраваных прадпісанняў, пурыстычнай дзейнасці. Параўн. у гэтым сэнсе наступнае выказванне: «Праяўленне пурызму трэба бачыць не ў тым, што, развіваючы лексічныя і граматычныя сродкі беларускай літаратурнай мовы, культурныя дзеячы тагачаснай Беларусі імкнуліся арыентавацца на беларускую народную моўную аснову. Гэта зусім натуральна...» [175, с. 157]. Між тым Р. Оці заўважаў, што з прычыны страты сувязі са старой мовай у беларускім выпадку больш дарэчы гаварыць не пра адраджэнне мовы, а пра яе стварэнне [263, с. 115]. Калі так, то задачу беларускіх кадыфікатараў 1920-х гг. можна ацэньваць як больш складаную ў параўнанні, напрыклад, з чэшскімі кадыфікатарамі (якія адраджалі мову). Адносна параўнання беларускага і чэшскага пурызму гл.: [133].

### 3.4.4. АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ ПОГЛЯДЫ НА ФАРМІРАВАННЕ ТЭРМІНАЛОГІІ І ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Пры тым, што амаль ніхто з удзельнікаў нармалізацыі беларускай мовы ў 1920-я гг. не адмаўляў генеральнага напрамку яе развіцця, у працэсе асэнсавання канкрэтных момантаў кадыфікацыі ўзнікалі сітуацыі, калі нейкія аўтары аспрэчвалі пэўныя, ужо, здавалася б, усталяваныя падыходы. Найбольш сур'ёзныя заўвагі на адрас некаторых канкрэтных пунктаў прынятай кадыфікацыі можам назіраць у выпадку нязгоды І. Ваўка-Левановіча з некаторымі падыходамі правапісу запазычаных слоў (гл. 3.3.2) і ў выпадку крытыкі А. Лёсікам прынятай матэматычнай тэрміналогіі.

Рэагуючы ў 1926 г. на апублікаваны ў 1922 г. выпуск матэматычнай тэрміналогіі, А. Лёсік паставіў пад сумненне агульны прынцып укладання тэрміналогіі: «у аснову тэрміналогіі трэ было палажыць не "словы, існуючыя ў жывой народнай мове", а тэрміны, што ўстанавіліся ў навуцы; тэрміны гэтыя ў пераважнай большасці чужаземнага пахаджэння» [657, с. 142]. Крытыка А. Лёсіка мела ў значнай ступені схаластычны характар. Напрыклад, ён быў цвёрда перакананы, што тэрміны тыпу *вогнішча* 'фокус', *прамер* 'дыяметр' і шэраг іншых былі не ў стане выразіць адпаведныя матэматычныя паняцці. Але ж у іншых мовах (гл. 4.3.1) аналагічныя тэрміны паспяхова ўжываліся. У якасці станоўчага прыкладу ўкладання матэматычнай тэрміналогіі А. Лёсік спасылаўся на фіксаванне рускай матэматычнай тэрміналогіі ў 1830-я гг., падчас якога нібыта яна прыняла многа замежных слоў; крытык прапанаваў увесці ў беларускую мову «ўсе чужаземныя тэрміны (грэцк., лацінск., франц.), што ўжываюцца ў расійскай мове» [657, с. 146]. Пры гэтым А. Лёсік аддаваў мала ўвагі той акалічнасці, што да 1830-х гг. працяглы час руская матэматычная тэрміналогія фарміравалася шляхам, які быў аналагічны ўкладанню беларускай тэрміналогіі ў пачатку 1920-х гг. Нягледзячы на тое што з часу публікацыі тэрміналогіі 1922 г. (якая ў значнай ступені наследавала тэрмінам, прапанаваным яшчэ ў 1916 г.) прайшло некалькі гадоў, А. Лёсік у сваім артыкуле ні разу не спаслаўся на цяжкасці засваення ў школе тэрміналогіі ўзору 1922 г., абмежаваўшыся «тэарэтычнай» і гістарычнай яе крытыкай. Патрэбы сцвярджэння беларускай мовы як аўтаномнай мовы навукі ў артыкуле цалкам ігнараваліся.

Тым не менш у 1926 г. Галоўная тэрміналагічная камісія Інбелкульта на чале з Я. Лёсікам палічыла патрэбным перагледзець ранейшую матэматычную тэрміналогію, дзеля чаго стварыла адпаведную камісію (у яе быў уключаны і А. Лёсік). Яна падрыхтавала рэвізаваную матэматычную тэрміналогію, якая ў 1927 г. была выдадзена (БНТ-14). Гэта быў адзіны выпадак у дзейнасці Інбелкульта, калі нейкая ранейшая тэрміналогія на працягу кароткага часу падлегла рэвізіі.

Яшчэ больш грунтоўную крытыку – гэтым разам агульнай канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы – знаходзім у прачыта-

ным 16 снежня 1929 г. у БАН дакладзе І. Ваўка-Левановіча «Пра некаторыя важнейшыя недахопы беларускай літаратурнай мовы» [580][81]. Выступіць з дакладам Ваўка-Левановіча падгаварыў «сакрэтны супрацоўнік» [282, с. 188; 376, с. 316–317], што моцна ўскладняе інтэрпрэтацыю гэтага даклада як самастойнай навуковай працы. Несумненна, у дакладзе ў значнай ступені выкладзены погляды самога Ваўка-Левановіча. Аднак няясна, ці ўсе яны былі б выказаны і ці гэтыя меркаванні былі б выказаны ў такой катэгарычнай форме, калі б даклад рыхтаваўся ў больш спрыяльнай атмасферы.

У другой палове 1920-х гг. І. Воўк-Левановіч стаў займаць выразна адрозныя меркаванні па галоўных момантах канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы. У дадатак да задэманстраванай пазіцыі ў справе правапісу запазычаных слоў у яго дакладзе не толькі была паўторна выказана ранейшая прапанова перадаваць на пісьме ва ўсіх іншамоўных словах змякчэнне зычных *д* і *т* перад галоснымі пярэдняга рада, але і было прапанавана замяніць ужо прынятыя ў беларускай літаратурнай мове словы *аб'ява, красавік, жнівень, дзяржава, сцяг, выпадак. сродак, люты, рахунак, студзень* адпаведнікамі тыпу *аб'яўленне, апрэль. аўгуст, гасударства, знамя, случай, срэдства, фяўраль, шчот, январ* і інш. Дакладчык указваў, што ў сваім фарміраванні і развіцці беларуская літаратурная мова павінна была арыентавацца на жывую мову горада. Не згодных са сваімі прапановамі ён абвінаваціў у свядомым імкненні адарваць беларускую мову ад рускай, а кіраўніцтва навуковымі мовазнаўчымі ўстановамі назваў «нацыяналістычным засценкам» [80, с. 127]. Даклад Ваўка-Левановіча быў раскрытыкаваны на тым жа пасяджэнні яго калегамі, аднак нічога з гэтай крытыкі не было абнародавана. Публікаваныя водгукі на даклад з'явіліся ў 1930 г., але гэта былі меркаванні не навукоўцаў, а палітычнага дзеяча Валабрынскага [570].

У дакладзе І. Воўк-Левановіч зрабіў спробу прыстасаваць да беларускай сітуацыі некаторыя пастулаты сацыяльнай дыялекталогіі і цесна з ёй звязанага «новага вучэння аб мове» М. Мара, да той пары фактычна незаўважныя ў навуковай практыцы Беларусі. Гаворачы пра геаграфічнае і сацыяльнае чляненне беларускай мовы, І. Воўк-Левановіч палічыў метад «ізагласавання» моўных з'яў у сацыяльна-класавым разрэзе намнога больш дасканалым у параўнанні з ужывальным у лінгвагеаграфіі правядзеннем ізаглос у прасторы. На гэтай падставе беларускія народныя гаворкі былі падзелены на «гаворкі сялянства і гаворкі шляхты», да якіх прымыкалі «гаворкі горада» [580, с. 354].

Носьбіты «гаворак шляхты, паводле Ваўка-Левановіча, яшчэ нядаўна лічылі сябе пераважна палякамі, у слоўніку і сінтаксісе іх мова моцна набліжалася да польскай. Увогуле, у сферы слоўніка і сінтаксісу мова цесна звязанай з каталіцкай рэлігіяй шляхты захавалася прыблізна ў такім выглядзе, у якім яна існавала ў літаратурнай апрацоўцы XVI–XVII стст. У сферу ўплыву каталіцкай шляхты трапіла (колькасна вельмі нязначная) каталіцкая частка беларускага ся-

[81] Пра некаторыя акалічнасці, звязаныя з гэтым дакладам (гл. 1.2.2).

лянства. Поруч з каталіцкай шляхтай ёсць і шляхта праваслаўная, арыентаваная на рускую афарбоўку беларускай гаворкі; у плане культурнай арыентацыі да яе блізка стаіць праваслаўнае сялянства. У адносінах культурнай арыентацыі і моўных уплываў беларускі народ, такім чынам, быў падзелены на «беларуска-польскі» і «беларуска-рускі» лагеры [580, с. 355–356].

Згодна з новымі падыходамі ў савецкім мовазнаўстве канца 1920-х гг. І. Ваўка-Левановіча найбольш цікавілі класавыя аспекты фарміравання мовы. Ён заўважыў, што вылучаныя вышэй культурныя арыентацыі насельніцтва былі больш слабымі за класавыя, што дало падставу вылучыць асаблівае збліжэнне эканамічна найбольш моцных груп – праваслаўнай шляхты, праваслаўнага сялянства, заможнай каталіцкай шляхты, – якія былі дадаткова даволі моцна звязаны элементамі рускай культуры. «Кіруючы культурным развіццём краю, гэты клас натуральна рабіў уплыў і сваёй моваю на мову ніжэйшага эканамічнага класа, прымешваючы к яго беларускай гаворцы значныя элементы рускай літаратурнай лексікі і фразеалогіі» [580, с. 355]. Уласна, незразумела, чаму ў рамках (эканамічна моцнага) класа, які «кіраваў культурным жыццём краю», аказалася праваслаўнае сялянства.

Аднак І. Воўк-Левановіч прапаноўваў грунтаваць беларускую літаратурную мову не на мове вылучанага ім заможнага класа, а на мове горада, сучасных рабочых, што рашуча ішло ў разрэз з ранейшым развіццём беларускай літаратурнай мовы. Воўк-Левановіч правільна ўказваў на пераемнасць беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. з мовай газеты «Наша ніва», аднак ён крытычна ставіўся да эвалюцыі мовы гэтай газеты. На яго думку, у першыя гады выдання мова «Нашай нівы», якая абапіралася на «ўсю беларускую народную мову, усё беларускае кайнэ», была лепшай за мову апошніх гадоў, калі лексіка газеты адрывалася ад лексікі «шырокіх народных беларускіх мас» [580, с. 374–376]. Уплывы з боку рускай мовы, на адрозненне ад уплываў польскай мовы, І. Воўк-Левановіч лічыў «натуральнымі» і «жыццёвымі» [580, с. 357], у залежнасці ад гэтага разумення ён прапаноўваў абмежаваць прысутнасць у тагачаснай беларускай літаратурнай мове з'яў, звязаных з польскім уплывам, і даць шырокую дарогу ўплывам з рускай мовы.

Пры тым, што ў дакладзе І. Ваўка-Левановіча ўтрымліваўся шэраг змястоўных палажэнняў і назіранняў, прапанаваная ім канцэпцыя радыкальна пярэчыла ранейшаму развіццю беларускай літаратурнай мовы, фактычна адмаўляла яго. Такая канцэпцыя не магла быць падтрымана большасцю беларускіх мовазнаўцаў.

# Раздзел 4
# УЗУС БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ 1920-х гг.

## 4. 1. ПРАВАПІС. РЭАЛІЗАЦЫЯ НЕНАЦІСКНОГА *О* Ў ЗАПАЗЫЧАНЫХ СЛОВАХ

У гісторыі беларускай літаратурнай мовы рэалізацыя ненаціскнога *о* ў запазычаных словах у 1920 – пачатку 1930-х гг. застаецца недастаткова даследаванай. У калектыўнай «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» 1968 г. гэтай з’яве прысвечана некалькі важных абзацаў. У прыватнасці, паведамляецца, што пасля выхаду «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча напісанне ненаціскных *о, е* ўдасканальвалася і ўніфікавалася ў першую чаргу [175, с. 222]. Як вядома, пры засваенні запазычаных слоў беларускай мовай Б. Тарашкевіч прапанаваў размяжоўваць іх на «ўзятыя з чужое мовы даўно» (і ў такім выпадку пісаць іх адаптавана да беларускага вымаўлення: *арганісты, паляруш, калідор, леварвэр, пратакол*) і «нядаўна ўвайшоўшыя ў беларускую мову» (якія мелі захоўваць асаблівасці мовы-донара: *колёквіум, географія, геомэтрыя, тэрыторыя, эволюцыя*) [752, с. 126]. Практыка 1920-х гг. паказала, што «на працягу амаль дзесяцігоддзя» захаванне *о, е* пад націскам было ўстойлівай рысай правапісу запазычаных слоў (*композыцыя, ордыната, экономістыя, соцыялізм, профэсар, об’ектыўны, тэорэтычная, мэтрополіяй, экспорт, окупацыя, хроматычны, пролетары*), аднак бытавалі і адаптаваныя напісанні (*камэдыя, сымбалізм, сацыялізм, рэвалюцыйны, праграмны, амонім, лабараторый, лябараторыя*), існаванне якіх падтрымлівалася «неаднаразова выказанымі ў друку прапановамі аб пашырэнні акання ў правапісе запазычаных слоў» [175, с. 222–223]. Пры ўсёй важнасці прыведзеных меркаванняў, тым не менш, існуе патрэба больш глыбока высветліць прычыны «нездавальняючага» [175, с. 183] развіцця дадзенай арфаграмы. У працах па гісторыі беларускай літаратурнай мовы і гісторыі беларускага мовазнаўства традыцыйна лічыцца, што прычыны такога стану хаваюцца ў недасканаласці мовазнаўчых фармулёвак: прынятае Б. Тарашкевічам правіла аб рэалізацыі ненаціскнога *о* ў запазычаных словах «не мела пад сабой цвёрдых, аб’ектыўна вызначаных падстаў», што абумоўлівала «вялікі», «значны разнабой» [175, с. 167, 184, 222] і «вельмі заблытвала правапіс» [392, с. 135].

У час калі рыхтавалася «Беларуская граматыка для школ», рэалізацыя гэтай арфаграмы была няўстойлівай, зрэшты, у практыцы «ўстанавілася агульнае правіла захоўваць ненаціскны *о* ў запазычаных словах, асабовых і геаграфічных назвах: *ботаніка, зоологія, какао, конституція, конфіскація, коопэрація, офіціальна, солідарнасць, Копэрнік, у Могілёўшчыне…*» [175, с. 120]. Разам з тым у словах, якія «сталі звычайнымі для беларускай пісьменнасці» [175, с. 121], акрэслілася тэндэнцыя перадаваць аканне: *аграном, арганізатар, мадэрніст, манаполія, палітыка, паэт, праект, працэнт, прафэсар, сваё арыгінальнае, фатаграфія*. Аўтары «Гісторыі…» у дадзеным выпадку паказалі, што рэгламентацыя Б. Тарашкевіча была цесна звязана з тагачасным узусам: у ёй адлюстравалася як «правіла» захоўваць ненаціскны *о*, так і «тэндэнцыя» перадаваць аканне. Падобны падыход добра ўкладаўся ў агульную канцэпцыю Б. Тарашкевіча: «граматыка павінна толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія сама мова ўжо назначыла» [750, с. 3]. Пазначыўшы ў сваім прадпісанні тэндэнцыю адлюстроўваць «аканне», Б. Тарашкевіч, відаць, палічыў, што пара ператварыць яе ў правіла яшчэ не прыйшла. Аўтары «Гісторыі...» справядліва заўважаюць, што правядзенне акання ва ўсіх запазычаных словах у 1920-я гг. аб'ектыўна «складала вялікую цяжкасць, бо скажала аблічча слоў, вядомых многім народам» [175, с. 184].

Вышэйпазначаны падыход Б. Тарашкевіча паўтараўся ва ўсіх чатырох выданнях яго граматыкі ў 1919 – 1921 гг., а таксама ўзнаўляўся ў граматыках і правапісах Я. Лёсіка, якія сталі выходзіць у Мінску з 1921 года. Я. Лёсіку тым больш лёгка было далучыцца да рэгламентацыі Б. Тарашкевіча, што яшчэ ў пачатку 1918 г. ён сам выказваў меркаванне, што пры напісанні запазычаных слоў «трэба трымацца іх уласнага правапісу, дадаўшы ім беларускую акцэнтацыю, напрыклад: *комітэт, соцыяльны, мэльодзія...*» [681, с. 268]. Я. Лёсік быў салідарны з падыходам Б. Тарашкевіча некалькі гадоў і яшчэ ў 1925 г. сцвярджаў, што апошні «стаяў на правільнай дарозе, калі ў правапісе чужаземных слоў выдзяляў словы абеларушаныя і словы кніжныя» [682, с. 187]. Сфармуляваны ў 1918 г. Я. Лёсікам падыход тады ж без ваганняў падтрымаў і іншы кадыфікатар беларускай мовы, А. Луцкевіч [774]. Падобным чынам пункт аб перадачы ненаціскнога *о* ў запазычаных словах быў сфармуляваны і ў іншых дапаможніках [775; 745]. Такім чынам, правіла, згодна з якім галосныя літары ў запазычаных словах у беларускай мове павінны былі ў значнай меры не падпарадкоўвацца заканамернасцям беларускай мовы, было «салідарным» меркаваннем усіх вядомых кадыфікатараў беларускай мовы канца 1910-х – першай паловы 1920-х гг.

Між тым з цягам часу такі падыход стаў выклікаць нараканні.

Так, у 1924 г. рэцэнзент падручніка Я. Лёсіка «Беларуская мова. Правапіс» (1924) усумніўся ў магчымасці аб'ектыўна размежаваць засвоеныя і незасвоеныя беларускай мовай запазычаныя словы: «дзе больш-менш аб'ектыўны крытэрыум ужывальнасці або неўжывальнасці слова ў масах народа?» [682, с. 187].

Адказваючы ў 1925 г. на крытыку, Я. Лёсік напісаў, што крытэрый размежавання ўжывальных і неўжывальных у масах народу слоў установяць «людзі навукі – мовазнаўцы, філолагі, хто знаецца на гэтай справе». У цэлым жа ў пачатку 1925 г. Я. Лёсік меркаваў, што «як агульная аснова для правапісу чужаземных слоў гэтае правіла (у рэдакцыі Б. Тарашкевіча. – *С. З.*) трэба лічыць дасканалым» [682, с. 187]. Аднак наступныя падзеі ў беларускім мовазнаўстве паказалі, што так лічылі далёка не ўсе.

У пачатку 1926 г. рэдакцыя часопіса «Асвета» ў спецыяльнай заяве абвясціла, што ў сваёй практыцы яна адмаўляецца праводзіць размежаванне запазычаных слоў на абеларушаныя і неабеларушаныя і будзе любы ненаціскны *о* ў запазычаных словах перадаваць праз *а* [523]. У 1926 г. пашырэнне акання на запазычаныя словы было адлюстравана ў ПРБС-26.

12 красавіка 1926 г. на сходзе мовазнаўча-літаратурнай секцыі Інбелкульта з дакладам аб пашырэнні прынцыпу акання на чужаземныя словы выступіў С. Некрашэвіч і з судакладам – Я. Лёсік. Асноўныя палажэнні даклада С. Некрашэвіча пазней былі апублікаваны ў артыкуле і брашуры пад назвай «Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы» [710]. Галасаванне на сходзе выявіла, што большасць членаў мовазнаўча-літаратурнай секцыі, а таксама староннiх удзельнікаў пасяджання схіляліся да рэвізіі дадзенага правіла Б. Тарашкевіча. Пытанне было перададзена на вырашэнне навуковай радзе Інбелкульта, аднак яна, грунтуючыся на довадах Я. Лёсіка [581, с. 23], устрымалася ад карэкціроўкі гэтага правіла. Па прапанове Я. Лёсіка рада стварыла спецыяльную правапісную камісію пад яго старшынствам, якой даручыла ўкласці слоўнік чужаземных слоў, дзе б неабеларушаныя словы з *о* і абеларушаныя з *а* былі належным чынам размежаваны. Камісія, аднак, не здолела гэтага зрабіць.

У маі 1926 г. даклад пра аканне ў беларускай мове прачытаў у навуковым таварыстве пры БДУ І. Воўк-Левановіч, у якім ён далучыўся да аргументаў на карысць пашырэння акання на запазычаныя словы, вылучаных С. Некрашэвічам. Увогуле, быўшы прыхільнікам марфалагічнага прынцыпу напісання галосных гукаў, ужо прынятае ў беларускай мове аканне І. Воўк-Левановіч лічыў «шкодным»; аднак, «паколькі практыка жыцця не дае нам надзей на тое, што такі погляд будзе прыняты большасцю асоб, ад якіх будзе залежаць лёс нашага правапісу», у якасці меншага зла І. Воўк-Левановіч згаджаўся прыняць пашырэнне акання. Такі погляд быў адлюстраваны ў дзвюх брашурах І. Ваўка-Левановіча, апублікаваных напярэдадні Акадэмічнай канферэнцыі [575; 576]. Незахаванне ненаціскнога *о* ў запазычаных словах падтрымаў і А. Багдановіч у выдадзенай Інбелкультам брашуры [80, с. 27].

У сярэдзіне 1920-х гг. С. Некрашэвіч і М. Байкоў вырашылі адмовіцца ад падзелу запазычаных слоў на абеларушаныя і неабеларушаныя падчас укладання РБС-28. У прадмове аўтары сцвярджалі, што дадзенае адхіленне ад правапісу Б. Тарашкевіча яны ўвялі «дзеля яго прастаты», а таксама «грунтуючыся на практыцы гэтага правапісу ў замежных беларускіх выданнях і некаторых нашых (газ. "Савецкая Беларусь" і інш.)» (РБС-28, с. IV).

Палемізуючы ў кастрычніку 1926 г. з І. Ваўком-Левановічам, Я. Лёсік заняў кампрамісную пазіцыю, абумовіўшы вырашэнне гэтага правіла ў залежнасці ад таго, ці будзе прыняты прынцып акання ў дачыненні да беларускіх слоў: «Я не згаджаўся і ніколі не згаджуся перанесці беларускае аканне на чужаземныя словы кніжнага характару, калі не пройдзе аканне ў сваіх словах» [673].

Дыскусія наконт гэтага правіла адбылася і на Акадэмічнай канферэнцыі, удзельнікі якой, атрымаўшы папярэдне надрукаваныя матэрыялы, маглі разважаць пра яго прадметна. Ранейшы прыхільнік захавання дадзенага правіла ў старой рэдакцыі, Я. Лёсік на пленарным пасяджэнні канферэнцыі выявіў сябе крытыкам дадзенага правіла Б. Тарашкевіча. Нягледзячы, аднак, на тое, што ў пленарных прамовах абодвух дакладчыкаў па правапісе, а таксама ў прамовах некаторых дыскутантаў дадзенае «вельмі балючае пытанне» (С. Некрашэвіч) было пастаўлена на карысць пашырэння акання, абмеркаванне выявіла і супрацьлеглую пазіцыю. На пасяджэнні правапіснай камісіі супраць пашырэння акання выказаліся дацэнт Віцебскага ветэрынарнага інстытута Г. Багдановіч (не вельмі пераканана), дырэктар Рагачоўскага педтэхнікума Ф. Імшэннік і У. Чаржынскі (абодва даволі катэгарычна). Апелюючы да наяўнасці ў беларускай мове «многіх дзясяткаў тысяч чыста кніжных, навуковых, тэхнічных інтэрнацыянальных слоў-тэрмінаў», якія не павінны падлягаць «упрашчэнцкім тэндэнцыям», У. Чаржынскі выказаў думку, што пашырыць аканне на ўсе гэтыя словы немагчыма, бо «ніхто і ніякі правапіс не прымусіць працаўніка навукі пісаць *астэалёгія* замест – *остэолёгія* і *азон* замест *озон*» [731, с. 304–305]. Вынікі галасавання на пасяджэнні правапіснай камісіі паказалі перавагу (не вельмі значную) прыхільнікаў засваення акання ў запазычаных словах (за – 12, супраць – 8, устрымаліся – 1)[82]. У справаздачах з канферэнцыі канстатавалася, што гэта пытанне было прынята паводле рэдакцыі С. Некрашэвіча. Больш за тое, на думку М. Байкова, гэты пункт быў адным з нямногіх на канферэнцыі, які можна было б адразу ж укараняць у практыку [541, с. 257].

Нягледзячы на пастанову Акадэмічнай канферэнцыі, Я. Лёсік устрымаўся ўводзіць нейкія змены ў чарговыя выданні свайго правапісу, якія выйшлі ў 1927–1929 гг. Яшчэ ў апошнім, восьмым, выданні яго правапісу 1929 г. у прысвечаным запазычаным словам параграфе гаворка ўсё яшчэ традыцыйна ішла пра запазычаныя словы, з аднаго боку, «вядомыя шырокім народным масам», а з другога, пра лексемы, «што ўжываюцца ў кніжнай мове» [680, с. 108].

Дыскусія наконт адпаведнага правіла ў савецкай Беларусі не засталася па-за ўвагай Б. Тарашкевіча. Выдаючы пятае выданне свайго падручніка, ён зрабіў агаворкі наконт магчымасці застасавання акання пры напісанні запазычаных слоў: «Заўсёды будзе тэндэнцыя (нахіл) і, проста, жыццёвая патрэба праводзіць

---

[82] «Недастаткова» станоўчыя вынікі галасавання па гэтым пытанні, магчыма, былі абумоўлены тым, што падчас яго абмеркавання на пасяджэнні правапіснай камісіі даволі дзіўную пазіцыю заняў Я. Лёсік: ён настойваў на тым, што разглядаць дадзеную праблему на канферэнцыі не трэба. Ён сам, а таксама асобы, якія заўсёды нязменна галасавалі так, як галасаваў Я. Лёсік (А. Лёсік і Я. Колас), прагаласавалі супраць гэтага пункта.

аканне і ў чужаземныя словы. Але правясці поўнае аканне *а, я* на месцы *о, э, е* – трудна будзе <...> Магчыма, што правядзецца аканне адносна да *о*: *прафэсар, маналёг* (заместа *профэсар, монолёг*) і г. д. Але і тутака прыйдзецца, відаць, прынамсі ў некаторых разох, затрымаць *о* ненаціскное...» [752, с. 127]. Аднак папраўкі Б. Тарашкевічам не былі ўнесены. Яго стрыманасць, відаць, была абумоўлена тым, што ён не хацеў «непавязаных, паасобных зменаў “на лепшае”», асцерагаючыся, каб «лепшыя новыя дэталі не псавалі больш-менш неблагога цэлага, якое ўжо існуе» (выдзелена ўсюды аўтарам. – *С. З.*) [752, с. 4].

У праекце 1930 г. адпаведнае правіла было сфармулявана наступным чынам: «У словах чужаземнага пахаджэння *о (ё)* пішацца толькі пад націскам; ненаціскное *о (ё)* пішацца праз *а (я)*» [551, с. 31]. У якасці кампрамісу праект, аднак, рэкамендаваў пісаць *о, ё* на канцы запазычаных слоў (*бруто, какао, радыё, трыё*) і дапускаў напісанне ненаціскнога *о* (але, як вынікае з фармулёўкі, не *ё*) у пачатку і сярэдзіне слоў «у спецыяльнай навуковай літаратуры ў чужаземных малапашыраных словах». Падобна, члены Правапіснай камісіі, што рыхтавала праект 1930 г., пераважна былі салідарнымі ў гэтым пункце. Прынамсі, сярод змешчаных у праекце заўваг асобных членаў камісіі да канкрэтных правіл знаходзім толькі заўвагу Я. Лёсіка і Я. Коласа да 40-га правіла праекта, дзе яны пярэчылі супраць захавання ненаціскнога *о* на канцы запазычаных слоў. Калі ўсходнебеларускія мовазнаўцы (у прыватнасці, Я. Лёсік) зазналі эвалюцыю ад непрыняцця адаптаваных напісанняў да іх паступовага прыняцця, то заходнебеларускі лінгвіст Я. Станкевіч на працягу 1920-х гг. не змяніў сваёй пазіцыі. У 1930 г. у працы «Да вымовы й правапісу чужых словаў» з гэтай нагоды ён зазначыў: «Хай нас Бог крые акання на пісьме без належнага разумення: зрабіла б яно цэлы хаос! Дык правапіснае правіла мае астацца старое, устаноўленае Б. Тарашкевічам...» [746, с. 118].

Што да рэалізацыі ненаціскнога *о* ў запазычаных словах у пісьмовай практыцы на працягу 1920-х – пачатку 1930-х гг., то можна вылучыць некалькі тэндэнцый.

Згодна з першай, ненаціскное *о* ў такіх словах не падпарадкоўвалася правілам беларускай фанетыкі. Такі падыход можна назіраць у шэрагу выданняў на наступных прыкладах: *апотэоз, дэмократычных, ізолёванай, колегія, конфіскацыя, корэктуру, протэстантызму, професіяналаў*, але, відавочна, як неўласцівая «памылка»: *натарыус* (Пол. 1925. № 7); *гэроічная, композытары, концэртных, моральна, політычныя, популярных, поэзію, поэта, пролетарыят, рэволюцыю, тэнорыстага, фортэп’яне, энцыклёпэдыстых* (Пол. 1927. № 2); *монографічны, мэтодолёгічныя, организацыю, поэты, програмны, пэдагогічнай, солідны, соцыолёгічнага, тэрмінолёгічнай* (Узв. 1928. № 5); *абсолютнае, географічнага, Геродота, Геродотаўскімі, документах, дыялектологія, еўропейскіх, ізоглосамі, корэктавацца, лёгічная, методы, офіцыяльнае, перыоду, проблематычнасцю, процэсе, Птолёмея, хронологія*

(ЗАГНФ; толькі аднойчы яўна памылкова прыведзена форма *Герадота*); *колгаснікі, колектывізацыі, комісараў, комітэт, консультант, контроль, корэктар, методычныя, мобілізавана, організацыі, політычнае, популярызаваць, профсаюзаў* і інш. (ВС 31; у асобных выпадках, аднак, у гэтым выданні можна сустрэць і засвоеныя напісанні: *сацыялістычнай, прамфінпланы*); *з контэксту, поэтычнай, конкрэтна, позыцый* (Узв. 1931. № 10); *доцэнт, колектывізацыя, пасляоперацыйная, фізыолёгічныя* (Ірг.); *горызонтальным, колона, комуна, комуністычнаму, конкрэтна, нормальную, операцыі, продукцыі, рэвольвернае, рэвольвершчык, соцыялістычнага* (Він.). Імкненне выдзяляць правапіс запазычаных слоў з ненаціскным *о* ў якасці непадпарадкаванага вядучаму правілу беларускай фанетыкі можна назіраць і ў шэрагу іншых выданняў 1920-х – пачатку 1930-х гг: ББ, НК, КооБ, СмАГ, Сярг., БЦЯ, Чуд. і шматлікіх іншых.

Поруч з тэндэнцыяй не адаптаваць запазычаныя словы да беларускай фанетыкі існавала і тэндэнцыя да засваення беларускай мовай такіх формаў, засведчаная ў асобных выданнях. Да ліку такіх выданняў належалі СБ, Зв., Асв., БК, КааБ, ЗЗ, Багд. і інш. Напрыклад, у «Зборы законаў...» сустракаем наступныя напісанні: а*рганізаваць, арганізацыйнага, браніяванне, калгаснікаў, калгасцэнтру, камбінатам, камісарыят, камісіях, камітэты, камунальных, камунізму, канцэнтрамі, капярацыю, нармавання, палітэхнічнаю, пралетарыяту, рэвалюцыйнаю, рэканструкцыю, сацыялістычнае, сацыяльнай* (ЗЗ 1930–1931).

Пераход да адаптаваных напісанняў быў уласцівы ў першую чаргу літаратуры, прызначанай для масавага чытача або малодшых школьнікаў. Як сведчыў у 1932 г. дырэктар ДВБ А. Некрашэвіч, у папярэднія гады дзейнічала завядзёнка не падпарадкоўваць запазычаныя словы правілам беларускай арфаграфіі (таму звычайнымі былі напісанні тыпу *соцыялізм, комунізм, тэлефон*), «зараз жа гэтыя словы там-сям пішуцца з аканнем (*сацыялізм, камунізм, целяфон*), прычым кожны піша так, як яму ўспадзе на розум. Гэта бязглуздзіца даходзіць да таго, што падручнікі I канцэнтру акаюць, а ўся іншая літаратура окае…» [707, с. 8–9]. Падобна, напісанне гэтай арфаграмы сапраўды магло дыферэнцыявацца ў тым ліку ў залежнасці ад узросту чытачоў. Напрыклад, неадаптаваныя формы тыпу *комуністыя, комуна, Комуністычнае, коопэрацыйных, коопэрацыю, рэволюцыя, пролетарыі, соцыялістычным*, *колектывізацыі, організаваць* сустракаюцца ў буквары для калгаснікаў і сельскагаспадарчых рабочых (ВС 30).

Тэндэнцыя не адаптаваць запазычанні з ненаціскным *о* на пераломе 1920–1930-х гг. усё яшчэ трымалася вельмі моцна, у тым ліку ў папулярнай літаратуры, не кажучы ўжо пра тое, што яе захоўвалі і некаторыя часопісы, чыя аўдыторыя, здавалася б, стымулявала б да пераходу да адаптаваных напісанняў. Тыя або іншыя падыходы маглі залежаць ад схільнасці той або іншай рэдакцыі. Напрыклад, часопіс «Наш край», аўдыторыя якога, бадай, была вельмі блізкая да кола чытачоў часопіса «Асвета», не адаптаваў правапіс запазычанняў. Калі ў 1927 г. у гэтых часопісах былі надрукаваны два падобных артыкулы, суаўтарамі

якіх былі Я. Лёсік і Л. Цвяткоў [682, с. 286–293], то адны і тыя ж арфаграмы часта былі рэалізаваны па-рознаму. У «Асвеце» фіксуюцца ўжыванні *тэрміналёгічная, астранамічную, псыхалёгічную, геалёгічную, пэдагагічную*, а ў часопісе «Наш край» – *тэрмінолёгічная, астрономічную, псыхолёгічную, геолёгічную, пэдагогічную* і да т. п.

На працягу 1932–1933 гг. некаторыя выданні перайшлі ад неадаптаванага напісання *о* ненаціскнога да адаптаванага. Такі зрух можна назіраць у часопісе «Полымя» на пераломе 1931–1932 гг. Калі ў апошнім нумары часопіса за 1931 г. выразна пераважалі неадаптаваныя напісанні (*колектывізацыі, компоненты, пролетарыят, процэсе, рэволюцыі, рэконструкцыя, соцыялістычная* і інш.), то ўжо ў першым нумары гэтага часопіса за наступны год знаходзім выразную тэндэнцыю адаптаваць правапіс такіх слоў (*анатамічны, арганізацыі, калгас, калектыў, маральна, пазіцый, перыад* і інш.). Падобную дынаміку можна назіраць у 1932 г. і на прыкладзе часопіса «Кніга – масам». Калі ў яго першым красавіцкім нумары выразна пераважалі неадаптаваныя напісанні (*бібліографіі, бібліотэчнае, колектыўна, контрабандаю, пролетарскае* і да т. п.), у другім-трэцім майска-чэрвеньскім нумары назіралася выразная экспансія адаптаваных напісанняў (*бібліаграфіі, бібліатэчнае, калгасаў, канстатуе, пралетарскіх*), то ў шостым-сёмым нумары неадаптаваныя напісанні сустракаліся пераважна ўжо толькі як выпадковыя памылкі. Летам 1932 г. перайшла на новы падыход газета «Літаратура і мастацтва». Падобны дрэйф заўважны і ў практыцы друку розных выдавецтваў у 1933 г. Так, БЦЯ і Чуд. былі падпісаны да друку ў лютым – сакавіку 1933 г. і, верагодна, таму захоўвалі «традыцыйныя» неадаптаваныя напісанні. Калі ж тэматычна падобная кніга Н. Багдашэўскага выдавалася трохі пазней (была падпісана да друку ў чэрвені 1933 г.), то ў ёй былі прыняты ўжо новыя стандарты.

Пры ўсёй «сукупнай» неўпарадкаванасці рэалізацыі дадзенай арфаграмы ў друку 1920-х – пачатку 1930-х гг. не выпадае, аднак, гаварыць аб поўным хаосе. Як відаць, неадаптаваныя напісанні былі ўласцівы найперш літаратуры, прызначанай для лепш адукаванага спажыўца. Падобна да сітуацыі ў Расіі XIX ст., дзе, паводле К. Грота, існаваў «дваякі правапіс, адзін – для прастамоўя, другі – для штылю» [45, с. 222], у 1920-я гг. у Беларусі рэалізацыя ненаціскнога *о* ў запазычаных словах выконвала ў значнай ступені стылеўтваральную функцыю. Аналагічная тэндэнцыя выяўлена на матэрыяле перыёдыкі Заходняй Беларусі, дзе пашырэнне «акання» ў запазычаннях было ўласціва найперш сельскагаспадарчым, арыентаваным на масавага чытача часопісам [65, с. 34–35]. Паколькі стваральнікі тэкстаў усведамлялі іх функцыянальнае прызначэнне, пастолькі стылістычная маркіраванасць таго або іншага напісання гэтай арфаграмы ў тых або іншых відах тэкстаў адчувалася даволі добра, у выніку напісанне ў розных выданнях было адносна ўпарадкаваным. Пацвярджэннем асэнсавання стылістычнай дыферэнцыяцыі розных напісанняў можа служыць наступны прыклад.

Газета «Савецкая Беларусь» адна з першых стала ўжываць адаптаваныя формы. Так, напрыклад, у апублікаваным у студзені 1923 г. артыкуле «Нацыянальнае пытанне і пралетарыят», пададзеным да друку Я. Лёсікам, выкарыстоўваліся пераважна адаптаваныя напісанні (*арганізацыю, арганізованую, камуністычнай, манархіі, палітычна, прадукт, прадукцыйных, пралетарыят, прафэсіі*), а неадаптаваныя (*фэодалізму, фэодальны, тэрыторыяльная, географічных, профэсыянальнымі*) фіксуюцца хутчэй як выключэнні. Між тым, калі ў сакавіку 1923 г. на старонках «Савецкай Беларусі» ў перакладзе таго ж Я. Лёсіка быў апублікаваны кананічны твор камуністычнай ідэалогіі – «Маніфест Камуністычнай партыі» К. Маркса і Ф. Энгельса, – то насуперак ранейшай практыцы ў ім выразна пераважалі – трэба думаць, стылістычна «высокія» – неадаптаваныя формы (*готыцкіх, колёнізацыя, комуністычны, комуністым, констытуцыйнай, космополітычны, опозіцыйныя, політычна-економічнай, продукцыі, пролетарскага, рэволюцыі, социялізму, тэрмінолёгіі, філёзофскай*).

У асобных выпадках можна было назіраць сітуацыю, калі нейкія ідэнтычныя або падобныя выданні, выкарыстоўваючы нейкі час адаптаваныя напісанні, пазней, аднак, ішлі «супраць цячэння» і пераходзілі на, здавалася б, неперспектыўныя неадаптаваныя арфаграмы. Параўн. у гэтым плане выдавецкую практыку двух розных, але тэматычна ідэнтычных аднайменных часопісаў – «Кааперацыя БССР» (органа кааператыўных цэнтраў БССР, Белсельбанка і Усекабанка; выдаваўся ў 1929–1930 гг.) і «Кооперацыя БССР» (органа Белкаапсаюза і Белсампрамсаюза, выдаваўся ў 1930–1931гг.). Калі першаму былі ўласцівы адаптаваныя напісанні, то другі часопіс праігнараваў папярэднюю практыку роднаснага выдання і ад пачатку схіліўся да неадаптаваных арфаграм. Яшчэ больш выразна гэтую ж тэндэнцыю можна назіраць на прыкладзе выданняў 1930 і 1931 гг. адной і той жа крыніцы: «Кодэкса аб працы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». І тут у пазнейшым выданні на адрозненне ад папярэдняга быў прыняты падыход, згодна з якім Тарашкевічаў падзел меў сілу: *Сацыялістычнай Савецкай, пралятарыі, кааперацыйных, каляктыўны, расцэначна-канфліктнае, па пратэсту, прафесійнага* (Код. 30); *Соцыялістычнай Совецкай, пролетары, кооперацыйных, колектыўны, расцэначна-конфліктнае, па протэсце, професіянальнага* (Код. 31).

У асобных выпадках можна назіраць (верагодна, міжвольную) дыферэнцыяцыю напісанняў з *о* або *а* нават у межах аднаго і таго ж тэксту. Напрыклад, у шостым-сёмым нумары часопіса «Беларусь калгасная» за 1932 г. быў апублікаваны артыкул «Ідэёвая і мастацкая якасць творчасці закліканых у літаратуру ўдарнікаў». У ім, як і ў цэлым у часопісе, фіксуюцца пераважна адаптаваныя напісанні (*арганізацыйным, камбайн, канкрэтным, палітычны, пралетарска-калгасных паэтаў, загадваў паэтычнымі справамі* і інш.). Аднак у асобных выпадках, калі нейкі фрагмент тэксту можа здавацца стылістычна больш высокім (*поэтычнай культуры, поэтычнай тэхнікі* <...> *прадмет по-*

*этычнага захаплення мае вельмі вялікае сімптоматычнае значэнне*), у ім сустракаюцца неадаптаваныя арфаграмы.

Складана сказаць, у якой меры на замацаванне напісанняў з *о* ўплывала тагачаснае вымаўленне запазычаных слоў. Вядома, што ў рускім вымаўленні пачатку ХХ ст. многія адукаваныя прадстаўнікі старэйшага пакалення мелі схільнасць у шэрагу выпадкаў дакладна ўзнаўляць чужаземныя гукі і вымаўляць *поэт* (не *паэт*), *јакобинец* (не *јекабинец*), *п[о]эма, пр[оф]эссор, б[о]кал, в[о]кзал, к[о]манда, к[о]миссия, к[о]мпания, к[о]мплект, к[о]мпот, к[о]мпресс, л[о]рнет, м[о]нарх, н[о]тариус* і да т. п. Такое вымаўленне кваліфікавалася мовазнаўцамі таго часу «штучным, занадта кніжным» [278, с. 147–148]. Праўдападобна, апазіцыя *элітарнае – дэмакратычнае*, якая мела месца пры рэалізацыі фанемы *о* ў вымаўленні прадстаўнікоў розных сацыяльных класаў, носьбітаў рускай мовы, у нейкай ступені была рэлевантнай і ў беларускай сітуацыі.

Насуперак паступоваму ўсведамленню ў асяроддзі мовазнаўцаў патрэбы адмовіцца ад усталяванай завядзёнкі размяжоўваць добра засвоеныя запазычаныя словы ад засвоеных слаба узусу 1920-х – пачатку 1930-х гг. было пераважна ўласціва імкненне не падпарадкоўваць запазычанні з ненаціскным *о* правілу беларускага акання. Такое выдзяленне пацвярджае, што адаптацыя запазычаных слоў не абавязкова можа здзяйсняцца хутка. У сітуацыі, калі вялікая колькасць з'яў літаратурнай мовы паходзіла з народнай, існаваў попыт і на «ненародныя» моўныя сродкі, суадносныя з маўленчымі звычкамі больш адукаванай часткі беларускага грамадства. Сімптаматычна, што ва узусе ў значнай ступені былі праігнараваны намаганні лінгвістаў другой паловы 1920-х гг. урэгуляваць напісанне гэтай арфаграмы на карысць пашырэння акання. Тэндэнцыя больш шырока прымяняць аканне ў запазычаных словах больш выразна праявілася толькі з 1932 г., калі ў Беларусі моцна змянілася палітычная і культурная сітуацыя.

## 4.2. МАРФАЛОГІЯ. АДПРЫМЕТНІКАВЫЯ НАЗОЎНІКІ НА *-ІСТЫ*

Адпрыметнікавыя назоўнікі на *-істы/-ысты* даволі добра асветлены ў навуковай літаратуры. Па-першае, існуе грунтоўны артыкул А. Абрэмбскай-Яблонскай, у якім яны разглядаюцца на польска-ўкраінскім фоне, пры гэтым у дадзенай працы абмяркоўваюцца ў тым ліку пытанні пра тое, чаму назоўнікі на *-ist, -ista* перамясціліся ў групу з прыметнікавай флексіяй і якія фактары пазней

садзейнічалі выцясненню гэтай інавацыі [5]. Па-другое, вельмі канкрэтныя храналагічныя вехі адносна ўжывання формаў на *-іст, -іста* прыведзены ў калектыўнай «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» [175, с. 227–228]. Так, паведамляецца, што першапачаткова запазычаныя словы са значэннем асобы з суфіксамі *-іст, -іт, -эт, -ат* адносіліся да назоўнікаў з нулявым канчаткам, але з цягам часу ўсё часцей сталі афармляцца «па прыметнікавым скланенні: *паэта, патрыёта, камуніста, марксіста, пейзажыста, сымбаліста*». Паводле аўтараў «Гісторыі…», з 1924–1925 гг. формы тыпу *тэрорыстых, марксыстыя, экономістыя, соцыялістыя* і г. д. сталі адзінай нормай, аднак з 1928 г. зноў пачалі ўжывацца формы на *-іст/-ыст*, прычым у 1930 г. яны набылі значэнне факультатыўнай нормы. Нарэшце, выкарыстанне назоўнікаў на *-істы/-ысты* ў беларускай мове было разгледжана ў адносна нядаўнім артыкуле А. Хромчанка, дзе абмяркоўваецца пытанне аб тым, ці ў старабеларускай мове назоўнікі такога тыпу зазналі ўплыў з боку старапольскай, а таксама выказваюцца версіі адносна таго, чаму ўзнікла прыметнікавае скланенне такіх назоўнікаў [371]. Дадзеныя працы, аднак, не вычэрпваюць праблематыкі ўжывання ў беларускай літаратурнай мове 1920-х – пачатку 1930-х гг. адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы/-ысты*.

Адказваючы на пытанне пра імпульсы, якія спрыялі перамяшчэнню назоўнікаў на *-ist, -ista* ў групу з прыметнікавай флексіяй, А. Абрэмбска-Яблонска трапна акрэсліла цэлы комплекс прычын, які мог садзейнічаць такому зруху: а) тагачасная («своечасовая») тэндэнцыя да асіміляцыі іншамоўных суфіксаў уласнымі словаўтваральнымі структурамі; беларускія інавацыі на *-істы* тыпу *рэалісты, лінгвісты* з'яўляліся рэалізацыяй «пошукаў уласных шляхоў» засваення новых разрадаў запазычаных слоў; б) наяўнасць у беларускай мове іншых падобных асабовых субстантываваных прыметнікаў (тыпу *араты, прыганяты* або *паляўнічы, ляснічы*); в) наяўнасць формаў тыпу *гармалісты, арганісты* ў народнай мове і эпізадычнае адлюстраванне іх у лексікаграфічных крыніцах (слоўнік І. Насовіча і нейкі неназваны слоўнік 1920-х гг.); г) выключная лёгкасць ва ўтварэнні такіх прыметнікаў [5, с. 23–25]. Паводле А. Хромчанка, знешнім імпульсам, які паспрыяў перамяшчэнню назоўнікавых утварэнняў на *-іста, -іст* у групу назоўнікаў з прыметнікавым фармантам, было «накладванне розных моўных пластоў: лацінскага і царкоўнаславянскага, пазней – польскага і расійскага». Аднак галоўным штуршком для такога пераходу з'явіліся, згодна з А. Хромчанка, унутрымоўныя фактары [371, с. 26–27].

На думку А. Абрэмбскай-Яблонскай, прычынай выцяснення гэтай інавацыі стаў клопат з (празмерным) багаццем (*«embarras de richesse»*): у беларускай мове не маглі адначасова ўжывацца тры словаўтваральныя мадэлі з тоеснай функцыяй і пашыранасцю ўжывання. (На жаль, А. Абрэмбска-Яблонска ніяк не абмяркоўвае сведчання аўтараў «Гісторыі…» аб выключнай ужывальнасці назоўнікаў на *-істы* ў 1924–1925 гг.). Выбар формаў на *-іст*, паводле даследчыцы, абумовілі наступныя чыннікі: а) узмацненне сувязей Беларусі з Расіяй

і як вынік распаўсюджванне расійскіх утварэнняў на *-ист*; б) «патрабаванне самой сістэмы мовы»: пры суфіксе *-ist* флексійная парадыгма аказваецца больш простай, чым пры выкарыстанні суфікса *-ista*; в) узнікненне, прынамсі, сінтаксічнай супярэчнасці з вельмі прадуктыўнымі прыметнікамі на *-істы* [5, с. 23–25]. На неадпаведнасць адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы/-ысты* сістэме беларускай мовы як на прычыну іх выхаду з ужывання паказваюць таксама аўтары калектыўнай «Гісторыі…», пішучы, што такое развіццё ў сістэме беларускай літаратурнай мовы «аказалася ўсё ж нездавальняючым, чужародным» [175, с. 227]. На іх думку, адмена такіх канчаткаў рэформай беларускай мовы 1933 г. «была падрыхтавана ўсім папярэднім развіццём мовы і моўнай практыкай» [175, с. 228]. Згодна з А. Хромчанка, скасаванне формаў на *-істы* рэформай 1933 г., наадварот, з'явілася фактам «умяшання ў моўныя працэсы», якое «не паспрыяла натуральнаму развіццю нашай мовы». Даследчыца лічыць, што ў сучаснай сітуацыі трэба ставіць пытанне аб вяртанні ў літаратурную мову такіх назоўнікаў у якасці варыянтнай нормы, іх вяртанне спрыяла б абагачэнню стылістычнай сінанімікі нацыянальнай мовы беларусаў [371, с. 27].

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што сярод прыведзеных А. Абрэмбскай-Яблонскай аргументаў *pro et contra* колькасна пераважаюць аргументы, пададзеныя за выкарыстанне такіх формаў. Здаецца таксама, што спасылка А. Абрэмбскай-Яблонскай і аўтараў калектыўнай «Гісторыі…» на сістэму мовы ў дадзеным выпадку не выглядае асабліва абгрунтаванай. Па-першае, флексійная парадыгма І скланення назоўнікаў (на *-ist*), папраўдзе, можа выглядаць больш простай у параўнанні з парадыгмай скланення назоўнікаў на *-іста*, але ў параўнанні з парадыгмай скланення адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы* яна такой не з'яўляецца. Па-другое, у развагах даследчыцы мала ўлічаны узус 1920-х гг., з якім яна, падобна, не была знаёма. Як вядома, «ціск ужывання», калі ён бывае асабліва моцны, часам здольны карэкціраваць тыя або іншыя вымогі «сістэмы» мовы, якія ў такіх выпадках могуць «саступаць». Далей мы прысвецім больш увагі акурат узусу, ужывальнасці адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы/-ысты* ў беларускай літаратурнай мове 1920–1930-х гг.

Паводле нашых дадзеных, формы тыпу *тэрорыстых, марксыстыя* былі адзінай нормай беларускага друку ў савецкай Беларусі не па 1927 г., а па сярэдзіну – канец 1930 г. уключна. Так, падобныя формы фіксаваліся ў шматлікіх выданнях 1929–1930 гг.: *капіталістым* (АВШ), *тэлеграфістага, стэнаграфістага* (Араб.), *спецыялістых* (Бах.), *ухілістых, камуністага, апартуністымі, марксістых, эканамістых* (ББ 1930), *ухілістых, спецыялістых, капіталістых, сацыял-фашыстых* (БРіС 1930), *машыністаму* (Брук), *капіталістых, фашыстымі* (ВС 30), *актывістага*, *авантурыстым* (Глад.), *футбалістага* (Гольд), *капіталістых* (Гарб. 30), *машыністаму* (Дашк.), *спецыялістых, металістых, камуністых, амерыканскі журналісты, нацыянал-апартуністых* (Зв. 1930), *інтэрнацыяналістыя, кавалерыстых, артыстых, цымбалістых, гарманістых* (ЗПК), *капіталістых* (КааБ 1930), *шавіністых* (КВ 1930), *спецыялістых*-гароднікаў (Крас.), *спецыялістых* (ПА 1929) і г. д.

У часопісе «Узвышша» такія формы ўжываліся і ў канцы 1931 г. Усяго ў нашым (зразумела, невычарпальным) матэрыяле зафіксавана больш за 140 ужыванняў 1930 г. формаў на *-істы, -ысты*, якія сустрэліся ў 25 кнігах розных тыпаў, шасці часопісах і дзвюх газетах. Формы на *-істы* ўжываліся ў гэты час як у папулярнай літаратуры, так і ў спецыяльных выданнях (напрыклад: Бах., КааБ, Крас., ПА). Ужывальнымі яны былі і ў лінгвістычнай літаратуры – як савецкай [551, с. 32], так і заходнебеларускай [532, с. 72]. Дадзеныя формы шырока выкарыстоўваліся ў партыйнай літаратуры, параўн. выданні тыпу «Бальшавік Беларусі» або «Камуністычнае выхаванне». У другой палове 1920-х гг. у Беларусі ўзніклі некалькі таварыстваў, у назве якіх была зафіксавана форма *марксістых*: «Таварыства *марксістых*-дзяржаўнікаў», «Таварыства гісторыкаў-*марксістых*», «Таварыства літаратуразнаўцаў-*марксістых*». У 1925 г. з № 41 выданне «Малады *камуніст*» змяніла сваю ранейшую назву на «Малады *комуністы*». У канцы 1920-х гг. у беларускай літаратурнай мове, падобна, не існавала ніякіх абмежаванняў на выкарыстанне формаў на *-істы*. Сферы дзеяння адпрыметнікавых канчаткаў на *-істы*, згодна з нашым матэрыялам, у 1926–1931 гг. падлягалі як мінімум 70 лексем: *авантурысты, актывісты, акулісты, апартуністы, арганісты, артылерысты, артысты, баптысты, белетрысты, гарманісты, дзекабрысты, дарвіністы, журналісты, ідэалісты, імперыялісты, інтэрвенцыяністы, інтэрнацыяналісты, кавалерысты, каланісты, калектывісты, камуністы, канструктывісты, кантрабандысты, капіталісты, кар'ерысты, кінасцэнарысты, марксісты, машыністы, метадысты, металісты* і інш. Увайшоўшы ў беларускую літаратурную мову ў другой палове 1920-х гг., некаторыя формы (напрыклад, *футбалісты, трактарысты*), падобна, у гэты час увогуле не мелі ў беларускай мове аналагаў на *-іст*. Відаць, у другой палове 1920-х гг. утварэнні на *-істы* ахоплівалі ўсе адпаведныя лексемы. Параўн. у гэтым плане тую акалічнасць, што адпрыметнікавае скланенне ў асобных выпадках пашыралася і на назоўнікі на *-аст/-яст (энтузіястых)*, а таксама ўжыванне з прыметнікавымі суфіксамі вытворных (*паўфельетаністага, нацфашыстыя, спецыялістых-гароднікаў, марксісты-тэарэтык, інтэлігент-індывідуалісты, практык-юрысты*) і некаторых унікальных формаў тыпу *унанімістым* (ад назвы французскага мастацкага напрамку «Unanimité»), *клартыстыстымі* (ад назвы напрамку «Clarté») (Пол. 1926), *тэнарыстага* (Пол. 1927), *паэтыстых* (Пол. 1928). Пра нарматыўнасць адпрыметнікавых формаў на працягу другой паловы 1920-х – 1930 гг. могуць сведчыць назвы наступных кніг: «Што павінны рабіць *камуністыя* на вёсцы» У. Капітонава (1925), «Памятка *камуністаму* ў баі» К. Падсоцкага (1928), «У дапамогу *прапагандыстаму* і агітатару» (1929), «Дапаможнік *трактарыстаму*» Д. Карэльскіх (1930). Формы на *-істы* сустракаюцца ў шматлікіх газетных загалоўках таго часу: «падрыхтоўка кадраў *спецыялістых*», «прадстаўнік *металістых* БССР», «Прэч з партыі нацыянал-*апартуністых*» (Зв. 1930).

Пад уплывам пісьмовай практыкі формы на *-ісцы* ўжываліся і ў вусным маўленні, у тым ліку дзіцячым. У адной з прац знаходзім наступную вытрымку з школьнага сачынення: «*Жарабок бег наўзавады паперадзі паравоза. Машыністы застанавіў цягнік*» [700, с. 97].

Прымушае задумацца наступны феномен. Нягледзячы на тое што формы на *-ісцы* былі інавацыйнымі і ў цэлым былі нешырока прадстаўлены ў народнай мове, насуперак пераважна «народнаму» характару беларускай літаратурнай мовы на працягу некалькіх гадоў яны вельмі шырока ўжываліся ў літаратуры ўсіх відаў, фактычна амаль зусім выцясніўшы альтэрнатыўныя «народныя» і асвечаныя традыцыяй канчаткі на *-іст/-іста*. У вусным маўленні сітуацыя, бадай, не была такой адназначнай, і формы на *-іст* у ім хутчэй у нейкай ступені захоўваліся. Тут сутыкаемся з адным з выпадкаў, калі пэўны словаўтваральны тып асвоіўся ў пісьмовай літаратурнай мове вельмі хутка, можна сказаць, «імгненна». Прычынай такога становішча з'яўляецца, верагодна, спецыфічнасць гістарычнага этапу, перажыванага беларускай літаратурнай мовай у сярэдзіне – канцы 1920-х гг., асаблівасці выкарыстання ў літаратурнай мове першай паловы 1920-х гг. формаў на *-іст/-іста*, а таксама канал, праз які формы на *-ісцы* ўвайшлі ў літаратурную мову. У сярэдзіне – канцы 1920-х гг. беларуская літаратурная мова дзеля стылістычных прычын або сцвярджэння сваёй самабытнасці магла ў асобных выпадках убіраць у якасці нарматыўных не пашыраныя ў гаворках з'явы, а рэдкія рысы беларускага дыялектнага арэала. Пэўнай праблемай ужывання першай паловы 1920-х гг. была, падобна, частая канкурэнцыя паміж формамі на *-іст* і *-іста* як сведчанне расійскіх і польскіх уплываў; таму «кампрамісная» (нерасійская і няпольская) форма на *-ісцы* магла здавацца ў такой сітуацыі найбольш падыходнай для яе выкарыстання ў беларускай мове. Што да канала пранікнення назоўнікаў на *-ісцы* ў беларускую літаратурную мову, то, паводле сведчання М. Байкова, такія формы ўпершыню былі выкарыстаны Я. Лёсікам у працэсе перакладу «Камуністычнага маніфеста» [539, с. 161]. Папраўдзе, Я. Лёсік непаслядоўна выкарыстоўваў формы на *-ісцы* ў сваіх творах і раней, параўн.: *бывала, ідзе семінарысцы* (НН 1914); *капіталісцымі* (СБ 1923, студзень). Сярод запазычанняў і наватвораў дакастрычніцкага перыяду аўтары калектыўнай «Гісторыі…» згадваюць толькі формы на *-іст/-іста*, але не прыводзяць формаў на *-ісцы* [175, с. 148]. Паспяховаму пранікненню адпрыметнікавых назоўнікаў на *-ісцы* ў беларускую літаратурную мову магла спрыяць таксама іх наяўнасць у такіх аўтарытэтных лінгвістычных працах, як слоўнік І. Насовіча (дзе прыводзіліся формы *арганистый, басистый*) і «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча (дзе ў якасці прыкладу асвоенага запазычанага слова прыводзілася ў тым ліку форма *арганісцы*).

Тагачасныя беларускія камуністы, верагодна, шырока карысталіся ў сваёй дзейнасці беларускім перакладам камуністычнага маніфеста, які ў сакавіку 1923 г. быў надрукаваны ў газеце «Савецкая Беларусь», а ў 1924 г. выйшаў асобным выданнем. Ужытыя ў перакладзе формы тыпу *камуністым* сталі ва

ўяўленні чытачоў гэтага твора «кананічнымі», прынамсі, яны не здаваліся «няправільнымі». Калі дадаць тое, што многія камуністы – вельмі ўплывовая страта з пункту гледжання распаўсюджвання тых або іншых моўных з'яў – нярэдка дрэнна ведалі беларускую народную мову, што ў гэты час была пэўная кан'юнктура на сцвярджэнне адметных рысаў беларускай літаратурнай мовы, а таксама тое, што ў працэсе фарміравання апошняй у 1920-я гг. у ёй часам дзейнічала тэндэнцыя да элітарнасці, то трыумфальнае шэсце ў беларускай літаратурнай мове з 1923–1925 гг. формаў на *-істы* становіцца тым больш зразумелым. Цікава, што ў некаторых грамадска-палітычных выданнях (напрыклад, ЛА 31) формы на *-істы* працягвалі ўжывацца яшчэ ў 1931 г., калі ў іншых відах літаратуры яны ўжо пачыналі адступаць. Зрэдку асобныя лінгвісты прапаноўвалі адмовіцца ад выкарыстання назоўнікаў на *-істы* [539, с. 161; 551, с. 51], але такія прапановы не выклікалі асаблівага энтузіязму ў мовазнаўчым асяроддзі. Паказальна, што ў 1926 г., у час, калі формы на *-істы* ўжо фактычна сталі адзінымі нарматыўнымі, на Акадэмічнай канферэнцыі ніхто з дыскутантаў нават не закрануў гэтага пытання.

Асаблівасцю ў выкарыстанні формаў на *-істы* было тое, што яны ўжываліся толькі ў дачыненні да назваў асоб мужчынскага полу, аднак ніколі не выкарыстоўвалі канчатка жаночай парадыгмы (тыпу **авантурыстая, *актывістая, *акулістая, *апартуністая, *артыстая, *баптыстая* і да т. п.). У адпаведных выпадках, калі была патрэба пазначыць жаночы пол асобы, ужывалася форма на *-іст* з суфіксам *-к-а*; параўн.: *тэлеграфістага, стэнаграфістага* і *тэлефаністкі* (Араб.), *масажыстка; гімназісты, гімназістка* [551]. З аднаго боку, можна гаварыць у дадзеным выпадку пра пэўную непаўнацэннасць адпрыметнікавых назоўнікаў, якія не намінавалі асоб жаночага полу. З другога – гэтае абмежаванне, відаць, абумоўлівалася ў пэўнай ступені пазамоўнай рэчаіснасцю: формы на *-істы* ў 1920-я гг. выкарыстоўваліся ў дачыненні да носьбітаў найперш «мужчынскіх» прафесій; параўн., напрыклад, *акулісты, апартуністы, гарманісты, дзекабрысты, журналісты, імперыялісты, кавалерысты, капіталісты, машыністы, металісты* і інш. Падобна, размежаванне родавых формаў на тыя, што выкарыстоўвалі фіналі *-істы* (мужч. род) і *-істка* (жан. род), не выклікалі асаблівага дыскамфорту ў карыстальнікаў беларускай мовы. Таму можна меркаваць, што выключна маскулінны характар формаў на *-істы* не меў істотнага ўплыву на будучы выхад такіх формаў з ужытку.

Прычыны заняпаду формаў на *-істы* былі, верагодна, экстралінгвістычныя. Да такога вываду схіляе храналогія заняпаду адпрыметнікавых назоўнікаў у беларускай мове. Як ужо зазначана, яны сталі падлягаць эрозіі з сярэдзіны 1930 г., да гэтага часу не было ніякіх прыкмет магчымага заняпаду такіх формаў. Калі ў 1930 г. былі арыштаваны вядучыя лінгвісты С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, П. Бузук, В. Ластоўскі і іншыя, калі ў друку шырока папулярызаваліся думкі аб шкодніцтве арыштаваных лінгвістаў, «штучныя» формы на *-істы* сталі ўспрымацца перадусім як навязаныя мовазнаўцамі-шкоднікамі. Насуперак

стабільнаму ўжыванню ранейшага часу з чэрвеня 1930 г. на старонках газеты «Савецкая Беларусь» поруч з формамі тыпу *калектывістага, фашыстымі, імперыялістых, камуністыя, прапагандыстых* сустракаюцца ўжо і формы на *-іст*: *камуністамі, камуністаў, спецыялістаў*. Насуперак ужыванню ранейшага часу ў № 10–12 часопіса «Бальшавік Беларусі» за 1930 г. поруч з формамі на *-істы* тыпу *марксістых, марксістага, марксістымі, камуністых, прапагандыстых, апартуністымі* і інш. фіксуюцца і формы *манапалістаў, «спецыялістаў», камуніст*. На працягу 1931 г. у часопісе «Бальшавік Беларусі» формы на *-істы* паступова замяняліся назоўнікамі на *-іст*: *апартуністых, шавіністых, трацкістых, марксістых, дзекабрыстых* поруч з *шавіністаў, нацыянал-фашыстаў, сіяністаў* (№ 1–2), *трацкістам, ухілістам, імперыялістаў* (№ 4), *нацыянал-фашыстаў, фашысты* (мн. л.), *сацыял-федэралістаў, капіталістаў, сацыял-шавіністаў, утапістамі, інтэрнацыяналістаў, камуніста* (родн. скл.), *эканамістаў, каланістаў* поруч з *нацыянал-фашыстымі, нацфашыстыя, фашыстымі* (№ 5–6), *кавалерыстаў, ухілістаў, трацкістам, камуністаў* (№ 12). Пасля 1930 г. у некаторых выданнях ранейшых кніг на месцы колішніх формаў на *-істы* сталі выкарыстоўвацца формы на *-іст*: *з доктарам спецыялістым* (Поляк С 30) – *з доктарам спецыялістам* (Поляк С 32). У некаторых выданнях, якія займалі спецыфічную моўную пазіцыю або былі падначалены пісьменніцкай арганізацыі, формы на *-істы* ўтрымаліся пазней за 1931 г., параўн.: *фармалістага, трактарыстых* (БК 1932, № 5, 8), *фаталістым, інтэрвенцыяністыя* (ЛіМ 1933. 6 студз.).

Ужыванне ў беларускай літаратурнай мове другой паловы 1920-х – пачатку 1930-х гг. адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы* дэманструе даволі цікавы выпадак, калі пэўная рэдкая моўная рыса пасля перыяду дынамічнага ўздыму і стабільнага ўжывання ў літаратурнай мове раптоўна занепадае з-за прычын экстралінгвістычнага характару.

## 4.3. ЛЕКСІКА

### 4.3.1. ВАНДРОЎНЫЯ ЗАПАЗЫЧАННІ-КАЛЬКІ

У працах па гісторыі беларускай літаратурнай мовы і гістарычнай лексікалогіі заўважана, што для некаторай часткі лексікі не можа быць прапанавана адназначная генетычная інтэрпрэтацыя. Напрыклад, М. І. Крукоўскі звяртаў увагу на тое, што словы тыпу *падпісчык, укладчык, раздзел*, а таксама некаторыя іншыя тыпы дэрыватаў могуць адначасова кваліфікавацца і як калькі з рускай мовы, і як запазычанні з яе; даследчык прапаноўваў разглядаць такія словы як

пераходны тып паміж запазычаннямі і калькамі [179, с. 94, 109]. А. Я. Баханькоў таксама дапускаў вылучэнне «запазычаных слоў з калькаваным суфіксам» у якасці асобнай катэгорыі слоў, якая займае прамежкавае становішча паміж запазычаннямі і калькамі [20, с. 95].

Пра аб'ектыўную складанасць інтэпрэтацыі паходжання некаторых слоў могуць сведчыць некаторыя супярэчлівыя выпадкі, зафіксаваныя ў літаратуры. Часам адны і тыя ж словы пад пяром розных аўтараў (часам нават адных і тых) атрымліваюць неаднолькавыя трактоўкі. Напрыклад, ужываная Ц. Гартным форма *супроцьны* ў 1920-я гг. кваліфікавалася Я. Лёсікам як унікальны аўтарскі наватвор [682, с. 329]. У адным месцы калектыўнай манаграфіі па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, а таксама ў манаграфіі А. Баханькова гэта слова згадваецца сярод вузкіх дыялектызмаў [175, с. 238; 20, с. 52–53]. У іншым месцы калектыўнай манаграфіі тое самае слова (ужытае ў Зборы законаў 1925 г.) кваліфікавана ўжо як калька з рускай мовы [175, с. 259].

З улікам недастатковай вывучанасці лексічнага складу беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг., словаўжывання розных тагачасных пісьменнікаў і народных гаворак падобная супярэчнасць адлюстроўвае аб'ектыўную складанасць адэкватнай кваліфікацыі многіх ужываных у 1920-я гг. слоў. Падобныя складаныя для інтэрпрэтацыі «амбівалентныя» лексічныя разрады рэдка даследаваліся ў беларускім мовазнаўстве.

Для высвятлення паходжання беларускіх утварэнняў апошніх дзесяцігоддзяў прапануецца ўлічваць цэлы шэраг фактараў, такіх як асаблівасці паняцця, якое перадаецца (ужо існуючае ці новае, тэрміналагічнае ці бытавое), спецыфічныя рысы словаўтваральнай сістэмы мовы, становішча новага слова ў лексічнай сістэме, дадзеныя гісторыі і дыялекталогіі, знешнія сувязі мовы, гістарычныя традыцыі ў міжмоўных адносінах [374, с. 109]. Зразумела, што па меры адыходу ад сучаснасці і «апускання» ў гісторыю сітуацыя можа выглядаць яшчэ больш складанай. Адэкватная кваліфікацыя шэрагу слоў з ліку тых, якія будуць разглядацца ў гэтым і наступных параграфах, часам уяўляе складанасць і не заўсёды можа быць адназначнай і катэгарычнай.

Група вандроўных запазычанняў-калек (ням. *Wanderlehnprägung,* англ. *migratory calque*) у якасці самастойнай у беларускай лінгвістыцы не вылучаецца. Такімі калькамі называюцца словы, якія, быўшы ўтворанымі ў якой-небудзь мове, пазней пераходзілі, «вандравалі», запазычваліся з адной мовы ў другую [500; 502]. Параўн.: ням. *Einfluss* 'уплыў', венг. *befolyás,* польск. *wpływ,* чэш. *vliv,* серб. *уплив,* харв. *utjecaj,* макед. *уплив,* укр. *вплив,* бел. *уплыў*; ням. *Zeitschrift* 'часопіс', нідэрл. *tijdschrift,* чэш., слвц. і харв. *časopis,* укр. *часопис,* бел. *часопіс*; ням. *Vorurteil* 'забабон', венг. *előítélet,* чэш. *předsudek,* харв. *predsuda,* польск. *przedsąd* і інш. Групу вандроўных калек у розных мовах звычайна складаюць абстрактная, культурная лексіка, навуковыя тэрміны, якія ўжываюцца замест агульназаходнееўрапейскіх (лацінскіх або грэчаскіх па паходжанні) запазычанняў. Параўн.: ням. *Umfang* 'перыметр', чэш. *obvod*, польск. *obwód,*

бел. *абвод* vs. фр. *périmètre*; ням. *Lebensbeschreibung* 'біяграфія', венг. *életrajz,* чэш. і харв. *životopis*, укр. *життєпис,* бел. *жыццяпіс vs.* фр. *biographie*; ням. *Durchmesser* 'дыяметр', венг. *átmérő,* чэш. *průměr,* бел. *прамер vs.* фр. *diamètre*; ням. *Bücherei* 'бібліятэка', венг. *könyvtár,* харв. *knjižnica,* слвц. *knižnica,* бел. *кніжніца vs.* фр. *bibliothèque*. Пласт вандроўных калек у славянскіх мовах сфарміраваўся ў час нацыянальнага адраджэння, у перыяд цесных культурных кантактаў, які характарызуецца «многімі калектыўнымі рэалізацыямі ў галіне культурна-моўнага будаўніцтва, якія не страцілі свайго значэння і ў нашы дні» [245, с. 39–40]. Для адэкватнай кваліфікацыі вялікай колькасці славянскіх неалагізмаў пошук у рамках канкрэтных «ізаляваных» моў можа выглядаць недастатковым; пры характарыстыцы некаторых славянскіх неалагізмаў XIX ст. М. Кандрашоў дадае азначэнне «цэнтральнаеўрапейскія» [172, с. 106].

У беларускай мове вандроўныя калькі існуюць у цалкам адаптаваным выглядзе, не маючы ніякіх адзнак чужароднасці. Толькі карпатлівы гістарычны і лінгвістычны аналіз можа даць дадзеныя адносна характару таго ці іншага слова. Пытанне, ці з'яўляецца падобнага тыпу лексіка запазычанай або ўласнай, патрабуе даследавання для кожнага канкрэтнага выпадку. Магчымыя спецыфічныя акалічнасці, звязаныя з канкрэтнай гісторыяй узнікнення і адаптацыі ў беларускай мове канкрэтных слоў, пакажам на прыкладзе слова *адраджэнне*.

Бел. ***адраджэнне***. Параўн.: укр. *відродження*, польск. *odrodzenie*, чэш. *obrození*, в.-луж. *wozrodźenje*, ням. *Wiedergeburt*, венг. *újjászuletés*.

Упершыню ў беларускай мове слова ***адраджэнне*** (у форме ***адрадзэнне***) фіксуецца, бадай, у 7-м нумары газеты «Наша ніва» за 1908 г. У матэрыяле пра Беларускую нацыянальную суполку («хеўру») Глухаўскага настаўніцкага інстытута Я. Журба пісаў: *Працуюць над* ***адрадзэннем*** *украінцоў многа вучоных людзей, як прафэсар М. Грушэўскі, праф. Сумцоў, Грынчэнко, Левіцкі, Франк і другіе*. Гэта слова абазначала працэсы пачатку стагоддзя, звязаныя з імкненнем адрадзіць колішнюю веліч беларускага народа, дабіцца яго раўнапраўя ў рамках Расійскай імперыі. Як такое слова ***адраджэнне*** сталася дарэчы дзеячам беларускага нацыяналізму, і ўжо ў 9-м нумары газеты за 1908 г. яно было ўжыта рэдактарам-выдаўцом «Нашай нівы»: *І абрусіцельные, і «истинно-польские» газеты ніяк не хочуць прызнаць, што беларусы маюць права жыць як асобная нацыя, ды стараюцца запыніць беларускі народны рух* ***(адрадзэнне)***. Відавочная непасрэдная ўкраінская крыніца беларускага слова: у 1908 г. і на пачатку 1909 г. яно стала ўжывацца на старонках газеты перадусім дзякуючы дзейнасці Я. Журбы, звязанай з арганізацыяй публікацыі ў «Нашай ніве» перакладу нарыса ўкраінскага дзеяча З. Дарашэнкі «Білоруси і їх національне відродження». У прадмове да працы З. Дарашэнкі згадваецца таксама кніга І. Свянціцкага «Відродженє білоруського письменства».

Цікава, што насуперак асаблівасцям беларускай мовы слова ***адраджэнне (адрадзэнне)*** спачатку ўжывалася на старонках «Нашай нівы» з неўласцівай

беларускай мове рэфлексацыяй спалучэння **dj*. «Экзатычная» форма гэтага слова *адрадзэнне* зафіксавана на старонках газеты не менш чым восем разоў, такая форма сустракалася ў газеце яшчэ ў 1910 г. [243, с. 170]. Форма ***адраджэнне*** ўпершыню сустракаецца на старонках «Нашай нівы», здаецца, у 13-м нумары за 1910 г. Форма ***адрадзэнне***, аднак, не адразу знікла з ужытку, яна выкарыстоўвалася ў газеце яшчэ ў 14-м і 19-м нумарах за 1910 г. Толькі ў 1911 г. форма ***адрадзэнне*** канчаткова выцяснілася сучаснай формай.

Калі б не выразны ўкраінскі след, то паводле фармальных прыкмет лексема ***адрадзэнне*** павінна была б разглядацца як паланізм. Цяжка сказаць, ці такое напісанне было прапанавана Я. Журбой або яно з’явілася ў выніку правапіснай праўкі рэдактара газеты А. Уласава. З аднаго боку, можна меркаваць, што, «пераварочваючы» на беларускую мову укр. *відродження*, Я. Журба палічыў патрэбным «штучна» павялічыць дыстанцыю паміж арыгінальнай украінскай лексемай і канчатковым прадуктам перакладу. З другога боку, можна дапускаць, што выкарыстанне на пачатковай стадыі «экзатычнай» формы ***адрадзэнне*** абумоўлена навізной гэтага паняцця ў тагачаснай сітуацыі, адпаведна, яно магло ў пэўным сэнсе ўсвядомлена ўжывацца з захаваннем пэўных прыкмет чужароднасці. Нарэшце, слова ***адрадзэнне*** ў «няправільнай» форме магло ўжывацца на старонках газеты таму, што, магчыма, у гэтым фрагменце мовы А. Уласаў не адрозніваў, блытаў правілы польскай і беларускай моў. Тое, што правапіс слоў з рэфлексамі **dj* уяўляў для А. Уласава пэўную складанасць, пацвярджаюць і іншыя выпадкі. Параўн., напрыклад, напісанне *асвабаздэнне* (НН 1909, № 8).

Ва ўкраінскай мове слова *відродження* мае сваёй крыніцай польск. *odrodzenie* [506, с. 45], якое яшчэ ў XVIII ст. было скалькавана з фр. *renaissance* [500, с. 31]. Чэш. *obrození* скалькавана з ням. *Wiedergeburt,* у чэшскай мове лексема ўпершыню з’явілася ў пачатку XIX ст. у нямецка-чэшскім слоўніку Ё. Добраўскага [501, с. 496].

Што да беларускага мовазнаўства, то падобная лексіка нярэдка кваліфікуецца ім як створаная на ўласнай глебе. Параўн. у гэтым сэнсе, напрыклад, інтэрпрэтацыю ў беларускай літаратуры лексем *абвод* ’перыметр’ [73, с. 117; 13, с. 31], *вогнішча фіз.* ’фокус’ [73, с. 117; 389, с. 270], *датычная* [13, с. 31], *жыццяпіс* [175, с. 267; 296, с. 46–47], *займя* ’займеннік’ [151, с. 387], *мілагучнасць* [161, с. 183; 297, с. 60], *прыслоўе* [151, с. 387], *роўналежны* ‘паралельны’ [177, с. 113], *роўнік* ’экватар’ [175, с. 215; 327, с. 147], *ступеняванне* ’градацыя’ [177, с. 113], *хваласпеў* ’гімн’ [67, с. 288] і інш. Самастойная дэрывацыя ў гэтых выпадках, аднак, відаць, малаверагодная, бо падчас стварэння ў беларускай мове шматлікіх новых слоў, якое здзяйснялі адукаваныя дзеячы, часта рабілася праекцыя на іншыя роднасныя мовы, свядомае або несвядомае перайманне чужых узораў. Фактычна ў падобных выпадках даследчык стаіць перад неабходнасцю ўстанавіць, ці слова ўтворана самастойна або з апорай на нейкія замежныя мадэлі. Зрабіць гэта з поўнай

дакладнасцю часта немагчыма. Дадзены разрад лексікі часам складана інтэрпрэтуецца і ў іншых мовах. Напрыклад, у адной са сваіх прац Р. Оці абвяргаў думку А. Мее аб тым, што чэш. *divadlo* ‘тэатр’ было ў чэшскай мове неалагізмам пачатку XIX ст.; папраўдзе, паводле брытанскага аўтара, тут мела месца пашырэнне семантыкі ст.-чэш. слова *divadlo* ‘відовішча, спектакль’ – падобна да развіцця значэнняў фр. *spectacle* [436, с. 338]. Гэта быў, лічыць брытанскі аўтар, адзін са шматлікіх прыкладаў еўрапеізацыі чэшскай мовы; калькаванне, увогуле, паводле Р. Оці, было часткай працэсу еўрапеізацыі [436, с. 339]. Р. Оці не разглядаў версію А. Ісачанкі адносна магчымасці кваліфікацыі чэш. *divadlo* ў сувязі з ням. *Schauspielhaus* [147, с. 344]; калі б ён зрабіў гэта, то праблема інтэрпрэтацыі паходжання чэш. *divadlo* ўскладнілася б яшчэ больш.

Бел. ***абежнік*** ’цыркуляр’. Параўн.: укр. *обіжник*, чэш. *oběžník*.

Лексема ***абежнік*** упершыню фіксуецца, здаецца, у ПРБС-24, пазней – у БРС-25 і Вашк. Акрамя таго, слова пададзена ў БНТ-10 (на другім месцы пасля *цыркуляр*), у БНТ-17 (на першым месцы) і ў РБС-28 (поруч з *цыркуляр* і *наўкольнік*); слова *абежнік*, аднак, яшчэ адсутнічала ў БРС-26. Аўтары калектыўнай «Гісторыі...» зазначаюць, што лексема ***абежнік*** трапіла ў слоўнік М. Касяровіча з надрукаваных раней выпускаў серыі БНТ [175, с. 203], аднак нам не ўдалося выявіць гэту лексему ў тэрміналагічных слоўніках, выдадзеных да 1926 г. Верагодна, у 1920-я гг. лексема лічылася даволі ўдалай, параўн. у гэтым плане заўвагу Л. Цвяткова ўкладальнікам ПБВС аб неабходнасці выкарыстоўваць гэта слова ў якасці эквіваленту рус. *циркуляр* [764, с. 219; 683, с. 171].

Лексема ***абежнік*** не засталася толькі здабыткам слоўнікаў, але і ўжывалася ў друку. *...Губарнатар рассылае сакрэтны **абежнік**...* (Пол. 1926); *Дэпартамант індыйскага ўраду разаслаў **абежнік*** (СБ 1930); ***абежнік*** (КооБ 1930); ***абежнік** Наркамзему* (Фяд. БЗУР). Пачынаючы з РБС-37 слоўнікі лексему ***абежнік*** не фіксуюць.

Прыйшло ў беларускую мову праз украінскую, у якую, у сваю чаргу, трапіла з чэшскай. Узорам для чэшскага слова было ням. *Rundschreiben*. А. Баханькоў кваліфікаваў бел. ***абежнік*** як кальку, утвораную на аснове рускага слова *циркуляр* [20, с. 90].

Бел. *вайск*. ***аддзел*** ‘часовае ці пастаяннае аб’яднанне ўзброеных сіл’. Параўн.: польск. *oddział*, чэш. *oddíl*, слвц. *oddiel*, харв. *odjel(j)ak*, ням. *Abteilung*, венг. *osztag*.

Вайсковыя тэрміналогіі многіх моў нярэдка выяўляюць значную залежнасць ад моў дзяржаў, у склад якіх уваходзяць пэўныя тэрыторыі. Беларуская вайсковая тэрміналогія моцна залежыць ад тэрміналогіі рускай мовы – мовы войска Расійскай імперыі і мовы савецкай арміі. Аднак што да наймення часовай ці пастаяннай адзінкі ўзброеных сіл, то спачатку ва ўжытку было незалежнае ад расійскай мовы слова ***аддзел***. Параўн.: *На поўдні ад Барысава нашы пярэднія **аддзелы** даходзяць да Бярэзіны, Свіслачы і Асіповіч* (Звон 1919; ужыта

ў перакладзе з польскай мовы); *Нашыя конныя* ***аддзелы*** *ачышчаюць лясы ад узброеных бальшавіцкіх банд* (Звон 1919). Лексема *аддзел* як эквівалент рус. *отряд* была зафіксавана ў МБС (на першым месцы, поруч з *адрад*) і ў ПБВС (без сінонімаў), таксама ў РБС-28 (поруч з формай *аддзяленне*). Слова сустракаецца і ў друку 1920-х – пачатку 1930-х гг.: *Па вуліцы праходзілі жорстка-сціснутым строем* ***аддзелы*** *ліхіх маракоў* (Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі); ***Аддзел*** *уншуруттальскіх вэлёсыпэдыстых* (Пол. 1927, Заг.); *сысуны падзяляюцца на 13* ***аддзелаў*** (ЯНВП), *дзікуны разбіваюцца на* ***аддзелы****, вылучаючь правадыроў* (ЛА 31); часам выступала ў выглядзе *раздзел*: *у тахт усяму* ***раздзелу*** *адмерваў чоткія крокі* (Пол. 1931. Галавач. Кара). Аднак у гэты самы час ужываецца і слова ***атрад***: *цэлы* ***атрад*** *шпегаў* (Кон). Адным з апошніх ужыванняў слова ***аддзел*** у мове савецкай Беларусі ў 1930-я гг. было, відаць, яго выкарыстанне ў аповесці «Дрыгва» Якуба Коласа ў 1934 г. (Колас ЗТ20, 12, с. 239).

Між тым у спецыялізаванай літаратуры другой паловы 1920-х гг. форма *аддзел*, падобна, не фіксуецца, хоць і сустракаюцца падобныя формы: *раздзел* (як эквівалент рус. *взвод*), *падраздзел* (як эквівалент рус. *подразделение*) і вытворнае *памкамраздзел* ‘памочнік камандзіра ўзвода’ (Ісб.; Штэрн). Частку *аддзел(ь)-* сустракаем у складзе складанаскарочанага слова *аддзяльком* ‘камандзір аддзялення’ (Ісб.), аднак у значэнні ‘пастаянная ці часовая адзінка ўзброеных сіл’ у беларускамоўнай вайсковай літаратуры канца 1920-х – пачатку 1930-х гг. выкарыстоўваўся, падобна, перадусім русізм *атрад*. Параўн.: *Па ўсім* ***атрадзе****, як грукат вясновага перуна, грымнула ўрачыстае «ўра»* (ДС); *Ён пачаў шырока арганізоўваць «зялёныя* ***атрады****»* (Кір.). Аднак часам канстатуем ваганні, калі ў адных і тых жа кнігах сустракаліся абедзве формы: *аднаму з* ***атрадаў*** *было загадана... вайсковыя трыбуналы і асобныя* ***аддзелы*** (Стэр.); *у нашым* ***атрадзе****... нападае на цэлыя* ***аддзелы*** *людзей* (СМД). Верагодна, маркіраваная дасавецкім ужываннем лексема *аддзел*, якая ўступала ў складаныя гіпера-гіпанімічныя адносіны са словамі *аддзяленне*, *раздзел* і *падраздзел*, нягледзячы на яе фіксацыю ў тэрміналагічным слоўніку і ў мастацкім стылі, лічылася непрымальнай для моцна русіфікаванага каманднага складу Чырвонай арміі ў Беларусі. Выкарыстанню лексемы *атрад* у вайсковай літаратуры спрыяла і тая акалічнасць, што адначасова, у працэсе разгортвання ў Беларусі піянерскага руху безумоўна быў прыняты русізм *атрад*. Параўн.: *Звення і* ***атрад*** (1926, НКн.), *піонэрскі* ***атрад*** (ЗПК); *у* ***атрадзе*** *піонэраў* (Піг.).

У 1930 г. падчас прагляду ўжо надрукаванага БНТ-23 з мэтай выяўлення памылак, зробленых тэрміналагічнай камісіяй «нацдэмаўскага складу», выразы ***аддзел*** *камсамольскі, піонэрскі* былі заменены на ***атрад*** *комсамольскі, піонэрскі*. Прадказальна, у рэвізаванай вайсковай тэрміналогіі 1930-х гг. (якая цяпер ужо называлася *ваеннай*) лексема *аддзел* была заменена словам *атрад* (ВРБС).

Слова *аддзел* як вайсковы тэрмін трапіла ў беларускую мову з польскай. Мы не валодаем інфармацыяй, як суадносяцца паміж сабой чэшская і польская

лексемы, але, праўдападобна, яны залежныя ад ням. *Abteilung*. Харв. *odjel(j)ak* узнікла ў выніку наследавання венг. *osztag* [486, с. 161–162; 487, с. 65]. У дачыненні да падобнага слова *раздзел* В. Ластоўскі выказваў меркаванне, што яно было запазычана польскай мовай [653].

Бел. *фіз.*, *мат.* ***вогнішча*** ‘пункт перасячэння адбітых або праломленых прамянёў; фокус’. Параўн.: польск. *ohnisko*, чэш. *ohnisko*, ням. *Brennpunkt*, венг. *фіз*. *gyújtópont*.

Бел. *вогнішча* з’явілася ва ўжыванні пасля таго, як яно было змешчана ў тэрміналагічных слоўніках (ТАГ, БНТ-1). Тэрмін і яго дэрыват *вогнішчавы* выкарыстоўваўся, напрыклад, у падручніках па фізіцы Н. Кашына (Каш.) і А. Нэканды-Трэпкі (НТФ 22; НТФ 24), аднак урэшце выклікаў моцную крытыку з боку А. Лёсіка. На думку гэтага аўтара, форма *вогнішча* «ні ў якім выпадку» не магла раскрыць сутнасці таго паняцця, якое можна перадаць у беларускай мове толькі словам *фокус* [657, с. 143]. Выключная безапеляцыйнасць А. Лёсіка была, відавочна, неабгрунтаванай. З аднаго боку, этымалагічна лац. *focus* тлумачыцца як ‘ачаг, жароўня’. З другога, факты нямецкай, чэшскай, польскай і венгерскай моў паказваюць, што падобныя ўтварэнні магчымыя і ў жывых мовах. У расійскай фізічнай тэрміналогіі XVIII ст. нейкі час былі ва ўжытку падобныя тэрміны *зажигательная точка*, *точка зажигания*, утвораныя паводле нямецкага ўзору [205, с. 195–196].

У рэвізаванай матэматычнай тэрміналогіі (БНТ-14) замест ранейшай *вогнішча* была пададзена лексема *фокус*. Яе ж знаходзім і ў РБС-28, у аўтараў, якія хоць і прыхільна ставіліся да абмежавання ў беларускай мове многіх інтэрнацыяналізмаў, аднак у дадзеным выпадку прынялі рэвізіяніцкі падыход. Тэрмін *фокус* быў пададзены і ў БНТ-21.

Як адгалосак ужывання першай паловы 1920-х гг. форма *вогнішча* аднойчы сустракаецца ў навуковым артыкуле 1930 г., параўн.: *даследчыкі ўстанаўляюць, што асноўным* ***вогнішчам*** *саветызацыі рускае мовы з’яўляюцца фабрыка, завод, рабочыя, сходы* [571, с. 139]. Грунтуючыся на паказаннях арыштаванага Я. Лёсіка, старшыня СНК БССР М. Галадзед у снежаньскім дакладзе 1930 г. замену слова *фокус* словам *вогнішча* кваліфікаваў як арыентацыю на «мову кулака» [592, с. 44–45], у 1931 г. *вогнішча* ‘фокус’ фігуравала ў спісах ідэалагічна непрымальных слоў [509, с. 272].

І. Германовіч у бел. *вогнішча* бачыў спробу прыстасаваць у якасці тэрміна слова з бытавым значэннем [73, 117]. Як выключна няўдалы неалагізм трактаваў бел. *вогнішча* Л. Шакун [389, с. 270].

Бел. *вогнішча* ‘фокус’ уяўляе сабой семантычна-структурную кальку з польскай мовы.

Бел. *геам*. ***датычная лінія*** ‘прамая лінія, якая мае адзін агульны пункт з крывой, але не перасякае яе’, ***датычны*** ‘які мае дачыненне да чаго-небудзь’. Параўн.: польск. *styczna*, чэш. *tečna*, укр. *дотична*, харв. *dotičan*, серб. *дотичан,* ням. *Berührungslinie*.

У якасці геаметрычнага тэрміна слова *датычная* не мела і не мае канкурэнтаў у беларускай мове, яно зафіксавана ўжо ў першых працах па беларускай геаметрычнай і матэматычнай тэрміналогіі (ТГ; БНТ-1; ДЛ), а таксама ў БРС-26. Існуе меркаванне, што лексема была створана на ўласнай, беларускай глебе [13, с. 28]; верагодна, аднак, у дадзеным выпадку ёсць сэнс гаварыць пра ўкраінскі або польскі ўплыў.

Чэшская лексема мае сваёй крыніцай польскую [491, с. 190]. У сваю чаргу, чэшскае слова праз нямецка-харвацкі слоўнік Б. Шулека 1860 г. трапіла ў харвацкую мову [246, с. 93; 489, с. 239].

Ужыванне лексемы ***датычны*** ў беларускай мове ў злучнікавай функцыі шырока культывавалася ў 1920-я гг.: *думала Марыля аб нечым важным,* ***датычным*** *да долі жаночай* (Весн. Нікановіч); *іншыя, не* ***датычныя*** *асноўнае справы пытанні... усе матэрыялы,* ***датычныя*** *сівалапаўскага калгаса* (Зар. ЗТ 3, с. 178, 183). Слова культывуецца ў мове заходняй дыяспары, але мела тэндэнцыю да абмежавання ў мове савецкай Беларусі 1930–1980-х гг. Сведчаннем гэтага абмежавання з’яўляецца тая акалічнасць, што слова ***датычны*** адсутнічае ў якасці эквіваленту рус. *причастный* у РБС-37, РБС-53 і РБС-82, хоць і пададзена як адпаведнік рус. *сопричастный* у РБС-53 (поруч з *прыналежны*) і ў РБС-82 (поруч з *прыналежны*).

Бел. ***дзіватвор*****(*****ышча*****)** ‘дзіўная істота; дзіўная рэч, дзіўнае стварэнне’. Параўн.: чэш. *divotvorný* ‘цудадзейны’, *divoobraz* ‘гратэск’, польск. *cudotwórczy*, *cudotwórczyni*, *cudotwórstwo*, ням. *Wunderding* ‘дзіўная рэч’, ‘цуд’, *Wundertat* ‘вялікасны чын, подзвіг, цуд’, *Wunderwerk* ‘цуд’.

Бел. *дзіватвор*, здаецца, не пададзена ні ў адным беларускім слоўніку. Яно фіксуецца ў перакладзе на беларускую мову В. Ластоўскім твора Э. Сетана-Томпсана як адпаведнік рус. *чудовище*: ***дзіватвор*** *дагнаў яе... бачыць гэтае* ***дзіватворышча****... страшныя* ***дзіватворы*** *не чэпяць яе... бачыла аграмадныя* ***дзіватворы****... шалёны* ***дзіватвор*** *не заўважыў яе... перахітрыць гэтых трох вялізарных* ***дзіватвораў*** (Крыв. 1923). Пазней слова сустракаецца ў перапісцы В. Ластоўскага другой паловы 1920-х гг. У сваім лісце ў Народны камісарыят асветы БССР тагачасны дырэктар Беларускага дзяржаўнага музея згадваў «дылетанцкія музеі мяшанага тыпу: прыродазнаўча-тэхнічна-гуманітарна-мастацкія, або, іначай кажучы, “кунст-рарытэт камары”». Ластоўскі пісаў, што музеі падобнага тыпу аджылі свой век яшчэ ў XVIII ст., таму «нельга патураць паўставанню такіх *дзіватвораў*» (Скар., с. 19).

Ва ўкраінскай мове ў 1860-я гг. ужывалася слова *дивообразъ* ‘гратэск’, якое выводзіцца з чэшскага ўзору [249, с. 358–359]. Чэш. *divotvorný* падчас яго стварэння крытыкавалася Ё. Добраўскім за тое, што гэтай лексеме прыпісвалася значэнне, тоеснае з ням. *abenteuerlich* ‘неверагодны, фантастычны’. Між тым, паводле Ё. Добраўскага, згодна з вымогай аналогіі значэнне чэш. *divotvorný* павінна было адпавядаць значэнню ням. *wunderthätig* ‘цудатворны’ [501, с. 494].

Слова *дзіватвор* узнікла пад уплывам структурна і сэнсава падобных нямецкіх або польскіх слоў; чэшская крыніца – малаверагодная. Факт дачынення

В. Ластоўскага да нямецкай мовы вядомы, параўн. хоць бы ўкладанне ім адпаведнага дапаможніка [223, с. 25–27]. Не выключана, што пры асэнсаванні праблем музеязнаўства ён карыстаўся нейкімі нямецкамоўнымі працамі. Утварэнне падобнага слова было тым больш магчымым, што ў беларускай мове ўжо існавалі некаторыя падобныя ўтварэнні, параўн. ужыванае на старонках «Нашай нівы» слова *дзівадзейны* ‘цудатворны’ (СМНН 1, с. 563).

Бел. ***допіс*** ‘дасланы ў газету ці часопіс матэрыял’. Параўн.: укр. *допис*, чэш. *dopis*, слвц. *dopis*, в.-луж. *dopis*, харв. *dopis*, слвн. *dopis*, серб. *допис*, балг. *допис*.

Слова *допіс* не сустракаецца на старонках «Нашай нівы». Згодна з нашымі дадзенымі, лексема *допіс* упершыню зафіксавана ў БНТ-2 (поруч з формай *дапіска*) як эквівалент рус. *корреспонденция*, пазней – у ПРБС-24, БРС-26 і РБС-28.

З 1920-х гг. слова ўжываецца ў беларускай мове, пры гэтым яно дало і вытворную форму – лексему *дапісчык (дапішчык)* ‘чалавек, які піша ў газету; карэспандэнт’ (БНТ-2; ПРБС-24 і РБС-28). Слова *дапісчык* у другой палове 1920-х гг. сустракаецца і ва узусе. Паводле некаторых аўтараў, *дапісчык* звязана з чэш. *dopisovatel* [366, с. 43], што, відавочна, неабгрунтавана. Згодна з Г. Ф. Вештарт, вядомая гаворкам лексема *дапішчык* у цэлым адлюстроўвала узус 1920–1930-х гг. [57, с. 31].

З другой паловы 1930-х гг. лексема *допіс* абмяжоўвалася ва ўжытку, яна не адлюстравана як адпаведнік рус. *корреспонденция* і *заметка* ў РБС-37, РБС-53 і РБС-82. Тут назіраецца розніца з украінскай мовай, у якой адпаведнае слова ўкаранілася раней (з 1860-х гг.) і дзе яно фіксавалася ў першым паваенным расійска-ўкраінскім слоўніку 1948 г. У паваенны час з значных беларускіх лексікаграфічных прац слова *допіс* упершыню засведчана ў БРС-62. З той пары лексема нязменна фіксуецца ўсімі буйнымі тлумачальнымі і беларуска-рускімі слоўнікамі, аднак не адлюстроўваецца ў руска-беларускіх. Нядаўна В. Рагойша звярнуў увагу на неабходнасць паўторнага ўключэння слова *допіс* у слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў [297, с. 60].

Відаць, не звязана са старажытным рус. *дописка, допис* (СРЯ). Слова ўяўляе сабой багемізм, які трапіў у беларускую мову праз украінскую. У харвацкай мове ўжыванне багемізма *dopis* вядзе свой адлік з 1830-х гг. [246, с. 92; 489, с. 237], ва ўкраінска-галіцкай – з 1850-х [249, с. 346]. В. Майсеенка зазначае, што багемізм *dopis* быў запазычаны многімі славянскімі мовамі, аднак не згадвае беларускай, што можна лічыць у нейкай ступені абгрунтаваным. З аднаго боку, беларуская мова запазычыла гэтае слова ўжо ў XX ст., з другога, гэта запазычанне не было прамым і адбылося пры ўкраінскім пасрэдніцтве.

Бел. ***жыццяпіс*** **(*жыццёпіс*)**. Параўн.: укр. *життєпис,* чэш. і харв. *životopis*, польск. *życiorys*, в.-луж. *žiwjenjoběh*, ням. *Lebensbeschreibung,* венг. *életrajz.*

У адпаведнасці з наяўнымі дадзенымі слова ***жыццяпіс*** упершыню з’явілася ў беларускай мове ў БНТ-2, адпаведна, яно кваліфікуецца як купалаўскі наватвор [297, с. 60]. У якасці эквіваленту рус. *жизнеописание* лексема фіксуецца і ў

іншых лексікаграфічных працах як 1920-х, так і наступных гадоў, у тым ліку ў РБС-37 і РБС-53.

Найбольш актыўным часам ужывання слова ***жыццяпіс*** у беларускай мове былі 1920–1930-я гг., у гэты перыяд дадзеная лексема ўжывалася не толькі ў мастацкім і публіцыстычным стылях, але і ў справаводчым. Параўн. фрагмент аб’явы аб наборы на вучобу: *Заявы з кароткім* ***жыццяпісам*** *накіроўваць па адрасу...* (СБ 1930. 30 ліп.). Слова ***жыццяпіс*** (і *жыццярыс*) як мінімум да 1933 г. ужывалася ў якасці назвы адпаведнага афіцыйнага дакумента. Аўтары, якія жылі ў 1920-я гг., карысталіся гэтым словам і пазней; напрыклад, аўтабіяграфія У. Дубоўкі ў зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі» надрукавана пад назвай «Мой жыццяпіс».

Лексема трапіла ў беларускую мову з украінскай.

Бел. ***кніга(с)піс*** ‘бібліяграфія’. Параўн.: укр. *книгоопис*, чэш. (устар.?) *knihopis*, харв. *knjigopis*, серб. устар. *књигопис*, слвн. *knigopisje*.

У беларускай мове слова *кнігапіс* з’явілася (у форме *кнігаопісь*) у пачатку 1920-х гг., адзін з раздзелаў «Вестника народного комиссариата просвещения ССРБ» меў назву «*Кнігаопісь* і крытыка». У 1923–1924 гг. лексема *кнігапіс* была змешчана ў БНТ-2 і ў «Назваслоўі» М. Гарэцкага. З таго часу дадзенае слова падавалася ў розных слоўніках і фіксавалася ва узусе (Узв. 1927, Пол. 1930 і інш.). Трэба, аднак, адзначыць, што лексема *кнігапіс* у 1920-я гг. часцей ужывалася са значэннем ‘раздзел у часопісе, дзе змяшчаюцца рэцэнзіі’, чым выкарыстоўвалася ў значэнні ‘сістэматызаванае апісанне кніг’ і ‘спіс кніг і артыкулаў па якім-небудзь пытанні’. З другога боку, яна мела канкурэнта ў выглядзе інтэрнацыяналізму *бібліяграфія*. Калі адпаведная рубрыка ў часопісе «Полымя» называлася *«Кнігапіс»*, то ў часопісах «Узвышша» і «Напагатове» выкарыстоўвалася назва *«Бібліяграфія»*.

Пачынаючы з РБС-37 слова *кнігапіс* не падаецца ў перакладных і іншых слоўніках (у тым ліку і ў прыхільным да лексікі 1920-х гг. РБТСК). Аднак у якасці назвы часопіснага ці газетнага раздзела слова *кнігапіс* у беларускай мове ўжываецца. Так, рубрыка «*Кнігапіс*» у 1989 г. з’явілася ў газеце «Літаратура і мастацтва» (спарадычна яна так называлася не пазней чым з 1979 г.). В. Рагойша лічыць, што лексема *кнігапіс* павінна падавацца ў сучасных беларускіх слоўніках літаратуразнаўчых тэрмінаў [297, с. 60].

Крыніцай бел. *кнігапіс* з’яўляецца, магчыма, украінскі багемізм *книгоопис*. Харв. *knjigopis* таксама паходзіць з чэшскай мовы [246, с. 94].

Бел. ***кніжніца*** ’бібліятэка’. Параўн.: польск. *książnica*, слвц. *knižnica,* ням. *Bücherei,* венг. *könyvtár,* харв. *knjižnica.*

Лексема ***кніжніца*** ў беларускай мове вядома як стара-, так і новабеларускаму перыяду[83]. У старабеларускі перыяд слова ***книжница*** двойчы ўжыў Ф. Скарына (Аніч.; ГСБМ 15), у літаратуры яно кваліфікуецца як «несумненны неалагізм»

[83] З невядомых прычын факт ужывання слова *кніжніца* ў новабеларускі перыяд адмаўляў А. Жураўскі [124, с. 122].

беларускага першадрукара [119, с. 148]. Узуальнымі формамі для наймення бібліятэкі ў старабеларускі перыяд былі словы *библиотека* (*быблиотека*) і *либрария*.

Нягледзячы на тое што і ў нашаніўскі перыяд у шырокім ужытку было слова *бібліятэка*, у гэты ж час слова ***кніжніца*** паўторна з'явілася ў беларускай мове (першае ўжыванне ў 1906 г.). Яно двойчы сустракаецца на старонках газет «Наша доля» і «Наша ніва», выданняў, моўная праграма якіх прадугледжвала амаль выключна апору на народныя лексічныя рэсурсы: *Просяць нас паведаміць чытацелёў, што цяперака адкрылася бібліотэка* (***кніжніца****, адкуль народ можа пазычаць кніжкі*) *імені Ф. Ф. Павленкова ў вёсцы Астрамэч'е* («Наша доля». 1906. № 2); *У часе гэтага грабяжа прапала аграмадная* ***кніжніца*** (*бібліотэка*)*, у каторай знаходзілася вельмі многа рэдкіх летапісей і рукапісаў цэнных...* (СМНН 2, с. 401; ужыта В. Ластоўскім). Грунтуючыся на ўжыванні газеты «Наша доля», П. Вэкслер сцвярджаў, што слова *бібліятэка* трактавалася выдаўцамі як новае і незнаёмае, дзеля чаго ў дужках было дадзена тлумачэнне [509, с. 217]. Аднак кантэкст, у якім слова ***кніжніца*** было ўжыта ў «Нашай ніве», дазваляе меркаваць, што яно было незнаёма чытачам гэтай газеты; яго выкарыстанне хутчэй адлюстроўвае моўныя пошукі тагачасных выдаўцоў. З 1918 г. ва узусе сустракалася слова ***кніжня*** (*knižnia*) (Рač.), у 1923 г. у Вільні з удзелам В. Ластоўскага выходзілі кнігі на беларускай мове ў серыі «Школьная кніжня».

Словы *кніжня* і *кніжніца* фіксаваліся ў лексікаграфічных працах 1920-х гг.: *кніжніца* – у ПРКБС, ПРБС-26, у БРС-26 і РБС-28, *кніжня* – у БНТ-2, ПРКБС, БРС-25, у БРС-26 і РБС-28. У слоўніку В. Ластоўскага лексема ***кніжніца*** хутчэй неабгрунтавана кваліфікавалася як памяншальная форма да ***кніжня***; у БРС-26 і РБС-28 даваліся абедзве формы, асноўнай лічылася ***кніжніца***. Верагодна, найперш фіксацыя дадзеных лексем у слоўніках спрыяла іх пэўнаму пашырэнню ва узусе.

Слова ***кніжніца*** ў друку 1920-х гг. выкарыстоўваў такі вядомы аўтар таго часу, як Ц. Гартны: *Тым не меней, помнячы розніцу між беларускай і маладнякоўскай літаратурамі, частка ранейшых маладнякоўцаў выдавала свае творы ў* ***кніжніцы*** *«Маладняка»* (Пол. 1927). Падобна, лексема *кніжніца* ў 1920-я гг. ужывалася перш за ўсё ў значэнні 'серыя кніг' і радзей мела значэнне 'установа, якая збірае і захоўвае кнігі' і, асабліва, 'будынак установы, якая збірае і захоўвае кнігі'. У рамане Я. Коласа «На ростанях» слова *кніжніца* ўжыта са значэннем 'кніжная шафа' ці, на думку ўкладальнікаў слоўніка адметнай лексікі пісьменніка, 'паліца ў кніжнай шафе' (АЧ, с. 118).

Выкарыстанне ў беларускай мове 1920-х гг. слова ***кніжніца*** часам выклікала пярэчанні. Так, напрыклад, рэцэнзуючы ПРБС-24, у сувязі з перакладам на беларускую мову рус. *библиотека* П. Бузук заўважыў, што «шышкоўшчына» даходзіць часам да смешнага» [558, с. 178]. У вельмі суровай форме прэтэнзіі з прычыны ўжывання слова *кніжніца* пазней былі выказаны пісьменніку

Ю. Віцьбічу [637]. Слова *кніжніца* ў 1930-я гг. ужывалася ў друку Заходняй Беларусі: напрыклад, у Вільні ў 1936 г. у серыі «Тэатральная кніжніца» быў апублікаваны вадэвіль «Лёкай на гадзіну». У Заходняй Беларусі гэта слова, відаць, таксама ўжывалася ў значэнні ‘кнігарня’ [66, с. 52].

У літаратуры лексема разглядаецца як штучная, утвораная непасрэдна ў беларускай мове ў пачатку XX ст. [175, с. 209; 389, с. 299; 80, с. 193]. Больш верагоднымі версіямі ўзнікнення ў беларускай мове слова *кніжніца* трэба лічыць запазычанне ці калькаванне з польскай мовы або адраджэнне ва ўжыванні старабеларускай лексемы.

У сувязі з польск. *książnica* ў 1917 г. А. Брукнер выказваў здзіўленне з прычыны яго ўжывання ў польскай мове пачатку XX ст. Падобна, навуковец лічыў выкарыстанне гэтай лексемы неабгрунтаваным, бо яна была высмеяна яшчэ падчас яе ўвядзення ў польскую мову. Адначасова А. Брукнер фіксаваў пэўнае «адступленне» грэцызму *Bibliothek* у нямецкай мове («‹dziś Niemcy zmądrzeli i w Lipsku *Bücherei*, nie *Bibliothek* sobie wystawili›») і канстатаваў, што падобным наватворам не спрыяе тое, што яны не заўсёды адразу разумеюцца [449, с. 41]. Слова *книговище* як заменнік лексеме *библиотека* ўводзілася ў балгарскай мове [114, с. 199]. Поруч са словам *bibliothek* лексема *boekerij* ‘бібліятэка’ ўжывалася (ужываецца) у нідэрландскай мове [25, с. 271].

Харв. *knjiżnica* фіксавалася ўжо ў слоўніках 1740-х гг. І. Б. Беластэнца і А. Ямбрэшыча, крытыку на адрас гэтага слова пазней выказваў такі вядомы харвацкі лінгвіст, як Т. Марэціч [487, с. 212]. У слоўніку А. Ямбрэшыча прыводзілася таксама венгерская лексема *könyv-tartó-ház*; сучасная венгерская форма *könyvtár* з’яўляецца больш позняй, у часе абнаўлення яе ўвёў у мову М. Рат [486, с. 83].

Бел. ***лякарня*** ‘ўстанова для стацыянарнага лячэння хворых’. Параўн.: укр. *лікарня*, чэш. *lékérna*, в.-луж. *lěkarnja*, серб. *лекарна*, харв. *ljekarnica*, слвн. *lekarna*.

У беларускай мове слова *лякарня* (*лекарня*) пачало ўжывацца ў нашаніўскую пару. Так, у апублікаваным слоўніку газеты, а таксама ў яе картатэцы фіксуюцца наступныя ўжыванні: *лечаць бясплатна ў **лякарні**... на **лякарні** і школы для дзяцей сухотнікаў* (1911); *У хірургічных аддзелах **лекарэнь** вельмі многа пакалечаных падчас боек* (1912); *хто пішыць з пазыцыі, хто з **лекарні** – ранены, а хто з палону* (1915). У савецкі час лексему знаходзім у рамках складанага слова *вадалякарня* ў ПРБС-24 і ў ПРБС-26 як адпаведнік рус. *водолечебница*, аднак *лечебница* перакладзена як *больніца* ў першым з гэтых слоўнікаў і як *больніца*, *здароўніца* – у другім. Лексема *лякарня* поруч з *больніца* засведчана ў БРС-26, прычым у слоўніку пададзена ілюстрацыя з выдадзенага ў 1923 г. у зборніку «На зачарованых гонях» твора З. Бядулі – фактычна тая ж, якую знаходзім у «Нашай ніве» ў 1915 г. Слова *лякарня*, аднак, адсутнічае ў ПРКБС (дзе эквівалентамі рус. *больница* выступаюць *лазарэт* і *лячомніца*) і ў РБС-28 (дзе пададзена толькі *больніца*). Праўдападобна, у сярэдзіне 1920-х –

пачатку 1930-х гг. лексема *лякарня* не мела шырокага ўжывання ў беларускай мове і канкурыравала з іншымі, перадусім з вельмі пашыраным словам *больніца*. Як «менш народная» – тым не менш, згодна з П. Вэкслерам, як «шырока распаўсюджаная» [509, с. 292] – бытавала ў гэты час таксама форма *бальніца*.

Факт непрымання В. Ластоўскім слова *бальніца* аўтары адной пагромнай кнігі пачатку 1930-х гг. кваліфікавалі як адну з праяў «"крыжовага паходу" супраць "русіцызмаў" у беларускай мове» [534, с. 126].

У паваенны час канкурэнцыя паміж варыянтамі 1920-х гг. *лякарня* / *лячэбніца* / *больніца / бальніца* замянілася акцэнталагічнай апазіцыяй *бальніца* / *больніца* (слова *лякарня* фактычна выйшла з ужытку, а за словам *лячэбніца* замацавалася спецыялізаванае значэнне). Зрэшты, у РБС-37 і РБС-53 фіксавалася толькі форма *бальніца*, аднак ва ўжытку працягвала існаваць і форма *больніца*, якую некаторыя аўтары (У. Юрэвіч) кваліфікавалі як заходнебеларускую [509, с. 292]. Слова *лякарня* не фіксуецца ні ў адным значным савецкім слоўніку паваеннага часу, але гэта не азначае, што яно забылася поўнасцю.

У літаратуры ўжытае З. Бядулем бел. *лякарня* трактуецца як «вузкі дыялектызм у мастацкай літаратуры» [175, с. 238], аднак папраўдзе слова ўяўляе сабой багемізм, які трапіў у беларускую мову праз украінскае пасрэдніцтва. Ва ўкраінскай мове першае ўжыванне лексемы датуецца 1850-мі гадамі [249, с. 346], у харвацкай – 1840-мі [246, с. 93]. У славенскай мове ў яе кантактах з чэшскай мовай уплыў чэшскага словаўтваральнага ўзору аказаўся настолькі моцным, што ён выцесніў спрадвечны славенскі фармант *-arnica* [68, с. 252].

Бел. ***лятучка*** 'лістоўка, улётка'. Параўн.: ням. *Flugblatt*, чэш. *leták*, памянш. *letáček*, в.-луж. *lětak*, польск. *ulotka*.

Слова ***лятучка*** 'лістоўка' некалькі разоў сустракаецца ў беларускім друку другой паловы 1920-х гг: *Яны выпускаюць **лятучкі** процi нас і ў абарону капіталу* (Пол. 1927); *Фашысты тэрарызавалі неграў і распаўсюджвалі паміж іх **лятучкі,** у якіх неграм забараняецца ўдзельнічаць у «чырвонай прапагандзе». ...Партыя звернецца з адкрытым лістам, у форме **лятучак**...* (СБ 1930. 22 ліп.). Бел. ***лятучка,*** відавочна, трэба кваліфікаваць як прыблізную кальку з нямецкай мовы, параўн. ням. *Flugblatt*, утворанае з *Flug* 'палёт' і *Blatt* 'ліст, аркуш'. У беларускай мове слова ўпершыню было ўжыта ў перакладзе з нямецкай мовы; лексема не кадыфікавана ніводным беларускім слоўнікам.

З другой паловы 1980-х гг. на антырускай пурыстычнай хвалі замест слова *лістоўка* ў беларускай мове стаў выкарыстоўвацца паланізм *улётка*, часам нават у навучальнай літаратуры (напрыклад: Хаўст.), аднак аднаўленне ўжывання лексемы ***лятучка*** не адбылося. Сучасныя пурысты проста не ведаюць пра існаванне такога слова.

Бел. ***прамер*** 'дыяметр'. Параўн.: чэш. *průměr*, слвц. *priemer*, ням. *Durchmesser*, харв. *premjer*, венг. *átmérő*.

Слова *прамер* было ўведзена ў першыя працы па беларускай матэматычнай і геаметрычнай тэрміналогіі ў пачатку 1920-х гг. у якасці тэрміна са значэннем

‘адрэзак прамой, які злучае два пункты акружнасці і праходзіць праз яе цэнтр’ поруч з формамі *папярочнік* [554, с. 27] і *дыяметр* (ТГ; БНТ-1). Выкарыстанне гэтай лексемы не было, аднак, падтрымана ў ДЛ, дзе прыводзіліся формы *дыяметр*, *пярокруг*, *пяракруг*, а таксама ў ПБВС, дзе фіксавалася форма *дыяметр*. Затое дадзенае слова знаходзім (на першым месцы) поруч з лексемай *дыяметр* у ПРБС-24, ПРБС-26, а таксама (гэтым разам без ніякіх варыянтаў) у БРС-26 і РБС-28 (у абодвух выпадках са спасылкамі на БНТ-1).

У рэвізаванай матэматычнай тэрміналогіі (БНТ-14) фіксавалася форма *дыяметр*, нягледзячы на гэта, у РБС-28 фігуравала лексема *прамер* (са спасылкай на БНТ-1). Складана меркаваць, ці ў РБС-28 форма *прамер* прыводзілася толькі таму, што гэты слоўнік быў падрыхтаваны яшчэ ў 1925 г.; магчыма, у дадзеным выпадку сыграла ролю свядомая пазіцыя М. Байкова і С. Некрашэвіча.

Між тым у спецыяльных працах 1920-х гг. часцей выкарыстоўвалася, бадай, форма *дыяметр*. Так, у «Пачатковай геаметрыі» Ф. Мікельсара 1924 г. ужываўся тэрмін *дыяметр*, толькі аднойчы забяспечаны дапаможным тэрмінам *прамер*. Гэтаксама ў выданнях 1925 і 1927 гг. «Курса доследнай геаметрыі» А. Астраба форма *прамер* выкарыстоўвалася толькі як дадатковая. Параўн.: *Адцінак CD называецца* ***дыяметрам*** (*або* ***прамерам***) *акружыны* (Мік.); *Простая лінія, якая злучае два пункты кулістай паверхні й якая праходзіць праз цэнтр, называецца* ***дыяметрам****, або* ***прамерам*** *кулі* (Астр. 25; Астр. 27). У выданні гэтага ж падручніка 1929 г. дадатковая назва *прамер* была ўжо апушчана (Астр. 29). У падручніку А. Круталевіча і Г. Сагаловіча 1930 г. выкарыстоўваўся толькі тэрмін *дыяметр*, ён жа быў пададзены і ў змешчаным пры кнізе тлумачальным слоўніку. Слова *прамер* у гэтым падручніку ўжыта адзіна як тлумачэнне грэчаскай лексемы: ***дыяметр*** – *грэч. dia = праз, metron = мера* (г. зн. ***прамер***) (КС).

Нягледзячы на фіксацыю ў лексікаграфічных крыніцах і на пэўнае пашырэнне ў матэматычных працах, у нематэматычнай літаратуры канца 1920-х – пачатку 1930-х гг. форма *прамер*, аднак, зусім не ўжывалася. У некаторых крыніцах гэтага перыяду (Касм. 31; Льв.; Струк.; Карэл.) ва ўжытку была лексема *дыяметр*, у іншых (Грам.; Юдз.; Сл.; Раг.; ПБДУ1930) – *папярочнік* або *папярэчнік*.

У беларускай мовазнаўчай літаратуры слова *прамер* кваліфікуецца як уласнабеларускі неалагізм [177, с. 141]. Аднак у дадзеным выпадку, бадай, ёсць падставы гаварыць пра калькаванне з чэшскай мовы. Зроблены паводле чэшскай мадэлі тэрмін *прамер* не змог замацавацца ў беларускай тэрміналогіі – відаць, таму, што ён меў вельмі моцных канкурэнтаў у выглядзе інтэрнацыяналізму *дыяметр* і народнай формы *папярочнік*. Падобнай формы не існавала ў суседніх славянскіх мовах – толькі ў рускай мове ў XVII ст. нейкі час выкарыстоўвалася лексема *премер* [204, с. 63]. Дадзенае слова мела яшчэ значэнне ‘дзеянне паводле значэння дзеяслова *прамерваць*’ – і гэтыя акалічнасці, верагодна, таксама ўскладнялі замацаванне ў беларускай мове лексемы *прамер* у якасці матэматычнага тэрміна.

Славацкае *priemer* было створана паводле чэшскай мадэлі [248, с. 75]. Венг. *átmérő* ўзнікла пад непасрэдным уплывам практыкі немцаў Ё. Х. Адэлунга і І. Г. Кампэ [500, с. 28].

Бел. ***роўнік*** ‘экватар’. Параўн.: польск. *równik*, укр. *рівник*; чэш. *rovník*, слвц. *rovník*, ням. уст. *Gleicher*, венг. *egyenlítő*, фр. *équateur*.

Лексема *роўнік* упершыню была зафіксавана ў беларускай мове ў БНТ-3. Слова ўключана ў ПРБС-24 і ПРБС-26, у тэрміналагічны слоўнік, змешчаны ў кнізе М. Азбукіна «Геаграфія Еўропы» (Масква – Ленінград, 1924) а таксама ў БРС-26 і РБС-28. Акрамя слоўнікаў, лексема *роўнік* выкарыстоўвалася ў 1920-я гг. і ва узусе: у навучальнай геаграфічнай (Грам., СмАГ), у іншай навучальнай (Астр. 25) і папулярнай (Мікл., Кар. УНД 30) літаратуры.

Аднак у другой палове 1920-х гг. усё часцей стаў ужывацца тэрмін *экватар*. Так, у Астр. 27 і Астр. 29 на адрозненне ад Астр. 25 выкарыстоўвалася акурат гэта слова. Формы *экватар, экватарыяльны* фігуравалі і ў тэкставых частках двух выданняў падручніка С. Касмовіча, аднак у надпісах да картаў гэтых кніг ужываўся выраз *раўніковыя лясы* (Касм. 29; Касм. 31). Дэрыват *роўнікавы* сустракаўся і ў іншых крыніцах: *разнастайнасць* і *пышнасць* ***роўнікавае*** *расліннасці* (Мікл.). Урэшце ў пачатку 1930-х гг. лексема *роўнік* выйшла з ужытку.

Беларускія аўтары схільны кваліфікаваць дадзенае слова як уласнае і няўдалае [175, с. 215; 327, с. 144]. У другім томе калектыўнай «Гісторыі...» лексема *роўнік* згадваецца ў сувязі з гаворкай пра «няўдалы пераклад іншаземных тэрмінаў… зацямненне іх сэнсу, падмену аднаго паняцця другім, скажэнне сутнасці таго ці іншага тэрміна» [175, с. 215]. Географ С. Сідор, наадварот, лічыць тэрмін *роўнік* вельмі трапным і выказваецца за яго вяртанне ў сучасную мову [327, с. 144, 147].

Расійскі пурыст А. С. Шышкоў прапаноўваў замяніць слова *экватор* тэрмінам *равноденственник* [172, с. 105], гісторыя расійскай геаграфічнай тэрміналогіі ведае таксама спробы выкарыстоўваць словы *равнитель* і *уравнитель* [204, с. 119, 121].

Ва ўкраінскім галіцкім друку пад чэшскім уплывам у канцы 1840-х гг. з’явіліся тэрміны *ровникъ*, *ровноденникъ* [249, с. 347]. Што да ўжывальнай у 1920-я гг. формы *рівник*, то некаторыя ўкраінскія аўтары даволі крытычна ставяцца да факта яе выкарыстання [241, с. 238; 309, с. 329].

Х. Васілеў лічыць, што польск. *równik*, чэш. *rovník* былі створаны паводле лацінскага ўзору [507, с. 409], аднак, на думку Томаса, польскае слова ўяўляе сабой кальку XVIII ст. з фр. *équateur* [500, с. 31]. Можна меркаваць, што і для чэш. *rovník* пэўнае значэнне мела ням. *Gleicher*.

Бел. *роўнік* з’явілася пад польскім або ўкраінскім уплывам. Калі не браць пад увагу фактар «ціску» рускай мовы, то адносна выхаду гэтага слова з ужытку можна выказаць наступнае меркаванне: для выключна экзатычнай рэаліі, якую іменавалі формы *роўнік* і *экватар*, больш прыдатнай аказалася тая з іх, якая не была занадта «простай» і ў сваёй форме мела нейкія прыкметы запазычанасці.

Бел. ***слухальня*** ’аўдыторыя’. Параўн.: чэш. *posluchárna*, в.-луж. *posłucharnja*, ням. *Hörsaal*.

Нягледзячы на тое што ў нашаніўскі перыяд у беларускай мове ўжывалася слова *аўдыторыя*, у 1920-я гг. з’явілася таксама лексема ***слухальня***, якая фіксавалася, напрыклад, у БНТ-2, ПРБС-24, БРС-25, ПРБС-26, БРС-26 і РБС-28. Што да слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага, то ў першым выданні была пададзена пара *аўдыторыя* і *слухальня*, а ў другім – толькі *слухальня*. Зрэдку слова выкарыстоўвалася па-за рамкамі слоўнікаў. М. Байкоў пісаў пра лексему *слухальня* як пра слова, якое «ўжо існуе ў мове» [539, с. 152], і сам карыстаўся ім у значэнні ‘слухачы’: *Як жа быць, калі нашы кнігі, нашы падручнікі не будуць зразумелымі для вучняў, для шырокай народнай* ***слухальні****?* [539, с. 159].

У 1930-я гг. лексема не ўжывалася, пачынаючы з РБС-37 яна не фіксуецца беларускімі слоўнікамі.

В.-луж. *posłucharnja* ўзнікла пад чэшскім уплывам [68, с. 251]. Складана меркаваць, наколькі істотным чэшскае ўздзеянне было пры з’яўленні слова *слухальня*. Магчыма, у дадзеным выпадку нейкае значэнне мела існаванне падобных словаўтваральных мадэляў у польскай мове (параўн., напрыклад, польск. *widownia* ’глядзельная зала’).

Спробы адмовіцца ад ужывання лацінізма *аўдыторыя* вядомы і некаторым іншым мовам, напрыклад, балгарскай і нарвежскай. Параўн. балг. *слушалня* або нарв. *høresal* і *læresal* [114, с. 199; 25, с. 72]. У пачатку XIX ст. на пасяджэннях Расійскай акадэміі навук прымаліся пастановы аб неабходнасці гаварыць замест *аудитория* – *слушалище* [52, с. 186].

Бел. ***чытанка*** ‘кніга да чытання’. Параўн.: укр. *читанка*, польск. *czytanka*, чэш. *čítanka*, слвц. *čitanka*, в.-луж. *čitanka*, харв. *čitanka*, слвн. *čitanka*, серб. *читанка*, ням. *Lesebuch*.

Слова *чытанка* адсутнічае ў картатэцы слоўніка «Нашай нівы». Яно ўпершыню зафіксавана, падобна, у НБМС, пазней – у БНТ-2; змешчана на першым месцы поруч са словам *выпісы* як адпаведнік рус. *хрестоматия*. У ПРБС-24 дадзены тры беларускія эквіваленты, на першым месцы ў гэтым слоўніку пададзена лексема *хрыстаматыя*. У іншай паслядоўнасці (спачатку *выпісы*, потым *чытанка*) пададзены адпаведнікі для рус. *хрестоматия* ў ПРБС-26 (дзе адменніка *хрыстаматыя* няма) і ў РБС-28. У БРС-26 таксама пададзены абодва словы, пры гэтым слова *чытанка* забяспечана спасылкай на лексему *выпісы*, з чаго вынікае, што ў ПРБС-26, а таксама ў абодвух слоўніках М. Байкова і С. Некрашэвіча была не падтрымана іерархія, вызначаная Я. Купалам у БНТ-2. Цяжка сказаць, якая з формаў пераважала ва ўжыванні ў першай палове 1920-х гг., у гэты час часта выкарыстоўвалася лексема *выпісы*, але з другой паловы дзесяцігоддзя ўсё часцей стала ўжывацца слова *чытанка*. Параўн. прыведзеныя ніжэй вызначэнні тыпаў кніг, выдадзеных у савецкай Беларусі ў канцы 1920-х – першай палове 1930-х гг.:

1927 – *чытанка* «Наш сцяг» І. Самковіча, І. Пратасевіча і Л. Гарбацэвіча;

1928 – *чытанкі* «Чырвоная Беларусь» І. Мазура, «Новае жыццё» К. Бялевіча, «Родныя шляхі» І. Самковіча, а таксама «Чырвонаармейская *чытанка*»;

1930 – *чытанка* «Чырвоная Беларусь» К. Шапялевіча і *чытанка* пад рэдакцыяй Л. Бэндэ;

1931 – *чытанкі* «Чырвоны шлях» Ф. Сцефановіча, «Юныя колгаснікі» П. Прудніка, «На фабрыках і заводах» Л. Казлова і М. Мышко;

1932 – *чытанкі* «У бой за пяцігодку» П. Прудніка, «Гудкі» А. Саладухі і А. Дразда, «Літаратурная *чытанка*» М. Астроўскага і А. Дразда.

Падобна, у савецкай Беларусі к 1928 г. слова *чытанка* амаль выціснула лексему *выпісы*, параўн. ужыванне абодвух слоў у 1928 г. у выданнях аднаго і таго ж аўтара: *выпісы* «Родныя шляхі» для 5-га класа І. Самковіча і яго ж *чытанка* з той жа назвай для 6-га класа. Хоць у друку канца 1920-х гг. сустракалася таксама форма *хрэстаматыя*, выглядае, што менавіта слова *чытанка* ў канцы 1920-х – першай палове 1930-х гг. прэтэндавала на тое, каб зрабіцца асноўным. Акрамя яго шырокага выкарыстання ў гэты час дзеля пазначэння пэўнага тыпу кніг, параўн. таксама ўжыванне дадзенай лексемы ў мове высокага дзяржаўнага функцыянера, наркома асветы Платуна: *у* ***чытанках*** *ёсць усё, але няма мастацкай* ***чытанкі*** (СБ 1933). Слова бытавала для пазначэння пэўнага тыпу літаратуры да канца 1930-х гг.

Іншая сітуацыя была ў Заходняй Беларусі: там укладальнікі хрэстаматый унікалі тоеснага з польскай мовай слова *выпісы*, але ў той жа час не карысталіся словам *чытанка*. Параўн.: «*Хрэстаматыя* новай беларускай літаратуры» І. Дварчаніна (1927) і *кніга да чытання* «Родны край» Л. Гарэцкай (1929).

Пачынаючы з 1930 г. як афіцыйная назва ў беларускай мове савецкай Беларусі таксама пачынае ўжывацца слова *хрэстаматыя*. Параўн.: *хрэстаматыя* «Беларуская літаратура» пад рэдакцыяй Л. Бэндэ (1930), укладзеная гэтым жа аўтарам *хрэстаматыя* для 5-га года навучання (1933) і складзеная А. Кучарам *хрэстаматыя* для сярэдняй школы (1934). У друку сустракаецца створаны на аснове слова *хрэстаматыя* (*хрыстаматыя*) іранічны аказіяналізм *хрыстаматчык* ‘чалавек, які падрыхтаваў хрэстаматыю’, ужыты ў дачыненні да Л. Бэндэ: *бяздарныя «праграмшчыкі»* і *«****хрыстаматчыкі****»* (БК 1932).

У канкурэнцыі 1930-х гг. за нейтральны статус паміж словамі *чытанка* і *хрэстаматыя* ўрэшце перамагло апошняе. Слова *хрэстаматыя* зафіксавана як адпаведнік рус. *хрестоматия* ў РБС-37, РБС-53 і РБС-82. Лексема *чытанка*, аднак, не зусім выйшла з ужытку, што можна назіраць у тым ліку і па тым, што яна пададзена ў БРС-62 (з паметай *устарэлае*) і ў ТСБМ.

Слова *чытанка* ўяўляе сабой багемізм, які трапіў у беларускую мову праз украінскае пасрэдніцтва. У верхнялужыцкай мове лексема *čitanka* з’яўляецца старым лужыцкім словам, адраджэнне якога адбылося пад чэшскім уплывам [405, с. 13]. К. Гадані звяртае ўвагу на тое, што ў чэшскай мове лексема *čitanka* мела не адно значэнне, аднак славенская, харвацкая, сербская, славацкая і лужыцкія мовы запазычылі гэты багемізм толькі ў значэнні ‘кніга да чытання’ [458, с. 63].

Вышэй разгледжаны толькі частка вандроўных запазычанняў-калек беларускай мовы. Акрамя прааналізаваных да гэтага разраду належаць таксама словы *абвод* ’перыметр’*, абсяг, адлюстраванне, адсотак, валец* ‘цыліндр’, *дзённік, займя, кругабег, кругаход* ‘перыяд’, *мілагучнасць, прыймя* ’прыназоўнік’*, прыслоўе, старажытнасць, ступеняванне* ’градацыя’, *сучаснасць, формаслоўе* ’марфалогія’, *хваласпеў* ’гімн’*, часопіс, чужаслоў* ’двукоссе’ і інш.

Лёс розных вандроўных запазычанняў-калек склаўся ў беларускай мове неаднолькава. Адны з іх трывала замацаваліся і існуюць у мове без якіх-небудзь альтэрнатыў (*адраджэнне, мілагучнасць, сучаснасць*). Ужыванне другіх функцыянальна або стылістычна абмежавана, яны канкурыруюць з інтэрнацыянальнымі словамі больш шырокага распаўсюджання або русізмамі (*жыццяпіс, кніжніца, лякарня, чытанка*). Трэцюю групу запазычанняў-калек складаюць лексемы, якія ўжываліся ў беларускай мове пэўнага перыяду (перадусім у 1920-я гг. XX ст.), але адсутнічаюць у сучасным узусе (*абвод, абежнік, прамер, роўнік, слухальня, чужаслоў*)[84]. Чацвёртую групу складаюць словы, прысутнасць якіх у беларускай мове была або ёсць эфемернай (*лятучка*).

У многіх выпадках істотным негатыўным фактарам засваення вандроўных запазычанняў-калек беларускай мовай з’явілася іх адсутнасць у рускай мове.

### 4.3.2. ПАЛАНІЗМЫ

Узаемаадносіны беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. з польскай мовай, якая ў папярэдні час поруч з рускай часта была пэўным узорам, паводле якога распрацоўвалася беларуская мова, патрабуюць далейшага вывучэння. Існуе неабходнасць больш поўна выявіць кола паланізмаў, што ўжываліся ў гэты час у нацыянальнай мове беларусаў, удакладніць іх стылявую прыналежнасць, а таксама ўстанавіць суадносіны ўнутраных і знешніх фактараў, што прывялі да зменаў у быцці адпаведнага пласта лексікі беларускай мовы.

Пры поглядзе на міжваенны перыяд у цэлым кідаецца ў вочы тое, што з пункту гледжання ўдзелу польскіх узораў у фарміраванні беларускай мовы 1920-я і папярэднія гады, з аднаго боку, і 1930-я гг., з другога боку, прынцыпова адрозніваюцца. Калі, напрыклад, у 1920-я гг. роля польскай літаратурнай мовы ў фарміраванні лексічнага складу навукова-публіцыстычнага стылю беларускай мовы характарызуецца як «прыкметная», то ў наступныя дзесяцігоддзі гэты ўплыў быў прадстаўлены «зусім нешматлікімі прыкладамі» [175, с. 262, 330]. Калі ў другім дзесяцігоддзі нашага стагоддзя ў беларускай мастацкай літаратуры ўжыванне паланізмаў было з’явай «звычайнай і вельмі распаўсюджанай», то ў мастацкіх творах 1930–1960-х гг. паланізмы выкарыстоўваліся «даволі рэдка».

[84] Незалежна ад ступені засвоенасці беларускай мовай у 1920-я гг. некаторыя вандроўныя запазычанні-калькі захаваліся ва ўжыванні асобных аўтараў і пазней. Напрыклад, у лісце да У. І. Міцкевіча ад 6 красавіка 1956 г. Я. Колас ужываў слова *абвод* ‘перыметр’: *па іх (могілак. – С. З.) абводу прыкінь, колькі трэба слупоў* (Кол. ЗТ20 20, с. 137).

Аўтары калектыўнай манаграфіі кваліфікуюць «захапленне» паланізмамі ў творах некаторых беларускіх пісьменнікаў як «неапраўданае» і адзначаюць, што яно «неаднаразова падвяргалася рэзкай крытыцы» [175, с. 318, 252].

Існуе погляд, згодна з якім неабходнай умовай запазычвання лічыцца двухмоўе. Такі падыход у значнай меры выкарыстаны пра вытлумачэнні наяўнасці паланізмаў у беларускай літаратурнай мове ў манаграфіі А. Я. Баханькова «Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд». Аўтар гэтай працы звяртаў увагу на тое, што на працягу 1920-х гг. лексічныя і іншыя сродкі польскай мовы яшчэ шырока выкарыстоўваліся беларуска-польскімі білінгвамі, падкрэсліваў, што пасля ўз'яднання Беларусі пэўная колькасць паланізмаў пранікла ў беларускую літаратурную мову «з вуснай і пісьмовай мовы беларуска-польскіх білінгваў» [20, с. 134, 26]. Пры пастаноўцы такога падыходу ў аснову скасаванне «польскага» вектара ў развіцці беларускай літаратурнай мовы ў 1930-я гг. і арыентацыя на лексічныя сродкі рускай мовы могуць выглядаць даволі абгрунтаванымі, бо самым пашыраным відам двухмоўя ў 1930-я і наступныя гады было беларуска-рускае. 1920-я гг. з пункту гледжання ўзаемаадносінаў беларускай мовы з польскай могуць выглядаць пры гэтай інтэрпрэтацыі як пэўнае адхіленне, як вынік інерцыі, што назапасілася ад папярэдняга часу. А. Я. Баханькоў называе 1920-я гг. «перыядам самай вялікай дыфузнасці беларускай літаратурнай мовы» [20, с. 134], г. зн. часам яе невыкрышталізаванага развіцця, якое (яшчэ) дапускала розныя непажаданыя ўплывы.

Відаць, у дадзеным выпадку пастулявана занадта прамалінейная сувязь паміж характарам развіцця беларускай мовы і наяўнасцю ў грамадстве беларуска-польскіх білінгваў. Не існуе простай, адназначнай залежнасці працэсу запазычвання ад інтэнсіўнасці ці, наадварот, ад слабасці міжнародных сувязей; «аслабленне кантактаў не адразу ж і не абавязкова вядзе да затухання гэтага працэсу» [181, с. 133–134]. На інтэнсіўнасць запазычвання моцна ўплывае працягласць кантактаў: чым больш працяглыя кантакты, тым больш верагодным будзе рэгулярнае запазычанне [181, с. 132]. У гэтым плане трэба мець на ўвазе, што кантакты беларускай мовы з польскай былі вельмі працяглымі – прынамсі, з XVI па XIX ст. У XIX ст. значэнне польскай мовы ў грамадскім жыцці паступова стала змяншацца толькі з 1860-х гг.

Бадай, варта больш дакладна ацаніць даступнасць польскай мовы ў БССР у 1920-я гг., адпаведна і наяўнасць беларуска-польскіх білінгваў. У той час польская мова была ў БССР адной з чатырох дзяржаўных моў. З 1922 г. у Мінску дзейнічала кніжнае таварыства «Культура», якое па 1927 г. надрукавала 115 назваў польскіх кніг. У 1925/26 навучальным годзе на тэрыторыі БССР налічвалася 56 польскамоўных школ, у 1926/27 – 79, у 1927/28 – 93 [301, с. 64]. Згодна з іншымі данымі, па стане на 1928 г. у Беларусі працавалі 127 польскамоўных школ [462, с. 57]. Аж да сярэдзіны – канца 1930-х гг. на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі польскамоўныя тэатральныя калектывы, выдаваліся падручнікі і мастацкая літаратура, друкавалася больш за дзесяць

польскамоўных газет. У нацыянальных польскіх акругах польская мова была мовай справаводства, у некаторых гарадах (Мінску, Барысаве і Магілёве) дзейнічалі польскамоўныя суды [462, с. 57].

Аналіз моўных дыскусій 1930-х гг. пацвярджае меркаванне аб тым, што ў «заняпадзе» паланізмаў у беларускай літаратурнай мове значнай была роля свядомага рэгулявання. 1930-я і наступныя гады ўяўлялі сабой час, калі «быў створаны "ГУЛАГ для слова", праводзілася пастаянная <...> рэгламентацыя ў галіне мыслення і маўлення, моўная дэмаркацыя» [400, с. 163]. У гэты час многія паланізмы незалежна ад іх засвоенасці беларускай мовай былі выведзены за межы літаратурнага ўжытку. Ужо ў першай палове 1930 г. у праекце рэзалюцыі бюро ЦК КП(б)Б па пытаннях мовазнаўства адзначалася як непажаданая «замена» беларускіх слоў польскімі (*рольніцтва* замест *земляробства*). Падобны падыход быў ацэнены як «адбітка палітычнай арыентацыі на капіталістычны Захад – на белую пакуль Варшаву супраць чырвонай Масквы». З другога боку, у праекце сцвярджалася, што «барацьба супраць русіцызмаў і інтэрнацыяналізмаў з’яўляецца, па сутнасці, барацьбой супраць саветызмаў» [252, с. 230, 229].

Пагроза паланізацыі беларускай мовы неаднаразова адзначалася ў калектыўнай працы «"Навука" на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі» (Мінск, 1931). Пра недастаткова актыўную барацьбу супраць засмечвання паланізмамі ўкраінскай і беларускай моў у сваім перадавым артыкуле ў нумары 128 за 1938 г. пісала газета «Правда». Па заданні СНК СССР у верасні 1938 г. пры кабінеце славянскіх моў Інстытута мовы і мыслення імя М. Мара ў Ленінградзе была створана спецыяльная група, якая ў 1939 г. працавала над тэмай «Паланізмы ва ўкраінскай і беларускай мовах і барацьба з імі» [8, с. 87]. У 1930-я гг. у беларускім друку неаднаразова ўчынялася «паляванне на паланізмы». Параўн. у гэтым плане прэтэнзіі стваральнікаў Саюза пісьменнікаў Беларусі (адзін з якіх быў да таго ж яшчэ і дырэктарам Інстытута мовазнаўства БАН) да літаратара Ю. Віцьбіча за тое, што ён «уносіць у беларускую мову паланізмы», – з прывядзеннем слоў *гзымса, гісэрня, дукаты* і *шэлягі* ‘грошы’, *валіза, кашары, мосяжны, спадкаемнасць, цвінтар* [637]. У «Самакрытычных заўвагах» перакладчыка і тэрмінолага Ю. Дрэйзіна аўтар выступаў за неабходнасць «выкідвання марфалагічных паланізмаў» [614]. Такога тыпу акцыі аказвалі непасрэдны ўплыў на моўнае ўжыванне. Напрыклад, пэўны час у Беларускім тэхнічным выдавецтве было забаронена ўжываць словы *газа, попел, шруба, варштат, выстарчальны* і інш. [533]. Аўтары калектыўнай манаграфіі лічаць, што падобныя выпадкі сведчылі аб «пачатку працэсу нівеліроўкі беларускай літаратурнай мовы, знішчэнні яе сакавітасці, шматфарбнасці, страце яе сінанімічнага багацця» [175, с. 240].

Паланізмы 1920–1930-х гг. разглядаліся ў працах многіх даследчыкаў. І. К. Германовіч прааналізаваў ужыванне слоў *гарбата, атрамант, загарак, цёнгле, мосенж, масянжовы*, прывёў пералік больш ужывальных (*варункі,*

*выстарчаць* і вытворныя, *гвязда, жагнаць, жадны, нэндза, пекны* і вытворныя *пекнасць, пекна* і *пекната, строі* і *стройны, выстраены, строіцца, ценкі, цнота* і *цнатлівасць*) і менш ужывальных (*вызыск, дэсэнь, мапа, парцаляна, пушка, пудэлак, развязаць, размаіты, рапараваць, тартак, трунак, тэстамент, утур, ядваб*) паланізмаў [71]. У іншай працы І. К. Германовіч разгледзеў словы *варунак, дэсань, мапа, нэндза, развязаць, тартак* [72]. «Паланізацыйны» напрамак развіцця беларускай мовы на працягу 1890–1982 гг. сярод іншых асэнсаваў у сваёй працы П. Вэкслер [510]. Месца і класіфікацыю паланізмаў у лексічнай норме беларускай літаратурнай мовы даследавалі А. Г. Літвіноўская і Г. А. Цыхун [214]. Паланізмы ў аповесці В. Ластоўскага «Лабірынты» разгледзела Г. І. Кулеш [184].

У 1920-х – пачатку 1930-х гг. (у асобных выпадках на працягу 1930-х гг.) у беларускай літаратурнай мове ўжываліся наступныя паланізмы, абумоўленыя польскім уплывам дэрываты, а таксама словы, выкарыстанне якіх у беларускай мове падтрымлівалася іх наяўнасцю ў польскай мове:

***абавязак***. На польскае паходжанне гэтага слова ўказваў К. Гутшміт, дапускаючы пасрэдніцкі ўкраінскі ўплыў [463, с. 511]. У ЭСБМ (1, с. 40) польскае паходжанне гэтага слова не абмяркоўваецца.

***адлюдак*** ‘нелюдзімы чалавек’: *хмурны, няхлямяжы,* ***адлюдак*** (Глад.). Няма ў БРС-26, аднак прадстаўлена ў РБС-28.

***адмена*** ‘від, разнавіднасць’: *цікавыя* ***адмены*** *ў прадукцыі УАН* (Пол. 1929). Слова сустракалася яшчэ ў нашаніўскі перыяд.

***адменны*** ‘асаблівы’ (БНТ-6; БРС-26; РБС-28).

***адпавядальнасць*** ‘адказнасць’: *дысцыплінарная* ***адпавядальнасць*** [190, с. 86], (Конст.). Ужыта, відаць, пад уплывам польскамоўнага арыгінала.

***адплыў*** ‘адток’: ***адплывы*** *працы з аднае галіны ў другую* (ЛА 31). Гл. таксама ніжэй *выплываць*.

***ангельскі***: *Байкот ангельскіх тавараў* (СБ 1927. Заг.; СБ 1930. МХ, Р-т; Нов.; Жур.); *Ангельская рада* (Зв. 1929. Заг.); *пушчу палякі прадалі ангельцам* (Фёд.); *ангельскія даныя* (Руб. СХЗ); *ангельская кладка, ангельская муроўка* (ТТ); *ангельская хвароба* (Сан.). У рэдкіх выпадках у 1920-я гг. сустракалася форма *англійскі*: *хунты стэрлінгаў англійскіх* (СД).

***адпавесці*** ‘адказаць’: *Несцер нічога не* ***адпавёў*** (Гарт. ЗТ, 1, 233). Напэўна, такая форма сустракалася і ў іншых аўтараў; з нагоды ўжывання П. Галавачом слова *адпавесці* аўтары калектыўнай манаграфіі пісалі, што гэта слова ў 1920-я гг. стварыў сам П. Галавач [175, с. 248].

***апавядаць***: *Дашынскі* ***апавядае*** *пра свае няспынныя спробы...* (СБ 1930. МХ); *ціхім голасам* ***апавядаць*** *госцю* (Бяд. ЗТ 4, 62). Разам з формамі *апавяданне* і *апавяданы* ў артыкуле аб дыялектызмах у мове твораў Я. Коласа Г. У. Арашонкава разглядала слова ***апавядаць*** як паланізм. Слова ***апавядаць*** выклікала рэзкую крытыку ў некаторых эмігранцкіх аўтараў («узятае жыўцом з польскае мовы») [350].

***апал***: *купляць сырэц і **апал*** (Люб.); *забяспечваюцца **апалам*** (Зв. 1929); *і апал, і будаўнічы матэрыял... гуты пераходзяць на тарфяны апал* (Фёд.); *апал – газа* (Карэл.); *від апалу* (Стад.); *нафтаапал* (ТТ; у гэтым слоўніку дадзена як эквівалент для рус. *нефтетопливо*, другім эквівалентам была лексема *нафтапаліва*). Ужывалася яшчэ ў нашаніўскі перыяд, зафіксавана ў шэрагу слоўнікаў 1920-х гг. (у БРС-26 – толькі ў значэнні ‘ацяпленне’; у РБС-28, на другім месцы пасля *паліва*). Аўтары калектыўнай манаграфіі прыводзяць фіксацыю слова *апал* у БНТ-18, а таксама звяртаюць увагу, што словы *апал* і *паліва* (БНТ-8) прыйшлі на змену ўжывальнаму раней размоўнаму слову *сагрэвак* [175, с. 269]. Слова зафіксавана і ў беларускіх дыялектах (Янк.), адпаведна можа разглядацца і як народнае слова [357, с. 263]. Ужываўся і дэрыват *апаловы*: ***апаловы** матэрыял* (Смол. 23/93). Актыўна ўжыванае ў 1920-я гг., у 1930-я гг. слова *апал* стала адступаць перад націскам лексемы *паліва* (у РБС-37 *апал* дадзена на другім месцы пасля *паліва*).

***апанаваць*** ‘авалодаць’: *змяніць, па свайму жаданню гэтых прычын мы не можам, але можам **апанаваць** імі*. Дадзеная цытата з працы Я. Лёсіка 1924 г. прыведзена ў адной сучаснай працы, але семантычнае калькаванне з польскай мовы не апазнана. Зыходзячы са звужаных уяўленняў аб бытаванні гэтага слова ў сучаснай беларускай мове зроблены вывад аб яго неўласцівасці для навуковага стылю [209, с. 239]. А. Б. Макмілін у 1973 г. указваў, што ў XIX ст. слова ўжывалася ў беларускай мове са значэннем ‘напасці’, аднак у XX ст. было вядома таксама значэнне ‘авалодаць’, адлюстраванае ў Касп. і БРС-62 [482, с. 145].

***апінія***: *эмігранцкае апініі* (Пол. 1926. Арт.). Гл. таксама ніжэй *зданне*.

***асягненне*** ‘дасягненне’: *з моманту асягнення* (Пол. 1926. Арт.). Падобна да іншых выпадкаў – параўн.: *беспасрэдны, беспасрэдна* (гл. ніжэй), *выдрукаваць, прыпушчальны* і інш. – на польскую крыніцу ўказвае прыстаўка.

***асяродак*** ‘цэнтр’. Слова *асяродак* прапаноўвалася ў якасці аднаго з адпаведнікаў рус. *центр* у матэматычнай тэрміналогіі 1922 г., аднак у рэвізаванай тэрміналогіі 1927 г. быў пададзены толькі адпаведнік *цэнтр*. У літаратуры разглядаецца як створанае ў рамках беларускай мовы [ЭСБМ 1, с. 190–191; 13, с. 28; 221, с. 57].

***атрамант*** ‘чарніла’. І. К. Германовіч адзначыў, што ў 1920-я гг. словы *атрамант* і *чарніла* выкарыстоўваліся паралельна, аднак ужывальнае яшчэ ў XIX ст. і ў нашаніўскі перыяд слова *атрамант* пераважала амаль да канца дзесяцігоддзя і цалкам знікла з ужытку толькі к канцу 1930-х гг. Важным для даследчыка было тое, што ў 1920-я гг. адзіным абазначэннем адпаведнага паняцця для Я. Коласа стала слова *чарніла*, што лексему *чарніла* (хоць і непаслядоўна) ужывалі Ц. Гартны, З. Бядуля. І. Германовіч зафіксаваў, што ў З. Бядулі варыянт *чарніла* замяніў слова *атрамант* толькі з сярэдзіны 1930-х гг., пазней, чым у іншых аўтараў. На думку даследчыка, паказальна, што БРС-26 фіксаваў толькі форму *атрамант*, а ў РБС-28 тых жа аўтараў былі пададзены дублеты *атрамант* і *чарніла* [71, с. 90–92].

Паводле аўтараў калектыўнай манаграфіі, слова *атрамант* выйшла з ужытку таму, што яно дубліравала «агульнавядомае беларускае слова» [175, с. 251], але папраўдзе форма *атрамант* таксама была агульнавядомай. У 1920-я гг. яна была вельмі пашырана ў публіцыстычным і навуковым стылях, ужывалася ў школьнай практыцы, параўн.: *«Намеснік бога» абліт **атрамантам*** (СБ 1930. ЗМХ); *неабходна ў школах завесці **атрамант** і вымагаць ад вучняў пісання толькі **атрамантам*** (Асв. 1927); *заліта **атрамантам*** (ЗАГНГ). Выхаду з ужытку гэтага добраўкаранёнага ў беларускай мове слова, безумоўна, садзейнічала антыпольская кампанія 1930-х гг. У сучаснай сітуацыі формы *атрамант – чарніла* разглядаюцца як дыяхранічныя дублеты [404, с. 161].

***баданне*** 'даследаванне': *баданне законаў* (Конст.). У дадзенай крыніцы ўжывалася паралельна са словам *дослед*, мае адпаведнік у старабеларускай мове [190, с. 86]. Відавочна, выкарыстанне формы *баданне* абумоўлена ў тым ліку ўплывам польскай мовы, але цікава тое, што словы *даследаваць, даследчык* і да т. п. не адразу ўкараніліся ў беларускай мове, а ўвайшоўшы, пэўны час мелі словаўтваральныя варыянты тыпу *даследванне – даследзіны – дослед, даследца – даследнік – даследчык*. У пачатку 1920-х гг. былі спробы выкарыстоўваць дэрываты на аснове кораня *бад-*. У перакладзе адной з прац Я. Карскага 1920 г., зробленым Я. Лёсікам у 1920 г., фіксуюцца словы *бадач* і *баданне* 'даследчык', пры гэтым пры слове *бадач* дадзена зноска з тлумачэннем яго значэння і абгрунтаванасці ўжывання [633, с. 3]. Так, Я. Лёсік прыводзіў народную формулу *шыла-бадзіла па небе хадзіла, звёзды лічыла*, якая, аднак, папраўдзе хутчэй ніяк не звязана з *бадач*. Ужо ў БРС-26 пры слове *баданне* было пазначана, што яно ўстарэлае (вельмі рэдкі выпадак стылістычнай паметы ў слоўніках 1920-х гг.). У РБС-28 як эквіваленты рус. *исследователь* былі прадстаўлены варыянты *даследнік* і *бадач*, а сярод адпаведнікаў рус. *исследование* на апошнім месцы дадзена *баданне* з паметай *уст*. Канстатуем, што паланізмы *бадач* і *баданне* вельмі хутка адступілі перад пашырэннем калек *даследаваць, даследнік, даследчык*, утвораных на аснове рускай мовы.

***баёвец*** 'баявік': *паліцыя і фашысцкія **баёўцы*** (СБ 1930. МХ). Старабеларускай мове вядома слова *боевник* 'баец', скарынаўскі багемізм [119, с. 144], слова *баяўнік* 'змагар' сустракаецца таксама ў заходнебеларускім друку: *У гісторыі касцёла запісаўся ён як цвёрды і мудры баяўнік яго правоў і вольнасці* (Кал. 1936. Рэц.).

***(у)бандажоўвацца*** 'перавязвацца, перабінтоўвацца', ***убандажаваць*** 'перавязаць': *прыйшлося тады ў яго ўбандажоўвацца. Ён жа і Сашку тады руку ўбандажаваў* (Чор. ЗТ, 5, с. 283). Пры дапамозе гэтых формаў у 1937 г. былі выпраўлены формы 1936 г. *ўбандатоўвацца, убандатаваў* у аповесці «Люба Лук'янская» (Чор. ЗТ, 5, с. 425). Слова не фіксавалася ў слоўніках 1920-х гг. М. Байкова і С. Некрашэвіча. Гэта даволі цікавы выпадак, калі ў другой палове 1930-х гг. у працэсе рэдагавання не падлеглі выпраўленню ў напрамку збліжэння з рускай мовай пэўныя спецыфічныя і падобныя да польскіх словы.

***беспасрэдны, беспасрэдна***: *беспасрэдным кіраўніцтве* (Асв. 1926. Арт.); *беспасрэдна звязаны* (ЗАГНГ). Слова было зафіксавана ў НБМС, БНТ-4 (у выглядзе *беспасрэдні*), БРС-26 (у форме *беспасярэдні*) і РБС-28 (у выглядзе *беспасярэдны*). РБС-37 падае толькі *непасрэдны*. На польскую крыніцу перайманння ўказвае прыстаўка. Насуперак уласціваму В. Ластоўскаму антыпольскаму пурызму ў форме *беспасярэдні* ён не бачыў уплыву польскай мадэлі, засяроджваючыся адзіна на агаласоўцы кораня і аддаючы перавагу форме з паўнагалоссем перад ужываным Я. Коласам словам *непасрэдны* [652].

***бібула*** 'кардон', 'прамакальная папера': *зважыць кавалачкі бібулы... выкрайвае з бібулы вокладкі... раздача картак для наклейвання на бібулу* (Асв. 1927); аднак у той жа крыніцы зафіксавана і: *вокладкі з картону*. Вядомае таксама гаворкам і старабеларускай мове (ЭСБМ 1, с. 348), слова *бібула* фіксуецца як адзін з адпаведнікаў для рус. *картон* у РБС-28 (на трэцім месцы поруч з *картон, кардон*), ужывалася Я. Купалам у значэннях 'газета, лістоўка' і 'лубачны малюнак' (СМК 1, с. 134). Няма пэўнасці, ці ў новай беларускай літаратурнай мове слова паўторна запазычвалася з польскай або заставалася ў народнай мове ад старажытных часоў і адтуль трапіла ў літаратурную мову.

***бляды*** 'бледны': *блядая ахварбоўка* (Асв. 1927); *блядыя твары… бляды, змучаны яўрэй* (Гольд); *бляды, напалоханы* (Кон). Вядомае старабеларускай мове, гаворкам, слоўніку І. Насовіча (ЭСБМ 1, с. 364) і літаратурнай мове нашаніўскага перыяду, слова *бляды* трактуецца як паланізм [767, с. 51; ЭСБМ 1, с. 364]. У народнай мове ўжывалася поруч з формай *бледны*. Укладальнікі РБС-28 не змаглі вызначыць адзіны адпаведнік для рус. *бледный* і прапанавалі тры формы: *бледны, бледы* і *бляды*; форма *бляды* яшчэ захоўвалася ў РБС-37 (была дадзена поруч з *бледны*). На думку аўтараў калектыўнай гісторыі беларускай літаратурнай мовы, ужываная К. Крапівой форма *бляды* на адрозненне ад *бледны* не была агульнанароднай [175, с. 251–252].

***бракаваць*** 'не хапаць': *у выдавецтве бракуе грошай* (Пол. 1929. Х). У сувязі з ужываннем гэтага слова В. Ластоўскі ў 1923 г. крытыкаваў Я. Коласа. На думку першага, трэба было карыстацца формай *нестае* [652]. Фіксавалася ў БРС-26 і РБС-28, але была абмінута ў РБС-37. Слова *бракаваць* выклікала рэзкую крытыку ў некаторых эмігранцкіх аўтараў у 1950-я гг. [350].

***брама***: *над вокнамі і брамамі* (СБ. 1930, а-д); *брама зроблена з дошак* (Лем. 31).

***бязлічны*** 'шматлікі': *фронт безлічных груповак* (Пол. 1926. Арт.); *бязлічныя спробы* (Цвік. (29)/93, с. 71). Сярод даволі разнастайных дэрыватаў з *-лічны* (*нялічны, шматлічны*) было і разгляданае кантамінаванае ўтварэнне, імпульсам для ўзнікнення якога было рус. *бесчисленный*.

***вакацыі***: *Аб вакацыях у школах* (СБ 1927. Заг.); *самастойнае ўкладанне на тэму: «Як я правёў час зімовых вакацый»* (Асв. 1928); *зімовыя вакацыі* (ПА 1929. № 2, аднак у гэтым самым нумары: *завочная школа не можа зачыняцца на летні і канікулярны час*). У РБС-28 слова *вакацыі* выкарыстоўвалася як адзін з эквівалентаў для рус. *вакации* (поруч з *адпачынак*) і як першы эквівалент для

рус. *каникулы*; форма *канікулы* ці яго вытворныя ў гэтым слоўніку *адсутнічалі*. У БНТ-23 і РБС-37 формы *вакацыі* і *канікулы* былі разведзены: адпаведнікам для рус. *каникулы* было дадзена слова *канікулы*, тады як форма *вакацыі* была *зарэзервавана* як адпаведнік для рус. *вакации*.

***вальнеючы*** ‘які запавольваецца, запаволены’: *вальнеючы рух* (НТФ 22). У савецкай Беларусі слова *вальнеючы* не ўжывалася; у БНТ-21 даваліся варыянты *замаруджаны, спавольнены рух*.

***варунак*** ‘умова’, ***безварункава*** ‘безумоўна’: *Адносна розных варункаў* (ЗАГНГ); *безварункава ў мясцовым, этнаграфічна-беларускім* (Цвік. (29)/93). Згодна з І. К. Германовічам, у 1920-я гг. варыянт *варунак* часцей ужываўся ў публіцыстычнай і навуковай літаратуры, тады як у мастацкай больш пашыраным быў адменнік *умовы*. Нягледзячы на гэта, слова *варунак* амаль поўнасцю выцяснілася з публіцыстычнай і навуковай літаратуры к канцу 1920-х гг., тады як у мастацкай затрымалася крыху пазней [72, с. 86–89]. Згодна з Л. М. Шакуном, замена слова *варунак* словам *умовы* адбылася ў сувязі з тым, што слова *ўмовы* «больш адпавядала новым умовам жыцця і асаблівасцям самой мовы» [389, с. 267].

***варштат*** ‘станок’: *кожны рух за варштатам... работніца ад варштату* (БРіС 1930. № 5–6, але тут жа: *у стаўшых к станку*); *Ад кузняў і варштатаў / Разложыстых палёў* (ВС 30); *Агульны догляд за варштатамі* (1931, НКн.; Зв. 1930, 1931, 1932; СБ 1930, 1931; Брук; ЗПК; Мойр.; ЛА 31; Вальд.); *З 18 варштатаў працуюць тры... Ведаць варштат як сваіх пяць пальцаў* (Зв. 1933. Заг.); *такарны варштат... пратачваецца на варштаце* (Багд.). Згодна з аўтарамі калектыўнай манаграфіі па гісторыі літаратурнай мовы, у 1920-я гг. слова *варштат* шырока ўжывалася ў творах М. Чарота і П. Галавача [175, с. 242–243]; папраўдзе, яно ўжывалася ў вялікай колькасці пісьменнікаў. Сустракаецца і пераноснае выкарыстанне гэтага слова: *як кажуць, «варштат працы»* (Пол. 1926. Арт.). Зафіксавана ў БРС-26 і РБС-28. Пераважна ў 1930-я гг. стала ўжывацца слова *станок*: *12–13 станкоў* (Лем. 31). У ТТ адпаведнікам рус. *станок* было дадзена бел. *станок*, тады як слова *варштат* рэзервавалася як адпаведнік для рус. *верстак*. Нягледзячы на шырокае выкарыстанне слова *варштат* у другой палове 1920-х гг. у мастацкім, публіцыстычным, навуковым стылях і яго фіксацыю ў лексікаграфічных працах, у пачатку 1930-х гг. у Беларускім тэхнічным выдавецтве было забаронена яго ўжываць [175, с. 240]. У РБС-37 слова *варштат* было пададзена на другім месцы пасля *станок*. Слова *варштат* магло ўжывацца ў мастацкіх творах і ў другой палове 1930-х гг., найперш у аўтараў, якія заспелі яго шырокае выкарыстанне ў другой палове 1920-х гг. Так, яно з’явілася, напрыклад, у 1937 г. пры выданні аповесці «Люба Лук’янская» К. Чорнага асобнай кнігай: фрагмент *набыў ткачоўскі талент* быў выпраўлены на *стаў пры ткачоўскім варштаце* (Чор. ЗТ, 5, с. 427).

***вахляр*** ‘веер’, ***вахляровы*** ‘веерны’: *распускаецца як* ***вахляр*** (Бядуля. Язэп Крушынскі. 1928); *душы бываюць <...>* ***вахляровыя*** (Санд. ЯТБСН). Фіксавалася ў РБС-28.

***выабражаць*** ‘уяўляць’, ***выабражэнне*** ‘ўяўленне’: *выабражэнне* (Пол. 1926. Арт.), *жыла ў гэту хвіліну ў яго выабражэнні* (Бяд. ЗТ, 3, с. 103, 346; ужыта ў аповесці «Салавей», але пры пазнейшых яе выданнях у 1932 і 1934 гг. слова *выабражэнне* было адрэдагавана), *роўнаадлеглымі адзін ад другога палудзеннікамі* (*выабражаемыя лініі ад канцавосся да канцавосся*) (СД); (Глад.); *Доўгі шэраг знаёмых мужчынскіх абліччаў прамільгнуў у яе выабражэнні* (Чэх. Д); *выабражальная перспектыва* (Шаб., але тамсама: *уяўная вось*). У 1920-я гг. формы *выабражаць, выабражэнне* былі вельмі пашыраны. У ранейшых творах З. Бядулі слова *выабражаць* сустракалася даволі часта, у 1928 г. пры публікацыі рамана «Язэп Крушынскі» ў часопісе «Узвышша» было ўжыта слова *прадстаўляцца* (*старому прадстаўляецца*), якое, аднак, у працэсе выдання рамана асобнай кнігай у 1931 г. было заменена на *ўяўляць*: *Стары ўяўляе сабе* (Бяд. ЗТ, 4, с. 363). У некаторых пазнейшых выданнях некаторых кніг (напрыклад, у перакладах «Дуэлі» А. Чэхава 1954 і 1994 гг.) на адрозненне ад выдання 1931 г. гэтыя формы выпраўляліся на *ўяўляць, уяўленне*. Форма *выабражаць* сустракаецца ў адным з перакладаў твораў У. І. Леніна ў сярэдзіне 1920-х гг., якая, аднак, пры выданні гэтага ж твора ў 1935 г. была заменена на *ўвабражаць*: *Я выабражаю сабе* (Лен. ХП 26) – *увабражаю сабе* (Лен. ПН 35).

Нягледзячы на тое што ў псіхалагічнай тэрміналогіі 1923 г. двойчы сустракаецца слова *ўяўны* (як адзін з эквівалентаў для *мнимый* і ў складзе тэрміна *ўяўны час*), тэрмін *уяўленне* ў БНТ-4 тым не менш адсутнічаў; рус. *воображение* ў ім адпавядала бел. *выабражэнне*. Слова *ўяўленне* з’явілася ў слоўнікавых крыніцах у 1926 г. (БРС-26, як адпаведнік рус. *представление*), аднак у гэтым слоўніку са спасылкай на БНТ-4 быў таксама дадзены і тэрмін *выабражэнне*. У ПБВС рус. *воображение* адпавядаў адзін эквівалент *уяўленне*, рус. *представление – прадстаўленне* і *ўяўленне*. У РБС-28 формы *выабражэнне* і *ўяўленне* дадзены як сінонімы пры рус. *воображение*; *уяўленне* яшчэ раз фігуруе ў гэтым слоўніку як эквівалент рус. *представление*. Формы *выабражаць, выабражэнне* не фіксуюцца ў пазнейшых лексікаграфічных крыніцах пачынаючы з РБС-37. У заходнебеларускім друку ў 1930-я гг. у значэнні ‘уяўны’ сустракалася слова *спадумны*: *супакой гэны толькі спадумны, а паказальнікам таго і будуць праявы хваробаў рознаякіх, з якімі часта сустракаецца лекар* (Кал. 1936. НА).

У некаторых сучасных выданнях формы *выабражаць, выабражэнне* не апазнаюцца як паланізмы, у сувязі з чым здзяйсняюцца неабгрунтаваныя праўкі. Напрыклад, у зборніку маладнякоўскіх апавяданняў «Веснаход» 1987 г. у адным з твораў С. Баранавых форма *выабражэнне* выпраўлена на *ваабражэнне* – *яго ваабражэнне збілася на хвіліну* (Весн., с. 488).

***выдрукаваць***: *выдрукаваны яны былі ў газеце* (Багдан.), *карэспандэнтка выдрукавала нарыс* (Пол. 1931). На польскую крыніцу перайманне ўказвае прыстаўка.

***вызыск(а)вацца*** ‘эксплуатавацца’, ***вызыск*** ‘эксплуатацыя’, ***зыск*** ‘даход’: *дробная буржуазея, сялянства, рабочыя... вызыскуюцца панамі-*

*земляўласнікамі, капіталістымі... вызыск голы, просты, бяссорамны* (СБ 1923); *Сам нэгр сумленна дзеліць «зыск» са старым* (Крыв. 1923, ужыта В. Ластоўскім). У літаратуры ў адным выпадку сцвярджаецца, што слова *зыск* было запазычана з польскай мовы ў нашаніўскі перыяд, а ў другім – што яно з'яўляецца наватворам Ц. Гартнага [175, с. 143, 248–249]. Лексема *зыск*, аднак, адсутнічае ў СМНН, дзе дадзены толькі дзеяслоўныя формы *зыскацца, зысківацца, зысківаць*. Слова *вызыск* было ўжыта ў перакладзе Я. Лёсіка на беларускую мову «Маніфеста камуністычнай партыі» ў 1923 г., са спасылкай на гэту крыніцу формы *вызыск* 'эксплуатацыя', *вызыскваць* 'эксплуатаваць' з вытворным *вызыскальнік* 'эксплуататар' былі ўключаны ў БРС-26. Фіксацыя ў слоўніку спрыяла больш ці менш актыўнаму ўжыванню гэтых слоў у беларускай мове. Аднак у БНТ-10 адпаведнікам для рус. *эксплоатация* былі дадзены толькі *эксплёатацыя, карыстанне*. Такі падыход не быў падтрыманы ў БНТ-11: адпаведнікамі рус. *эксплоатация* ў ім былі дадзены *вызыск, эксплёатацыя*. У РБС-28 слова *вызыск* было пададзена, але на другім месцы пасля *эксплюатацыя*. У адной з прац другой паловы 1920-х гг. крытыкуецца як русізм слова *даход*, сцвярджаецца, што замест яго лепш было б ужываць «беларускае» слова *зыск* [524, с. 190].

Важнае з пункту гледжання камуністычнай ідэалогіі паняцце «эксплуацыя», аднак, не змагло абазначацца ў беларускай мове нейкім спецыяльным, «сваім» словам. Пасля пагрому беларускай лінгвістыкі 1930 г. спробы выкарыстоўваць замест «сакральнага» слова *эксплуатацыя* лексему *вызыск* ацэньваліся выключна адмоўна. Грунтуючыся на паказаннях арыштаванага Я. Лёсіка, старшыня СНК БССР М. Галадзед у сваім снежаньскім дакладзе 1930 г. замену слова *эксплуатацыя* словам *вызыск* кваліфікаваў як арыентацыю на «мову кулака» [592, с. 44–45]. У 1934 г. падчас скіраванай супраць Ц. Гартнага кампаніі К. Крапіва ахарактарызаваў слова *зыск* як адзін з «цішкізмаў», утвораны «нягледзячы ні на якія моўныя законы» [175, с. 248–249].

***войсце*** 'ўваход'***,*** ***выйсце*** 'выхад': *падышлі да войсця ў Сівулінскую вуліцу* (Абаб., с. 19; Гартны. Сокі цаліны); *знайсці незваротнае выйсце* (Гарт. ЗТ, 3, с. 38); *перашкода да выйсця на арэну беларускай сялянскай інтэлігенцыі* (Цвік. (29)/93). У. Дубоўка цікавіўся старабеларускім словам *выйсце* [615, с. 179], аднак ужыванне, прынамсі, А. Цвікевіча не звязана са старабеларускай крыніцай. У артыкулах такіх ідэалагічна бездакорных аўтараў, як С. Вальфсон і А. Сякерская, выкарыстоўвалася ўтварэнне ад *выйсце* або паланізм *выйсцёвы* 'зыходны': *можа стаць выйсцёвым пунктам пролетарскай літаратуры* (Пол. 1930. № 1); *навуковая лінгвістыка робіць гэтае палажэнне выйсцёвым пунктам для свае даследчае працы* (Пол. 1930. № 3). У 1933 г. ужыванне слова *выйсце* было патрактавана як «стаўка на самабытнасць беларускай мовы» [573]. Гэты выпадак паказвае, наколькі хутка маглі змяняцца моўныя перавагі: ужывальнае ў 1930 г. слова праз тры гады магло ўжо лічыцца непрымальным.

***выкладовы***: *школа з выкладовай беларускай мовай* (Белар.).

***выкрут*** ‘незвычайны паварот; прыём з хітрыкамі’, ***выкрутны*** ‘які можа знайсці выйсце з цяжкага становішча, выкрутлівы’: *удалыя выкруты* (Зар. ЗТ, 2, с. 341); ***изворотливый і исполнительный*** *перакладзены адным словам* ***спраўны****; для першага з гэтых выразаў правільны пераклад будзе, здаецца,* ***выкрутны*** (764; 683, с. 170). Слова *выкрут* фіксавалася ў БРС-26 як адпаведнік рус. *выверт*, але ў пазнейшым РБС-28 фігуравала толькі форма *выкрунтас* (*выкрутас*). Слова *выкрут* пададзена ў ТСБМ як стылістычна нейтральнае, але фактычна яно ў беларускай мове малаўжывальнае, многа часцей выкарыстоўваюцца стылістычна зніжаныя *выкрутас* і *выкрунтас.* У ЭСБМ *выкрунтас* трактуецца як запазычанне з польскай, а *выкрут* – як вытворнае ад *выкруціць*. На нашу думку, тут варта было б разглядаць і версію калькавання з польскай мовы. Лексема *выкрутны*, якая пазней, здаецца, нідзе не сустракалася, таксама з’яўляецца скалькаванай або ўзнікла ў выніку «прамалінейнага словаўтварэння» (А. В. Ісачанка); яе месца ў сучаснай беларускай мове занята прыведзеным у ТСБМ як размоўнае словам *выкрутлівы*.

***вылам*** ‘вынятак, выключэнне’: *вылам са створаных форм жыцця* (Цвік. (29)/93). Зафіксавана ў ТСБМ у «фізічным», непераносным значэнні ‘выламанае месца’ без ніякіх ілюстрацый. У ЭСБМ (2, с. 265) трактуецца як уласнае безафікснае ўтварэнне.

***вымагаць*** ‘патрабаваць’, ***вымога, вымаганне***: *вымагае апошняя праграма* **(**Фёд.; у гэтай кнізе ў паўтарастаронкавай прадмове слова *вымагаць* ужыта чатыры разы); *антырэлігійны матэрыял падабраны згодна вымаганняў старой праграмы* (АВШ); *якія ж вымаганні ставіла пралетарская грамадскасць* (Мал. 1930). ЭСБМ (2, с. 269) разглядае *вымога* як уласнае ўтварэнне або запазычанне з польскай. Словы *вымагаць, вымога* і да т. п. былі шырока прадстаўлены ў лексікаграфічных крыніцах 1920-х гг.: *вымога* (БНТ-2), *вымагальны, вымаганне, вымагаць, вымога* (БРС-26), *вымаганне* – як адзін з эквівалентаў рус. *требование; вымагальнасць* – *требовательность* (БНТ-10), *вымога* – як эквівалент рус. *запрос* і *требование; вымаганне* – як эквівалент рус. *требование* (РБС-28), *вымаганне* і *вымагальнасць* – як эквіваленты рус. *требование*, *требовательность* (РБС-28; БНТ-23). Ва узусе лексемы *вымагаць, вымога, вымаганне* бытавалі паралельна са словамі *патрабаваць, (за)патрабаванне* (лексема *запатрабаванне* сама была створана пад польскім уплывам): *адпавядаў запатрабаванням пралетарскай грамадскасці* (Мал. 1930); у цэлым, аднак, у 1920-я гг. яны ўжываліся многа часцей, чым у пасляваенныя гады. Словы *вымога, вымаганне* не адлюстраваны ў РБС-37, верагодна, як ахвяры антыпольскай кампаніі 1930-х гг.

***выпісы*** ‘хрэстаматыя’: *Выпісы з беларускае літаратуры* (назва кнігі 1923 г.); *літаратурныя выпісы* (Самк.). Фіксавалася ў лексікаграфічных крыніцах: поруч з *чытанка* было пададзена на другім месцы ў БНТ-2, было прадстаўлена ў ПРБС-24 (поруч з *хрыстаматыя* і *чытанка*), ПРБС-26 (на першым месцы поруч з *чытанка*), БРС-26 (поруч з *чытанка*), РБС-28 (на першым месцы поруч

з *чытанка*). У той час як у слоўніках у 1920-я гг. лексема *выпісы* паспяхова канкурыравала са словамі *чытанка* і *хрэстаматыя*, ва узусе ў савецкай Беларусі, здаецца, больш паспяхова ўкаранялася слова *чытанка* (гл. 4.3.1).

***выплываць*** 'вынікаць, мець што-небудзь сваёй крыніцай': *вывад: з гэтых доследаў выплывае, што кожнае гучнае цела, усё цалкам ці часткамі, знаходзіцца ў вагальным руху* (НК 24); *з яго выплываюць недамаганні* (МБ 1936); *убачым усюды, як тэза нясведамасці і ўсіх консэквэнцый, выплываючых з гэткага становішча, уеццa чырвонаю істужкаю* (Кал. 1936. НА). Першая цытата з падручніка па фізіцы прыведзена ў адной сучаснай працы, пры гэтым семантычнае калькаванне не апазнана. Зыходзячы з сучасных уяўленняў аб бытаванні гэтага слова ў беларускай мове зроблены вывад аб яго неўласцівасці для навуковага стылю [209, с. 239]. Гл. таксама вышэй *адплыў*.

***высілак***: *пры пэўных высілках* (Смол. 23/93); *пры неймаверных высілках* (СД); *вытворчыя высілкі бядняцка-серадняцкага масіву... пабудаванне навукова-ўгрунтаванага плану павінна было патрабаваць працяглых высілкаў* (Пол. 1930). Калі ў калектыўнай манаграфіі трактуецца як запазычанне з польскай мовы нашаніўскага перыяду [175, с. 143], то ў пазнейшай «Гістарычнай лексікалогіі...» разглядаецца таксама і як магчымы дыялектызм [82, с. 259]. Ужывалася паралельна з *намаганне*; *намога* (ТТ), *натуга* (БНТ-4): *нават пры самым вялікім намаганні* (ЧБ 1930). Адсутнічала ў лексікаграфічных крыніцах 1920-х гг. У БРС-26 было дадзена *высіленне* 'знясіленне', у РБС-28 для рус. *усилие* былі дадзены *намога, натуга, наляганне, сілкаванне, забегі*, у БНТ-23 – *наляганне, намаганне*. У ТСБМ прыведзена з паметай «разм.».

***выспа*** 'востраў': *выспа Куба* (Ісб.); *людзі, закінутыя на адну з выспаў Лёдавітага акіяну* (Пол. 1929. Х); *на аднэй выспе* (Соб.); *выспы ўспамінаў* (Гал. Сп. 31); (Зв. 1928; Мікл.; СБ 1930. МХ). У якасці адпаведніка рус. *остров* слова *выспа* было дадзена ў БНТ-3, у БРС-26 (са спасылкай на БНТ-3), аднак у РБС-28 і РБС-37 былі прадстаўлены варыянты *востраў* і *выспа*. У 1920-я гг. ужывалася, здаецца, часцей, чым *востраў* (прынамсі, у геаграфічнай і папулярнай літаратуры), а ў 1930-я гг. заняпала.

***выстарчаць*** 'хапаць', ***выстарчальны***, ***дастарчаючы*** 'дастатковы' і інш: *вучань і настаўнік знаходзяць для сябе ў тых падручніках дастарчаючую дапамогу* (Асв. 1924); *выстарчае* (Пол. 1925); *выстарчыць каротка зазначыць* (Пол. 1926. Арт.); *недастарчаючая падрыхтоўка... невыстарчаючае ўменне* (Асв. 1927); *выўчэнне ідэёвага зместу прыказкі з аднаго толькі этычнага пункту погляду не выстарчае* (Барыч.), *невыстарчальнасць адцягненага крытэрыя* (Пол. 1928. Арт.); *выстарчаючым... з выстарчальнай поўнасцю* (ЗАГНФ); *Выстарчальна развітая чуласць* (АМ 1928); *тэмпы вярбоўкі ў партыю невыстарчальны... Ход лесазагатовак невыстарчальны* (Зв. 1929. Заг.); *выстарчальна банальны* (Пол. 1929. Арт.); *невыстарчальная праца* (ББ 1929); *не былі выстарчальна мабілізаваны камуністыя* (Зв. 1930, а-д, пастанова райкома КП(б)Б); *у выстарчальнай ступені... выстарчальны бег вады...*

*выстарчальнай колькасці* (Аўч.), *невыстарчальная ў нас колькасць гною... у выстарчальнай колькасці* (Бах.), *невыстарчальная культурнасць... з'яўляецца неабходным і выстарчальным для канчатковай перамогі сацыялізму* (БРіС 1930); *колькасць невыстарчальная* (ВС 30); *сума, выстарчальная для пабудовы* (Фёд.); *выстарчальна вычэрпваючы* (Крас.); *невыстарчальнай* (ББ 1931); *невыстарчальнасць* (Пол. 1931); *невыстарчальнае набліжэнне* (МіР 1932); *пільнасць была невыстарчальнай... невыстарчальная рэвалюцыйная пільнасць... надзвычай слабае і невыстарчальнае разгортванне барацьбы за пралетарскі інтэрнацыяналізм* (Зв. 1933); *аргкамітэт адзначае невыстарчальную творчую актывізацыю Янкі Купалы* (СБ 1933). М. В. Абабурка прыводзіць ужыванне К. Чорнага *выстарчыць* 'дагадзіць, знайсці, дастаць', паказвае, што слова бытуе ў гаворках (Абаб., с. 21). З нагоды формаў *выстарчаючы, выстарчае, невыстарчальны* і інш. у калектыўнай манаграфіі напісана, што некаторыя запазычанні з польскай мовы з'яўляліся характэрнай рысай мовы беларускай навуковай і мастацкай літаратуры. У іншым месцы з нагоды выкарыстання слова *выстарчальны* ў зборніку прац Інстытута псіханеўралогіі ў 1933 г. заўважана, што лексема была засвоена ў папярэднія гады ў навуковым стылі, але пазней засталася па-за рамкамі літаратурнага ўжытку, «зусім знікла» [175, с. 263, 330].

Як відаць з прыведзенага матэрыялу, такія формы былі ў шырокім ужытку таксама ў публіцыстычным і афіцыйна-дзелавым стылях. Слова фіксавалася яшчэ ў слоўніку І. Насовіча. Лексема *невыстарчальнасць* у БРС-26 была дадзена са спасылкай на пераклад на беларускую мову Я. Лёсіка «Маніфеста камуністычнай партыі», але ўказанне на гэтую крыніцу – хутчэй выпадковасць, бо, напрыклад, лексема *выстарчаючы* ўжывалася раней і была зафіксавана ў БНТ-1. У РБС-28 падобна да БНТ-1 было пададзена слова *выстарчаючы* (*достаточный*), але для *недостаточный* формы з *старч-* дадзена не было. Відаць, як дыскрымінацыю шырокаўжывальных формаў са *старч-* на карысць «больш беларускага» выказвання і жаданне ўхіліцца ад польскага ўплыву трэба разглядаць іх адсутнасць у БНТ-23, дзе рус. *достаточный* мае адпаведнікі *дастатковы, дастатны*, а *недостаточность – недастатнасць*. Словы *(не) выстарчальны* і інш. шырока бытавалі ва ўсіх стылях, прынамсі, да сярэдзіны 1930-х гг.

***выступіць*** 'выйсці': *выступілі з колгасу* (КооБ 1930). Семантычнае запазычанне або калька.

***вытапляць*** 'выплаўляць', ***вытап*** 'выплаўка': *металазаводы будуць вытапляць мільёны тон чыгуну* (ВС 30); *вытап* (РБС-28). Адсутнічала ў нашаніўскі перыяд. Дадзена ў РБС-28, аднак у ТТ было ўжо *выплаўляць, выплаўка*. Выкарыстанне падтрымлівалася і народнай формай *вытапіць*. Падобная сітуацыя была з формамі *растапіць, стоп.*

***вытвар*** 'выраб, прадукт': *дазваляючы абмен вытворамі прыроды* (Смол. 23/93); *мы можам наладзіць фактычны **вытвар** гэтага штучнага ўгнаення* (Плуг 1929). Ужывалася яшчэ ў нашаніўскі перыяд [70, с. 160]. Зафіксавана

ў БРС-26, аднак адсутнічала ў БНТ-11; у РБС-28 зафіксавана як апошні з эквівалентаў для рус. *продукт* (поруч з *прадукт, выраб*), у той час як для рус. *изделие* адпаведнікам было дадзена *выраб*. Ужыванне бел. *вытвар* у 1920-я гг. падтрымлівалася і той акалічнасцю, што ў гэты час даволі шырока выкарыстоўваўся (зрэшты, часта крытыкаваны) дзеяслоў *вытвараць*. Узорам для беларускага слова магло быць таксама укр. *витвір*, якое як філасофскі тэрмін ва ўкраінскай літаратуры магло лічыцца арыгінальным дэрыватам [166, с. 16]. Польск. *wytwór* і ўкр. *витвір*, магчыма, самі з'яўляюцца калькамі: польскае слова з нямецкай, а укр. *витвір* – з польскай. У такім выпадку бел. *вытвар* трэба было б разглядаць як вандроўнае запазычанне-кальку.

***вытрывалы*** 'вынослівы', ***вытрымалы*** 'стрыманы', ***вытрымаласць*** 'стрыманасць; вытрыманасць': *вытрывалы* (Джуд); *Пракурор патрабуе канспірацыі і вытрыманасці* (СБ 1930. ЗМХ). У БРС-26 зафіксаваны *вытрымалы, -аны* 'стрыманы', *вытрымаласць, -анасць* 'вытрыманасць, вытрымка', у РБС-28 – *вытрыманы, -алы, вытрыманасць*. Зрух у РБС-28 формы з *-л-* на другое месца (*вытрымалы*) або яе адсутнасць (*вытрыманасць*) указвае на аддаленне ад польскай крыніцы; у сучаснай мове захаваліся формы без *-л-*. З нагоды адсутнасці формы на *-асць* (*вытрымаласць*) у ПБВС Л. Цвяткоў рабіў заўвагу ўкладальнікам гэтага слоўніка: «*выдержка* не толькі *вытрымка* і *вынятка*, але і *вытрымаласць* (маральная ўласцівасць)» [764].

***гарбата***. І. К. Германовіч разгледзеў ужыванне гэтага слова (якое да 1920-х гг. было амаль адзіным абазначэннем адпаведнай рэаліі) у 1920–1930-я гг. на матэрыяле мастацкай літаратуры, звярнуў увагу на тое, што пасля рэвалюцыі Я. Колас ужываў назоўнік *гарбата* ўжо толькі як сродак моўнай характарыстыкі людзей вышэйшых сацыяльных класаў, што К. Чорны і П. Галавач у творах на гарадскія тэмы выкарыстоўвалі назоўнік *чай*. У творах Ц. Гартнага ўжывалася не толькі слова *гарбата*, але і *гарбатнік, гарбатня*. На думку даследчыка, тая акалічнасць, што ў РБС-28 на адрозненне ад ранейшых слоўнікаў былі прадстаўлены абодва назоўнікі, сведчыла аб экспансіі назоўніка *чай* у тагачасным узусе. І. К. Германовіч указаў і на пярэчанне М. Гарэцкага з нагоды ўвядзення ў беларускую мову слова *чай*, і на прыклады рэдагавання ў канцы 1930-х гг., калі ў розных выданнях аповесці «Гой» М. Лынькова назоўнік *гарбата* замяняўся назоўнікам *чай* [71, с. 88–90].

У пазнейшай літаратуры лексема *гарбата* разглядаецца як слова, якое пранікла ў літаратурную мову з польскай мовы [175, с. 143] або з гаворак [82, с. 259].

У беларускай літаратурнай мове другой паловы 1920-х – пачатку 1930-х гг. назоўнік *гарбата* і некаторыя яго вытворныя ўжываліся яшчэ шырэй, чым гэта прадстаўлена ў І. К. Германовіча. Гэты назоўнік актыўна выкарыстоўваўся ў публіцыстычным і ў афіцыйна-дзелавым стылях, у навукова-папулярнай, навучальнай і мастацкай перакладной літаратуры: *Патрабуйце гарбату і каву* (СБ 1924. Рэ); *Я п'ю гарбату* (Некр.); *потым гарбата. Пасля гарбаты*

*заняткі* (Ісб.); *праверка, гарбата і паўгадзіннае страявое навучанне* (Моск.); *звычайная гарбатная шклянка* (Дашк.); *піў гарбату... п'ю гарбату* (Піг., але тамсама: *кубак чаю*); *хлеба, гарбаты, рысу* (Джуд); *вада для гарбаты... каўток гарачай гарбаты* (СМД), *піць халаднаватую гарбату* (Брук); *літаратурныя «шклянкі гарбаты»* (ЗПК, загаловак раздзела); *у шклянцы гарбата* (Гарб. 30, але тамсама: *п'ем чай*); *харчаванне – гарбата, абед, вячэра* (СБ 1930); (Глад.); *з 9 да 16 гадзін з перапынкам на ½ гадзіны для гарбаты* (Арх. 1931); *Дзеншчык паднёс гарбату, варэнне* (Чэх. Д); *салдат піў у нас гарбату* (Гайд. 31; у выданні твора 1936 г. – Гайд. 36 – *гарбата* была папраўлена на *чай*); *заварвае гарбату* (ЛіМ. 1933); *гарбата* (Маўр. Палескія рабінзоны, 1933). Барацьба з паланізмамі пачатку 1930-х гг. адкрыла дарогу шырокаму ўжыванню ў беларускай літаратурнай мове назоўніка *чай*, яго сталі ўжываць і аўтары, якія раней карысталіся словам *гарбата*, параўн., напрыклад, яго выкарыстанне ў перакладзе з рускай мовы, зробленым У. Хадыкам: *п'юць **чай*** (Горкі ЗТ, V).

***годнасць***'ганаровае найменне': *Янку Купале далі годнасць народнага паэты* (Гарб. 30. Пр.); (Пол. 1929; Гутк.; Зв. 1930; ЛіМ 1936). Фіксавалася ў РБС-28 і РБС-37. У 1930-я і наступныя гады паступова было заменена словам *званне*. У ТСБМ дадзена без стылістычнай паметы са сканструяванай ананімнай ілюстрацыяй.

***дастаць*** 'атрымаць': ***дастаў*** *новую пасаду раённага агранома... я дастаю ад мытніцы ўзнагароду* (Бяд. ЗТ, 4. Язэп Крушынскі; але тамсама: *я атрымліваю ў яго мізэрную пенсію*); *дапамогу ад мяне заўсёды дастанеце* (Зар. ЗТ, 3, с. 81); *дастаць працы* (Пол. 1929, арт. Ц. Гартнага); *адзін гурток звяжацца з Мурманскам і дастане весткі аб поўначы СССР* (Гарб. 30. Пр.); *тым болей дастанеш падзякі... моцную, гарачую прамову і, дастаўшы згоду, зразу ж пачаў гатавацца* (Гарт. ЗТ, 1, с. 172); *можна дастаць* 'атрымаць, падхапіць' *заразу* (Піг.); *ад памешчыкаў і кулакоў дастае ў арэнду зямлю* (Кір.; Гарб. 32); *дастаў тры гады турмы* (Кал. 1936). Гэта семантычная калька з польскай мовы ўжывалася ў нашаніўскі перыяд і захоўвалася ў 1920-я гг. Слова, аднак, не было зафіксавана ў БРС-26; а ў РБС-28 было пададзена як адзін з эквівалентаў рус. *получать*: *атрымоўваць, атрымліваць, здабываць, набываць, даставаць, прыймаць, палучаць*. Абмежаванне гэтага слова ў лексікаграфічных крыніцах можна бачыць у 1929 г., калі падчас прагляду надрукаванага БНТ-23 з мэтай выяўлення памылак, зробленых ранейшай тэрміналагічнай камісіяй «нацдэмаўскага складу», спалучэнне *даставаць выхаванне* было заменена на *выхоўвацца*. Адсутнічае ў РБС-37. У ТСБМ прыведзена фактычна толькі як частка ўстойлівага выразу *дастаць хваробы* з паметай «*разм.*» (ТСБМ 2, с. 146). У калектыўнай манаграфіі згадваецца ў сувязі з крытычным разглядам К. Крапівой у 1936 г. мовы Ц. Гартнага (сярод «цішкізмаў», слоў, утвораных «нягледзячы ні на якія моўныя законы», было прыведзена спалучэнне *ліст дастаны*) [175, с. 249], але, як відаць з вышэйпрыведзенага, папраўдзе выкарыстанне гэтага слова выходзіла далёка за словаўжыванне Ц. Гартнага.

Лексема выкарыстоўвалася ў публіцыстычнай, у навучальнай літаратуры. Г. І. Кулеш выявіла ўжыванне гэтага слова і ў афіцыйна-дзелавым стылі (*дастаць дазвол* – КЗаШ) [195, с. 108].

На фоне існавання ў беларускай мове слоў *атрымліваць* (*атрымоўваць*), *даставаць, палучаць*, сярод якіх першае прэтэндавала стаць агульнай нейтральнай лексемай для абазначэння адпаведнага паняцця (для выканання гэтай задачы было нават абмежавана ў літаратурным ужытку агульнанароднае слова *палучаць*), заняпад асацыяванай з польскай мовай формы *даставаць* прыходзіцца лічыць даволі заканамерным. Натуральна, звужэнню ва ўжыванні лексемы *даставаць* спрыяла і антыпольская кампанія 1930-х гг.

***дасэнь*** ‘узор’: *як нейкія ўзоры-дасэні* (Узв. 1930. Арт.). У калектыўнай манаграфіі пазначана як слова, якое ўжываў паэт М. Чарот [175, с. 252]. У ТСБМ дадзена як устарэлае слова, прыведзены прыклад з паэтычнага твора У. Дубоўкі. Пашырана ў гаворках (ЭСБМ 3, с. 181).

***дзедзіна*** ‘галіна, сфера’: *у гэтай дзедзіне... у дзедзіне навуковай* (Цвік. (29)/93); *асабліва ўражае вялікая колькасць русіцызмаў у дзедзіне фразеалогіі...* (Мал. 1929. Арт.). Не фіксавалася ў БРС-26 і РБС-28. У літаратуры засведчана як запазычанне нашаніўскага перыяду ў значэнні ‘спадчыннае ўладанне’ [175, с. 143], але, як бачым, ужывалася і пазней, хоць і ў іншым значэнні. Не вытрымала канкурэнцыі з запазычаннем *сфера* і семантычнай калькай з рускай мовы *галіна*, выйшла з ужытку.

***жадны*** ‘ніякі’: *не мае жадных прыбытковых крыніц* (ЗАГНГ); *не зварочвалі жаднай увагі* (Бяд. ЗТ 4. Язэп Крушынскі); *нажык павінен быць востры, чысты, без жадных шчарбін...* (Жур.; АВШ; Араб.; СБ 1930); *спажыўчая вартасць не мела б жаднай менавой вартасці* (ЛА 31). Паралельна з *ніякі* бытавала ў нашаніўскі перыяд [71, с. 96; 70, с. 147], шырока ўжывалася ў 1920-я гг. [71, с. 96]. З сярэдзіны 1930-х гг. у рамках кампаніі дэпаланізацыі беларускай мовы ў паўторных выданнях нейкіх кніг слова *жадны* адхілялася. Так, у кнізе «Палітычная эканомія» 1934 г. ранейшае месца з ужываннем лексемы *жадны* было выпраўлена так: *спажывальная вартасць не мела б ніякай менавой вартасці* (ЛА 34). Фрагмент *без жадных адзнак жыцця* з кнігі В. Біянкі 1930 г. у 1938 г. быў выпраўлена на *як нежывая* (Біанкі 38).

***збройны*** ‘ўзброены’: *Румынскі кароль раскрывае планы збройнага нападу на СССР* (СБ 1930. ЗМХ). Можа інтэрпрэтавацца і як уласнае ўтварэнне або перайманне старабеларускага слова.

***зварот*** ‘вяртанне’, ***узварот***: *зварот у вёску* (Ісб.); *мы не задавальняемся казкамі аб звароце работніц да печкі і да калыскі* (Мойр.); *пасля звароту з Сібіры* (Глад.); *зварот да мысу Халупы* (Джуд); *той, хто прагне ўзвароту назад* (ЛіМ 1933). Аб шырокім ужыванні слова *зварот* у значэнні ‘вяртанне’ ўскосна сведчыць выказанае ў 1964 г. шкадаванне М. Лужаніна аб тым, што цяпер слова *зварот* ужываецца толькі як эквівалент рус. *обращение* [217].

***звязак*** ‘сувязь’: *у звязку з гэтым* (Гарт. ЗТ, 3, с. 33); *пэўна, звязкі ёсць... вы з ім у блізкім звязку* (Зар. ЗТ, 1, с. 118, 124); *у звязку з гэтым яна мецьме...*

*у звязку з паўстаннем* (Пол. 1926. Арт.); *у звязку з апошнім* (Асв. 1926); *у звязку з гэтым* (Асв. 1927); *у звязку з дзесяцігоддзем* (СБ 1930, а-д); *у звязку з поспехамі сацыялізму... у звязку з чысткай НКАсветы* (СБ 1930); *у звязку з усім гэтым... у звязку з колектывізацыяй* (КооБ 1930); *у звязку з гэтаю дзейнасцю* (ЯНВП); *у звязку з гэтым* (Соб.); *у звязку з падвышэннем рынавых цэн* (Мойр.); *у звязку з гэтаю тэмаю* (Вальд.); *у звязку з пытаннем аб крызісе індаеўрапеістыкі... у звязку з падвышэннем цікавасці* (Пол. 1931. Арт., Х); *у звязку з гаспадарчым ростам* (Касм. 31). А. Я. Баханькоў лічыў, што слова *звязак* бытавала ў беларускай мове ў нашаніўскі перыяд, паўторна ўвайшло ў беларускую літаратурную мову пасля 1939 г. [20, с. 26]. Хоць В. Ластоўскі ў 1910 г. ужываў лексему *звязак* (гл.: СМНН 2, с. 219), выкарыстаная ў творы Я. Коласа ў 1923 г., яна выклікала крытыку з боку В. Ластоўскага як польскае слова [592, с. 226]. У ТСБМ прадстаўлена толькі як назоўнік у канкрэтным значэнні ‘некалькі прадметаў, звязаных разам’. Можа разглядацца і як запазычанне, і як калька з украінскай.

***зданне*** ‘думка, меркаванне’, ***здане***: *гэтага зданя напэўна трымалася і ўсё цельшынскае насельніцтва* (АЧ; Колас. На ростанях); *насуперак зданню Шахматава* (ЗАГНФ). У калектыўнай манаграфіі ў ліку запазычанняў, якія дубліравалі «агульнавядомыя» беларускія словы, дадзена ўжыванне Я. Коласа [175, с. 251–252]. Папраўдзе, сітуацыя была не такой адназначнай. Лексема *меркаванне* (у форме *мяркуваннё*) сустрэлася на старонках газеты «Наша ніва» толькі адзін раз (СМНН 2, с. 570). У БНТ-2 *меркаванне* сустракаецца толькі як эквівалент рус. *учитывание*, *меркаваць – учитывать*. У БНТ-4 *меркаванне* прыведзена як эквівалент рус. *соображение*, рус. *мнение* перакладалася ў гэтым слоўніку як *зданне*, а *мнимый* перакладалася як *зданнёвы, уяўны*. У БРС-26 *меркаваць* перакладаецца на рускую мову пры дапамозе слоў *соображать, рассчитывать*; *учитывать*, а *меркаванне – рассчитывание, расчет*; *учитывание*; *соображение*. Назоўнік *меркаванне* ў яго сучасным значэнні ў сярэдзіне 1920-х гг. яшчэ быў слаба засвоены беларускай літаратурнай мовай, лепш было адаптавана слова *зданне*. У РБС-28 рус. *мнение* было яшчэ перакладзена на беларускую мову як *зданне*, *думка, погляд*, а лексема *меркаванне* ў гэтым слоўніку з’яўляецца толькі як адзін з адпаведнікаў рус. *суждение*.

***здэтанавацца*** ‘збянтэжыцца, сумецца’: *здэтанаваўся, але хутка горда зірнуў на пана* (Бяд. ЗТ, 3, с. 101, 346; ужыта ў аповесці «Салавей», але пры пазнейшых яе выданнях у 1932 і 1934 гг. слова *здэтанавацца* было заменена на *занепакоіцца*); *княгіня крыху здэтанавалася* (Чэх. НГ, у перакладах 1954 і 1994 гг. у адпаведным месцы гэта лексема заменена); *міжволі здатынуешся, міжволі зробішся збянтэжаны* (Він.). Я. Лёсік у працы «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» інфармаваў, што слова *здэтанавацца* лацінска-французскага паходжання, замест яго лепш казаць *змяшацца, анясмеліцца*, а ў іранічным кантэксце – *збіцца з панталыку* [682, с. 156]. Ужыванне *здэтынавацца* ў немастацкім стылі ў 1933 г. ускосна можа сведчыць, што да гэтага часу дадзенае слова магло быць даволі звычайным.

Таксама ў 1920-х – пачатку 1930-х гг. (часам і пазней) у беларускай літаратурнай мове ўжываліся наступныя паланізмы: *ааза* ‘аазіс’*, габінэт, газартаваць, гуртоўня, гэст, давесці* ‘даказаць’, *дажывотна, дапаручанае, дарадца, дасведчанне* ‘вопыт’*, дзвэнк* ‘гук’*, дзесятковы, драбностка* ‘дробязь’, *дуты* ‘напампаваны (пра гумовую камеру)’*, жыўленне, закід* ‘дакор’, *залюднёны* заселены’*, замер* ‘намер’*, запабягаць, запрапанаваць, заразлівы, заразумеласць, застанавіцца* ‘задумацца’*, затока геагр.* ‘заліў’*, зацны, збыткоўны, зваротнік* геагр. ‘тропік’, *зграмаджэнне, здзірства, зупа* ‘суп’, *ідэёвы, інстытуцыя, істота* (у выразе *істота справы*)*, кавярка* ‘жанчына, якая прадае каву’*, кавярня, каляёвы* ‘чыгуначны’, *каляравацца, кантаслуп* ‘прызма’*, капальнік* ‘шахцёр’, *кара* ‘пакаранне’, *квас* хім. ‘кіслата’, *кратка* ‘клетка’, *паўкуля* ‘паўшар’е’, *лекцыя* ‘ўрок’, *лемантар, лёсаваць, ліпнёвы* ‘ліпеньскі’, *літарацкі*, *нялічны* ‘нешматлікі’, *шматлічны* ‘шматлікі’, *лучнасць, людазнаўства* ‘этнаграфія’, *людства* ‘чалавецтва’, *медычны, металёвец* ‘металург’, *моц, мурын* ‘негр’, *надыходзіць* ’прыходзіць, даходзіць (пра лісты, весткі)’, *напой, начынне* ‘посуд’, *падрабязговы* ‘падрабязны’, *пааземна* ‘гарызантальна’, *панцырнік* ‘бранявік’, *паклады* ‘залежы’, *папуга* ‘папугай’, *первястковы* ‘першапачатковы’, *прасціradла, праўны, просты* ‘прамы’, *прыбалтыцкі, распусціць* ’растварыць’, *растапіць* ‘расплавіць’, *стоп* ‘сплаў’, *раўналежны* ‘паралельны’*, рольніцтва* ‘земляробства’*, рондаль* ‘каструля’, *рыж* ‘рыс’, *рэчаістасць, рэшта, самаход* ‘аўтамабіль’, *слынуць, спірытус, спірытусавы, сталёвы, станавіць* ’складаць, з’яўляцца’, *сутарэнне, тыфус, узяць удзел, унікнуць* ‘пазбегнуць’, *ухваліць* ‘падтрымаць, прыняць (пра дакумент)’, *учарайшы, цяжаравы* ‘грузавы’, *школьніцтва, шпальта* ‘калонка (у газеце)’, *шпэгоўства* ‘шпіёнства’ і інш.

У калектыўнай манаграфіі пра паланізмы 1920-х гг. сцвярджаецца, што яны ў большасці выпадкаў дублявалі «агульнавядомыя беларускія словы», прыводзіліся ўжывальныя ў мастацкай літаратуры паланізмы *асадка, атрамант, бляды, гвязда, гзымс, гісэрня, гранатовы, дасэнь, жывенне, загарак, зданне, квадранец, кламаць, магнэс, мапа, пентра, размаітасць, рэпарацыя, скрыдла, стопень, тубылец, хвэбра, цёнгле* і інш. [175, с. 251–252]. Роля польскай мовы ў стварэнні лексічнага складу «навукова-публіцыстычнага» стылю ў працы была ацэнена як «прыкметная», былі пералічаны паланізмы *варунак, высілак, выспа, выстарчаць, каморка, канечнасць, куля, мадрына, павэдлуг, падлегласць, памысны, пацяг, перакшталтаванне, правідловы, скутак, стан, стасунак, тлен, унёсак, чыннасць, абцэнгі, заўзенты, млека, правідловы, спранжынавы, хэнць* [175, с. 262–263]. Прыведзены вышэй матэрыял дазваляе зрабіць выснову, што ў 1920-я гг. паланізмы, а таксама ўласцівыя польскай мове словаўтваральныя мадэлі працягвалі заставацца важнай крыніцай фарміравання беларускай літаратурнай мовы, у тым ліку яе навуковага і публіцыстычнага стыляў.

## 4.3.3. МОЎНАЕ РЭДАГАВАННЕ Ў 1920-я гг. ТВОРАЎ ЯКУБА КОЛАСА

У сучаснай беларускай лінгвістыцы Якуб Колас (далей – Колас) сцверджаны як адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, які адыграў выключна важную ролю ў развіцці і ўзбагачэнні нацыянальнай мовы беларусаў [162]. Творчасць класіка ахоплівае час ад пачатку да сярэдзіны XX ст., на працягу якога адбываліся важныя падзеі ў развіцці грамадства і змены ў беларускай літаратурнай мове.

Асноўныя здабыткі творчасці Коласа адносяцца да часу правядзення рэформы беларускай мовы 1933 г. Аднак некаторыя значныя творы былі напісаны пасля пастановы СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», а трэцяя частка трылогіі «На ростанях» і шэраг казак з цыкла «Казкі жыцця» былі напісаны ў пасляваенныя гады. Важная частка спадчыны класіка была створана ў перыяд, калі беларуская літаратурная мова існавала ў іншым у параўнанні з сучасным стане. Адпаведна ў сваіх творах пачатковага перыяду Колас карыстаўся не сцверджанай сёння формай літаратурнай мовы, а ў значнай ступені «шырокім спектрам распаўсюджанай беларускай мовы <...> яе размоўна-бытавой стыхіяй» [227, с. 99]. Некаторыя словы і формы, якія Колас ужываў у сваіх ранніх творах (*адлічыцца, бязмала, верацень*, *галка* ‘шар’, *галт, досвіту, заварацень, запаветрыцца, заўчэсны, заярыць, знаўства, зызнуць, калюшка, кахляны, кудою, лаяльнік, лгар, летнікі, лёкат, ліст* ‘лістоўка’, *літарацкі, майткі, манкета, места, можнасць, муштарда, надоба, натужэнне, рага, роздараж, сернікі, скрыдлы, спронжка, стрынгаль, сузнаваннне, сусклон* ‘схіл’, *тускнотны, узлупка* ‘наганяй’, *узраванне, упадобны* ‘прыгодны’, *ускураць, цяглі, фасаваць* і інш.) не сталі здабыткам сучаснай літаратурнай нормы. Дзейнасць Коласа ў рамках некалькіх перыядаў беларускай літаратурнай мовы стварае спецыфічную сітуацыю з пункту гледжання цэласнага разгляду мовы яго твораў у рамках сінхроннага падыходу. Прынамсі, да часткі моўных сродкаў, выкарыстоўваных класікам да 1933 г., не могуць безумоўна прымяняцца крытэрыі, якія сфарміраваліся ў нарматыўнай беларускай лінгвістыцы пазней.

Па меры здзяйснення новых выданняў ранейшых твораў часам рабіліся рэдактарскія, у тым ліку моўныя, праўкі. Напрыклад, апавяданні «Кантракт», «Чорт», «Соцкі падвёў» і інш. рэдагаваліся пры ўключэнні ў зборнік «У ціхай вадзе» ў 1925 г., ёсць пэўная розніца ў розных (1927, 1928 і 1939 гг.) выданнях апавядання «Малады дубок». З 1920-х гг. Колас шчыльна і рэгулярна сутыкаўся з рэдагаваннем.

Асобныя творы (напрыклад, апавяданні «Соцкі падвёў», «Злавіў!») падлягалі нязначным зменам яшчэ раней, у 1912 або ў 1914 гг. Напрыклад, у 1912 г. падчас друкавання зборніка «Апавяданні» слова *заслон* у апавяданні «Кантракт» было папраўлена на *ўслон,* у апавяданні «Пісаравы імяніны» лексема *велькія* была заменена на *вялікія.* У 1914 г. у працэсе выдання зборніка

«Родныя з’явы» слова *жанчына* ў апавяданні «Недаступны» было папраўлена на *кабеціна, прашчайце* – на *бывайце здаровы*; у апавяданні «Думкі ў дарозе» лексема *адвет* была заменена на *адказ*. У апавяданнях «Злавіў!» і «Выстагнаўся» выразы *прыятнае пачуванне, прыятна, як следуе* былі папраўлены на *прыемнае пачуванне, прыемна, як мае быць*. У апавяданні «Старыя падрызнікі» спалучэнне *не надзявай* было выпраўлена на *не ўбірайся ў рызы*.

За рэдкімі выняткамі ўсе аўтары, якія пісалі і пішуць пра моўныя праўкі твораў Коласа любога часу, ацэньваюць іх станоўча – у тым ліку ў тых выпадках, калі адначасовыя змястоўныя праўкі атрымліваюць адмоўную ацэнку. Што датычыць, напрыклад, моўных правак 1950 г. аповесці «Адшчапенец», то даследчыкі спецыяльна падкрэсліваюць, што гэтыя праўкі «ў адрозненне ад купюр і перапрацовак (маецца на ўвазе: ідэйных і змястоўных. – *С. З.)* не пярэчаць агульнай тэндэнцыі станаўлення моўнага майстэрства пісьменніка» [154, с. 506].

Пры перадруку дарэвалюцыйнай прозы найбольш істотныя змены, у тым ліку лексічнага і стылёвага характару, былі зроблены ў выданнях 1925 (зборнік «У ціхай вадзе»), 1941 (зборнік «У старых дубах») і 1952 гг. (трэці том сямітомнага Збору твораў) гг. [Каментарыі 2008, с. 484].

Як сведчаць даследчыкі, у нейкім неназваным выданні дарэвалюцыйных твораў Коласа 1928 г. фіксуецца шэраг правак-паляпшэнняў, якія адпавядалі дадзеным РБС-28. У прыватнасці, прыведзены наступныя выпраўленні гэтага часу: *чарніла* замест ранейшага *атрамант, адказваць – адвячаць, баламуціць – валнаваць, верасень – сенцябр, паветра – воздух, скарга – жалаба*, *заўважаў – замячаў, заўсёды – заўсягды, мацнеў – крэп, моцна – крэпка, павіншавалі – паздравілі, месца – мейсца, прачнуўся – прачхнуўся, жагель – парус, раз’юшаны – раз’яраны, рэха – эха, службовы – служэбны, спрачаліся – спорылі, запалкі – серчыкі, крыллямі – скрыдламі, стагнанне – стагнаценне, праўдзівыя – супраўдзівыя, дакладныя – точныя, тады – тагды, цяжар – ценжар* і інш. [175, с. 245–247].

Пры выданні зборніка «У ціхай вадзе» быў зроблены шэраг правак: *на той нядзелі* выпраўлена на *на тэй нядзелі*, *падазрыцельны – падазрэнны, сыцыліст – сіцылісты, не замеціла – не знайшла, незаметна – непрыметна, вытрашчыў – вырачыў, каламар – чарніла, забій – забі, першым дзелам – перш-наперш, мысль – думка* (апавяданне «Кантракт»)*, заўсягды – заўсёды, знаеш – ведаеш* («Чорт»)*, свайго належнага* ‘падначаленага’ *– сваю правую руку, леваруцянеру – рэвалюцыянеры; сіцыліст – сіцылісты; як ты, прымерам, – як ты, напрыклад; мельканула – мільгнула, адвечаць – адказваць, абодвых – абодвух, належных* ‘падначаленых’ – *падлеглых, лічна – асабіста, харошае – добрае* («Соцкі падвёў»), *паны – гаспада, замеціў – прымеціў, строчкі – радка* («Пісаравы імяніны»), *стануў – спыніўся, узяўшага верх – верх якога быў бясспрэчны; дакляроўвала – абяцала, вакруг – вакол* («Дзяліцьба»), *неадваротнага – неадхільнага, фыркнуўшы – пырхнуўшы, не даш – не дасі, перапуду – перапалоху,*

*дадому – дахаты* («Трывога»), *смуціш – бунтуеш, валнуеш – баламуціш, падурачыўся – пажартаваў, варункі – умовы* («Недаступны»), *наважыў – рашыў, не ведалі – не зналі, выдумлёвываць – выдумліваць, кляшчамі – клешчамі, ашчупаў – абмацаў, прыятная – прыемная* («Тоўстае палена»), *страніцу – радок, серчыкі – запалкі, пазайзраваў – пазайздросціў, выстрэнчываў – паспяваў* («Злавіў!»), *вакруг – вакол, прызіраўся – прыглядаўся, замячаў – заўважаў, не здужае – не зможа* («Старыя падрызнікі»), *як сумыслу – так, адлічыць – адрозніць, жаласліва – успагадна, незаметна – непрыметна, маўчком – моўчкі* («Выстагнаўся»), *мейсца – месца, уласць – улада, непаслухняны – непаслушны, выпівакаў – выпівак, за жываты хапаліся – за жываты хваталіся, далжнасную асобу – урадовую асобу, служэбных абязаннасцей – службовых абавязкаў* («Стараста»).

У працэсе выдання зборніка «Крок за крокам» (1925) таксама быў зроблены шэраг правак. Слова *зладзейства* было папраўлена на *злачынства, дакляровываў – пагражаў, пацепаўся – уздрыгваў,* словазлучэнне *ў гэту мінуту* было заменена на *ў гэты момант* («Малады дубок»). У апавяданні «Васіль Чурыла» фіксуюцца такія замены: *нявідзімага ворага – нявіднага ворага, нудна шумеў – смутна шумеў, турма – астрог*.

Пры выданні ў 1926 г. у Мінску зборніка «Казкі жыцця» ў казцы «У балоце» *вакруг* было папраўлена на *вакол, рашчытаў сілы* на *разлічыў сілы, эха* на *рэха, сядзэнне* на *сядзенне*; у казцы «Жывая вада» ранейшае *вугалок Божага свету* было заменена на *куточак белага свету*. Гэтыя праўкі, аднак, не знайшлі пацверджання ў пазнейшай віленскай кнізе «Казкі жыцця» 1927 г., якая, відаць, друкавалася паводле нейкага ранейшага выдання. Аднак у віленскім выданні «Казак жыцця» былі зроблены некаторыя марфалагічныя праўкі, напрыклад, замест *сенажацей* напісана *сенажацяў*.

Ад самага пачатку зведала рэдагаванне і аповесць «У палескай глушы». Урыўкі з яе спачатку былі надрукаваны ў 1921 г. у часопісе «Вольны сцяг», потым у 1922 г. у часопісе «Адраджэнне». Затым аповесць была выдадзена асобнай кнігай у 1923 г. у Вільні і ў 1927 і 1928 гг. – у Мінску. Каментатары апошняга збору твораў сцвярджаюць, што паміж аўтографам аповесці і яе першым кніжным выданнем няма істотных адрозненняў, разначытанні датычацца галоўным чынам моўных правак тыпу замены *адлічно* на *выдатна, азвала – пазвала, прыслухівацца – прыслухоўвацца* і інш. Выданні аповесці 1927 і 1928 гг. фактычна ўяўляюць сабой перадрук першага асобнага выдання твора [155, с. 442].

У параўнанні з апублікаваным у 1921 г. тэкстам у 1922 г. былі зроблены наступныя выпраўленні: *прысаджваючыся* замест *прысаджываючыся*; *сваёй здольнасці – свае здольнасці*; *усміхнуўшыся – усмяхнуўшысь*; *ад часаў – ад часоў*; *вайшоў – вашоў*; *у цёмным віру – у цёмным віры*; *выдатнейшы знахар за цябе – выдатнейшы знахар, як ты*; *пахаджаў – пахаджваў*; *адно толькі шкода – аб адным толькі трэба пажалець*; *йці – йсці*; *дзеравяны – дзервяны*;

*росквіт – расквет*; *несканчоныя балоты – нясканчаныя балоты*; *горда падвышалі свае макушы – горда падымалі свае макушы*; *грапу, грапскі – графу, графскі*; *убожаства – убожства*.

Віленскае выданне 1923 г. зроблена на аснове дасланага Коласам рукапісу, у гэтым выданні ёсць некаторая розніца ў параўнанні з публікацыяй 1922 г.: ужываецца *навет* замест *нават, пабожна – набожна, не здолее выпаўніць праграмы – не здолее выпаўніць праграму, каменьчык – каменчык, чыгунку – чугунку, на яго месцы – на яго месце, дні праходзілі – дні прахадзілі, зялезнае дарогі – залезнае дарогі, будка была досіць памясцоўная – будка была досыць памясцоўная, летапісь – летапіс, тарчалі – тарчэлі*. Усе выпраўленні 1922 г. за выключэннем формаў слоў *навет* і *досіць* захаваліся і ў выданнях 1927 і 1928 гг.

У мінскіх выданнях 1927 і 1928 гг. у параўнанні з выданнем 1923 г. зроблены наступныя змены: *тады* замест *тагды, расхвальваць – расхваліваць, пахаджваў – пахаджаў, узаемаадносін – узаемнаадносін, йсці – йці, дашукваццa – дашуківаццa, адрознівалі – адрожнівалі, аб чымсі – аб чымся, выцвіўшая – выцвеўшая, убоства – убожаства, здзіўлена – здзіўлёна, яго твару – яго твары, увайшла – вайшла, запіс – запісь, падчырквaў – падчырківаў, памоцнік – памочнік, насланае – насланое, двума радамі – двама радамі, аб двух сёстрах – а двух сёстрах, супачывае – сапачывае, прымала – прыймала, у нейкім асобным настроі – у нейкім асобным настрою, рэвальвэр – рэвольвар*. Як вядома, мова віленскай публікацыі 1923 г. выклікала шэраг крытычных заўваг В. Ластоўскага [652]; выданні 1927 і 1928 гг. паказваюць, што гэтыя заўвагі не былі ўлічаны.

Нам не вядома, у якой меры на праўкі гэтага часу ўплывалі рэдактары Коласавых выданняў. Можна меркаваць, што, прынамсі, частка замен у мінскіх выданнях належаць самому Коласу або яны ўзгадняліся з ім. Што датычыць віленскіх выданняў, то малаверагодна, што ў працэсе выдання аповесці «У палескай глушы» такое ўзгадненне было зроблена. Выданні віленскіх зборнікаў «Выбраныя творы» (1927), «Казкі жыцця» (1927) і «“Нёманаў дар” і іншыя расказы» (1928) былі здзейснены, магчыма, без санкцыі Коласа; зробленыя ў працэсе гэтых выданняў праўкі з аўтарам напэўна не ўзгадняліся.

З заходнебеларускіх выданняў другой паловы 1920-х гг. у сувязі з вялікай колькасцю правак выразна вылучаецца зборнік «Нёманаў дар». Змены ў гэтай кнізе маглі характарызаваць не перавагі Коласа і не агульнабеларускі узус, а канкрэтныя прыхільнасці канкрэтных рэдактараў, практыку заходнебеларускага рэдагавання або заходнебеларускі узус у цэлым. У зборніку «Нёманаў дар» слова *квадра* было выпраўлена на *змена*, *гэты пан – гэны пан, Нёманаў дар – Нёмнаў дар, вядомага – ведамага, струмэнты каморніка – струмэнты каморнікавы, у Коўна і Гродна вазіў – ў Коўню і Горадзен вазіў, незамечэннымі – незакмечанымі, замячаў – закмячаў, рабочыя – работнікі, ворагаў – непрыяцеляў, уласны – собскі, шпурнулі – шпырнулі, спявалі – пяялі, помніць – помнець, даноса лесніка – удавання леснікoвага, відэльцаў* на *відэлцаў,*

*ніякога сумлення* 'сумнення' – *ніякага сумлеўку, убачыўшы – абачыўшы*. Частка правак у зборніку «Нёманаў дар» дазваляе меркаваць, што гэта кніга, відаць, прайшла праз, часам даволі спецыфічную, моўную рэдакцыю Я. Станкевіча. Аднак некаторыя праўкі ў гэтай кнізе былі звычайнымі, «прадказальнымі», з такімі ці падобнымі можна было сутыкнуцца і ў іншых выпадках. Напрыклад, у зборніку «Нёманаў дар» слова *тапор* было заменена лексемай *сякера*, *зызне* на *зрэжа*, *аброненае – кінутае, бочка на калёсцах – бочка на колцах, прыбыль вады – прыбытак вады, заблішчалі – заблішчэлі, трашчалі – трашчэлі, апазніўшагася селяніна – селяніна, што спазніўся*. У абодвух заходнебеларускіх выданнях, у якіх было надрукавана апавяданне «Малады дубок», слова *дубіна* было папраўлена на *дубніца*.

Заходнебеларуская практыка рэдагавання і узус у большай ступені, чым усходнебеларускія, падлягалі антыпольскаму пурызму, у выніку чаго заходнебеларускія выдаўцы нярэдка дыскрымінавалі формы, якія ва Усходняй Беларусі маглі ўжывацца без абмежаванняў. Напрыклад, у зборніку «Нёманаў дар» форма *не вытрымоўвае* была заменена на *не выдзержаў,* выраз *не гадзіцца* на *нядобра,* выраз *як сумыслу* на *як знарок, не вельмі быць на відоку* на *не вельмі быць на паяўцы.* Антыпольскі пурызм у гэтым выданні назіраўся, верагодна, і ў тым, што пры рэдагаванні выразаў *ашчупаў, на сярнічкі, нашчот гарэлкі, нашчот выпіўкі* рэдактары не палічылі патрэбным замяняць іх выразамі і словамі *абмацаў, на запалкі, наконт гарэлкі / выпіўкі*, падобнымі да польскіх выразаў і слоў. У дадзеным выпадку змены або не былі зроблены (засталося *ашчупаць, на сярнічкі*), або рэдагаванне было праведзена без выкарыстання «непажаданага» слова *наконт* (папраўлена: *на гарэлку, на выпіўку*).

Як відаць, у 1920-я гг. пры рэдагаванні твораў Коласа мелі сілу розныя матывы.

У адных (бадай, самых шматлікіх) выпадках правіліся сапраўдныя і ўяўныя лексічныя і словаўтваральныя русізмы, дзякуючы чаму адбывалася ўмацаванне лексічнай нормы беларускай літаратурнай мовы. Так, абмяжоўваліся формы тыпу *адвечаць, адлічна, адлічыць, вайсці, вакруг, валнаваць, далжнасны, дзела, жаласліва, (па)жалець, замеціць, заўсягды, калёсца, лічна, мысль, незаметна, падазрыцельны, пашчытаць, прымерам, прыятны, служэбны, смуціць, страніца, строчка, шчупаць*. Абмежаванне ў падобных выпадках паланізмаў сустракаецца значна радзей: *варункі, відок (быць на відоку), мейсца, сумыслу, сядзэнне, (вы)трымоўваць*. Такая дыспрапорцыя ў рэдагаванні паміж русізмамі і паланізмамі была абумоўлена, верагодна, тым, што ў маўленчай практыцы цесна звязанага з рускамоўнай адукацыяй і адміністрацыяй Коласа русізмы, якія маглі здавацца непрымальнымі для беларускай літаратурнай мовы, былі намнога больш пашыранай з'явай у параўнанні з паланізмамі.

Даволі звычайнай з'явай у працэсе рэдагавання была неабходнасць выбіраць паміж рознымі лексічнымі варыянтамі. Колас або яго рэдактары часам аддавалі перавагу нейкім канкрэтным з іх (напрыклад, словам *перапалох,*

*запалкі, мільгнуць, непаслушны, астрог*), што не заўсёды супадала з моўным развіццём наступных гадоў.

У выпадку Заходняй Беларусі матывам да выпраўленняў магла быць арыентацыя на свой, тэрытарыяльна абмежаваны, узус або ідыясінкразія канкрэтнага рэдактара.

З аднаго боку, на прыкладзе некаторых фанетычна-арфаграфічных правак (*пырхнуўшы* замест *фыркнуўшы, грап – граф, грапскі – графскі*) можна назіраць тэндэнцыю да большага «абнароджвання» беларускай мовы, уласцівую і ў іншых выпадках усталявання літаратурнай і стылістычнай нормаў беларускай мовы. З другога боку, у шэрагу выпадкаў можна канстатаваць адваротную тэндэнцыю да «аблітаратурвання» мовы, выдалення з яе «занадта» народных формаў тыпу *выдумлёвываць, выстрэнчываць, дакляровываць, пазайзраваць, леваруцянер, пацяпацца, прызірацца*.

У рэдкіх выпадках падлягалі рэдагаванню вельмі нешматлікія ў Коласа неалагізмы-калькі: *належны, неадваротны*. У адзінкавых выпадках больш ці менш узуальнае слова замянялася неалагізмам: *успагадна* замест *жаласліва*.

Здаецца, даволі рэдка сутыкаемся з выпадкамі, калі замест слова з выразным рускім паходжаннем прапанавалася слова, у якім можам канстатаваць «процілеглае» (польскае) паходжанне: замена слова *рабочы* лексемай *работнік*.

Нарэшце, можа выглядаць, што ў нейкіх выпадках узус меў вялікае значэнне незалежна ад таго, што ў ім сцвярджаліся «неадпаведныя» спецыфіцы беларускай мовы формы. Такой выглядае паслядоўнае выпраўленне формай *памоцнік* у выданні аповесці «У палескай глушы» 1927 г. формы *памочнік*, якая ўжывалася ў ранейшых выданнях твора і была прадстаўлена ў БРС-26. Форма *памоцнік* ужывалася на старонках «Нашай нівы» (у тым ліку ў артыкулах, напісаных рэдактарамі газеты), была пашырана ва узусе 1920-х гг. (напрыклад: Ісб.). Ва ўкладзенай у 1927 г. «Праграме для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак...» у адным з пунктаў высвятлялася, як гавораць у канкрэтнай мясцовасці: *памочнік, памошнік* ці *памоцнік* [725, с. 48]. Відавочна, у 1920-я гг. некаторыя рэдактары не адчувалі «заганы» формы *памоцнік* (як яны не адчувалі «хібнасці» формаў *абцэнгі, заўзенты, млека, правідловы, спранжынавы*, гл. 4.3.2), аддаючы ёй перавагу перад іншымі.

У сукупнасці ў выданнях 1920-х гг. месціцца таксама значная колькасць граматычных правак. Яны закранулі сферу назоўніка (формы роду слоў *запісь, твар*; склонавыя формы *у настрою, на месце, кляшчамі, ад часоў, выпівакаў, сенажацей*), лічэбніка (*двама, абодвых*), займенніка (*на той нядзелі, аб чымся; свае* – форма родн. скл.), дзеяслова (*дашуківацца, прысаджывацца, прыслухівацца, расхваліваць; не даш; стануў; усміхнуўшысь; забій; узяўшага верх, апазніўшагася, нявідзімы*), прыслоўя (*здзіўлёна*), прыназоўніка (*а двух*). У праўках гэтага часу знайшла пацвярджэнне тэндэнцыя замест асабовых назоўнікаў на *-іст* ужываць прыметнікавыя формы на *-істы* (*сіцылісты*). У некаторых выпадках праўкі мелі рознаскіраваны характар: спалучэнні *ў цёмным віры, ад часоў*, формы *пахаджваў, йсці* спачатку былі выпраўлены на

*ў цёмным віру, ад часаў, пахаджаў, йці*, але ў 1927 г. былі вернуты зыходныя формы. У заходнебеларускіх выданнях форма *тарчэць* была папраўлена на *тарчаць*, а формы *заблішчаць, трашчаць* – на *заблішчэць, трашчэць*.

Прыведзеныя вышэй замены ў творах Коласа пераважна былі абумоўлены прэферэнцыямі, якія акрэсліліся ў тагачасным узусе ў дачыненні да канкрэтных слоў і формаў, а таксама нармалізацыйнымі тэндэнцыямі тагачаснай беларускай лінгвістыкі. Паколькі некаторыя узуальныя і / або прадпісальныя нормы ў гэты час яшчэ канчаткова не акрэсліліся, некаторыя праўкі часам указвалі не столькі на нейкія сфарміраваныя тэндэнцыі, колькі на асабістыя ўпадабанні Коласа ці выдавецкіх рэдактараў; у асобных выпадках змены былі адвольнымі, выпадковымі.

У пэўных выпадках можна сказаць, што рэдакцыйная і карэктарская практыка не паспявала за працэсамі, якія крышталізаваліся ў літаратурнай мове, і недастаткова ўлічвала даныя тагачаснай лексікаграфіі. Напрыклад, пры перадруку ў 1927 г. апавядання «Выстагнаўся» не быў выпраўлены назоўнік *дрож* – хоць, напрыклад, у БРС-26 для слова з адпаведным значэннем былі пададзены формы *дрыгота* і *дрыжыкі*. Прынамсі, слова *дрыжыкі* выкарыстоўвалася ў тагачасным узусе: *па яго скуры прабеглі дрыжыкі* (Лёнд.). Назоўнік *дрож* быў заменены на *дрыжачка* ў віленскім выданні 1928 г., а яго замена на *дрыготка* ў мінскіх выданнях была праведзена толькі ў 1950-я гг. Пры перавыданнях аповесці «У палескай глушы» ў 1927 і 1928 гг. у ёй захоўваліся ранейшыя словы і лексіка-семантычныя варыянты *апыніцца, асабісты* ‘асаблівы’, *выпаўняць* ‘выконваць’, *выраза* ж. р., *даследжаны, драбязговы, зялезная дарога, насланае, нерухліва, праве, скупавацца, узвесіць, ураніць, цятрадзь, часы,* хоць такія словы не былі прадстаўлены ў БРС-26.

У цэлым можна сцвярджаць, што ў працэсе моўнага рэдагавання празаічных твораў Коласа ў 1920-я гг. адбываліся «звычайныя» з’явы выпраўлення моўных няправільнасцей, падгонка пад пэўны літаратурна-нарматыўны канон у адпаведнасці з разуменнем аўтарам і рэдактарамі тагачасных працэсаў нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы.

## 4.4. СЛОВАЎТВАРЭННЕ. НУЛЬСУФІКСАЛЬНЫЯ НАЗОЎНІКІ

У літаратуры адзначаецца наяўнасць значнай колькасці нульсуфіксальных утварэнняў у 1920-я гг. [385, с. 28–33], указваецца на пэўную пераемнасць такіх формаў з данымі слоўніка І. Насовіча 1870 г. [157, с. 35]. Праведзеныя І. У. Кандраценяй падлікі, згодна з якімі ў слоўніку І. Насовіча аддзеяслоўныя

назоўнікі з нулявым суфіксам складалі прыкладна адзін працэнт ад агульнай колькасці пададзеных у слоўніку лексем, а ў БРС-26 – каля шасці працэнтаў [157, с. 31, 35], красамоўна сведчаць аб інтэнсіўнай інтэлектуалізацыі беларускай літаратурнай мовы, якую яна зазнала на працягу пачатку XX ст. і ў першай палове 1920-х гг., у прыватнасці.

Многія нульсуфіксальныя ўтварэнні ўжываліся ў 1920-я гг. па традыцыі ўслед за нашаніўскай практыкай (*адправа, апіс, выклад, вымога, выраб, выраз, выступ, вытвар, дослед, зварот, намова, напад* і інш.), часам набыўшы ў новай сітуацыі новыя значэнні. Напрыклад, згодна з СМНН, слова *аблога* на старонках «Нашай нівы» мела толькі значэнне ‘няворанае поле’, *апіс* – ‘апісанне’, *выклад* – толькі значэнне ‘выкладанне; выкладчыцкая практыка’, *выраз* – толькі ‘яскравасць, выразнасць’, *дослед* – толькі ‘даследаванне’, *намова* – толькі ‘падгавор, падбухторванне’. У пазнейшай практыцы семантычная структура гэтых слоў ускладнілася, адпаведна, маем справу з семантычнымі неалагізмамі. Параўн.: ***аблога*** ‘акружэнне войскамі ўмацаванага пункта’ (на старонках «Нашай нівы» з такім значэннем ужывалася слова *асада*): БРС-26; *осада – аблога* (РБС-28); *аб аблозе Уральску* (ДС); *фактычна ўстанаўляе ў краіне стан аблогі* (ЧБ 1930); ***апіс*** ‘вопіс’: *Апіс рукапісаў М. Багдановіча і матэрыялаў да яго біяграфіі* (Мач. НКн.); ***выклад*** – дзеянне паводле дзеяслова *выкладаць* у значэнні ‘выказваць, тлумачыць’: *адно, што можа зрабіць выклад: таўхануць чытача на чытанне самых твораў* (Пол. 1930); *доўгія цытаты зробяць выклад занадта важкім* (Лен. ДіР 32; Лен. ДіР 36); ***выраз*** ‘выражэнне; адлюстраванне’: *вакол Акадэміі адсутнічае шырокая пралетарская грамадскасць, што знайшло яскравы выраз пры вылучэнні акадэмікаў і арганізацыі Акадэміі* (Зв. 1930, а-д); ***дослед*** ‘навуковы эксперымент’: *доследы Новазыбкаўскай станцыі <...> далі добрыя вынікі* (Плуг 1929); *дослед паказаў, што цэлыя зярняты парасяты ператраўліваюць вельмі дрэнна* (Жур.); ‘вопыт; практыка’: рус. опыт – бел. *дасвядчэнне, дасведчанне, дослед, спроба, практыка* (РБС-28); *веды апраўдваюцца доследам... змаганне за веды і дослед* (Пол. 1928); *навуковы дослед даводзіць яму* (вучонаму)*, што кляса, з якою ён сябе знітаваў, гіне* (Пол. 1930)*; працоўныя масы Заходняй Беларусі на доследзе барацьбы са шматлікімі згодніцкімі групоўкамі* (Пол. 1930); *чалавек павінен карыстацца доследам усяго чалавецтва* (Вальд.); ***намова*** ‘дамоўленасць’: *у іх раней была намова* (Колас. Новая зямля); ‘унушэнне’: рус. *внушение словесное – намова* (БНТ-23).

У слоўніках і ва узусе 1920-х гг. зафіксаваны наступныя нульсуфіксальныя ўтварэнні: ***абвеў*** *‘абвяванне’*: *у жорсткім абвеве ветру* (Зар. ЗТ, 3, с. 86); ***абгавор*** ‘абмеркаванне’: *абгавор найбольш спрэчных тэрмінаў* (Арх., 1925, а-д); *абгавор майскага пытання* (Гарт. ЗТ, 3, с. 22); *пачыналі сталы абгавор справы* (Зар. ЗТ, 2, с. 142); ***абдым*** ‘абдымкі’ (Гартны. Сокі цаліны); ***аблуда*** ’падманная сітуацыя; памылка’ (БНТ-4; БРС-26); *беспутство – распуста, аблуда; заблуждение – памылка, аблуда, заблуканне* (РБС-28); *уведзен у аблуду* (ЗАГНФ); ***абмах*** ‘промах’ (БРС-26); ***абмін*** ‘аб’езд’ (БРС-26); ***абняслава*** ‘бясчэсце; дыфамацыя’

(БНТ-2; Купала. Безназоўнае; БРС-26; РБС-28); ***абрыда*** ‘агіда’: *з’явілася нейкая абрыда к самому сабе... скачуць, рагочуць, ззяюць абрыдай* (Зар. ЗТ, 1, с. 70, 145); ***абхват*** ‘памер, маштаб’: рус. *охват – ахоп, абыйм, абнім* (РБС-28); *у гарадскім абхваце* (Асв. 1926); *стварэнне адзінай камуністычнай грамады у сусветным абхваце* (СБ 1930.); ***абыход*** ‘абыходжанне’: *да старое ласкі прывык, да абыходу* (Зар. ЗТ, 3, с. 8, 302); ***аб’ява***: *была вывешана аб’ява* (Пол. 1931); ***адплыў*** ‘адток’: *адплывы працы з аднае галіны ў другую* (ЛА 31); ***аправа*** ‘рамка, абалонка’: *матар’ялы для аправы кнігі* (КВ 1930); ***асуд*** ‘асуджэнне’: *твае асуды* (Дубоўка. І пурпуровых ветразей узвівы); ***вопадзі*** ‘ападкі’: *атмасферныя вадкія вопадзі* (Раг.); *вопадзей* (Сярг.); ***выбег*** ‘экскурсія’ (Ян Станкевіч); ***выведы*** ‘разведка’: *я прапаную пайсці на выведы далей у лес* (Маўр. Палескія рабінзоны); ***вызвал*** ‘вызваленне’ (РБС-28); ***выказ*** ‘выказванне, меркаванне’: *на Плаксавы блюзнерскія выказы толькі сумна ўздыхае... логіка даводзіла поўную рацыю выказаў Рачкоўскага* (Зар. ЗТ, 3, с. 160, 196); ***выкан*** ‘выкананне’: *толькі ў выпадках выкану канкрэтнае працы па даручэнню камісіі* (Арх., 1925, а-д); ***выліў*** ‘нацёк; гематома’: *гэтыя плямкі ўзніклі ў выніку выліваў крыві* (Гел.); ***вымаў*** ‘вымаўленне’ (Гартны. Сокі цаліны); ***вымер*** ‘вымярэнне’: *вымер адлегласці да цэлі* (Нап. 1932); ***вымудры*** ‘мудрагельства; хітрыкі’: БРС-26; *каб яна свае вымудры кінула* (Зар. ЗТ, 1, с. 222); *не было мяжы вымудрам уральскіх багатыроў* (Сур.); ***выпат*** *мед.* ‘эксудат’: *успаленая клеткавіна з выпатамі… рэшткі параметрычных выпатаў… эксудаты (выпаты)* (Поляк ПГ); ***выпыт*** ‘тэст, выпрабаванне’: рус. *тест – тэст, выпыт* (БНТ-4); *ад выпытаў аслабаняюцца скончыўшыя рабфакі* (СБ 1930. А); ***выснова***: *зрабіў гэтую рашучую канчатковую выснову… прыйшоўшы да гэтае лагічнае высновы* (Зар. ЗТ, 3, с. 31); ***выява***: *затушыўся ў яе нутры непрыемнай выявай сапраўднасці* (Гарт. ЗТ, 3, с. 32); рус. *обнаружение – выява* (ПРБС-26), *обнаружение – выява* (ПБВС); *обнаружение – выяўленне, выява* (РБС-28); ***вяроза*** ‘мара’, ‘трызненне’: ‘мара’ (БРС-26); *мечта – мара, лятунак, вяроза* (РБС-28); *у хранічных выпадках мы можам наглядаць вярозы зайздрасці... пазней гэтыя вярозы распаўсюджваюцца і на іншых людзей* (Санд. ПЗВЧ); ***данос*** ‘данясенне, рапарт’: *прысылай даносы аб рабоце… з афіцыйных даносаў відаць* (Зар. ЗТ, 1, с. 282, 283); ***дасяг*** ‘дасягненне’ (БНТ-2; БРС-26); ***дзерць*** ‘вотрубі’: *Як лепш даваць парасятам корм – цэлымі зярнятамі, молатымі ці дзерцю?* (Жур.); ***доказ*** ‘данос’: рус. *донос – данос, доказ, уданне* (РБС-28); *«донос» будзе «даказ», а не «ўдаванне»* [764]; ***дослед*** ‘даследаванне’ (БРС-26); *пераважаная большасць доследаў не была падначалена задачам сацыялістычнага будаўніцтва* (Зв. 1930.); ***заблуда*** ‘памылка’: *свая мімавольная заблуда* (Зар. ЗТ, 3, с. 46); ***забяспека*** ‘забеспячэнне’, ‘бяспека’: рус. *обеспечение – забяспека, забеспячэнне* (РБС-28); рус. *собес – сацыяльная забяспека* (РБС-37); *Камісарыят сацыяльнай забяспекі* (СД); *адчуваць сябе ў поўнай забяспецы* (Зар. ЗТ, 3, с. 188); *меры забяспекі намі прыняты* (Колас. Забастоўшчыкі); ***заступа*** ‘заступніцтва’, ‘абаронца, заступнік’: *прасіць заступы, абароны* (Колас. Новая зямля); *цётка Тарэса*

*была для Юркі тою заступаю, за плячыма якой Юрка чуў грунт пад нагамі* (Колас. Сірата Юрка); ***захова*** ‘захаванне’: *захова грузаў* (СБ 1930. Рэ.); ***зацяг*** ‘захопленасць’: *з зацягам праказала дзяўчына* (Гарт. ЗТ, 3, с. 22); ***зваба*** ‘спакуса’: *сцеражыся звабы якой-небудзь полькай* (Цвік. (29)/93, с. 72); ***здром*** ‘дрымота’: (Гартны. Сокі цаліны); ***злад*** ‘адпаведнасць, лад; сугучнасць; дзеянне паводле дзеяслова *зладзіць*’: *злад з сучаснасцю* (Зар. ЗТ, 3, с. 145); ***злука*** ‘злучэнне’: (Гартны. Сокі цаліны); ***зняслава***: рус. *бесчестие – бясчэсце, зняслава* (БНТ-23); ***навага*** ‘намер, рашэнне’: *Марына Паўлаўна (у раптоўнай навазе): Сымон, чаму ты ўжо не канчаеш?* (Зар. ЗТ, 3, с. 303); *з цвёрдай навагай* (Зар. ЗТ, 3, с. 325); ***наступ***: *быстры наступ* (Пол. 1929. № 1, ужыта некалькі разоў, але побач: *наступленне*); *прарыў, наступ, перамога, атрад, паход* (Фёд.); ***нахіл*** ‘схільнасць’: *другая частка дыфтонга магла быць больш вузкаю, маючай нахіл* (ЗАГНФ); *у мяне адны нахілы, а ў вас – другія* (Зар. ЗТ, 1, с. 150); *тваім густам, тваім нахілам і слабасцям* (Цвік. (29)/93); *нахіл да самагубства* (Санд. ЯТБСН); ***наход*** ‘натхненне’: рус. *наитие – натхненне, наход* (ПРБС-26); ***няўрод*** ‘неўраджай’: *а можа, няўрод будзе?* (Весн. Каваль); ***падаў*** ‘ціск’: *улягалася зямля ад падаву важкіх ступаў* (Гартны)[85]; ***падкус, падкуса*** ‘падкусванне’: *ды бойся ліха і падкусу* (Колас. Новая зямля); ***паруга*** ‘паруганне’: *і міжвольна, на паругу розуму, у сэрцы Гуторскага шавяльнуўся глыбокі, шчыры жаль да яе* (Зар. ЗТ, 1, с. 133); ***пацяг, поцяг*** ‘цяга’: *будзіў у ім неперсаможны пацяг да скрухі, да самазгнібення... настрымны поцяг да людзей* (Зар. ЗТ, 3, с. 249, 159); ***перароб*** ‘пераробка’: *перароб на «беларускі» манер* (Уздым 1928. Рэц.); ***распачын*** ‘пачатак, пачынанне’: *перашкоды для вольнага распачыну аднаўленчае працы* (Жыл.); ***расплод*** ‘расплоджванне’: *спагадныя ўмовы для расплоду бактэрый* (Масл.); ***рассуд*** ‘вырак, рашэнне’: *мацерын рассуд* (Гартны. Сокі цаліны); ***склік*** ‘скліканне’: *умовай перамоў з’яўляецца склік нацыянальнага збору ... петыцыя аб скліку надзвычайнай сэсіі* (СБ 1930. МХ); ***спадзевы*** (Гартны. Сокі цаліны); ***срат*** ‘захаванне; догляд, эксплуатацыя’: *машыны патрабуюць належнага спрату... машына пры добрым спраце праслужыць 10–12 год* (Юдз.), *прарастанне іх у спраце* (Крас.); ***спыт*** ‘запыт’: рус. *до востребования – да спыту* (Сер.); ***стрым*** (Гартны); ***супастава*** ‘паралелізм’ (БНТ-2); ***схова*** ‘сховішча’: *выпадковая схова* (Пол. 1929); *у Саўках знайшлі сабе схову* (Зар. ЗТ, 1, с. 29); *розныя штучныя сховы з фарбаў, сталі, бетону і зямлі* (Ун.); ***увод*** ‘увядзенне’: *год уводу Інстытуту* (Пол. 1926); ***угавор*** ‘угаворванне’: *з словамі ўгавору* (Зар. ЗТ, 2, с. 156); ***уздрыг*** ‘уздрыгванне’: *гэта ёсць перадсмяротныя ўздрыгі* (ЗПК); ***узнагарода*** ‘ўзнагароджванне’: *аб узнагародзе* (СБ 1932); ***узрост*** ‘узрастанне’, павелічэнне’: *узрост вывазкі збожжа* (Пол. 1926. НА); *узрост таварнай часткі* (Пол. 1929); *узрост рэвалюцыйнай барацьбы* (ББ 1931); ***узыход*** ‘узыходжанне’: *у часе ўзыходу на трон Музафэра* (Пол. 1926); ***уклады*** ‘ўкладанні’: *капіталістычныя ўклады ў прамысловасць* (Пол. 1929); *буйныя*

[85] Вядома і ўжыванне 1918 г. у рэдагаванай Ц. Гартным газеце «Дзянніца»: *пад надавам* ‘пад ціскам’.

*ўклады ў машынабудаўнічую прамысловасць* (ВС 31); ***управа***: *палітычная ўправа Беларускай вайсковай акругі* (ЧЧ); ***урода*** ‘ўраджай’: *у гэтым годзе ўрода будзе ў мужыкоў* (Весн. Мурашка); ***урода*** ‘натура; прырода’: *укладзена ў самую ўроду, у інстынкт чалавека* (Зар. ЗТ, 1, с. 382); ***усход*** ‘узыходжанне’: *план усходу на гару духаў* (СМД); ***утора*** ‘дзеянне паводле дзеяслова *ўторыць*’: *яму гукі аркестра былі цудоўнай уторай радасці* (Зар. ЗТ, 1, с. 363).

Нульсуфіксальныя формы таксама часта сустракаліся як часткі складанняў: ***брахняпіс*** ‘пасквіль’ (БНТ-2; ПРБС-24); ***вадазбор*** *геагр.* ‘басейн’: *велічыня вадазбораў* (Касм. 31); ***вадаросты***: *асаблівы від вадаростаў* (Кэр); *выцягваюць з дна вадаросты* (Дашк.); *шосты пояс заселены харавымі вадаростамі... паверхня, багатая вадаростамі* (Бах.); ***вайскавод*** ‘палкаводзец’: *рымскі вайскавод Лукул* (ЗАГНФ); ***газасхоў*** ‘газасховішча’ (Ун.); ***кругабег*** ‘перыяд’ (Узв. 1927); ***кругавыраз*** ‘сектар’ (БНТ-1, ПРБС-24, ПРБС-26); ***кругаход*** ‘перыяд’ (БНТ-2); ***крывязліў*** (Мранг.), ***крывяцеча*** (Гел.), ***новаўвод*** ‘новаўвядзенне’ (Пол. 1926. Арт.).

Некаторыя словы такога тыпу (напрыклад, *заступа, навага, няўрод, падкус, стрым, урода*) прыйшлі ў літаратурную мову з народнай; параўн. заўвагу наконт дыялектнага характару слоў *заступа, намова, падкуса* [293, с. 16, 18]. У некаторых выпадках цяжка адназначна сцвярджаць, што пэўныя нульсуфіксальныя формы былі ўтвораны ў рамках беларускай мовы, а не былі запазычаны з суседніх польскай (*апал, апіс, вымога, выпісы*) або ўкраінскай (*вадазбор, забяспека*). Аднак у шэрагу выпадкаў прыход пэўнага нульсуфіксальнага слова ў беларускую літаратурную мову з іншай мовы выглядае асабліва верагодным (напрыклад, *вытвар, забяспека*). У гэтым сэнсе шэраг утварэнняў такога тыпу прымыкаюць да слоў з групы вандроўных запазычанняў-калек. Паходжанне некаторых з такіх формаў часам трактуецца зусім арыгінальна, як, напрыклад, ужывальнае Я. Пятроўскім *спасцярога* ‘заўвага’: яно залічана да формы, якая «вызначана суб’ектыўна-разумовым шляхам» [232, с. 447]. Утварэнне нульсуфіксальных аддзеяслоўных дэрыватаў у беларускай літаратурнай мове аблягчалася часам з той прычыны, што і ў рускай мове 1920-х гг. іх было больш, чым у сучаснай. Напрыклад, у значэнні ‘службовае паведамленне’ ўжывалася не толькі слова *донесение*, але таксама і слова *донос* (РБС-28, с. 118).

Адносна некаторых слоў (*змык, вадазбор, пацёк*) у літаратуры існуюць заўвагі аб тым, што, будучы штучнымі новатворамі, з пачатку 1930-х гг. яны сталі замяняцца інтэрнацыянальнымі словамі [82, с. 271–272].

Лёс разгледжаных утварэнняў у беларускай літаратурнай мове на наступных этапах яе развіцця быў неаднолькавы.

Адны засталіся ў ёй як звычайныя словы, часам змяніўшы катэгорыю ліку (*выклад, схоў, угавор*). Другія былі зафіксаваны сучаснымі нарматыўнымі лексікаграфічнымі крыніцамі, але, нягледзячы на гэта, бадай, выйшлі з актыўнага ўжытку або сталі выкарыстоўвацца ў спецыялізаваным значэнні

(*дослед*, *нахіл*, *увод*, *узыход*). Для некаторых у сучасных слоўніках былі прыняты стылістычныя і / або дыстрыбутыўныя абмежаванні (*выведы – разм.*; *вымер – разм.*; *намова – разм.*; *наступ* – 'тое, што і *наступленне*'; *схова – разм.*, 'тое, што і *схоў*'). Чацвёртыя пазней не ўжываліся ці амаль не ўжываліся (*захова, навага*). Пятыя, прапанаваныя ў слоўніках 1920-х гг., так і засталіся здабыткам гісторыі лексікаграфіі, але, бадай, не выкарыстоўваліся (*абаснова, наход*)[86]. Шостыя, зафіксаваныя ў (некаторых) слоўніках 1920-х гг. і ўжываўшыся (часам вельмі шырока, напрыклад, *узрост*), тым не менш не знайшлі адлюстравання ў сучасных нарматыўных лексікаграфічных працах (*абняслава, выказ, узрост*). Сёмыя, ужывальныя ва узусе канца 1920-х – пачатку 1930-х гг., у лексікаграфічных крыніцах 1930-х гг., тым не менш, былі прадстаўлены суфіксальнымі ўтварэннямі, што, напэўна, абмяжоўвала іх ужыванне (*абыход, асуд, газасхоў, наваўвод*). Нарэшце, былі і такія, якія можна кваліфікаваць нідзе не зафіксаванымі аказіяналізмамі (*выкан*). Асобна стаіць моватворчасць Я. Станкевіча, які ўласныя змайстраваныя словы (*выбег* і да т. п.) уключаў у свае слоўнікі.

Лёс нульсуфіксальных утварэнняў быў неаднолькавы ў савецкай і Заходняй Беларусі. Калі ва Усходняй Беларусі многія з іх сталі выходзіць з ужытку, то гэта не абавязкова адбывалася і ў мове Заходняй Беларусі, параўн.: ***заміна*** 'перашкода': ***замінаю*** *найбольшаю дзеля прыйма ці прадстаўлення псыхоаналітычнае тэорыі будзе аднак вялікі абойм яе... хворая здаравела, прападала абнядужанне, заміны пры глытанні і г. д.* (Кал. 1936. НА); ***поклік*** 'прызванне, пакліканне': *Да таго ж ён (малады чалавек) сапраўды хоча астацца манахам, бачыць тутака свой поклік жыццёвы* (Кал. 1936. НА); ***сумліў*** 'сумненне': *шмат якія са здабычаў Фрэўда сяння ня выклікаюць у нікога сумліваў* (Кал. 1936. НА).

Прынамсі, некаторыя з пададзеных вышэй лексем у 1920-я гг. лічыліся, відаць, прымальнымі і былі даволі ўжывальнымі. Параўн., напрыклад, тую акалічнасць, што адсутная ў ТСБМ лексема *вяроза* ў 1929 г. лічылася прыдатнай нават у той момант, калі ўжо пачалася пераацэнка некаторых слоў: яна была прапанавана ў якасці аднаго з заменнікаў слова *кроза* падчас прагляду з мэтай выяўлення памылак ужо надрукаванага БНТ-23. Некаторыя словы ў 1930-я гг. зазналі экспліцытную крытыку. Напрыклад, ужыванне Ц. Гартнага *падаў* 'назоўнік ад дзеяслова *падавіць*' крытыкавалася ў 1934 г. К. Крапівой [175, с. 249]. Некаторыя словы на працягу кароткага часу выпраўляліся. Ужытае ў адной з кніг 1930 г. слова *выраб* у пазнейшым выданні 1934 г. было выпраўлена на *апрацоўка*; слова *выведы*, выкарыстанае ў "Палескіх рабінзонах" Я. Маўра, было заменена на *разведка* пазней, у 1968 г. У факце замены *выраб – апрацоўка*

[86] Слова *абаснова* як адзін з эквівалентаў рус. *обоснование* было ўключана ў падрыхтаваны Я. Купалам БНТ-2, адтуль было перанята некаторымі іншымі слоўнікамі (ПРБС-1924, БРС-26). Аднак яно не ўжывалася самім Я. Купалам, а ў РБС-28 пры падачы эквівалентаў для рус. *обоснование,* хоць і была дадзена спасылка на БНТ-2, форма *абаснова* была «маўкліва» папраўлена на *абаснаванне*.

праявілася тэндэнцыя пазбаўляцца ў працэсе абазначэння абстрактных паняццяў некаторых празмерна «простых» народных слоў і выкарыстоўваць больш складаныя, няхай і змайстраваныя. У дадзеным выпадку, несумненна, мела значэнне і канкурэнцыя каранёў *раб-* і *прац-*, другі з якіх, магчыма, быў больш прыдатны ў сітуацыях стварэння культурных абстрактных назваў. У дачыненні да формы *абрабляць* у параўнанні з формай *апрацоўваць*, кіруючыся эстэтычнымі ці стылістычнымі меркаваннямі, Л. Цвяткоў заўважаў, што першае слова «гучыць менш добра» [764].

Некаторыя выпадкі перыяду 1930-х гг. сведчаць пра тое, што ў гэты час моўныя рэдактары былі дэзарыентаваны адносна выбару тых або іншых слоў. Напрыклад, у выданні беларускага перакладу твора У. І. Леніна «Дзяржава і рэвалюцыя» 1932 г. двойчы было ўжыта слова *выклад*: *доўгія цытаты зробяць выклад занадта важкім... пакажам гэта падробна ў далейшым выкладзе* (Лен. ДіР 32). У выданні 1934 г. у адпаведных месцах з'явілася слова *ізлажэнне* (Лен. ДіР 34), у 1936 г. была вернута форма *выклад* (Лен. ДіР 36), а ў 1939 г. зноў было ўжыта слова *ізлажэнне* (Лен. ДіР 39).

Сярод прычын, якія стымулявалі ўзнікненне нульсуфіксальных утварэнняў у мастацкай мове 1920-х гг., у літаратуры называюцца стылістычныя (у рамках літаратурнага разумення стылістыкі), версіфікацыйныя, а таксама дзеянне тэндэнцыі да эканоміі моўных сродкаў [385, с. 33]. Адносна актывізацыі дадзенай тэндэнцыі ў межах сучаснай беларускай літаратурнай мовы дадаткова звяртаецца ўвага на тэндэнцыю моўнай эканоміі [157, с. 37].

У 1920-я гг. беларуская літаратурная мова знаходзілася ў перыядзе свайго актыўнага фарміравання, калі ў ёй выпрацоўваліся эквівалентныя моўныя сродкі для разнастайнай лексікі суседніх (у першую чаргу рускай) моў, калі яшчэ запаўняліся шматлікія клетачкі яе стылістычна-словаўтваральнай сістэмы. Як вядома, пэўную праблему ў гэтых адносінах маглі складаць адэкватныя адпаведнікі для рускіх абстрактных слоў высокага стылю, корпус якіх у рускай мове ў значнай ступені запоўнены пры дапамозе царкоўнаславянскай лексікі. Мяркуючы па тым, наколькі актыўна нульсуфіксальныя ўтварэнні былі прадстаўлены ў тагачасных беларускіх лексікаграфічных тэрміналагічных крыніцах як эквіваленты рускіх назоўнікаў на *-ние, -тие*[87], можна зрабіць выснову, што, прынамсі, некаторыя беларускія варыянтныя суфіксальныя ўтварэнні з фіналлю *-енне* (*-энне*) здаваліся некаторым тагачасным кадыфікатарам «недастаткова беларускімі».

У беларускай літаратурнай мове ў 1920-я гг. была ў сіле тэндэнцыя «просталінейнага словаўтварэння» (выраз А. В. Ісачанкі ў сувязі са

[87] У дадатак да прыведзеных вышэй можна прывесці наступныя формы: *извлечение корня – знаход караня, нахождение – знаход, пересечение – перасеча, указание – паказ* (ДЛ), *частное* (ад дзялення) – *дзель, сечение – перасек, растворение – расхіл, проекция – спад* (БНТ-1), *знание – веда, тест – выпыт, наблюдение – спасцярога, полемика – спрэчкапіс* (БНТ-4), *антиклиналь – выгін, шлиф – выглад, сечение – перасек, впадение реки – упад, уток ракі* (БНТ-5), *выгоревшее торфяное болото – выжар, уход за насаждением – дагляд дрэвастану, кап – наплыў* (БНТ-8) і інш.

словаўтварэннем чэшскай мовы), якая добра суадносілася з нескаванай абмежаваннямі словаўтваральнай практыкай у народных гаворках. Народная мова ведае вялікую колькасць нульсуфіксальных утварэнняў, напрыклад, *абход, абхват, адвал, выжар, зажон, павал, перавор, пераляк, перапалох, перапуд, пасад, пералаз, погар, спалох, сход* ‘месяц у апошняй квадры’*, укос, улеў, уплёт, урода* і інш. [357, с. 262–266], частка з якіх засвоена і літаратурнай мовай. Адпаведна, пэўныя нульсуфіксальныя ўтварэнні ў рамках літаратурнай мовы маглі ўспрымацца адначасова і як «народныя», і як «культурныя», спецыяльна створаныя словы – прычым другая іх характарыстыка магла быць дарэчы пры абазначэнні розных складаных абстрактных паняццяў. У сувязі з гэтым у 1920-я гг. у беларускай літаратурнай мове (не толькі ў яе мастацкім стылі, але нярэдка і ў навуковым) бытавалі шматлікія нульсуфіксальныя ўтварэнні, частка з якіх у сукупнасці выступала ў якасці корпуса адпаведнікаў стылістычна высокім рускім царкоўнаславянізмам *бесчестие, вдохновение, вознаграждение, достижение, заблуждение, излияние, изображение, искушение, исполнение, испытание, объятие, осуждение, премудрости, решение, соединение, увлечение, хранение* і інш.[88] На фоне таго, што калькаванне стараславянізмаў сярод іншых крыніц калькавання для беларускай мовы складае найбольшую цяжкасць [20, с. 89], выпрацоўка такога адносна рэгулярнага спосабу перакладу царкоўнаславянізмаў, у якім спалучалася арыентацыя на небеларускую крыніцу з унутрымоўнай словаўтваральнай практыкай, можа лічыцца значным дасягненнем у разбудове словаўтваральна-стылістычнай сістэмы беларускай мовы. Быўшы ўжывальнымі, некаторыя з гэтых нульсуфіксальных утварэнняў не паспявалі фіксавацца слоўнікамі або фіксаваліся ў іх у іншых, у параўнанні з узусам, значэннях. Напрыклад, слова *выява* было ўжыта Ц. Гартным у значэнні ‘праяўленне’, а ў слоўніках яно фіксавалася са значэннем ‘пошук, выяўленне’. Вельмі ўжывальнымі ва узусе 1920-х гг. былі таксама ў значнай ступені стылістычна нейтральныя аддзеяслоўныя ўтварэнні з фіналлю *-аніна*, якія таксама часткова выступалі як эквіваленты рускіх слоў на *-ение*, што ўтрымлівалі прыкметы царкоўнаславянскай мовы[89]. Актыўнасць выкарыстання нульсуфіксальных слоў падрыхтоўвала выпрацоўку іх успрыняцця носьбітамі беларускай літаратурнай мовы ў значнай меры як стылістычна высокіх. У гэтым плане з беларускай практыкай можна параўнаць тагачасныя тэндэнцыі ва ўкраінскай літаратурнай мове, дзе суфіксальныя аддзеяслоўныя дэрываты таксама абмяжоўваліся, прычым патрэба выкарыстоўваць альтэрнатыўныя нульсуфіксальныя формы ва ўкраінскай лінгвістыцы была выказана эксплiцытна

---

[88] Гэтай заканамернасці не пярэчаць некаторыя выпадкі даволі стабільнага выкарыстання ў гэты самы час некаторых суфіксальных формаў на *-анне* тыпу *падтрыманне* ‘падтрымка’, засвоеных, верагодна, пад уплывам польскай мовы.

[89] У пэўных выпадках такія ўтварэнні, аднак, маглі быць стылістычна зніжанымі. Адносна аналагічных утварэнняў тыпу *поранина, хапанина, балаканина, морганина* ва ўкраінскай мове А. Курыла зазначала, што яны маюць пэўную эмацыянальнасць, адценне нецярплівасці, незадавальнення [202, с. 78].

і вельмі разбудавана, з прывядзеннем шматлікіх станоўчых прыкладаў тыпу *задовол, заклин, зневіра, знемога, надих, намова, насит, оберега, одклад, осуд, перебрех, пересторога, поваба, подих, попит, попуск, похоп, пригніт, присвят, пробуд, прокид, схов* і інш. [143, с. 98; 202, с. 68–80].

## 4.5. НАЦІСК. ВЫТВОРНЫЯ ПРЫМЕТНІКІ

Праблема націску ў вытворных прыметніках у яе дыяхранічным асвятленні пакуль не прыцягвала пільнай увагі беларускіх лінгвістаў.

Сучасны стан націску ў прыметніках апісаны ў «Беларускай граматыцы» [23, с. 388–399]. У працы зазначана, што ў словаформах прыметніка націск можа знаходзіцца як на аснове (корані ці суфіксе), так і на канчатку. У залежнасці ад гэтага выдзяляюцца два акцэнтныя тыпы – А і В. Згодна з данымі «Беларускай граматыкі», вытворныя прыметнікі паводле іх частотнасці належаць найперш да тыпу А.

Адносныя і якасныя прыметнікі, аднак, неаднойчы прыцягвалі ўвагу беларускіх мовазнаўцаў з пункту гледжання канкурэнцыі словаўтваральных тыпаў з суфіксамі *-ов-* (*-ав-, -ев-*), з аднаго боку, і *-н-*, з другога. Так, напрыклад, у 1970 г. словаўтваральны тып з суфіксам *-ов-* (*жыццёвы, каранёвы, крышталёвы*) быў ахарактарызаваны як польскі паводле свайго паходжання і проціпастаўлены тыпу з суфіксам *-н-* як рускаму [82, с. 260]. У 1983 г. варыянтныя суфіксальныя прыметнікі, якія ўжываюцца ў творах Я. Коласа, разглядала Т. П. Піліповіч [280]. Аналізуючы ўжыванне ў сучасным друку прыметнікаў з суфіксамі *-ов-* (*-ав-, -ев-*) і *-н-*, В. І. Уласевіч заўважыла, што ў мове мастацкай літаратуры (асабліва 1920–1940-х гг.) прыметнікі нярэдка ўтвараліся з суфіксамі *-ов-* (*-ав-, -ев*), аднак яны не замацаваліся ў якасці агульнай нормы і былі заменены прыметнікамі з суфіксам *-н-* [367, с. 53–54].

Спецыяльна разгледзела акцэнталагічныя варыянты прыметнікаў у сваёй манаграфіі І. Р. Шкраба. Яна зафіксавала, што ў сучаснай беларускай мове найбольш выразна акцэнталагічная няўстойлівасць праяўляецца ў прыметнікаў з суфіксам *-ов-* (*-ав-*)*: бурштынавы – бурштынóвы, васількóвы – васíлькавы, вéрасавы – верасóвы* і інш. Даследчыца заўважае, што ўтвораныя ад назоўнікавых асноў прыметнікі звычайна захоўваюць націск зыходнай асновы (*цэхавы, завóдскі*), але «і флексійна акцэнтаваныя формы таксама могуць знаходзіцца ў межах нормы: *патайнí, дражджавí, прахаднí*» [403, с. 65–66]. Спецыяльная заўвага зроблена адносна існавання акцэнталагічных варыянтаў, якія фіксуюцца толькі ў дыяхраніі: «*марскí* (раней і *мóрскі*), *зямны́* (раней і *зéмны*), *начны́* (раней і *нóчны*), *штармавы́* (раней і *штóрмавы*), *мурóжны* (раней і *муражны́*)» [403, с. 66].

Нашы назіранні паказваюць, што ў 1920-я гг. сітуацыя з выкарыстаннем у беларускай мове прыметнікаў таго або іншага акцэнтнага тыпу была даволі супярэчлівая. Многія з такіх прыметнікаў былі кніжнымі паводле паходжання і не мелі папярэдняй традыцыі ўжывання ў беларускай літаратурнай мове. Як правіла, формы вытворных прыметнікаў нячаста фіксаваліся ў тагачасных, пераважна невялікіх слоўніках. Адпаведна іх узус мог быць нестабільным. Паколькі ў тагачаснай беларускай літаратурнай мове існавалі розныя акцэнтныя тыпы, а абаперціся на ўсталяванае вымаўленне не было магчымасці, то ў шэрагу выпадкаў было даволі складана вызначыць, якому акцэнтнаму тыпу трэба было аддаваць перавагу ў розных канкрэтных выпадках. На ўжыванне такіх прыметнікаў аказвалі комплексны ўплыў акцэнталагічныя нормы суседніх польскай і рускай моў, колькасць складоў у такіх прыметніках, адлюстраванасць вытворных прыметнікаў у лексікаграфічных крыніцах, акцэнтныя тыпы ўтваральных асноў, патрэба (добрай) ідэнтыфікацыі з утваральнай асновай, узус розных беларускіх дыялектаў, стылістычныя патрэбы тагачаснай беларускай мовы, агульныя тэндэнцыі развіцця націску і інш.

Акцэнтнаму вар'іраванню ў 1920-х – першай палове 1930-х гг. падлягалі прыметнікі з рознымі суфіксамі.

Прыметнікі з суфіксамі *-ав- (-яв-) / -ов- (-ёв-)*: ***агнявы*** *клубок* (Весн.), ***агнявымі*** *сродкамі* (Багд.) – ***агнёвая*** *зорнасць* (Піг.), ***агнёвыя*** *пікі* (Весн.), *свінцова-**агнёвыя** віхры* (Весн.).

Прыметнікі з суфіксам *-н-*: ***вывóзны*** *гандаль* (Крас.) – ***вывазныя*** *тавары* (Пол. 1926); *напярэдадні **выхóднага дня*** (Зар. ЗТ, 1), ***выхóдны*** *пункт* (Касм. 31), ***выхóдная*** *шчыліна* (Чэм. РНК 31) – ***выхадны*** *канал* (Льв.), ***выхадной*** *адтулінай* (Багд.).

Прыметнікі з суфіксам *-ск-*: *у **завóдскай** справе* (Ск.), ***завóдская*** *прамысловасць* (Касм. 31), *цыкл апавяданняў з **завóдскага** жыцця* (Пол. 1931) – *фабрычна-**завадскім** камітэтам* (Код. 36).

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што ў тагачасным узусе, а таксама ў лексікаграфічных працах у некаторых выпадках выразна праяўлялася тэндэнцыя захоўваць націск на больш блізкіх ад пачатку слова складах (на корані). Яе можна назіраць на наступных прыкладах:

***аднаáктавы***: *тры аднаáктавыя творы* (Пол. 1930), параўн. суч. *аднаактóвы*; ***вéрасневы*** (РБС-28), параўн. суч. *вераснёвы, вераснёўскі*; ***выхлóпны*** 'прызначаны для выхлапу газаў': *выхлóпную трубу* (БЦЯ), параўн. суч. *выхлапны*; ***гнёздавы***: *гнёздавы корпус*; *гнёздавай рамкі*; *надгнёздавы прамежак*; *надгнёздавая прамежнасць* (Струк.), *трохгнёздавай, аднагнёздавай* (Аўч.); параўн. суч. *гнездавы*; ***дзвéрны***: *дзвéрны праём павінен мець парог* (СБ 1930); *дзвéрны* (РБС-28); параўн. суч. *дзвярны*; ***зéмны***: *зéмнае кулі* (Дашк.), *зéмных парод* (Касм. 29), *зéмных парод* (Касм. 31), *зéмнай кары* (Азб.), *зéмнай паверхні* (Грам.), *зéмная труба* (Каш.), *дыяметр зéмнай кулі* (Перэл.), *зéмнай кары* (Вальд.), *зéмных гор* (Дрож.); але: *зямную кулю* (Сям.), *незямныя сілы*

(Ол.); параўн. суч. *зямны* і (далёка нераўнапраўны варыянт) *зéмны*; ***зéрневы*** (РБС-28); параўн. суч. *зéрневы* і *зернявы*; ***літравы***: *возьмем літравую бутэльку* (БЦЯ); параўн. суч. *літрóвы*; ***мóрскі***: *мóрскія парты* (Сав.), *мóрскай дарогі* (СБ 1923), *мóрская пратока* (Азб.), *мóрскія хвалі* (Грам.), *мóрскія вятры (караблі, судны)* (Касм. 31); *эпізоды барацьбы Чырвонага мóрскага флёту* (Вішн., НКн.), *мóрская міля* (Перэл.); але: *марскí* (на другім месцы поруч з *мóрскі*) (РБС-28). Параўн. суч. *марскí*.

Кожная з формаў з націскам на корані мае сваю, часам зусім арыгінальную, гісторыю ўжывання ў беларускай мове.

Напрыклад, форма *завóдскі* аказалася даволі ўстойлівай у беларускай літаратурнай мове. Форма *зéмны*, якая ў сучасным слоўніку выглядае своеасаблівым рэліктам, засталася ў ім, падобна, таму, што яшчэ ў РБС-37 і РБС-53 яна фігуравала ў якасці першага з варыянтаў пары *зéмны, зямны*.

Што да ўвядзення ў беларускую мову адноснага прыметніка ад назоўніка *мора*, то яно фактычна не мела магчымасці адбыцца на «чыста беларускім» грунце, таму тут беларуская форма магла залежаць ад нормаў, прынятых у польскай (*morski*) або рускай (*морскóй*) мовах. Ва узусе 1920-х гг. выразна пераважала форма *мóрскі*. У «Слоўніку мовы Янкі Купалы» форма *мóрскі* (кваліфікаваная як «польская») зафіксавана 6 разоў, тады як *марскí* – ні разу (СМК 3, с. 107).

На адрозненне ад сучасных формаў *вывазнí* і *прывазнí*, якія маюць націск на канчатку, форма з націскам на корані *завóзны* захавалася ў сучаснай мове, верагодна, таму, што поруч са значэннем ‘завезены адкуль-небудзь; прывазны’ яна мела лексіка-семантычны варыянт *завóзны* ‘які мае адносіны да збожжа, прывезенага ў млын для памолу’.

Да гэтага ж разраду вытворных прыметнікаў акцэнтнага тыпу А належаць таксама *аднацылíндравы, адцэнтравы, бáцькаўскі* ‘які складаецца з бацькоў’ (*бáцькаўскі камітэт*), *вóсенны, вывóдны, двутáўравы, зарóдкавы, кóльцавы, кóўшавы, мáхавы* ‘які мае адносіны да маху, махання’, *машынавы, мéсцавы, мóхавы, нанóсны, нóжны, нóсавы, нóчны, падвéсны, пасéўны, перанóсны, плáставы, пóлавы, пóршнявы, пóтавы, пóхвавы, прывóдны, прывóзны, прыгарóдны* ‘прыгарадны’, *прыфрóнтавы* і інш.

Беларуская літаратурная мова ў 1920-я гг. развівалася ў цесным кантакце з рускай і польскай, сітуацыя з фарміраваннем націску ў вытворных прыметніках гэтых моў была спецыфічная, яна пэўным чынам уплывала на размеркаванне акцэнтных тыпаў прыметнікаў у беларускай мове.

Нягледзячы на тое што ў рускай мове існуюць поўныя прыметнікі з націскам і на корані, і на суфіксе, і на канчатку, «асноўным напрамкам акцэнталагічнага развіцця поўных прыметнікаў служыць перамяшчэнне націску бліжэй да канца слова, г. зн. на суфікс або нават на флексію» [88, с. 111]. Расійскія даследчыкі канстатуюць «паступовае павелічэнне прыметнікаў з наканчаткавым націскам (на *-óй*)» [87, с. 74]. Хоць моўнай практыцы XIX ст. былі ўласцівы некаторыя

прыметнікі з націскам на аснове (*бре́довый, дне́вный, ледяный, жестяный*), у сучаснай літаратурнай мове яны ўсведамляюцца як устарэлыя, затое «для многіх прыметнікаў (асабліва з суфіксамі *-ов-* і *-н-*) «пераможным» варыянтам аказаўся націск на канчатку» [87, с. 77–78].

Іншая сітуацыя была ў польскай мове. З пункту гледжання словаўтваральнай будовы польскіх прыметнікаў спецыфіку складала тая акалічнасць, што на працягу некалькіх стагоддзяў мела месца экспансія суфікса *-owy*, які ўсё больш адцясняў свайго канкурэнта – суфікс *-ny*. У выніку колішняя форма *abecadlny* змянілася на *abecadłowy, bankietny* – на *bankietowy, cytrynny* – на *cytrynowy, metalny* – на *metalowy, ogienny* – на *ogniowy, papierny* – на *papierowy* і г. д. [438, с. 218–219]. У польскай мове XX ст. перамога дэрыватаў з фармантам *-owy* зазначылася ўжо зусім выразна, і гэта мела пэўныя наступствы і для станаўлення словаўтваральнай сістэмы прыметніка ў беларускай мове.

У сітуацыі, калі ў польскіх прыметніках з суфіксам *-owy* націск падаў на другі склад ад канца, а ў рускіх прыметніках назіралася тэндэнцыя да перамяшчэння націску бліжэй да канца слова, адзначанае вышэй фарміраванне ў беларускай мове групы вытворных прыметнікаў з націскам на каранёвым галосным магло сведчыць аб пошуку беларускай мовай свайго асаблівага шляху. Напрыклад, замацаванне націску на корані ў формах тыпу *аднаа́ктавы, адрыу́кавы, атла́савы, безвыхо́дны, ве́расневы, во́севы, во́сеньскі, высо́ўны, выхло́пны, выхо́дны* ‘нерабочы’*, гнёздавы, гу́мавы, дзве́рны, зе́рневы, кішэнявы, лёдавы, лі́травы* працістаўляла ў акцэнтным плане гэтыя формы адпаведным рускім (*выхлопно́й, выходно́й, дверно́й*), польскім (*jednoaktowy, urywkowy, atłasowy, wrześniowy, gumowy, kieszonkowy*) або рускім і польскім адначасова (*osiowy* і *осево́й*, *jesienny* і *осе́нний*, *wysuwany* і *выдвижно́й*, *gniazdowy* і *гнездово́й, ziarnowy* і *зерново́й*, *lodowy* і *ледо́вый*, *litrowy* і *литро́вый*). Такому развіццю спрыяла і тая акалічнасць, што ў беларускай мове ўжо існавалі дэрываты, пры ўтварэнні якіх націск быў нерухомым і захоўваўся на корані: *аксамі́тавы, во́цатавы, гарэлкавы, дрэвавы, зага́дкавы, заро́дкавы, камо́ркавы, кампле́ктавы, кве́ткавы, двух- (чатырох-) кла́савы, кле́ткавы.*

Такому развіццю садзейнічала таксама наступная акалічнасць: пры гэтым рашэнні ў напісанні захоўваліся этымалагічныя каранёвыя галосныя, што ва ўмовах наплыву вялікай колькасці наватвораў спрыяла ідэнтыфікацыі новых дэрыватаў з іх утваральнымі асновамі. Імкненне ўтрымаць націск на каранёвым галосным, не дапусціць яго пераходу на наступны галосны дэрывацыйнага або формаўтваральнага афікса (параўн., напрыклад: *Збор твораў у 12 то́мах; то́маў, хо́дах, хо́даў* і да т. п.) у 1920-я гг. назіраецца і ў шэрагу іншых прыкладаў, і таму можа быць кваліфікавана як важная тэндэнцыя развіцця акцэнталагічнай сістэмы прыметніка беларускай мовы гэтага часу.

Формы прыметнікаў з націскам на корані пазней мелі неаднолькавы лёс у беларускай літаратурнай мове. Большасць з іх (*аднаа́ктавы, ве́расневы, выхло́пны, гнёздавы, дзве́рны, засе́ўны, лёдавы, лі́травы, мо́рскі, ма́хавы* і

інш.) цалкам выйшла па-за рамкі літаратурнага выкарыстання. У гэтай групе прыметнікаў падобна да развіцця націску ў рускай мове ў большасці выпадкаў адбылося перамяшчэнне націску на флексійны склад (*выва́дны́, выхлапны́, гнездавы́, дзвярны́, кальцавы́, марскі́, махавы́, нажны́, насавы́, начны́, пасяўны́, палавы́*). Паколькі ў беларускай народнай і літаратурнай мове існуюць вытворныя прыметнікі з наканчаткавым націскам (*канцавы́, лугавы́, махавы́* (ад *мох*), *палявы́, селавы́, снегавы́, падкідны́* і інш.), у дадзеным выпадку нельга выключаць уплыву адпаведнага акцэнтнага тыпу беларускай мовы, аднак у большасці выпадкаў рускі ўплыў (як мінімум для формаў *выхлапны́, гнездавы́, дзвярны́, кальцавы́, марскі́, махавы́, насавы́, начны́, пасяўны́, палавы́, прывадны́, прывазны́*) трэба прызнаць вырашальным.

У частцы прыкладаў націск замацаваўся на другім складзе ад канца (*аднаакто́вы, вато́вы, вераснёвы, двухтаўро́вы, мясцо́вы, пурпуро́вы, улíко́вы, шматпавярхо́вы*), у іншых адбылася змена суфікса (*атласны* замест *атла́савы, машынны* замест *машынавы, похвенны* замест *по́хвавы*).

Іншыя прыметнікі з націскам на корані (*гу́мавы, заво́зны, нано́сны, падве́сны, перано́сны, по́ршневы, по́тавы, ро́тавы, стэпавы, ухахо́дны, цягавы*) захаваліся ў літаратурнай мове ў якасці адзіна магчымых варыянтаў. Некаторыя захаваліся, суіснуючы поруч з іншымі варыянтамі (*во́севы, зе́рневы, мо́хавы, ро́гавы, ры́нкавы, учо́рашні*).

Ужыванне формаў з суфіксам *-ов-ы* (*-ёв-ы*) назіраем на наступных прыкладах:

*атласо́вы* [652, с. 64]; параўн. суч. *атла́сны*; *вуглёвы* (Пол. 1928); параўн. суч. *ву́гальны*; *выбухо́вы* (ПБВС, РБС-28); параўн. суч. *выбухо́вы, выбухны; узрыўны*; *газарто́вы; газардо́вы* (Цвік. (29)/93), *азардо́ўны* (Зар. ЗТ, 1), *азардо́ўны, азардо́вы* (РБС-28); але: *газа́рдны* (ПБВС); параўн. суч. *аза́ртны*; *картко́вы* ‘які мае адносіны да карткі’ (Вальд.); параўн. суч. *ка́ртачны*; *лічбо́вы* (КооБ 1930); параўн. суч. *лі́чбавы*.

Да гэтага ж разраду належаць таксама такія формы, як *агнёвы, агуло́вы* ‘валавы, сукупны’, *аднацыліндро́вы, акрыццёвы, аднаакто́вы, асако́вы, беззмясто́вы, бесканцо́вы, вато́вы, вузло́вы, выйсцёвы, высокагатунко́вы, вясно́вы, гадо́вы, гнаёвы, грунто́вы, гумо́вы, дажджо́вы, двухсэнсо́вы, двухтаўро́вы, дзяёвы* ‘гістарычны’, *зярнёвы, ідэёвы, каранёвы, кармо́вы, квадрато́вы, кішанёвы, крышталёвы, крэдыто́вы, лагво́вы, лакцёвы, ліпнёвы, лядо́вы, рознакаляро́вы, чыгуналіццёвы, мазго́вы (спінна-мазго́вы, чэрапна-мазго́вы), машыно́вы* і інш. Ужыванне падобных формаў было тым больш дапушчальнае, што ў беларускай мове ўжо існавалі і/або існуюць акцэнталагічныя формы прыметнікаў, якія фіксуюцца толькі з націскам на суфіксальным *-ов-*: *бялко́вы, вечаро́вы, зімо́вы, канто́вы, крышталёвы, ліпнёвы, металёвы*, *садо́вы, службо́вы, сталёвы*, *уплыво́вы*.

Як і формы з націскам на каранёвым складзе, формы прыметнікаў з суфіксам *-ов-* таксама пазней мелі неаднолькавы лёс у беларускай літаратурнай

мове. Большасць з іх (*агуло́вы*, *аднацыліндро́вы, акрыццёвы, арандо́вы, атласо́вы, беззмясто́вы, вуглёвы, вузло́вы, выйсцёвы, гадо́вы, газарто́вы, гнаёвы, грунто́вы, гумо́вы, дажджо́вы, двухсэнсо́вы* і інш.) выйшла па-за рамкі літаратурнага выкарыстання. Сярод іх найбольшая колькасць ужываецца ў сучаснай мове з іншымі суфіксамі: *-н- (-енн-)* (*аза́ртны, арэндны, атла́сны, ву́гальны, гно́йны, ідэйны, ка́ртачны, квадра́тны, крэдытны, машынны, мысленны, паве́траны* і інш.) або *-ск-* (*ліпеньскі, чэрвеньскі*). Іншыя змянілі і ўтваральную аснову, і суфікс (*выйсцёвы, дзяёвы, пазычко́вы, першастко́вы, раўніко́вы*). У частцы такіх прыметнікаў адбылася фіксацыя націску на корані (*гу́мавы, зача́ткавы, лі́чбавы, мядзведзевы, со́ладавы, сме́ццевы, стэпавы*), яшчэ ў адной частцы адбылося перамяшчэнне націску на флексійны склад (*вузлавы́, гадавы́, грунтавы́, кармавы́, лакцявы́, мазгавы́, пластавы́, хваставы́*).

Прыведзены матэрыял сведчыць аб незавершанасці станаўлення словаўтваральнай сістэмы вытворных прыметнікаў у 1920-я гг. Паколькі прыток такіх прыметнікаў у літаратурную мову ў 1920-я гг. быў асабліва інтэнсіўны, а лексікаграфічныя крыніцы толькі ў нязначнай ступені фіксавалі гэтую катэгорыю слоў, для іх паспяховага ўваходу ў літаратурную мову быў патрэбен адаптацыйны перыяд. Для ідэнтыфікацыі з утваральнай асновай, у мэтах наследавання народным формам, а таксама для сцвярджэння своеасаблівасці беларускай мовы ў параўнанні з рускай і польскай такія формы ў гэты час нярэдка ўжываліся з націскам на каранёвым складзе. Іншай заўважнай тэндэнцыяй было выкарыстанне формаў з суфіксам *-ов-* (адпаведна, з націскам на суфіксе), у значнай ступені такія формы ўвайшлі ў беларускую мову ў складзе запазычанняў з польскай мовы.

# Раздзел 5
# РЭФОРМА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ 1933 г. ЯК ПАВАРОТНЫ ПУНКТ У ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА І ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

## 5.1. СІТУАЦЫЙНЫЯ, АСЯРОДДЗЕВЫЯ І ІНШЫЯ ФАКТАРЫ ВЫПРАЦОЎКІ ПРАВАПІСНЫХ НОРМАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў 1930–1932 гг.

Як было заўважана Р. Оці, стварэнне славянскіх літаратурных моў уваходзіць у сферу вывучэння таго, што сёння ў заходняй традыцыі называецца «моўным планаваннем» [263, с. 112]. Папраўдзе, пры вывучэнні працэсаў фарміравання літаратурных моў недастаткова фіксацыі тых або іншых моўных зменаў; існуе патрэба браць пад увагу экстралінгвістычныя фактары развіцця мовы, дэталёва вывучаць сацыяльныя, этнічныя і культурныя ўмовы як прадпасылкі моўнага развіцця [242, с. 21]. У 1980–1990-я гг. групай савецкіх (расійскіх) лінгвістаў былі выпрацаваны асновы спецыяльнай дысцыпліны – «дыхранічнай сацыялінгвістыкі» [115; 116]. Аднак пры вывучэнні працэсаў фарміравання літаратурных моў карыснымі могуць быць не толькі сацыялінгвістычныя метады. Паколькі моўная палітыка з’яўляецца прыватным выпадкам палітыкі як такой, пры даследаванні моўнага рэфарматарства можа выкарыстоўвацца паняційны інструментарый, прыняты ў паліталагічных працах. На неабходнасць карыстацца ў даследаваннях аб моўнай палітыцы здабыткамі паліталогіі звяртаў увагу Э. Хаўген [369, с. 469]. Для палітыкі цэнтральнай катэгорыяй з’яўляецца ўлада, а ўлада – гэта здольнасць уплываць на паводзіны іншых людзей. Паводле Р. Купера, «паколькі моўнае планаванне імкнецца паўплываць на паводзіны, пастолькі катэгорыі, што выкарыстоўваюцца палітолагамі, з’яўляюцца рэлевантнымі для даследчыкаў моўнага планавання» [452, с. 80].

У гэтых адносінах выклікае цікавасць методыка аўтара працы пра параўнальны падыход да аналізу палітыкі Г. Лейхтэра, які выдзеліў чатыры абагульненыя тыпы фактараў, што ўплываюць на палітыку ці абумоўліваюць яе: сітуацыйныя, структурныя, культурныя і асяроддзевыя [474; погляды г. Лейхтэра выкладзены тут паводле: 452].

***Сітуацыйныя фактары*** – гэта адносна кароткачасовыя ўмовы або падзеі накшталт войнаў ці бунтаў, якія аказваюць хуткае і непасрэднае ўздзеянне на палітыку. У дадатак да гвалтоўных Г. Лейхтэр прапанаваў таксама наступныя віды сітуацыйных фактараў: эканамічныя цыклы, прыродныя бедствы, палітычныя падзеі, змены ў развіцці тэхнікі і да т. п.

Непадобна да сітуацыйных, ***структурныя фактары*** ўяўляюць сабой адносна нязменныя рысы палітычных, эканамічных, сацыяльных, дэмаграфічных і экалагічных структур соцыуму. Паколькі структурныя фактары адносна працяглыя ў часе, яны маюць больш стабільнае і, такім чынам, прадказальнае ўздзеянне на палітыку, чым сітуацыйныя фактары.

***Культурныя фактары*** маюць дачыненне да стаўлення і каштоўнасцей, якія падтрымліваюцца групай у рамках супольнасці або супольнасцю ў цэлым.

Нарэшце, ***асяроддзевыя фактары*** – гэта падзеі, структуры і стаўленне, якія існуюць па-за межамі сістэмы, але якія ўплываюць на рашэнні, што прымаюцца ў межах гэтай сістэмы. Да ліку апошніх фактараў Г. Лейхтэр залічыў міжнароднае палітычнае асяроддзе, перайманне або запазычванне ідэй ад іншых народаў, міжнародныя пагадненні, абавязкі, ціск [452, с. 93–94].

З пункту гледжання структурных фактараў значэнне для характару рэфармавання беларускай мовы ў пачатку 1930-х гг. маглі мець недэмакратычная форма кіравання ў дзяржаве, марксісцкая ідэалогія, невысокі ўзровень урбанізацыі, даходаў і адукаванасці насельніцтва, знаходжанне БССР на геаграфічнай перыферыі СССР і інш. Так, недэмакратычная форма кіравання ў БССР у прынцыпе дапускала здзяйсненне моўнай рэформы без уліку шырокай грамадскай думкі. Марксісцкая ідэалогія сярод іншага на пэўных этапах спрыяла выпрацоўцы такой літаратурнай мовы, якая была б максімальна блізкай да народнай. Невысокі ўзровень урбанізацыі мог запавольваць інтэнсіўную цыркуляцыю ў грамадстве новых ідэй, непасрэдная геаграфічная блізкасць да краін капіталістычнага свету ўносіла свой уклад у стварэнне спецыфічнай сітуацыі ў сферы ідэалогіі і г. д.

З ліку культурных фактараў найважнейшае значэнне, відаць, адыгрывала пашыранае ў Беларусі (прынамсі, сярод нацыянальнай эліты) стаўленне да нацыянальнай пісьмовай мовы як да свайго роду святыні. Такое стаўленне, у прыватнасці, стымулявала імкненне кадыфікатараў фарміраваць літаратурную мову пэўным узорным спосабам, пры якім любыя колькі-небудзь значныя адхіленні ад нормы маглі лічыцца непрымальнымі. Знаходзячыся пад уражаннем ад публічных і шумных спроб 1925–1926 гг. выпрацаваць «дасканалы» беларускі правапіс, некаторыя дзеячы маглі талерантна ставіцца да ідэі аб патрэбе ўнесці нейкія змены ў правапіс беларускай мовы і ў пачатку 1930-х гг.

У нашым выпадку структурныя і культурныя фактары, аднак, самі па сабе не маглі прадвызначаць выбар і рэалізацыю тых або іншых канкрэтных моўных зменаў, тым больш што на розных адрэзках гісторыі гэтыя фактары маглі мець

амбівалентнае значэнне для фарміравання літаратурнай мовы. У сярэдзіне 1920-х гг. пры адносна стабільнай палітычнай сітуацыі ў Беларусі і аднолькавым уздзеянні структурных і культурных фактараў кадыфікатары, тым не менш, часам прапаноўвалі неаднолькавыя падыходы да моўнага рэфармавання. І ў пачатку 1930-х гг. структурныя і культурныя фактары ў працэсе моўнага рэфармавання пераважна стваралі толькі своеасаблівы «фон». Для канкрэтных акалічнасцей правядзення ў Беларусі ў 1933 г. моўнага рэфармавання значна большае значэнне мелі асяроддзевыя і сітуацыйныя фактары.

Палітычны кантэкст, у якім у жніўні 1933 г. адбывалася моўная рэформа, з прычыны таго, што ён не мае непасрэднага дачынення да зменаў, што адбываюцца ў моўнай сістэме, здаецца, згодна з выкладзенымі вышэй падыходамі, трэба было б залічваць да разраду асяроддзевых фактараў. Аднак, як пабачым ніжэй, некаторыя канкрэтныя палітычныя падзеі зусім непасрэдным і спецыфічным чынам уплывалі на актывізацыю моўнага рэфармавання і тым самым вызначалі яго характар; адпаведна яны могуць разглядацца як сітуацыйныя.

Падрыхтаваны ў 1927–1929 гг. Правапіснай камісіяй Інбелкульта праект беларускага правапісу ў 1930 г. быў надрукаваны тыражом 1000 экзэмпляраў, як сведчыла змешчаная ў ім прадмова, ён падлягаў абмеркаванню «адпаведнымі ўстановамі НКА, спецыялістамі і шырокімі грамадскімі коламі» [551, с. 9]. Для азнаямлення праект быў разасланы зацікаўленым арганізацыям. Аднак яго грамадскае абмеркаванне было адкладзена ў сувязі з вялікімі зменамі ў саміх асновах мовазнаўчага жыцця ў Беларусі, якія сталі адбывацца ў 1930 г.

У гэты час радыкальным чынам узмацніўся палітычна-ідэалагічны кантроль за беларускай лінгвістыкай. Не пазней чым у студзені 1930 г. у БАН быў заслуханы даклад «Аб марксізме і мовазнаўстве» мараўскага супрацоўніка В. Аптэкара, услед за якім адбылася дыскусія аб марксізме, мовазнаўстве і шляхах развіцця беларускай літаратурнай мовы. Беларускія лінгвісты аказаліся не гатовымі да ўспрыняцця «новага вучэння аб мове» акадэміка М. Я. Мара і крытычна паставіліся да тэзісаў дакладчыка. З пункту гледжання прасоўвання «новага вучэння аб мове» яго прыхільнікамі гэта было непажаданае развіццё падзей.

К пачатку 1930 г. «новае вучэнне аб мове» М. Я. Мара ўжо было атаясамлена з марксісцкім мовазнаўствам. Яшчэ ў 1928 г. кіраўнік літаратурнага аддзела Камуністычнай акадэміі грамадскіх навук У. М. Фрычэ, у 1929 г. вылучаны ў акадэмікі ад камуністычнай партыі, пісаў пра яфетыдалогію: «На ўсёй гэтай матэрыялістычнай і дыялектычнай пабудове яўна ляжыць водбліск нашага камуністычнага ідэалу <...> яфетычная тэорыя на нашых вачах перараджаецца ў марксісцкую лінгвістыку» [цыт. паводле: 10, с. 84]. Тым не менш, як сведчылі ў 1931 г. Л. Бабровіч і І. Шпілеўскі ў публікацыі пад характэрнай назвай «Мовазнаўства як сродак класавай барацьбы ў руках беларускіх нацдэмаў», на дадзенай дыскусіі П. Бузук і Я. Лёсік даводзілі, што «метад правядзення гэтай (яфетычнай. – *С. З.*) тэорыі нічога не варты. А стары рэакцыянер б[ылы]

акадэмік Дурнаво дагаварыўся да таго, што тэорыю Мара называў ідыятызмам» [535, с. 64][90].

Яшчэ ў 1927 г. Л. Цвяткоў зазначаў, што пакладацца на Мара «можна толькі ў тых пытаннях, якія не маюць адносін да яго тэорыі яфетызму. Гэтая тэорыя (лепш сказаць, гіпотэза) пакуль што яшчэ слаба ўгрунтавана...». Рэцэнзуючы другі том вялікай савецкай энцыклапедыі, Л. Цвяткоў выказаў меркаванне, што пажадана было б, каб у ім чытачам было дадзена «нешта пэўнае, а не гіпотэза Мара, ды яшчэ ў такім катэгарычным і задалёка пасунутым выглядзе» [763, с. 136].

Зрэшты, у беларускім друку канца 1920-х гг. часам сустракаліся і прыхільныя ацэнкі «новага вучэння аб мове». Абазнаны з маскоўскай навуковай модай, пісьменнік У. Дубоўка яшчэ ў 1928 г. прад'яўляў прэтэнзіі да беларускіх мовазнаўцаў за тое, што яны не наладзілі ў Мінску лекцый акадэміка Мара або каго-небудзь з яго асістэнтаў [615, с. 170]. Дзякуючы старанням У. Дубоўкі ў чацвёртым нумары часопіса «Узвышша» ў 1929 г. быў надрукаваны артыкул марыста І. Кусік'яна пра яфетычную тэорыю. У 1929 г. Мар быў абраны акадэмікам навастворанай Беларускай акадэміі навук; П. Бузук пазней згадваў гэты факт з адабрэннем і выказваў спадзяванне, што ў перспектыве беларускія навукоўцы будуць мець магчымасць паслухаць даклад Мара ў сценах БАН [562, с. 116]. У 1929 г. у часопісе «Полымя» была надрукавана станоўчая рэцэнзія на кнігу І. Мешчанінава «Введение в яфетидологию» [655, с. 175]. Зразумела, пасля краху беларускай лінгвістыкі ў 1930 г. сітуацыя змянілася, у 1931 г. В. Баркоўскі ўжо адназначна сцвярджаў, што яфетычная тэорыя – гэта марксісцкае мовазнаўства [546, с. 164].

У канцы красавіка 1930 г. вынікі дыскусіі ў БАН разглядаліся на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б; падрыхтаваны спецыяльнай камісіяй пад старшынствам загадчыка аддзела культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б А. Сянкевіча тэкст 16 мая 1930 г. быў зацверджаны як рэзалюцыя аб выніках дыскусіі аб мовазнаўстве. Так некаторыя спецыфічныя праблемы развіцця беларускай мовы сталі прадметам разгляду высокага партыйнага органа. У гэтым дакуменце былі дадзены зусім новыя ацэнкі папярэдняму перыяду развіцця беларускага мовазнаўства ўключна з кваліфікацыяй некалькіх канкрэтных моўных фактаў, а таксама сфармуляваны некаторыя важныя палажэнні, якія ў многім прадвызначылі характар моўных дыскусій на бліжэйшыя гады. Рэзалюцыя ўпершыню апублікавана толькі ў 1999 г.

У гэтай рэзалюцыі была зроблена выснова, што «мова і мовазнаўства выкарыстоўваліся контррэвалюцыйнымі, класава варожымі элементамі як магутная зброя для барацьбы супраць дыктатуры пралетарыяту і, у першую

[90] На жаль, няма звестак пра дакладную дату правядзення дадзенага мерапрыемства. Калі інфармацыя пра ўдзел у гэтай дыскусіі М. Дурнаво дакладная, то, значыць, гэтыя падзеі мелі месца не пазней чым у студзені 1930 г., якраз у гэты час М. Дурнаво пакінуў Мінск [16, с. 22]. Магчыма, гэта было яшчэ раней, у сярэдзіне снежня 1929 г. (у гэты час М. Дурнаво быў пазбаўлены годнасці акадэміка).

чаргу, супраць нацыянальнай палітыкі партыі і Савецкай улады». Абмеркаванне асноў мовазнаўчай навукі было ў гэтай пастанове кваліфікавана як «актывізацыя класава варожых элементаў на ідэалагічным фронце», якая адбывалася «побач з адкрытымі выступленнямі шалёнай контррэвалюцыйнай агітацыі кулацтва». Нязгода беларускіх мовазнаўцаў падтрымаць пастулаты «новага вучэння аб мове» была расцэнена як «атака адзіным фронтам беларускіх нацыянал-дэмакратаў, расійскіх вялікадзяржаўных шавіністаў, а таксама шавіністаў усіх другіх колераў супраць лініі партыі ў нацыянальнай палітыцы». У рэзалюцыі сцвярджалася, што прадстаўнікі так званага нацыянал-дэмакратызму «робяць спробу замацаваць свае пазіцыі ў галіне мовы і мовазнаўства». Нацыянал-дэмакратычная пазіцыя ў галіне мовазнаўства, паводле рэзалюцыі, выяўлялася ў «нянавісці да ўсяго расійскага, а таксама ў барацьбе супраць уключэння інтэрнацыяналізмаў у белмову, што выяўляе класавую варожасць беларускага нацдэмакратызму, па сутнасці, да расійскага рэвалюцыйнага пралетарыяту і да інтэрнацыянальнай пралетарскай рэвалюцыі наогул» [252, с. 227–231]. Пастанова «Вынікі дыскусіі...» знаменавала сабой наступленне новага этапу ў развіцці беларускага мовазнаўства: яна спрычынілася да таго, што ў навуковыя дэбаты на першае месца выносіліся абвінавачванні ў палітычных ухілах, навуковыя дыскусіі прыраўноўваліся да палітычных, фактычна выцясняліся апошнімі[91].

Пасля прыняцця ў маі 1930 г. рэзалюцыі бюро ЦК КП(б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве» погляды на фарміраванне беларускай літаратурнай мовы сталі карэнным чынам пераглядацца.

Тым часам сталі адбывацца радыкальныя змены і ў кадравым складзе беларускай лінгвістыкі, звязаныя з арыштамі многіх яе выдатных прадстаўнікоў. Што да былой Правапіснай камісіі Інбелкульта, то ў 1930 г. з васьмі яе членаў рэпрэсіі закранулі шэсць чалавек. Да названых вучоных былі прад’яўлены абвінавачванні не толькі ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі. Непасрэдным полем рэалізацыі варожых намераў арыштаваных лінгвістаў была названа і іх прафесійная дзейнасць. Было сцверджана, што зыходзячы са шкодніцкіх палітычных мэт арыштаваныя навукоўцы ў сваёй навуковай практыцы знарок кіраваліся непрымальнымі падыходамі, навязвалі беларускай мове неабгрунтаваныя лексічныя і іншыя нормы [693; 588]. Такім чынам, тым або іншым фактам беларускай мовы прыпісваўся палітычны змест.

З 1930 г. «шкодніцкая» дзейнасць беларускіх лінгвістаў пачынае станавіцца міжнародным фактарам. У 1930 г. С. Вальфсон у артыкуле «Мова і класавая барацьба», апублікаваным у маскоўскім часопісе «ВАРНИТСО», паставіў дзейнасць беларускіх лінгвістаў-шкоднікаў поруч з дзейнасцю расійскага мовазнаўца Г. К. Данілава [574]. Беларуская версія артыкула была апублікавана ў часопісе «Полымя» [571]. У сумеснай працы мараўскіх вучняў В. Аптэкара

[91] Палітычныя абвінавачванні 1930 г. на адрас беларускіх мовазнаўцаў, тэндэнцыя замяняць навуковую праблематыку палітычнай у пэўным сэнсе з’яўляліся ўзнаўленнем дыскрэдытацыі беларускай лінгвістыкі, якая мела месца ў 1922 г. (гл. вышэй, 1.2.2).

і С. Быкоўскага «Сучаснае становішча на лінгвістычным фронце і чарговыя задачы лінгвістаў-мовазнаўцаў» (1931) у кантэксце гаворкі пра шкодніцтва ў справе моўнага будаўніцтва СССР згадвалася дзейнасць «беларускіх нацыянал-дэмакратаў» [530, с. 15]. Як шкодніцкая асуджалася дзейнасць беларускіх лінгвістаў у кнізе Е. Ф. Спірыдовіча «Мовазнаўства і міжнародная мова» [741, с. 96]. У ленінградскім зборніку 1932 г. «Супраць буржуазнай кантрабанды ў мовазнаўстве» беларускіх «нацыянал-дэмакратаў» двойчы згадваў чувашскі аўтар Н. Я. Золатаў [627, с. 10]. Спасылку на беларускіх «нацдэмаў» знаходзім і ў артыкуле 1935 г. Ф. Філіна «Аб дыялекталагічным атласе рускай мовы». Згодна з ёй дыялекталагічныя праграмы беларускіх мовазнаўцаў «часам замаскіравана, а часам адкрыта мелі ўстаноўкі на абследаванне пераважна кулацкіх элементаў» [757, с. 219].

Арышты 1930 г. паралізавалі дзейнасць зусім маладога Інстытута мовазнаўства БАН. На працягу года былі звольнены з пасад або арыштаваны абсалютная большасць супрацоўнікаў гэтай установы. Рэпрэсіі закранулі ўсё кіраўніцтва Інстытута мовазнаўства: дырэктара С. Некрашэвіча, намесніка дырэктара Я. Лёсіка, вучонага сакратара П. Бузука. Толькі ў адзін дзень, 18 ліпеня 1930 г., былі арыштаваны чатыры навуковыя супрацоўнікі Інстытута: А. Адзінец, М. Гарэцкі, Я. Сушынскі, Б. Эпімах-Шыпіла. (Усяго ў 1930 г. у Інстытуце мовазнаўства працавала не больш як 20 супрацоўнікаў.) У друку 1931-га і наступных гадоў шырока папулярызавалася думка аб тым, што варожая дзейнасць «нацыянал-дэмакратаў» з асаблівай сілай праявілася менавіта ў беларускім мовазнаўстве.

30 кастрычніка 1930 г. пытанне аб Інстытуце мовазнаўства разглядалася на пасяджэнні прэзідыума БАН, на якім было вырашана часовае кіраўніцтва галоўнай лінгвістычнай установай ускласці на Я. Мацюкевіча (які дагэтуль у Інстытуце не працаваў) і набіраць новых супрацоўнікаў – «з настаўніцтва, знаёмых з мовазнаўчай працай» [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 6. Пратакол № 29]. У лістападзе 1930 г. у Інстытуце мовазнаўства з'явіліся, прынамсі, два новыя супрацоўнікі: І. Ляўчук і А. Шашалевіч. З нагоды крытычнай сітуацыі ў навуковай сферы ЦК КП(б)Б у снежні 1930 г. прыняў пастанову «Аб падрыхтоўцы навуковых кадраў» (СБ 1930. 13 снеж.).

У студзені 1931 г. адбылася праверка дзейнасці Інстытута мовазнаўства. У артыкуле Мікалаева «Выкарчаваць карэнні беларускага контррэвалюцыйнага нацдэмакратызму: да чысткі апарату БАН» паведамлялася, што сярод іншых устаноў Акадэміі Інстытут мовазнаўства «абследуецца ў першую чаргу» [699].

Характарызуючы ў пачатку лютага 1931 г. будучыя задачы БАН, новапрызначаны прэзідэнт акадэміі П. Горын расставіў выразныя ідэалагічныя акцэнты. На яго думку, супрацоўнікам акадэміі «перш за ўсё трэба зразумець, што навука не апалітычна». Пішучы пра «так званую "аб'ектыўнасць" навукі», П. Горын спаслаўся на словы Леніна, згодна з якімі «бесстаронняй сацыяльнай навукі ў грамадстве не можа быць». У якасці пацвярджэння гэтага тэзіса прэзідэнт

акадэміі прыводзіў дзейнасць «паноў Лёсікаў, Ластоўскіх, Некрашэвічаў», якія прадэманстравалі небесстароннасць «нават, здавалася б, такой “бесстаронняй” навукі, як мовазнаўства». П. Горын сцвердзіў: «Акадэмік БАН не можа паходзіць на першых грэцкіх акадэмікаў, якія любілі пад ценню густых дрэў першай у гісторыі акадэміі размаўляць “наогул” аб брэннасці і велічы жыцця. БАН не можа не быць актыўным барацьбітом у выпрацоўцы рэвалюцыйнай тэорыі». Супрацоўнікі, паводле прэзідэнта акадэміі, павінны былі цвёрда ўсведамляць, што навука – гэта класавая з’ява. На думку П. Горына, шырока распаўсюджанае раней шкодніцтва ва ўсёй паўнаце ставіла перад кіраўніцтвам акадэміі задачу падрыхтоўкі кадраў «з радоў пралетарыяту, калгаснікаў, саўгаснікаў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства» [597].

Друкуючы напярэдадні давыбараў акадэмікаў БАН артыкул «На крутым пераломе...», высокапастаўлены ідэолаг Е. Рыўлін заявіў, што беларуская акадэмія «па сваёй рэакцыйнасці не ўступіла старым, задоўга да рэвалюцыі ўзнікшым акадэміям». Ілюструючы шкодніцтва ў галіне лінгвістыкі, Рыўлін сцвердзіў, што яркім яго прыкладам можа служыць стварэнне тэрміналогіі, а таксама «палітыка БАН у галіне рэформу правапісу». Аўтар артыкула пры гэтым спаслаўся на паказанні кагосьці з арыштаваных лінгвістаў, які нібыта сам паказаў на дзейнасць у галіне правапіснай рэформы як на пункт прыкладання намаганняў «шкоднікаў»: «У чым жа справа? Чаму рэформа правапісу не ажыццяўляецца? Рэфармаваць правапіс – значыць спрашчаць яго, спрашчаць – значыцца выкідаць розныя закавыкі... На гэта нацыянал-дэмакрат ніколі не згодзіцца. У 1928 г. ствараецца спецыяльная Правапісная камісія пры Інбелкульце, якая распрацоўвае праект правапісу да 1930 г., потым ён друкуецца, потым пачынае абгаворвацца спачатку, і так бясконца. А школы мучаць дзяцей “закавычкамі” старога правапісу, а ліквідацыя непісьменнасці на базе гэтага правапісу проста немагчыма» [733]. Е. Рыўлін папярэдзіў, што Акадэмія зусім не з’яўляецца «арэнай для спаборніцтва рознага роду светапоглядаў».

16 лютага 1931 г. выконваючы абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Мацюкевіч на старонках газеты «Савецкая Беларусь» паведаміў, што Інстытут мовазнаўства займаецца спрашчэннем правапісу, сцвердзіўшы, што гэта «работа тэрміновая і павінна быць хутка праведзена» [694]. Выказванне Я. Мацюкевіча, верагодна, у тым ліку было адказам на крытыку мовазнаўцаў з боку Е. Рыўліна.

Абмеркаванне лінгвістычных пытанняў узнікла ў канцы лютага 1931 г. на X Усебеларускім з’ездзе саветаў у дакладзе наркома асветы А. Платуна. У сваёй прамове нарком успомніў мінулагоднюю дыскусію аб мове ў акадэміі, падчас якой нібыта «нацдэмы выкідвалі абсалютна ўсе савецкія словы, выкідвалі ўсе расійскія словы. Як па-нацдэмаўску называўся *пралетарыят*? *Пралетарыят* называўся *ўбоства*, *бедната – злыдні, галацьба* <...> Такіх выпадкаў можна падаць вельмі шмат» [723].

Крытыка на адрас мовазнаўцаў была вельмі грубая і недакладная, гэта была палітычная крытыка. З выступлення А. Платуна можа здавацца, што «нацдэмы»

спрабавалі ўвесці ў якасці эквіваленту слова *пралетарыят* лексему *ўбоства* на дыскусіі ў Акадэміі навук у 1930 г., аднак іх намеры былі своечасова выкрыты. У адной публікацыі 1933 г. сцвярджалася, што словы *бядота, галота, убоства* прапаноўваліся ў якасці эквівалентаў лексеме *пралетарыят* у рукапісе руска-беларускага слоўніка С. Некрашэвіча і М. Байкова [612]. Папраўдзе, падобныя ўжыванні былі зафіксаваны ў апублікаваным у РБС-28, параўн.: *голытьба – галота, галытва; злыдні; пролетариат – пралетар'ят, бядота, убоства*. У РБС-28 сярод эквівалентаў рус. *бедняк* нібыта было дадзена слова *злыдні*, на гэта раней звярнуў увагу адзін з рэцэнзентаў слоўніка ў альманаху «Уздым», пішучы, што *злыдзень* – гэта 'нячысцік, злы дух', таму такі эквівалент непрымальны [626]. Але не даводзіцца сумнявацца, што лексема *злыдні* была пададзена ў слоўніку не як асабовы назоўнік. У БРС-26 гэта слова было змешчана як эквівалент бел. *злыбяда* і рус. *несчастие*. Падобным чынам і слова *ўбоства* ў РБС-28 не прадугледжвала яго выкарыстання са значэннем 'уласцівасць і стан беднага па зместу або абмежаванага духоўна', яно, бадай, тут азначала зборнае значэнне – 'беднякі, бядняцтва'. Спецыфікай РБС-28 было тое, што ў пераліках перакладаў некаторыя словы падаваліся не як непасрэдныя эквіваленты загалоўнай лексемы, а як словы аднаго ідэаграфічнага раду, змешчаныя «па асацыяцыі». Так трапіла ў слоўнікі і ўжывальнае ва ўкраінскай мове слова *злыдні* ў значэнні 'бядота; стан беднага чалавека'. Неразуменне спецыфікі ўкладзенага слоўніка ў спалучэнні з жаданнем крытыкаў шукаць ідэалагічныя і палітычныя памылкі давала вынікам выключна нядобрасумленныя інтэрпрэтацыі, што мы маем у разгледжаным выпадку.

У рамках кампаніі па дыскрэдытацыі былой дзейнасці БАН, грунтуючыся на матэрыялах камісіі рабоча-сялянскай інспекцыі па чыстцы акадэміі, у пачатку сакавіка 1931 г. пад рубрыкай «Беларуская акадэмія навук павінна быць і будзе штабам пралетарскай навукі» ў газеце «Савецкая Беларусь» быў апублікаваны артыкул пра работу выдавецкага аддзела акадэміі. Інспектары выявілі, што ў многіх акадэмічных выданнях не ўжываюцца словы *кулак, серадняк, бядняк*. Акрамя таго, члены камісіі знайшлі, што ў слоўнікі не ўвайшлі словы *індустрыялізацыя, калектывізацыя, камсамол, камсамолец, акцябронак, апартунізм, саўгас, важаты*, бо «нацдэмы іх лічылі "нічога" не гаворачымі кангламератамі, створанымі на ўзор рускіх славечак» [528].

Між тым пытанні кадравага складу Інстытута мовазнаўства заставаліся нявырашанымі. З 1 студзеня 1931 г. на працу ў інстытут быў залічаны В. Баркоўскі, 25 лютага – Зянько і Любецкі. Паводле нашых даных, у лютым 1931 г. у інстытуце працавала не больш за шэсць чалавек. К лютаму – сакавіку 1932 г. у інстытуце працавалі ўжо 18 чалавек, і, такім чынам, колькасны склад установы, бадай, аднавіўся. У канцы чэрвеня 1933 г. Інстытут мовазнаўства складаўся з 15 навуковых супрацоўнікаў. Толькі ў канцы красавіка 1931 г. быў прызначаны дырэктар інстытута (ім стаў П. Бузук). Толькі 19 чэрвеня 1931 г. на пасяджэнні прэзідыума БАН быў зацверджаны план работы інстытута на 1931 год. Пра цяжкасці ў рабоце інстытута дырэктар установы расказаў

19 ліпеня 1931 г. на пасяджэнні акадэмічнага савета БАН. У прыватнасці, ён прызнаў, што «мовазнаўчыя інстытуты БАН і УАН былі галоўнымі фарпостамі-цытадэлямі ў нас нацыянал-дэмакратызму, на Украіне СВУ, і з гэтай прычыны працу іх трэба карэнным чынам перабудоўваць, ачышчаючы іх ад усяго варожага» [ЦНА НАНБ. Арх. № 8. Спр. 49. Л. 73]. На пасяджэнні дзейнасць Інстытута мовазнаўства падлегла вострай крытыцы з боку гісторыка В. Сербенты: «Інстытут мовы рабіў павароты, але ж мы павінны тут адзначыць і ў ім значны прарыў у працы, дзяляцтва, гэтага ў працы Інстытута больш, чымсьці працы над прынцыповымі метадалагічнымі праблемамі» [ЦНА НАНБ. Арх. № 8. Спр. 49. Л. 73]. П. Бузук наракаў на загружанасць нешматлікіх супрацоўнікаў рознымі клопатамі («праца па нацдэмакратызму адабрала значна часу <...> праца над тэрміналогіямі таксама адымае шмат часу») і паведаміў аб тым, што інстытут наладзіў сувязі з Інстытутам мовазнаўства ў Маскве. К часу правядзення пасяджэння нейкі прадстаўнік інстытута ўжо паўдзельнічаў у рабоце мовазнаўчай канферэнцыі ў Маскве, прысвечанай рэформе правапісу. Дырэктар Інстытута мовазнаўства скардзіўся на адсутнасць кваліфікаваных кадраў, яго ў гэтым падтрымалі намеснік Я. Мацюкевіч і гісторык В. Шчарбакоў. (Я. Мацюкевіч лічыў, што сітуацыя магла б быць выратавана шляхам пераводу кваліфікаваных навуковых работнікаў з Расіі і Украіны.) Увогуле, на думку П. Бузука, «мы атрымалі дрэнную спадчыну, гэта пытанне правапісу, але ж і тут справа наладжана, і мы гэтае пытанне скора можам вынесці на абгаварэнне шырокіх пралетарскіх мас» [ЦНА НАНБ. Арх. № 8. Спр. 49. Л. 73].

Людзі, якія ў канцы 1930-га – пачатку 1931 г. прыйшлі працаваць у Інстытут мовазнаўства, трапілі ў складаную сітуацыю. З аднаго боку, яны не маглі (не павінны былі) арыентавацца на падыходы сваіх папярэднікаў, паколькі ў 1930 г. лінгвісты 1920-х гг. ледзь не ў поўным складзе былі залічаны да «нацдэмаў». З другога боку, патрэба ў забеспячэнні грамадства правапісным зводам пасля 1930 г. стала асабліва вострай, бо амаль усе навучальныя дапаможнікі па беларускай мове 1920-х гг. (аўтарам пераважнай большасці іх быў Я. Лёсік) былі выведзены з ужытку. Навучанне беларускай мове ў гэты час у школах, тэхнікумах, ВНУ часта адбывалася пры дапамозе падручных сродкаў, а не на аснове спецыяльных навучальных дапаможнікаў. Прымальнаму выхаду з сітуацыі не спрыяла і тая акалічнасць, што пераважная большасць мовазнаўцаў новага прызыву не мела грунтоўнай лінгвістычнай падрыхтоўкі і магла характарызавацца як «вылучэнцы».

Тым не менш вядома, што к канцу 1931 г. у Інстытуце мовазнаўства нейкі праект рэформы правапісу ў асноўным быў падрыхтаваны. У сваёй сумеснай публікацыі тагачасныя кіраўнікі інстытута П. Бузук, Я. Мацюкевіч і П. Юргелевіч дэкларавалі, што падрыхтаваны ў інстытуце правапіс меў арыентавацца «на вядучыя гаворкі пралетарыяту і калгаснага бядняцка-серадняцкага сялянства, улічваючы, з другога боку, прагрэсіўнасць і геаграфічнае пашырэнне тэй ці іншай моўнай з’явы» [564, с. 88]. Паколь-

кі правапіс звычайна не можа непасрэдна абапірацца на тыя або іншыя тэрытарыяльныя або сацыяльныя гаворкі, выказванне аб такой арыентацыі трэба прызнаць ухілістасцю, змушанай саступкай лінгвістаў тагачаснай ідэалагічнай кан'юнктуры. У канцы 1931 г. кіраўнікі Інстытута мовазнаўства паведамлялі, што падрыхтаваны праект правапісу «ў бліжэйшы час будзе перададзены на абгаварэнне шырокіх колаў пралетарскай грамадскасці» [564, с. 88]. Канчатковым тэрмінам выпрацоўкі праекта было вызначана 15 студзеня 1932 г. [583, с. 20]. Падрыхтоўка ў Інстытуце мовазнаўства праекта правапісу ў 1932 г. пацвярджаецца і іншымі крыніцамі [549, с. 85; 421, с. 113].

У пачатку 1932 г. правапісныя пытанні было вырашана абмяркоўваць з прыцягненнем людзей з неакадэмічных установ. Так, для ўзгаднення сваіх правапісных распрацовак Інстытуту мовазнаўства ў 1932 г. прадпісвалася ўсталяваць і/або падтрымліваць «цесную арганізацыйную і навуковую сувязь» з Мінскай асацыяцыяй пралетарскіх пісьменнікаў, камісіяй па выданні твораў Леніна, ДВБ і НКА. Прадстаўнікі Інстытута мовазнаўства і ДВБ павінны былі не радзей як адзін раз на месяц праводзіць аб'яднаныя нарады «па спрэчных пытаннях мовы і правапісу» [583, с. 17]. У 1932 г. планавалася склікаць «Усебеларускую канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу», для чаго Інстытуту мовазнаўства прадпісвалася звязацца з «усімі пазаакадэмічнымі ўстановамі» ў справе іх удзелу ў будучым форуме [583, с. 17]. У 1932 г. у якасці планавага задання супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства павінны былі падаць у газеты шэраг папулярных артыкулаў аб спрашчэнні правапісу [583, с. 18]. Тым не менш у 1931–1932 гг. у газетах не з'явілася ніводнага артыкула аб правапісе супрацоўнікаў інстытута. Зрэшты, два артыкулы на правапісную тэму апублікаваў у 1931 г. у часопісах В. Баркоўскі (гл. ніжэй). Асобныя правапісныя пытанні былі закрануты ў апублікаваным у сярэдзіне 1931 г. у газеце «Чырвоная змена» артыкуле «Аб лінгвістычнай канцэпцыі праф. Бузука» сталага аўтара газеты С. Вязіна. У артыкуле аўтар згадваў «усім вядомы» факт нелюбові Я. Лёсіка да замежных слоў у беларускай мове з цвёрдым *л* з прычыны таго, што яны прыйшлі з рускай мовы. Затое, згодна з С. Вязіным, Я. Лёсік «паважаў словы з мяккім *ль*, якія ідуць праз польскую мову» [587]. П. Бузук крытыкаваўся ў артыкуле за тое, што ён не змагаўся з «ілжэнавуковай» канцэпцыяй Я. Лёсіка. Паколькі ў першай палове 1931 г. Інстытут мовазнаўства яшчэ не прад'явіў грамадскасці свайго праекта правапісу, адпаведна не было прадмета разгляду, то прэвентыўную крытыку ў гэты час дырэктара інстытута трэба разглядаць як негрунтоўную, ідэалагічную.

Беручы пад увагу негатыўны вопыт сваіх папярэднікаў і не маючы гарантый, што падрыхтаваны правапісны праект будзе сустрэты без палітычных інтэрпрэтацый, кіраўнікі Інстытута мовазнаўства знарок зацягвалі выпрацоўку праекта ў канчатковым выглядзе і яго публікацыю, а таксама ўхіляліся ад асабістых выказванняў аб правапісе, якія ў перспектыве маглі б даць падставы для персанальных абвінавачванняў. Невыпадковай трэба прызнаць

тую акалічнасць, што, як указвалася, новы правапісны праект рыхтаваўся ў інстытуце мовазнаўства не нейкай канкрэтнай групай, а «ўсім складам працаўнікоў» [583, с. 20]. З другога боку, у інстытуце імкнуліся паказаць, што належнае ўрэгуляванне правапісу патрабуе дадатковых даследаванняў. Так, напрыклад, у «Анкеце для збірання матэрыялаў па беларускай мове», апублікаванай П. Бузуком, Я. Мацюкевічам і П. Юргелевічам у 1931 г., было змешчана ўказанне на тое, што адной з мэт яе падрыхтоўкі з'яўляецца «вырашэнне найбольш спрэчных пытанняў правапісу і слоўніка» [563, с. 7].

Хоць у 1931–1932 гг. у газетах не з'явілася ніводнага артыкула аб правапісе супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства, у часопісе «Камуністычнае выхаванне», аднак, двойчы былі апублікаваны артыкулы на арфаграфічныя тэмы супрацоўніка інстытута В. Баркоўскага, які прыехаў у Беларусь з Расіі [545; 547].

У першым артыкуле аўтар, прыхільнік рэформы рускай мовы, абмяркоўваў тагачасную сітуацыю з арфаграфічнай рэформай рускай мовы. Паводле В. Баркоўскага, праблема рэформы тагачаснай рускай арфаграфіі была класавым і палітычным пытаннем, рэформа была патрэбна для хутчэйшай падрыхтоўкі кадраў для індустрыялізацыі краіны. Аўтар пазітыўна ацаніў апублікаваны ў канцы 1930 г. праект рэформы арфаграфіі рускай мовы, згодна з якім з алфавіту рускай мовы скасоўвалася літара ъ, прапаноўваліся напісанні *доч, мыш, реж, стрич; пчолка, чорный, щотка; жырный, ножы, лежыт* і інш.

У другім артыкуле В. Баркоўскі выказаў меркаванні адносна праекта правапісу 1930 г. На думку аўтара, гэты праект не палягчаў бы вывучэння беларускага правапісу. Аўтар дакараў укладальнікаў праекта 1930 г. за частае змяшэнне фанетычнага і этымалагічнага прынцыпаў, сцвярджаючы, што этымалагічны прынцып у правапісе спалучэнняў зычных павінен займаць больш заўважнае месца. В. Баркоўскі лічыў, што ў параўнанні з правапіснай сістэмай, якая дзейнічала ў 1920-я гг., у праекце 1930 г. прапаноўвалася занадта мала зменаў. Пры гэтым ён станоўча ацаніў уведзенае Правапіснай камісіяй правіла наконт непазначэння асіміляцыйнага змякчэння свісцячых перад наступнымі мяккімі зычнымі – у тым ліку таму, што гэтае правіла «ўносіць значнае змяненне ва ўстанавіўшаеся пісьмо» [547, с. 74]. На адрозненне ад укладальнікаў праекта 1930 г., якія рэкамендавалі замежнае *l* у пачатку і ў сярэдзіне слоў перадаваць мякка, а ў канцы слова – «мякка або цвёрда ў залежнасці ад вымаўлення» [551, с. 34], В. Баркоўскі рэкамендаваў паставіць напісанне *л* у залежнасць ад вымаўлення ў цэлым і, такім чынам, верагодна, звузіць выкарыстанне мяккага *л* у замежных словах у пазіцыі пачатку і сярэдзіны слова. Агульны вывад В. Баркоўскага быў наступны: «...уся рэформа звялася да надзвычайна абмежаванай колькасці змяненняў. Праект мы можам назваць толькі ўдакладненай зводкай таго, што мелася раней» [547, с. 78].

Нягледзячы на тое што артыкул В. Баркоўскага быў апублікаваны ў часопісе пад рубрыкай «Ставім на абгаварэнне», ні ён, ні разгляданы ў ім правапісны праект 1930 г. пазней не меў ніякага водгуку ў беларускім друку.

З аднаго боку, у артыкуле В. Баркоўскага было даволі мала канкрэтных «правакацыйных» прапаноў адносна ўвядзення тых або іншых зменаў у правапіс. З другога, у сітуацыі, калі вось-вось меў быць апублікаваным новы праект правапісу, відаць, лічылася немэтазгодным абмяркоўваць праект, падрыхтаваны яшчэ «нацыянал-дэмакратамі».

Складана адназначна сказаць, чаму падрыхтаваны да 15 студзеня 1932 г. у Інстытуце мовазнаўства праект правапісу не быў тады ж апублікаваны. Калі ў чэрвені 1932 г. намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Мацюкевіч надрукаваў артыкул аб праблемах, якімі меў займацца інстытут у другой пяцігодцы, то праблемы правапісу ў ім былі абмінуты [695]; значыць, можна меркаваць, што к гэтаму часу правапісная тэматыка лічылася ў інстытуце завершанай. У 1932 г. супрацоўнікі інстытута многа займаліся грамадскай дзейнасцю. У адной са справаздач (апублікавана 1 мая ў газеце «За пралетарскую навуку») П. Бузук называўся самым кваліфікаваным работнікам «на антырэлігійным фронце» за тое, што ён зрабіў 14 дакладаў на антырэлігійную тэматыку.

Пасля публікацыі ў канцы 1931 г. ліста І. Сталіна «Аб некаторых пытаннях гісторыі...» у 1932 г. адбывалася разгорнутае наступленне ў сферы ідэалогіі. У Беларусі трапілі пад агонь крытыкі ў тым ліку прэзідэнт БАН П. Горын і віцэ-прэзідэнт В. Шчарбакоў (апошні – за ўхіл да «беларускага шавінізму»). XVI з’езд КП(б)Б (студзень 1932 г.) запатрабаваў узмацніць пільнасць да праяў нацыянал-дэмакратызму, заклікаўшы ў сваёй рэзалюцыі да разгортвання выкрывальнай кампаніі. У канцы 1932 г. падставай для чарговай успышкі палітычна-ідэалагічных выкрыванняў сталі кніга К. Кернажыцкага «Да гісторыі аграрнага руху...» і, асабліва, апублікаваная ў часопісе «Бальшавік Беларусі» рэцэнзія на яе У. Гесэна. З нагоды публікацыі гэтай рэцэнзіі П. Горын звярнуўся ў рэдакцыю часопіса «Бальшавік Беларусі» з абвінавачваннямі ў трацкізме на адрас У. Гесэна. З верасня 1932 г. па люты 1933 г. адбылося дзесяць пасяджэнняў рэдкалегіі часопіса, урэшце ў рэцэнзіі У. Гесэна было ідэнтыфікавана «прытупленне класавай пільнасці» [289, с. 150]. Свой уклад у абвастрэнне сітуацыі ўнесла таксама літаратурная нарада ў ЦК КП(б)Б, якая адбылася 25 кастрычніка 1932 г. [289, с. 152–154]. Паварот да больш жорсткага курсу ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў 1932 г. адбываўся на фоне шматлікіх цяжкасцей у правядзенні калектывізацыі і развіцці народнай гаспадаркі. Па стане на 20 чэрвеня 1932 г. у Беларусі распаліся 1002 калгасы, колькасць калектывізаваных гаспадарак зменшылася амаль на 56 тысяч. Узровень калектывізацыі гаспадарак знізіўся з 50,4 % па стане на 1 студзеня 1932 г. да 43,7 % па стане на 20 чэрвеня 1932 г. З мая 1932 г. па май 1933 г. у БССР было экспрапрыіравана і выслана 35 тысяч сялянскіх сем’яў. Праведзеная прымусовымі сродкамі калектывізацыя сведчыла аб «поўнай перамозе вульгарна-матэрыялістычнага мыслення над сялянствам» [325, с. 232, 243, 246].

У 1932 г. «на працягу некалькіх месяцаў запар партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва БССР, цэнтральныя і мясцовыя органы кіравання рэспублікі падвяргалі-

ся рэзкай крытыцы з боку ЦК ВКП(б) і яго цэнтральнага органа газеты “Правда” за зрыў хлебанарыхтовак і ў цэлым за грамадска-палітычнае становішча – яно ўяўлялася саюзнаму цэнтру як паражонае скрытай хваробай нацыяналізму» [289, с. 156]. 18 снежня 1932 г. ЦК ВКП(б) прыняў спецыяльную пастанову «Аб ходзе сельскагаспадарчых нарыхтовак па БССР», у якой вельмі крытычна ацаніў работу ЦК КП(б)Б і СНК БССР. У гэтай пастанове сярод іншага гаварылася аб «перараджэнскіх і буржуазна-нацыяналістычных элементах, якія прыкрываюцца фальшыва-нацыянальным сцягам для барацьбы з партыяй і Савецкай уладай»; сітуацыя ў «прыгранічнай БССР» прызнавалася нецярпімай [289, с. 156; 62, с. 103].

У сувязі са спецыфічнай ідэалагічнай сітуацыяй работа над правапісам у 1932 г. не разглядалася як навуковая *sensu stricto*. 20 кастрычніка 1932 г. нарком асветы А. Платун звярнуўся ў ЦК КП(б)Б з сакрэтным лістом, у якім ён выклаў свае меркаванні адносна будучай правапіснай канферэнцыі. Нарком лічыў, што канферэнцыя павінна была праходзіць ад імя Беларускай акадэміі навук, арганізацыйны камітэт канферэнцыі павінен быў узначальваць прэзідэнт акадэміі П. Горын. Разам з тым, на думку А. Платуна, патрэбна было стварыць палітычную камісію ЦК пад кіраўніцтвам аднаго з сакратароў ЦК, членаў гэтай камісіі трэба было ўключыць у арганізацыйны камітэт канферэнцыі. Колькасны склад дэлегатаў канферэнцыі, згодна з планамі А. Платуна, мог вагацца ў межах 150–170 чалавек; з іх, меркавалася, 40–50 будуць настаўнікамі, 15–20 – навуковымі работнікамі, 15–20 чалавек будуць прадстаўляць розныя ўстановы, 15 – рабочыя, 15 – калгаснікі. У кастрычніку 1932 г. яшчэ дапускаўся ўдзел у меркаванай канферэнцыі замежных вучоных, праўда, «толькі ад Заходняе Беларусі, Польшчы і Чэха-Славакіі па 2–3 чалавекі». А. Платун не ўзяў на сябе адказнасці выказаць заўвагі адносна існуючага праекта правапісу (спасылаючыся на тое, што ён меў толькі першапачатковы экзэмпляр); між тым ён сігналізаваў, што ў першапачатковым экзэмпляры быў «цэлы шэраг мейсц, з якімі згадзіцца ніяк нельга». Час, які заставаўся да склікання канферэнцыі, на думку А. Платуна, трэба было выкарыстаць для абмеркавання правапісу ў друку, а таксама для стварэння брыгады лінгвістаў у Мінску, Магілёве і Гомелі – «дзеля таго, каб яшчэ больш стала, чымся ён прапрацаваны, прапрацаваць, каб настаўнікі-лінгвістыя маглі выступаць на канферэнцыі з сваімі думкамі» [724]. На гэты ліст была накладзена рэзалюцыя: «вызвать Домбаля» (тагачаснага віцэ-прэзідэнта акадэміі), з якім у ЦК КП(б)Б, верагодна, і абмяркоўваліся пытанні, закранутыя ў лісце наркома А. Платуна.

21 кастрычніка і 5 лістапада 1932 г. пытанне аб скліканні ўсебеларускай канферэнцыі па правапісе разглядалася на пасяджэннях бюро ЦК КП(б)Б [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 42. Пратакол № 22; НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 67. Л. 30], аднак дакладна не вядома, якія рашэнні на гэты конт былі прыняты.

6 лістапада 1932 г. супрацоўнік Інстытута мовазнаўства А. Гурло ў сваёй публікацыі пацвердзіў факт канчатковай падрыхтоўкі правапіснага праекта,

гэты праект павінен быў «днямі выйсці з друку». А. Гурло паведамляў таксама аб тым, што канчатковыя рашэнні адносна зменаў у правапісе планавалася прыняць на канферэнцыі, якая мела адбыцца ў канцы 1932 г. [604]. Факт падрыхтоўкі да лістапада 1932 г. у Інстытуце мовазнаўства праекта правапісу пацвярджаецца і ў справаздачы аб рабоце БАН за тры кварталы 1932 г. [567]. Падрыхтоўка ў 1932 г. правапіснага праекта і факт яго існавання ў набраным выглядзе пацвярджаецца і ў адной са справаздач Інстытута мовазнаўства, апублікаванай 24 лютага 1933 г. Магчыма, публікацыя правапіснага праекта нейкі час затрымлівалася ў сувязі з тым, што ён яшчэ не быў адобраны ў НКА. Можна, аднак, меркаваць, што, прынамсі, к сярэдзіне снежня 1932 г. гэта праблема была пераадолена: у іншай інфармацыйнай нататцы, апублікаванай 21 снежня 1932 г., паведамлялася, што праект спрашчэння правапісу «набраны і гэтымі днямі выйдзе з друку» [755]. Тым не менш ні ў канцы 1932-га, ні ў пачатку 1933 г. правапісны праект апублікаваны не быў. Можна думаць, што гэтаму перашкодзіла агульная грамадска-палітычная сітуацыя ў СССР і ў Беларусі, у прыватнасці.

## 5.2. СІТУАЦЫЙНЫЯ, АСЯРОДДЗЕВЫЯ І ІНШЫЯ ФАКТАРЫ ПРАВЯДЗЕННЯ РЭФОРМЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ 1933 г.

У студзені 1933 г. у Маскве адбыўся аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК ВКП(б), з дакладам на ім выступіў І. Сталін. У сваёй прамове генеральны сакратар прадказаў, што «могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і ўскраін». Рэвалюцыйная пільнасць у дакладзе была аб'яўлена «той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер бальшавікам» [742]. У 1933 г. у Савецкім Саюзе працягвалі здзяйсняцца захады, скіраваныя на абмежаванне суверэнітэту саюзных рэспублік.

28 студзеня 1933 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «Аб фактах прасочвання класава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкай літаратуры БССР». У ёй канстатавалася здзяйсненне «адкрыта рэваншысцкіх... нацыянал-дэмакратычных вылазак» у галіне беларускай мастацкай літаратуры, выносілася вымова фракцыі прэзідыума аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў і вылучалася патрабаванне да яе даць «разгорнутую палітычную кваліфікацыю» гэтым фактам. Быў прыняты шэраг захадаў у дачыненні да кіраўнікоў органаў

НКА. Так, быў папярэджаны нарком асветы А. Платун, загадчык Галоўліта Сініцкі быў зняты з работы, загадчыку ДВБ А. Некрашэвічу «за няўважлівыя адносіны да падбору кадраў палітрэдактараў» была вынесена суровая вымова. У адпаведнасці з пастановай была распушчана рэдкалегія часопіса «Беларусь калгасная», былі аб'яўлены вымовы рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», дырэктару Інстытута літаратуры і мастацтва В. Вольскаму і яго намесніку Я. Ліманоўскаму, рэдактару шостага тома Збору твораў Янкі Купалы П. Галавачу [521].

Наяўнасць нацыяналістычнай небяспекі ў Беларусі была пацверджана на саюзным узроўні ў пачатку лютага 1933 г. У газеце «Правда» 3 лютага быў надрукаваны артыкул «Пад фальшыва-нацыянальным сцягам» спецыяльнага карэспандэнта А. Давідзюка, які быў прысвечаны «актывізацыі буржуазных нацыяналістаў у Беларусі, палітычнай сутнасці іх выступленняў». У артыкуле паведамлялася, што падчас святкавання юбілею Янкі Купалы на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» быў апублікаваны контррэвалюцыйны твор пісьменніка С. Баранавых. А. Давідзюк інфармаваў, што ў шосты том Збору твораў Янкі Купалы былі ўключаны некаторыя «яўна нацыяналістычныя» вершы паэта. У артыкуле таксама паддавалася астракізму рэдакцыйная палітыка часопіса «Беларусь калгасная» [609].

У пачатку лютага 1933 г. на IV сесіі ЦВК БССР выступіў з дакладам старшыня СНК БССР М. Галадзед, адзін з раздзелаў яго прамовы быў прысвечаны «класавай барацьбе і рэваншысцкім вылазкам нацдэмакратычных элементаў». М. Галадзед канстатаваў моцную актывізацыю ў Беларусі «класавага ворага» і прыйшоў да высновы, што класавыя ворагі і іх ідэолагі «апраналіся ў нацыянальную вопратку і прыкрываліся фальшыва-нацыянальным сцягам». Паколькі галоўным клопатам улад у гэты час было правядзенне калектывізацыі і забеспячэнне збожжанарыхтовак, у прыватнасці, то ўяўная актывізацыя «класавых ворагаў» непасрэдным чынам звязвалася з выкананнем партыяй гэтых задач: «Нельга аддзяляць рэваншысцкіх спроб з боку нацыяналістычных элементаў ад кулацкага сабатажу збожжазагатовак. Гэта адно і тое ж». Агульная задача партыйных органаў і канкрэтных камуністаў у фармулёўцы старшыні СНК БССР выглядала так: «Падцягнуцца ў максімальнай ступені ў сэнсе завастрэння класавай пільнасці. Даць бязлітасны рашучы адпор рэваншысцкім элементам з лагера беларускага нацыянал-дэмакратызму – гэтым рэшткам гінучага кулацтва» [589].

17–20 лютага 1933 г. у Мінску адбыўся пленум ЦК КП(б)Б і ЦКК КП(б)Б, які быў склікаты з нагоды крытычных ацэнак дзейнасці кіраўніцтва рэспублікі з боку ЦК ВКП(б) у галіне нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі. Пленум адбываўся фактычна ва ўмовах надзвычайнага ідэалагічнага рэжыму. К таму часу ДПУ паведаміла ў ЦК КП(б)Б аб тым, што яго органы выявілі і абясшкодзілі ў сельскай мясцовасці 1500 контррэвалюцыйных груповак. Было ўстаноўлена, нібыта на вясну 1933 г. у Беларусі планавалася ўзброенае паўстанне. На пле-

нуме выступіў сакратар ЦК КП(б)Б В. Жаброўскі, які гаварыў у тым ліку пра ідэалагічныя «прарывы» ў дзейнасці ўстаноў навукі, патрабуючы тэрміновага ачышчэння ад «нацыяналістычнай контррэвалюцыі ўсяго ідэалагічнага фронту» [289, с. 158]. На пленуме В. Жаброўскі жорстка раскрытыкаваў дырэктара Інстытута мовазнаўства П. Бузука за яго выказванне адносна ўкраінізацыі[92]. Пленум зацвердзіў сумесную пастанову бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Рашучы адпор антысавецкім вылазкам на ідэалагічным фронце», прынятую ў непасрэднай сувязі з публікацыяй у газеце «Правда» артыкула А. Давідзюка. Пасля пленума было арыштавана некалькі тысяч сялян, арышты закранулі таксама прадстаўнікоў навуковай інтэлігенцыі [289, с. 162].

25 лютага 1933 г. газета «Правда» апублікавала артыкул «Буржуазныя нацыяналісты арудуюць» настаўніка Г. Сцяпуры з Крупскага раёна [748]. Паводле Р. Платонава, гэты артыкул «стаў свайго роду дэтанатарам для новага выбуху антынацыянальных настрояў, чарговых нападак на Наркамасветы БССР і падначаленыя яму структуры» [289, с. 160]. Артыкул суправаджала рэдакцыйная нататка, у якой канстатавалася, што «ў некаторых партарганізацыях Беларусі не праводзіцца паслядоўна лінія партыі ў барацьбе з ухіламі ў нацыянальным пытанні».

2 сакавіка была прынята пастанова ЦК ВКП(б) аб правядзенні нацыянальнай палітыкі ВКП(б)Б у Беларусі; у гэты ж дзень у «Правде» з'явілася трэцяя прысвечаная Беларусі публікацыя, артыкул «Ачысціць апарат Наркамасветы Беларусі ад класавага ворага» [572]. Героямі артыкула Ф. Вігдаровіча былі нарком асветы А. Платун, адзін з кіраўнікоў Галоўліта БССР Гарбуз, які «пры прамым папусціцельстве тав. Платуна садзейнічаў антыпралетарскім элементам тыпу Нікановіча, Сідарэнкі, Баранавых», «усім вядомы нацыяналдэмакрат» мовазнавец А. Багдановіч і інш.

Гэтыя падзеі лютага – пачатку сакавіка спрычыніліся да вельмі важных зменаў у палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

У пачатку сакавіка бюро ЦК і прэзідыум ЦКК КП(б)Б прынялі рэзалюцыю «Рашучы адпор антысавецкім вылазкам на ідэалагічным фронце». 3 сакавіка ў газетах адначасова была надрукавана таксама раней прынятая пастанова ЦК КП(б)Б «Аб фактах прасочвання...». Акрамя таго, 3 сакавіка ў «Звяздзе» быў надрукаваны калектыўны артыкул «Умацаваць кіраўніцтва Наркамасветы, ачысціць яго апарат ад гнілых лібералаў і класава-варожых элементаў» [611].

Пастанова бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Рашучы адпор антысавецкім вылазкам на ідэалагічным фронце» пацвярджала адсутнасць «з боку

[92] Гнеў В. Жаброўскага выклікала наступнае выказванне: «Мы павінны прызнаць, што і такія вобласці Савецкага Саюзу, як Кубань, ЦЧВ (Цэнтральна-Чарназёмная вобласць. – *С. З.*), ДУК (Далёка-Усходні край. – *С. З.*) і інш., павінны прайсці стадыю свайго росквіту нацыянальнай культуры. І калі зусім нядаўна, можа быць сёння, у эканамічных і палітычных цэнтрах такіх мясцовасцяй вядучай была расійская мова, то гэта не можа служыць аргументам супраць правядзення ў такіх абласцях ленінскай нацыянальнай палітыкі. У бліжэйшай будучыні на Паўночным Каўказе вядучай зробіцца ўкраінская мова» [561].

ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый і асобных камуністаў неабходнай рэвалюцыйнай пільнасці» [621, с. 114]. У пастанове выказвалася шкадаванне з той нагоды, што партыйныя і савецкія арганізацыі БССР «не ўлічылі новай абстаноўкі, новых умоў, новай тактыкі і манеўраў класавага ворага, буржуазных нацыяналістаў». Бюро ЦК і прэзідыум ЦКК КП(б)Б падкрэслілі, што з боку партыйных і савецкіх арганізацый «яшчэ няма выстарчальнага адпору і выкрыцця класава-варожых уплываў», і сцвердзілі неабходнасць «самай упартай, сапраўднай бальшавіцкай барацьбы не толькі кожнай партыйнай і савецкай арганізацыі, але і кожнага камуніста ў паасобку з фактамі праяўлення класава-варожых уплываў». Аддзелу культуры і прапаганды ЦК было прапанавана забяспечыць дакладны і сістэматычны кантроль «над выпускаемай кнігай і журнальнай прадукцыяй, ужываючы і ўкараняючы метад папярэдніх рэдактарскіх палітрэцэнзій», а таксама «практыкаваць тэматычныя нарады палітрэдактуры, асноўнай задачай якіх павінны быць своечасовае выкрыццё класава-варожых вылазак» [621, с. 116–117]. Згодна з гэтай рэзалюцыяй, наркому асветы А. Платуну, яго намесніку М. Бялугу, дырэктару Інстытута філасофіі С. Вальфсону персанальна ўказвалася на дапушчаныя недахопы. Шосты пункт пастановы даваў ацэнку дзейнасці БАН: «...акадэмія навук <...> мае рад буйных ідэалагічных прарываў і сур'ёзных недахопаў у практыцы сваёй работы і кіраўніцтве. У працах раду інстытутаў акадэміі (гісторыі, эканомі[к]і, філасофіі, літаратуры і мовы) былі дапушчаны буйнейшыя ідэалагічныя зрывы: працягванне контррэвалюцыйных трацкісцкіх, бундаўскіх замаскаваных нацдэмаўскіх і праваапартуністычных установак і памылак...» [621, с. 119]. Камуністычнай фракцыі прэзідыума акадэміі прадпісвалася «неадкладна жорстка, па-бальшавіцку раскрытыкаваць тыя прарывы і памылкі, якія мелі месца ў рабоце інстытутаў акадэміі <...> па-бальшавіцку ўзяцца за падбор ідэалагічна вытрыманых, палітычна правераных на рабоце, падрыхтаваных работнікаў, адначасова ачышчаючы акадэмію ад чужых, класава-варожых, нацдэмаўскіх, эсэраўскіх, вялікадзяржаўных, чыноўна-каланізатарскіх і перараджэнскіх элементаў». Асабліва старанна пры гэтым было вырашана праверыць кніжную і часопісную прадукцыю 1931–1933 гг. Ставілася задача «так узмацніць партыйнымі праверанымі кадрамі склад палітрэдактуры, каб узмацніць штодзённы кантроль за прадукцыяй...» [621, с. 120–121].

Прыняцце пастановы бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Рашучы адпор антысавецкім вылазкам...» знаменавала сабой татальнае наступленне камуністычнай партыі ў сферы ідэалогіі. Асаблівае месца ў гэтым разгортванні палітычнага і ідэалагічнага ціску займала атака на навуку. У 1933 г. працягвалася ліквідацыя аўтаноміі ў кіраванні акадэмічнымі інстытутамі, усталёўваўся поўны ідэалагічны кантроль над дзейнасцю БАН. Узмацненне кантролю над навуковай прадукцыяй з боку палітычнай рэдактуры ставіла навукоўцаў у сітуацыю заложнікаў, арыентавала іх на першачарговае задавальненне патрэб палітычнай кан'юнктуры, выключна моцна абцяжарвала штодзённую навуковую практыку.

Прынятыя бюро ЦК і прэзідыумам ЦКК КП(б)Б меры 4 сакавіка былі выкладзены ў лісце ў рэдакцыю «Праўды», які меў загаловак «Аб памылках партыйных і савецкіх арганізацый Беларусі ў нацыянальным пытанні» і быў падпісаны сакратаром ЦК КП(Б)Б М. Гікалам і старшынёй СНК БССР М. Галадзедам. Кіраўнікі Беларусі запэўнілі рэдакцыю газеты «Праўда» ў тым, што ЦК КП(б)Б і Саўнарком «прымуць рашучыя меры, каб у корані знішчыць кулацка-буржуазныя нацыяналістычныя тэндэнцыі» [715]. Здзейсненых захадаў і запэўненняў, аднак, аказалася недастаткова.

У перадавым артыкуле газеты «Праўда» «Вышэй сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!» чарговы раз была звернута ўвага на сітуацыю ў Беларусі. Сцвярджаючы, што многія апошнія матэрыялы газеты недвухсэнсоўна сведчылі аб актывізацыі «мясцовых буржуазна-кулацкіх нацыяналістычных рэштак», газета асаблівую ўвагу звярнула на ліст М. Гікалы і М. Галадзеда. Згодна з перадавым артыкулам, часам ухіл да мясцовага нацыяналізму набываў «на асобных участках і ў асобных раёнах асаблівую надзённасць. У гэтым мы ўпэўніваемся цяпер на прыкладзе той жа Беларусі». Паводле праўдзінскай публікацыі, у апошні час у шэрагу раёнаў Беларусі, Украіны, Сярэдняй Азіі і Казахстана «контррэвалюцыйныя нацыяналістычныя элементы і іх агенты прабавалі скарыстаць усе сродкі, у тым ліку школьныя кафедры, старонкі мясцовых часопісяй, падмосткі нацыянальных тэатраў для арганізацыі контррэвалюцыйнага сабатажу мерапрыемстваў партыі і ўраду». Камуністы Беларусі, Украіны, Сярэдняй Азіі, Казахстана заклікаліся «своечасовым выкрыццём новай тактыкі і падкопаў класавых ворагаў зрываць з іх маску і паказаць масам сапраўднае контррэвалюцыйнае аблічча буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элементаў, ухілістаў і прымірэнцаў да іх» [585]. У перадавым артыкуле «Праўды» актывізацыя нацыяналістычных элементаў напрамую тлумачылася процідзеяннем бягучай партыйнай і ўрадавай палітыцы.

Публікацыя 2–3 сакавіка ў цэнтральным і беларускім друку артыкула Ф. Вігдаровіча, а таксама пастаноў ЦК КП(б)Б «Аб фактах прасочвання...» і бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Рашучы адпор...» паскорылі прыняцце бюро ЦК КП(б)Б рэзалюцыі «Аб рабоце Наркамасветы». У адпаведнасці з ёй, нарком асветы А. Платун, дырэктар Інстытута філасофіі С. Вальфсон і дырэктар ДВБ А. Некрашэвіч здымаліся са сваіх пасад (апошні ў тым ліку за «дапушчэнне выпуску выдавецтвам яўна варожых выданняў»). Бюро ЦК КП(б) Б прапанавала «ўмацаваць» апараты НКА і ДВБ «моцнымі, праверанымі работнікамі», а таксама рэкамендавала ўсім гаркомам і райкомам КП(б)Б абмеркаваць гэтую пастанову на сваіх пасяджэннях і «зрабіць для сябе адпаведныя вывады ў сваёй практычнай рабоце» [520].

На аснове прынятых мер быў падрыхтаваны яшчэ адзін ліст у рэдакцыю газеты «Праўда». У ім кіраўнікі ЦК КП(б)Б і СНК БССР паведамілі, што «для мабілізацыі ўсёй КП(б)Б на барацьбу за асноўныя прынцыпы пралетарскага інтэрнацыяналізму і шырокага абгаварэння ўсіх выяўленых фактаў скажэння

нацыянальнай палітыкі партыі ў БССР» мае быць склікаиы аб'яднаны пленум ЦК КП(б)Б і Мінскага гаркома КП(Б)Б.

11 сакавіка 1933 г. намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Мацюкевіч накіраваў у аддзел культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б дакладную запіску аб стане работы з правапісам, у тым ліку паведаміў, што падрыхтаваны праект правапісу быў здадзены ў друк, набраны, але не надрукаваны. Друкаванне праекта было адкладзена прэзідэнтам акадэміі П. Горыным «да вырашэння гэтага пытання ў ЦК КП(б)Б». Я. Мацюкевіч скардзіўся на тое, што калі паўстала пытанне аб сумеснай рабоце інстытута з такой зацікаўленай установай, як Наркамасветы, то, «баючыся тут нарабіць памылак», камісарыят катэгарычна адмовіўся працаваць сумесна. Я. Мацюкевіч інфармаваў пра тое, што падобныя паводзіны былі ўласцівы і шэрагу адказных работнікаў. Намеснік дырэктара інстытута паведамляў, што да гэтай пары рэформай правапісу змушана займаўся толькі Інстытут мовазнаўства, але, паколькі гэта пытанне было «надзвычайнай палітычнай важнасці», лічыў патрэбным далучэнне іншых інстанцый. Я. Мацюкевіч прапаноўваў стварыць спецыяльную камісію для прагляду праекта, надрукаваць яго, абмеркаваць у розных установах і ў друку, склікаць Усебеларускую канферэнцыю [696].

Аб'яднаны пленум ЦК КП(б)Б і Мінскага гаркома КП(б)Б (адбыўся 12–15 сакавіка 1933 г.) прызнаў, што «беларускія партыйныя, савецкія, прафесіянальныя і камсамольскія арганізацыі не вядуць бальшавіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму і ў радзе выпадкаў патураюць буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям» [734, с. 3–4]. У пастанове гаварылася аб «адсутнасці неабходнай рэвалюцыйнай пільнасці, самазаспакаенні, у асаблівасці з боку навуковых і навучальных партыйных арганізацый і аб няўменні разаблачаць новыя манеўры актывізуючагася класавага ворага». Пленум запатрабаваў ад усіх партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый «штодзённай канкрэтнай і аперацыйнай работы ў правядзенні нацыянальнай палітыкі партыі» [734, с. 9]. У рэзалюцыі акцэнтавалася «неабходнасць рэдакцыям газет разгарнуць барацьбу супроць патурання буржуазна-кулацкім, нацыяналістычным тэндэнцыям у правядзенні нацыянальнай палітыкі партыі ў Беларусі». Пленум даручыў фракцыі прэзідыума Акадэміі навук «асабліва сур'ёзна заняцца ў бліжэйшы час пытаннямі беларускай мовы, забяспечыўшы правільную бальшавіцкую распрацоўку і своечасовы выпуск матэрыялаў па гэтым пытанні, распрацоўку тэрміналогіі, мовы, слоўніка і т. д.» [734, с. 13].

З пункту гледжання ўплыву ідэалагічнай сітуацыі на характар правядзення лінгвістычных дыскусій паказальнай можа лічыцца кампанія ў тагачасным друку, якая разгарнулася вакол апублікаванага ў пісьменніцкім часопісе «Заклік» артыкула П. Глебкі «Праца над словам» [594]. У гэтым артыкуле гаворка ішла пра літаратурную вучобу маладых аўтараў. У сваім артыкуле П. Глебка падкрэсліў патрэбу для літаратара мець добры густ да слова, умець

адчуваць яго эмацыянальную афарбоўку. Спецыяльны пасаж пісьменнік прысвяціў і такой катэгорыі, як чысціня мовы.

Публікацыя П. Глебкі выклікала выбух арганізаванага абурэння. У газетах «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», «Звязда», «Рабочий» былі надрукаваны артыкулы, у якіх публікацыя П. Глебкі кваліфікавалася як памылковая (падрабязней пра артыкул П. Глебкі і кампанію ў сувязі з яго публікацыяй гл. 6.1).

19 сакавіка 1933 г. на пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук было пастаноўлена заслухаць даклад дырэктара Інстытута мовазнаўства Пятра Бузука – «у напрамку выканання дырэктыў партыі і ўраду па выданні слоўнікаў, тэрміналогій, правапісу» [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Архіў № 21. Пратакол № 8]. 29 сакавіка даклад П. Бузука быў заслуханы, але ўдзельнікаў пасяджэння не задаволіў прапанаваны дакладчыкам праект рэзалюцыі па гэтым пытанні. Для падрыхтоўкі новага праекта рэзалюцыі была створана камісія з трох чалавек, якой даручалася падрыхтаваць на наступнае пасяджэнне новы дакумент, у якім належала «падкрэсліць пытанне аб памылках асноўных работнікаў інстытута і распрацаваць мерапрыемствы па пытаннях, высунутых апошнімі рашэннямі партыі ў галіне мовазнаўства».

Паспяховаму зацвярджэнню рэзалюцыі па дакладзе П. Бузука не садзейнічала тая акалічнасць, што якраз 29 сакавіка 1933 г. была апублікавана прамова сакратара па ідэалогіі В. Жаброўскага на пленуме аргкамітэта ССП БССР, у якой ён сцвярджаў, што ў навуковай сферы было «нямала больш ці менш адкрытых, а таксама замаскаваных выпадаў нацыянал-дэмакратычнага парадку супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі <...> Мы ўскрылі рад грубейшых прарываў у рабоце Наркамасветы, ДВБ, ДВС, АН як па лініі нацыянальнай палітыкі, так і ў галіне ідэалагічнай <...> Мы мелі выступленні паасобных работнікаў з патрабаваннямі ўкраінізацыі ўсёй Кубані, значнай часткі Цэнтральна-Чарназёмнай вобласці, Далёка-Усходняга краю і г. д., беларусізацыі значнай часткі Заходняй вобласці, часткі Ленінградскай вобласці і г. д. На гэтай пазіцыі стаіць і дырэктар Інстытута мовы Беларускай акадэміі навук прафесар Бузук...». В. Жаброўскі заклікаў «адкрыць ураганны агонь па буржуазна-кулацкіх і нацыяналістычных элементах» [621, с. 20–28].

Дапрацаваная рэзалюцыя па дакладзе дырэктара Інстытута мовазнаўства была прынята на пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук 9 красавіка 1933 г. У ёй, у прыватнасці, адзначалася, што «мовазнаўчая прадукцыя <...> павінна адпавядаць партыйным установкам, даным на пленумах ЦК КП(б) Б». Пастанова канстатавала, што «паасобнымі працаўнікамі інстытута былі дапушчаны палітычныя памылкі». Інстытуту мовазнаўства на найбліжэйшы час у якасці асноўнага задання даручалася падрыхтоўка да правапіснай канферэнцыі. Адзін з пунктаў пастановы абавязваў дырэкцыю інстытута на працягу месяца «прыняць рашучыя меры па лініі папаўнення штату інстытута новымі супрацоўнікамі, ідэалагічна вытрыманымі і падрыхтаванымі ў галіне марксісцка-ленінскай метадалогіі».

11 красавіка 1933 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б разглядалася пытанне аб падрыхтоўцы Усебеларускай канферэнцыі па правапісе. У пастанову па гэтым пытанні былі ўнесены некалькі пунктаў. Прэзідыуму Акадэміі навук і калегіі Наркамасветы прадпісвалася папярэдне абмеркаваць «усе пытанні правапісу беларускай мовы (у тым ліку арфаграфіі, тэрміналогіі і г. д.)». На іх жа ўскладаўся абавязак прадставіць у камісію ЦК іх сумеснае заключэнне не пазней за 15 мая. Нараду па пытаннях адзінага правапісу беларускай мовы было пастаноўлена правесці ў пачатку чэрвеня, вынікі гэтай нарады мелі быць заслуханымі на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б.

27 красавіка 1933 г. у «Правде» быў надрукаваны артыкул «Так арудавалі буржуазныя нацыяналісты» спецыяльнага карэспандэнта газеты Б. Левіна. У гэтай публікацыі характарызавалася сітуацыя ў Інстытуце мовазнаўства Украінскай акадэміі навук. З аднаго боку, «асноўнае яфрэмаўскае гняздо», Інстытут украінскай навуковай мовы, было знішчана, але ў пераемніку гэтай установы, Інстытуце мовазнаўства, «засталіся птушаняты». Б. Левін прапаноўваў знішчыць «пятлюраўскую інтэлігенцыю»: А. Курылу, прафесара Я. Тымчанку, М. Драй-Хмару, І. Шалудзько, якім, паводле спецыяльнага карэспандэнта газеты, была ўласціва «заалагічная нянавісць да ўсяго, што прыйшло з рускай мовы». Станоўча ўплываць на сітуацыю магла б, на думку Б. Левіна, рэвалюцыйная пільнасць камуністаў, супрацоўнікаў інстытута, аднак яна знаходзілася далёка не на належным узроўні [656].

У другой палове красавіка – першай палове мая 1933 г. у Мінску адбыўся шэраг абмеркаванняў праекта правапісу: на пасяджэнні калегіі Наркамасветы (16 красавіка і 13 мая), на пасяджэнні камуністычнай фракцыі аргкамітэта Саюза пісьменнікаў (4 мая), на пасяджэнні Дзяржаўнага вучонага савета (11 мая), на пасяджэнні Навукова-даследчага інстытута камуністычнага выхавання, на шэрагу пашыраных пасяджэнняў кафедры мовазнаўства Мінскага педагагічнага інстытута, а таксама на курсавых сходах студэнтаў. Пра гэтыя абмеркаванні і пра прынятыя на іх рашэнні можна даведацца з ліста «У камісію па правапісе» за подпісам намесніка наркома асветы Рудніцкага і дырэктара Інстытута мовазнаўства П. Бузука, падрыхтаванага не раней чым 14 мая 1933 г.

У пачатку мая 1933 г. бюро ЦК КП(б)Б зрабіла захады для разгляду новых правіл правапісу беларускай мовы, для чаго 4 мая на пасяджэнні бюро была створана спецыяльная «палітычная камісія па прагляду расійска-беларускага слоўніка і новых правіл правапісу беларускай мовы», у якую ўвайшлі В. Шаранговіч, В. Жаброўскі, А. Чарвякоў, А. Чарнушэвіч, М. Ляўкоў, С. Посэ, Р. Брагінскі, І. Кудзелька. Камісіі прадпісвалася «ўсе ўзнікаючыя пытанні, маючыя прынцыповае значэнне», выносіць на абмеркаванне членаў бюро ЦК і сакратарыята. Камісія мела закончыць сваю работу на працягу месяца, аднак пра вынікі яе працы нічога не вядома. У 1933 г. сакратарыят ЦК КП(б)Б прыняў спецыяльную пастанову «Аб палажэнні кіраўніцтва ЦК, парткомамі, райкомамі

партыі навукова-даследчымі інстытутамі, ВНУ, ВНТУ і тэхнікумамі», згодна з якой аддзел культуры і прапаганды ЦК кантраляваў навукова-даследчую работу. Гэта пастанова замацоўвала жорсткі партыйны нагляд за навуковай дзейнасцю [64, с. 22].

У пачатку мая кіраўніцтва Усесаюзнай, Украінскай і Беларускай акадэмій навук трымала справаздачу аб сваёй рабоце ў ЦВК СССР. Падчас абмеркавання дакладаў кіраўнікоў акадэмій навук у прэзідыуме ЦВК СССР выступілі старшыня ЦВК СССР М. Калінін і сакратар ЦВК РСФСР Кісялёў. Так, сакратар ЦВК РСФСР «на вельмі цікавым матэрыяле паказаў вострую класавую барацьбу, якая вядзецца на ўчастку мовы» [613]. М. Калінін падрабязна асвятліў пытанне аб рабоце акадэмій у галіне мовы, зазначыўшы, што «акадэміі недаацэньваюць адказнасць, што работа ў галіне мовы з'яўляецца найбольш адказнай для акадэмій, у гэтай галіне яны павінны з'яўляцца манапалістамі». Вялікую ўвагу М. Калінін удзяліў артыкулу Б. Левіна, сцвердзіўшы, што акадэміі павінны актыўна змагацца з дробна-буржуазным нацыяналізмам.

Да артыкула Б. Левіна звяртаўся і тагачасны прэзідэнт БАН П. Горын, выступаючы 19 мая 1933 г. на сустрэчы супрацоўнікаў з украінскімі вучонымі. На думку прэзідэнта, артыкул у «Правде» ад 27 красавіка заслугоўваў сур'ёзнай увагі і вымагаў ад супрацоўнікаў акадэміі павышэння класавай пільнасці. «Работа нашых акадэмій павінна даваць узоры інтэрнацыянальнага выхавання мас» [582].

Пасля 9 красавіка 1933 г. пытанні правапісу беларускай мовы наступны раз разглядаліся на пасяджэнні прэзідыума БАН 9 чэрвеня 1933 г. Інстытуту мовазнаўства было прадпісана ўнесці ў праект правапісу ўсе прынятыя камісіяй заўвагі і «тэрмінова здаць правапіс у набор». Інстытут быў абавязаны «10 чэрвеня аддаць артыкул у рэдакцыю газеты "Звязда", дабіўшыся яго змяшчэння перад выхадным днём».

Верагодна, паміж 9 красавіка і 9 чэрвеня падрыхтаваны ў 1932 г. праект быў адхілены і замест яго была падрыхтавана новая рэдакцыя правапісу.

14 чэрвеня 1933 г. газета «Рабочий» паведаміла, што, «рэалізуючы пастановы сакавіцкага пленума ЦК, Інстытут мовазнаўства <...> склаў праект спрошчанага беларускага правапісу». Газета інфармавала таксама, што праект быў абмеркаваны на пасяджэннях калегіі Наркамасветы, на пасяджэнні ДВС, фракцыі аргкамітэта ССП, студэнтамі і навукоўцамі Мінскага педагагічнага інстытута. У нататцы была таксама змешчана інфармацыя пра тое, што «ў найбліжэйшы час» Інстытут мовазнаўства планаваў абмеркаваць свой праект на шырокім сходзе выкладчыкаў Мінска.

3 чэрвеня «ў мэтах дэталёвага папярэдняга разгляду» матэрыялаў Наркамасветы і БАН камісія бюро ЦК вылучыла дзве правапісныя падкамісіі на чале з А. Чарнушэвічам (таксама ўвайшлі П. Панкевіч, Я. Мацюкевіч, П. Бузук, М. Лынькоў, М. Клімковіч) і М. Ляўковым (увайшлі Мікалаеў, Башкевіч, Якуб Колас, В. Вольскі). Калі пра дзейнасць падкамісіі,

узначальванай М. Ляўковым, нічога не вядома, то адносна працы падкамісіі пад старшынствам А. Чарнушэвіча такая інфармацыя ёсць. У апублікаваным пазней «Праекце беларускага правапісу» была зроблена спецыяльная заўвага аб тым, што ён быў разгледжаны на пасяджэнні спецыяльнай правапіснай камісіі пад старшынствам наркома асветы А. Чарнушэвіча [728, с. 10]. У кнізе ў асобным раздзеле (с. 10–12) была надрукавана даволі падрабязная інфармацыя аб пастановах камісіі, якой кіраваў А. Чарнушэвіч.

Напрыклад, камісія адхіліла прапанаванае ў праекце правіла аб выкарыстанні адной літары пры перадачы падоўжаных зычных, якое атрымала вельмі супярэчлівыя ацэнкі на папярэдніх абмеркаваннях і сходах. Камісія далучылася да пастаноў, прынятых у Педагагічным інстытуце і на пасяджэнні калегіі Наркамасветы 13 мая, згодна з якімі было вырашана аддаць перавагу марфалагічнаму прынцыпу пры напісанні прыметнікаў, утвораных ад геаграфічных назваў (адпаведна, пісаць: *рыжскі*, *кіргізскі*, *чэшскі*). Камісія пастанавіла, што літара *к* рэдка ўжываных замежных назваў пры ўтварэнні прыметнікаў з выкарыстаннем суфікса *-ск-* захоўваецца (*узбекскі, маздокскі*). Да правіла правапісу замежных прозвішчаў камісія дадала заўвагу аб тым, што замежнае спалучэнне *Du* па-беларуску мае перадавацца праз *Д'ю* (*Д'юма, Д'юрынг*).

25 чэрвеня 1933 г. на пасяджэнні прэзідыума БАН правапісны праект Інстытута мовазнаўства быў ухвалены. Было таксама вырашана «прдставіць яго як матэрыял на разгляд камісіі бюро ЦК і ўсебеларускай нарады па правапісе».

Выконваючы пастанову прэзідыума БАН ад 9 чэрвеня, 28 чэрвеня Інстытут мовазнаўства апублікаваў свой праект пад загалоўкам «Галоўныя моманты спрашчэння беларускага правапісу» ў газеце «Звязда». У прадмове да артыкула пытанні лінгвістыкі разглядаліся як складовая частка нацыянальнай палітыкі партыі, была зроблена спасылка на пастанову пленума ЦК КП(б)Б, датычную мовазнаўчай прадукцыі, было сцверджана, што ў нядаўні час мовазнаўчыя ўстановы з'яўляліся ў Беларусі і Украіне «цытадэлямі контррэвалюцыйнай дзейнасці».

Справа спрашчэння правапісу была кваліфікавана ў «Галоўных момантах...» як своечасовая, «паколькі раз[на]галосьсі ў правапісе і неўнармаванасьць раду пытаньняў перашкаджаюць нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву, адрываючы літаратурную мову, як зброю клясавай барацьбы, ад шырокіх мас пралетарыяту і працоўнага сялянства». Згодна з аўтарамі прадмовы, спрашчэнне правапісу мела на мэце «адбіць у новых арфаграфічных нормах змены, прынесеныя жыццём, – адбіць вялікія сацыялістычныя зрухі, прынесеныя Кастрычнікам». Спецыяльная ўвага звярталася на даступнасць правапісу «для працоўных мас», на лёгкасць яго засваення, на «паслядоўную прынцыповую вытрыманасць усяго праекта ў цэлым».

У адпаведнасці з дэкларацыяй аўтараў, змешчанай у першай частцы артыкула, у праекце быў захаваны фанетычны прынцып правапісу, вызначаны як асноўны

яшчэ ў граматыцы Б. Тарашкевіча; аднак, падобна да падыходу Б. Тарашкевіча, фанетычны прынцып у праекце не быў праведзены «да крайнасці». Акурат у сувязі з гнуткім падыходам да прымянення фанетычнага прынцыпу правапісу аўтары праекта паведамілі аб тым, што, на ўзор рускай і ўкраінскай практыкі, у праекце адсутнічае вымога перадаваць на пісьме асіміляцыйнае змякчэнне. Увядзенне гэтай навацыі тлумачылася вялікай эканоміяй у паліграфічнай справе, педагагічнай практыкай і узусам, у якім назіраліся адступленні ад паслядоўнай рэалізацыі на пісьме некаторых склонавых формаў назоўнікаў тыпу *камунізм* або *гаспадарства* (пісалі *пры камунізме, у гаспадарстве* замест *пры камунізьме, у гаспадарсьцьве*).

Інстытут захаваў фанетычны прынцып напісання ў дачыненні да правапісу спалучэнняў каранёвых зычных *т, ч* з суфіксальным *с* (*брацтва, брацкі, ткацкі* і г. д.); гэтаму правілу, паводле аўтараў праекта, аднак, не супярэчыла прапанаванае ў праекце захаванне этымалагічнага прынцыпу пры напісанні з суфіксальным *с* каранёвага *д* («сёнешняе напісанне *гарадзкі, грамадзтва*, мэханічна запазычанае з польскай арфаграфіі, з'яўляецца недарэчнасьцю»).

Аўтары артыкула ў газеце «Звязда» паведамілі, што ў праекце будзе рэалізавана нязменнае (праз *е*) напісанне прыназоўніка *без* і адмоўнай часціцы *не*, сцвердзіўшы, што такое правіла будзе «вялікім спрашчэннем».

Зыходзячы з вымогі спрашчэння правапісу, інстытут адмяніў скарачэнне *у* ў пачатку слоў пасля галосных літар («не толькі *лепшым ударнікам*, але і *лепшы ударнік*»). На карысць увядзення такога правіла была прыведзена патрэба ўніфікацыі правапісу пачатковага *у* з правапісам пачатковага *і*, скасавання шэрагу выключэнняў, а таксама педагагічная і паэтычная практыка.

Тыя ж патрабаванні лёгкасці напісання абумовілі, згодна з аўтарамі артыкула «Галоўныя моманты...», скасаванне абазначэння на пісьме падоўжаных зычных праз напісанне падвойных літар. Згодна з новым падыходам, мелі рэалізоўвацца напісанні тыпу *галё, збожа, насене*.

У правапісе слоў іншамоўнага паходжання дэклараваўся курс на «сціраньне межаў паміж беларускімі і іншамоўнымі словамі». У прыватнасці, напісанне слоў *камуна, сацыялізм, калгас, калгаснік* павінна было падлягаць нормам беларускай фанетыкі. Меркаваннямі спрашчэння правапісу былі патлумачаны змены ў напісанні слоў тыпу *сыстэма, фізыка* (новыя прапановы: *сістэма, фізіка*). У раздзеле правапісу замежных слоў не падтрымлівалася «вялікадзяржаўніцкая тэндэнцыя» (напісанні тыпу *лампа, дірэктар* або *дзірэктар*); з другога боку, не прымалася таксама «вульгарызацыя»: *f* мела перадавацца толькі праз *ф*.

«Галоўныя моманты...» прадугледжвалі таксама некаторыя рэгламентацыі ў марфалогіі. Словы тыпу *бары, алюміні* прадпісвалася пісаць з фіналямі *-ый, -ій*, а назоўнікі тыпу *камуніст* – скланяць па назоўнікавай парадыгме. У кантэксце барацьбы «з нацдэмаўскімі тэндэнцыямі адштурхоўвацца ад граматычных формаў, аднолькавых з рускай мовай», у формах давальнага і меснага склонаў

назоўнікаў м. і н. родаў мн. л. прапаноўваліся варыянтныя канчаткі *-ам, -ом, -ах, -ох (братам* і *братом, у гарадох* і *у гарадах)*. З той жа прычыны варыянтныя канчаткі былі рэкамендаваны для формаў дзеясловаў загаднага ладу: *нясіце* і *нясеце, кажыце* і *кажэце*. Паколькі формы дзеепрыметнікаў тыпу *існуючы, існаваўшы, эксплёатуемы* «вельмі прагрэсуюць у літаратурных мовах», іх прапаноўвалася прызнаць нарматыўнымі ў беларускай мове [629].

У адзін дзень з публікацыяй у газеце «Звязда» «Галоўных момантаў...» у газеце «За пралетарскую навуку» быў надрукаваны артыкул Я. Мацюкевіча «Нашы дасягненні і недахопы ў рабоце». У артыкуле сцвярджалася, што дзейнасць Інстытута мовазнаўства мае вялікае значэнне ў справе ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі, і гэта «неаднакраць падкрэслівалася ў пастановах ЦК КП(б)Б аб выданні слоўнікаў, тэрміналогіі, рэформы правапісу і г. д. Работа гэта павінна цалкам і поўнасцю адпавядаць партыйным устаноўкам змагання за пралетарскі інтэрнацыяналізм, змагання за пралетарскую культуру мовы» [696].

Час публікацыі «Галоўных момантаў...» і артыкула Я. Мацюкевіча супаў з вызваленнем з пасады дырэктара Інстытута мовазнаўства П. Бузука.

29 чэрвеня да разгляду праекта правапісу прыступіла камісія бюро ЦК КП(б)Б у складзе М. Галадзеда, Т. Домбаля, В. Шаранговіча, А. Чарнушэвіча, А. Чарвякова і А. Александровіча. Акрамя членаў камісіі на пасяджэнні бюро прысутнічалі таксама М. Лынькоў, П. Бузук, Я. Мацюкевіч, П. Юргелевіч, П. Панкевіч, Башкевіч. Камісія пачала разглядаць правіла за правілам, пакідаючы адны ў існуючай рэдакцыі, другія вяртаючы на дапрацоўку ў Інстытут мовазнаўства, змяняючы трэція. На гэтым пасяджэнні былі разгледжаны першыя 8 правіл праекта [НАРБ. Ф. 4. Воп. 14. Спр. 142. Л. 164].

На пасяджэнні 3 ліпеня камісія зрабіла скачок, абмінуўшы вялікую колькасць правіл раздзела «Фанетыка», а таксама раздзел «Правапіс чужаземных слоў». На гэтым пасяджэнні камісія прыступіла адразу да раздзела «Правапіс уласных іменняў, прозвішчаў і геаграфічных назваў» і «Марфалогія». Так, камісія падтрымала 46-е правіла праекта, аднак прапанавала пасля яго ўвесці правіла аб магчымасці перадаваць беларускія імёны згодна з пажаданнямі іх носьбітаў у такім выглядзе, у якім яно раней было прапанавана камісіяй пад старшынствам А. Чарнушэвіча. Камісія адобрыла 47–54-е правілы праекта, а адносна 56-га правіла таксама пастанавіла падтрымаць яго з улікам ранейшай папраўкі камісіі Чарнушэвіча. (Згодна з ёй назоўнікі жан. р. мн. л. у родн. скл. маглі мець варыянтныя канчаткі *-аў, -яў* і *-эй, -ей: арцеляў – арцелей, сенажацяў – сенажацей*.) Камісія безумоўна падтрымала яшчэ шэраг правіл (57, 58, 60–64, 66–69, 71–74, 76), а да правіл 59, 65, 70, 75 прапанавала змены [НАРБ. Ф. 4. Воп. 14. Спр. 142. Л. 166].

На пасяджэнні 4 ліпеня камісія разглядзела і прыняла з некаторымі ўдакладненнямі правілы 77–84, вярнулася да разгляду 7-га правіла, а таксама прыняла шэраг пастаноў агульнага характару. Згодна з рэдакцыяй камісіі, дзеепрыметнікі

(правіла 77) павінны былі ўводзіцца ў беларускую мову ў тых выпадках, калі яны «адзначаюць сацыяльны сэнс, напрыклад: *пануючы клас* замест *пануючая кляса* або *кляса, якая пануе*. У астатніх выпадках дзеепрыметнік не ўводзіцца» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 14. Спр. 142. Л. 167]. На пасяджэнні 4 ліпеня Інстытуту мовазнаўства было дадзена заданне сфармуляваць правіла 83 такім чынам, каб словазлучэнні *часовы ўрад*, *рада беларускай грамады* павінны былі пісацца з малой літары. Камісія зацвердзіла правапіс слоў *сваечасовы, сваеасаблівы, землеўпарадкаванне* (правіла 7) і пастанавіла пытанне аб перадачы афрыкат [дз] і [дж] «вырашыць асобна». Усебеларускую нараду па спрашчэнні беларускага правапісу пастаноўлена было склікаць 1 жніўня 1933 г. Наркамату асветы і БАН даручалася на працягу трох дзён падаць у камісію дакладную запіску з «дастатковым абгрунтаваннем унесеных зменаў і з разгорнутай крытыкай ранейшых установак у беларускім правапісе» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 14. Спр. 142. Л. 167–168].

Вылучаныя ў «Галоўных момантах...» прапановы неўзабаве былі пацверджаны ў «Праекце спрашчэння беларускага правапісу». Прадмова да «Праекта...» абвяшчала, што «беларуская контррэвалюцыйная нацдэмаўшчына імкнулася адсунуць пралетарыят ад удзелу ў справе стварэння літаратурнай мовы; таму, зразумела, нацдэмы марудзілі са справай вырашэння правапісу. На так званай Акадэмічнай канферэнцыі 1926 году яны імкнуліся даць такі правапіс, які прытупляў бы мову як зброю класавай барацьбы». Аўтары прадмовы выракаліся праекта 1930 г. з прычыны таго, што той быў складзены «пры нацдэмаўскім кіраўніцтве Інстытута мовазнаўства і таму нацдэмаўскія ўстаноўкі выразна адбіваюцца як у самім праекце, так і ў дадданых да праекту заўвагах паасобных членаў камісіі; адбіваюцца гэтыя тэндэнцыі і ў складанасці шмат якіх правіл нацдэмаўскага праекта». Аўтары прадмовы дэкларавалі, што пры ўстанаўленні нормаў правапісу іх праект улічваў «прагрэсіўнасць данай з’явы, ступень яе пашырэння ў рабочых і бядняцка-серадняцкіх дыялектах БССР і Заходняй Беларусі». Аўтары сцвярджалі, што насуперак «нацдэмам», якія «свядома адкідалі ўсе факты беларускай мовы, агульныя з рускай», яны прынялі правіла наконт варыянтнасці канчаткаў дзеясловаў 2-й асобы мн. л. загаднага ладу. Праект пацвярджаў дэклараваны ў «Галоўных момантах...» тэзіс аб падпарадкаванні правапісу замежных слоў правілу акання, аднак паведамляў, што правіла якання на замежныя словы пашырана быць не можа, паколькі «ў большасці выпадкаў у гэтых словах перад даным галосным вымаўляецца цвёрдая зычная (апрача *л*); такім чынам, мы маем у беларускім вымаўленні злучэнні *бэ, пэ, мэ, дэ, тэ* і г. д.» [728, с. 4, 6, 7]. На думку аўтараў прадмовы да праекта, зусім наспелым пытаннем у беларускай графіцы з’яўлялася ўвядзенне асобных літар для абазначэння афрыкат [дз] і [дж] – аднак гэтая дэкларацыя не была ніякім чынам рэалізавана ў асноўнай частцы праекта.

У прадмове паведамлялася, што над сваім праектам Інстытут мовазнаўства працаваў «у поўным складзе сваіх навуковых супрацоўнікаў» з 8 сакавіка 1930 г.

па 26 студзеня 1933 г., аднак абедзве даты трэба лічыць фальсіфікаванымі. З прадмовы пацвярджаецца факт разгляду праекта ў лютым – сакавіку на агульнаакадэмічнай нарадзе, якая «ўнесла шэраг дадаткаў і паправак».

5 ліпеня 1933 г. у газетах «Звязда» і «Рабочий» пад загалоўкам «Асаблівасці класавай барацьбы на цяперашнім этапе сацыялістычнага наступлення» былі надрукаваны фрагменты з прамовы 14 чэрвеня 1933 г. П. Постышава на аб'ядналым пленуме Харкаўскага абкома і аблвыканкома. Постышаў сцвердзіў, што «шкодніцкая работа» ў галіне сельскай гаспадаркі ва Украіне «цесна перапляталася» са шпіёнскай дзейнасцю і «шкодніцкай работай» у галіне культурнага будаўніцтва. П. Постышаў канстатаваў аслабленне ў апошні час бальшавіцкай пільнасці і заклікаў да яе «максімальнага ўзмацнення». У прамове ў якасці прыкладу контррэвалюцыйнага выступлення прыводзілася выступленне нейкага Палонскага ў Прамысловай акадэміі, які крытычна паставіўся да аднаго з артыкулаў аб становішчы «на мовазнаўчым фронце», надрукаванага ва ўкраінскай газеце «Комуніст» [531].

9 ліпеня ў газеце «Звязда» быў надрукаваны артыкул А. Сучковай «Камуніст адказвае за выпуск стабільнага падручніка», які ўяўляў сабой справаздачу са сходу партыйных ячэек НКА, БАН, Саюза працасветы і друкароў [747]. У публікацыі падкрэслівалася нецярпімасць сітуацыі, калі была не выпрацавана новая тэрміналогія беларускай мовы і правапіс. Праблемы, звязаныя з тэрміналогіяй і правапісам, паводле аўтара артыкула, «з'яўляюцца важнейшымі палітычнымі пытаннямі», і займацца гэтым павінны вучоныя-камуністы БАН. Пішучы пра тэрміны падрыхтоўкі правапісу і слоўніка, А. Сучкова спаслалася на снежаньскі (1932 г.) пленум ЦК КП(б)Б, які абавязаў акадэмію «фарсаванымі тэмпамі» выдаць новы правапіс і слоўнік. Паводле сцверджання аўтара артыкула, на сходзе партячэек 8 ліпеня 1933 г. прадстаўнікі Акадэміі навук «нічога не змаглі адказаць сходу, як яны выконваюць важнейшую пастанову ЦК КП(б)Б» [747].

У пачатку жніўня ў «Звяздзе» была апублікавана пастанова прэзідыума ЦВК СССР па дакладах Усесаюзнай, Усеўкраінскай і Беларускай акадэмій навук. У гэтай, прынятай, верагодна, яшчэ ў маі, пастанове двойчы звярталася ўвага на недахопы акадэмій у падрыхтоўцы слоўнікаў, прычым прымяняльна да Усеўкраінскай і Беларускай акадэмій навук гэтыя недахопы былі кваліфікаваны як «скажэнні ленінскай нацыянальнай палітыкі» [719].

15 ліпеня 1933 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б была заслухана інфармацыя М. Галадзеда аб выніках працы ўзначальванай ім правапіснай камісіі. 21 ліпеня 1933 г. на пасяджэнні бюро па прапанове А. Чарнушэвіча было вырашана паслаць праект новага правапісу на разгляд аддзела культуры і прапаганды ЦК ВКП(б).

8 жніўня 1933 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б была заслухана просьба М. Галадзеда аб вызваленні яго ад кіраўніцтва правапіснай камісіяй. Старшынёй камісіі на гэтым пасяджэнні быў прызначаны В. Шаранго-

віч. Адначасова прапановы правапіснай камісіі бюро ЦК КП(б)Б аб унясенні канкрэтных зменаў у правапіс былі прыняты. Савету народных камісараў было даручана на працягу двух дзён падрыхтаваць адпаведны дэкрэт.

У жніўні 1933 г. на нарадзе загадчыкаў райана В. Жаброўскі чарговы раз публічна вельмі крытычна ацаніў навуковую прадукцыю і грамадскую пазіцыю былога дырэктара Інстытута мовазнаўства П. Бузука. Жаброўскі сцвердзіў, што «мы маем рад недапушчальных прарываў <...> на фронце мовы, гісторыі, літаратуры і г. д. Выключную засмечанасць буржуазна-кулацкімі элементамі мы мелі ў Беларускай акадэміі навук. Гэтыя элементы нярэдка ўзначальвалі інстытуты акадэміі, як, напрыклад, прафесар Бузук і г. д. Гэта той самы Бузук, які ў радзе сваіх работ прапаведваў “тэорыю” прымусовай украінізацыі, беларусізацыі Кубані, Заходняй вобласці, часткі Ленінградскай вобласці і г. д. У галіне беларускай мовы мелі месца адкрытыя буржуазна-кулацкія, нацдэмаўскія выступленні. Рад работ арыентаваў на феадальна-клерыкальную беларускую тэрміналогію, стаўка на польскія тэрміны. Вораг агітаваў за раўненне на буржуазную культуру Захаду, адрыў беларускай мовы ад сучасных запатрабаванняў і задач сацыялістычнага будаўніцтва. Тое, што збліжае рабочых, калгаснікаў Савецкай Беларусі з РСФСР, з рускімі рабочымі і калгаснікамі, прабавалі знішчыць, пабудаваць кітайскую сцяну паміж імі» [620].

16 жніўня па абвінавачванні ў шпіянажы быў арыштаваны зусім нядаўна прызначаны дырэктар Інстытута мовазнаўства І. Дварчанін.

26 жніўня 1933 г. бюро ЦК КП(б)Б прыняло пастанову па паведамленні камісіі бюро ЦК аб адзіным правапісе беларускай мовы. На адрас Інстытута мовазнаўства ў гэтай пастанове былі вылучаны палітычныя абвінавачванні за распрацоўку праекта правапісу, які не выкрываў «класава-варожых буржуазных нацыяналістычных установак у беларускай мове». Такія ўстаноўкі былі пералічаны ў пятым пункце пастановы [287, с. 134]. У адной з рэдакцый гэтай пастановы сцвярджалася: «Устанавіць, што камісія ЦК нясе адказнасць за палітычны напрамак выпрацоўкі адзінага беларускага правапісу, а Беларуская акадэмія навук і наркамасветы нясуць поўную фактычную адказнасць за навуковую (таксама і палітычную) распрацоўку гэтага праекта правапісу» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 114. Л. 37].

27 жніўня 1933 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б пастанова СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» была зацверджана. Рэдакцыям цэнтральных газет было прапанавана «мабілізаваць вакол гэтага дэкрэта пралетарскую грамадскасць шляхам змяшчэння ў газетах спецыяльных артыкулаў, перадавіц і г. д.». Пастанову было вырашана надрукаваць «на відным месцы». 28 жніўня 1933 г. газета «Звязда» апублікавала вышэйназваны дэкрэт [519].

# 5.3. ПАСТАНОВА СНК БССР «АБ ЗМЕНАХ І СПРАШЧЭННІ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ» ЯК НАВУКОВЫ І ПАЛІТЫЧНЫ ДЫСКУРС

Арыентаваная на рэфармаванне практычная распрацоўка арфаграфіі ў лінгвістычных даследаваннях займае даволі двухсэнсоўнае становішча. З аднаго боку, арфаграфія – гэта тая сфера мовы, якая больш за ўсё дaступна рацыяналізацыі [237, с. 266], падрыхтоўкай і ўдасканаленнем правапісу звычайна займаюцца лінгвісты і навуковыя ўстановы, зарукай паспяховай рэфарматарскай дзейнасці ў мове часта лічыцца навуковая кваліфікацыя. Гісторыя распрацоўкі арфаграфіі – адна з самых любімых тэм такіх навуковых дысцыплін, як гісторыя літаратурнай мовы і гісторыя мовазнаўства. Усё гэта садзейнічае фарміраванню перакананння ў тым, што выпрацоўка якіх-небудзь арфаграфічных правіл ёсць пэўны від навуковай дзейнасці.

З другога боку, сапраўдныя матывы графіка-арфаграфічных рэформ «ляжаць не ў сферы рацыяналізацыі пісьма, але ў галіне сацыяльнай семіётыкі» [237, с. 266]. У Расіі з пачатку XVIII ст. развіццё рускага пісьма адбывалася не стыхійным чынам, але «ў парадку дзяржаўных рэформаў» [149, с. 160]. Увогуле, не з’яўляецца незвычайнай сітуацыя, калі пра рэформы правапісу гаворыцца ў кантэксце палітычнай барацьбы з ужываннем тэрміналогіі тыпу «задачы, пастаўленыя рэвалюцыяй», «сацыяльная барацьба новага са старым», «сілы прагрэсу», «сілы рэакцыі» і г. д. [107, с. 29, 32; 149, с. 166]. Тая ці іншая арфаграфічная практыка, такім чынам, у нейкай ступені не столькі (або не толькі) ёсць прадукт намаганняў навукоўцаў, але ўяўляе сабой плён звычкі, вынік нейкай грамадскай дамовы, стрымак і процівагаў, што складаюцца на момант рэфармавання. Адпаведна арфаграфічная практыка не вельмі моцна залежыць ад «законаў», што адкрываюцца вучонымі на аб’ектыўнай аснове. Разуменне гэтай акалічнасці, у прыватнасці, абумовіла ў 1901 г. своеасаблівы «капітулянцкі» адказ Аддзялення рускай мовы і славеснасці імператарскай Акадэміі навук міністру ўнутраных спраў Д. С. Сіпягіну адносна неабходнасці для Акадэміі навук заняць пэўную пазіцыю аб прапанаваных міністрам мерах па стабілізацыі рускага правапісу: «мэтазгоднасць новаўвядзенняў, што прапануюцца, можа быць выяўлена т о л ь к і  н а  п р а к т ы ц ы… устанаўленне вартасцей і недахопаў той ці іншай сістэмы (арфаграфічнай. – *С. З.*) магчымае т о л ь к і  з ы х о д з я ч ы  з  п р а к т ы ч н ы х  м е р к а в а н н я ў (разрадка ўсюды наша. – *С. З.*) <…> Пытанне аб пажаданасці ці непажаданасці захавання ў нязмененым выглядзе нашага гістарычнага правапісу не падлягае абмеркаванню навуковай установы, якой з’яўляецца акадэмія…» [383, с. 560–561]. У якасці не зусім навуковай кваліфікаваў у лістападзе 1926 г. практычную работу ў га-

ліне рэфармавання беларускага правапісу прафесар Маскоўскага ўніверсітэта П. А. Растаргуеў, які прыбыў у Мінск на Акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі [731, с. 27–28]. Часам выбухі актыўнасці ў галіне распрацоўкі правапісу маюць мала агульнага з рэальнымі патрэбамі арфаграфічнага ўдасканалення, затое пэўным чынам звязваюцца з важнымі грамадска-палітычнымі падзеямі, як гэта мела месца, напрыклад, у Германіі ў 1941–1944 гг. [63]. Уласна навуковы кампанент у практычнай дзейнасці па ўдасканаленні арфаграфіі мае хутчэй другараднае, падпарадкаванае значэнне, ён можа «адмяняцца» нейкімі выпадковымі фактарамі або падзеямі, затое на першы план у распрацоўшчыкаў правапісу могуць выходзіць культурна-палітычныя арыенціры.

Рэформа беларускай мовы 1933 г., якая часта трактуецца як рэформа яе правапісу, неаднаразова прыцягвала ўвагу айчынных і замежных мовазнаўцаў [746, с. 327–343; 409; 125; 361; 392, с. 133–142; 129; 271; 479; 480; 454], аднак да гэтай пары не атрымала дастатковай дэталёвай і збалансаванай інтэрпрэтацыі.

Рэформа беларускай мовы 1933 г. увасобілася ў прыняцці 26 жніўня дэкрэта СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», апублікаванага 28 жніўня 1933 г. у газеце «Звязда». Адначасова газета надрукавала перадавы артыкул «У барацьбе за пралетарскі інтэрнацыяналізм» [519; 754]. Пазней пастанова была надрукавана асобнай брашурай. Падрыхтаваны з улікам дэкрэта СНК «Правапіс беларускай мовы» ў 1934 г. быў выдадзены беспрэцэдэнтна вялікім тыражом 100 тысяч экзэмпляраў [726].

Структурна пастанова складалася з прэамбулы і пяці раздзелаў («Правапіс галосных», «Правапіс зычных», «Правапіс слоў іншамоўнага паходжання», «Правапіс уласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў», «Марфалогія»)[93].

У прэамбуле гаварылася аб вялікіх поспехах, якіх дасягнула беларуская мова, у цэлым культурнае і гаспадарчае будаўніцтва пасля здзяйснення кастрычніцкай рэвалюцыі. У прыватнасці, сцвярджаўся факт таго, што з раней пагарджанай беларуская мова стала «раўнапраўнай мовай у вялікім Савецкім Саюзе, мовай пераважнага карыстання паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі арганізацыямі БССР». Аднак гэтыя поспехі былі дасягнуты ў барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам і контррэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам. Тры заключныя абзацы прэамбулы трактавалі нацыянал-дэмакратычнае шкодніцтва:

«Беларускі нацыянал-дэмакратызм, выходзячы з сваіх буржуазных, контррэвалюцыйных мэт, праводзіў падрыўную шкодніцкую работу, як на гаспадарчым, так і на культурным фронце, у тым ліку і ў галіне мовы, тэрміналогіі і правапісу. Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар’ер паміж беларускай і рускай мовамі і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі.

[93] З-за недагляду чатыры заключныя пункты пастановы (24–27) не былі выдзелены ў самастойны раздзел і, такім чынам, структурна ўваходзілі ў раздзел «Марфалогія».

Існуючы беларускі правапіс значна засмечан указанымі нацыянал-дэмакратычнымі плынямі і таму падлягае зменам» [519].

СНК БССР пастанавіў унесці ў існуючы правапіс цэлы шэраг зменаў «у мэтах рашучага выгнання з беларускага правапісу нацыянал-дэмакратычных уплываў і скажэнняў, палягчэння шырокім працоўным масам вывучэння беларускай пісьменнасці, аслабанення школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэнні беларускага правапісу, у мэтах далейшага развіцця культуры беларускай мовы і поўнага падпарадкавання беларускага правапісу задачам выхавання працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму» [519].

Першы раздзел уключаў тры правілы: аб напісанні *я* замест *е* толькі ў першым складзе перад націскам, аб нязменным напісанні часціцы *не* і прыназоўніка *без*, аб напісанні прыстаўнога *в* перад пачатковымі націскнымі галоснымі *о* і *у* (за выключэннем геаграфічных назваў).

Раздзел «Правапіс зычных» налічваў пяць правіл. Два першыя правілы раздзела прадпісвалі не выкарыстоўваць мяккі знак для пазначэння асіміляцыйнага змякчэння свісцячых (*свет, снег*), а таксама скасоўвалі мяккі знак пры напісанні падоўжаных мяккіх зычных (*насенне, галлё*). 6-е правіла рэгулявала напісанне суфіксальнага *с* у спалучэннях з каранёвым *д* (*гарадскі, грамадскі*), 7-е – правапіс суфіксальнага *с* у спалучэннях з каранёвымі *г, ж, з, х, ш* у геаграфічных назвах (*Волжскі, Каўказскі, чэшскі*). У 8-м правіле рэгламентавалася пісьмовае пазначэнне раздзельнага вымаўлення зычнага з наступным *j* – праз апостраф або праз мяккі знак, калі гэтым зычным быў *л: аб’ява, з’ява; Ільіч, Васільеў*.

Раздзел «Правапіс слоў іншамоўнага паходжання» складаўся з 8 правіл. 9-е правіла прадпісвала падпарадкаваць правапіс ненаціскнога *о* (але не *е*) у замежных словах правілам беларускай фанетыкі (*прафесар, маналог, тэлеграф*), але рабіла выключэнне з гэтага правіла для «інтэрнацыянальных рэвалюцыйных слоў» (*рэволюцыя, совет, большэвік, комуна, соцыялізм, комунізм, Комінтэрн, пролетарый*). 10-е правіла ўводзіла змену адносна спосабу пазначэння зычных перад *е*: замест ранейшага напісання ў такой пазіцыі *э* прапаноўвалася пісаць *е* (*методыка, педагог, эстафета*; гэта правіла, аднак, не пашыралася на зычныя *д* і *т*). Было пастаноўлена (правіла 11) у замежных словах перадаваць *l (л)* «згодна традыцыйнага, пашыранага ў БССР вымаўлення, г. зн. пераважна цвёрда: метал, бензол, алмаз, вулкан, балкон...». Разам з тым у тых выпадках, калі ў жывой мове назіралася мяккае вымаўленне *л*, прадпісвалася яго таксама пазначаць: *бінокль, аўтамабіль, мараль*. У замежных словах пасля *з, с* было прадпісана (правіла 11) заўсёды пісаць *і* (*сістэма, фізіка*), увесці формы *арыфметыка, арфаграфія* (правіла 12), не выкарыстоўваць *хв* або *п* пры перадачы замежнага *f* (*форма, фунт, торф*; правіла 13), спалучэнні *тр, др* у канцы слоў перадаваць без змен (*метр, літр*; правіла 14). Згодна з 15-м пунктам пастановы словы тыпу *пралетарый, барый, алюміній*, «якія раней пісаліся з канчаткамі *-ы, -і* або зусім без канчаткаў», прадпісвалася пісаць з

фіналямі *-ый, -ій*. Раздзел завяршаў пункт аб скланенні асабовых назоўнікаў *камуніст, сацыяліст, марксіст* па назоўнікавай парадыгме[94].

Агульным падыходам да правапісу ўласных імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў (правіла 17) было прадэклараванае захаванне асаблівасцей мовы-арыгінала, аднак мелі сілу і шэраг правіл беларускай фанетыкі: захаванне зацвярдзелых зычных (*Чэлябінск, Чэрэпавец*), дзекання – цекання (*Дзержынскі, Владзівасток*; аднак у дачыненні да *т* гэтае правіла ў пазіцыі пачатку слова не дзейнічала: *Терахаў*), пераход *в* у *ў* на канцы складоў – аднак не ў пазіцыі пачатку слова (*Молатаў, Кіеў, Каўказ,* але: *Владзікаўказ*). Беларускія імёны павінны былі пісацца паводле жадання іх носьбітаў: *Васіль* або *Базыль*, *Іван* або *Янка*.

Уласна марфалагічная частка пастановы налічвала 6 пунктаў. Згодна з правілам 18 назоўнікі мужч. р. у родн. скл. адз. л. павінны былі пісацца «пераважна зканчаткамі *-а, -я*: *завода, цэха, трактара, інстытута, сацыялізма, універсітэта, правапіса*, але: *жалю, болю, гаю, лесу, краю, цэменту*». 19-е правіла «выключала» паралельныя формы *-ом, -ох* назоўнікаў мужч. і н. родаў у дав. і месн. скл. мн. л. і, такім чынам, прадпісвала ўжыванне канчаткаў *-ам, -ах*: *кіраўнікам, аб кіраўніках*. 20-е правіла ўводзіла ўніфікацыю ўскосных склонаў лічэбнікаў *два, дзве, абодва, абедзве* для ўсіх трох родаў. Выключаліся паралельныя з націскам на апошнім складзе формы дзеясловаў на *-яце* I спр. цяп. часу 2-й асобы мн. л. (устанаўліваліся адзіна магчымыя напісанні *ідзеце, вядзеце, нясеце*). 22-е правіла нармавала формы загаднага ладу дзеясловаў мн. л. («пісаць толькі: *станьма, кіньма, станьце, кіньце, бярыце, нясіце*»), а ў адпаведнасці з 23-м правілам у беларускі правапіс (sic!) уводзіліся дзеепрыметнікі незал. ст. – «асабліва, калі яны азначаюць сацыяльны сэнс, напрыклад: *пануючы клас*, а не *пануючая кляса* ці *кляса, якая пануе*».

У заключнай частцы дэкрэта Наркамасветы і прэзідыуму БАН даручалася «тэрмінова ўпарадкаваць правілы правапісу на падставе гэтай пастановы» (пункт 24). Пераход на новы правапіс павінен быў адбыцца з 15 верасня 1933 г. (пункт 25). Наркамасветы даручалася забяспечыць перавод работы школ і культурна-асветных устаноў на новы правапіс (пункт 26). Наркамасветы і прэзідыуму БАН даручалася арганізаваць «сістэматычную навуковую работу па далейшым развіцці і ўпарадкаванні беларускага правапісу, усёй граматыкі і тэрміналогіі, таксама арганізаваць новае выданне беларуска-рускіх слоўнікаў, вытраўляючы з беларускай мовы ўсялякія буржуазна-нацыяналістычныя плыні і скажэнні» (пункт 27).

Пастанова СНК аб правапісе з’явілася адным з захадаў у тагачаснай ідэалагічна-палітычнай барацьбе. Аб такім характары дэкрэта сведчыць і непасрэдная перадгісторыя яго прыняцця. Уключанасць праблемы

[94] Насуперак факту змяшчэння ў раздзеле «Правапіс слоў іншамоўнага паходжання» 15-ты і 16-ты пункты пастановы хутчэй трактавалі марфалагічныя пытанні. Як марфалагічныя яны былі дадзены пры пераказе галоўных момантаў спрашчэння правапісу ў чэрвеньскай публікацыі Інстытута мовазнаўства [629].

арфаграфічнага рэфармавання ў выкананне тагачасных ідэалагічна-палітычных задач, у здзяйсненне своеасаблівай сацыяльнай рэформы практычна не пакідала беларускім лінгвістам магчымасці праводзіць моўнае рэфармаванне на «строга навуковай» аснове. «Шкодніцкая» работа ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, неабходнасць вытраўляць з беларускай мовы буржуазна-нацыяналістычныя плыні і скажэнні, а таксама падпарадкаванне правапісу задачам выхавання працоўных мас у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму ўспаміналіся ў прэамбуле і ў заключным пункце пастановы невыпадкова.

Пункты, якія сімвалізавалі разрыў з папярэднімі «нацыянал-дэмакратычнымі» ўстаноўкамі і/або практыкай, а таксама ўказвалі на класавы характар мовы, змяшчаліся не толькі ў агульных пунктах прэамбулы і заключнай часткі пастановы СНК. Яны прысутнічалі і ў самой «плоці» рэформы, у тэксце дэкрэта, бо нармалізатары павінны былі рэагаваць на палітычныя выклікі свайго часу.

Так, на разрыў (часам яўны і катэгарычны) з ранейшымі падыходамі, адлюстраванымі ў прадпісаннях лінгвістаў і/або (поўнасцю або часткова) у папярэдняй моўнай практыцы і агульна ахарактарызаванымі ў дэкрэце як «нацыянал-дэмакратычныя», указвалі наступныя «ўласна моўныя» пункты пастановы:

- 6-е правіла аб рэгуляванні правапісу суфіксальнага *с* у спалучэннях з каранёвым *д* (*гарадскі, грамадскі* замест *гарадзкі, грамадзкі*). У 1920-я гг. дадзеная арфаграма не прыцягвала значнай увагі беларускіх кадыфікатараў, яна не абмяркоўвалася на Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г. У метадычных публікацыях 1927–1928-х гг. яна згадвалася толькі аднойчы: у якасці адной з частых памылак З. Сцяпура прыводзіў *гарацкія* замест *гарадзкія* (гл. 3.3.9). У праекце правапісу 1930 г. была захавана арфаграма *дз*, аднак у заўвагах да праекта члены Правапіснай камісіі Інбелкульта Я. Лёсік, Якуб Колас і В. Ластоўскі выказваліся за напісанне *дс*, а У. Чаржынскі – за *ц* (*гарацкі, люцкі*) [551, с. 53, 56, 57]. На афіцыйным узроўні, г. зн. у якасці салідарнай думкі навуковай установы, прапанова аб рэфармаванні названай арфаграмы з'явілася толькі ў канцы чэрвеня 1933 г. у «Галоўных момантах спрашчэння беларускага правапісу»;
- 7-е – правапіс суфіксальнага *с* у спалучэннях з каранёвымі *г, ж, з, х, ш* у геаграфічных назвах (*Волжскі, Каўказскі, чэшскі* замест *Волскі, Каўкаскі, чэскі*). Гэта арфаграма не абмяркоўвалася на Акадэмічнай канферэнцыі і не згадвалася ў метадычных публікацыях часопіса «Асвета». Думка аб неабходнасці прымяняць у дадзеным выпадку марфалагічны прынцып была, аднак, адлюстравана ў прыватных заўвагах да праекта 1930 г. Я. Лёсіка, Якуба Коласа і В. Ластоўскага [551, с. 53, 56]. Тым не менш яшчэ ў асноўным тэксце праекта 1933 г. захоўваліся традыцыйныя напісанні тыпу *Волскі, чэскі, кіргіскі* [728, с. 20];
- 10-е правіла аб змякчэнні зычных перад *е* ў замежных словах (*методыка, педагог, эстафета* замест *мэтодыка, пэдагог, эстафэта*). Прапанова

змякчаць зычныя ў запазычаннях перад *е* ў 1920-я гг. з той ці іншай ступенню катэгарычнасці вылучалася некалькі разоў [745; 634; 635; 578; 596], аднак гэтая арфаграма не абмяркоўвалася на Акадэмічнай канферэнцыі і толькі аднойчы была ўпамянута ў метадычных публікацыях 1927–1928-х гг. Ніхто з членаў Правапіснай камісіі Інбелкульта 1927–1929-х гг. не прапаноўваў адпаведнай змены, і яшчэ ў «Праекце спрашчэння беларускага правапісу» сярэдзіны 1933 г. дадзенае правіла захоўвала ранейшы выгляд [728, с. 21];

• 11-е правіла аб пераважна цвёрдай перадачы *л* (*бланк, план, пракламацыя* замест *блянк, плян, праклямацыя*) і, наадварот, мяккай перадачы *з, с* (*сістэма, фізіка* замест *сыстэма, фізыка*) у замежных словах. І гэтыя арфаграмы ў 1920-я гг. не прыцягвалі вялікай увагі беларускіх кадыфікатараў, яны не дыскутаваліся на Акадэмічнай канферэнцыі і не згадваліся ў метадычных публікацыях у якасці «слабых» пунктаў беларускай арфаграфіі. Аднак крытыку адносна напісанняў тыпу *блянк, плян, праклямацыя* выказвалі Я. Карскі і І. Воўк-Левановіч (гл. 3.3.2, 3.3.4). У артыкуле 1931 г. С. Вязіна ў канстатуючым плане згадвалася непрыхільнасць Я. Лёсіка да тых запазычаных праз рускую мову слоў, якія мелі *л* цвёрдае [587]. Тым не менш яшчэ ў «Галоўных момантах спрашчэння» (чэрвень 1933 г.) напісанне тыпу *лампа* характарызавалася як «вялікадзяржаўніцкае» [629]. І ў «Праекце спрашчэння беларускага правапісу» 1933 г. [728, с. 21, 23] прадугледжвалася напісанне *л* мяккага. Падобным чынам замацаванае ў 11-м пункце рэформы напісанне мяккіх *с* і *з* у запазычаннях у якасці альтэрнатывы традыцыйнаму напісанню з'явілася даволі позна;

• 12-ты пункт аб перадачы замежнага *th* праз *т* (*арыфметыка, арфаграфія* замест *арытмэтыка, артаграфія*);

• 14-е правіла аб перадачы фіналяў *тр, др* (*метр, літр* замест ужывальных, прынамсі, рэкамендаваных раней *мэтар, літар*);

• 15-ты пункт аб форме назоўнікаў *пролетарый, барый, алюміній*. У тэксце пастановы СНК згадвалася практыка ранейшых гадоў: напісанні з фіналямі *-ы, -і* або напісанні ўвогуле без фіналяў. У адпаведнасці з «Праектам спрашчэння беларускага правапісу» сярэдзіны 1933 г. формы тыпу *пралетар* яшчэ дапускаліся як варыянтныя;

• 17-е правіла аб непадпарадкаванні правілу акання прымяняльна да правапісу *е* рускіх антрапонімаў і тапонімаў[95] (*Чэрнышэўскі*) і нядзеянне цекання ў пазіцыі пачатку слова (*Терахаў*). Пра магчымасць такіх арфаграм у 1928 г. пісаў Л. Цвяткоў [766, гл. 3.3.7], ва узусе нярэдка прозвішчы рускіх дзеячаў правапісна вылучаліся з астатніх, аднак у праекце 1930 г. рускія прозвішчы тыпу *Челкашов, Тихонов* прапаноўвалася пісаць як *Чалкашоў, Ціханаў* [551, с. 38];

• 18-ты пункт дэкрэта, які радыкальна, да незразумелых межаў пашыраў ужыванне у родн. скл. адз. л. мужч. р. формаў з канчаткамі *-а, -я*. Такія формы

[95] А. І. Падлужны заўважаў, што ў дачыненні да ўсталявання прынцыпаў правапісу ўласных імёнаў і геаграфічных назваў нярэдка маюць сілу «суб'ектыўныя пажаданні людзей, якія грунтуюцца не толькі на іх нацыянальных, эстэтычных густах, але часта і на палітычных поглядах» [267, с. 3].

павінны былі ўжывацца «пераважна»: «*завода, цэха, трактара, інстытута, сацыялізма, універсітэта, правапіса*, але: *жалю, болю, гаю, лесу, краю*» [519]. Ва ўсіх падрыхтаваных у 1920-я гг. дапаможніках выкарыстанне канчаткаў *-а, -я* абмяжоўвалася – напрыклад, назоўнікамі, якія абазначалі «жывыя» або «вобразныя» прадметы, а таксама назвы месяцаў [676, с. 60], або назоўнікамі, якія абазначалі «жывыя» прадметы, «нежывыя» (але непадзельныя) прадметы, а таксама назвы частак цела, месяцаў, мер, грошай [551, с. 26].

• 19-е правіла аб адмене формаў на *-ом, -ох* назоўнікаў мужч. і н. родаў у дав. і месн. скл. мн. л. (*кіраўнікам, аб кіраўніках* замест *кіраўніком, аб кіраўнікох*). Дадзеныя формы без ніякіх ускладненняў функцыянавалі ў беларускай мове аж да рэформы 1933 г. У 1926 г. П. Бузук пісаў пра іх як пра «з’явы, якія зрабіліся цяпер характэрнымі рысамі беларускай літаратурнай мовы» [557, с. 135], у 1931 г. П. Глебка крытыкаваў М. Лужаніна за ўжыванне спалучэння *на нажах* [593, с. 140]. Украінскі мовазнавец Л. А. Булахоўскі ў адной са сваіх прац зазначаў, што канчатак *-ам* у беларускай мове мае дыялектны характар [566, с. 232]. Націскныя канчаткі *-ам, -ах* упершыню былі прапанаваны ў якасці варыянтных у «Галоўных момантах спрашчэння беларускага правапісу»;

• 20-е правіла аб уніфікацыі ўскосных склонаў лічэбнікаў *два, дзве, абодва, абедзве*. Падобная практыка ніколі не прапаноўвалася нікім з беларускіх мовазнаўцаў;

• 21-шы пункт аб непрымальнасці нарматыўных у сучаснай граматыцы формаў дзеясловаў I спр. цяп. часу 2-й асобы мн. л. з націскам на апошнім складзе тыпу *ідзяцé, ведзяцé*. Прапанова аб рэфармаванні гэтага правіла ўзнікла на самай апошняй стадыі. Яшчэ ў праекце 1933 г. формы тыпу *ідзяцé, ведзяцé* былі нарматыўнымі, пры гэтым таксама дапускаліся паралельныя формы тыпу *ідзяцё, ведзяцё* [728, с. 41];

• 22-е правіла аб канчатках дзеясловаў загаднага ладу (*бярыце, нясіце* замест *бярэце, нясеце*). У 1930 г. формы тыпу *бярэце, нясеце* былі адзіна магчымымі, а ў праекце 1933 г. дапускаліся ў якасці варыянтных;

• 23-е правіла аб увядзенні ў беларускі правапіс (sic!) дзеепрыметнікаў незал. ст. – «асабліва, калі яны азначаюць сацыяльны сэнс, напрыклад: *пануючы клас*, а не *пануючая кляса* ці *кляса, якая пануе*». З невялікімі выключэннямі [559, с. 66; 562, с. 113; 746, с. 158] у асяроддзі беларускіх лінгвістаў (прычым і ў XIX стагоддзі) пераважала думка аб абмежаваным ужыванні такіх дзеепрыметнікаў у беларускай мове [382, с. 184; 776, с. 67; 677, с. 143–144; 581, с. 48; 682, с. 120–122; 769]. На афіцыйным узроўні прапанова была ўпершыню вылучана ў чэрвені 1933 г. у «Галоўных момантах спрашчэння...».

Акрамя таго, на разрыў з практыкай 1920-х гг. паказвалі таксама пункты 1, 2, 4, 5, 9 і 16 пастановы.

«Грамадская дамова» адносна правапісу, якая існавала ў 1920-я гг. і спецыяльна агаворвалася[96], прыняццем дэкрэта СНК была парушана. Паста-

[96] На неабходнасць узгадняць свае дзеянні, напрыклад, з заходнебеларускімі лінгвістамі на Акадэмічнай канферэнцыі ўказваў старшыня аддзялення мовы і літаратуры Інбелкульта С. Некрашэвіч [731, с. 50; 711, с. 9].

нова ўрада была прынята ў тым ліку «для навучання нацдэмам» (лінгвістам 1920-х гг.) у парушэнне ўсталяванай практыкі.

Наступныя пункты дэкрэта мелі падкрэсліваць класавы характар мовы:

• 9-е правіла аб аканні ў запазычаных словах: «Інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя словы не падпарадкоўваць агульнаму правілу аб аканні». Ідэя асаблівым спосабам пазначаць напісанне «інтэрнацыянальных рэвалюцыйных» слоў з'явілася ўпершыню ў тэксце дэкрэта, яшчэ ў «Праекце спрашчэння беларускага правапісу» 1933 г. падобныя словы ніякім спецыфічным чынам не выдзяляліся [728, с. 20]. Як заўважыў нямецкі славіст Р. Марці, падобнае вылучэнне нагадвае старыя яўрэйскія і хрысціянскія традыцыі, у рамках якіх г. зв. *nomina sacra* пісаліся спецыяльным чынам: без вакалізацыі ў яўрэйскіх і пад цітлам у хрысціянскіх рукапісах [234, с. 137]. Класавы момант пры фармулёўцы гэтага правіла аказаўся настолькі істотным, што прыватная заўвага аб непадпарадкаванні рэвалюцыйных слоў (тагачасных *nomina sacra*) правілу акання аказалася на першым месцы, у той час як само правіла было прыведзена ўслед за гэтай заўвагай;

• 23-е правіла аб увядзенні ў беларускую мову дзеепрыметнікаў незал. ст., у якім уводзілася адрозненне дзеепрыметнікаў, якія азначалі «сацыяльны сэнс».

Разам з тым трэба канстатаваць, што падчас прыняцця рэформы ў беларускай мове былі прыняты некаторыя правілы, якія неаднаразова прапаноўваліся лінгвістамі 1920-х гг. Да ліку такіх правіл трэба залічыць пункты 1, 2, 4, 5, 9 пастановы.

Асаблівасцю беларускага моўнага рэфармавання 1933 г. была скіраваная супраць лінгвістаў рыторыка, якая нязменна суправаджала дзеянні праваднікоў рэформы. З канца 1930 г. у друку шырока папулярызавалася думка аб тым, што шкодніцтва «нацыянал-дэмакратаў» з асаблівай сілай праявілася ў беларускім мовазнаўстве. У прынятай у пачатку сакавіка 1933 г. пастанове бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Рашучы адпор антысавецкім вылазкам на ідэалагічным фронце» ўказвалася, што ў рабоце шэрагу інстытутаў Беларускай акадэміі навук (у тым ліку ў Інстытуце мовазнаўства) «былі дапушчаны буйнейшыя ідэалагічныя зрывы: працягванне контррэвалюцыйных трацкісцкіх, бундаўскіх, замаскаваных нацдэмаўскіх і праваапартуністычных установак і памылак». Пытанні мовазнаўства ў адпаведнасці з палітычнымі патрабаваннямі свайго часу трактаваліся ў калектыўным артыкуле «Умацаваць кіраўніцтва Наркамасветы...», у пастанове аб'яднанага пленума ЦК КП(б)Б і Мінскага гаркома КП(б)Б і да т. п. У 1933 г. дырэктар Інстытута мовазнаўства БАН быў неаднаразова падвергнуты публічнай крытыцы з боку сакратара ЦК КП(б)Б В. Жаброўскага, у ліпені 1933 г. П. Бузук быў зняты з гэтай пасады. Толькі паўтара месяца працаваў дырэктарам інстытута наступнік П. Бузука І. Дварчанін – 16 жніўня ён быў арыштаваны па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць замежных разведак.

У передавым артыкуле «У барацьбе за пралетарскі інтэрнацыяналізм», надрукаваным у газеце «Звязда» ў адным нумары з пастановай СНК, гаварылася пра тое, што «шкоднiцтва беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму закранула ў тым ліку і такі ўчастак, як мова, тэрміналогія і правапіс <...> Контррэвалюцыйныя беларускія нацдэмы, засеўшыя ў АН і ў органах НКА, пад шыльдай розных акадэмічных спрэчак актыўна праводзілі сваю контррэвалюцыйную дзейнасць». У передавым артыкуле сцвярджалася, што ЦК КП(б)Б «з усёй бальшавіцкай непрымірымасцю ўскрыў цэлы рад фактаў контррэвалюцыйнай дзейнасці» [754].

Ідэалагічны складнік пастановы СНК добра відаць і на прыкладзе падзей, якія адбыліся пасля яе прыняцця.

1 верасня 1933 г. з нагоды прынятага дэкрэта газеты «Звязда» і «Рабочий» надрукавалі інтэрв'ю з першым віцэ-прэзідэнтам БАН і адначасова членам ЦК КП(б)Б Т. Домбалем. Акрамя выказванняў, якія непасрэдна суадносяцца з тэкстам пастановы СНК (аб «нацдэмах», якія ўводзілі ў беларускую мову сярэдневяковыя словы, аб стварэнні штучнага бар'ера паміж беларускай і рускай мовамі, аб правядзенні рэформы з мэтай выключэння («выгнання») з правапісу нацыянал-дэмакратычных скажэнняў і інш.), у гутарцы Т. Домбаля прысутнічалі таксама меркаванні, абумоўленыя ягонай абазнанасцю ў гэтым пытанні як высокапастаўленага функцыянера акадэміі і чалавека, які яшчэ ў 1924 г. выказваўся пра рэфармаванне польскага правапісу [773]. У Мінску ў 1932 г. былі здзейснены спробы рэфармаваць польскі правапіс, але распрацаваныя спецыяльнай камісіяй прынцыпы не былі зацверджаны [301, с. 66][97].

У сваёй гутарцы Т. Домбаль сцвердзіў, што нацыянал-дэмакраты стваралі новыя словы на прынцыпах пурызму, адрывалі беларускую мову ад «гаворак пралетарыяту і сялянства», не прапускалі ў беларускую мову саветызмы, займаліся «грубай паланізацыяй» беларускай мовы. Паводле віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук, пры распрацоўцы пытанняў рэформы беларускага правапісу былі таксама ўлічаны і працэсы скрыжавання моў [717].

Публікацыя гутаркі, аднак, выклікала незадаволенасць у ЦК КП(б)Б з прычыны таго, што ў ёй не згадвалася камісія бюро ЦК КП(б)Б на чале з М. Галадзедам, а Інстытут мовазнаўства ўспамінаўся ў станоўча-нейтральным кантэксце. Такое ўпамінанне лічылася непрымальным у святле агульнай ацэнкі работы інстытута ў 1933 г. Т. Домбаль, адказны кіраўнік БелТА Усталы і супрацоўнік газеты «Звязда» А. Джэлюк 2 верасня 1933 г. змушаны былі даваць спецыяльныя тлумачэнні на гэты конт. Т. Домбаль паведаміў, што ў першапачатковым, падрыхтаваным Я. Мацюкевічам накідзе інтэрв'ю было ўказанне на камісію бюро ЦК КП(б)Б з пералікам усіх яе членаў. Аднак пазней, кіруючыся меркаваннямі палітычнай мэтазгоднасці, ён вырашыў апусціць гэты фрагмент («не трэба адкрываць класавым ворагам магчымасць атакі супраць кіруючых таварышаў, а я ўпэўнены, што ў найбліжэйшыя дні польскі фашысцкі і бела-

[97] Пра спробы рэфармаваць у БССР польскі правапіс падрабязней гл.: [211].

рускі нацыянал-фашысцкі друк пачнуць шалёную атаку, спрабуючы дыскрэдытаваць усе асновы новага беларускага правапісу»). Што да акадэміі, то, паводле віцэ-прэзідэнта, у інтэрв'ю было «неабходна і палітычна мэтазгодна» падкрэсліць яе рост, «ачышчанай нашай партыяй ад нацдэмаў, упамянуўшы аб яе развіцці пры новым кіраўніцтве на чале з т. Горыным <…> Гаворачы аб рабоце Інстытута мовы, я не змог у гэтым інтэрв'ю ўскрываць яго ўнутраныя недахопы, якія неаднаразова адзначаліся на прэзідыуме БелАН, у далейшым мы імкнемся ўмацаваць яго палітычна». На той выпадак, лічыў Т. Домбаль, калі б бюро ЦК КП(б)Б прызнала яго інтэрв'ю памылковым, гэта можна было б лёгка выправіць шляхам публікацыі іншых артыкулаў [НАРБ. Ф. 4. Воп. 14. Спр. 142. Л. 180–182].

3 верасня пытанне аб інтэрв'ю Т. Домбаля разглядалася на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б. Было пастаноўлена, што Т. Домбаль «няправільна» даў інтэрв'ю без узгаднення з ЦК КП(б)Б. «Няправільнымі і недапушчальнымі» былі прызнаны таксама дзеянні рэдактараў газет «Звязда» і «Рабочий», якія, нягледзячы на вялікую палітычную важнасць пытання, надрукавалі інтэрв'ю Т. Домбаля без узгаднення з ЦК КП(б)Б. З прычыны таго, што ў інтэрв'ю, паводле пастановы бюро ЦК КП(б)Б, пытанне аб рабоце акадэміі, асабліва Інстытута мовазнаўства, «не было пастаўлена самакрытычна», не былі адзначаны «тыя палітычныя прарывы, якія былі ў рабоце гэтага інстытута на працягу доўгага часу, чым зніжана палітычнае значэнне дэкрэта СНК па правапісе», старшыні СНК М. Галадзеду было даручана падрыхтаваць дадатковае, «палітычнае разгорнутае» інтэрв'ю па гэтым пытанні. Акрамя таго, М. Галадзеду, А. Чарвякову, В. Шаранговічу і В. Жаброўскаму даручалася правесці шэраг гутарак з настаўнікамі і пісьменнікамі аб значэнні спрашчэння правапісу з наступнай публікацыяй адпаведных матэрыялаў. Наркому асветы А. Чарнушэвічу і Т. Домбалю было даручана падаць у газеты артыкулы, у якіх мелі быць асветлены ход увядзення ў школах дэкрэта СНК і значэнне гэтай пастановы наогул [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 115. Л. 18].

9 верасня намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Мацюкевіч апублікаваў у газеце «За пралетарскую навуку» артыкул «Марксісцка-ленінскае мовазнаўства», у якім кваліфікаваў пастанову СНК як «важнейшы палітычны дакумент». Паводле аўтара артыкула, прыняцце дэкрэта СНК мела «велізарнейшае значэнне для далейшага развіцця і росквіту беларускай пралетарскай культуры і мовы» [698]. 14 верасня 1933 г. на агульным сходзе супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства была прынята рэзалюцыя, у якой асуджаліся «нацдэмаўскія скажэнні» П. Бузука [612].

У газеце «Звязда» быў надрукаваны перадавы артыкул з нагоды ўвядзення новага правапісу ў практыку. У публікацыі гаварылася пра «замазванне памылак і скажэнняў, якія мелі і маюць месца ў БАН, у прыватнасці, у Інстытуце мовазнаўства, дзе нацдэмаўскае ахвосце прабавала і прабуе пад рознымі прадлогамі працягваць свае ідэі». У артыкуле рашаючым фактарам

новага «словатварэння» быў названы пралетарыят, было выказана меркаванне, што галасы супраць рэформы, якія ўжо чуліся, былі невыпадковымі [713].

Пэўнай імітацыяй навуковай дзейнасці з’явілася спроба прэзідыума БАН удакладніць некаторыя правілы дэкрэта На пасяджэнні 28 верасня 1933 г. былі прыняты наступныя рашэнні:

– адрэдагаваць пункт 17д пастановы такім чынам, каб пачатковае *т* у імёнах іншых моў і геаграфічных назвах змякчалася «перад мяккімі галоснымі зыходзячы з асаблівасцей беларускага вымаўлення» – у такіх выпадках санкцыянавалася напісанне *ц*[98];

– зацвердзіць утварэнне чатырох формаў дзеепрыметнікаў з канчаткам *-ый* тыпу *пануючый, разгарнуўшый, эксплуатуемый, вырашаный*;

– даручыць П. Панкевічу і А. Александровічу паставіць гэтае пытанне перад СНК БССР [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Архіўны № 21а. Пратакол № 30].

13 кастрычніка 1933 г. у друку з’явіўся чарговы артыкул, у якім дыскрэдытавалася дзейнасць Інстытута мовазнаўства БАН. Аўтар публікацыі А. Джэлюк сцвярджаў, што «на фронце мовазнаўства Беларусі класавая барацьба набыла вострыя формы. Буржуазныя нацыяналісты, беларускія нацыянал-дэмакраты ўсімі сіламі імкнуліся да таго, каб прышчапіць беларускай лінгвістыцы кулацкія, буржуазна-нацыяналістычныя ўстаноўкі». Асаблівую ўвагу Джэлюк прысвяціў быламу дырэктару інстытута П. Бузуку, які «ў самы востры момант барацьбы з нацыянал-дэмакратамі фактычна пакрываў засеўшых у тагачасным Інбелкульце нацдэмаў, накшталт лёсікаў, некрашэвічаў, цвікевічаў, ластоўскіх і г. д. <...> Бузук там, дзе дазваляла абстаноўка, адкрыта выступаў супроць палітыкі партыі». На думку аўтара артыкула, Бузук рабіў усё ў імя таго, каб «апраўдаць ідэю самабытнасці і тым самым апаганіць правадзімую партыяй ленінскую нацпалітыку».

Крытыцы Джэлюка падлегла таксама выдадзеная ў 1931 г. «Анкета для збірання матэрыялаў па беларускай мове», падрыхтаваная П. Бузуком, Я. Мацюкевічам і П. Юргелевічам. Паводле Джэлюка, «у гэтым слоўніку, як і раней выпушчаных, працягваюцца нацдэмаўскія, разбітыя партыяй установачкі». Джэлюк сцвердзіў, што ў Інстытуце мовазнаўства «звілі сабе моцнае гняздо нацыяналістычныя антысовецкія элементы, працягваючыя сваю шкодную работу пад фальшыва-нацыянальным сцягам. І не дзіва, што ўся нацдэмаўская спадчына цяпер так пільна ахоўваецца “комуністамі”, якія сядзяць у гэтым інстытуце. У картатэцы сабраных слоў захоўваюцца, напрыклад, выбраныя антысовецкія выказванні Лёсіка, Ластоўскага, Некрашэвіча і іншых <…> Хто-ж даў права людзям, сядзеўшым у Інстытуце мовазнаўства, так нахабна аберагаць гэту спадчыну? Як магло гэта здарыцца, каб ні прэзідыум БАН, ні партыйная ячэйка не заўважылі гэтага і не прынялі мер да ачысткі Інстытута мовазнаўства ад класава чужых элементаў і іх спадчыны».

[98] У дачыненні да адлюстравання мяккага *т* у небеларускіх імёнах і геаграфічных назвах у тэксце дэкрэта назіралася пэўная супярэчнасць. З аднаго боку, пункт 17в дэклараваў дзеянне ў такіх выпадках дзекання і цекання. З другога боку, пункт 17д абмяжоўваў сілу цекання (але не дзекання) у пазіцыі пачатку слова.

Аўтар спасылаўся на жнівеньскае выступленне сакратара ЦК КП(б)Б В. Жаброўскага на нарадзе загадчыкаў раённых аддзелаў народнай асветы і выказваў шкадаванне з прычыны таго, што «вычарпальная ацэнка тав. Жаброўскага не была падхоплена парткалектывам БелАН і “комуністамі”, працуючымі ў Інстытуце мовазнаўства. Комуністы – работнікі БелАН – замест энергічнай барацьбы з нацдэмаўшчынай, замест бязлітаснай крытыкі памылак паасобных партыйных і беспартыйных работнікаў сталі на шлях змазвання памылак».

Не абмінуў Джэлюк і «памылак і скажэнняў», якія «дапускалі і дапускаюць» у сваёй рабоце паплечнікі і суаўтары П. Бузука, работнікі Інстытута мовазнаўства. Так, паводле Джэлюка, факты паказвалі, што намеснік дырэктара інстытута, член партыі Мацюкевіч – «нацыянал-дэмакрат». Як сцвярджаў Джэлюк, Я. Мацюкевіч «ахоўваў» картатэку інстытута і стараўся «змазаць» віну іншых работнікаў. У выдадзенай з яго ўдзелам брашуры «пад выглядам вырашэння спрэчных пытанняў працягваліся нацыянал-дэмакратычныя ўстаноўкі», у іншай яго сумеснай з П. Бузуком і П. Бандарэнкам працы «К. Маркс аб мове» барацьба партыі з нацыянал-дэмакратызмам «амаль не ўпамінаецца» [612].

22 лістапада на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б разглядаліся прапановы аб удакладненні дэкрэта, пры гэтым найбольшую ўвагу прыцягнула тая акалічнасць, што ў 9-м правіле былі пералічаны не ўсе «інтэрнацыянальныя рэвалюцыйныя» словы. Было пастаноўлена дадаць да пералічаных у публікацыі дэкрэта лексемы *комсамол* і *піонэр*, пашырыць дзеянне дадзенага правіла на ўсе вытворныя ад гэтай групы словы, а таксама пісаць праз *о* слова *профінтэрн*. Таксама былі зацверджаны «ўнесеныя камісіяй» (трэба думаць, арфаграфічнай камісіяй бюро ЦК КП(б)Б) папраўкі да падпункта «д» 17-га правіла і папраўкі да 23-га правіла. Наркамату асветы, агітацыйна-масаваму сектару ЦК, гаркомам і райкомам партыі было даручана разгарнуць сярод працоўных, «асабліва сярод настаўніцтва, шырокую палітычна-масавую работу па растлумачэнні палітычнай сутнасці рэформы беларускага правапісу», а СНК БССР – увесці дадаткі ў дэкрэт [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 125. Л. 26].

На пасяджэнні СНК БССР 7 снежня 1933 г. у пастанову ад 26 жніўня былі ўнесены прапанаваныя дапаўненні і папраўкі ў частцы «інтэрнацыянальных рэвалюцыйных» слоў, аднак прапанова адносна напісання пачатковага *ц* у небеларускіх імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах (тыпу *Церахаў, Церак, Цвер*) прынята не была. Таксама была адхілена прапанова кадыфікаваць у беларускай мове формы дзеепрыметнікаў з канчаткамі ў наз. скл. *-ый* [518].

Між тым сталі з’яўляцца адмоўныя водгукі на прыняты дэкрэт за межамі БССР. Не маючы яшчэ поўнага тэксту пастановы і зыходзячы толькі з карэспандэнцыі з Масквы, апублікаванай у газеце «Kurjer Warszawski», орган Таварыства беларускай асветы ў Вільні двухтыднёвік «Родны край» 7 кастрычніка надрукаваў адмоўны водгук з нагоды прынятай пастановы. Паводле газеты, дэкрэт СНК «з’явіўся як пярун сярод яснага неба, зусім неспадзявана, без

папярэджання ў прэсе, без апрацоўкі яго ў кампетэнтных беларускіх навуковых установах». Аўтар артыкула звярнуў увагу на тое, што напярэдадні прыняцця пастановы СНК не была праведзена навуковая канферэнцыя («Беларускую акадэмію навук не спыталіся перад выданнем дэкрэту»), і на тое, што беларускія ўлады нават і не хавалі палітычнага зместу гэтай рэформы. У артыкуле сцвярджалася, што прынцце дэкрэта СНК знаменавала сабой прыход «новай эры» ў савецкім культурна-асветніцкім будаўніцтве, калі «разбуралася ўсё тое, што было пабудавана ў першае дзесяцігоддзе». Пастанова СНК характарызавалася ў артыкуле як падрыхтаваная «маскоўска-мінскімі палітыкамі» [618].

Праз два тыдні «Родны край» надрукаваў яшчэ два артыкулы аб прынятай рэформе беларускай мовы, палітычныя ацэнкі ў абодвух матэрыялах былі яшчэ больш катэгарычнымі: «Чырвоная Масква канчаткова зняла маску», «савецкая ўлада адмяніла беларускую граматыку», «беларускаму народу Сталін вынес смяротны прыгавор» [692], «навязванне беларусам рускай граматыкі» [736].

У канцы кастрычніка 1933 г. у Вільні адбыўся надзвычайны агульны сход Беларускага навуковага таварыства, на якім абмяркоўвалася прынятая ў БССР моўная рэформа. Удзельнікі сходу прыйшлі да высновы, што Беларуская акадэмія навук не прымала ў падрыхтоўцы дэкрэта «ніякага ўдзелу». У пастанове сходу сцвярджалася, што рэформа забараніла выкарыстоўваць існуючыя ў беларускім друку «найбольш характэрныя гукавыя асаблівасці беларускай мовы». Члены Беларускага навуковага таварыства сцвярджалі, што рэформа была праведзена «ў абыход адзіна кампетэнтных у гэтай справе беларускіх навуковых устаноў і ў рэзкай супярэчнасці з пазіцыяй, якую раней займалі і БАН у Менску, і Беларускае навуковае таварыства ў Вільні <…> а таксама з агульна вядомай пазіцыяй такіх выдатных беларускіх вучоных, як акад. Я. Карскі, акад. Б. Тарашкевіч і інш.». Сход пратэставаў супраць дэкрэта СНК, убачыўшы ў ім «акт чыста палітычны, які, пагарджаючы вымогамі навукі, зняважыўшы беларускую граматыку і здзейсніўшы гвалт над жывой беларускай мовай, імкнецца гэтым шляхам да зліцця беларускай літаратурнай мовы з рускай» [730].

Выконваючы пастанову бюро ЦК КП(б)Б ад 3 верасня 1933 г., 8 снежня старшыня СНК М. Галадзед прыняў дэлегацыю педагогаў, пісьменнікаў і навуковых работнікаў, на якой выступіў з вялікай прамовай. М. Галадзед кваліфікаваў дэкрэт урада як «дакумант найвялікшай палітычнай важнасці», падкрэсліў, што пастанова «ўзбройвае масы на барацьбу за пралетарскі інтэрнацыяналізм». Старшыня ўрада паставіў перад сабранымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі задачу разгарнуць «самую шырокую прапаганду, раз'ясненне палітычнай сутнасці нашай рэформы <…> найшырэйшую прапаганду палітычных задач рэформы беларускага правапісу, штодзённую нястомную барацьбу за іх практычнае ажыццяўленне» [590].

11, 13 і 15 снежня быў праведзены агульны сход пісьменнікаў г. Мінска, у якім таксама ўдзельнічалі навуковыя супрацоўнікі і «іншыя работнікі ідэалагічнага фронту» [768]. Сход быў скліканы як своеасаблівае контрпрапагандысцкае

мерапрыемства ў адносінах да водгукаў на рэформу СНК заходняга друку. З уступным словам да прысутных звярнуўся адказны сакратар аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі Я. Бранштэйн, з дакладам выступіў вядомы «пралетарскі паэт» і адначасова тагачасны дырэктар Інстытута мовазнаўства БАН А. Александровіч. Я. Бранштэйн ахарактарызаваў пытанне мовы як пытанне класавай барацьбы і менавіта гэтай акалічнасцю растлумачыў «паднятае ў апошні час выццё нацыянал-фашыстаў у нас і за мяжой» з нагоды дэкрэта аб спрашчэнні беларускай арфаграфіі. А. Александровіч сказаў, што скліканая ў 1926 г. Акадэмічная канферэнцыя, па сутнасці, выконвала заказ фашыстаў, а арыштаваныя ў 1930–1933 гг. В. Ластоўскі, А. Сідарэнка і іншыя выконвалі «спецыяльны заказ міжнароднай буржуазіі па адрыву савецкай Беларусі ад Савецкага Саюза». Усе прамоўцы аднадушна падтрымалі праведзеную ўрадам моўную рэформу. У сваіх выступленнях пісьменнікі ў значнай ступені ўсяго толькі «ў мастацкай форме» паўтарылі тэзісы прамовы М. Галадзеда, якую яны пачулі напярэдадні. На аснове выступленняў пісьменнікаў пазней пад грыфам Інстытута мовазнаўства БАН быў выдадзены зборнік пад назвай «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы» [722]. Як заўважыў англійскі славіст П. Мэё, зборніку больш падышла б назва «Пісьменнікі БССР пра нацыянал-дэмакратызм», паколькі ў ім больш асвятлялася гэта тэма [479, с. 39]. На сходзе выступіў толькі адзін мовазнавец – П. Бузук. Яго прамова апублікавана не была ні ў рэпартажы са сходу, ні ў выдадзеным зборніку, у рэпартажы паведамлялася толькі, што ён «прызнаў крытыку сваіх памылак у друку і ў дакладзе т. Александровіча з поваду буржуазнай, контррэвалюцыйнай яго дзейнасці на мовазнаўчым фронце правільнай» [768].

Пісьменнікі, сярод якіх былі ўсе галоўныя аўтары беларускай савецкай літаратуры, і іншыя дзеячы культуры [619] публічна адобрылі новы правапіс[99]. Пасля гэтага кампанія па прапагандзе новай арфаграфіі пайшла на спад. Абітурыенты, якія паступалі ў ВНУ, абавязаны былі не толькі трывала валодаць новай арфаграфіяй беларускай мовы, але і разумець палітычную сутнасць праведзенай рэформы (ДПМПІ, с. 9). У Заходняй Беларусі ў 1936 г. Я. Станкевіч выдаў брашуру, у якой, кіруючыся быццам бы навуковымі меркаваннямі, паслядоўна забракаваў усе пункты дэкрэта СНК [746, с. 327–343], аднак гэта крытыка не мела значэння для функцыянавання новай арфаграфіі ў БССР.

Суаднесенасць некаторых пунктаў пастановы з папярэднімі прадпісаннямі і з моўнай практыкай адназначна кваліфікаваць складана. Так, напрыклад, 3-ці пункт дэкрэта аб напісанні пратэтычнага *в* перад пачатковымі націскнымі галоснымі *а* і *у*, з аднаго боку, пацвярджаў існуючае (але не ў праекце 1930 г.) правіла, удакладняючы яго. З другога боку, гэты пункт абмяжоўваў ужыванне прыстаўных толькі пазіцыяй перад націскнымі галоснымі, чым у пэўнай меры супярэчыў практыцы. 8-е правіла ў нейкай ступені пацвярджала існуючыя

[99] Якубу Коласу, які быў пляменнікам арыштаванага Я. Лёсіка па лініі маці, давялося гэта зрабіць некалькі разоў: [640; 641; 642].

прадпісанні абазначаць раздзельнае вымаўленне зычных з наступным *j* пры дапамозе апострафа і з дапамогай мяккага знака (у выпадку *л*), аднак яно скасоўвала ранейшую практыку абазначэння пры дапамозе мяккага знака раздзельнага вымаўлення *з* і *с* з *j*, а таксама адмяняла арфаграму *лл* у формах тыпу *Ілліч, лле*. 13-е правіла ўвогуле адлюстроўвала тэндэнцыю на абмежаванне ўжывання *хв, х, п* замест *ф*, якая развілася ва узусе канца 1920-х гг., яно абапіралася на правіла, сфармуляванае ў праекце 1930 г. Тым не менш яно ўсё ж не поўнасцю адлюстроўвала прадпісанні граматык 1920-х гг., якія дапускалі напісанні тыпу *хунт* або *хвабрыка*.

Згодна з меркаваннем А. І. Падлужнага, у 1933 г. у галіне правапісу галосных і зычных у беларускіх словах фактычна было прынята ўсё тое, што было прапанавана ў праекце 1930 г. Усё астатняе, замацаванае ў пастанове СНК БССР, а затым і ў «Правапісе беларускай мовы» (1934), фактычна ліквідавала супярэчнасці праекта 1930 г., бо ў галіне правапісу зычных у працэсе здзяйснення рэформы быў больш паслядоўна праведзены марфалагічны прынцып [269, с. 122].

У інтэрпрэтацыі П. Мэё, у адносінах да шэрагу важных пунктаў (абмежаванне якання першым пераднаціскным складам, захаванне ненацiскных *е, э* ў запазычаннях, правілы правапісу ўласных імён і тапонімаў) у дэкрэт былі ўключаны змены, якія прапаноўваліся ў 1930 г., але гэтыя супадзенні былі «ў значнай ступені выпадковымі» [480, с. 26]. Дж. Дынглі сведчыць, што многія са зменаў 1933 г., папраўдзе, рэкамендаваліся раней, але разам з тым прыводзіць цэлы шэраг «спрэчных» пунктаў; даследчык сцвярджае, што сапраўднымі матывамі рэфармавання было імкненне наблізіць беларускую мову да рускай [454, с. 155]. Увогуле абодва брытанскія аўтары аддаюць належнае палітычнаму ўздзеянню на моўнае рэфармаванне ў Беларусі [479, с. 39–40, 42–44; 480, с. 26; 454, с. 154–155].

У канцы 1920-х – пачатку 1930-х гг. не існавала «адзіна правільнага» або «строга навуковага» спосабу рэфармавання правапісу беларускай мовы, і рэкамендацыі Акадэмічнай канферэнцыі і прадпісанні правапіснага праекта 1930 г. не былі ідэнтычнымі. Не заўсёды можна сказаць, што падчас рэфармавання 1933 г. нейкія правілы абавязкова павінны былі быць прыняты, у той час як іншыя – не[100]. Як паказала практыка 1926–1930 гг., удзельнікі працэсу ўдасканалення беларускага правапісу не заўсёды былі паслядоўнымі і часам адхілялі раней салідарна падтрыманыя падыходы. Пры здзяйсненні моўнага рэфармавання часам маглі мець сілу выпадковыя чыннікі, якія фактычна немагчыма прадбачыць. Канкрэтнае рэфармаванне ў розныя адрэзкі гісторыі заўсёды спецыфічнае, яно не можа безумоўна «экстрапаліравацца» на іншыя гістарычныя адрэзкі часу. Параўн. у гэтым плане, напрыклад, тую акалічнасць, што насуперак (у значнай ступені

[100] Адзінае выключэнне складала хіба што лінгвістычна нематываванае правіла адносна правапісу ненаціскнога *о* ў запазычаннях, заснаванае на суб’ектыўным крытэрыі размежавання адаптаваных і неадаптаваных слоў. Такое правіла, бадай, не магло пратрымацца вельмі доўга.

«выпакутаванай») пастанове Акадэмічнай канферэнцыі аб нязменным напісанні часціцы *не* і прыназоўніка *без* [731, с. 293, 393, 428–429] укладальнікі праекта 1930 г., тым не менш, паспрабавалі «вярнуць час назад» і захацелі захаваць існуючую рэдакцыю гэтага правіла, якая прадугледжвала як напісанні *не, без*, так і *ня, бяз* [551, с. 12]. Гэтаксама звяртае ўвагу розніца ў падыходах да магчымасці скарачаць пачатковае *у*, якая выявілася на Акадэмічнай канферэнцыі, з аднаго боку, і падчас падрыхтоўкі праекта 1930 г., з другога боку. Калі ў 1926 г. прапанова Я. Лёсіка ніколі не скарачаць пачатковае *у* была адхілена [731, с. 309–310, 394], то ў 1930 г. яна была падтрымана [551, с. 13]. На Акадэмічнай канферэнцыі прапанова Я. Лёсіка не абазначаць асімілятыўнае змякчэнне свісцячых многімі была адхілена [731, с. 217, 227, 229, 237, 248–249], а ў працэсе падрыхтоўкі праекта 1930 г. яна атрымала падтрымку [551, с. 15]. Тым больш істотная розніца назіраецца паміж пастановамі Акадэмічнай канферэнцыі і праектам 1930 г. у графічных пытаннях.

Не зважаючы на палітычны кантэкст прыняцця рэформы, некаторыя аўтары адстойвалі навуковую абгрунтаванасць рэформы 1933 г. наогул або, прынамсі, асаблівую (навуковую) матываванасць многіх яе пунктаў. Так, напрыклад, А. І. Жураўскі лічыў, што прыняты на аснове рэфармавання 1933 г. беларускі правапіс уключаў «асноўныя прапановы па арфаграфіі, выказаныя на канферэнцыі 1926 г. і адлюстраваныя ў праектах 1930 і 1933 гг.» [129, с. 136]. На думку таго ж аўтара, напрыклад, канчаткі *-ам, -ям, -ах, -ях* у назоўнікаў мужч. і н. родаў у дав. і месн. скл. мн. л., а таксама формы загаднага ладу дзеясловаў на *-іце, -ыце* былі ўключаны ў беларускую граматыку з прычыны таго, што ўведзеныя Б. Тарашкевічам формы на *-ом, -ём, -ох, -ёх, -еце, -эце* ўспрымаліся насельніцтвам савецкай часткі Беларусі як чужыя [117, с. 141]. А. І. Падлужны лічыў, што ўстанаўленне рэформай 1933 г. напісання літары *і* пасля *с* і *з* у запазычаннях, а пасля іншых зычных – *е* «мела глыбокія навуковыя падставы», гэтаксама адабральна ён ставіўся і да ўвядзення напісанняў тыпу *арыфметыка, міф, кафедра, арфаграфія* [271, с. 135–136]. Калі абстрагавацца ад асабістых схільнасцей аўтараў, якія, несумненна, мелі месца ў выпадку дадзеных інтэрпрэтацый, напэўна, ёсць падставы гаварыць пра *conclusio existematioque ex eventu* (вывад, зроблены на аснове выніку), а не пра вывады, зробленыя на аснове рэальнай ацэнкі падзей, што адбываліся напярэдадні і ў час правядзення рэформы 1933 г. Прыпісванне «навуковага» характару прынятым у 1933 г. правілам адбылося і адбываецца не таму, што яны з'яўляюцца такімі папраўдзе (па-беларуску аднолькава «навукова» пісаць як *свет*, так і *сьвет*, як *арыфметыка*, так і *арытмэтыка*, як *сістэма*, так і *сыстэма* і г. д.), але таму, што пазней правілы 1933 г. легітымізавала ўжыванне. Беларускі выпадак паказвае: у арфаграфічнай практыцы бывае, што законным і «навуковым» з'яўляецца не тое, што ўстаноўлена ў дыскусіях паміж навукоўцамі, а тое, што па нейкіх прычынах (у тым ліку выключна «ненавуковых») сцвердзілася і рэальна ўжываецца.

У адной з найноўшых прац паведамляецца, што нібыта ў 1934 г. быў апублікаваны новы праект правапісу, «больш радыкальны і паслядоўны ў русіфікацыі беларускай мовы, у той жа час прадстаўнікі НК асветы аб'ядналіся з прадстаўнікамі АН БССР у канцы 1934 г., каб падняць пытанне аб самабытнасці і самадастатковасці беларускай мовы, патрабуючы змянення правапісу ў напрамку абеларушвання» [11, с. 232]. Калі можна думаць, што пад праектам правапісу 1934 г. тут разумеецца апублікаваны ў гэтым годзе афіцыйны правапіс, то зусім не зразумела, пра якую кансалідацыю прыхільнікаў нацыянальна арыентаванага правапісу далей ідзе гаворка.

Пры правядзенні моўнай рэформы 1933 г. істотнай аказалася тая акалічнасць, што ў гэты час у Беларусі ўлады адначасова вырашалі «сялянскае пытанне», якое было цесна звязана з нацыянальным. Здзейснены ў 1933 г. сакрушальны ўдар па нацыянальнай эліце, якая сімпатызавала сялянству і была носьбітам ідэі фарміравання самабытнай беларускай мовы, спрыяў паспяховаму вырашэнню абодвух гэтых пытанняў. Такім чынам, здавалася б, строга акадэмічнае пытанне фарміравання літаратурнай мовы на той або іншай аснове (з большым або меншым удзелам народных, «вясковых» рыс) аказалася ўцягнутым у шырэйшы кантэкст здзяйснення дзяржаўнай палітыкі. Паколькі ўнутраная, з апорай на народныя («вясковыя») рэсурсы, разбудова беларускай мовы ў другой палове 1920-х гг. успрымалася ўладамі як неад'емны аспект беларусізацыі, паколькі «чысткі» ў сферы асветы і культуры ў 1933 г. у значнай меры сімвалізавалі дэлегітымізацыю беларусізацыі (якая цяпер часта магла ўспрымацца як простая дарога да беларускага нацыяналізму), пастолькі ўсе ранейшыя дзеянні ў моўнай сферы ў пачатку 1930-х гг. сталі ўспрымацца як памылковыя, а з улікам новага стылю выказвання, як «варожыя»[101].

Рэформа беларускай мовы 1933 г. укладаецца ў канцэптуальнае рэчышча дзеяння некаторых агульнасаюзных, паводле тэрміналогіі М. А. Рабінсона, «палітыка-метадалагічных плыняў» [302, с. 126], якія прадугледжвалі рэвалюцыю ў мове і, у прыватнасці, бязмежнае моўнае канструяванне і найхутчэйшую ўніфікацыю розных моў. Так, напрыклад, у 1930 г. М. Я. Мар пісаў: «Тут не пра рэформу пісьма або граматыкі даводзіцца гаварыць, а пра змену нормаў мовы, пераводзе яе на новыя рэйкі сапраўды масавага маўлення. Тое, што трэба, гэта не форма, не рэформа ці новая дэкарацыя старога зместу, а свежы зруб з новай усесаюзнай, сусветнай функцыяй з новага моўнага матэрыялу» [690, с. 375–376; цыт паводле: 356, с. 18]. Увогуле пытанне рэформы пісьма і граматыкі, на думку Мара, было «палітычным класавым» [690, с. 372]. У іншым месцы стваральнік «новага вучэння аб мове» пісаў пра

[101] Аналагічная сітуацыя была ва Украіне. Ставячы пытанне пра тое, ці быў голад 1932–1933 гг. інструментам «ліквідацыі» ўкраінскага нацыяналізму, адзін з даследчыкаў прыходзіць да высновы, што рэпрэсіі 1933 г. у сферы асветы і культуры былі абумоўлены папярэднімі поспехамі ў правядзенні ўкраінізацыі. Паколькі ў новай сітуацыі лічылася, што ўкраінізацыю праводзіла «петлюрівське збіговисько», пастолькі лічылася патрэбным такой украінізацыі процістаяць [135, с. 126].

магчымасць і неабходнасць «ідэалагічнага па стадыях растлумачэння не толькі слоў, але і марфалогіі, больш за тое – фанетыкі, як генетычна сацыяльных з’яў» [689, с. 232]. Ультрарэвалюцыйны падыход да моўнага рэфармавання канстатуем і ў працы вядомага эсперантыста Я. Ф. Спірыдовіча, які ў 1931 г. пісаў: «Задачы блізкай уніфікацыі ўсіх моў не павінны ні на хвіліну забывацца <…> Штосекундна памятаючы, што рэвалюцыйны пераход ад вусных дыялектаў і гаворак ёсць толькі пераходны этап да новай, яшчэ большай рэвалюцыі ў мове, трэба цяпер пры будаўніцтве нацыянальна-літаратурных моў праводзіць спрашчальныя і абагачальныя рэформы ў граматыках гэтых моў (менш правіл і выключэнняў, магчымае набліжэнне да ладу мыслення культурных нацый і г. д.)» [741, с. 96–97].

Рэформа беларускай мовы 1933 г. з’яўляецца прыкладам непасрэднага ўздзеяння на моўнае рэфармаванне ідэалагічных фактараў. Гэтыя фактары былі відавочнымі падчас прыняцця дэкрэта СНК, але пазней былі затушаваны – дзякуючы намаганням палітыкаў, пісьменнікаў, гісторыкаў, у тым ліку гісторыкаў беларускай мовы і мовазнаўства.

# Раздзел 6
# ЛІНГВІСТЫКА 1930-х гг.: СТАНАЎЛЕННЕ ДЫСЦЫПЛІНЫ «КУЛЬТУРА МОВЫ» І ПАДРЫХТОЎКА ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫХ ПРАЦ

## 6.1. КАМПАНІЯ ЗА «КУЛЬТУРУ МОВЫ»

У першай палове 1920-х гг. галоўнымі клопатамі беларускіх лінгвістаў былі стварэнне перакладных слоўнікаў, распрацоўка тэрміналагічнай лексікі, удасканаленне правапіснай сістэмы беларускай мовы і далёка ў меншай ступені – падрыхтоўка рэкамендацый у галіне культуры мовы. Такая іерархія задач была абумоўлена тагачасным грамадскім запытам на беларускую мову і яе станам. Радыкальна пашыраючы свае функцыі, нацыянальная мова беларускага народа вымагала інтэнсіўнай распрацоўкі найперш у тых галінах, якія забяспечвалі б яе паўнацэннае функцыянаванне ў якасці афіцыйнай мовы. Прыватная задача спарадкавання выразных сродкаў мовы, засяроджванне на нюансах правільнасці, чысціні маўлення паводле сваёй важнасці і актуальнасці ў пачатку 1920-х гг. не маглі ісці ў параўнанне з агульнай задачай стварэння поліфункцыянальнай літаратурнай мовы. Зрэшты, на ўзроўні педагагічнай практыкі вымогі чысціні маўлення, натуральна, маглі ставіцца даволі востра. Напрыклад, апісваючы настаўніцкія курсы ў Слуцку ў 1923 г., Я. Колас сярод іншага паведамляў жонцы, што «сярод слухачоў ёсць такія хлопцы, што не прапусцяць ніводнага небеларускага слова» (Кол. ЗТ20, 18, с. 31). У сувязі з тым, што выкладанне на беларускай мове яшчэ толькі разгортвалася, у гэты час яшчэ не быў дастаткова добра сфарміраваны слой галоўных «спажыўцоў» культуры мовы – выкладчыкаў, журналістаў, перакладчыкаў, выдавецкіх работнікаў і работнікаў культуры[102].

Строгія патрабаванні да стабільнага моўнага ўжывання ў гэты час яшчэ не выпрацаваліся і ў расійскай лінгвістыцы, навуковая дысцыпліна «культура маўлення» яшчэ знаходзілася ў стадыі афармлення [362]. Лічыцца, што ў пачатку 1920-х гг. перад расійскай лінгвістыкай пытанне культуры мовы ўстала «ва ўсім аб'ёме», і ўсе лінгвісты разумелі неабходнасць тэарэтычнай работы над

[102] Спецыфічная сітуацыя была ў Заходняй Беларусі, дзе, прынамсі, два аўтары – В. Ластоўскі і Я. Станкевіч – ужо ў першай палове 1920-х гг. друкавалі культурамоўныя матэрыялы.

асновамі культуры маўлення і важнасць яе прымянення ў штодзённай практыцы [362, с. 19]. У сітуацыі, калі ў свядомасці носьбітаў рускай мовы, паводле Л. Якубінскага, знікала «само паняцце аб “прыстойнасці”, “камільфотнасці” маўлення» [201, с. 8], галоўным для расійскіх мовазнаўцаў было выпрацаваць стаўленне да шматлікіх тагачасных новых з’яў у мове. У выказваннях расійскіх лінгвістаў гэтага часу засведчана пазіцыя навукоўцаў, аб’ектам даследавання якіх з’яўлялася ўжо сфарміраваная літаратурная мова. Прынцыпова іншай была сітуацыя ў Беларусі.

Для распрацоўкі ў Беларусі першай паловы 1920-х гг. пытанняў культуры мовы неспрыяльным фактарам быў этап, перажываны ў гэты час беларускім грамадствам, звязаны з наяўнасцю ў ім (пост)рэвалюцыйных настрояў. Арыентаваныя ўвогуле на культываванне стабільнага, у пэўным сэнсе «кансерватыўнага» моўнага ўжывання, прынцыпы культуры мовы ў гэты зменлівы час яшчэ не маглі сфарміравацца ў дачыненні да тагачаснай – насычанай дынамікай і рухам – беларускай літаратурнай мовы, якая знаходзілася на пераходзе з аднаго свайго стану ў іншы. Адпаведна ў гэты час дадзеныя прынцыпы яшчэ не маглі выступаць у якасці навуковай задачы.

Па меры пашырэння функцый і сацыяльнай базы беларускай літаратурнай мовы, развіцця кнігадрукавання і часопіснай крытыкі ў другой палове 1920-х гг. сітуацыя стала змяняцца. У гэты час у друку з’явілася даволі вялікая колькасць матэрыялаў, прысвечаных асэнсаванню ў беларускай мове тых або іншых слоў, выразаў ці канструкцый з пункту гледжання правільнасці, дакладнасці, выразнасці, чысціні маўлення. У часопісе «Узвышша» была заснавана спецыяльная рубрыка «Культура мовы» [183].

Прынцыповай розніцай у распрацоўцы праблемы культуры мовы ад расійскай сітуацыі было, аднак, тое, што ў Беларусі праблема культуры мовы спачатку адрасавалася даволі вузкаму колу спажыўцоў літаратурнай мовы: у рамках літаратурна-мастацкай практыкі ў тэзісах згуртавання «Узвышша» неабходнасць культуры мовы была прадстаўлена як «адна з абавязковых умоў для ўтварэння беларускай мастацкай літаратуры»[103]. Хоць у сваіх зыходных пасылках прадстаўнікі літаратурнага згуртавання часткова зыходзілі з поглядаў, абнародаваных мовазнаўцам Я. Лёсікам у артыкуле «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» [682, с. 113–156], нягледзячы на тое што Я. Лёсік публікаваўся ў рамках рубрыкі, лінгвісты, аднак, не былі самымі актыўнымі ўдзельнікамі абмеркавання праблем культуры мовы на старонках часопіса. Некаторыя з мовазнаўцаў, напрыклад П. Бузук [562], даволі скептычна паставіліся да такой ініцыятывы. Таму ёсць пэўная логіка ў тым, што да гэтай пары дзей-

[103] Не толькі адлюстраванае на старонках часопіса «Узвышша» разуменне культуры мовы, але і, больш шырока, ужытковае паняцце культуры мовы ў беларускай лінгвістыцы, бадай, не цалкам супадае з праблемай моўнай культуры, вылучанай у свой час прадстаўнікамі Пражскага лінгвістычнага гуртка. Моўная культура або культура мовы разумелася прадстаўнікамі гэтай групы як «яўна выражаная тэндэнцыя да развіцця ў літаратурнай мове (як гутарковай, так і кніжнай) якасцей, якія патрабуюцца яе спецыяльнай функцыяй» [291, с. 39; 171, с. 7].

насць беларускіх мовазнаўцаў у галіне культуры мовы і цесна звязанай з ёй стылістыкі перыяду 1920-х гг. асэнсавана недастаткова, гэтаксама як яна недастаткова добра прадстаўлена ў розных падручніках. Так, у аглядна-гістарычных частках некаторых дапаможнікаў па культуры маўлення і стылістыцы ў якасці прац, якія маюць дачыненне да тэмы, называюцца толькі публіцыстычныя працы пісьменнікаў [372, с. 12–14; 15, с. 25–26].

Дзейнасць лінгвістаў на старонках часопіса «Узвышша» нярэдка асвятлялася ў даволі крытычным плане. Асабліва нігілістычна ў дачыненні да тагачаснай прадукцыі беларускіх лінгвістаў быў настроены паэт У. Дубоўка[104]. Ужо ў апублікаваным у 1927 г. рэдакцыйным артыкуле «Культура мовы», які запачаткаваў аднайменную рубрыку, у вельмі крытычным плане быў згаданы руска-беларускі слоўнік М. Байкова і М. Гарэцкага [592, с. 193]. Акрамя надрукаванай на старонках «Узвышша» крытычнай рэцэнзіі на РБС-28 К. З-нага [626], для другога нумара «Узвышэнскага праспекта» рыхтаваўся крытычны водгук на гэты слоўнік У. Дубоўкі [704, с. 535].

Рэдакцыйны артыкул «Узвышша» пачынаўся з абмеркавання карпаратыўных задач авалодання культурай мовы ў пісьменніцкім асяроддзі. Згодна з артыкулам, вучыўшыся ў рускамоўных школах, многія тагачасныя аўтары засвоілі адпаведны лад мыслення і мелі цяжкасці ў выражэнні сваіх думак пабеларуску. Само па сабе недастатковае валоданне беларускай мовай ставіла перашкоду для многіх пісьменнікаў у авалоданні вяршынямі мастацкай творчасці. Далей ішла гаворка пра кепскае валоданне беларускай мовай дзяржаўнымі службоўцамі. Для таго каб найлепшым чынам абслугоўваць масы, лічылася патрэбным, каб дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі «гаварылі моваю мас»; гэта быў, звярталася ўвага ў артыкуле, адзін з найважнейшых момантаў тагачаснай нацыянальнай палітыкі. Дакладна невядома, штó тут мелася на ўвазе: тое, што ў дзяржаўных установах і арганізацыях мае выкарыстоўвацца беларуская мова, ці тое, што беларуская афіцыйная мова не павінна адхіляцца ад народнай; хутчэй такі першае. Нарэшце выказвалася патрэба больш уважліва назіраць за спецыяльнымі тэрмінамі; сцвярджалася, што яны не заўсёды былі ўдалымі. Галоўнымі пытаннямі, якія павінны былі абмяркоўвацца на старонках часопіса, мелі быць лексічныя і фразеалагічныя (пад якімі, згодна з тагачаснай абыходкавай тэрміналогіяй, разумеліся пытанні сінтаксісу) [592, с. 192–194].

На адрозненне ад расійскіх мовазнаўцаў, якія ў 1925 г. пісалі аб важнасці пастаноўкі пытання пра карысць філалагічнага выхавання (Л. Шчэрба), ставілі задачы «стварэння тэхналагічнай навукі аб маўленні» і «рацыянальнай арганізацыі моўнага быту» (Л. Якубінскі), апелявалі ў тым ліку да «магутнай

[104] Напрыклад, У. Дубоўка крытыкаваў РБС-28 за тое, што ў ім было «вельмі шмат царкоўшчыны, непісьменнасці», паэт бачыў у слоўніку выпадкі «выступленняў супраць здаровага розуму і ўстаноўленай у нас практыкі». Напярэдадні выбараў у БАН У. Дубоўка лічыў, што С. Некрашэвіч ні ў якім выпадку быў не варты годнасці акадэміка. У перапісцы паэт характарызаваў старшыню аддзялення мовы і літаратуры Інбелкульта пры дапамозе выразаў кшталту «барахольшчык», лічыў, што «такога непісьменнага чалавека цяжка знайсці» [704, с. 535, 409–410].

падтрымкі дзяржавы і партыі» (С. Бернштэйн) [201, с. 7–9], пісьменнікі згуртавання «Узвышша» ставілі больш вузкія задачы авалодвання моўнай кампанентай пісьменніцкага рамяства, лепшага засваення беларускай мовы дзяржаўнымі службоўцамі, агляду і ацэнкі існуючых моўных сродкаў. Гэта розніца ў падыходах вынікала з таго, што беларуская і руская літаратурныя мовы знаходзіліся ў гэты час на розных этапах развіцця, па-рознаму падтрымліваліся дзяржавай, што абумоўлівала неаднолькавасць ацэнак прыярытэтаў і актуальных праблем развіцця і функцыянавання гэтых моў.

Спецыфічны адбітак на беларускую сітуацыю накладала тое, што тут лідарамі ў артыкуляванні праблем культуры маўлення выступалі найперш пісьменнікі, якія, быўшы засяроджанымі на пытаннях значэння мовы для мастацкай творчасці, паспяховага авалодвання пісьменнікамі народнай мовай, пошуку нешаблоннага слоўнага выказвання, у шэрагу выпадкаў давалі неадэкватныя ацэнкі ўжывальных моўных сродкаў, асабліва тых, якія маглі ўяўляць сабой меншую каштоўнасць для мастацкага стылю. Так, напрыклад, Кузьма Чорны ў сваім славутым артыкуле 1928 г. «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры» неабгрунтавана крытыкаваў ужыванне ў мастацкіх творах розных аўтараў слоў *абрыў, наступіць* (*вясна наступіла*), наступных выразаў і сказаў: «*Ты занадта вялікае значэнне прыдаеш барацьбе з адзінкамі*», «*Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясём у ахвяру*», «*А мо' адабрэнне?*», «*пранікала ў душу*», «*Карпіцкі накіраваўся паглядзець, як размяшчаюцца аддзелы*», «*Густа пасеенымі, колеру ільнянога насення, плямкамі на твары*», «*Ды гэтаму ж Баханская закруціла галаву – мусіць хоча выйсці за яго замуж*», «*у белай кофтачцы*», «*Адсюль адкрываўся прыгожы малюнак*», «*Даклад датычыўся самавольных парубак лесу*» [592, с. 48–49].

У некаторых выпадках зусім зразумела, якія канкрэтныя хібы крытыкаваў К. Чорны. Так, заўвагу на адрас слова *адабрэнне* ён выказваў, напэўна, таму, што лічыў гэты аддзеяслоўны назоўнік неўласцівым для народнай мовы. Лексема *кофтачка* здавалася яму непрымальнай таму, што мела «народныя» альтэрнатывы без *ф*, *кохтачка* ці *коптачка*[105]. Бадай, недапушчальным ён лічыў і слова *пранікаць* – у 1920-я гг. у гэтым значэнні ў беларускай літаратурнай мове звычайна ўжывалася слова *прасякаць*. Часам крытыка К. Чорнага эксплІцытная. Слова *абрыў* адхілена ім з той прычыны, што ў народнай мове існуе выраз *парсюк лычам дрэва абрыў*; *вясна наступіла* – бо можна *наступіць* на нагу ці на жабу; *закруціла галаву* – бо дзеяслоў *закруціць*, паводле К. Чорнага, замацаваны сваім ужываннем за народным праклёнам

[105] Паводле аўтараў калектыўнай манаграфіі, з'яўленне *ф* у літаратуры 1920-х і наступных гадоў прагрэсіравала, паколькі беларуская літаратурная мова вызвалялася ад форм, уласцівых выключна гутарковаму стылю мовы [175, с. 226]. Згодна з аўтарам адной найноўшай публікацыі, якая высвятляла сітуацыю на матэрыяле БРС-26, у размеркаванні слоў з *ф* і без яго складана было вызначыць нейкую выразную тэндэнцыю [152]. У адпаведнасці з нашымі назіраннямі, рэалізацыя *ф* у запазычаных словах у 1920-я гг. падлягала той жа тэндэнцыі, якая мела сілу для іншых замежных слоў. З аднаго боку, вылучаліся абеларушаныя і неабеларушаныя формы. З другога, існавалі выданні, якія схіляліся пераважна да аднаго або да другога падыходу.

*каб табе галаву на бок закруціла*. Сказ *Маркел вандруе ў працягу цэлае ночы* забракаваны таму, што «ў народных гушчах гавораць *вандруе цэлую ноч*»[106]. Сказы *Даклад датычыўся самавольных парубак лесу* і «*Ты занадта вялікае значэнне прыдаеш барацьбе з адзінкамі*» залічаны ў непрымальныя таму, што яны, паводле К. Чорнага, уяўлялі сабой паслоўны пераклад рус. *Доклад касался самовольных порубок* і «*Большое значение придаешь борьбе*». Першы пераклад уяўляўся К. Чорнаму «дзіка-непісьменным», а адносна другога ён заўважаў, што «ў беларускай мове гэтакага кірунку няма» [592, с. 49, 51–52]. У некаторых выпадках пра аб'ект крытыкі пісьменніка можна здагадвацца з большай або меншай ступенню верагоднасці. Так, сказ «*Адсюль адкрываўся прыгожы малюнак*» залічаны ў няправільныя, відаць, таму, што ў 1920-я гг. многа больш ужывальным у параўнанні з сучаснай практыкай было слова *адчыняць*. Аднак сярод кадыфікатараў не было згоды ў справе выкарыстання слова *адчыняцца* ў пераносным значэнні; напрыклад, у працы Я. Лёсіка «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» выразы тыпу *курсы адчыніліся* крытыкаваліся [682, с. 155].

У іншых выпадках аб'ект крытыкі не пазначаны і, на першы погляд, не вельмі зразумелы. К. Чорны, падобна, не прымаў ужывання беларускай мовы ў казённа-літаратурным выглядзе, пакідаючы за ёй толькі чыста народны «характар сказаў», народную стылістыку. Так, бадай, у якасці «празмерна літаратурнага» К. Чорнаму не спадабаўся выраз *колеру ільнянога насення*. Сказ «*Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясём у ахвяру*» адхілены пісьменнікам таму, што ў ім зашмат казённага пафасу (але моўная правільнасць у ім не парушана). Сказ «*Карпіцкі накіраваўся паглядзець, як размяшчаюцца аддзелы*» быў падвергнуты крытыцы, відавочна, таксама за «недастаткова народны» спосаб выказвання.

Характэрнай рысай крытыкі К. Чорнага з'яўляецца вузкі погляд на беларускую мову як прызначаную адзіна для літаратурна-мастацкага выказвання, няўлік таго, што літаратурная мова не можа ва ўсім наследаваць народнай. У такой крытыцы можна бачыць канфлікт паміж выразна «народнай» («вясковай») стылістыкай тагачаснай беларускай літаратурнай мовы і патрэбамі засваення ёю лексічных і іншых сродкаў, якія выходзілі за рамкі вясковага моўнага выказвання.

Выразнай асаблівасцю многіх публікацый 1920-х гг. пра культуру мовы ў часопісе «Узвышша» і іншых выданнях была апора іх аўтараў на асабістае веданне беларускай мовы, уласнае «моўнае чуццё». Вынікам гэтага было індывідуальнае разуменне спосабаў вырашэння розных існуючых канкрэтных і агульных праблем; спасылкі на тэарэтычныя працы, гэтаксама як і выхады ў сваіх развагах па-за межы досведу беларускай лінгвістыкі, у іх сустракаліся даволі рэдка.

[106] Сімптаматычна, што тут не прыцягваецца да разгляду ўжывальны ў літаратурнай мове выраз *на працягу ночы*; адсылкі робяцца адзіна да народнага спосабу выказвання.

Зусім новыя і вельмі важкія падставы для выразнай пастаноўкі праблемы культуры мовы з'явіліся ў пачатку 1930-х гг., калі радыкальным чынам узмацніўся палітычна-ідэалагічны кантроль за беларускай лінгвістыкай таго часу[107].

У прынятай 16 мая 1930 г. рэзалюцыі бюро ЦК КП(б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве» сцвярджалася, што прадстаўнікі пэўнай палітычнай плыні – так званага нацыянал-дэмакратызму – рабілі спробы замацаваць свае пазіцыі ў галіне мовы і мовазнаўства. Нацыянал-дэмакратычная пазіцыя ў сферы мовазнаўства выяўлялася ў «нянавісці да ўсяго расійскага, а таксама ў барацьбе супраць уключэння інтэрнацыяналізмаў у белмову», што «выяўляла класавую варожасць беларускага нацдэмакратызму <...> да расійскага рэвалюцыйнага пралетарыяту і да інтэрнацыянальнай пралетарскай рэвалюцыі наогул». На думку аўтараў рэзалюцыі, якія зыходзілі з «галоўнага тэзіса ленінізму» аб нацыянальнай культуры («у кожнай культуры – дзве культуры, у кожнай нацыі – дзве нацыі»), уласцівая нацыянал-дэмакратам барацьба супраць русізмаў і інтэрнацыяналізмаў была, па сутнасці, барацьбой супраць «саветызмаў».

У пастанове было многа ўдзелена ўвагі такой катэгорыі, як чысціня мовы; яна трактавалася як нядобранадзейная з'ява. «Такія факты, як замена слова *калектыў* словам *суполка, арцель* – словам *сябрына*, замена слова *эксплуатацыя* словам *вызыск* і г. д., сведчаць аб тым, што пад шыльдай барацьбы за чысціню мовы вядзецца барацьба супраць пралетарскай рэвалюцыі. Адначасова беларускія словы замяняюцца польскімі словамі, напр[ыклад], слова *земляробства* выкідваецца і замяняецца словам *рольніцтва*, у астатнім факце нельга не ўгледзець адбітку палітычнай арыентацыі на капіталістычны Захад – на белую пакуль Варшаву супраць чырвонай Масквы» [252, с. 229–230]. Прызнавалася, што ў «нацыянал-дэмакратычнай» трактоўцы носьбітамі дасканалай і чыстай (абодва словы ў двукоссі) беларускай мовы з'яўляліся «адсталыя слаі сялян», затое «роля пралетарыяту ва ўтварэнні літаратурнай мовы з'яўляецца пасіўнай» [252, с. 230]. Паколькі тон у фарміраванні беларускай літаратурнай мовы ў 1920-я гг. вызначалі «нацыянал-дэмакраты», створаная імі з выкарыстаннем «заганных» установак беларуская літаратурная мова вымагала неадкладнага выпраўлення. Арыентаваная на «адсталыя слаі сялянства» літаратурная мова аказалася непрымальнай у перыяд правядзення калектывізацыі, у час, калі сялянства як сацыяльны клас выклікала асаблівы недавер з боку ўлад[108]. У новай гістарычнай сітуацыі ставілася задача выпрацаваць такую літаратурную мову, якая абапіралася б найперш не на сялянства, а на іншыя сацыяльныя групы. Такой групай з'яўляўся пралетарыят.

Ідэі, згодна з якімі сялянства і пралетарыят размаўлялі на дзвюх асобных «класавых» мовах, падыходы, паводле якіх мова атаясамлівалася з «класавым» дыялектам, а на змену сыходзячай з гістарычнай арэны «буржуазнай»

[107] Пра прычыны выкарыстання аднаго з найважнейшых канцэптаў культуры мовы – «чысціні» – у савецкай газетнай прапагандзе гл.: [18].

[108] Пра палітыку гэтага часу ў дачыненні да сялянства гл.: [62; 83, с. 276–285; 325, с. 71–122].

граматыцы павінна прыйсці граматыка «пралетарская», распрацоўваліся ў рамках тагачаснай савецкай лінгвістыкі [356]. Паводле меркавання аднаго з аўтараў вядомай кнігі «Против вульгаризации и извращения марксизма в языкознании», пад уплывам «новага вучэння» аб мове ідэю «класавасці» мовы прымала большая частка савецкіх лінгвістаў [6, с. 279]. Згодна з думкай М. Горхама, напрыклад, кампанія за моўнае ачышчэнне, якая разгарнулася з 1934 г. у рускай літаратуры, мела сваёй непасрэднай мэтай зменшыць удзел у літаратурнай мове «голасу сялянства», які нярэдка аказваўся «разбуральным» у дачыненні да новай улады [461, с. 135, 152]. Сялянскі кампанент фарміравання літаратурнай мовы, згодна са спецыфікай яе фарміравання і ў адпаведнасці з бягучай палітычнай сітуацыяй, у беларускім кантэксце падаваўся як ідэалагічна асабліва непрымальны. Ідэі аб тым, што заснаваная на «класава непрымальнай» граматыцы літаратурная мова павінна быць заменена мовай, заснаванай на граматыцы пралетарыяту, сталі ўкараняцца і ў беларускую лінгвістыку.

Новыя падыходы да фарміравання літаратурнай мовы, якія прадугледжвалі разуменне культуры мовы ў яе спецыфічным, ідэалагічна нагружаным, сэнсе, неўзабаве знайшлі адлюстраванне на старонках беларускага друку. Так, тэарэтычны артыкул, у якім многа ўвагі аддавалася класаваму характару мовы, ролі пралетарыяту ў фарміраванні літаратурнай мовы і тэорыі моўнай самабытнасці, апублікаваў дырэктар Інстытута філасофіі БАН С. Вальфсон. На яго думку, перамога «нацыянал-дэмакратычнага» падыходу, згодна з якім пралетарыят не мог бы ўплываць на беларускую мову, азначала б тое, што беларуская мова аказалася б менш саветызаванай у параўнанні, напрыклад, з рускай ці грузінскай. Такім чынам, «тая “пераніцоўка”, якую зрабіў Кастрычнік у адносінах рускае мовы, прайшла б міма мовы беларускае» [571, с. 144]. Паводле С. Вальфсона, такі падыход непасрэдна падводзіў бы мовазнаўцаў да «аднаго з асноўных сімвалаў нацыянал-дэмакратычнай «веры»», да скампраметаванай у галіне гісторыі, літаратуры, крытыкі, эканомікі, мастацтва «так званай тэорыі самабытнасці». Моўную самабытнасць С. Вальфсон назваў «адной з тых траншэй, у якіх умацоўваецца варожая пралетарыяту навуковая ідэалогія. Па гэтай траншэі і трэба адкрыць агонь марксісцкай крытыкі» [571, с. 145]. Кіруючыся тэарэтычнымі палажэннямі М. Мара і яго паслядоўнікаў, С. Вальфсон адстойваў тэзіс аб існаванні ўнутры беларускай мовы дзвюх розных «класавых» моў: «Як быццам бы на *аднэй* (выдзелена аўтарам. – *С. З.*) беларускай мове пісаліся ў 1918 г. пракламацыі рэвалюцыйных партызан і слаліся вернападданыя тэлеграмы кайзеру <...> Як быццам бы адна беларуская мова ў рэкрутуемых у армію калгаснікаў беларускіх беднякоў і батракоў і ў вясковай верхавінкі, якая раскулачваецца <...> Як быццам бы на аднэй беларускай мове тварылі Дунін-Марцінкевіч і Міхась Чарот. Як быццам адная і тая ж мова мінскай камуністычнай “Звязды” і віленскай ксяндзоўскай “Крыніцы” <...> Не, тут дзве мовы, і не толькі па зместу, але і па эмацыянальна-класавай афарбоўцы мовы, па яе агульнаму тонусу, па яе стылістыцы, па характару фразеалагічных сродкаў, па складу слоўніка, па фанетычных і марфалагічных асаблівасцях» [571, с. 147].

Паколькі ў 1920-я гг. беларускія мовазнаўцы імкнуліся ўмацаваць адметны характар беларускай літаратурнай мовы зыходзячы з шырокай апоры на народныя (вясковыя) моўныя сродкі, прымяняльна да яе такі падыход абазначаў поўную змену арыенціраў у моўным будаўніцтве. Вылучэнне ў межах адной мовы дзвюх асобных «класавых» моў адкрывала шырокія магчымасці для кваліфікацыі адных моўных сродкаў, як быццам уласцівых аднаму грамадскаму класу, а іншых – як іманентна ўласцівых другому грамадскаму класу. Семіятычны працэс, пры якім нейкія моўныя рысы «служаць паказчыкам сацыяльных груп або дзейнасці» і якія ўрэшце аказваюцца «партрэтнымі рэпрэзентацыямі гэтых сацыяльных груп або дзейнасці», амерыканскімі даследчыцамі Ю. Ірвін і С. Гал быў названы партрэтызацыяй (*iconization*) [цыт. паводле: 515, с. 316–317].

Пачынаючы з 1930 г. у многіх працах пачало шырока практыкавацца прывядзенне цэлых спісаў праскрыбаваных «шкодніцкіх», «класава варожых» слоў. Так, напрыклад, да ліку непрымальных паводле класавай прыкметы ў беларускай мове слоў Я. Мацюкевіч залічыў словы *абшарнік, асадніцтва, асэсар, блюзнерства, выправа, гелда, забяспека, залога, краёвая армія, лёсы, паспаліты, рольніцтва, самаўрад, сойм, суполка, упраўнік* і інш. [693].

Найбольш неспрыяльны лёс мог чакаць тыя словы, якія, згодна з апублікаванымі ў канцы 1930 г. матэрыяламі, былі кваліфікаваны як «шкодніцкія» самімі арыштаванымі на той час «нацдэмамі». Так, напрыклад, аб шкодніцкім характары дзейнасці беларускіх мовазнаўцаў 1920-х гг., які нібыта прадугледжваў арыентацыю «на мову кулака, а не на мову беларускага бядняцка-серадняцкага сялянства і беларускіх рабочых», гаварыў у адной са сваіх прамоў у канцы 1930 г. старшыня СНК БССР М. Галадзед. Пры гэтым ён спасылаўся на матэрыялы допыту арыштаванага Я. Лёсіка, які нібыта сам прызнаў уласныя заганныя ўстаноўкі, называючы пры гэтым лексемы *вызыск* (ужыванага замест класава прымальнага слова *эксплуатацыя*), *струна* (замест *хорда*), *вогнішча* (замест *фокус*), *страмопіс* (замест *парнаграфія*), *процівакутная* (замест *перпендыкуляр*) [588]. Варта падкрэсліць грамадскі характар публікацый Я. Мацюкевіча і М. Галадзеда: яны былі змешчаны ў папулярным друку ў адным нумары газеты поруч з шэрагам іншых матэрыялаў, надрукаваных з мэтай кампраметацыі «нацдэмаў». Прапагандысцкі характар публікацыі М. Галадзеда відаць і з таго, што да ліку «кулацкіх» у ёй залічаны такія кніжна-навуковыя лексемы, якія амаль не ўжываліся ў сялянскім асяроддзі (параўн., напрыклад: *струна* або *хорда*, *вогнішча* або *фокус, страмопіс* або *парнаграфія*).

На больш шырокі тэарэтычны і практычны лад новыя падыходы да фарміравання беларускай літаратурнай мовы былі пастаўлены ў раздзеле «Мовазнаўства» калектыўнай працы «”Навука” на службе нацдэмаўскай контррэволюцыі», падрыхтаванай супрацоўнікамі ўзначальванай С. Вальфсонам кафедры марксізму-ленінізму БАН. Яе аўтары палічылі, што лінгвістыка з’яўляецца «адным з найбольш паражоных контррэвалюцыйным нацдэмакра-

тызмам вучасткаў ідэалагічнага фронту БССР». У гэтай працы была абгрунтавана місія пралетарыяту як стваральніка новай мовы ў зацятай барацьбе з кансерватыўным класам: «Клас – прэтэндэнт на грамадскую гегемонію, малады рэвалюцыйны клас стварае сваю мову, афарбоўвае яе ў пэўныя класава-эмацыянальныя тоны, надае сваёй мове наўмысля абвостраныя формы, што колюць, рэжуць, б'юць. Ён насычае яе неалагізмамі, народжанымі патрэбнасцю палітычнага дня. Ён наўмысля часам грубаватай бравурнасцю адкідае філалагічныя каноны, устаноўленыя тымі класамі, з якімі ён уступае ў гістарычную сутычку, руйнуе моўную традыцыю ўсталяваных эпох. Клас жа рэакцыянер, клас, які сыходзіць з гістарычнай арэны, імкнецца максімальна процідзейнічаць гэтай варожай яму стыхіі. Ён імкнецца закансерваваць архаізмы мовы, ён абураецца «блюзнерскімі замахамі некультурнага, неадукаванага натоўпу» на свяшчэнныя прынцыпы моўнай традыцыі. Ён выкрывае "процінатуральнасць" і "ненавуковасць" новых моўных утварэнняў, якія выходзяць ад класа-рэвалюцыянера, <...> і выкідае над сваімі філалагічнымі цытадэлямі баявы сцяг пурызму – свяшчэннай непарушнай, непахіснай, закансерваванай чыстаты мовы гістарычна вырачаных класаў» [535, с. 92–93].

Такім чынам, у працы «Мовазнаўства» была сфармулявана неабходнасць ствараць новую літаратурную мову пры дапамозе «наўмысля абвостраных», «народжаных патрэбнасцю палітычнага дня» формаў. Лінгвістычная спадчына папярэдняга дзесяцігоддзя была ахарактарызавана ў працы «Мовазнаўства» выключна тэндэнцыйна, ёй, паводле аўтараў кнігі, былі ўласцівы наступныя прынцыпы:

1) увядзенне ў сучасную беларускую мову архаізмаў усялякага роду, у большасці запазычаных з рэлігійных помнікаў Сярэднявечча і гістарычных дакументаў той жа эпохі;

2) утварэнне новых слоў на прынцыпах пурызму – захавання «самабытнай» чыстаты беларускай мовы і выгнання з яе элементаў інтэрнацыяналізму;

3) ахова беларускай мовы ад пранікання ў яе саветызмаў і процідзеянне ўплыву на яе развіццё пралетарыяту;

4) барацьба з рускімі элементамі ў беларускай мове і максімальная паланізацыя яе [535, с. 114–115].

У працы багата прыводзіўся фактычны матэрыял, які, на думку яе аўтараў, ілюстраваў акрэсленыя падыходы.

З увагі на тое, што мова ў значнай меры русіфікаванага пралетарыяту не лічылася беларускімі мовазнаўцамі 1920-х гг. за вартую крыніцу абагачэння літаратурнай мовы, можна было чакаць, што будучае фарміраванне літаратурных нормаў будзе моцна адрозніваецца ад практыкі папярэдняга дзесяцігоддзя. Між тым прыведзеныя вышэй пракламаваныя ідэалагічна-палітычныя падыходы не адразу сталі выразным кіраўніцтвам да дзеяння для ўсіх людзей, якія маглі ўплываць на нармалізацыю літаратурнай мовы. Узус стаў змяняцца, аднак гэтымі зменамі былі незадаволены некаторыя

пісьменнікі. Тым часам дэзарыентаваны навязаным яму класавым падыходам да мовы Інстытут мовазнаўства свядома затрымліваў публікацыю некаторых сваіх важных падрыхтаваных да друку прац і ўхіляўся ад непасрэдных адказаў на бягучыя пытанні, якія паўставалі ў штодзённай практыцы. Так, з апублікаванай у красавіку 1932 г. нататкі «Пра мову ДВБ» можна даведацца, што «Інстытут мовазнаўства БАН у выданні слоўніка ідзе самымі маруднымі тэмпамі», што «звароты стыльрэдакцыі (Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. – *С. З.*) у БАН па пытаннях тэрмінаў і некаторых слоў засталіся без адказу», што «кафедра хіміі адмовілася даць дакладную ўстаноўку для ўжывання тых ці іншых тэрмінаў» і г. д. [714]. Калі ж трохі пазней у газеце «Літаратура і мастацтва» і ў часопісе «Кніга – масам» быў надрукаваны артыкул С. Астрэйкі «Нядбайліцы і бракаробы на моўным фронце», то ў ім перадусім вялася эмацыянальная гаворка пра непісьменнасць, уласцівую кніжнай прадукцыі ДВБ і Дзяржаўнага навукова-тэхнічнага выдавецтва Беларусі, але заклікі да класавага падыходу былі зроблены толькі ў агульным плане. Аўтара больш за ўсё турбавалі русізмы, пашыраныя ў тагачаснай выдавецкай практыцы. У прыватнасці, ён крытыкаваў ужыванне формаў тыпу *маючыяся, набалеўшыя, карасін, рашымасць, адрыцанні, паследства, ушчэрб, абман, староннікі, страданні* (замест іх ён лічыў патрэбнымі ўжываць формы *набалелыя, газа, рашучасць, адмаўленне, вынік, урон, ашуканства, прыхільнікі, пакуты*; зваротную форму дзеепрыметніка ён лічыў неабходным перадаваць даданым сказам). Аўтар паведаміў, што ў навукова-тэхнічным выдавецтве знайшоў ужытак падыход, паводле якога словы *газа, попел, шруба, варштат, выстарчальны* былі залічаны ў лік «правінцыялізмаў» і забаронены да ўжывання. Між тым, паводле С. Астрэйкі, раней партыйны і савецкі перыядычны друк «праз увесь час» ужываў гэтыя словы, і дагэтуль «ніхто яшчэ ніколі не скардзіўся, што яны незразумелыя». Аўтар паінфармаваў таксама, што ў гэтым жа выдавецтве меліся выдаваць загады пра забароненыя словы. На прыкладзе разгляду мовы кнігі М. Баравога і М. Іваноўскага «Шукальнікі ўтылю» (Мінск, 1932) аўтар палічыў магчымам сцвердзіць, што ў дадзеным выпадку мела месца «знеасабленне беларускае мовы, ператварэнне яе ў гаворку», «выразнае свядомае абмінанне ўласцівасцяў беларускае мовы» [533].

Ілюстрацыяй умацавання новага падыходу стала ідэалагічная кампанія, якая разгарнулася ў беларускім друку пасля публікацыі ў пісьменніцкім часопісе «Заклік» артыкула Пятра Глебкі «Праца над словам». У гэтай публікацыі гаворка ішла пра літаратурную вучобу маладых аўтараў.

У сваім артыкуле П. Глебка падкрэсліў патрэбу для літаратара мець добры густ да слова, умець адчуваць яго эмацыянальную афарбоўку. Спецыяльны пасаж пісьменнік прысвяціў і такой катэгорыі, як чысціня мовы. У прыватнасці, ён сцвердзіў, што кожная мова мае свае асаблівасці, «сваю форму, свае законы змен і развіцця. І таму, калі слова пападае з якое-небудзь мовы ў другую, яно перафармоўваецца там паводле законаў апошняе. Такі працэс зусім нармальны.

Але часта бывае, што ў мову пераносяцца словы з іншае без жаднай патрэбы і змен і тым самым толькі загрувашчваюць мову лішнім матар'ялам, парушаюць яе чыстату і стройнасць. Каб унікнуць гэтага, пісьменнік павінен аберагацца ад ужывання чужаземных слоў, русізмаў, паланізмаў і г. д., калі яны не прышчапіліся ў нашай мове і калі ў нас ёсць адпаведныя словы для выражэння тых жа паняццяў» [594, с. 87]. У артыкуле П. Глебка таксама назваў шэраг крыніц, да якіх павінны звяртацца маладыя аўтары, жадаючы добра засвоіць мову. Да ліку такіх крыніц былі залічаны: 1) «слоўны матэрыял, якім карыстаецца навакольная грамадскасць»; 2) літаратурная мова; 3) вусная народная творчасць; 4) слоўнікі беларускай мовы; 5) наватворы [594, с. 88].

Публікацыя П. Глебкі выклікала выбух арганізаванага абурэння. У газетах «Чырвоная змена», «Звязда», «Рабочий» былі надрукаваны артыкулы, у якіх публікацыя П. Глебкі кваліфікавалася як памылковая.

Так, аўтары газеты «Чырвоная змена» С. Вязін і У. Дуброўскі кваліфікавалі меркаванні П. Глебкі аб існаванні ў слова эмацыянальнай афарбоўкі як ідэалістычныя. С. Вязін і У. Дуброўскі абвінавацілі пісьменніка ў тым, што ў сваім артыкуле ён нічога не сказаў аб класавасці мовы і аб «класавых наватворах» тыпу *саветы, камуністы, ударнік, бядняк, інтэрнацыяналізм*, а прывёў толькі наватворы тыпу *безумоўна, адлюстраванне, носьбіт*. Аўтары «Чырвонай змены» выказалі прэтэнзію ў тым, што П. Глебка не арыентаваў маладых аўтараў на засваенне новых слоў *сацспаборніцтва, ударніцтва, прамфінплан*, але замест гэтага адсылаў маладых літаратараў да розных старых («архіўных») або скампраметаваных слоўнікаў[109]. Выступіўшы за захаванне чысціні мовы, П. Глебка, на думку С. Вязіна і У. Дуброўскага, «становіцца кулацкім архангелам з пяром у руках на ахове беларускай літаратурнай мовы» [586].

А. Кучар у артыкуле «Выкрыць памылкі, павысіць пільнасць» сцвердзіў, што ў артыкуле П. Глебкі ёсць «грубейшыя палітычныя памылкі». Такой памылкай з'яўлялася парада захоўваць чысціню мовы. На думку А. Кучара, П. Глебка спрыяў «уваскрашэнню тэорыі "самабытнасці" і свяшчэннасці народнае творчасці». У цэлым у артыкуле Глебкі недаацэнена значэнне мовы як «магутнага сродку ў к л а с а в ы м (выдзелена аўтарам. – *С. З.*) змаганні» [650].

Трафарэтныя абвінавачванні на адрас П. Глебкі ў значнай ступені знаходзім і ў артыкуле, апублікаваным у газеце «Звязда». Іх аўтар, нейкі Вішневіч, убачыў у артыкуле П. Глебкі «нацыянал-дэмакратычныя кулацкія ўстаноўкі», крытыкаваў пісьменніка за адсутнасць гаворкі аб класавасці мовы. Арыгінальным у артыкуле Вішневіча з'яўляецца хіба папаўненне пералічаных П. Глебкам крыніц

[109] Закіды ў тым, што ў слоўнікі 1920-х гг. наўмысна не ўключаліся лексемы, якія адлюстроўвалі новую рэчаіснасць, былі вельмі пашыранымі пунктамі крытыкі лексікаграфічнай літаратуры гэтага часу. З пачатку 1930-х гг. сітуацыя стала змяняцца, і такога тыпу лексіка фіксавалася ў слоўніках асабліва старанна. Гэта была не толькі беларуская практыка. У здзейсненае ў 1934 г. перавыданне нямецкага арфаграфічнага слоўніка Дудэна былі ўключаны шматлікія нацыянал-сацыялістычныя тэрміны, у сувязі з чым гэта выданне атрымала назву «Nazi-Duden» [63, с. 208].

абагачэння лексікі мовай партыйна-савецкага друку і партыйных дакументаў. Ужываючы ў сваім артыкуле словы *загрувашчваць, кагадзе, выйсце, жадны*, П. Глебка, на думку Вішневіча, «робіць стаўку на “самабытнасць” беларускай мовы». Між тым, паводле аўтара газеты «Звязда», «у класавай мове, мове класавага грамадства жывуць і змагаюцца між сабой некалькі слоў для азначэння аднаго і таго ж паняцця. І звычайна бывае, што так званае “чыстае”, г. зн. старое, слова з’яўляецца адпаведнікам кансерватыўнага класа, а “чужое”, г. зн. новае – рэвалюцыйнае. Возьмем такі прыклад: для назвы калгаса кулак ужывае такое “чыстае” беларускае слова, як *абязмежка*, для азначэння саветаў нацдэмы ўжывалі “чыстае” слова *рада* і г. д. Такім чынам, Глебка робіць тую ж буржуазную ўстаноўку, выпустошваючы класавы змест слова, а фактычна падобна да нацдэмаў хоча адгарадзіць мову ад уплыву “русізмаў”, слоў новага быту і пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва» [573].

У артыкуле «Уроки еще не извлечены» Р. Ляпіч пісаў: «Глебка стаіць не за культуру беларускай мовы, а за яе “самабытную” чыстату ў яўна нацыяналістычнай трактоўцы. Замест таго каб паказаць класавасць любой мовы, Глебка вядзе гутарку пра “густ на слова”, пра яго “каларыт”, “эмацыянальную афарбоўку”» [687].

Ідэалагічная прапрацоўка П. Глебкі ў сувязі з артыкулам «Праца над словам» была даволі паспяховай, і ў спецыяльным лісце ў рэдакцыю пісьменнік пакаяўся ў тым, што ў яго артыкуле быў рэалізаваны «не класавы, а фармалістычны падыход да мовы» [595]. Будучыя аўтары, якія пісалі б пра асаблівасці функцыянавання ў беларускай мове катэгорыі чысціні мовы і шляхі папаўнення яе слоўнікавага складу, мусілі мець на ўвазе ўрокі гэтай павучальнай ідэалагічнай кампаніі і ўсвядоміць, што нельга адстойваць самабытнасць беларускай мовы, нельга выказвацца супраць русізмаў, нельга весці гаворку пра каларыт слова і яго эмацыянальную афарбоўку. Мова навуковых і публіцыстычных публікацый павінна была ў поўнай меры засвойваць палітычную мову.

Своеасаблівае падагульненне папярэдніх публікацый у галіне культуры мовы і моўнага будаўніцтва наогул можна знайсці ў прэамбуле да прынятай у жніўні 1933 г. пастановы «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», дзе ў двух сказах двойчы ўжываліся формы дзеяслова *засмечваць*: «Нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, ствараў штучны бар’ер паміж беларускай і рускай мовамі і з а с м е ч в а ў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі. Існуючы беларускі правапіс значна з а с м е ч а н указанымі нацыянал-дэмакратычнымі плынямі і таму падлягае зменам» (вылучэнні нашы. – *С. З.*) [519].

З прэамбулы пастановы вынікае, што гэты дакумент, акрамя экспліцытнага, «вузкага» правапіснага зместу, адлюстраванага ў канкрэтных пунктах пастановы, меў і больш шырокі літаратурна-моўны і культурна-моўны кантэкст. З гэтага часу дадзеная вымога вызваляцца ад «архаізмаў» і «вульгарызмаў» стала

асабліва актыўна рэалізоўвацца ў практыцы розных выданняў. Рэзкае дыстанцыяванне ад папярэдняй моўнай практыкі стымулявалася той акалічнасцю, што ў грамадска-лінгвістычных дыскусіях гэтага часу шырока выкарыстоўваўся прыём партрэтызацыі (гл. 6.1). Ужыванне «нягодных» моўных сродкаў прыраўноўвалася ў гэты час да аперыравання «нягоднай» ідэалогіяй, а гэта ў час абвостранай «класавай барацьбы» магло мець кепскія наступствы для ўжывальнікаў такіх моўных сродкаў. Таму многія выдавецтвы і газеты ў гэты час лічылі за лепшае ці проста былі змушаны радыкальным чынам змяніць свае моўныя рэпрэзентацыі.

Паколькі рэформа беларускай мовы 1933 г. не была падтрымана ў Заходняй Беларусі, а Беларускае навуковае таварыства ў Вільні падрыхтавала з гэтай нагоды спецыяльны пратэст, укараненне рэформы ў жыццё ў БССР уключала ў сябе скіраваную ў адказ на захады заходнебеларускіх дзеячаў контрпрапагандысцкую кампанію. 8 снежня 1933 г. старшыня СНК М. Галадзед прыняў дэлегацыю пісьменнікаў і навуковых работнікаў і выступіў перад імі з вялікай прамовай наконт рэформы правапісу. У выступленні старшыня СНК неаднаразова закранаў аспекты, якія датычыліся культуры мовы. Так, ён сказаў, што «контррэвалюцыйныя беларускія нацдэмы ўсімі сваімі і сваіх агентаў сіламі імкнуліся выгнаць з нашай мовы ўсякае новае слова, замяніць яго “самабытнай” адсябяцінай». М. Галадзед сцвердзіў, што дэкрэт урада «рашуча ачышчае беларускую мову ад <...> сярэдневяковых архаізмаў і буржуазных вульгарызмаў, насаджаных беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыяй». Асаблівай крытыцы старшыні СНК было падвергнута слова саўгач ‘поршань’, якое, як і іншыя падобныя словы, на думку М. Галадзеда, узнікла з мэтай «аддзяліць беларускую мову ад рускай для падрыхтоўкі адрыву БССР ад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» [590].

11, 13 і 15 снежня 1933 г. быў праведзены сход пісьменнікаў г. Мінска, галоўным дакладчыкам на якім выступіў А. Александровіч. Ён, у прыватнасці, казаў: «”Тэорыі” контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму пра так званы “самабытны” шлях развіцця беларускае мовы крыюць у сабе выразную антысавецкую сутнасць. Нацдэмы <...> змагаліся за адрыў мовы ад жыцця, ад гаворак пралетарыяту і працоўнага сялянства, рашуча выганялі з мовы элементы інтэрнацыяналізму, змагаліся супраць саветызмаў – слоў, народжаных пралетарскай рэвалюцыяй, супраць слоў, аднародных з рускай мовай. Нацдэмы, паланізуючы мову, змагаліся за ўтварэнне буржуазнай рэспублікі, за падначаленне працоўных савецкай Беларусі фашысцкаму ладу жыцця» [525].

Прамоўцы на сходзе аднадушна падтрымалі праведзеную ўрадам рэформу. Так, напрыклад, Кандрат Крапіва сцвярджаў: «...гэта “чыстата” мовы дасягалася (лінгвістамі-«нацдэмамі». – *С. З.*) тым, што вытручваліся ўсе тыя элементы, якія былі агульнымі для рускай і беларускай моў, уводзілася маса паланізмаў, ствараліся штучныя наватворы, абы толькі зрабіць мову найменш

падобнай да рускай» [646, с. 49][110]. На думку М. Хведаровіча, «нацыянал-дэмакраты» стараліся ўводзіць у беларускую мову «як найбольш паланізмаў, баючыся, хаця каб якое-небудзь слова не было падобна на рускае, хаця б канчатак якога-небудзь слова не напамінаў рускі канчатак» [759, с. 59]. Паводле Я. Бранштэйна, паланізмы «маюць адно прызначэнне: працягнуць контррэвалюцыйную інтэрвенцыянісцкую тэорыю адрыву БССР ад СССР і «арыентацыю на Захад»» [555, с. 78]. Згодна з меркаваннем Р. Мурашкі, «ужыванне ў творчасці архаізмаў з'яўляецца ні чым іншым, як звядзеннем разрахункаў з сучаснасцю» [703, с. 64].

Правядзенне моўнай рэформы выклікала цэлы шэраг публікацый лінгвістычнага характару розных аўтараў, у якіх яны падтрымлівалі гэту рэформу і ў яе кантэксце крытычна разглядалі свой уласны або чужы вопыт моватворчасці і моваўжывання.

Так, 31 студзеня 1934 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» былі надрукаваны «Самакрытычныя заўвагі» Ю. Дрэйзіна, у якіх аўтар асэнсоўваў свае памылкі ў якасці ўкладальніка выдадзенай у 1926 г. музычнай тэрміналогіі і перакладчыка многіх вакальных твораў на беларускую мову. На новым этапе ён вырашыў звярнуцца да тэмы музычнай тэрміналогіі ў сувязі з разгорнутай у Беларусі кампаніяй барацьбы з «нікому не зразумелымі паланізмамі і архаізмамі». Паводле ўласнай ацэнкі, у сваёй папярэдняй дзейнасці Ю. Дрэйзін нячаста выкарыстоўваў «архаізмы». Як і іншыя тагачасныя аўтары, у гэтым артыкуле Ю. Дрэйзін называў «архаізмамі», верагодна, у тым ліку наватворы 1920-х гг., якія не замацаваліся ва узусе або былі выдалены з яго ў пачатку 1930-х гг. Што да паланізмаў, то аўтар артыкула вылучыў свае колішнія ўяўныя марфалагічныя паланізмы тыпу *трэля, педаля, квінтоля, секстоля, ансамбля, вальц*; акрамя таго, Ю. Дрэйзін апраўдваў сябе тым, што ў перакладах вакальных твораў ён не ўжываў такіх слоў, як *ва́да* 'недахоп', *гмах* 'вялікі будынак', *плён* 'сабраны ўраджай' і інш. [614]. Як відаць з прыведзенага, аўтар лічыў магчымым выкасоўваць з беларускай мовы многія паланізмы незалежна ад ступені іх засвоенасці.

Практыка дырэктыўнай забароны на ўжыванне пэўных «класава нягодных» лексем была выкарыстана ў калектыўным артыкуле «Нашы абвінавачванні Віцьбічу». «Адной з асноўных палітычных памылак» пісьменніка было названа тое, што ён «сваёй мовай уносіць у беларускую мову цэлыя дзесяткі паланізмаў, архаізмаў і штучных наватвораў». Да ліку недазволеных да ўжывання ў беларускай мове паланізмаў аўтарамі былі залічаны наступныя лексемы: *навытліў* 'наводмаш, наводліў', *гзымса* 'карніз', *поўраз* 'вяроўка', *хатні спрат* 'хатнія рэчы', *марэнне* 'трызненне', *гісэрня* 'ліцейная

[110] Ацэначныя спалучэнні тыпу «штучныя наватворы» ў беларускай лінгвістыцы найбольш актыўна выкарыстоўваюцца акурат пасля рэформы 1933 г. Такія выразы (veštačke tvorevine) часта былі ва ўжытку ў прысвечаных харвацкай мове матэрыялах югаслаўскага часопіса «Naš jezik» [493].

майстэрня’, *дукаты* і *шэлягі* (у значэнні ‘грошы’), *змёрлыя* ‘памерлыя’, *мустваа* ‘мужнасць’, *скрыдлы* ‘крылы’, *акрутны* ‘не(па)збежны’, *валіза* ‘чамадан’, *спадкаемнасць* ‘спадчына’, *мосяжны* ‘латуневы’, *цвінтар* ‘царкоўны двор’, *спейжарня*, *кашары* ‘казармы’, *спронжкі* ‘спражкі’, *пудла* ‘спалохана’, *супарад* ‘супрацоўнік’. Адной з прычын такога ўжывання з’яўлялася, на думку аўтараў калектыўнага артыкула, вывучэнне Ю. Віцьбічам мовы «па наццэмаўскіх слоўніках» [637]. Сам факт трактоўкі выкарыстання пісьменнікамі тых або іншых слоў як «палітычных памылак» на падставе залічэння гэтых слоў у «паланізмы», «архаізмы», «правінцыялізмы» ва ўмовах адсутнасці нарматыўных слоўнікаў вёў да ўзбуджэння ў асяроддзі карыстальнікаў беларускай літаратурнай мовы грамадскага псіхозу, змушанай арыентацыі толькі на самыя агульныя прынцыпы словаўжывання, да нівеліравання мовы, да заблытвання карыстальнікаў мовай адносна таго, якія лексемы з’яўляюцца прымальнымі і нарматыўнымі, а якія – не.

На ход дыскусіі аб культуры мовы ў Беларусі ў 1934-м і наступныя гады моцна паўплывала спрэчка аб літаратурнай мове ў рускай літаратуры. Выдатную ролю ў гэтай дыскусіі сыграў славуты пісьменнік М. Горкі.

Спачатку ў канцы студзеня ў «Литературной газете» ён выказаў незадавальненне ў сувязі з тым, што падчас дыскусіі аб рамане пісьменніка Ф. Панфёрава «Брускі» апошні бараніў свае права карыстацца словам *скукожиться* – паводле М. Горкага, «недарэчным», «штучным» і «пачварным». На думку Горкага, расійскую літаратуру таго часу ўжо не павінен быў гнясці слоўнік Даля, увогуле ж у творчасці Панфёрава выявілася тэндэнцыя «не заўважаць новай мовы, створанай рэвалюцыяй» [599]. Потым у сярэдзіне лютага ў «Адкрытым лісце Серафімовічу» Горкі паставіў пытанне аб «бязлітаснай барацьбе за ачышчэнне літаратуры ад слоўнага хламу», аб «слоўным штукарстве», «пачварных», «дзікіх слоўцах», «старэчым пляценні слоўнай лухты» [600]. Наступная публікацыя Горкага на моўную тэму – артыкул «Аб спрытнасці» – з’явілася на старонках «Праўды». Паводле аўтара, у літаратуры патрэбны былі «баявыя, рэвалюцыйныя адносіны да работы слоўнага мастацкага адлюстравання», што, у сваю чаргу, прадугледжвала «неабходнасць змагацца супраць засмечвання мовы смеццем пачварна прыдуманых слоў» [601].

18 сакавіка 1934 г. у газеце «Правда» ў суправаджэнні вялікага рэдакцыйнага паведамлення быў надрукаваны артыкул Горкага «Аб мове». Рэдакцыя газеты цалкам салідарызавалася з пісьменнікам у яго барацьбе за «якасць літаратурнай мовы, за далейшы ўздым савецкай літаратуры». У сваім артыкуле Горкі чарговы раз вылучыў задачу «арганізацыі мовы, ачышчэння яе ад паразітычнага хламу». Барацьба за чысціню, за сэнсавую дакладнасць, за «вастрыню мовы» была кваліфікавана ім як «барацьба за зброю культуры. Чым вастрэйшая гэтая зброя, чым больш дакладна накіравана, тым больш яна пераможная. Менавіта таму адны заўсёды імкнуцца прытупляць мову, іншыя – наточваць яе» [602]. Названая дыскусія і непасрэдна горкаўскія артыкулы спрычыніліся да даволі

строгай рэгламентацыі моўных сродкаў у рускай мастацкай літаратуры другой паловы 1930-х гг. і паўплывалі на характар развіцця рускай літаратурнай мовы таго часу ўвогуле. У расійскай лінгвістыцы 1930–1940-я гг. характарызуюцца як час «умацавання літаратурна-моўных нормаў». Разам з тым даследчыкі адзначаюць, што ў гэты час «з'явіліся рэцыдывы пурызму, літаратурнае маўленне <...> часта абяскроўлівалася і спрашчалася <...> Паняцце літаратурнасці часта звужалася да паняцця нейтральнага стылю» [276, с. 4–5]. Артыкулы М. Горкага мелі непасрэдны водгук і ў Беларусі.

Праз чатыры дні пасля публікацыі ў газеце «Правда» артыкул Горкага «Аб мове» быў надрукаваны ў перакладзе на беларускую мову ў газеце «Літаратура і мастацтва». Паўторна твор М. Горкага быў надрукаваны па-беларуску ў кнізе «Пісьменнік і мова» [721]. З гэтага часу ў многіх беларускіх публікацыях стаў улічвацца досвед, адлюстраваны ў гэтым артыкуле.

Калі гаварыць пра ўплыў падзей, якія адбываліся ў тагачаснай расійскай лінгвістыцы, на беларускае мовазнаўства, то можна згадаць яшчэ дыспут аб літаратурнай мове, які адбыўся вясной 1934 г. у ленінградскім Доме вучоных; справаздача з мерапрыемства была надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» [617]. Да пэўнай актывізацыі абмеркавання праблем культуры мовы ў беларускім партыйным друку спрычынілася таксама публікацыя ў 1934 г. на старонках газеты «Правда» перадавога артыкула «О чистоте языка наших газет». Аднак ніякія падзеі ў расійскай лінгвістыцы гэтага часу не могуць быць параўнаны па сіле свайго ўздзеяння на беларускую лінгвістыку з артыкуламі М. Горкага. К. Вулхайзер зазначае, што ў 1934 г. назіраўся «фактычна поўны перанос у беларускі кантэкст [расійскіх] дыскурсаў, якія мелі сваёй мэтай змаганне з "правінцыялізмамі", "вульгарызмамі", "спрашчэнствам" і "танным народнічаннем" у творах расійскіх пісьменнікаў» [515, с. 329].

Пра тое, што дыскусія 1934 г. пра культуру мовы ў беларускай лінгвістыцы мела разгортвацца пад знакам выпрацаваных у цэнтральным друку падыходаў, сведчыў ужо першы сказ з прадмовы тагачаснага дырэктара Інстытута мовы БАН, «пралетарскага» пісьменніка А. Александровіча да зборніка «Пісьменнік і мова»: у ім гаварылася пра тое, што «пытанні якасці мовы мастацкага твора, узнятыя А. М. Горкім, набываюць выключна вялікае палітычнае значэнне для моў усіх народаў СССР». Аўтар паведаміў, што ў Беларусі барацьба за ачыстку мовы ад класава-шкодных плыняў асабліва востра разгарнулася ў сувязі з пастановай СНК БССР аб рэформе беларускага правапісу. У прадмове ставілася задача ачысціць «ад слоўнага хламу творчасць усіх пісьменнікаў, нягледзячы на асобы. Упартасць некаторых пісьменнікаў, нежаданне прызнаць неабходнасці чысткі мовы ад старасвецкага гнілля будзе насіць класава варожы нам характар». На думку А. Александровіча, адной з асноўных задач «нацдэмаў» было «засмечванне нашай мовы архаізмамі і буржуазна-нацыяналістычнымі "неалагізмамі"». У выкарыстанні рознымі аўтарамі самабытнай лексікі, «лексікі "дыялектаў"» А. Александровіч убачыў своеасаблівы «прыём, метад беларускай контррэвалюцыі» [527, с. 5–7].

Аўтары зборніка «Пісьменнік і мова» ў канкрэтных моўных з’явах нязменна бачылі адзнакі выяўлення класавых антаганізмаў. Так, М. Клімковіч лічыў, што ў барацьбе супраць засмечвання мовы «важна браць не голыя асобныя словы, а словы разам з іх класавым значаннем, якое яны набываюць у тэксце <...> Справа ў класавай функцыі слова». Выяўленне класавай функцыі слоў у неагляднай колькасці кантэкстаў розных твораў у спалучэнні з палітычнымі перакананнямі і вынаходлівасцю розных аўтараў, якія браліся гэта рабіць, давалі багаты плён на ніве пошуку «класава варожых» слоў. Так, астракізму ў артыкуле М. Клімковіча падлеглі ўжываныя рознымі беларускімі пісьменнікамі лексемы *звонка* ‘бубна’, *хатулёк, бальшак, дапякаць сябе, нікаць, навідну, абрамізіць, аблямованы, кручаная* ‘звар’яцелая’, *кніжніца* ‘бібліятэка’, *саць-мець, закаўраш, насамперад, выпал* ‘залп’, *кагадзе, кашары* і інш. Пісьменнік лічыў неабходным «адкінуць» з беларускай мовы «нягодны хлам, згніўшыя і струхлеўшыя архаізмы і нацдэмаўскія наватворы», бо намаганнямі «нацыянал-дэмакратаў» засмечванню мовы была нададзена «класавая функцыя – змагацца супроць партыі і пралетарыяту» [638].

Клопатам пра барацьбу за чысціню мовы быў прасякнуты і артыкул Я. Коласа «Мова М. Лынькова па раману “На чырвоных лядах”», які пачынаўся са спасылкі на меркаванні М. Горкага. Аўтар сцвердзіў, што такая барацьба ў беларускай мове набывае вельмі востры і актуальны характар, і «трэба мець вельмі вернае класавае чуццё, каб правільна падысці да ацэнкі таго ці іншага слова». Паводле пісьменніка, на парадку дня ў той час стаяла актуальныя пытанне «ачышчэння літаратурнай мовы ад нацдэмізмаў». Да ліку непрымальных у творы М. Лынькова правінцыялізмаў Я. Колас залічыў наступныя: *пракавешны, пуплы* ‘дзеці’, *не ўжадобку, мутарна, згараць, петавацца* ‘біцца, таміцца, марнавацца’, *субар* ‘сумесь адыходаў ад рознага збожжа’, *уныпіць (позірк)*, *малачайня* ‘малачарня’, *канапаціны, арэлі, скукарэчаны, засіліць, прыплікнуць, прымружаны, вобмегам, собіла, ніціцца* ‘нікнуць, бедніцца’, *нягеглы, лежанкі* і інш. Адначасова з адданнем даніны барацьбе за чысціню мовы класік, падобна, ускосна рэагаваў на некаторыя меркаванні, якія былі выказаны падчас кампаніі супраць П. Глебкі. У прыватнасці, ён заўважыў, што слова не з’яўляецца рэальным прадметам, які можна вымераць і ўзважыць: «Тут мы маем справу з густам, з пачуццём мовы, з эстэтычнай яго ацэнкай, а гэтыя катэгорыі не маюць акрэсленых правіл і сталых норм» [644].

У артыкуле «Даволі “шындзёліць” і “скогліць”» С. Куніцкі спыніўся на асаблівасцях словаўжывання некаторых паэтаў. Паводле аўтара, мова вершаў У. Хадыкі засмечана шматлікімі правінцыялізмамі і архаізмамі: *цвішша, скогляць, аблудны, беспратхлання, шкуматы, ярчук, шындзёлы, вомшары, нахлашч, бруяць* і інш. У В. Казлоўскага «адсутнічае тая адточанасць, класавая завостранасць слова, пра што гаворыць А. М. Горкі». Стылёвыя асаблівасці паэзіі В. Маракова, у ацэнцы аўтара, цалкам знаходзіліся «ў палоне мяшчанскай ідэалогіі». На мове паэзіі А. Зарыцкага таксама пакідалі свой след

«нацдэмаўскія і мяшчанскія ўплывы», у выніку чаго паэт ужываў наступныя формы і словы: *кагадзе, слухацьме, напрасцень, гугнявіць, ятрыць, баштон, стыр* і інш. [649].

Найбольш тэарэтычна ўгрунтаваным і адначасова найбольш рэзкім у зборніку «Пісьменнік і мова» быў артыкул «Моўныя тэорыі і практыка контррэвалюцыйных лідараў “Узвышша”» вучонага сакратара Інстытута мовазнаўства П. Юргелевіча. Разглядаючы «архаізмы і вузкія кулацка-шляхоцкія правінцыялізмы», аўтар спаслаўся на ленінградскую кнігу А. Іванова і Л. Якубінскага «Очерки по языку», знаёмства з якой дазволіла П. Юргелевічу прыйсці да высновы аб тым, што «архаізмы і кулацкія словы амаль сінонімы». Да ліку архаізмаў і правінцыялізмаў у творчасці У. Дубоўкі П. Юргелевіч залічыў наступныя словы: *чмарнасць, змірсці, віюха, наўда, занізь, суздром, хатуль, купава, прывён, акавіта, накнованы, дзындра, выгадка* ‘выдумка’, *дзейка, атаўбавацца, сусціґі, кагадзе, кунега, дойлід, дзіда, балона* і інш. [772].

Выданне ў 1934 г. у Беларусі зборніка «Пісьменнік і мова» знаменавала сабой спробу праз нібыта навуковую крытыку цалкам падпарадкаваць словаўжыванне тагачасным «класава-завостраным» тэорыям, якія імкліва выходзілі наперад, сведчыла аб прыцягненні лінгвістычнай навукі на службу бягучай палітычнай кан’юнктуры. Гэтая асаблівасць была заўважана адным з сучаснікаў, заходнебеларускім рэцэнзентам зборніка, які сцвердзіў, што «ў аснову кніжкі паложаны не падставы навукі, а сучаснай савецкай палітыкі» [743, с. 173].

У рэчышчы ініцыяванай у 1934 г. газетай «Правда» кампаніі барацьбы з незразумелымі абрэвіятурамі, замежнымі словамі і газетным бюракратызмам увогуле ў асобных беларускіх публікацыях гэтага года з’явілася тэма бюракратызацыі газетнай мовы. Так, у адной з нататак крытыкавалася выкарыстанне складанаскарочаных слоў («дзікіх словазлучэнняў») *картфабрыка, дрэўмаса, мабсродкі*, абрэвіятур *ОПТЭ, КУЧ*, а таксама іншамоўнага дзеяслова *абарціравацца* замест дапушчальнага *абартавацць* або прымальнага *звергнуць* (*кабыла абарціравалася* замест *кабыла звергла*) [517].

Пытанні культуры мовы ў 1934 г. нераўнадушна абмяркоўваліся і ў артыкуле К. Крапівы «Пра перабудову і “недабудову”», напісаным з нагоды партыйнай «чысткі» Ц. Гартнага. Аўтар прыйшоў да высновы аб тым, што ад мовы Ц. Гартнага «павявае глыбокай правінцыяльнасцю», і прывёў шэраг ужываных пісьменнікам «правінцыялізмаў» (*добрахаць. мітрэнга, дрэнчыць, ралкі, пілявы, займаздароў, мэрам, наператоч, буркліва, коўць, апука, ласне, нялапы*) [647].

У друку сярэдзіны – другой паловы 1930-х гг. працягвалі з’яўляцца артыкулы, прысвечаныя культуры журналісцкай працы, у якіх закраналіся і пытанні культуры мовы. Напрыклад, у артыкуле «Калі ж вы навучыцеся граматна пісаць?» Я. Герцыка і М. Васілеўскага ў суладнасці з кампаніяй барацьбы з незразумелымі скарачэннямі аўтары крытыкавалі ўжыванне на старонках ушацкай газеты абрэвіятур *ДСК, НСШ, райана, райза, проц., с-с, м-с, цэнт.* і

інш. [591]. З артыкула М. Карпачова «Культуру мовы ў школе – на належную вышыню» вынікае, што пасля з'яўлення артыкулаў пра культуру мовы М. Горкага, прынамсі, у некаторых навучальных установах пытанні культуры мовы сталі рабіцца важным пунктам педагагічнай работы. Аўтар паведаміў, што Рэчыцкі педагагічны тэхнікум, у якім ён працаваў, «з мінулага года рашуча павёў барацьбу за культуру мовы студэнтаў» [632].

У надрукаваным 11 мая 1938 г. у газеце «Правда» перадавым артыкуле «Савецкая навука» адзін абзац быў прысвечаны дзейнасці мовазнаўцаў, пра якіх гаварылася, што, «займаючыся разнастайнай экзотыкай, яны ў той жа час праходзяць міма такіх актуальных задач, што закранаюць інтарэсы шырокіх народных мас, як барацьба супраць псавання рускай мовы, барацьба супраць засмечвання ўкраінскай і беларускай моў паланізмамі» [740].

Відавочнае перайманне поглядаў М. Горкага можна назіраць у артыкуле Я. Казекі «Аб чыстаце беларускай мовы» (1939). На думку аўтара, нягледзячы на тое што беларускія пісьменнікі правялі вялікую працу па ачышчэнні літаратурнай мовы «ад паразітыўнага слоўнага смецця», урокі «шкодніцтва» ў гэтай галіне былі ўлічаны недастаткова. Паводле Я. Казекі, у апошнія гады пісьменнікі гэтым пытанням аддавалі мала ўвагі, у выніку ў літаратурнай мове «бытуе мноства мёртвых слоў, занесеных з польскай мовы. У жывой беларускай народнай мове яны не бытуюць, а застаюцца паразітыўным хламам кніжнай мовы». Крытыку пісьменніка выклікалі лексемы *патэльня, борзда, менавіта, скрыдлы, віншаваць, цёнгля, крочыць, жычыць*. Насуперак таму, што ўсе яны былі звычайнымі не толькі ў творах беларускіх пісьменнікаў пачатку XX ст., але і пісьменнікаў XIX ст., аўтар кваліфікаваў іх як «штучна занесеныя нацыянал-дэмакратамі». Выкарыстанне лексем, якія «па традыцыі пераходзяць з кнігі ў кнігу», уласна арыентацыю на літаратурную традыцыю Я. Казека прыраўняў да адрыву пісьменнікаў ад жывой народнай мовы. Аўтар ігнараваў факты ўкарэненасці некаторых з названых слоў і патрабаваў іх скасавання незалежна ад ужывальнасці. Я. Казека бачыў вялікую розніцу паміж беларускай літаратурнай мовай 1920-х гг. і сучаснай яму мовай. Крытык дакараў Р. Мурашку за тое, што апошні «карыстаецца старым убогім лексіконам, характэрным для беларускай літаратуры год дзесяць назад» [630].

Вясной 1940 г. адбылася дыскусія паміж газетамі «Звязда» і «Літаратура і мастацтва». Падставу для дыскусіі дало крытычнае меркаванне «Звязды» наконт таго, што «асобныя пісьменнікі знаходзяцца яшчэ на паваду ў старых "мовазнаўцаў", топчуцца на месцы ў галіне ачышчэння беларускай мовы ад усяго наноснага і непатрэбнага», а таксама адрасаваная рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» заўвага адносна «ўпорнага ігнаравання» на старонках газеты слоў *таржаство* і *чэсць*. На закіды «Звязды» рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» адказала вялікім рэдакцыйным артыкулам.

Паводле рэдакцыйнага артыкула, фарміраванне беларускай літаратурнай мовы ў гэты час ішло па двух напрамках: а) ачышчэнне літаратурнай мовы і

б) абагачэнне літаратурнай мовы. У інтэрпрэтацыі «лімаўскага» аўтара пытанне ачышчэння літаратурнай мовы асаблівых праблем не выклікала: выдаляцца мелі «незразумелыя народным масам архаізмы, правінцыялізмы і паланізмы»; увогуле ж наяўны узус паказваў, што «гэта работа ўжо блізка да свайго завяршэння». Намнога складаней, паводле газеты «Літаратура і мастацтва», сітуацыя была з абагачэннем мовы.

Аўтар «лімаўскага» артыкула пагаджаўся з тым, што ў сферы палітычнай тэрміналогіі і тэрмінаў дакладных навук існавала патрэба абагачаць беларускую мову за кошт «родственай і блізкай, багатай і дасканала развітай рускай мовы. Тут зроблена нямала». Аднак, як сцвярджаў аўтар, у галіне запазычанняў з рускай мовы «не знойдзены агульныя ўстаноўкі». Узбагачэнне лексікі беларускай мовы газетамі адбывалася такім чынам, што «разбураюцца “слоўныя гнёзды”, стыкаюцца “лоб у лоб” розныя разуменні, пераблытваецца тэрміналогія». На думку аўтара артыкула, рэдактары і стылісты ДВБ «з усяе сілы стараюцца нівеліраваць літаратурную мову, знішчыць усё яе сінанімічнае багацце, вытруціць з мовы ўсе яе фарбы, ператварыць яе ў штосьці шэрае і невыразнае». Адхіленні ад нормаў беларускай мовы ў гэты час станавіліся настолькі відавочнымі і шматлікімі, яны настолькі дэманстратыўна парывалі з папярэдняй практыкай, што, паводле «лімаўскай» публікацыі, гэтыя новыя рысы моўнага узусу часта атрымоўвалі назву «чарговых моўных адкрыццяў». Паводле аўтара «Літаратуры і мастацтва», у розных выданнях у гэты час ігнараваліся агульнавядомыя беларускія словы, пры гэтым былі падставы гаварыць не пра асобныя выпадкі, але пра «прынцыповую лінію» [706].

Артыкул «Літаратуры і мастацтва» выклікаў крытычны адказ газеты «Звязда». Абгрунтаваннем выкарыстання лексем *звергнуць, абнішчанне* для аўтара публікацыі ў «Звяздзе» сталі факты фіксавання гэтых слоў у адрэдагаваным «лепшымі мовазнаўцамі» «Кароткім курсе гісторыі ВКП (б)». Не згадзіўся аўтар «Звязды» і з заўвагамі наконт слоў *таржаство, чэсць, багатыр,* зусім прымальнымі, на яго думку, у беларускай мове. Аўтар «звяздоўскай» публікацыі сцвердзіў, што беларуская мова сапраўды нівеліруецца і збядняецца, але акурат праз недапушчэнне ў яе слоў, роднасных з рускай мовай. «Нікчэмнымі патугамі» аўтар «Звязды» назваў спробы «лімаўскага» аўтара «цягнуць развіццё нашай мовы і культуры не наперад, а назад» [712].

У палеміцы паміж газетамі «Літаратура і мастацтва» і «Звязда» выявілася неаднастайнасць падыходаў да фарміравання беларускай літаратурнай мовы, уласцівая розным выданням. Калі залежныя ад бягучай кан’юнктуры на скасаванне нацыянальнай адметнасці беларускай мовы адны выданні культывавалі моцна русіфікаваную версію беларускай літаратурнай мовы, то такая пазіцыя аказалася непрымальнай для органа Саюза пісьменнікаў. Найбольш вострым пунктам сутыкнення паміж гэтымі выданнямі стала стаўленне да новых запазычанняў з рускай мовы. Калі рэдакцыю «Звязды» непакоіла недапушчэнне ўжывання ў беларускай мове многіх русізмаў, то рэдакцыя газеты «Літаратура і

мастацтва», наадварот, звяртала ўвагу на тое, што ўжыванне ў друку шматлікіх русізмаў пярэчыла ўсталяваным у беларускай мове нормам, разбурала іх.

На адрозненне ад публікацый 1920-х гг. артыкулы на тэму культуры беларускай мовы наступнага дзесяцігоддзя моцна залежалі ад агульных ідэалагічна-палітычных установак у галіне беларускага і савецкага мовазнаўства гэтага часу. У кантэксце дзяржаўнай палітыкі тагачаснае «ачышчэнне» беларускай мовы ад непрымальных рыс у першай палове 1930-х гг. ішло поруч з калектывізацыяй сельскай гаспадаркі і «чысткамі» ў партыйным асяроддзі. Уласцівы гэтаму часу недавер да сялянства ў сферы ідэалогіі пераносіўся ў сферу лінгвістыкі, дзе падлягалі астракізму шматлікія спецыфічныя («сялянскія») рысы беларускай мовы. Кампанія за «ачышчэнне» рускай мовы, якая ажыццяўлялася ў Савецкім Саюзе ў 1930-я гг. праз прыёмы пурыстычнай ідэалогіі, мела на мэце сімвалічную легітымізацыю савецкай дзяржавы-партыі [461, с. 135]; аналагічныя працэсы працякалі ў гэты час і ў іншых савецкіх мовах, у тым ліку ў беларускай. Неад’емным інструментам здзяйснення палітычнай улады ў гэты час былі ідэалагічныя кампаніі, якія прадвызначалі характар лінгвістычных дыскусій і выказваныя падчас гэтых дыскусій погляды. З-за неспрыяльнага ідэалагічнага і маральна-псіхалагічнага клімату на працягу 1930-х гг. моцна змяніўся моўны узус, якому нярэдка былі ўласцівы нівеліраванне, панаванне няправільна зразуметага нейтральнага стылю. У беларускай літаратурнай мове ў гэты час радыкальна звузілася выкарыстанне спецыфічнай народнай лексікі, паланізмаў і формаў, тоесных з польскай мовай, затое бескантрольна сталі пранікаць у літаратурнае маўленне русізмы. Адвольнасці поглядаў на развіццё беларускай літаратурнай мовы і на прымальнасць *resp.* непрымальнасць многіх канкрэтных слоў спрыяла адсутнасць у гэты час нарматыўных лексікаграфічных прац.

## 6.2. ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЫ 1930-х гг.

### 6.2.1. ПАДРЫХТОЎКА РУСКА-БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА Ў 1931–1935 гг.

У першай палове 1937 г. у Мінску быў выдадзены «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй А. Александровіча, які з самага пачатку здабыў неадназначную рэпутацыю. Слоўнік крытыкаваўся за надзвычайную русіфікаванасць беларускай часткі [392, с. 185], а пасля арышту 1 ліпеня 1938 г. А. Александровіча – яшчэ і за тое, што яго падрыхтаваў «вораг народа». З другой паловы 1938 г. ім было забаронена карыстацца. Выдадзены ў 1928 г. РБС-28 быў выведзены з ужытку яшчэ раней, у 1930 г.

Такім чынам, як мінімум шэсць гадоў (з 1931-га па 1936-ты) беларускае грамадства не мела ніякага нарматыўнага руска-беларускага слоўніка. Такі тэрмін здаецца занадта працяглым. Прыгадаем, што РБС-28 быў падрыхтаваны за 2 гады, а БРС-26 – усяго за чатыры месяцы [80, с. 56]. Чаму слоўнік пад рэдакцыяй А. Александровіча рыхтаваўся так доўга? 10 жніўня 1938 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» навуковы сакратар Інстытута мовы К. Гурскі паведамляў, што «каля чатырох год марынуецца руска-беларускі слоўнік, ужо падрыхтавана трэцяя рэдакцыя, першыя дзве былі зроблены ворагамі народа» [605]. «Другая рэдакцыя» тут – гэта, верагодна, «александровічаўская». А якая тады «першая»? 3 верасня 1939 г. у артыкуле «Важнейшая задача беларускай лінгвістыкі» Р. Лынькоў пісаў, што на складанне слоўніка 1937 г. затрацілі каля пяці гадоў [685]. Уявім, што гэта быў час з 1932-га па 1936-ты. Але ці вялася падрыхтоўка слоўніка ў 1931 г.? Гэтыя пытанні даводзіцца задаваць з прычыны нераспрацаванасці гісторыі стварэння руска-беларускага слоўніка 1937 г.

Як вядома, у 1930 г. пераважная большасць супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства БАН была рэпрэсіравана, а іх лінгвістычныя працы забаранілі. 30 кастрычніка 1930 г. пытанне аб Інстытуце мовазнаўства разглядалася на пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук, на якім было вырашана часовае кіраўніцтва галоўнай лінгвістычнай установай ускласці на Я. Мацюкевіча і набіраць новых супрацоўнікаў – «з настаўніцтва, знаёмых з мовазнаўчай працай» [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 6. Пратакол № 29]. Удзельнікі пасяджэння пастанавілі таксама стварыць камісію для прагляду даробку ў галіне тэрміналогіі і да 1 чэрвеня 1931 г. падрыхтаваць руска-беларускі слоўнік. У адпаведнасці з вымогамі часу (але таксама і з-за адсутнасці кваліфікаваных лінгвістаў) Я. Мацюкевіч лічыў, што ў абмеркаванні прынцыпаў укладання слоўніка павінны ўзяць удзел «шырокія колы пралетарскай грамадскасці». Праца ў галіне руска-беларускай лексікаграфіі была кваліфікавана ў пастанове прэзідыума як «бліжэйшая баявая задача» Інстытута мовазнаўства. Аднак нейкія мінімальныя зрухі маглі адбыцца толькі пасля таго, як быў прызначаны дырэктар інстытута. Ім у канцы красавіка 1931 г. стаў П. А. Бузук. У лісце Б. М. Ляпунову ад 30 мая 1931 г. ён паведамляў, што ў інстытуце «паскоранымі тэмпамі» вядзецца работа над падрыхтоўкай руска-беларускага слоўніка, таксама распрацоўваецца правапіс [307, с. 601], аднак, відавочна, у гэты час інстытут яшчэ толькі пачынаў аднаўляцца пасля трагічных падзей 1930 г.

Пытанні кадравага складу Інстытута мовазнаўства заставаліся нявырашанымі. Пра цяжкасці ў працы П. Бузук казаў 19 ліпеня 1931 г. на пасяджэнні акадэмічнага савета. У прыватнасці, ён наракаў на недахоп досведу ў складанні руска-беларускага слоўніка і адсутнасць адпаведных кадраў. Дырэктар інстытута выказаў думку, што слоўнік удасца выдаць хіба да пачатку 1932 г. [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 8. Пратакол № 14.]. Тым не менш праца зацягвалася і, можна сказаць, нават не пачыналася. Пра тэрмін фактычнага пачатку працы над руска-беларускім слоўнікам ускосна можна меркаваць на аснове некато-

рых выказванняў намесніка дырэктара Інстытута мовазнаўства Я. Мацюкевіча. Так, 11 сакавіка 1933 г. у сваёй дакладной запісцы, накіраванай у аддзел культуры і прапаганды ЦК КП(Б)Б, ён сведчыў, што Інстытут мовазнаўства працаваў «над пытаннем рэформы правапісу (поруч з слоўнікам) амаль год» [696, с. 154]. Параўн. таксама яго паведамленне ад 28 чэрвеня 1933 г. аб тым, што «за апошні прыкладна год» завершана работа над двухтомным руска-беларускім слоўнікам [697].

9 снежня 1931 г. вынікі лексікаграфічнай дзейнасці Інстытута мовазнаўства разглядаліся на пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук, пры гэтым было адзначана, што «тэмпы працы па падрыхтоўцы расійска-беларускага слоўніка недастатковыя». Дзеля выпраўлення сітуацыі была створана «адказная слоўнікавая камісія», а інстытуту прадпісвалася здаць слоўнік у друк да 1 мая 1932 г. [ЦНА НАНБ. Ф.1. Арх. № 8. Пратакол № 28].

У канцы 1931 г. у сумеснай публікацыі кіраўнікі Інстытута мовазнаўства паведамілі аб тым, што са студзеня 1932 г. слоўнік пачне здавацца ў друк, завяршэнне гэтай работы прадугледжвалася ў красавіку 1932 г. [564]. Падобным чынам графік працы над слоўнікам выглядаў і паводле «Вытворчага плана Беларускай акадэміі навук на 1932 год». У ім адзначалася, што 20 аркушаў (гэта, паводле нашых даных, складала не менш чым адну трэць планаванага аб’ёму) маюць быць здадзенымі ў друк да 15 студзеня, а астатняя частка – у маі [583].

У сярэдзіне 1932 г. праблема выдання слоўніка абмяркоўвалася на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б у сувязі з разглядам пытання «Аб памылках пры перакладзе кнігі т. Сталіна “Вопросы ленинизма”». Удзельнікі пасяджэння пастанавілі «лічыць неабходным паскарэнне выдання беларускага слоўніка, дзеля чаго камісіі (створанай з нагоды абмяркоўванай праблемы. – *С. З.*) разгледзець пытанне аб паскарэнні склікання спецыяльнай нарады для перагляду ўсёй сумы пытанняў, звязаных з гэтай справай (кадры, фінансаванне і г. д.)» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 57. Л. 26].

Аднак у 1932 г. руска-беларускі слоўнік выдадзены не быў. Тым часам высветлілася, што ён мае быць двухтомным. 6 лістапада 1932 г. у газеце «За пралетарскую навуку» супрацоўнік Інстытута мовазнаўства А. Гурло паведаміў, што першы том слоўніка, які складаўся з 45 тысяч слоў і ахопліваў літары А – О, быў здадзены ў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Другі том меўся быць пададзеным у друк не пазней чым у лютым 1933 г. [604]. 4 снежня 1932 г. на старонках газеты «Звязда» Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі аб’явіла папярэднюю падпіску на двухтомны руска-беларускі слоўнік. Ён павінен быў выйсці ў свет пад агульнай рэдакцыяй прэзідэнта Акадэміі навук П. Горына, дырэктара ДВБ А. Некрашэвіча, адказнага рэдактара газеты «Савецкая Беларусь» П. Шастакова і вучонага сакратара Інстытута мовазнаўства П. Юргелевіча.

Можна меркаваць, што ў наступным годзе руска-беларускі слоўнік сапраўды быў бы надрукаваны, прынамсі, быў бы апублікаваны яго першы том, калі б у палітычным жыцці краіны 1933 год не быў годам надзвычайных рашэнняў

і падзей. Пра палітычныя і іншыя падзеі, якія ў 1933 г. уплывалі на развіццё мовазнаўства, падрабязней гл. 5.2.

У прынятай у пачатку сакавіка 1933 г. пастанове бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б фіксавалася, што «ў працах раду інстытутаў акадэміі (гісторыі, эканомікі, філасофіі, літаратуры і мовы) былі дапушчаны буйнейшыя ідэалагічныя зрывы». Згодна з пастановай бюро ЦК КП(б)Б, 12 сакавіка 1933 г. адзін з рэдактараў слоўніка, А. Некрашэвіч, быў зняты са сваёй пасады. Яшчэ праз некалькі дзён аб'яднаны пленум ЦК КП(б)Б і Мінскага гаркома даручыў фракцыі камуністаў прэзідыума Акадэміі навук «асабліва сур'ёзна заняцца ў бліжэйшы час пытаннямі беларускай мовы, забяспечыўшы правільную бальшавіцкую распрацоўку і своечасовы выпуск матэрыялаў па гэтым пытанні, распрацоўку тэрміналогіі, мовы, слоўніка і г. д.». 19 сакавіка на пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук было вырашана заслухаць даклад дырэктара Інстытута мовазнаўства «ў напрамку выканання дырэктыў партыі і ўрада па выданні слоўнікаў, тэрміналогій, правапісу». Праблемы, што ўзніклі ў працы над слоўнікам у гэты час, сталі здабыткам грамадскасці дзякуючы адной з публікацый газеты «Чырвоная змена», аўтары якой паведамлялі, што «нацдэмы» стараліся «засмеціць» і новы, рыхтаваны да друку руска-беларускі слоўнік [586].

29 сакавіка 1933 г. даклад П. Бузука разглядаўся на пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук, было пастаноўлена «абавязаць інстытут разам з выдавецтвам на працягу трох дзён прыняць усе меры для своечасовага выдання расійска-беларускага слоўніка».

Тым часам у працэсе выдання з'явіліся перашкоды. 20 красавіка 1933 г. П. Бузук і загадчык выдавецтва Акадэміі навук Сініцкі падалі прэзідэнту БАН дакладную запіску, у якой паведамлялі, што слоўнік яшчэ амаль не пачаў друкавацца. Паводле аўтараў гэтага дакумента, не паінфармаваўшы Акадэмію навук, Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі фактычна дало згоду на тэрмін 1 ліпеня, чым парушыла абавязацельствы заключанай раней дамовы. П. Бузук і Сініцкі скардзіліся на дырэктара ДВБ Гайдука, які шмат разоў зрываў падпісанне новай дамовы і, урэшце, адмовіўся яе падпісваць – «бо няма быццам прадмовы, якая затрымлівае работу». У далейшай працы над друкаваннем слоўніка аўтары запіскі лічылі неабходным адмовіцца ад пасрэдніцтва ДВБ і «абавязаць праз адпаведныя органы друкарню імя І. Сталіна не пазней 1 ліпеня выпусціць слоўнік». 21 красавіка віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Т. Домбаль накіраваў дакладную запіску П. Бузука і Сініцкага першаму сакратару ЦК КП(б)Б М. Гікалу [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Воп. 1. Арх. № 30. Л. 120].

Між тым грамадскасць нічога не ведала пра складанасці з друкаваннем разгляданай лексікаграфічнай працы. 8 мая 1933 г. у нататцы «Да выпуску беларуска-рускага слоўніка» газета «Рабочий» паінфармавала сваіх чытачоў аб тым, што Інстытут мовазнаўства здаў у друк першы том слоўніка, які завяршаецца літарай «П». Верагодна, у газеце была зроблена памылка: тут меўся на ўвазе, несумненна, руска-беларускі слоўнік.

4 мая 1933 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б была створана спецыяльная «палітычная камісія па праглядзе расійска-беларускага слоўніка і новых правіл правапісу беларускай мовы», якой прадпісвалася завяршыць сваю работу на працягу месяца [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 101. Л. 39]. Невядома, наколькі актыўна камісія займалася сваімі абавязкамі, тым не менш 14 чэрвеня газета «Рабочий» чарговы раз пацвердзіла факт падрыхтоўкі Інстытутам мовазнаўства руска-беларускага слоўніка.

Праблему выдання слоўніка 25 чэрвеня 1933 г. спрабавалі абмяркоўваць члены прэзідыума Акадэміі навук, аднак з прычыны існавання адпаведнай камісіі ў высокай партыйнай інстанцыі намаганні акадэмічнага кіраўніцтва былі абмежаваны. У пастанове па гэтым пункце парадку дня была запісана наступная фармулёўка: «Пытанне аб рэдагаванні расійска-беларускага слоўніка палітрэдакцыяй даручыць т. Домбалю высветліць у ЦК» [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 21а. Пратакол № 21]. Зрэшты, самі мовазнаўцы лічылі сваю працу выкананай: хоць, паводле Я. Мацюкевіча, «у радзе месц» якасць слоўніка знаходзілася «не на належнай вышыні» і пры чытанні карэктуры першага тома агрэхі даводзілася «заўважаць і выпраўляць», тым не менш праца над ім разглядалася як «закончаная» [697].

Пытанні лексікаграфіі ў Беларусі зноў выйшлі на парадак дня ў канцы лета ў сувязі з праведзенай СНК рэформай беларускай мовы: у пастанове ЦК КП(б)Б ад 26 жніўня 1933 г. указвалася на неабходнасць прадугледзець «практычныя мерапрыемствы па паскарэнні падрыхтоўкі і выдання беларускага слоўніка па новаму правапісу». «Асноўнай палітычнай задачай і пярвейшым абавязкам» БАН і НКА быў прызнаны «такі напрамак работы, які забяспечыць пры выпрацоўцы правапісу самую рашучую барацьбу з вялікадзяржаўніцкімі і паланізатарскімі тэндэнцыямі (штучнае ўвядзенне расійскіх і польскіх слоў, упрашчэнства і г. д.)» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 114]. 27 жніўня 1933 г. прэзідыум Акадэміі навук пастанавіў «перапрацаваць расійска-беларускі слоўнік на новы правапіс» [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 21а. Пратакол № 26].

8 верасня 1933 г. ад імя прэзідыума Акадэміі навук першы віцэ-прэзідэнт Т. Домбаль звярнуўся з лістом да аўтара «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча з просьбай згадзіцца рэдагаваць падрыхтаваны слоўнік і даць аб ім разгорнуты водзыў. Т. Домбаль прызнаў, што ў складзе прэзідыума акадэміі няма людзей, якія маглі б узяць на сябе рэдагаванне слоўніка, акцэнтаваў увагу на «велізарным» палітычным значэнні гэтай работы і паведаміў, што «пры перакладзе рускіх слоў на беларускую мову інстытут выходзіў з прынцыпаў, указаных у законе аб новым правапісе і, у першую чаргу, прынцыпу пралетарскага інтэрнацыяналізму, выгнання нацдэмізмаў з слоўніка, якія насаджалі нацдэмы» [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 30. Л. 53].

Мы не маем звестак, ці даваў згоду на рэдагаванне слоўніка Б. Тарашкевіч, затое вядома, што, згодна з дакументамі, 29 лістапада 1933 г. у Акадэміі навук магла фатальна завяршыцца спроба выдаць іншую лексікаграфічную працу –

польска-беларускі слоўнік, – рашэнне пра ўкладанне якой было прынята яшчэ 19 снежня 1930 г. Заслухаўшы паведамленне Т. Домбаля на гэту тэму, прэзідыум Акадэміі навук зафіксаваў, што слоўнік «мае нацдэмаўскі і шавіністычны характар», і пастанавіў яго выданне забараніць, а набор разабраць [ЦНА НАНБ. Ф. 1. Арх. № 21а. Пратакол № 42]. Слоўнік, тым не менш, быў надрукаваны; магчыма, пастанова прэзідыума была запозненай рэакцыяй, скіраванай на абмежаванне надрукавання запланаванага тыражу. Невядома, наколькі шырока ён быў распаўсюджаны; верагодна, адразу ж пасля надрукавання гэты слоўнік быў выведзены з ужытку.

13 кастрычніка 1933 г. са старонак газеты «Звязда» партыйны публіцыст А. Джэлюк абвінаваціў П. Бузука і Я. Мацюкевіча ў тым, што яны трымалі ў парадку картатэку, у якой захоўваліся «антысавецкія выказванні Лёсіка, Ластоўскага, Некрашэвіча». А. Джэлюк выказаўся за ўдзел у барацьбе «супраць працягвання нацыянал-дэмакратычных установак у мовазнаўстве» з боку пісьменнікаў-камуністаў, і гэты заклік быў пачуты. Выступаючы ў сярэдзіне снежня на агульным сходзе пісьменнікаў Мінска, адзін са стваральнікаў Саюза пісьменнікаў Беларусі (а з ліпеня 1933 г. таксама яшчэ і вучоны сакратар Інстытута мовазнаўства, а пазней і яго дырэктар), паэт А. Александровіч зазначыў, што «трэба практычна дапамагчы Беларускай акадэміі навук выпусціць добры беларускі слоўнік» [525].

Хоць на пачатку 1934 года прэзідэнт Акадэміі навук П. Горын пацвярджаў факт падрыхтоўкі руска-беларускага слоўніка (праўда, назваўшы яго беларуска-рускім) [598], аднак на працягу года дадзеная лексікаграфічная праца надрукавана не была. Можна меркаваць, што сярод іншага гэтаму не спрыяла сітуацыя ў Інстытуце мовазнаўства. 31 кастрычніка 1933 г. і 10 лютага 1934 г. былі арыштаваны былыя кіраўнікі інстытута Я. Мацюкевіч і П. Бузук. У пачатку 1934 года аб’яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даручыў бюро ЦК КП(б)Б на працягу студзеня праверыць выкананне пастановы мінулагодняга сакавіцкага пленума ЦК, датычнай працы Інстытута мовазнаўства. Верагодна, гэта праверка стварыла кадравыя праблемы ў інстытуце, бо вядома, што 3 мая 1934 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б разглядалася пытанне «Аб умацаванні работнікамі Інстытута мовы Беларускай акадэміі навук» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 157. Л. 10]. Слоўнік у 1934 г. не быў надрукаваны, магчыма, таму, што выданне працы, канкрэтныя падыходы якой маглі некаму здавацца сумніўнымі, падрыхтаванай у папярэднія гады, не вытрымала канкурэнцыі з публікацыяй інстытутам прац аб «нацыянал-дэмакратычных устаноўках у пытаннях мовы». Апошні напрамак дзейнасці ў сітуацыі 1934 г. аказаўся больш патрэбным і актуальным; параўн. выданне ў гэты час зборнікаў «Пісьменнік і мова» і «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы».

Верагодна, у 1934 годзе плён папярэдняй лексікаграфічнай працы быў забракаваны, і лінгвісты пачалі рыхтаваць новую рэдакцыю слоўніка. Згодна з «Вытворчым планам БАН на 1935 год», падрыхтоўка «вялікага» руска-белару-

скага слоўніка павінна была завяршыцца ў трэцім квартале 1934 г. Праца мелася быць надрукаванай у чацвёртым квартале 1935 г. [584, с. 11,18].

У адпаведнасці з данымі архіва Нацыянальнай акадэміі навук руска-беларускі слоўнік, які ўвайшоў у гісторыю як слоўнік 1937 г., у асноўным быў падрыхтаваны не пазней ліпеня 1935 г. Станоўчую рэцэнзію на яго напісаў А. Александровіч. 19 жніўня 1935 г. прэзідыум Акадэміі навук вырашыў тэрмінова здаць яго на друкаванне, «устанавіўшы тэрмін выхаду слоўніка з друку 1 лістапада гэтага года» [ЦНА НАНРБ. Ф. 1. Воп. 1. Арх. № 31. Л. 146].

На гэтым, магчыма, завяршылася «творчая» гісторыя руска-беларускага слоўніка пад рэдакцыяй А. Александровіча, і далейшы яго лёс перадусім вызначалі тэхнічныя фактары. Зрэшты, паколькі ў 1930-я гг. палітычныя моманты ў працэсе падрыхтоўкі лінгвістычных прац мелі вельмі важнае значэнне, экстралінгвістычныя ўмовы маглі ўплываць на змест моваэнаўчай прадукцыі нават на заключных этапах іх выканання. З улікам умоў, у якіх ствараўся слоўнік, няма падстаў строга судзіць яго за русіфікаванасць, бо, працуючы ва ўмовах тэрору, укладальнікі слоўніка змушаны былі ўлічваць сумны досвед сваіх папярэднікаў і адаптаваць свае падыходы да вымогаў часу. Акрамя таго, як вынікае з прадмовы, руска-беларускі слоўнік 1937 г. прызначаўся перадусім для партыйнага, камсамольскага, фабрычна-заводскага і калгаснага актыву, і як такі ён, магчыма, у нейкай ступені задавальняў патрэбы гэтага моцна русіфікаванага слою.

### 6.2.2. РУКАПІСНЫ ДВУХТОМНЫ РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК 1936 г.

Напісаная гісторыя беларускага мовазнаўства не дае адказу на пытанне, што ўяўляў сабой двухтомны руска-беларускі слоўнік, падрыхтаваны ў Інстытуце літаратуры, мастацтва і мовы БАН у сярэдзіне 1930-х гг. Калі згодна з аднымі крыніцамі ўкладанне слоўніка было закончана «ўжо за некалькі год перад вайной» [85, с. 79], то ў адпаведнасці з іншымі такая работа была толькі «распачата» [122, с. 30]. У энцыклапедычным артыкуле «Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі» нічога не гаворыцца пра дадзеную працу, затое паведамляецца, што перад вайной у секцыі мовы «праводзілася падрыхтоўка вялікага беларуска-рускага слоўніка» [128, с. 231].

З 1932 г. у розных крыніцах з'яўлялася інфармацыя аб падрыхтоўцы ў Інстытуце мовазнаўства не толькі аднатомнага, але і двухтомнага руска-беларускага слоўніка (гл. 6.2.1). На адрозненне ад практыкі 1920-х гг., калі слоўнікі рыхтаваліся канкрэтнымі людзьмі, якія цалкам адказвалі за якасць сваёй работы, у 1930-я гг. пры падрыхтоўцы слоўнікаў пытанне аўтарства адышло на другі план, затое надзвычай важным стала рабіцца ідэалагічнае забеспячэнне лексікаграфічнай дзейнасці. Ідэалагічная кампанента падрыхтоўкі слоўнікаў не прымала аўтарскага падыходу і прадугледжвала калектыўную падрыхтоўку лексікаграфічных прац. Акрамя таго, для большай надзейнасці сталі

прызначацца рэдактары з ліку высокапастаўленых чыноўнікаў. Так, напрыклад, рэдактарамі двухтомнага руска-беларускага слоўніка мелі стаць чатыры кіраўнікі з розных устаноў, толькі адзін з іх працаваў у акадэмічным інстытуце.

10 жніўня 1938 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» навуковы сакратар Інстытута мовы К. Гурскі паведамляў, што ў адпаведнасці з планам слоўнік меў быць адрэдагаваны галоўнай рэдакцыяй у канцы 1937 г. Аднак «за ўвесь год (1937-мы. – *С. З.*) работа не пасунулася ні на крок, бо даручылі яе выкрытаму потым ворагу народа. У бягучым годзе была створана новая рэдакцыя, але на чале яе зноў аказаўся вораг народа. Зараз стаіць пытанне аб трэцяй рэдакцыі» [605]. 21 лістапада 1938 г. у адпаведнасці з пастановай бюро ЦК КПБ(б) «Аб перакладзе на беларускую мову слова “соединяйтесь” у лозунгу “Пролетарии всех стран соединяйтесь” і слова “область”» рэдакцыйная камісія руска-беларускага слоўніка абавязвалася на працягу двух месяцаў закончыць работу па праглядзе і рэдагаванні слоўніка (НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 631. Л. 29)[111]. У пачатку 1939 г. пра завяршэнне падрыхтоўкі руска-беларускага слоўніка пісаў тагачасны дырэктар Інстытута літаратуры, мастацтва і мовы Акадэміі навук В. Барысенка, сярод іншага сцвярджаючы, што руска-беларускі слоўнік 1937 г. быў засмечаны паланізмамі і «класава-варожымі ўстаноўкамі» [548]. На завяршэнне падрыхтоўкі рукапісу слоўніка яшчэ ў 1935 г., які пазней «пераходзіў ад рэдакцыі да рэдакцыі, што трывала да вайны 1941 года», указваў у 1950-я гг. лінгвіст-эмігрант Я. Станкевіч [746, с. 271]. У перадваеннае дзесяцігоддзе падрыхтоўка якой-небудзь кнігі лінгвістамі зусім не абавязкова азначала фактычнае заканчэнне працы, паколькі пасля мовазнаўцаў са слоўнікам працавала яшчэ «галоўная палітычная рэдакцыя» [548]. Невядома, якія людзі ўваходзілі ў яе склад, затое ёсць інфармацыя пра зацверджаную 5 красавіка 1938 г. «адказную» рэдакцыю, у якую былі ўключаны нарком асветы В. Піваварaў (старшыня), а таксама пісьменнікі М. Лынькоў і І. Гурскі [НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 536. Л. 8]. Палітычнае рэдагаванне здзяйсняла цэнзарскія функцыі, мела мала агульнага з правіламі падрыхтоўкі навуковай прадукцыі і стварала мовазнаўцам шматлікія праблемы.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе бюро ЦК КПБ(б) захоўваюцца фрагменты датаванага 1936 г. «вялікага руска-беларускага слоўніка» (далей – РБС-36), які, падобна, і з’яўляецца тым двухтомным руска-беларускім слоўнікам, што быў падрыхтаваны ў Акадэміі навук у 1930-я гг. Захаваліся часткі слоўніка на літары «А» (1400 слоў), «Б» (2200 слоў), «В» (4770 слоў), «Д» (2500 слоў) і «Ж» (400 слоў); усяго больш за 11 тысяч слоў. Фрагмент

---

[111] Згодна з гэтай рэзалюцыяй замест перакладу формы *объединяйтесь* як *злучайцеся* быў зацверджаны пераклад *еднайцеся* (для распадабнення з рускім словам *яд*). Пастанова зацвердзіла правапіс слова *вобласць* (што было выклікана ранейшым частым ужываннем у партыйных дакументах няправільнай формы *обласць*). Прэзідэнту Акадэміі навук П. Горыну і Інстытуту мовы і літаратуры было прапанавана на працягу месяца падаць у ЦК КП(б)Б прапановы аб зменах перакладаў шэрагу іншых слоў, якімі «беларуская мова засмечвалася нацдэмаўскімі варожымі элементамі».

слоўніка на літару «А» мае суправаджальны ліст, адрасаваны нейкаму Казюку (відаць, меўся на ўвазе тагачасны галоўны рэдактар ДВБ). У лісце паведамляецца, што інстытут пасылае яму гэтую частку слоўніка на рэдагаванне. Рукапіс мае розныя, зробленыя чарнілам або алоўкам, праўкі. Наконт першых ліст інфармуе, што «словы, адзначаныя крыжыкамі, былі выпраўлены рабочай рэдакцыяй, а словы, адзначаныя пытаннем, вынесены на абмеркаванне галоўнай рэдакцыі вялікага РБС» [НАРБ. Ф. 4. Воп. 16. Спр. 114. Л. 1]. Пад лістом меліся падпісацца дырэктар інстытута Краснеўскі і рэдактар слоўнікавага аддзела Сцернін, аднак за дырэктара інстытута ліст падпісаў Ц. Ломцеў. Мяркуючы па тым, што падчас стварэння Інстытута літаратуры, мастацтва і мовы 14 ліпеня 1935 г. (гэта было зроблена «ў мэтах узбуйнення інстытутаў, канцэнтрацыі навукова-даследчай работы і работнікаў, у мэтах умацавання кіраўніцтва») яго кіраўніком быў прызначаны В. Вольскі, можна думаць, што суправаджальны ліст быў напісаны не раней як у жніўні 1935 г.

Параўнанне з адпаведнымі фрагментамі РБС-37 паказвае, што рэестр двухтомнага руска-беларускага слоўніка перавышаў вакабуляр слоўніка 1937 г. у 2–3 разы і мог налічваць да 100 тысяч адзінак.

Паколькі слоўнік 1936 г. з'яўляецца першай руска-беларускай лексікаграфічнай працай, падрыхтаванай пасля выхаду з друку РБС-28, ёсць сэнс параўнаць гэтыя лексікаграфічныя творы.

Як вядома, адной з характэрных рыс РБС-28 было змяшчэнне ў яго беларускай частцы вялікай колькасці сінонімаў для рускіх загалоўных слоў [175, с. 208–211]. Аўтары калектыўнай гісторыі, у прыватнасці, пішуць пра «велізарнае сінанімічнае багацце беларускай літаратурнай мовы», адлюстраванае ў гэтым слоўніку [175, с. 208]. Вялікая колькасць адпаведнікаў да рускіх слоў – адначасова і вартасць дадзенага слоўніка, і яго недахоп, паколькі «не ўсе прыведзеныя сінонімы з'яўляліся раўназначнымі ў адносінах да адпаведнага рускага слова і не ўсе мелі аднолькавую вартасць для беларускай літаратурнай мовы» [175, с. 208–209]. Паколькі РБС-36 быў у пэўным сэнсе альтэрнатыўнай працай у дачыненні да РБС-28 (як і ў цэлым беларуская лінгвістыка 1930-х гг. адносна мовазнаўства 1920-х), у гэтым слоўніку назіраем частае скарачэнне колькасці сінонімаў у беларускай частцы. Параўн., напрыклад: *бесчестье – бясчэсце, знявага, ганьба* (у РБС-28 таксама: *няслава*); *близорукий – блізарукі* (у РБС-28: *паніклівы, нізкі на вочы, недабачлівы, бліндар, падслепаваты*); *бороться – бароцца, змагацца* (у РБС-28: *змагацца, борацца, ходацца, дужацца, барукацца*); *бред – брэд, блюзненне* (у РБС-28: *брэд, вяроза, марэнне, маячанне*); *бродяга – валацуга, брадзяга* (у РБС-28: *бадзяга, валацуга, шандыга, туляга, хадзяка, шлында, маталыга*); *бусы – бусы, пацеркі* (у РБС-28: *каралі, пацеркі, маністы*); *быстрота – быстрыня, шпаркасць* (у РБС-28: *шпаркасць, спрытнасць, шыбкасць, прудкасць, хуткасць, быстрыня)*; *вдоволь – удосыць, даволі* (у РБС-28: *даволі, досыць, удосталь, упоедзь, ці мала*); *веер – веер* (у РБС-28: *махала, вахляр*); *вертел – ражончык, ражэнчык* (у РБС-28: *ражон,*

*лавец, спічак, вожак*); *ветошка – вяхотка, анучка* (у РБС-28 таксама яшчэ: *караўка, рызіна, вехцік*); *ветренник – ветранік, ветрагон* (у РБС-28: *ветрагон, узвей-вецер, галуза, гіцаль, пустадом, вар'ят, ветрам падшыты*); *взбучка – узбучка, нагонка* (у РБС-28: *нагонка, лайка, чос*); *взимание – спагнанне* (у РБС-28 таксама яшчэ: *бранне, зыск*); *(при)видение – здань* (у РБС-28: *зданнё, здань; мара, сцень, патароча*); *внешность – выгляд* (у РБС-28 таксама яшчэ: *знадворнасць, урода*); *вобрать – увабраць, уцягнуць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *насякнуць, усмактаць*); *воин – воін, ваяка* (у РБС-28 таксама яшчэ: *вой*); *водиться (с кем) – 1. знацца, 2. вадзіцца* (у РБС-28: *знацца, таварышаваць*); *вонзать – уганяць, утыкаць* (у РБС-28: *утыкаць, утыркаць, упіхаць, строміць*); *ворон – воран, крумкач* (у РБС-28: *крук, крумкач, груган*); *воцариться – запанаваць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *уступіць на трон, зацараваць*); *всласть – усмак, са смакам* (у РБС-28: *усмак, да смаку, да спадобы*); *вспоминать – успамінаць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *згадваць*); *вспылить – раззлавацца, ускіпець* (у РБС-28: *запыліцца, ускіпець гневам, узбурыцца, агнявіцца*); *вспыльчивый – запальчывы, гарачы* (у РБС-28 таксама яшчэ: *апрысклівы*); *втайне – употай, тайком* (у РБС-28: *потай, тайком, таемна, патаемна, ціішком, пакрыёма*); *выдаивать – выдойваць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *выцырkваць*); *выдергать – вырваць, выскубаць* (у РБС-28: *вырваць, высмыкаць, выдзерці, выскубці, вышмаргаць*); *вымаливать – выпрошваць, вымольваць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *кленчыць*); *давление – даўленне, ціск* (у РБС-28 таксама яшчэ: *націск, нагнёт*); *дребезжать – дрынкаць, бразгатаць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *трымцець, дзілінкаць. тарахцець*); *дряхлеть – трухлець* (у РБС-28 таксама яшчэ: *старэць, друзлець грыбець*) і інш. Як відаць (параўн. беларускія эквіваленты да рус. *близорукий, бродяга, бусы, ветренник, взбучка* і інш.), скарачэнне колькасці сінонімаў у беларускай частцы ў шэрагу выпадкаў суправаджалася адначасовым уключэннем у склад беларускай лексікі русізмаў або слоў, якія фармальна супадалі з рускімі словамі.

Відавочна, скарачэнне ў РБС-36 набору прапанаваных эквівалентаў у некаторых выпадках сведчыла аб іх больш строгім адборы, адхіленні (занадта) экспрэсіўных народных слоў. Параўн., напрыклад, неўключэнне ў РБС-36 формы *выцыркваць* у якасці эквіваленту рус. *выдаивать* або невыкарыстанне формаў *патрашыць* і *трыбушыць* у якасці эквіваленту рус. *вскрывать* (*труп*). У іншых выпадках выпадае гаварыць аб жаданні пазбавіцца семантычна недакладных эквівалентаў; параўн. у гэтым плане невыкарыстанне ў РБС-36 формаў *да смаку* і *да спадобы* ў якасці эквіваленту рус. *всласть*, слова *нагнёт* як адпаведніка рус. *давление*, лексемы *ўрода* ў якасці эквіваленту рус. *внешность*. Магчыма, станоўчым трэба прызнаць няўлік у РБС-36 скалькаванай формы *знадворнасць* як эквіваленту рус. *внешность*. Гэтыя адхіленні РБС-36 ад РБС-28 можна лічыць лінгвістычна абгрунтаванымі.

Аднак не ва ўсіх выпадках матываванасць такіх скарачэнняў можна прызнаць безумоўна – калі нават прыняць тое, што ў 1930-я гг. стаўленне да

лексічнай шматстайнасці было намнога больш крытычным у параўнанні з 1920-мі гг.[112]. Так, напрыклад, сінонім *таварышаваць* у якасці эквіваленту рус. *водиться* быў зусім адэкватным[113]. Прыведзеныя ў РБС-28 словы *мізэрны* і *ўбогі* добра перадавалі лексіка-семантычны варыянт рус. *жалкий* у значэнні ‘ничтожный, презренный’, што пацверджана і ў сучасных слоўніках. Напэўна, дарэчы сярод эквівалентаў для рус. *дряхлеть* было змяшчэнне слова *старэць*. На нашу думку, маглі знайсці месца ў РБС-36 словы *бадзяга, барукацца, галуза, дужацца, пустадом, удавацца, павадыр, вахляр, наўзавады, нізкі на вочы, няслава, вадаросты, вой, груган* і інш. Адны з іх (*удавацца*) маглі спрыяць абагачэнню сінанімічнай сістэмы беларускай мовы, іншыя (*галуза, павадыр, вахляр, наўзавады, няслава, пустадом, вадаросты*) – не толькі фіксаваліся ў лексікаграфічных крыніцах 1920-х гг., але і былі прыкметай узусу гэтага часу. Параўн.: ***павадыр*** *‘кіраўнік піянерскага атрада’ гаворыць* (Піг.); *пакажэце на гэтым* ***вахляры*** *той кут* (Астр. 25; Астр. 27; Астр. 29); ***вахляр*** (Весн.); *дзікуны гэтым хвастом, як* ***вахляром,*** *адганялі мух* (Кэр); *жарабок бег* ***наўзавады*** *паперадзе паравоза* (Асв. 1928; слова ўжыта ў школьным сачыненні); *асаблівы ад* ***вадаростаў*** (Кэр), *выцягваюць з дна* ***вадаросты*** (Дашк.), *зялёных* ***вадаростаў****... розныя* ***вадаросты****...* ***Вадаросты*** (загаловак) (Аўч.); *6-ты пояс заселены харавымі* ***вадаростамі*** *<...> паверхня, багатая* ***вадаростамі*** (Бах.). Відавочна, гэтыя і іншыя змены былі абумоўлены насцярожаным, выкліканым ідэалагічнымі прычынамі, стаўленнем укладальнікаў слоўніка да некаторых фактаў беларускай мовы 1920-х гг.

Прыватнымі выпадкамі скарачэнняў сінанімічных радоў было пакіданне ў беларускай частцы толькі сіноніма, тоеснага рускаму: *вдувать – удуваць* (у РБС-28 таксама яшчэ: *удмухаць*); *вникать – унікаць* (у РБС-28 таксама: *даходзіць, удавацца* (*ува што*). Сінанімічны рад мог таксама скарачацца за кошт адхілення ранейшых эквівалентаў пры адначасовым выкарыстанні калькаванай формы: *богохульник – блюзнер, баглай* (РБС-28), *богазневажальнік* (РБС-36).

Заўважным момантам скарачэння набору беларускіх сінонімаў рускім эквівалентам у РБС-36 стала элімінацыя слоў, ужываных класікам беларускай літаратуры Я. Купалам. У той час як у 1920-я гг. лексікографы імкнуліся адлюстраваць у слоўніках моўную практыку Я. Купалы, Я. Коласа і іншых вядучых майстроў слова як мага больш шырока, у РБС-36, напрыклад, не ўключаны ўжываныя Я. Купалам словы *няслава, пакрыёма* і інш.

---

112 У артыкуле «Наш правапіс» (1918) Я. Лёсік пісаў: «Ухіляцца ад розных слоў, азначаючых адно і тое разуменне (*чарга – чарод, яха – рэха, маланка – бліскавіца* і інш.), безумоўна, не дапусціма» [681, с. 295]. Можна сказаць, што беларуская лінгвістыка 1920-х гг. пацвярджала рэалізацыю задачы прыцягнення як мага больш шырокіх лексічных рэсурсаў: усе лексікаграфічныя працы гэтага часу былі скіраваны на прадстаўленне як мага большага багацця лексічнага складу беларускай мовы.

113 Лексема *таварышаваць* (у выглядзе: *таварышкаваць*) сустракалася ва узусе 1920-х, параўн.: *Сталін вельмі* ***патаварышкаваў*** *з У. І. Леніным* (ВС). Слова *таварышаваць* зафіксавана ў сучасных тлумачальных і беларуска-рускіх слоўніках (у апошніх эквівалентамі яму дадзены: *дружить, водиться*), аднак адсутнічае ў руска-беларускіх слоўніках.

Часам у слоўнік насуперак ранейшай практыцы ўводзіўся царкоўнаславянізм: *ввергать* – *увяргаць* (РБС-36), тады як у РБС-28 падаваліся формы *ўкідаць, урынуць, упіхаць*. У РБС-28 для рус. *свергнуть* эквівалентамі былі пададзены *скінуць, зрынуць, сапхнуць*, але не было дадзена слова *звергнуць*. У дыскусіі аб культуры мовы 1930-х – пачатку 1940-х гг. звярталася ўвага на тое, што форма *звергнуць* з'яўляецца прымальнай толькі тады, калі яна ўжываецца ў фізічным сэнсе і стала народнай (*кабыла звергла*) [517], але недапушчальная ў якасці грамадска-палітычнага тэрміна [706]. Формы з коранем *верг-* у абмежаваным выглядзе пранікалі ва узус і адлюстроўваліся ў лексікаграфічных працах у 1920-я гг.: напрыклад, у БНТ-2 для рус. *опровергать, опровержение* былі прапанаваны адпаведнікі *абвяргаць, абвяржэнне*. Аднак у адпаведнасці з устаноўкай ужываць слова *звергнуць* у фізічным сэнсе ў друку 1920-х гг. у значэнні 'знішчыць, пазбавіўшы ўлады' звычайна ўжываўся выраз *нізрынуць*.

У асобных выпадках, аднак, назіраецца сітуацыя, калі колькасць прыведзеных у РБС-36 сінонімаў большая, чым у РБС-28. Параўн.: *бесстрашие* – *бязбоязнасць, адвага, адважнасць, смеласць* (у РБС-28: *бязбоязнасць, бязбаязкасць, адвага*); *велеречивый* – *многамоўны, напышлівы* (у РБС-28: *высокамоўны*); *вздутие* – *напушэнне, апухласць* (у РБС-28: *апухласць*); *вихрь* – *віхар, віхура* (у РБС-28: *віхор*); *ведать* – *загадваць, кіраваць* (у РБС-28 толькі: *кіраваць*).

У шэрагу выпадкаў такое павелічэнне колькасці сінонімаў у РБС-36 адбывалася за кошт уключэння ў склад адпаведнікаў слова, тоеснага рускаму, або царкоўнаславянізма. Параўн. у РБС-28: *булавка* – *шпілька* (у РБС-36 таксама яшчэ: *булаўка*), *ввинтить* – *ушрубаваць, укруціць* (у РБС-36 таксама яшчэ: *увінціць*), *вгиб* – *угін* (у РБС-36: *угіб, угін*); *взрыв* – *выбух* (у РБС-36 таксама яшчэ: *узрыў*), *взятка* – *хабар* (у РБС-36: *узятка, хабар*); *владыка* – *уладар* (у РБС-36 таксама яшчэ: *уладыка*).

У асобных выпадках набор эквівалентаў у РБС-36 пашыраўся за кошт дадавання калькаванай формы: *воздухоплавание* – *лётніцтва* (РБС-28), *паветраплаванне, лётніцтва* (РБС-36).

Часам укладальнікі РБС-36 адмаўляліся ад аднаслоўнага эквіваленту, прыведзенага ў РБС-28, затое падавалі словазлучэнні, тым самым пераводзячы нейкую рускую лексему ў безэквівалентную. Параўн.: *блаженствовать* – *раскашаваць* (РБС-28), *быць шчаслівым, мець асалоду* (РБС-36). У сучасным слоўніку форма *раскашавац*(*ца*) у якасці эквіваленту рус. *блаженствовать* узноўлена.

У значнай колькасці выпадкаў у РБС-36 і РБС-28 канстатуем аднолькавую колькасць адпаведнікаў. Параўн.: *вознамериваться* – *намервацца, наважвацца* (РБС-36), *наважыцца, узяць замер* (РБС-28); *взапуски* – *навыперадкі, узапускі* (РБС-36), *навыперадкі, наўзаводы* (РБС-28); *вешалка* – *вешалка,* (у платья) *гітлік* (РБС-36), *вешалка, почапка* (РБС-28); *взрыхлить* – *ускапаць, узрыхліць* (РБС-36), *ускапать, успушыць* (РБС-28). Адначасова можна адзначыць, што ў частцы гэтых выпадкаў (*узапускі, узрыхліць*) беларускі сінанімічны рад папаўняўся за кошт русізма або слова, тоеснага з рускай мовай.

Прыватным выпадкам аднолькавай колькасці беларускіх адпаведнікаў у РБС-36 і РБС-28 з'яўляюцца сітуацыі, калі мае месца камплементарнае размеркаванне, г. зн. сінонімы аднаго слоўніка зусім не прыводзяцца ў іншым. Пры гэтым, здаецца, прынамсі ў некаторых выпадках эквіваленты РБС-36 з'яўляюцца не горшымі за варыянты, прапанаваныя ў РБС-28. Параўн.: *ветвистый – галіністы, галлісты* (РБС-28), *разгалісты, разложысты* (РБС-36); *воздаяние – аддача, адплата* (РБС-28), *нагарода, узнагарода* (РБС-36); *вещество – рэчыва* (РБС-36), *матэрыя* (РБС-28).

У асобных выпадках адбывалася ўвядзенне ў слоўнік словаўтваральнага русізма або формы, якая ў 1920-я гг. магла ўспрымацца як словаўтваральны русізм. Параўн.: *братишка – брацішка* (РБС-36), тады як у РБС-28 падавалася форма *братка*. Для рус. *веснушки* у РБС-28 прыводзіліся формы *вяснянкі, рабацінне*, а ў РБС-36 форма *вяснянкі* была заменена на *вяснушкі*. Часам словаўтваральны русізм у РБС-36 падаваўся поруч з фіксацыяй ранейшай, «больш беларускай» формы: *бунтовщик – бунтаўшчык, бунтаўнік*, тады як у РБС-28 для рус. *бунтовщик* прыводзіліся эквіваленты *бунтаўнік, паўстанец*.

Праўдападобна, яшчэ ў больш рэдкіх выпадках можам назіраць замену ў РБС-36 словаўтваральнай мадэлі, аналагічнай рускай, выкарыстанай у РБС-28: *букашка – казюлька* (у РБС-28 было: *казяўка*). Форма *казюлька* ў значэнні '(малое) насякомае' (у ТСБМ фіксуецца з паметай «абл.»), 'клас беспазваночных членістаногіх жывёл' у 1920-я гг. была ў шырокім ужытку, фіксавалася ў тым ліку ў БРС-26, у тэрміналагічных слоўніках і навуковай літаратуры, таму такую замену можна разглядаць як у нейкай меры механічную, арыентаваную на дасягненне большай блізкасці да рускай мовы.

У параўнанні з РБС-28 у рукапісным слоўніку 1936 г. заўважаюцца таксама наступныя канкрэтныя з'явы:

– увядзенне словаўтваральных русізмаў, угрунтаваных на дзеепрыметнікавых формах з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ім-*: *быстротечный – быстрацякучы, быстрабягучы* (замест ужыванай у РБС-28 формы *шпаркаплыўны*); *возмутительный – абураючы* (поруч з *абуральны*); *видимость – бачнасць, відзімасць* (замест дадзеных у РБС-28 формаў *відочнасць, бачнасць*);

– вывад слова з разраду безэквівалентных шляхам выкарыстання запазычвання з рускай мовы: *бронепоезд – бронепоезд* (у РБС-28 было: *панцырны цягнік*);

– увядзенне беларускай лексемы, адсутнай у РБС-28: *валять* (*сукно*) *– валюшыць, валюшаваць* (у РБС-28: *валяць, качаць, лямчыць*);

– увядзенне дадатковага дэрывата: *ветвиться – галініцца* (РБС-28), *галініцца, галінавацца* (РБС-36);

– падача дакладных адпаведнікаў замест ранейшых няправільных: *ведение – загадванне, кіраванне* (у РБС-28: *веда, веданне*);

– скасаванне дыялектызма-русізма: *ветвь – галіна, галінка, ветка* (РБС-28), *галіна* (РБС-36);

– улік мнагазначнасці рускага слова: *возгореться* – не толькі *загарэцца*, але і *выбухнуць: война возгорелась – вайна выбухнула*. У дадзеным выпадку важна адзначыць, што такое папаўненне не было толькі плёнам думкі ўкладальнікаў, а абапіралася на узус. Параўн.: *гатова* ***выбухнуць*** *грамадзянская вайна* (СБ 1924). У сучасных руска-беларускіх слоўніках варыянт рус. *возгореться* ‘раптоўна ўзнікнуць’ не мае спецыяльнага перакладу, хоць ТСБМ фіксуе адпаведны лексіка-семантычны варыянт лексемы *выбухнуць*.

У рукапісе зроблены шматлікія праўкі, якія ўяўляюць вялікую цікавасць.

З рэестра рускай часткі былі выкраслены наступныя словы: *абрикосовка, августейший, авиамодельня, авиапоставка, авиаработа, авиоработник, автогрузовик, автопробка, автосцена, автотир, автотрактор, автотренажор, автошоссе, агентша, агрогород, анабаптистка, анабаптистский, анархистка, англоманка, англоманский, англоманство, антикритика, антиленинец, антиобщественник, бабахнуть, бабуся, багетчик, багорный, багорщик, базарить, бакон* мор.*, бакшиш, балаганничать, балакать, балансироваться, блуд, блудить, блудливость, блудливый, блудница, вербный* і інш. Як відаць, рэдакцыя скарачала рэестр па ідэалагічных меркаваннях (*августейший, антиленинец, антиобщественник, вербная*), зыходзячы з пурыстычнай матывацыі (*абрикосовка, бабахнуть, бабуся, базарить, балакать, блуд, блудить, блудливость*), кіруючыся меркаваннямі ідэалогіі і забеспячэння кампактнасці лексікону адначасова (*анабаптистка, анархистка, англоманка*) і інш.

З другога боку, у рэестр чарнілам упісаны наступныя словы: *балдахин, Балканы, Балтийское море, безрезультатно, безропотно, безукоризненно, Белград, Белое море, Бельгия* і інш.

У асобных выпадках насупраць пэўных лексем былі пастаўлены чарнільныя крыжыкі, але адпаведныя словы выкраслены не былі: *аванпостный, аварец, агитбригада, адвокатствовать. адский, азартность, актерствовать, акушерствовать, алтын, алый, анакреонтический, антипатический* і інш.

У працэсе рэдагавання ў беларускай частцы скарачалася кола прапанаваных эквівалентаў: *вероятие – імавернасць, праўдападобнасць, мажлівасць, магчымасць* (пасля рэдакцыйнай праўкі пакінута толькі слова *праўдападобнасць*); *беречь – берагчы, сцерагчы* (пакінута форма *берагчы*); *беситься – шалець, вар’яцець* (пакінута лексема *шалець*).

З шэрагу эквівалентаў выключаўся адпаведнік аднаго з лексіка-семантычных варыянтаў рускага слова: *вешалка,* (у платья) – *гітлік*, аднак апошні лексіка-семантычны варыянт аказаўся выкрасленым увогуле. Для рус. *веский* былі прапанаваны два эквіваленты – *важкі*, перан. *вескі*, аднак урэшце тоесны рускаму пераноснаму значэнню беларускі адпаведнік аказаўся выкрасленым.

У некаторых выпадках у беларускай частцы пакідаўся толькі тоесны рускаму адпаведнік: *безопасность – бяспечнасць, бяспека, безапаснасць* (пакінута толькі форма *безапаснасць*); *базар – рынак, базар, кірмаш* (пасля рэдагавання ў якасці беларускага эквіваленту пакінута толькі форма *базар*); *ватага – ватага, натоўп* (слова *натоўп* выкраслена).

Часам у беларускай частцы скасоўваўся тоесны рускаму адпаведнік: *бархат – бархат, аксаміт* (слова *бархат* выкраслена), *бахвал – бахвал, хвалько* (слова *бахвал* выкраслена), *бегство – уцёкі, бегства* (слова *бегства* выкраслена).

У шэрагу выпадкаў быў павялічаны набор беларускіх сінонімаў.

Часам дадаваўся новы (або аднаўляўся стары) сінонім: *безобразный – брыдкі, непрыстойны* (дададзена форма *агідны*), *безумство – шаленства* (дададзена форма *вар'яцтва*), *видение – здань* (прыпісана: *прывід*), *вилообразный – вілападобны* (прыпісана: *вілаваты*).

Зрэдку дадаткова да народнай уводзілася «культурная» лексема: да народнай: *возделать* (землю) – было *абрабіць*, дададзена *апрацаваць*.

У некаторых выпадках нейкая форма ўводзілася (часам фактычна аднаўлялася з РБС-28) дадаткова да рускай: *барышник – барышнік* (дададзена форма *перакупшчык*), *бедствовать – бедстваваць* (дададзена форма *бедаваць*), *беспорядок – беспарадак* (дададзена форма *бязладдзе*). Да формы *ўдуваць* як эквіваленту рус. *вдувать* прыпісаны сінонім *удзімаць*; да формы *ўдунуць* прыпісаны формы *ўдзьмуць* і *ўдзьмухнуць*.

Часам дадаткова да аналагічнай рускай уводзілася спецыфічная словаўтваральная форма: *варшавянин – варшавянін* (дапісана: *варшавяк*), *вдумчивость – удумчывасць* (дапісана: *удумлівасць*). Рэдагаванне эквівалентаў для рус. *вдумчивость* пацягнула за сабой і рэдагаванне эквівалентаў для рус. *вдумчивый*: *удумлівы* (прыпісана: *удумчывы*).

У некаторых выпадках дадаваўся сінонім, аналагічны рускаму слову: *багрение – чырваненне* (перад формай *чырваненне* была ўпісана лексема *багрэнне*); *багрец – барвец* (была дададзена форма *багрэц*).

Былі выпадкі, калі нейкі сінонім дапісваўся, але ўрэшце скасоўваўся. Так, да пары *багор – багор* спачатку быў дададзены сінонім *бусак*. Кола адпаведнікаў рус. *байковый* было спачатку пашырана за кошт бел. *мультановы*, але потым гэта форма была апушчана. Параўн. таксама: *бить баклуши – гультаяваць* (быў дададзены і потым зняты эквівалент *біць бібікі*); *бал – бал* (быў дададзены і потым зняты эквівалент *баль*); *балловый – балавы* (быў дададзены і потым зняты сінонім *адзнакавы*); *барствовать – панстваваць* (быў дададзены і потым зняты эквівалент *панаваць*); *бездельник – гультай, бяздзельнік* (быў дададзены і потым зняты сінонім *абібок*).

Часам выпраўляўся русіфікаваны сінонім: форма *баснапісец* была заменена на *байкапісец*, *бахвальства* – на *пахвальба*, *бяздзелле* – на *гультайства*, *безнадзорнасць* – на *безнагляднасць*, *безабразнік* – на *агіднік*, *безабразіць* – на *абязвечваць, знявечваць, скажаць, псаваць*.

Шэраг выпраўленняў датычыліся словаўтварэння.

Напрыклад, замяняўся суфікс на тоесны рускаму: форма *адвакаціць* як эквівалент рус. *адвокатствовать* заменена на *адвакатстваваць*, *акушэрыць* – на *акушэрстваваць*, *вахтавы* – на *вахценны*.

Дзеяслоўныя формы з суфіксам *-ір-* замяняліся на формы без гэтага суфікса: *большэвізіраваць* выпраўлена на *большэвізаваць*, *вальсіраваць* – на *вальсаваць*, *бальзаміраваць* – на *бальзамаваць*. Дадзеная змена праводзілася непаслядоўна. Так, напрыклад, форма *баласціраваць* была папраўлена на *баластыраваць*.

На абмеркаванне галоўнай рэдакцыі былі вынесены наступныя словы, лёс якіх рабочая рэдакцыя не магла вырашыць самастойна (пазначаліся пытальнікамі): *авантюрист, авантюристка, авось, агнец, артачиться* і інш.

Паколькі аднатомны руска-беларускі слоўнік, які ўвайшоў у гісторыю як слоўнік 1937 г., у асноўным быў падрыхтаваны не пазней чым у ліпені 1935 г., ён у няпоўнай меры ўлічыў матэрыялы падрыхтоўкі двухтомнага слоўніка. Аднак у пэўных выпадках пераемнасць РБС-37 з разгляданым намі двухтомным слоўнікам відавочная.

Падрыхтоўка РБС-36 адлюстравала складаныя выклікі, з якімі сутыкалася беларуская лексікаграфія 1930-х гг. З аднаго боку, імператывам часу было нівеліраванне беларускай лексікі. З другога боку, у працэсе падрыхтоўкі слоўніка былі зроблены некаторыя выпраўленні недакладнасцей прац 1920-х гг.

# Раздзел 7
# ЗМЕНЫ ВА УЗУСЕ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ 1930-х гг.

## 7.1. ЛЕКСІЧНЫЯ ПРАЎКІ

Калі да 1930 г. станаўленне беларускай літаратурнай мовы праходзіла натуральным парадкам, з улікам разнастайнасці і неадназначнасці моўнага развіцця, то з пачатку 1930-х гг. асаблівае значэнне для фарміравання літаратурнай мовы беларусаў сталі набываць ідэалагічна-палітычныя фактары. Такія падзеі, як рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б па пытаннях мовазнаўства, пастанова СНК БССР, кампанія за культуру мовы, аказалі непасрэднае ўздзеянне на моўны узус гэтага часу.

Паколькі аб'ём беларускамоўнай літаратуры 1920–1930-х гг. быў вельмі значны, даследаванне узусу гэтай пары ўяўляе сабой складаную задачу і патрабуе вялікіх намаганняў. Пажадана, каб вывучэннем моўнага ўжывання гэтага і любога іншага перыяду займаліся спецыяльныя навуковыя калектывы, якія выкарыстоўвалі б дасягненні сучасных камп'ютарных тэхналогій. У індывідуальнай рабоце паўстае пытанне змяншэння аб'ёму працы, і гэты аб'ём можа быць скарочаны без значных страт для якасці, калі сярод агромністага корпусу тэкстаў адабраць тыя з іх, якія, будучы тоеснымі ці, прынамсі, падобнымі паводле зместу, друкаваліся ў розныя гады. Такімі былі Фяд. ВЗ-32, Фяд. ВЗ-34, Крас., КрСк, Код. 30, Код. 31, Код. 36, Астр. 25, Астр. 27, Астр. 29, Шол.-Ал. 30, Шол.-Ал. 38 і інш. Пры разглядзе падобных кніг можна зыходзіць з дапушчэння, што мова кожнага з названых выданняў у большай або меншай ступені адлюстроўвала «сярэдні» узус свайго часу, сведчыла аб напрамку здзейсненых змен. Паводле Г. Яворськай, рэдактары ў адпаведнасці са сваёй прафесіяй з'яўляюцца носьбітамі найбольш рэпрэзентатыўных уяўленняў пра моўную норму; у рабоце з матэрыялам рэдактарскіх правак «працэс актыўнага выбару моўных варыянтаў робіцца, так бы мовіць, відавочным, паказваючы напрамак рэфлексіі над мовай». Пашыраючыся ў друкаваных творах, абраныя рэдактарамі варыянты ўплывалі на грамадскія ўяўленні аб правільнасці мовы [423, с. 172-173].

Натуральна, рэдагаванне здзяйснялася пры друкаванні літаратуры і ў 1920-я гг. (гл., напрыклад: 4.3.3). Сярод разнастайных правак у розных выданнях адных і тых жа кніг гэтага часу асобна стаяць замены ў словаўжыванні, якія

адбыліся паміж 1927-м і 1929-м гг. у межах матэматычнай тэрміналогіі. Іх можна назіраць на прыкладзе другога і трэцяга выданняў падручніка А. Астраба. У 1926 г. А. Лёсік рэзка раскрытыкаваў выдадзены ў 1922 г. БНТ-1 [657], у выніку ў 1927 г. матэматычная тэрміналогія выйшла ў рэвізаваным выглядзе (БНТ-14). У трэцім выданні кнігі А. Астраба гэтыя зрухі былі ўлічаны, аб чым сведчыла спецыяльная заўвага пра тое, што дадзенае выданне публікавалася «без істотных змен, апрача тэрміналогіі, якая выпраўлена згодна апошняму праекту матэматычнай тэрміналогіі БАН» (Астр. 29, с. 6). Замест ужываных у Астр. 27 формаў *раўналежнабочнік, трапэза, прастастаўнасць, мнагасценнік, кантаслуп, адцінак, квадратовы* ў Астр. 29 у адпаведнасці з прадпісаннямі БНТ-14 выкарыстоўваліся формы *паралелаграм, трапецыя, перпендыкуляр, мнагаграннік, прызма, адрэзак, квадратны*. Змены, якія адбыліся ва узусе матэматычнай тэрміналогіі на працягу 1927–1929 гг., назіраныя на прыкладзе розных выданняў падручніка А. Астраба, могуць пацвярджаць абагульняльнае меркаванне П. Вэкслера, паводле якога ў беларускіх кадыфікатараў «энтузіязм у дачыненні да словаўтваральных неалагізмаў к канцу 1920-х гг. паступова аслабеў, і многія з ранейшых неалагізмаў былі заменены інтэрнацыяналізмамі» [509, с. 41].

У творах мастацкай літаратуры 1930-х гг. часам сустракаюцца праўкі, падобна, не абумоўленыя канкрэтнымі лінгвістычнымі прадпісаннямі, – такія выпраўленні можна характарызаваць як моўна-літаратурныя. Напрыклад, у той час як у Шол.-Ал. 38 у адным месцы сустракаецца параўнанне *баяцца, як Гаман браждЖоткі* ’не (вельмі) баяцца’ (*шчуры баяцца ката, як Гаман браждЖоткі*), у Шол.-Ал. 38 дадзенае параўнанне заменена іншым: *баяцца, як камар зайца*. Гэтаксама фразеалагізм *уваходзіць у стос* у выданні 1938 г. заменены выразам *уваходзіць у азарт*. Верагодна, у абодвух выпадках праўкі былі выкліканы імкненнем перакладчыка (ім быў З. Бядуля) пазбавіцца ўжывання ў беларускай мове выразаў, абумоўленых уплывам мовы ідыш, замяніць іх больш зразумелымі для беларусаў фразеалагізмамі.

У выданнях 1930-х гг. найперш звяртаюць на сябе ўвагу шматлікія праўкі, якія сведчаць пра імкненне пазбягаць ва ўжыванні паланізмаў і слоў, тоесных з польскай мовай. Апошнія выцясняліся:

а) русізмамі або словамі, тоеснымі з рускай мовай: *паток* ***атраманту*** (Шол.-Ал. 30) – *паток* ***чарніла*** (Шол.-Ал. 38); *спраўны стан машын,* ***варштатаў*** *і прыладаў* (Код. 30, Код. 31) – *спраўнае становішча машын,* ***станкоў****, прыстасаванняў* (Код. 36); *апал* – ***газа*** (Карэл.) – *бэнзін або* ***карасін*** (БЦЯ); *сустракаюцца* ***гатункі*** *і адмены* (Крас.), *вынікі* ***гатункаапрабавання*** (Чэм. РНК 31) – *сустракаюцца* ***сарты*** *і адмены* (Крас., Скр. 1934), *вынікі* ***сортаапрабавання*** (Чэм. РНК 31); *мы змагаемся за выбаўленне ад* ***гвалту*** (Лен. ВБ 29) – *мы змагаемся за вызваленне ад* ***насілля*** (Лен. ВБ 39)[114]; *без* ***жадных*** *слядоў жылля* (Кар. УПП 30) – *не маючая* ***якіх бы та ні было*** *слядоў жыл-*

[114] Тут і далей у гэтым раздзеле прыклады з перакладаў твораў У. І. Леніна ўзяты з працы: [136].

*ля* (Кар. ПСА 36); *добра развітыя і найбольш* ***каштоўныя*** (Крас.), ***каштоўнай*** *кармовай раслінай* (Чэм. РНК 31) – *добра развітыя і найбольш* ***цэнныя*** (КрСк.), ***цэннай*** *кармавой раслінай* (Чэм. РНК 33)[115]; *пажыўныя* ***матэрыі*** (Крас.), *безазотавая экстрактная* ***матэрыя*** (Лем. 31) – *пажыўныя* ***вяшчэствы*** (КрСк.), *безазоцістае экстрактнае* ***вешчаство*** (Лем. 35); *сваячасная падача матарыялаў і* ***начыння*** (Код. 30, Код. 31) – *сваечасовая падача матэрыялаў і* ***інструмента*** (Код. 36); *змерайце* ***паводле*** *маштабу* (Касм. 29), *касуецца* ***паводле*** *гэтага артыкула* (Код. 30, Код. 31) – *змерце* ***па*** *маштабе* (Касм. 31), *касуецца* ***па*** *гэтаму артыкулу* (Код. 36); *перыяд* ***плоццевага*** *развіцця* (Поляк С 30) – *перыяд* ***палавога*** *развіцця* (Поляк С 32); *калі работа мае* ***сталы*** *характар* (Код. 30, Код. 31) – *калі работа мае* ***пастаянны*** *характар* (Код. 36); ***тубыльцы*** *пераканаліся* (Кар. УНД 30), ***тубыльцы*** *расказваюць; сярод* ***тубыльных*** *насельнікаў* (Кар. УПП 30) – ***туземцы***; ***туземных*** (Кар. ПСА 36); *бульбіны* ***становяць*** *сабою змененае сцябло* (Макс. 30) – *клубні* ***прадстаўляюць*** *з сябе відазмененае сцябло* (Макс. 34); *шалёўка прымацоўваецца* ***шрубамі*** (Чэм. РНК 31) – *шалёўка прымацоўваецца* ***вінтамі*** (Чэм. РНК 33);

б) беларускімі словамі, якія не мелі адзнак запазычанасці: *належнае асвятленне,* ***апал*** (Код. 30, Код. 31) – *патрэбнае асвятленне,* ***ацяпленне*** (Код. 36); *без* ***жаднае*** *надзеі* (Біянкі 30), *не было б* ***жаднай*** *патрэбы* (ЛА 31) – *без* ***усякай*** *надзеі* (Біанкі 38), *не было б* ***ніякай*** *патрэбы* (ЛА 34); *чулі аб рабочых* ***забурэннях*** *у гарадох* (Лен. ВБ 29) – *чулі аб рабочых* ***хваляваннях*** *у гарадах* (Лен. ВБ 33); ***загарак*** *брата,* ***зэгармайстар*** (Шол.-Ал. 30) – ***гадзіннік*** *брата,* ***гадзіншчык*** (Шол.-Ал. 38); *з водблескам* ***мосензу*** (Крас.) – *з* ***мядзяна****-чырвоным водценем* (КрСк.); ***развінаюць*** *сцягі з надпісамі* (Лен. ВБ 33) – ***разгортваюць*** *сцягі з надпісам* (Лен. ВБ 39)[116]; *у галіне* ***ральніцтва*** (Чэм. РНК 31), *трэба прыдумаць новыя сістэмы* ***рольніцтва*** (ЛА 31) – *у галіне* ***земляробства*** (Чэм. РНК 33), *вынайсці новыя сістэмы* ***паляводства*** (ЛА 34)[117]; ***рэшта*** *бульбіны складаецца з так званай абалоніны* (Макс. 30) – ***астатняе*** *складаецца з так званай клятчаткі* (Макс. 33); ***трунак*** *майго брата* (Шол.-Ал. 30) – ***пітво*** *майго брата* (Шол.-Ал. 38); ***шчуры*** *баяцца ката* (Шол.-Ал. 30) – ***пацукі*** *баяцца ката* (Шол.-Ал. 38).

У перавыданнях 1930-х гг. праўкам таксама падлягалі пашыраныя ў гаворках беларускія словы. Яны замяняліся:

а) русізмамі або словамі, тоеснымі з рускай мовай: *з так званай* ***абалоніны*** (Макс. 30), *грубыя кармы змяшчаюць у сабе вялікі процант* ***абалоніны***

115 У 1920-я гг. сустракаем проста процілеглую праўку-замену: *маюць сваю ўласную* ***цэннасць*** (Астр. 27) – *маюць сваю ўласную* ***каштоўнасць*** (Астр. 29).

116 Нягледзячы на тое што слова *развіненне* ‘разгортванне’ было заменена падчас рэвізіі матэматычнай тэрміналогіі ў 1927 г. і сучаснымі аўтарамі можа лічыцца «недакладным» [13, с. 31], у 1920-я гг. яно, тым не менш, не было збыткоўным дублетам. У 1931 г. П. Глебка крытыкаваў М. Лужаніна за ўжыванне словазлучэння *разварочваць шэрагі*; на думку крытыка, правільна было б *развінаць шэрагі* [593, с. 140].

117 Тут не бярэм пад увагу тую акалічнасць, што слова *земляробства* з’явілася ў беларускай мове пад украінскім уплывам [682, с. 182; 654]. Слова *земляроб* некаторым здавалася «зусім натуральным» для беларускай мовы [187, с. 47].

(Лем. 31)[118] – *з так званай* ***клятчаткі*** (Макс. 33), *утвараецца больш* ***клятчаткі*** (Лем. 35); *добра сцісні* ***абцугамі*** (Біянкі 30) – *сцісні яго* ***шчыпцамі*** (Біанкі 38); *лопнула* ***багавінне****, што трымала яе за нагу* (Біянкі 30) – *лопнулі* ***водарaслі****, што трымалі яе за нагу* (Біанкі 38); *накіраваліся да старой* ***будкі*** (Біянкі 30) – *накіраваліся да сабачай* ***кануры*** (Біанкі 38); *хэмічны склад* ***бульбіны*** (Макс. 30) – *хімічны склад* ***клубняў*** (Макс. 33); ***негатаванага*** *малака* (Поляк С 30) – ***некіпячонага*** *малака* (Поляк С 32); *было шмат* ***глею*** (Біянкі 30) – *былі напоўнены* ***ілам*** (Біанкі 38); *самае паняцце* ***дапушчае*** *загадзя змену* (ЛА 31) – *самае паняцце* ***прадпалагае*** *змену* (ЛА 34); *восем* ***дужых*** *вярблюдаў* (Кар. УПП 30) – *вельмі добрых вярблюдаў,* ***сільных*** (Кар. ПСА 36); *не могуць пазбавіцца* ***забабонаў*** (ЛА 31) – *аддзелацца ад* ***прадрассудкаў*** (ЛА 34); *больш, чым* ***збожжа*** (Макс. 30), *зернявага* ***збожжа*** (ЛА 31) – *больш за* ***зернявых*** (Макс. 33), *зернавых* ***хлябоў*** (ЛА 34); ***істужкавыя*** *пасадкі* (Крас.) – ***лентачная*** *пасадка* (КрСк.); *угнаенне пад бульбу* ***кладзецца*** (Макс. 30) – *угнаенне пад бульбу* ***ўносіцца*** (Макс. 34); *працоўны дагавор* ***робіцца*** (Код. 30; Код. 31) – *працоўны дагавор* ***заключаецца*** (Код. 36); *шчыпалі зялёную маладую* ***рунь*** (Біянкі 30) – *шчыпалі зялёныя* ***ўсходы*** (Біанкі 38); *прасякненне чыстаты ва ўсе* ***сітавінкі*** (Поляк С 30) – *пранікaнне ва ўсе* ***поры*** (Поляк С 32); *сваю знікшую* ***таварышку*** (Біянкі 30) – *сваю знікшую* ***падругу*** (Біанкі 38); *караван знайшоў невялікую* ***сажалку*** (Кар. УПП 30) – *караван напаткаў невялікі* ***пруд*** (Кар. ПСА 36); *зрабіў* ***скрабіну*** (Поляк С 30) – *зрабіў* ***царапінку*** (Поляк С 32); *бульба амаль* ***скрозь*** *пашырана* (Макс. 30) – *бульба атрымала амаль* ***паўсяместнае*** *распаўсюджанне* (Макс. 33); *старшы па* ***стайні*** (ДК 32) – *добра абсталяваная* ***канюшня*** (ДК 34); *ёсць больш і менш* ***урадлівыя*** *вучасткі* (ЛА 31) – *ёсць участкі больш* ***пладародныя*** (ЛА 34); ***хутка*** *спадабаўся ўсяму каравану* (Кар. УПП 30), *каб тэхніка ў земляробстве расла* ***хутчэй*** (ЛА 31) – *калі б тэхніка ў земляробстве расла* ***быстрэй*** (ЛА 34), ***быстра*** *заваяваў любоў усяго каравана* (Кар. ПСА 36); *газавы* ***чоп; чопы*** *для апалу* (Карэл.) – ***бак*** *для гаручага* (Багд.), *бэнзінавы* ***бак*** (Чуд.);

б) наватворамі: ***выраб*** *глебы* (Чэм. ГЦ 29, Чэм. ПМБ 30, Чэм. ГКП 30; Чэм. РНК 31), *угнаенне і* ***выраб*** *глебы* (Крас.), *садзіць бульбу,* ***вырабляць*** *глебу пад яе* (Макс. 30), ***выраб*** *параўнальна дрэнных вучасткаў* (ЛА 31) – *саджаць бульбу,* ***апрацоўваць*** *глебу пад яе* (Макс. 33), ***апрацоўка*** *глебы* (Чэм. РНК 33), *угнаенне і* ***апрацоўка*** *глебы* (КрСк.), ***апрацоўка*** *параўнальна дрэнных участкаў* (ЛА 34);

в) іншымі народнымі беларускімі словамі: *зусім* ***адгэтуль*** *паляцелі* (Біанкі 29) – *паляцелі* ***адсюль*** (Біанкі 36); *па галаве нечым моцна* ***выцяла*** (Біанкі 29), *казарка* ***выцяла*** *сабаку крылом* (Біянкі 30) – *па галаве нечым моцна* ***стукнула*** (Біанкі 36), *казарка* ***ўдарыла*** *сабаку крылом* (Біанкі 38); *цела* ***здранцвела*** *ад*

[118] Складана ўстанавіць, ці бел. *абалоніна* ‘клятчатка’ неяк залежыць ад польск. *błonnik* ‘клятчатка, цэлюлоза’. Бел. *абалона, абалонка, балонь, балона* ‘верхнія слаі драўніны’ ў ЭСБМ параўноўваюцца з рус. *болонь*. чэш. *blána*; выказваецца меркаванне, што іншыя славяне гэтага значэння слова не ведаюць (ЭСБМ 1, с. 41, 296).

*жаху* (Біянкі 30) – *цела **застыла** ад жаху* (Біанкі 38); *нечаканае **ліха** напаткае яго* (Біанкі 29) – *нечаканая **бяда** напаткае яго* (Біанкі 36); *гл. **малюнкі*** (Поляк С 30) – *гл. **рысункі*** (Поляк С 32); *карыстаўся **супольным** пасудкам* (Поляк С 30) – *карыстаўся **агульным** пасудкам* (Поляк С 32); *сэрца балюча **тахкала*** (Біянкі 30) – *сэрца балюча **калацілася*** (Біанкі 38); *кіслота-**ўпартых** бактэрый* (Поляк С 30) – *кіслота-**трывалых** бактэрый* (Поляк С 32); *доўгі і **шпаркі** палёт* (Біянкі 30) – *доўгі і **хуткі** палёт* (Біанкі 38).

У некаторых выпадках для моўных рэдактараў былі непрымальнымі наватворы. Яны маглі замяняцца:

а) русізмамі або словамі, тоеснымі з рускай мовай: ***галачкападвалкі***; *хадунковыя **падвалкі*** (Карэл.) – ***шарыкападшыпнікі***; ***падшыпнікі*** (БЦЯ); ***доследы** паказваюць, што...* (Макс. 30) – ***вопыты** паказваюць, што...* (Макс. 34); ***забяспечанне** сартовым насеннем* (Макс. 30) – ***снабжэнне** сартовым насеннем* (Макс. 34); ***закаранеласць** кожнага гаспадара* (Макс. 30) – ***коснасць** кожнага аднаасобніка* (Макс. 33); ***затамкі**, з якіх адна ўсмоктная, а другая выхлапная; **затамачны** падважнік* (Карэл.) – ***клапан** усасваючы* (БЦЯ), ***клапаннымі** адтулінамі* (Багд.); *работа ў **звышмерны** час* (Код. 30; Код. 31) – *работа ў **звышурочны** час* (Код. 36); *урадлівасці і месца **знаходжання*** (ЛА 31) – *пладароддзя і **месцапалажэння*** (ЛА 34); *змаганне з **навальнымі** бядотамі* (Код. 30) – *змаганне з **стыхійнымі** бедамі* (Код. 36); *даследчыя установы з'яўляюцца магутным **падважнікам*** (Макс. 30), ***падважнікі*** (ДАП) – *даследчыя установы з'яўляюцца магутным **рычагом*** (Макс. 33), ***рычагі*** (ДПЗС); *пласты земных пародаў ляжаць **паземна*** (Касм. 29) – *пласты земных пародаў ляжаць **гарызантна*** (Касм. 31); ***плоскаўзвышшаў*** (Кар. УПП 30) – ***пласкагор'і*** (Кар. ПСА 36); *выполванне і **распульхненне*** (Крас.) – *полка і **рыхленне*** (КрСк.); *лобавая **роўніца** радыятара* (Карэл.), *кут паміж простай і **роўніцай*** (ДАП) – *цыліндры знаходзяцца ў аднэй **плоскасці*** (Багд.), *паміж прамой і **плоскасцю*** (ДПЗС); *ход **саўгача*** (Карэл.) – *ходы **поршня*** (БЦЯ); *усходняга **сухазем'я*** (Кар. УПП 30) – *усходняга **мацерыка*** (Кар. ПСА 36); *павялічэннем **цягліц*** (Лем. 31) – *сустракаюцца ў **мускулах*** (Лем. 35);

б) іншымі наватворамі: ***адстанаўленне** і замена тканак* (Фяд. ВЗ 32) – ***аднаўленне** і замена тканак* (Фяд. ВЗ 34); *прышчэпліванні **нараджэнцам*** (Поляк С 30) – *прышчэпліванні **нованароджаным*** (Поляк С 32); ***чужаземны** гатунак* (Крас.) – ***іншакраінныя** сарты* (КрСк.); ***штурханец*** (Карэл.) – ***штурхач** упіраецца ў вагарок* (Багд.), *упіраюцца ў асобныя **штурхальнікі*** (БЦЯ), ***штурхальнікаў*** (Чуд.);

в) беларускімі словамі, якія не мелі адзнак штучнай створанасці: *спусціліся на ваду і **наўплаў** даганялі карабельчык* (Біанкі 29) – *спусціліся на ваду і **плывучы** даганялі караблік* (Біанкі 36); *сустракаць хуткі **цягнік**; давай рэбяткам з санак **цягнік** зробім* (Гайд. 33) – *сустракаць хуткі **поезд**; давай рэбяткам з санак **поезд** зробім* (Гайд. 37);

г) паланізмамі: ***няўхільна*** *павінна была наглядацца* (ЛА 31) – ***неўнікнёна*** *павінна была наглядацца* (ЛА 34).

У рэдкіх выпадках правіліся русізмы. Замест іх маглі выкарыстоўвацца словы без адзнак запазычанасці: *як жа адбіваецца гэты рост на* ***палажэнні*** *рожных класаў* (ЛА 31) – *як жа адбіваецца гэты рост на* ***становішчы*** *рожных класаў* (ЛА 34); *урад забараняе забастоўкі і* ***сабранні*** (Лен. ВБ 29) – *урад забараняе забастоўкі і* ***сходы*** (Лен. ВБ 33); *дабіцца лепшага* ***ўстройства*** *грамадства* (Лен. ВБ 29) – *дабіцца лепшага* ***ладу*** *грамадства* (Лен. ВБ 33).

Натуральна, у 1930-я гг. звычайнай з'явай было выкарыстанне (як паказала далейшае развіццё, часта рэштакавае) варыянтных моўных сродкаў для абазначэння адных і тых жа паняццяў: ***выпампоўваецца*** *помпай* (БЦЯ) – ***накачваецца*** *паветра* (Багд.); ***празор*** (Карэл.), *запоўніць* ***празор***... *пакідаючы* ***празор*** (БЦЯ), *значны* ***празор***... *малы* ***празор*** (Чуд.) – ***зазор*** (Багд.); *лобавая* ***роўніца*** *радыятара* (Карэл.), *па нахілай* ***роўніцы*** (БЦЯ), *у* ***роўніцы*** *восі* (Чуд.) – *цыліндры знаходзяцца ў аднэй* ***плоскасці*** (Багд.); *вадзяная* ***сарочка***... *каб вада з* ***сарочкі*** *не магла пранікнуць* (БЦЯ) – ***рубашак*** *вадзянога ахаладжэння* (Багд.); ***спірытус*** (Карэл.; Багд. ПЗ) – ***спірту*** *і гліцэрыну* (БЦЯ); ***трэнне*** (Багд.) – *сілы* ***церця***... ***церце*** *невялікае* (Чуд.). На аснове вывучэння узусу гэтага часу можна сцвярджаць, што ўрэшце абмяжоўваліся ва ўжытку або ўвогуле выходзілі з выкарыстання тыя члены гэтых пар, якія былі наватворамі, паланізмамі / тоеснымі з польскай мовай; звычайна яны замяняліся русізмамі або словамі, тоеснымі з рускай мовай.

Можна гаварыць пра пэўныя перыяды ў моўным рэдагаванні выдадзеных у 1920-я або ў пачатку 1930-х гг. кніг. Этапнымі былі 1930-ты, 1933-ці (асабліва) і 1937-мы гг., пасля якіх «рэвізіянісцкае» рэдагаванне рабілася больш актыўным. Творы В. Біянкі выходзілі ў беларускамоўных перакладах у 1928, 1929, 1930, 1936 і 1938-м гг. Калі ў 1936 г. яшчэ было магчыма выдаць другое выданне «Мышаняці Піка» (у параўнанні з выданнем 1929 г. у ім было адносна мала правак), то выданне кнігі «На вялікім марскім шляху» (1938) ужо не суадносілася з выданнем гэтага ж твора 1930 г. – гэта было прынцыпова новае выданне.

Як сведчыць наш матэрыял, рэдагаванне ахоплівала ў першую чаргу паланізмы і словы, тоесныя з польскай мовай, а таксама наватворы і словы, пашыраныя ў гаворках.

Вядомы выпадкі, калі ў пэўных выдавецтвах збіраліся выдаваць загады пра невыкарыстанне тых або іншых слоў. У 1932 г. у артыкуле «Нядбайліцы і бракаробы на моўным фронце» С. Астрэйка ў кантэксце гаворкі пра непісьменнасць паведамляў, што ў Беларускім навукова-тэхнічным выдавецтве знайшоў ужытак падыход, паводле якога словы *газа, попел, шруба, варштат, выстарчальны* лічыліся «правінцыялізмамі» і забараняліся да ўжывання [533]. Аднак крытыка такой практыкі, відаць, мала ўплывала на узус, і «альтэрнатыўныя» лексемы *станок, карасін, вінт* у 1930-я гг. працягвалі ўжывацца ў друку.

Быўшы кваліфікаванымі як непрыгодныя ў працэсе палітычна-ідэалагічных інтэрпрэтацый пэўных з’яў беларускай мовы, некаторыя словы, бадай, зусім не мелі шанцаў утрымацца ва узусе. Напрыклад, лексеме *рольніцтва* была ўдзелена спецыяльная ўвага ў рэзалюцыі бюро ЦК КП(б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве» як польскаму слову (гл. 6.1.2). Выкарыстанне ў беларускай мове слова *саўгач* у канцы 1933 г. выклікала рэзкае асуджэнне з боку старшыні СНК БССР М. Галадзеда: «Які беларус, які беларускі рабочы, калгаснік зразумее, што такое *саўгач*! Якая навуковая і практычная карысць ад гэтага мёртванароджанага, выдуманага слова, зусім незразумелага працоўным масам!.. Напішыце згодна правілам любога правапісу – рускага або беларускага – слова *саўгач*. Ці вы напішыце па-беларуску – *саўгач* ці па-руску – *совгач*, змест не мяняецца <...> яно мёртванароджанае, выдуманае з пэўнымі нацыянал-дэмакратычнымі буржуазнымі мэтамі слова [590].

Не ўсе з пералічаных замен набылі ва узусе 1930-х гг. татальны характар і ахапілі ўсе віды літаратуры. Так, дыскрымінаваная ў навукова-папулярнай літаратуры лексема *гатунак* не абавязкова падлягала заменам у мастацкіх творах, параўн. яе нязменнае ўжыванне ва ўсіх выданнях аповесці Шолам-Алэйхема 1930-х гг.: *печ такога гатунку, у якой досыць паліць раз на тыдзень* (Шол.-Ал. 30; Шол.-Ал. 36; Шол.-Ал. 38).

Толькі ў некаторых выпадках можна гаварыць пра абгрунтаванасць зробленых правак, пацверджаную логікай папярэдняга развіцця беларускай літаратурнай мовы. Так, відаць, абгрунтаванымі можна прызнаць замены *кіслота-ўпарты* – *кіслота-трывалы, адстанаўленне* – *аднаўленне*. Шэраг замен (*бульбіна* – *клубень, гвалт* – *насілле, дапушчаць* – *прадпалагаць, класці* – *уносіць, рабіцца* – *заключацца, скрозь* – *паўсямесна, выраб* – *апрацоўка, адгэтуль* – *адсюль, выцяць* – *стукнуць, хутка* – *быстра, шпаркі* – *хуткі*) сведчыў аб дынамічных працэсах, якія адбываліся ў 1930-я гг. у сферы стылістычнай дыферэнцыяцыі беларускай літаратурнай мовы. За першымі кампанентамі гэтых пар стала рэзервавацца сфера мастацкай літаратуры, а іх ужыванне ў іншых пісьмовых стылях стала абмяжоўвацца. Не ўсе з навацый 1930-х гг. (*прадпалагаць*, замена прыслоўя *хутка* на *быстра*) былі пацверджаны пазней. Некаторыя выпадкі (замена слова *варштат* лексемай *станок*) паказваюць на звужэнне семантычнай структуры некаторых раней вельмі ўжывальных паланізмаў.

Пачынаючы з 1933 г. можна назіраць выразны зрух раней усталяваных лексічных нормаў, якія закранаў часам самыя звычайныя словы. Пасля 1933 г. адбывалася актыўнае нівеліраванне беларускай лексікі з мэтай максімальна павялічыць колькасць супадзенняў паміж беларускай і рускай мовамі, паставіць заслон перад спецыфічнай беларускай лексікай, распадабніць беларускі лексічны склад са словамі польскай мовы.

## 7.2. СТЫЛІСТЫЧНЫЯ ЗРУХІ Ў СІНАНІМІЧНЫХ РАДАХ

Стылістычны ракурс развіцця беларускай літаратурнай мовы ў першай палове XX ст. пакуль недастаткова асветлены ў літаратуры. Найбольшыя заслугі тут маюць А. Я. Баханькоў, аўтары калектыўнай манаграфіі па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, І. К. Германовіч. Напрыклад, у дысертацыі І. К. Германовіча з выкарыстаннем вялікага матэрыялу падрабязна прасочана паступовае распадзенне 85, згодна з ацэнкай аўтара, «найбольш ужывальных» у 1920–1930-я гг. лексічных дублетных радоў [74, с. 7]. Несумненна, колькасць такіх радоў была значна большай, і іх вывучэнне ўяўляе сабой складаную навуковую задачу, недаступную для вырашэння адным даследчыкам. Гэта складанасць можа тлумачыцца не толькі вялікай колькасцю матэрыялу, але і той акалічнасцю, што, як лічыцца, варыянтныя моўныя сродкі ў першую чаргу маркіруюцца па часавай шкале (знікае – з'яўляецца), потым з пункту гледжання нормы (нарматыўнае – ненарматыўнае) і толькі ў апошнюю чаргу з сацыяльнага і стылістычнага боку [174, с. 83]. У гістарычным плане дадатковую праблему складае тое, што змены ва ўжыванні тых або іншых лексем у розных стылях неабавязкова адбываюцца сінхронна.

Калі гаворка ідзе пра крыніцы 1920-х гг., у сучаснай літаратуры часам можна назіраць выразныя складанасці ў вызначэнні нават асноўных паняццяў і падыходаў. Напрыклад, далёка не простым і адназначным з'яўляецца пытанне аб самой наяўнасці стылістычнай дыферэнцыяцыі ў мове 1920-х гг. Так, даследуючы слоўнікі М. Гарэцкага і гаворачы пра выкананне імі нарматыўнай функцыі, І. І. Савіцкая зыходзіць з наяўнасці ў іх стылістычных памет (гл. 1.1.1). Працуючы з лексікаграфічным матэрыялам 1920-х гг., А. В. Губкіна, з аднаго боку, прымае ў якасці зыходнага падыход, паводле якога ў значэннях пэўных ужывальных у гэты час слоў адсутнічалі канатацыйныя кампаненты. Тая акалічнасць, што ў слоўніках 1920-х гг. фактычна не было стылістычных памет, тлумачыцца даследчыцай станам тагачаснай літаратурнай мовы, у якой, як сцвярджаецца, не адбылася стылістычная дыферэнцыяцыя. З другога боку, адсутнасць канатацыйных значэнняў тлумачыцца недасканаласцю лексікаграфічнай апрацоўкі лексічнага матэрыялу 1920-х гг., а зыходнае палажэнне аб адсутнасці канатацыйных кампанентаў у лексіцы 1920-х гг. прызнаецца «ў пэўнай ступені ўмоўным» [97, с. 46, 83]. Канатацыйныя значэнні выбраных з крыніц 1920-х гг. слоў А. В. Губкіна вызначае зыходзячы з даных нарматыўных слоўнікаў 1970–1990-х гг., што спрыяе атаясамленню стылістыкі беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. са стылістыкай 1970–1990-х гг.

Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў 1920–1930-я гг. уключала ў сябе як паступовае, абумоўленае канцэптуальнымі поглядамі на беларускую мову, выбудоўванне стылістычных іерархій, так і імклівыя, часам навя-

заныя палітычна-ідэалагічнай кан'юнктурай, змены. Галоўнай тэндэнцыяй фарміравання беларускай літаратурнай мовы ў 1920-я гг. была яе апора на народныя моўныя рэсурсы. Найбольш заўважнай тэндэнцыяй развіцця літаратурнай мовы ў 1930-я гг. стала імкненне распадабніць яе з мовай папярэдняга перыяду, спыніць пастаянны прыток народнай лексікі, абмежаваць выкарыстанне ў ёй паланізмаў, стымуляваць выкарыстанне ў ёй русізмаў. У выніку на пераломе 1920–1930-х гг. ва узусе стаў здзяйсняцца зрух, у рамках якога сталі проціпастаўляцца моўныя сродкі, якія раней мала або ўвогуле не проціпастаўляліся. Адны моўныя сродкі, у тым ліку актыўна ўжывальныя ў 1920-я гг., сталі выходзіць з ужытку або атрымліваць ніжэйшы стылістычны статус. Іншыя – наадварот, сталі павышаць свой статус. Размежаванне значнай колькасці моўных рэсурсаў спрыяла назапашванню выпадкаў стылістычнай дыферэнцыяцыі, што, урэшце, прывяло да ўзнікнення стылістычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы ў яе сучасным выглядзе.

Ніжэй разглядаюцца выпадкі развіцця стылістычнай дыферэнцыяцыі шэрагу лексем.

***Аб'ява*** і ***абвестка, абвяшчэнне***. Насуперак таму, што пры словах *аб'ява* і *абвестка* ў ТСБМ няма ніякіх стылістычных памет, якія дазвалялі б адрозніваць іх ужыванне, стылістычная іерархія паміж імі ў слоўніку, тым не менш, пазначана: *абвестка* тлумачыцца праз указанне на слова *аб'ява*. Калі сёння можна лічыць слова *аб'ява* асноўным, а *абвестка* – сінонімам да яго, то неабавязкова сітуацыя была такой жа на розных этапах гісторыі літаратурнай мовы. У нашаніўскі перыяд, у пазнейшыя і ў 1920-я гг. у беларускай літаратурнай мове як асноўнае ўжывалася слова *абвестка*, якое трактуецца як калька з польскай мовы [175, с. 141; 82, с. 255–256]. Параўн.: *абвесткі.. Чытанне абвестак* (Звон 1919, назва рубрыкі); *объявление, афиша – абвестка* (БНТ-2); у БРС-26 *абвестка* дадзена са спасылкай на БНТ-2; *Луцэя, жонка Лаўрэна, з часу, калі з'явілася абвестка ваеннага камісарыята аб прызыве, аплаквала Віктара* (Гартны. Праводзіны, 1926); *объявление – абвестка, абвяшчэнне* (РБС-28); *абвесткі, адозвы* (СД); *абвесткі* (Сярг.). Бел. *абвестка* з'яўляецца хутчэй калькай з укр. *оповістка*. Калі ў 1920-я гг. лексікаграфічныя крыніцы, здаецца, яшчэ не ведаюць слова *аб'ява* (аднак у XIX ст. і на старонках НН сустракалася слова *аб'яўленне*), галоўным выступала слова *абвестка*, то ў 1930-я гг. адбываюцца важныя змены. У 1933 г. слова *абвестка*, як лічыцца, па прычыне блытаніны [81, с. 110] было прапанавана як эквівалент рус. *повестка* ў ВРБС, аднак папраўдзе ў дадзеным выпадку было засведчана адно са значэнняў слова *абвестка* 1920-х гг., адлюстраванае не толькі ў слоўніках таго часу (напрыклад, РБС-28), але і ў ТСБМ. У РБС-37 спачатку была ўказана лексема *аб'ява*, а *абвестка* перамясцілася на другое месца. Магчыма, гэта адлюстроўвала сітуацыю ў пісьмовай практыцы другой паловы 1930-х гг. У гэты час размеркаванне паміж формамі *абвестка* і *аб'ява* змянілася, стала «сучасным», і *аб'ява* стала асноўным нейтральным словам для абазначэння адпаведнага дэнатата.

Канкурэнцыя паміж лексемамі *абвестка* і *аб'ява* можа неабгрунтавана разглядацца ў тэрмінах «адметнабеларускае слова» *абвестка vs.* «расійскамоўныя словы з коранем *яв-*» [358, с. 220]. Папраўдзе, адсоўванне на стылістычную перыферыю слова *абвестка* было абумоўлена, відаць, агульнай тэндэнцыяй другой паловы 1930-х гг. да выдалення з ужывання вельмі «простых», «нашаніўскіх», з адценнем размоўнасці слоў. Гэта іх стылістычная «недасканаласць» адчувалася не сама па сабе, а на фоне з'яўлення слоў-канкурэнтаў, якім у дадзеным выпадку была лексема *аб'ява*. Замацаванне формы *аб'ява* ўстанаўлівала больш выразныя суадносіны з рус. *объявление*, яе фіксацыя ў лексікаграфічных крыніцах была таксама праяўленнем пэўнай экспансіі нульсуфіксальных утварэнняў з коранем *яв-*, заўважнай у беларускай літаратурнай мове таго часу і ў іншых выпадках. Параўн. актывізацыю ў гэты ж час ужывання формы *з'ява* (як альтэрнатывы слову *з'явішча*), а таксама *выява* – апошняе слова стала абазначаць не толькі 'пошук, выяўленне', але і стала мець значэнне 'праява, праяўленне'. Апісаны працэс звужэння ўжытку пэўнага слова з коранем *вест-*, аднак, не паўплываў на ўжывальнасць слоў *вестка* і *звесткі* – яны з'явіліся ў беларускай мове раней, былі больш моцна ўкаранёны ў ёй і, галоўнае, не мелі альтэрнатыў, утвораных на аснове іншых каранёў. Увогуле, у аснове разгледжанага працэсу адхілення формы *абвестка* на стылістычную перыферыю ляжала ўласцівае 1930-м гг. звужэнне сферы ўжывання «народнай» формы ў якасці адпаведніка царкоўнаславянізму на карысць больш «абстрактнай» лексемы, урэшце, інтэлектуалізацыя мовы.

***Ахоп, абхват, абсяг, аб'ём, абойм, абыймо*** і інш. Не зразумела, ці на старонках «Нашай нівы» ўжываўся які-небудзь назоўнік са значэннем 'уключэнне ў сферу свайго дзеяння, уплыву', якому ў сучаснай мове адпавядае слова *ахоп*. У СМНН няма слоў *абсяг* 'прастора, якую можна ахапіць вокам', 'сфера, галіна дзейнасці' і *аб'ём* 'велічыня прадмета', 'змест чаго-небудзь з пункту гледжання памераў, саставу, колькасці'. На старонках газеты, аднак, ужываліся словы *абхват* 'таўшчыня па аб'ёме распасцёртых рук', *абымкі* 'абхваты' і *абоймішча* 'абхват' (НН, 1911, № 13), значэнні якіх характарызуюцца меншай ступенню абстрактнасці ў параўнанні з сучаснай лексемай *ахоп*. З пункту гледжання падобных значэнняў у дадзены шэраг можа быць таксама ўключана пераноснае значэнне (адсутнага ў СМНН) слова *маштаб* 'размах; значэнне'. Значыць, слова са значэннем 'уключэнне ў сферу свайго дзеяння, уплыву', а таксама лексемы *абсяг, аб'ём* і *маштаб* з'явіліся ў беларускай літаратурнай мове пасля нашаніўскага перыяду. Сувязі паміж рознымі лексіка-семантычнымі варыянтамі названых слоў даволі складаныя, каб ахапіць іх ва ўсёй паўнаце, тут абмяжуемся толькі ўказаннем на найбольш відавочныя розніцу ў іх слоўнікавай фіксацыі і ўжыванні на практыцы ў міжваенныя гады і ў нашы дні.

Па-першае, у БРС-26 і РБС-28 яшчэ не фіксавалася вандроўная запазычанне-калька *абсяг*, хоць яна ўжо, здаецца, была ўжывальнай[119]. Па-дру-

[119] Пра вандроўныя запазычанні-калькі падрабязна гл. 4.3.1. Бел. *абсяг* трактуем як вандроўнае запазычанне-кальку на аснове сведчанняў В. Майсяенкі.

гое, зафіксаваная ў слоўніках лексема *аб'ём* (БНТ-1, БНТ-4, БРС-26, РБС-28; прапаноўваліся таксама варыянты *абнім, абыйм*) ва узусе мела паралелі ў выглядзе формы *абойм* і *абыймо*, параўн.: *маюць упругасць абыйма* (НТФ 22), *абыймо грудзей* (Смол. 23/93); *Замінаю найбольшаю дзеля прыйма <...> будзе аднак вялікі абойм яе...* (Кал. 1936. НА). Слова *абыймо* сустракаецца і ў пасляваенным тэксце эмігранта С. Станкевіча: *прынамсі з увагі на абыймо рэдагаваных ім тэкстаў... абыймо, абсяг* [351, с. 15]. Аўтары ЭСБМ, не прыводзячы аргументаў (ЭСБМ 1, с. 47), і А. Я. Баханькоў, са спасылкамі на адсутнасць адпаведнікаў у беларускіх гаворках і цяжкасць пры калькаванні [212, с. 94–95], лічаць слова *аб'ём* прамым запазычаннем з рускай мовы. Калі мець на ўвазе шэраг прыведзеных вышэй падобных беларускіх лексем (параўн. таксама *уём*, зафіксаванае ў творах М. Зарэцкага), то такую трактоўку неабавязкова трэбна лічыць пераканаўчай.

У 1920–1930-я гг. у значэнні 'памер, маштаб; размах' часта ўжывалася народная лексема *абхват (ахват)*: *у гарадскім абхваце* (Асв. 1926), *у магутным сінтэтычным абхваце замысліў Раманаў паказаць* (Узв. 1927); *стварэнне адзінай камуністычнай грамады у сусветным абхваце* (СБ 1930); *раман «На чырвоных лядах» – твор шырокага ахвату жыцця мястэчка* (Кол. ЗТ20, 17, с. 310).

Увогуле, на працягу 1920–1930-х гг. можам канстатаваць экспансію лексем *ахоп, абсяг, аб'ём*, пры гэтым усе тры могуць кваліфікавацца як запазычанні або калькі, а апошняе можа лічыцца, акрамя таго, таксама народным словам. Падобная неадназначнасць парадаксальным чынам магла быць станоўчым фактарам пры засваенні гэтых слоў у якасці адзінак інтэлектуальнага лексічнага пласта беларускай мовы.

***Абгаварэнне*** і ***абмеркаванне***. Стылістычна-функцыянальную іерархію паміж гэтымі словамі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове можна назіраць на прыкладзе таго, што ў ТСБМ у артыкуле *абмеркаваць* пададзены аўтарскія ілюстрацыі, тады як у артыкуле *абгаварыць* прыведзена сканструяваная ананімная цытата. Відавочна, ТСБМ прапануе лічыць слова *абмеркаванне* больш універсальным. Сапраўды, у навуковым маўленні хутчэй не сустрэнем слова *абгаварэнне*. Тым не менш шлях слова *абмеркаванне* ў літаратурную мову не быў зусім простым, і, напрыклад, на старонках «Нашай нівы» яно яшчэ не ўжывалася (хоць поруч з дзеясловамі *абсудзіць* і *абгаварыць* ужываўся дзеяслоў *абмеркаваць*). Формы *абгаворваць, абгаварэнне*, якія ў літаратуры могуць трактавацца як прыклады «сляпога калькавання, якія знайшлі адлюстраванне ў радзе мастацкіх твораў» [175, с. 244], у беларускай літаратурнай мове замацаваліся, магчыма, пад украінскім уплывам. Яны зафіксаваны ў слоўніках 1920-х гг. і шырока прадстаўлены ў розных стылях, а ў друку Заходняй Беларусі і пазней параўн.: *абгаворваць, абгаварэнне* (БРС-26), *обсуждать – меркаваць, абмяркоўваць, разважаць, абгаворваць* (РБС-28); *на сходзе абгаварваліся бягучыя пытанні* (Гарт. ЗТ, 1, с. 170); *абгаварэнне тэрміналогіі насіла больш*

*габінэтны характар* [606], *пры абгаварэнні пытання аб дзеканні* (ЗАГНФ); *распрацоўкі, абгаварэння* (Фёд.); *на гэтым спыніўся я ў абгаворыванні тэорыі псыхоаналізы. На жаль не магу абгаварыць шырэй...* (Кал. 1936, НА).

Разам з тым патрэбы стылістычна больш багатага і распрацаванага дыскурсу стымулявалі ўзнікненне не «непасрэдна народнай» формы *абмеркаванне*, вытворнай ад «непасрэдна народнай» формы *(па)меркаваць* – параўн.: *важна памеркавацца* ў друку (Асв. 1927). Слова *абмеркаванне* спачатку фіксуецца ў лексікаграфічных крыніцах (магчыма, упершыню такой крыніцай і прапанавана): *обсуждение – меркаванне* (БНТ-4; БРС-26); *обсуждение – меркаванне, абмеркаванне, развважванне, абгаварэнне* (РБС-28); *обсуждение – абмеркаванне* (БНТ-23), *обсуждение – абмеркаванне, абгаварэнне* (РБС-37).

У 1930-я гг. формы *абгаворваць, абгаварэнне*, якія мелі і значэнне з адмоўнай канатацыяй, у рамках агульнага абмежавання выкарыстання ў нейтральным і высокім стылях «празмерна народных» слоў, сталі абмяжоўвацца ва ўжыванні.

Падобна да папярэдніх выпадкаў тут канстатуем абмежаванне сферы ўжывання «народнай» формы як адпаведніка царкоўнаславянізму *обсуждение* на карысць выкарыстання менш бытавой формы, урэшце інтэлектуалізацыю мовы.

***Абярнуцца, абяртацца, пераварачацца*** і ***пера(ў)тварыцца, пера(ў)твараццa***. Насуперак таму, што ў ТСБМ пяты лексіка-семантычны варыянт слова *абярнуцца* з пераносным значэннем ‘змяніцца,ператварыцца ў новую якасць’ не мае стылістычных памет, у сучаснай мове ён, відавочна, ужываецца з пэўнымі абмежаваннямі: выкарыстоўваецца найперш у мастацкай літаратуры, часткова ў публіцыстыцы, але хутчэй немагчымы ў навуковым або афіцыйна-дзелавым стылі. У 1920-я гг. лексема *абярнуцца* і яе вытворныя ў пераносным значэнні ў адпаведнасці з яшчэ «нашаніўскім» ужываннем без абмежаванняў выкарыстоўваліся ў мастацкім, публіцыстычным, часткова ў навуковым стылях, параўн.: *«хмаркі» абяртаюцца ў хмары* (Жылуновіч 1926, арт.), *абяртаецца ў якогась двулікага Януса* (Пол. 1926, арт.), *каб такое спісванне не абярнулася ў чыста механічнае* (Асв. 1927), *абярнуліся ў крык* (СБ 1928, арт.), *абярнулі іх у земскія маемасці... пад пагрозай быць абернутымі на цяглых* (ЗАГНГ), *Акадэмія абарачалася ў схованку для людзей, якія пацярпелі ад рэвалюцыі* (Зв. 1929), *абярнуць усіх беларусаў у палякаў* (Фёд.), *рысавыя бунты абярнуліся ў масавы рух* (СБ 1930. МХ), *гэты пункт не перашкодзіў Троцкаму абярнуцца ў пяўца амерыканскага «прасперыты»* (СБ 1930, 30 ліп., даклад Молатава), *абярнуўшы дзеясловы прошлага часу ў цяперашні* (Гарб. 30); *стромкі схіл абярнуўся ў пакаты спад* (Джуд), *цацкі ўзвышэнскія перасталі цацкамі здавацца, а ў зброю варожую абярнуліся* (ЛіМ 1933), *джунглі абернуты на ўрадлівыя нівы* (Касм. 29), *абярнуць балоты ў добрае поле... куст абернецца ў буйную калектыўную гаспадарку... балоты цяпер абарачаюцца ў культурную сенажаць* (ВС 30), *абярнуць у акумулятар... абярнуліся ў генералаў* (Глад.), *абяртаюцца ў струпы*

(Яфім.), *Беларусь пераварачаецца ў краіну* (Пол. 1931). У БРС-26 ва ўказаным значэнні пададзена форма *пераварачацца*, у падобным значэнні ('змяняць веру') – *абарачацца*, але формы *абяртацца* або *абярнуцца* яшчэ адсутнічалі. У РБС-28 для рус. *превращаться* былі дадзены эквіваленты *перакідацца, абарачацца, абярнуцца, паравярнуцца; змяняцца*, але форма *пера(ў)твараццa* яшчэ адсутнічала. Ужыванне формаў *абярнуцца, абяртацца* падтрымлівалася выкарыстаннем аналагічных формаў ва ўкраінскай мове. З сярэдзіны 1930-х гг. такое ўжыванне скарачаецца на карысць формаў *ператварацца, ператварэнне* і да т. п., параўн.: *працэс абярнення манапалістычнага капіталізму ў дзяржаўна-манапалістычны капіталізм* (Лен. ДіР 32) – *працэс ператварэння манапалістычнага капіталізму...* (Лен. ДіР 34); *азімыя расліны пры гэтым як бы ператвараюцца ў яравыя* (Іс.). Аналагічнае папярэднім выпадкам звужэнне выкарыстання народных формаў у якасці эквівалентаў царкоўнаславянізмам.

***Аграмадзіць, аграмаджанне*** і ***абагуліць, абагульванне***. Першая форма праілюстравана ў ТСБМ ананімнай сканструяванай цытатай, што сведчыць аб абмежаваным сучасным ужыванні гэтага слова ў параўнанні з *абагуліць*. На абмежаваны характар ужывання формы *аграмаджванне* ўказвае і тое, што ў ТСБМ яна пададзена з паметай «кніжн.». Нейтральнымі для ўсіх выпадкаў і прымальнымі для ўсіх стыляў у сучаснай мове з'яўляюцца словы *абагуліць, абагульванне*, але спачатку ў беларускай мове ў значэнні 'зрабіць асабістае калектыўным' ужываўся наватвор *аграмадзіць*: *поўнасцю аграмадзіць жывёлу* (Зв. 1929), *аграмаджанне працы* (Пап.).

***Адсапнуць, адсапнуцца*** і ***аддыхнуць, аддыхацца***. Перш чым у літаратурнай мове замацавалася слова *аддыхнуць* 'аднавіць сілы', спачатку ў ёй поруч з лексемай *аддыхацца* ўжываліся зафіксаваныя ў ТСБМ словы *адсапнуцца, адсапціся* са значэннем 'зрабіць удых і выдых; перавесці дух'. Параўн. таксама: *Мікола не даў нават Сымону адсапнуцца... йшоў я шукаць даўнейшых тутэйшых пушч лацных, каб у іх цяні адсапнуцца крыху <...> заваліўся ў іх на колькі дзён адсапнуцца... Апанас з Кулінай адсапліся ў хаце... матка яшчэ і не адсаплася добра* (СМНН 1, с. 107), *толькі адсапануліся паліцэйскія, як тут новая бяда* (Ядв., у творы, апублікаваным у 1921 г.), *ён спыніўся, каб адсапнуць* (Чэх. НГ). Форма *адсапнуцца* ўжывалася ў першай публікацыі апавядання 1911 г. Я. Коласа «Дзяліцьба», але пазней была выпраўлена на *аддыхацца* (Кол. ЗТ20, 5, с. 408). Формы *адсапнуцца, адсапціся* не былі прадстаўлены ў БРС-26, а ў РБС-28 як адпаведнікі рус. *отдышать, отдышаться* былі дадзены *аддыхаць, аддыхацца, адсапціся, адсапацца*. У Беларускім нацыянальным корпусе слова *адсапнуцца* пацвярджаецца 8 прыкладамі.

***Абстрактны, абстракцыйны, адарваны, адлеглы, адлучаны, адцягнены, адцяты***. У працэсе выпрацоўкі літаратурнай мовы ўжываліся не толькі лексемы *абстрактны* і *адцягнены*: *словы для абстракцыйных разуменняў* (НБМС), *адцятыя паняцці* (СБ 1924), *адлеглыя паняцці* (Асв. 1924). Аглядаючы ў 1922 г. слоўнікі братоў Гарэцкіх, М. Байкоў выказаў меркаванне, што слова

*абстрактны* можа перадавацца ў беларускай мове пры дапамозе слоў *адцягнены, адлучаны* «або нават *адарваны*» [683, с. 129], тады ж слова *адцягнены* было ўведзена ў БНТ-4 як эквівалент рус. *отвлеченный*, а М. Байковым – у БНТ-4 як эквівалент рус. *абстрактный* (было дадзена поруч са словам *абстрактны*) і ў БРС-26. Пра тое, што пошук лепшага эквіваленту працягваўся, можа сведчыць наступная акалічнасць. У 1924 г. у газеце «Савецкая Беларусь» і часопісе «Асвета» быў апублікаваны даклад намесніка наркома асветы Баліцкага пра Інбелкульт на пасяджэнні сесіі ЦВК. Сярод іншага Баліцкі выказаў меркаванне, што словы-тэрміны пераважна азначаюць абстрактныя паняцці і ў адным выданні было надрукавана *адцятыя* [543], а ў другім – *адлеглыя паняцці* [544, с. 7]. У адпаведнасці з тэндэнцыяй выкарыстоўваць уласныя рэсурсы ў РБС-28 у якасці эквіваленту рус. *абстрактный* форма *абстрактны* была абмінута (былі дадзены адпаведнікі *адцягнены, адлучаны*). Аднак слова *адлучаны* выклікала крытыку аднаго з рэцэнзентаў: «Ці ж гэта так? Ці мы скажам *адлучанае* паняцце?» [622]. У рэвізаванай матэматычнай тэрміналогіі 1927 г. слова *адцягнены* дадзена не было. Яно, аднак, фігуравала поруч з лексемай *абстрактны* ў наступным, лінгвістычным слоўніку (БНТ-15), але зноў было прапушчана ў БНТ-23.

У сучаснай мове як спадчына узусу і слоўнікавых фіксацый, што сягаюць у 1920-я гг., выкарыстоўваюцца два словы для абазначэння адпаведнага паняцця (*абстрактны* і *адцягнены*).

***Вялікі, велізарны, велічэзны, вялізны*** і ***аграмадны, агромны***. Сучасны РБС падае да рус. *огромный* беларускія адпаведнікі *вялікі, велізарны, вялізны, велічэзны*; да рус. *громадный* – *велічэзны, велíзарны, вялíзарны, вялізны*. У дачыненні да рус. *огромный* такі падыход сфарміраваўся яшчэ ў РБС-53 і нават часткова яшчэ ў РБС-37 – у апошнім слоўніку для рус. *огромный* былі пададзены эквіваленты *вялізны, велічэзны*. Што да адпаведнікаў рус. *громадный* у ранейшых слоўніках, то ў РБС-53 іх было менш, чым у сучасным слоўніку (толькі *велічэзны, велíзарны*), а ў РБС-37 адпаведнікамі *громадный* былі *аграмадны, велічэзны, велізарны*. Калі мець на ўвазе, што ў беларускай мове ёсць зафіксаванае ў ТСБМ без ніякай стылістычнай паметы слова *аграмадны* (ілюстрацыі з М. Лынькова і А. Алешкі), то паўстае пытанне: чаму яно не выкарыстана як адзін з адпаведнікаў рус. *громадный* у РБС? Наяўны ў сучасным слоўніку пералік беларускіх (часта экспрэсіўных) адпаведнікаў для рус. *огромный* (успрыманага ў значнай ступені як стылістычна высокае слова) у значнай ступені супадае з наборам эквівалентаў для рус. *громадный*, у большасці з якіх відавочнае іх вуснае паходжанне. У перакладной лексікаграфіі дапрацоўка эквівалентаў рус. *громадный* у апошнія гады ішла па лініі прадстаўлення ў слоўніку дадатковых (размоўных) формаў. Папраўдзе, тут варта было б аддаць больш увагі не механічнаму павелічэнню колькасці беларускіх эквівалентаў, а пошуку нейтральных ці стылістычна высокіх слоў.

У працэсе пошуку эквівалентаў рус. *огромный* і *громадный* сучасныя лексікографы цалкам адмовіліся ад беларускіх эквівалентаў з коранем *грам-*, *грамад-*,

што ўступае ў супярэчнасць з лексікаграфічнай практыкай даваеннага часу. Як відаць з вышэйпрыведзенага, у РБС-37 першым адпаведнікам рус. *громадный* было дадзена слова *аграмадны*. Гэта, на нашу думку, не абавязкова магло быць адлюстраваннем агульнай русіфікацыйнай тэндэнцыі гэтага слоўніка, а, магчыма, з'яўлялася спробай пашырыць кола беларускіх эквівалентаў за кошт слоў, якія не абавязкова мелі размоўную канатацыю. Наяўнае ў сучасных слоўніках слова *агромністы* з коранем *грам-* таксама выкарыстоўвалася ў якасці аднаго з беларускіх адпаведнікаў рус. *громадный* і *огромный* у РБС-28: на апошнім месцы пасля *вялізны, вялізарны, вялічэзны* (для *громадный*) і на чацвёртым месцы з шасці адпаведнікаў (пасля *вялізны, вялічэзны, вялізарны*, перад *бальшэнны, нязмерны*) – для *огромный*. Форма *аграмадны* поруч з выразам *незвычайна вялікі* як эквівалент рус. *громадный* падавалася ў МБС.

Прыметнікі з коранем *грам-* ужываліся ў беларускай мове часу «Нашай нівы» (*аграмадны, агромністы, агромны*) і ва узусе 1920–1930-х гг. Напрыклад, слова *агромны* (кваліфікаванае як русізм) ужываў у некаторых сваіх творах Я. Купала (СМК 1, с. 38), аднойчы яно выкарыстана ў паэме «Новая зямля» Я. Коласа. У публікацыі першай кнігі рамана «Язэп Крушынскі» ў 1928 г. З. Бядулі ўжывалася слова *аграмадны* (*аграмаднай пасцілкай расплылося жаўтаватае жытняе поле*), якое, аднак, пры публікацыі выдання твора ў 1931 г. было выпраўлены на *шырачэзны* (Бяд. ЗТ, 4, с. 362). Згодна з данымі Беларускага нацыянальнага корпуса, слова *аграмадны* фіксуецца 61 раз, у тым ліку ў творах З. Бядулі, М. Гарэцкага, С. Хурсіка, К. Акулы, В. Быкава, Т. Бондар і інш., слова *агромны* – 2 разы. Лексема *аграмадны* засведчана таксама ў колішняй нашаніўскай публікацыі В. Ластоўскага і ў яго перакладзе на беларускую мову твора Э. Сетан-Томпсана: *у часе гэтага грабяжа прапала аграмадная кніжніца (бібліотэка)* (СМНН 2, с. 401), *бачыла аграмадныя дзіватворы* (Крыв. 1923). Праўдападобна, В. Ластоўскі не меў засцярог да ўжывання ў беларускай мове прыметніка і назоўнікаў з коранем *грамад-*: ён не толькі ўжываў прыметнік *аграмадны*, але і прывёў у сваім слоўніку назоўнік *аграмадзіна* як адпаведнік рус. *громадина*. Прыметнік *аграмадны* сустракаецца ў навуковых працах, апублікаваных у Заходняй Беларусі: *У гэтым бачым аграмаднае значэнне ролі інстынктаў* (Кал. 1936, НА). У працэсе моўнага рэдагавання аднаго з перакладаў твораў У. І. Леніна ў 1935 г. спалучэнне *вялізны поспех* з ранейшага выдання было заменена на *грамадны поспех* (Лен. ХП 26; Лен. ПН 35).

***Вызваліць*** і ***аслабаніць***. На адрозненне ад слова *вызваліць* у ТСБМ форма *аслабаніць* пададзена з паметай «разм.», у адным са сваіх значэнняў патлумачана шляхам спасылкі на слова *вызваліць*. Два з чатырох значэнняў слова *аслабаніць* у слоўніку праілюстраваны пры дапамозе штучных сканструяваных прыкладаў (*аслабаніць ваеннапалонных, аслабаніць горад; аслабаніць сініцу з сіла; аслабаніць рукі; аслабаніць ад апекі*). Насуперак таму, што першым значэннем лексемы *аслабаніць* у ТСБМ дадзена 'зрабіць пустым, парожнім',

гэта значэнне, аднак, чамусьці не выкарыстана ў РБС у якасці адпаведніка для рус. *опорожнить*. Насуперак таму, што трэцім значэннем лексемы *аслабаніць* у ТСБМ дадзена ‘даць палёгку каму-небудзь’ і прыведзены прыклад *аслабаніць рукі*, гэта акалічнасць, аднак, чамусьці не ўлічана ў РБС пры прадстаўленні эквіваленту рус. *освободить руки*: дадзены толькі *апрастаць рукі*, але няма *аслабаніць рукі*.

Наяўная «зніжальная» тэндэнцыя ў дачыненні да слова *аслабаніць* у лексікаграфічных працах карэлюе з сучаснай практыкай яго ўжывання, у якой яно напэўна не будзе ўжывацца ў навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях. Цікава, што «дыскрымінацыйнае» стаўленне з боку сучасных лексікографаў да гэтага слова знаходзіць сабе пацвярджэнне і, прынамсі, у некаторых слоўніках ранейшага часу. Напрыклад, слоў *аслабаняць, аслабаненне* няма ў БРС-26 (дзе ёсць *аслабаджаць, аслабаджэнне; вызваляць, вызваленне*), у юрыдычнай тэрміналогіі 1926 г. (БНТ-10), у грамадазнаўчай тэрміналогіі (БНТ-11), у ПБВС, у РБС-28, у РБС-37. Тая акалічнасць, што ў БНТ-10 была зафіксавана форма *вызваленне* (у той час, як у «Зборы законаў» 1925 г. фіксавалася слова *асвабаджэнне*), у літаратуры кваліфікавана як «удасканаленне тэрміналогіі на базе народных моўных сродкаў <...> замена ўласнабеларускім словам русізма» [175, с. 268]; у кантэксце разгляду нашаніўскай лексікі слова *асвабадзіць* кваліфікуецца як русізм, а *вызваліць* – як (уласна) беларускае слова [70, с. 161].

Устанаўленне стылістычнага бар’еру перад словам *аслабаніць* у наш час тлумачыцца яго абмежаваным ужываннем, але такое тлумачэнне не падыходзіць для разумення абмежавальнай тэндэнцыі,назіранай у лексікаграфічнай практыцы 1920–1930-х гг. Услед за нашаніўскім перыядам ва узусе гэтага часу лексема *аслабаніць* ужывалася шырока, прычым не толькі ў мастацкай літаратуры (творах Ядвігіна Ш., М. Лынькова, Я. Маўра), параўн.: *ад выпытаў аслабаняюцца скончыўшыя рабфакі* (СБ 1930, чэрв. А); *прашу аслабаніць мяне ад займаемае ў Бел. Дз. універсітэце пасады* (Арх., 1930, а-д), *салдатаў-прапагандыстаў аслабаняюць ад службовых вайсковых абавязкаў* (Кір.), *аслабанення школы ад непрадукцыйнай работы пры вывучэнні беларускага правапісу* (у тэксце пастановы СНК). У артыкуле Я. Лёсіка «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» прыведзена ілюстрацыя, у якой лексема *аслабаніць* ужываецца хутчэй у высокім стылі: *Не затым я прышоў, каб светам панаваць, а затым, каб аслабаніць сьвет ад паноў, бо кожны чалавек сам сабе пан* [682, с. 147].

«Зніжальная» тэндэнцыя ў дачыненні да слова *аслабаніць* у лексікаграфічных працах 1920-х гг. сведчыць аб актыўнай пазіцыі лексікографаў, якія, відавочна, лічылі гэта слова скажоным, «вульгарным», непрыдатным для літаратурнай мовы. Разам з тым укладальнікі «Праграмы для збірання асаблівасцяй беларускіх гаворак і гаворак пераходных да суседніх моваў» С. Некрашэвіч і П. Бузук хацелі высветліць, наколькі шырока словы *слабода, аслабаніць, свабода, асвабадзіць* пашыраны ў народным маўленні [725, с. 50].

***Выперадзіць*** і ***абагнаць***. Нягледзячы на тое што ў сучасных лексікаграфічных крыніцах абодва словы падаюцца амаль з ідэнтычнымі значэннямі, абодва не маюць стылістычных памет, відавочна, што сфера іх ужывання не заўсёды супадае. У сучаснай мове форма *выперадзіць* хутчэй немагчымая ў строгім публіцыстычным стылі, тым больш у навуковым. Не такой была сітуацыя ў 1920-я гг. Форма *выперадзіць* падобна да формы *абагнаць* таксама ўжывалася ў публіцыстычным (у тым ліку ў «высокім» палітычным) стылі; акрамя таго, яна мела зафіксаваны ў слоўніках (БНТ-2; ПРБС-24; ПРБС-26; БРС-26; РБС-28) дэрыват *выпярэдніцтва* і незафіксаваны *выпярэджванне*, параўн.: *спартыўныя выпярэдніцтвы, цыркі* (МК 1925); *шахматна-шашачныя выпярэдніцтвы... спартыўныя выпярэдніцтвы* (Асв. 1926); *выперадзілі развіццё агульна-псыхалагічнае... у гэных выпадках «форма» выпераджае «змест»* (Узв. 1927); *выперадзілі даваенны час* (Маг.); *сэрца нібы памкнецца ўперад, нібы хоча дагнаць, выперадзіць гэтыя светлыя рэйкі* (Весн., Лынькоў); *дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны* (Пол. 1929); *вырашаючая дырэктыва «дагнаць і выпярэдзіць»... дагнаць і выперадзіць у тэхніка-эканамічных адносінах... плян, які зьяўляецца практычным выражэннем лёзунгу партыі «дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны»... выпераджаючая сапраўднасць ідэалёгія... яшчэ большае выпярэджванне меркавання пэрспэктыўнага пляну* (Пол. 1930); *выперадзілі на 36 гадзін* (Джуд); *на спаборніцтве выперадзіць усіх... не толькі дагнаць, але і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны* (Ун.); *карабель выперадзіў усе іншыя... шалёнае выпярэдніцтва* (Кэр), *не толькі дагнаць, але і выперадзіць... дагнаць і выперадзіць заграніцу... мы выперадзім іх* (Фёд.). Па меры павелічэння ў рамках публіцыстычнага стылю ролі сфарміраваных у партыйным падстылі клішэ (*догнать и перегнать* – гэта выраз з адной з прамоў І. Сталіна) і нарастання тэндэнцыі абмяжоўваць у публіцыстычным стылі «занадта простыя» народныя формы, форма *выперадзіць* паступова стала абмяжоўвацца мастацкім стылем, а форма *выпярэдніцтва* саступіла сваё месца слову *спаборніцтва*.

***Дакранацца, дакрананне*** і ***вытаркнуць, датыкаць, датыркацца, датыркненне, растыркі, утыркаць***. У сучаснай нарматыўнай мове адсутнічаюць формы *датыркацца, утыркаць*, а словы *выткнуць, вытыркнуць, тыркаць*, *тыркацца* прыведзены з паметай «разм.». Слова *датыкацца*, відаць, саступае ў іерархіі сіноніму *дакранацца* (першае дадзена ў ТСБМ з сканструяванай ананімнай цытатай). Слова *датыкнуцца* мае ў ТСБМ памету «абл.» (ілюстрацыя з П. Галавача). У 1920-я гг. дзеясловы і назоўнікі з каранямі *тк-, тык-, тарк- / торк- / тырк-* яшчэ не мелі стылістычных абмежаванняў і шырока ўжываліся: *Большасць заўважаных памылак датыкаюцца слова «бог», якое надрукавана праз вялікую літару* [663], *за тваю от вытаркшую вату, мой мілы Юлік... вытыркаліся бясформенныя шэрагі шэрых хат* (Весн., Баранавых, Ніканові‌ч), *Дзяніс крыху выказваў заклапочанасць з прычыны прыгоды ў хаце, яна датыркалася яго болей, ніж мацеры або бацькі* (Гарт.

ЗТ, 1, с. 326), *ростыркі ‘сваркі’ аб войтаўскіх прыбытках* (ЗАГНГ), *першыя датыркненні* (Пол. 1930); *прыдзецца толькі ўтыркаць штэпсэль то туды, то сюды* (Фёд.), *«сёння носа не вытткнеш», падумаў ён... гострыя кавалкі дроту вытыркалі з яго* (Лёнд.); *першыя датыркненні да гэтае фікцыі* (Нап. 1932). Некаторыя формы падаваліся і ў слоўніках, напрыклад: *датаркнуцца* як адзін з эквівалентаў для рус. *дотрагиваться; торканне, датырканне* як адпаведнікі рус. *дотрагивание; датыкаць* як адзін з адпаведнікаў рус. *упрекать; торкацца, датыкацца* як адпаведнікі рус. *касаться* (РБС-28). Ужыванне некаторых формаў (*датыркнение, ростырка*) было абумоўлена польскім уплывам.

З цягам часу формы з коранем *тырк-* сталі ўспрымацца як стылістычна зніжаныя, у пазнейшых выданнях адных і тых жа твораў яны маглі рэдагавацца. Напрыклад, ужывальнае ў 1931 г. слова *датыркнуцца* (*датыркнуўся да вушэй*) у адным з твораў П. Галавача пры перавыданні ў 1932 г. было выпраўлена на *датыкнуўся* (Гал. Сп. 31; Гал. Сп. 32). У артыкуле Я. Коласа «“На чырвоных лядах”» М. Лынькова», упершыню апублікаваным у красавіку 1934 г., у нейтральным кантэксце быў працытаваны наступны фрагмент: *пальцы Зіначкі нечакана датыркаліся да яго рукі* [643, с. 310]. Пры пазнейшай публікацыі гэтага ж артыкула пад трохі іншай назвай слова *датыркаліся* было выпраўлена на *датыкаліся* [644, с. 352].

***Злучацца*** і ***яднацца, аб’ядноўвацца***. Згаданая вышэй (6.2.2) гісторыя з заменай слова *злучацца* на *яднацца* ў складзе лозунга «Пралетарыі ўсіх краін, аб’ядноўвайцеся!», якая абмяркоўвалася на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б у 1938 г., у кантэксце пераразмеркавання стылістычных рэсурсаў мовы можа набываць не толькі кур’ёзнае вымярэнне.

Замену слова *злучацца* на *яднацца* і пазнейшае *аб’ядноўвацца* (верагодную кальку з рус. *объединяться*, якое само паходзіць з царкоўнаславянскай) можна разглядаць у кантэксце тэндэнцыі 1930-х гг. пазбаўляцца ў рамках інтэлектуальнага дыскурсу ад многіх «занадта простых» слоў, якія былі ў шырокім ужытку раней. У рамках гэтага працэсу адбылася дыстрыбуцыйная і часткова стылістычная дыферэнцыяцыя ў рамках пары *злучацца – яднацца*. Першы член гэтай пары стаў не дапускацца для ўжывання ў высокім стылі.

У формы *яднацца*, з аднаго боку, магла бачыцца сувязь з царкоўнаславянізмам рускай мовы *соединяться* (і гэта магло быць добра для стылістыкі беларускай мовы)[120]. З другога боку, не маючы прыстаўкі, як гэта мела месца ў слове *соединяться*, лексема *яднацца* не «па-рабску» капіравала структуру рускага царкоўнаславянізма і, адначасова, захоўвала сувязь з многімі беларускімі народнымі беспрыставачнымі формамі тыпу *высіцца, дзівіцца, розніцца* і да т. п. Нейкая суаднесенасць з многімі словамі народнай лексікі таксама магла лічыцца добрай з пункту гледжання агульнага народнага характару беларускай

[120] Стылістычную ўзвышанасць формаў з *ядн-* ускосна можна назіраць і на фоне спецыяльнага (і часам неабгрунтаванага) зніжэння стылістычнага статусу ў нарматыўных слоўніках канкурэнтаў гэтых утварэнняў, асобных формаў на *луч-*. Так, у ТСБМ памету «разм.» маюць формы *лучыць* ‘злучаць, яднаць’, *налучыць* ‘натрапіць, набрысці’.

літаратурнай мовы. Зрухі такога тыпу пажадана разглядаць не толькі на прыкладзе канкрэтнай пары, але і ў больш шырокім кантэксце суіснавання і канкурэнцыі сукупнасці дэрыватаў, заснаваных на адпаведных каранях.

Апісанае вышэй стылістычнае пераразмеркаванне ў пары *злучацца – яднацца* не мела сілу для іншых прэфіксальных утварэнняў з *луч-* і *ядн-*. З аднаго боку, некаторыя дэрываты з *ядн-* проста не мелі ніякіх канкурэнтаў з боку дэрыватаў на *луч-* з аналагічнымі прыстаўкамі. З аднаго боку, у беларускай нарматыўнай мове ўжываюцца словы *аб'яднаць, аб'яднацца, уз'яднаць, уз'яднацца, паяднаць, паяднацца*, але няма ўтварэнняў тыпу **аблучыць, *узлучыць, *палучыць*[121]. З другога боку, пэўная аналогія названых беларускіх дэрыватаў на *ядн-* з рускімі царкоўнаславянізмамі тыпу *объединять, соединять* не азначае, што ў выпадках канкурэнцыі ўтварэнняў на *луч-* і на *ядн-* у беларускай літаратурнай мове стылістычна высокая сфера будзе абавязкова замацоўвацца за апошнімі ўтварэннямі. Уласна, выпадкаў такой канкурэнцыі існуе, бадай, няшмат (толькі разгледжаныя формы *злучыць* і *з'яднаць*); у іншых выпадках, здаецца, назіраем выразную дыферэнцыяцыю. Так, у беларускай нарматыўнай мове існуюць утварэнні на *луч-* з рознымі значэннямі з прыстаўкамі *да-, на-, вы-, пры-* (*далучыць, налучыць, вылучыць, залучыць, прылучыць*), але няма аналагічных утварэнняў на аснове кораня *ядн-* (**даяднаць, *наяднаць, *выяднаць, *заяднаць, *прыяднаць*), прычым першыя чатыры з названых пяці форм немагчымыя нават тэарэтычна. «Сіла» ўтварэнняў з *луч-* праяўляецца і ў тым, што ў нейкіх выпадках яны маглі б разглядацца стылістычна калі не больш высокія, то, прынамсі, як роўныя са сваім адпаведнікам з *ядн-* (параўн.: **лучнасць – еднасць*). У мастацкай літаратуры першай паловы XX ст. незафіксаванае ў СМНН слова *лучнасць* сустракаецца ў Г. Леўчыка і М. Зарэцкага, у БНТ-11 у якасці адпаведніка слову *ассоциация* прапаноўвалася лексема *злучнасць*. У навуковых працах слова *лучнасць* зафіксавана як «вузкі дыялектызм у мастацкай літаратуры» [175, с. 238], а лексема *злучнасць* разглядаецца ў кантэксце гаворкі пра сінанімічныя рады, якія былі недаўгавечнымі з прычыны прасоўвання беларускіх наватвораў у якасці альтэрнатыў іншамоўнай лексіцы [20, с. 174].

Пра шматлікія іншыя выпадкі стылістычнага размежавання 1920-х і наступных гадоў гл. таксама вышэй па-за рамкамі гэтага параграфа (*счэзнуць, чытанка* і інш.). Прыкладаў такой дыферэнцыяцыі, пакуль не апісаных у літаратуры, існуе вельмі многа. Пра змены ў марфалогіі пасля рэформы 1933 г. гл.: [132].

[121] З нагоды адсутнасці формы *палучыць* у ТСБМ канстатуем пурыстычную ўстаноўку, якая не дапускае сучаснай фіксацыі добра вядомай у народным ужыванні (і зафіксаванай у РБС-28) формы. Пытанне аб неабходнасці зафіксаваць у слоўніку дадзены дзеяслоў як нарматыўны неаднаразова закраналася рознымі аўтарамі [338; 20, с. 63].

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

1. Вывучэнне сацыяльнага ўздзеяння на развіццё мовы прымяняльна да яе літаратурнай іпастасі ў беларускай лінгвістыцы распрацавана недастаткова добра. З аднаго боку, стрымвальным фактарам з'яўляецца доўгая традыцыя аддаваць прыярытэт унутраным фактарам развіцця мовы; з другога, унутраныя і знешнія фактары часам немагчыма аддзяліць адны ад другіх. Беларуская лінгвістыка 1920–1930-х гг. мела выразна прэскрыптыўны характар, аднак працы гэтага часу, асабліва 1920-х гг., не заўсёды могуць разглядацца як нарматыўныя ў сучасным разуменні. Прадстаўленыя ў лінгвістычных працах 1920-х гг. нарматывы не толькі фіксавалі і прадпісвалі моўныя нормы, але часта таксама выконвалі функцыю пошуку і вывучэння беларускай мовы. Матэрыял мовазнаўчай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гг. (асабліва 1920-х) павінен ацэньвацца ў кантэксце патрэбаў тагачаснага грамадства, стану навукі і літаратурнай мовы. Беларуская лінгвістыка 1920-х гг. развівалася ў значнай ступені аўтаномна ад палітычна-ідэалагічных дактрын свайго часу, аднак сітуацыя істотна змянілася на пераломе дзесяцігоддзяў, калі многія лінгвісты былі рэпрэсіраваны, падвержаны астракізму, а іх навуковая спадчына зганьбавана ў друку.

Літаратурная мова ў пэўных сваіх фрагментах з'яўляецца не столькі «натуральным», колькі «штучным» стварэннем, што абумоўліваецца яе функцыяй у соцыуме. Кадыфікацыя тых або іншых нормаў часта не з'яўляецца простым «перанясеннем» наяўных у моўнай структуры з'яў у слоўнікі і граматычныя кодэксы, а ёсць вынік грамадскай барацьбы. Вывучэнне гісторыі беларускай літаратурнай мовы павінна здзяйсняцца з усведамленнем спецыфікі яе фарміравання як мовы, заснаванай пераважна на народнай аснове. У некаторых сучасных беларускіх слоўнікавых рэгламентацыях можна назіраць не адлюстраванне «сістэмы» беларускай мовы, а вынік дзеяння пэўных канвенцый, якія выпрацаваліся ў працэсе развіцця беларускай літаратурнай мовы і беларускай лінгвістыкі. Літаратурная мова нашаніўскага перыяду яшчэ не была цалкам «сучаснай», а этап 1920-х гг. адначасова з'яўляецца і перыядам гісторыі беларускай літаратурнай мовы, і перыядам яе сучаснасці. Пашыранае ў рамках сінхраністычнага падыходу стаўленне да літаратурнай мовы 1920-х гг. як да цалкам сучаснай можа даваць вынікам неадэкватнае ўяўленне пра спецыфіку яе фарміравання ў гэты час і скажэнне гістарычнай перспектывы.

2. Традыцыя вывучэння гісторыі беларускага мовазнаўства міжваенных гадоў вядзе свой адлік ад падручнікаў Л. М. Шакуна 1960-х гг. Каштоўныя звесткі пра лінгвістыку гэтага часу выкладзены ў манаграфіі па гісторыі беларускай літаратурнай мовы 1968 г. І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. Сімптаматычна, што ў кнізе па гісторыі беларускай літаратурнай мовы

ўключаюцца вялікія раздзелы па гісторыі мовазнаўства. Шэраг грунтоўных нарысаў-персаналій, датычных гісторыі мовазнаўства дадзенага перыяду, падрыхтаваў І. К. Германовіч. Важны ўклад у распрацоўку пытання ўнесены У. І. Куліковічам, І. І. Савіцкай, Ю. С. Бушляковым, аўтарамі трох дысертацый другой паловы 1990-х – пачатку 2000-х гг., прысвечаных У. Дубоўку, М. Гарэцкаму, Я. Станкевічу. Задачай сучасных беларусістычных даследаванняў з'яўляецца належным чынам ацаніць уклад у вывучэнне гісторыі беларускай лінгвістыкі і гісторыі беларускай літаратурнай мовы П. Вэкслера.

Пачынальнікам вывучэння гісторыі беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца таксама Л. М. Шакун. Каштоўныя назіранні над фарміраваннем лексічных нормаў былі змешчаны ў кандыдацкай дысертацыі 1963 г. «Нармалізацыя лексікі беларускай літаратурнай мовы ў 1920–1930-я гады XX ст.» І. К. Германовіча. Грунтуючыся на багатым матэрыяле і карыстаючыся строгім спосабам яго апрацоўкі, на прыкладзе 85 пашыраных у свой час лексічных дублетных радоў навуковец прасачыў гісторыю бытавання ў літаратурнай мове шэрагу слоў, якія на працягу 1930-х гг. пераважна змянілі свой статус або зусім выйшлі з ужывання. У падрыхтаваных у працэсе падрыхтоўкі дысертацыі публікацыях І. К. Германовіч найбольшую ўвагу прысвяціў працэсу выцяснення з літаратурнай мовы шэрагу паланізмаў, дыялектызмаў і наватвораў.

Галоўнай крыніцай гісторыі станаўлення і развіцця беларускай літаратурнай мовы 1920–1930-х гг. на сённяшні дзень застаецца манаграфія І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч, якая амаль зусім не страціла свайго навуковага значэння. У даследаванні разгледжана станаўленне значнай колькасці арфаграфічных, граматычных і лексічных нормаў. Каштоўныя назіранні і абагульненні знаходзяцца таксама ў манаграфіі А. Я. Баханькова «Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд» 1982 г., значнасць якой для нашага даследавання, аднак, меншая з-за таго, што інтэрпрэтацыі аўтара заснаваны пераважна на сінхраністычным падыходзе, знаходзяцца ў адпаведнасці з ідэалагічнымі пастулатамі часу напісання кнігі.

Розныя аспекты станаўлення і развіцця беларускай літаратурнай мовы міжваенных гадоў прааналізаваны таксама ў грунтоўных працах М. В. Абабуркі, Л. А. Антанюк, Г. І. Кулеш, А. В. Губкінай, М. В. Шабовіча, В. А. Зразікавай, В. Р. Вячоркі, Г. Бідэра, В. А. Ляшчынскай, А. Каўруса, А. І. Скапненкі і інш.

3. Актыўнасць у сферы правапіснага рэгулявання ў сярэдзіне 1920-х гг. была абумоўлена асобнымі недахопамі кадыфікацыі Б. Тарашкевіча, імкненнем Я. Лёсіка выпрацаваць для беларускай мовы асабліва «навуковы» правапіс, палітычнымі прычынамі. З вясны 1926 г. да праблемы ўрэгулявання арфаграфіі прыцягвалася значная грамадская ўвага; апанентам засваення ў беларускім правапісе шэрагу арфаграм выявіў сябе таксама І. В. Воўк-Левановіч.

Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі 1926 г. была першай міжнароднай лінгвістычнай канферэнцыяй у Савецкім Саюзе і, адначасова, першым міжнародным навуковым форумам у галіне

беларусістыкі. Канферэнцыя мела выразныя палітычныя аспекты, моўна-правапісная праблематыка была абрана для форуму ў пэўнай ступені выпадкова. Тым не менш у працэсе правядзення канферэнцыі былі вытрыманы каноны міжнародных навуковых з'ездаў. Форум не абмежаваўся арыентацыяй на практычныя змены ў правапісе. Канферэнцыя была добрай школай для маладой беларускай лінгвістыкі, пасля яе правядзення ў Беларусі стала магчымым засяроджванне ўвагі на навуковых лінгвістычных даследаваннях у іх уласным значэнні. Пасля правядзення канферэнцыі грамадская цікавасць да правапіснай праблематыкі знаходзілася на спадзе. У шэрагу публікацый у часопісе «Асвета» было паказана, што правапісная непісьменнасць вучняў была звязана не столькі з канкрэтнымі недахопамі арфаграфіі, колькі з агульным нездавальняючым стаўленнем да вывучэння правапісу ў школах. Правапісная камісія Інбелкульта падрыхтавала надрукаваны ў 1930 г. праект, які ў асноўных сваіх рысах абапіраўся на выкарыстоўваны ў той час правапіс.

У 1920-я гг. у Беларусі актыўна абмяркоўваліся канцэптуальныя пытанні фарміравання беларускай літаратурнай мовы, на што ўплывала тая акалічнасць, што ў гэты час адбываўся пераход беларускай мовы ад пераважна сродку прыгожага пісьменства і арыентаванай пэўным чынам публіцыстыкі да поліфункцыянальнай літаратурнай мовы, засваенне апошняй новых важных сфер. Прынцыповай праблемай развіцця літаратурнай мовы было пытанне яе адносін да народнай мовы, і галоўныя кадыфікатары 1920-х гг. выразна сцвярджалі неабходнасць падтрымання такой сувязі. Я. Лёсік лічыў патрэбным культываваць такую версію літаратурнай мовы, якая была б найбольш блізкай да народнай; паводле С. Некрашэвіча, трэба было імкнуцца да адзінства літаратурнай і народнай мовы. Арыентацыя на «папулярную» мову заахвочвалася таксама партыйнымі інстанцыямі, сваёй мастацкай практыкай яе сцвярджалі шматлікія пісьменнікі. Погляд на беларускую мову як на выключна народную і адпаведная прэскрыптыўная практыка 1920-х гг. у значнай ступені сфарміравалі аблічча беларускай літаратурнай мовы, заклалі аснову для фарміравання будучых стылістычных іерархій. Арыентацыя на народныя сродкі, аднак, у пэўных сітуацыях была «праблемным» шляхам фарміравання літаратурнай мовы, бо пры такім падыходзе ў большай ступені прадугледжваўся аспект с т в а р э н н я, часам складаны для рэалізацыі.

Галоўным полем сутыкнення розных падыходаў пры фарміраванні літаратурнай мовы стаў новы для яе навуковы стыль. У працэсе падрыхтоўкі першых тэрміналагічных слоўнікаў арыентацыя на дэмакратызацыю дала вынікам прыцягненне ў тэрміналагічную сферу вялікай колькасці народных слоў. Таксама шырока культывавалася стварэнне тэрмінаў пры дапамозе ўласных марфемных сродкаў, аднак наватворы такога тыпу не заўсёды лічыліся пажаданымі. Падобная практыка 1920-х гг. у працэсе фарміравання тэрміналагічнай лексікі знаходзілася ў адпаведнасці з уласцівай гэтаму часу дэмакратызацыяй сістэмы адукацыі і навукі.

Прыняты спосаб фарміравання навуковай лексікі на прыкладзе матэматычнай тэрміналогіі ў 1920-я гг. найбольш выразна паставіў пад сумненне А. Лёсік. Яшчэ больш грунтоўную крытыку – гэтым разам агульнай канцэпцыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы – даў І. Воўк-Левановіч.

4. Даследаванне рэалізацыі ва узусе шэрагу арфаграм, марфалагічных, лексічных, словаўтваральных і акцэнталагічных з'яў паказвае, што некаторыя важныя асаблівасці станаўлення і развіцця літаратурнай мовы асэнсаваны нездавальняюча.

Так, у выпадку рэалізацыі ненаціскнога *о* ў запазычаных словах і правапісу запазычанняў увогуле выбар таго або іншага напісання не быў цалкам хаатычным, а ў пэўнай ступені адлюстроўваў падыход да агульнага фарміравання літаратурнай мовы з боку розных рэдакцый або выдавецтваў; у значнай ступені выбар той або іншай арфаграмы быў стылеўтваральным сродкам.

У 1924–1930 гг. у беларускай літаратурнай мове шырока ўжываліся малапашыраныя ў гаворках адпрыметнікавыя назоўнікі на *-істы/-ысты*, што ўвогуле супярэчыла тэндэнцыі пры ўстанаўленні моўных нормаў абапірацца найперш на народныя моўныя сродкі. Хуткі ўздым такіх формаў тлумачыўся шэрагам прычын. Прыняццю адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы/-ысты* паспрыяла тая акалічнасць, што яны былі выкарыстаны ў працэсе перакладу на беларускую мову Я. Лёсікам кананічнага твора тагачаснай ідэалогіі «Камуністычнага маніфеста», а пазней былі ўведзены ім у падручнікі. Пазнейшы заняпад гэтай з'явы быў абумоўлены ўжо не схільнасцю канкрэтнага кадыфікатара, а экстралінгвістычнымі фактарамі.

Недаследаваным лексічным разрадам з'яўляюцца вандроўныя запазычанні-калькі. Гэта словы, якія, быўшы ўтворанымі ў якой-небудзь мове, пазней пераходзілі, «вандравалі» з адной мовы ў другую. Групу вандроўных калек склалі пераважна абстрактная, культурная лексіка і навуковыя тэрміны, якія ўжываліся замест агульназаходнееўрапейскіх запазычанняў. Адны з вандроўных запазычанняў-калек трывала замацаваліся ў сучаснай беларускай мове, ужыванне другіх функцыянальна або стылістычна абмежавана; трэцюю групу склалі лексемы, якія адсутнічаюць у сучасным узусе. У многіх выпадках негатыўным фактарам засваення вандроўных запазычанняў-калек беларускай мовай з'явілася іх адсутнасць у рускай мове.

У 1920-х – пачатку 1930-х гг. у навуковым і публіцыстычным стылях літаратурнай мовы ўжывалася вялікая колькасць паланізмаў, абумоўленых польскім уплывам дэрыватаў, а таксама слоў, выкарыстанне якіх у беларускай мове падтрымлівалася іх наяўнасцю ў польскай мове. «Заняпад» шматлікіх паланізмаў у беларускай літаратурнай мове ў 1930-я гг. быў абумоўлены свядомым абмежаваннем іх ужывання.

Ва узусе 1920-х гг. фіксуецца вялікая колькасць нульсуфіксальных утварэнняў, якія ў беларускай літаратурнай мове (прычым не толькі ў яе мастацкім стылі) выконвалі функцыю адпаведнікаў рускім царкоўнаславянізмам на *-ие,*

*-ение*. Выпрацоўка адносна рэгулярнага спосабу перадачы сродкамі беларускай мовы (часта складаных для засваення ёю) царкоўнаславянізмаў, у якім спалучалася арыентацыя на небеларускую крыніцу з уласнай словаўтваральнай практыкай, была значным дасягненнем у разбудове словаўтваральна-стылістычнай сістэмы беларускай мовы адпаведнага часу.

У дыяхранічным асвятленні своеасабліва выглядае праблема націску ў вытворных прыметніках. На ўжыванне дадзеных прыметнікаў аказвалі комплексны ўплыў акцэнталагічныя нормы суседніх польскай і рускай моў, колькасць складоў у такіх прыметніках, іх адлюстраванасць у лексікаграфічных крыніцах, акцэнтныя тыпы ўтваральных асноў, патрэба (добрай) ідэнтыфікацыі з утваральнай асновай, узус розных беларускіх дыялектаў, стылістычныя патрэбы тагачаснай беларускай мовы, агульныя тэндэнцыі развіцця націску і інш. Для ідэнтыфікацыі з утваральнай асновай, у мэтах наследавання народным формам, а таксама для сцвярджэння своеасаблівасці беларускай мовы ў параўнанні з рускай і польскай такія формы ў 1920-я гг. нярэдка ўжываліся з націскам на каранёвым складзе. Іншай заўважнай тэндэнцыяй гэтага часу было выкарыстанне формаў з суфіксам *-ов-* (адпаведна, з націскам на суфіксе). У 1930-я гг. стаў умацоўвацца больш блізкі рускай мове акцэнтны тып з націскам на канчатку.

Калі ў дачыненні да некаторых марфалагічных з’яў (напрыклад, выкарыстанне адпрыметнікавых назоўнікаў на *-істы/-ысты*) можна гаварыць пра паслядоўнае і дакладнае захаванне ў пэўны час ва узусе пэўнай нормы, то ў дачыненні да шматлікіх лексічных, словаўтваральных і акцэнталагічных формаў 1920-х гг. можна хутчэй гаварыць не пра ўсталяванне імператыўнай нормы, а толькі пра крышталізацыю пэўных тэндэнцый. У адпаведнасці з уласцівай гэтаму часу адсутнасцю жорсткай моўнай нарматыўнасці поруч з «пераважнымі» з’явамі ва узусе часта выкарыстоўваліся і «альтэрнатыўныя», «непажаданыя», што стварала спрыяльныя перадумовы для зараджэння стылістычнай дыферэнцыяцыі разнастайных моўных сродкаў. Аднак з прычыны стылістычнай «усяеднасці» высокіх, навуковага і публіцыстычнага, стыляў стылістычныя іерархіі ў гэты час былі праяўлены ў нязначнай ступені.

На прыкладзе моўнага рэдагавання можна назіраць спецыфіку моўнай рэфлексіі 1920-х гг. У розных празаічных выданнях Я. Коласа ў гэты перыяд найбольш актыўна правіліся сапраўдныя і ўяўныя русізмы, у той час як абмежаванне паланізмаў сустракаецца значна радзей. На прыкладзе некаторых фанетычна-арфаграфічных правак можна назіраць тэндэнцыю да як мага большай дэмакратызацыі беларускай літаратурнай мовы. Адначасова ў шэрагу выпадкаў можна канстатаваць адваротную тэндэнцыю да «аблітаратурвання», дыстанцыявання ад некаторых «занадта» народных формаў. Моўныя замены ў творах Я. Коласа былі абумоўлены не проста прэферэнцыямі самога класіка, але і падыходамі, якія акрэсліліся ў тагачасным узусе ў дачыненні да канкрэтных слоў і формаў, а таксама нармалізацыйнымі тэндэнцыямі тагачаснай

беларускай лінгвістыкі. У цэлым у працэсе моўнага рэдагавання празаічных твораў Коласа ў 1920-я гг. мелі месца звычайныя з'явы выпраўлення моўных няправільнасцей, «падгонка» пад пэўны літаратурна-нарматыўны канон у адпаведнасці з разуменнем аўтарам і рэдактарамі спецыфікі тагачаснай нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы.

5. Увасобленая ў пастанове СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» рэформа беларускай мовы 1933 г. з'явілася паваротным пунктам у развіцці беларускага мовазнаўства і літаратурнай мовы. Змену арыенціраў у лінгвістычных даследаваннях пачатку 1930-х гг. прадвызначала прынятая ў маі 1930 г. рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б «Вынікі дыскусіі аб мовазнаўстве»; тэарэтычная аснова для такой змены была выпрацавана ў раздзеле «Мовазнаўства» калектыўнай працы «"Навука" на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі» (1931). У Беларускай акадэміі навук у гэты час культывавалася меркаванне, што навука не можа быць незалежнай ад палітыкі. К канцу 1931 г. у Інстытуце мовазнаўства быў падрыхтаваны правапісны праект, які, аднак, не быў апублікаваны.

У 1932 г. у Беларусі адбывалася разгорнутае наступленне партыйнага кіраўніцтва ў сферы ідэалогіі. Паварот да больш жорсткага курсу ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі ў гэты час адбываўся на фоне шматлікіх цяжкасцей у правядзенні калектывізацыі і развіцці народнай гаспадаркі. У 1932 г. на працягу некалькіх месяцаў партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва БССР падвяргалася рэзкай крытыцы з боку ЦК ВКП(б) за зрыў хлебанарыхтовак і ў цэлым за грамадска-палітычнае становішча; сітуацыя ў БССР прызнавалася «нецярпімай». У сувязі са спецыфічнай ідэалагічнай сітуацыяй работа над правапісам у 1932 г. не разглядалася як навуковая *sensu stricto*. Падрыхтаваны ў Інстытуце мовазнаўства праект правапісу быў дапрацаваны, перагледжаны і падрыхтаваны да друку, але не быў надрукаваны з-за новага абвастрэння ідэалагічнай сітуацыі ў пачатку 1933 г.

У 1933 г. у Беларусі ўзнікла атмасфера своеасаблівага грамадскага псіхозу, які ўплываў і на дзейнасць навукоўцаў. Да стварэння новай сітуацыі спрычыніліся пастановы ЦК КП(б)Б «Аб фактах прасочвання класава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкай літаратуры БССР», бюро ЦК і прэзідыума ЦКК КП(б)Б «Рашучы адпор антысавецкім вылазкам на ідэалагічным фронце», ЦК ВКП(б) «Аб правядзенні нацыянальнай палітыкі ВКП(б)Б у Беларусі», бюро ЦК КП(б)Б «Аб рабоце Наркамасветы», аб'яднанага пленума ЦК КП(б)Б і Мінскага гаркома КП(б)Б і інш. Прыняццю ў жніўні 1933 г. пастановы СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» папярэднічала пастаяннае завастрэнне ідэалагічнай сітуацыі, складовымі часткамі якога былі кампанія вакол артыкула П. Глебкі «Праца над словам», жорсткая крытыка Інстытута мовазнаўства БАН і яго дырэктара П. Бузука, справаздачы акадэмій у ЦВК СССР і інш. Партыйныя органы і прэзідыум БАН патрабавалі ў гэты час ад Інстытута мовазнаўства адпаведнасці яго прадукцыі

прынцыпам, сфармуляваным на партыйных пленумах. У пачатку мая 1933 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б была створана спецыяльная камісія для перагляду новых правіл правапісу, якая з 29 чэрвеня па 4 ліпеня 1933 г. правяла тры пасяджэнні для разгляду праекта правапісу; пазней яе прапановы былі прыняты на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б без склікання планаванай раней канферэнцыі па правапісе.

Пастанова СНК аб правапісе з'явілася адным з захадаў у тагачаснай ідэалагічна-палітычнай барацьбе, шэраг яе пунктаў сімвалізавалі разрыў з папярэднімі «нацыянал-дэмакратычнымі» ўстаноўкамі і/або практыкай у галіне правапіснага рэгулявання беларускай мовы. Разам з тым падчас зацвярджэння рэформы былі прыняты некаторыя правілы, якія неаднаразова прапаноўваліся лінгвістамі 1920-х гг.

Пры правядзенні моўнай рэформы 1933 г. істотнай аказалася тая акалічнасць, што ў гэты час у Беларусі ўлады адначасова вырашалі «сялянскае пытанне». Актыўна абмяркоўваная ў 1920-я гг. праблема фарміравання літаратурнай мовы на той або іншай аснове (з большым або меншым удзелам народных, «вясковых» рыс) аказалася ўцягнутай у шырэйшы кантэкст здзяйснення дзяржаўнай палітыкі. Паколькі разбудова беларускай мовы з апорай на народныя («вясковыя») рэсурсы ў другой палове 1920-х гг. успрымалася дзяржаўна-партыйным кіраўніцтвам пачатку 1930-х гг. як неад'емны аспект беларусізацыі, паколькі «чысткі» ў сферы асветы і культуры ў 1933 г. сімвалізавалі дэлегітымізацыю беларусізацыі, пастолькі ўсе ранейшыя дзеянні ў моўнай сферы ў пачатку 1930-х гг. сталі ўспрымацца як памылковыя, «варожыя». Рэформа беларускай мовы 1933 г. з'яўляецца яркім прыкладам непасрэднага ўздзеяння на моўнае развіццё ідэалагічных і палітычных фактараў.

6. Калі ў 1920-я гг. фарміраванне навукова-практычнай дысцыпліны «культура мовы» знаходзілася пераважна яшчэ ў эмбрыянальным стане, было адным з аспектаў станаўлення літаратурнай мовы і развіцця беларускай мастацкай літаратуры, то ў 1930-я гг. значэнне і роля «культуры мовы» істотна змяніліся. У гэты час мова стала трактавацца найперш у «класавым» аспекце, канкрэтным моўным сродкам стала прыпісвацца канкрэтнае класавае значэнне. У новай палітычнай сітуацыі стала важным зменшыць наяўнасць у беларускай мове яе «сялянскага» кампанента; у сувязі з гэтым патрабавалася радыкальная пераробка беларускай літаратурнай мовы ў напрамку «пралетарызацыі». Тэарэтычная аснова для такой дзейнасці была закладзена ў раздзеле «Мовазнаўства» калектыўнай працы «"Навука" на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі», у ёй была выказана неабходнасць фарміраваць літаратурную мову пры дапамозе спецыяльна «абвостраных», абумоўленых палітычнай кан'юнктурай слоў і формаў. Паколькі ў 1920-я гг. беларускія мовазнаўцы імкнуліся ўмацоўваць адметны характар літаратурнай мовы зыходзячы з шырокай апоры на народныя моўныя сродкі, прымяняльна да яе такі падыход абазначаў поўную змену арыенціраў у corpus planning. У многіх працах пачало практыкавацца прывя-

дзенне спісаў праскрыбаваных «класава варожых» слоў. Новы падыход, згодна з якім навука фактычна мела пераўтварыцца ў пэўны від ідэалогіі, прышчапляўся шляхам арганізацыйных захадаў (пастанова «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу», сустрэча старшыні СНК М. Галадзеда з пісьменнікамі і навуковымі работнікамі, сход пісьменнікаў г. Мінска), ідэалагічных кампаній (вакол артыкулаў «Праца над словам» П. Глебкі, «Аб мове» М. Горкага і інш.), выдавецкіх ініцыятыў (публікацыя зборнікаў «Пісьменнік і мова», «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы»). У працэсе ўсіх гэтых дзеянняў разнастайныя моўныя сродкі выразна проціпастаўляліся як ідэалагічна і класава адпаведныя або неадпаведныя.

У першай палове 1930-х гг. мовазнаўцы займаліся таксама падрыхтоўкай руска-беларускага слоўніка, аднак выразнай перашкодай у працы былії палітычнаідэалагічная атмасфера і інстытут палітычнай рэдактуры, у прыватнасці. Тэрміны канчатковай падрыхтоўкі слоўніка некалькі разоў змушана пераносіліся на пазнейшы час, некаторыя праекты слоўніка былі забракаваны па ідэалагічных меркаваннях. У сярэдзіне 1930-х гг. у Інстытуце літаратуры, мастацтва і мовы БАН быў падрыхтаваны двухтомны руска-беларускі слоўнік на 100 тысяч адзінак, які, аднак, не быў надрукаваны. У параўнанні з РБС-28 у яго беларускай частцы колькасць сінонімаў часта была скарочана, больш строгі (часам празмерна строгі) адбор быў здзейснены ў дачыненні да многіх экспрэсіўных народных слоў. У слоўнік былі ўведзены некаторыя русізмы, царкоўнаславянізмы і інш. З аднаго боку, імператывам часу было нівеліраванне беларускай лексікі. З другога боку, у працэсе падрыхтоўкі слоўніка былі зроблены некаторыя выпраўленні недакладнасцей, уласцівых слоўнікам 1920-х гг.

7. З пачатку 1930-х гг. ідэалагічна-палітычныя фактары набывалі асаблівае значэнне для фарміравання літаратурнай мовы беларусаў, розныя падзеі гэтага часу (рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б па пытаннях мовазнаўства, пастанова СНК БССР, кампанія за культуру мовы і інш.) аказвалі непасрэднае ўздзеянне на узус. У гэты час радыкальна змянілася выдавецка-рэдактарская практыка, якая прадугледжвала ўкараненне новых ідэалагізаваных падыходаў, складовай часткай якога была рэвізія ранейшага узусу. У практыцы моўнага рэдагавання найбольш пашыранымі былі праўкі, накіраваныя на абмежаванне ва узусе паланізмаў і слоў, тоесных з польскай мовай. У выданнях 1930-х гг. аб’ектамі шматлікіх моўных выпраўленняў выступалі таксама народна-дыялектныя лексемы і словаўтваральныя наватворы, у рэдкіх выпадках правіліся русізмы.

Ва ўвасабленні рэвізіянісцкіх падыходаў да сфарміраваных у 1920-я гг. тэндэнцый моўнага ўжывання можна вылучыць пэўныя перыяды, якія карэлююць з перыядамі большага або меншага прыцягнення ўвагі з боку дырэктыўных органаў да моўнай палітыкі ў сферы *corpus planning* і арганізацыйных захадаў у сферы мовазнаўства. Этапнымі былі 1930-ты, 1933-ці (асабліва) і 1937-мы гг., пасля якіх «рэвізіянісцкае» моўнае рэдагаванне рабілася больш актыўным. Толькі ў некаторых выпадках праўкі 1930-х гг. абумоўліваліся логікай папярэдняга развіцця беларускай літаратурнай мовы.

Вялікая колькасць здзейсненых у 1930-я гг. замен, выразная моўная дынаміка сталі асновай для ўзнікнення стылістычнай дыферэнцыяцыі разнастайных моўных сродкаў, у працэсе якой сталі проціпастаўляцца словы і формы, якія раней мала або ўвогуле не проціпастаўляліся. З аднаго боку, многія пашыраныя ў 1920-я гг. з'явы сталі абмяжоўвацца ва ўжыванні, у лепшым выпадку іх выкарыстанне «адсоўвалася» ў сферу мастацкай літаратуры; часта моўныя сродкі 1920-х гг. у наступнае дзесяцігоддзе ўвогуле выходзілі з ужытку. З другога боку, наадварот, у 1930-я гг. многія моўныя сродкі сталі павышаць свой стылістычны статус. Зрух моўных рэсурсаў у 1930-я гг. быў шырокі і глыбокі, ён ахопліваў вельмі пашыраныя формы і самыя звычайныя словы. У значнай ступені дзякуючы пераразмеркаванню моўных сродкаў гэтага часу сфарміраваліся многія асаблівасці стылістычнай сістэмы сучаснай беларускай мовы.

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ СПАСЫЛКІ


1. *Абабурка М. В.* Стылістычна абмежаваныя словы ў мове беларускай мастацкай літаратуры. Мінск, 1981.

2. *Абабурка М. В.* Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры. Мінск, 1987.

3. *Абабурка М. В.* «...Трэба добра абшарыць кішэні свае памяці...»: нататкі пра «згубленыя» словы // Роднае слова. 1996. № 3. С. 68–80.

4. *Абабурка М. В.* Станаўленне і развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры. Магілёў, 2000.

5. *Абрэмбска-Яблонска А.* Да гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы // Беларускае і славянскае мовазнаўства. Да 75-годдзя акадэміка АН БССР Кандрата Кандратавіча Крапівы. Мінск, 1972. С. 21–26.

6. *Аванесов Р. И.* «Новое учение» о языке и лингвистическая география // Против вульгаризации и извращения марксизма в языкознании. М., 1951. Ч. 1. С. 278–309.

7. *Аврорин В. А.* Проблемы изучения функциональной стороны языка: к вопросу о предмете социолингвистики. М., 1975.

8. *Аксенова Е. П.* Из истории советской славистики в 1930-е годы // Советское славяноведение. 1991. № 5. С. 82–91.

9. *Акуленко В. В.* Вопросы изучения лексических интернационализмов и процессов их образования // Вопросы социальной лингвистики. Л., 1969. С. 65–89.

10. *Алпатов В. М.* История одного мифа. Марр и марризм. М., 1991.

11. *Альховік М. К.* Беларуская акадэмія навук і нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў 1929–1934 гг. // Институт белорусской культуры и становление науки в Беларуси. К 90-летию создания Института белорусской культуры : материалы междунар. науч. конф., г. Минск, 8–9 дек. 2011 г. Минск, 2012. С. 228–234.

12. *Анісім А.* Тэндэнцыі ўнармавання ў беларускай мове пачатку XX ст. у кантэксце развіцця ўсходнеславянскіх моў // Мовазнаўства : матэрыялы IV Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце еўрапейскіх краін», г. Мінск, 6–9 чэрв. 2005 г. Мінск, 2010. С. 5–7.

13. *Антанюк Л. А.* Беларуская навуковая тэрміналогія: фарміраванне, структура, упарадкаванне, канструяванне, функцыяніраванне. Мінск, 1987.

14. *Арцямёнак Г.* Моўны сінкрэтызм беларускіх мастацкіх твораў XIX стагоддзя на славянскім фоне // Мовазнаўства : матэрыялы IV Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў кантэксце еўрапейскіх краін», г. Мінск, 6–9 чэрв. 2005 г. Мінск, 2010. С. 16–21.

15. Асновы культуры маўлення і стылістыкі. Мінск, 1992.

16. *Ашнин Ф. Д., Алпатов В. М.* «Дело славистов»: 30-е годы. М., 1994.

17. *Барута-Садкоўскі А.* Праблемы беларускай марфалогіі ў 20-х гадах: віленскі, мінскі і гродзенскі моўныя варыянты // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы : матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». 1-я сесія – 21–25 мая; 2-я сесія – 4–7 снеж. Мінск, 2001. С. 10–14.

18. *Басовская Е. Н.* Советская пресса – за «чистоту языка» (60 лет борьбы). М., 2011.

19. *Баханькоў А. Я.* Змяненне лексікі беларускай мовы ў савецкі перыяд // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. Мінск, 1970. С. 266–292.

20. *Баханькоў А. Я.* Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: сацыялінгвістычны нарыс. Мінск, 1982.

21. *Белакурская Ж. Я.* Лінгвістычная спадчына Якуба Коласа ў кантэксце станаўлення нацыянальнай беларускай мовы : аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук. Мінск, 2000.

22. Беларусізацыя: 1920-я гады. Дакументы і матэрыялы. Мінск, 2001.

23. Беларуская граматыка : у 2 ч. Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мінск, 1985.

24. *Белка Л. Р.* Фарміраванне справаводчай тэрміналогіі беларускай мовы ў пачатку XX ст. (на матэрыяле «Дзелавода» С. Серады) // Весн. Брэсц. ун-та. Сер. 3. 2011. № 2. С. 53–58.

25. *Берков В. П.* Норвежская лексикология. СПб., 1994.

26. *Бідэр Г.* Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў кантэксце славянскага адраджэння // М. Р. Прыгодзіч, А. А. Прыгодзіч. Герман Бідэр як даследчык беларускай мовы. Мінск, 2007. С. 11–17.

27. *Бідэр Г.* Шляхі развіцця лексікі беларускай літаратурнай мовы // М. Р. Прыгодзіч, А. А. Прыгодзіч. Герман Бідэр як даследчык беларускай мовы. Мінск, 2007. С. 18–24.

28. *Бідэр Г.* Беларуская лінгвістычная тэрміналогія 1920-х гадоў. Праблема моўных кантактаў // Мова – літаратура – культура : матэрыялы V Міжнар. навук. канф. (да 80-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), г. Мінск, 16–17 ліст. 2006 г. Мінск, 2007. С. 281–286.

29. *Биржакова Е. Э., Войнова Л. А., Кутина Л. Л.* Очерки по исторической лексикологии русского языка XVIII века. Языковые контакты и заимствования. М., 1972.

30. *Бицилли П. М.* Избранные труды по филологии. М., 1996.

31. *Богуш С. Я., Кулеш Г. І.* Дыялектная лексіка як крыніца папаўнення літаратурнага слоўніка ў ацэнках даследчыкаў 20–30-х гг. XX ст. // Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння : зб. навук. арт. Мінск, 2009. С. 24–26.

32. *Богуш С. Я.* Аўтарскія наватворы як крыніца папаўнення літаратурнага слоўніка ў ацэнках даследчыкаў 20–30-х гг. XX ст. // Беларускае слова: гісторыя і сучаснасць : зб. арт. па матэрыялах навук. чытанняў, прысвеч. памяці праф. А. І. Жураўскага. Мінск, 2010. С. 36–38.

33. *Богуш С. Я.* Дыскусія аб месцы лексікі іншамоўнага паходжання ў сістэме беларускай літаратурнай мовы на старонках перыядычнага друку 20–30-х гадоў XX стагоддзя // сб. работ 66-й науч. конф. студентов и аспирантов Белорус. гос. ун-та, г. Минск, 18–21 мая 2009 г. : в 3 ч. Минск, 2010. Ч. 2. С. 178–182.

34. *Богуш С. Я.* Нармалізацыйная дзейнасць беларускіх лінгвістаў у галіне лексікалогіі ў 20-я гады XX ст. // Мова і літаратура ў XXI стагоддзі: актуальныя аспекты даследавання : матэрыялы Рэсп. навук.-практ. канф. маладых вучоных, г. Мінск, 26 сак. 2010 г. Мінск, 2010. С. 67–70.

35. *Богуш С. Я.* Развіццё афіцыйна-справаводчага стылю беларускай мовы ў 20-я гады XX ст. // Идеи – поиски – решения : материалы IV Междунар. науч. конф., г. Минск, 30 нояб. 2010 г. : в 2 т. Минск, 2010. Т. 1. С. 48–51.

36. *Богуш С. Я.* Старабеларуская мова як крыніца папаўнення лексічнага складу літаратурнай мовы ў ацэнках даследчыкаў 20-х гадоў XX ст. // Мова і літаратура : матэрыялы 67-й навук. канф. студэнтаў і аспірантаў філал. ф-та БДУ (28 крас. 2010 г.). Мінск, 2010. С. 10–14.

37. *Богуш С. Я.* Месца лексічных пазычанняў у мове справаводства 1920-х гадоў (на матэрыяле спецыяльных дапаможнікаў) // Беларускае слова: дыялектнае і запазычанае : зб. арт. па матэрыялах навуковых чытанняў, прысвеч. памяці дацэнта Е. С. Мяцельскай (26–27 крас. 2011 г.). Мінск, 2011. С. 127–128.

38. *Богуш С. Я.* Моўныя асаблівасці службовых дакументаў Я. Купалы // Мова – літаратура – культура : матэрыялы VII Міжнар. навук. канф., прысвеч. 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, г. Мінск, 27–28 верас. 2012 г. Мінск, 2012. С. 139–143.

39. *Богуш С. Я.* Спецыфіка лексічных сродкаў афіцыйна-справаводчага стылю беларускай мовы ў 1920-я гады (на матэрыяле спецыяльных дапаможнікаў) // Весн. БДУ. Сер. 4. 2012. № 2. С. 28–31.

40. *Богуш С. Я.* Распрацоўка беларускай справаводчай тэрміналогіі ў руска-беларускіх слоўніках 1920-х гадоў // Слово и словарь = Vocabulum et vocabularium : сб. науч. тр. по лексикографии. Гродно, 2013. С. 136–138.

41. *Бодуэн де Куртене И. А.* Об отношении русского письма к русскому языку. М., 2012.

42. *Бошњаковић Ж.* Рэц. на: Т. Стаматоски. Борба за македонски литературен јазик. Скопје, 1986 // Зборник Матице Српске за филологију и лингвистику. Год. XXX. 1987. Св. 1. С. 213–218.

43. *Бубновіч І. І.* Засваенне іншамоўных слоў беларускаю літаратурнаю моваю. Гродна, 2000.

44. *Будагов Р. А.* Проблемы развития языка. М.; Л., 1965.

